**Рэдакцыйная калегія:**

**В. К. Бандарчык, М. Я. Грынблат,
К. П. Кабашнікаў, А. С. Фядосік,
В. І. Ялатаў**

**Складальнік тома
і аўтар уступнага артыкула
А. С. Фядосік,
складальнік каментарыяў
Л. Р. Бараг**

**Рэдактар тома
В. К. Бандарчык**

С12 **Сацыяльна-бытавыя казкі.** Рэд. В. К. Бандарчык. Мн., «Навука і тэхніка», 1976.

520 с. (АН БССР. Ін-т мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору. Беларус. нар. творчасць). У перапл.

Кніга — адзін з тамоў збору беларускай народнай творчасці (дзесяты). У том уключаны лепшыя ўзоры бытавых казак, у якіх ярка адлюстраваны сацыяльныя адносіны ў дарэвалюцыйнай Расіі, крытыкуюцца прыгнятальнікі працоўнага народа, высмейваюцца людскія недахопы. Гумар і сатыра гэтых казак былі дзейснай зброяй у барацьбе за народныя ідэалы. У том уключаны таксама небыліцы і частка авантурных казак, блізкіх па зместу і форме да бытавых. Тэксты друкуюцца з апублікаваных крыніц, якія даўно сталі бібліяграфічнай рэдкасцю, а таксама з архіўных сховішч. Ва ўступным артыкуле абгрунтоўваецца класіфікацыя і сістэматызацыя казак, раскрываюцца іх ідэйна-мастацкія асаблівасці. У каментарыях паказваецца месца сюжэтных тыпаў у сусветным казачным эпасе, называюцца адпаведнікі ў фальклоры іншых народаў. Бібліягр. у падрадк. заўвагах.

$С\frac{70700-006}{М316-76}$ 46—75 С(Бел)Ф

# САЦЫЯЛЬНА-БЫТАВАЯ КАЗКА

Сацыяльна-бытавая казка вылучалася з вуснай народнай прозы як жанр або жанравая разнавіднасць яшчэ фалькларыстамі XIX ст. побач з казкамі пра жывёл і міфічнымі (чарадзейнымі). Аднак такі падзел казак аспрэчваўся ўжо дарэвалюцыйнымі фалькларыстамі. М. Халанскі пісаў: «З пункту погляду міфічнай тэорыі казкі падзяляліся на тры катэгорыі: 1) міфічныя, 2) бытавыя з маральна-павучальным, сатырычным або забаўным зместам і 3) казкі пра жывёл. У цяперашні час такі падзел зусім ліквідуецца» [1].

М. Халанскі заўчасна развітваўся з класіфікацыяй казак міфолагаў: без значных змен яна праіснавала да нашага часу. Праўда, рамкі казак, якія адносіліся да бытавых, часцей за ўсё пашыраліся. Адпаведна змянялася і назва гэтых казак. Ю. М. Сакалоў вылучаў рэалістычныя казкі, да якіх ён адносіў бытавыя і навелістычныя [2]. Э. В. Памяранцава па сутнасці лічыць адназначнымі тэрміны: бытавая казка і сатырычная казка, таму што ўжывае апошні тэрмін пры аналізе твораў абедзвюх груп [3]. На наш погляд, найбольш мэтазгодна называць гэту групу казак сацыяльна-бытавымі, таму што ў іх больш ярка і рэалістычна, чым у іншых казках, адлюстраваліся грамадскія і сямейныя адносіны, класавыя супярэчнасці, жыццё і праца селяніна, яго быт, народная мараль і этыка.

Такім чынам, сацыяльна-бытавымі казкамі называюцца такія казкі, у якіх праўдзіва, часцей за ўсё ў крытычна-завостранай форме, адлюстроўваюцца грамадскія і сямейныя з'явы, быт і жыццё працоўных, высмейваюцца сацыяльныя тыпы і людскія недахопы, сцвярджаюцца народныя ідэалы.

Сацыяльна-бытавая казка адрозніваецца ад чарадзейнай перш за ўсё спецыфікай яе фантастыкі. Чарадзейнай казцы характэрна наяўнасць звышнатуральных сіл: страшыдлаў, пачвар, розных чарадзейных істот і прадметаў, што звычайна адсутнічае ў сацыяльна-бытавой казцы. У сувязі з гэтым канфлікты і калізіі ў іх таксама розныя. Сутыкненні чалавека-асілка з цмо-

---

[1] История русской литературы, т. I. М., 1908, стар. 144.
[2] Ю. М. Соколов. Русский фольклор. М., 1941, стар. 335—342.
[3] Русское народное творчество. М., 1966, стар. 164—169.

кам, змеем, Кашчэем Бессмяротным, ведзьмаю і іншымі фантастычнымі пачварамі, у якіх увасоблены антычалавечыя злыя сілы, нялёгкая барацьба з удзелам розных чарадзейных істот і прадметаў, дзівосная перамога героя — вось тыповы канфлікт чарадзейнай казкі. У сацыяльна-бытавой казцы ў барацьбу звычайна ўключаюцца прадстаўнікі двух антаганістычных полюсаў класавага грамадства — прыгнечаных і прыгнятальнікаў. Прыгнятальнік высмейваецца і караецца.

Адрозніваюцца і абставіны, у якіх адбываецца дзеянне. Сацыяльна-бытавой казцы не характэрны дзівосныя царствы, фантастычныя краіны. Героі бытавой казкі — простыя людзі, якія не валодаюць звышнатуральнай сілай, але здольны перамагчы сваіх ворагаў дзякуючы мудрасці, кемлівасці, дасціпнасці і знаходлівасці. І дзейнічаюць яны ў звычайных умовах сялянскага жыцця.

Бытавая казка найбольш ярка і праўдзіва адлюстравала сацыяльныя адносіны, выразіла думкі, мары і інтарэсы народных мас. Таму яшчэ В. Р. Бялінскі ставіў ідэйны змест гэтых казак вышэй чарадзейных. «Гэтыя казкі,— пісаў ён,— у тысячу разоў важнейшыя за ўсе багатырскія казкі, таму што ў іх ярка адлюстроўваецца народны розум, народны погляд на рэчы і народны быт. Што датычыцца апошняга, яны могуць лічыцца самымі каштоўнымі гістарычнымі дакументамі» [4].

Каштоўнасць сацыяльна-бытавых казак заключаецца перш за ўсё ў яркім адлюстраванні класавай барацьбы, паказ якой займае ў іх значнае месца. Разам з тым ідэйна-мастацкая спецыфіка паказу сацыяльнай барацьбы ў іх з'яўляецца новым, больш якасным этапам у развіцці народна-паэтычнай прозы.

Акрамя таго, у сацыяльна-бытавых казках высмейваюцца розныя адмоўныя рысы людзей. Сатыра гэтых твораў была і сродкам своеасаблівай самакрытыкі, сродкам барацьбы за ўсё лепшае, ідэальнае ў жыцці.

Сацыяльна-бытавая казка як жанр дасягнула свайго найбольшага развіцця ў эпоху феадалізму, актыўна бытавала ў перыяд капіталізму, а некаторыя лепшыя ўзоры дайшлі да савецкага часу.

Дарэвалюцыйныя фалькларысты пазбягалі запісваць бытавыя казкі, захапляліся зборам чарадзейных казак, якія лічыліся імі важнейшымі, больш каштоўнымі.

Адным з першых, хто пачаў запісваць беларускія сацыяльна-бытавыя казкі, быў М. А. Дзмітрыеў. Дзве казкі, запісаныя ад беларусаў у Навагрудскім павеце Гродзенскай губерні М. А. Дзмітрыевым, былі надрукаваны разам з чарадзейнымі ў першым выданні народных рускіх казак А. М. Афанасьева ў 1855—1863 гг. (III выпуск, № 8, 9).

---

[4] В. Г. Белинский. Полн. собр. соч., т. 5. М., 1954, стар. 660—670.

Велізарнае багацце казачнага эпасу беларусаў раскрылася перад усім светам пасля выхаду з друку фальклорных зборнікаў П. В. Шэйна, Е. Р. Раманава, М. Федароўскага, У. М. Дабравольскага, А. К. Сержпутоўскага і іншых фалькларыстаў, якія разам з «класічнымі» чарадзейнымі казкамі змясцілі шмат і бытавых.

П. В. Шэйн упершыню апублікаваў найбольшы збор беларускіх народных казак, сярод якіх змясціў 65 бытавых казак і анекдотаў [5]. У іх ярка адлюстроўваецца класавы антаганізм у эксплуататарскім грамадстве, высмейваецца паразітызм, дурасць і жыццёвая непрактычнасць паноў і папоў, якім супрацьпастаўляюцца мудрыя, кемлівыя і дасціпныя сяляне. У творах зборніка П. В. Шэйна асуджаецца прагнасць, зайздрасць, скупасць, здрадзейства, ілжывасць, распуста і іншыя заганы людзей.

Е. Р. Раманаў змясціў разам з анекдотамі і чарадзейнымі казкамі сацыяльна-бытавыя казкі ў III выпуску «Беларускага зборніка» (1887). На жаль, ён недаацэньваў бытавыя казкі і анекдоты, хоць і адзначаў іх вялікую папулярнасць.

Багаты сацыяльна-бытавымі казкамі «Смаленскі этнаграфічны зборнік» (1891) У. М. Дабравольскага. У казках Смаленшчыны ярка адлюстравана нянавісць народа да прыгняральнікаў, выкрываецца сацыяльная несправядлівасць, высмейваюцца людскія заганы і недахопы. Як успамінае У. Д. Бонч-Бруевіч, У. І. Ленін уважліва чытаў зборнік і даў высокую ацэнку змешчаным у ім матэрыялам. «Які цікавы матэрыял! — сказаў Уладзімір Ільіч, калі я раніцай увайшоў да яго.— Я бегла праглядзеў усе гэтыя кніжкі і бачу, што не хапае, відаць, рук ці жадання ўсё гэта абагульніць, усё гэта праглядзець пад сацыяльна-палітычным пунктам гледжання. На гэтым жа матэрыяле можна было б напісаць цудоўнае даследаванне аб чаканнях і спадзяваннях народных» [6].

З вялікім натхненнем і ашчаднасцю збіраў «залатыя зярняты» (так ён называў фальклорныя творы) Міхал Федароўскі. Сярод многіх соцень празаічных народных твораў, змешчаных у першых трох тамах яго фундаментальнай працы [7], ён надрукаваў шмат сацыяльна-бытавых казак, якія вызначаюцца вострай класавай накіраванасцю і дасціпным гумарам. Да цяперашняга часу няма ніводнага зборніка, у якім было б змешчана столькі бытавых казак і анекдотаў, колькі апублікавана іх у другім і трэцім тамах зборніка Федароўскага.

---

[5] П. В. Шейн. Материалы для изучения быта и языка русского населения Северо-Западного края, т. II. СПб, 1893.

[6] В. Д. Бонч-Бруевич. Воспоминания о Ленине. М., 1969, стар. 418.

[7] M. Federowski. Lud białoruski na Rusi Litewskiej, t. I. Kraków, 1897; t. II. Kraków, 1902; t. III. Kraków, 1903.

Асаблівай мастацкай яркасцю і вострай сацыяльнай накіраванасцю вылучаюцца сацыяльна-бытавыя казкі, запісаныя А. К. Сержпутоўскім у 1890—1923 гг. на Беларускім Палессі і апублікаваныя ім у двух зборніках [8]. Найбольшай вастрыні дасягае ў іх крытыка эксплуататараў. У адрозненне ад казак, сабраных іншымі фалькларыстамі, сацыяльна-бытавыя казкі са зборнікаў А. Сержпутоўскага больш рэалістычна адлюстроўваюць працэс класавага расслаення беларускай дарэвалюцыйнай вёскі.

У той перыяд, калі Сержпутоўскі пачаў запісваць народна-паэтычныя творы, у фалькларыстыцы яшчэ панавала думка, што трэба збіраць і вывучаць галоўным чынам «класічны фальклор» як найбольш важны. Аднак новы час, у які ўжо развіваліся капіталістычныя адносіны не толькі ў горадзе, але і ў вёсцы, выклікаў змены ў змесце і форме фальклорных твораў. У народнай творчасці хутка развіваецца моцны сатырычны напрамак, які ярка адлюстраваў класавую барацьбу ў Расіі таго часу. Цікавасць да сатырычных твораў у народзе ўзрасла. Не адмаўляючы вялікага значэння «класічнага» фальклору, Сержпутоўскі высока цаніў і новыя сатырычныя і бытавыя творы. Добра разумеючы іх грамадска-выхаваўчую ролю, ён удзяліў вялікую ўвагу іх запісу і публікацыі. Не дзіўна, што ў яго зборніках пераважаюць казкі з сацыяльным зместам, вельмі мала чарадзейных і амаль адсутнічаюць казкі пра жывёл.

Цікавасць вучоных да сацыяльна-бытавых казак узрасла ў савецкі час. Запісана шмат казак, якія раней не публікаваліся. Сярод іх і створаныя пасля Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі («Ленінская праўда», «Як мужык-бядняк дабіўся сваёй праўды» і інш.). Некаторыя з гэтых казак змешчаны ў зборніках «Дарэвалюцыйная і Савецкая Беларусь у народнай творчасці» (Мінск, 1938), «Беларускі народ супраць папоў і рэлігіі» (Мінск, 1939) і інш.

Публікацыя беларускіх фальклорных твораў, у тым ліку лепшых узораў сацыяльна-бытавых казак, асабліва актывізавалася ў пасляваенны час. Лепшыя беларускія бытавыя і сатырычныя казкі займаюць значнае месца ў зборніках «Казкі і легенды роднага краю» (Мінск, 1960) і «Антырэлігійныя казкі, частушкі, прыказкі» (Мінск, 1957; другое, дапоўненае выданне — Мінск, 1961).

У сувязі з затуханнем казачнай традыцыі ў цяперашні час сацыяльна-бытавыя казкі рэдка бытуюць і яшчэ радзей запісваюцца фалькларыстамі.

У нашым томе змешчаны выяўленыя да гэтага часу лепшыя ўзоры сацыяльна-бытавых казак, а таксама некалькі авантурна-навелістычных, блізкіх па зместу, структуры і паэтыцы да сацыяльна-бытавых, і небыліцы.

---

[8] А. К. Сержпутовский. Сказки и рассказы белорусов-полешуков. СПб, 1911; Казкі і апавяданні беларусаў з Слуцкага павета. Л., 1926.

Частка тэкстаў казак, знойдзеных у архівах або запісаных у пасляваенныя гады, друкуецца ўпершыню (некаторыя з іх з'яўляюцца варыянтамі апублікаваных раней твораў).

Класіфікацыя сацыяльна-бытавых казак адрозніваецца ад класіфікацыі казак пра жывёл і чарадзейных, якія сістэматызаваны ў папярэдніх выдадзеных тамах у адпаведнасці з міжнароднымі паказальнікамі казачных сюжэтаў Аарнэ — Андрэева і Томпсана. У гэтых паказальніках сацыяльна-бытавыя казкі не вылучаюцца ў асобны раздзел, а раскіданы па розных раздзелах: «Навелістычныя казкі», «Казкі пра дурнога чорта (велікана і інш.)», «Анекдоты».

Адным з важнейшых недахопаў паказальнікаў Аарнэ — Андрэева і Томпсана з'яўляецца недаацэнка ў іх ідэйна-сацыяльнага зместу фальклорных твораў. У паказальніках не адлюстраваны многія казачныя сюжэты, распаўсюджаныя ў розных народаў свету. Сам М. П. Андрэеў заўважыў, што «групы Аарнэ проста не ахопліваюць усяго матэрыялу. І што асабліва важна для нас — гэта тое, што якраз такі падзел амаль зусім (за выключэннем, магчыма, анекдотаў пра папоў) не раскрывае (калі не сказаць хавае) іменна сацыяльна-класавыя элементы ў анекдотах»[9]. Заўвага М. П. Андрэева пра падзел анекдотаў яшчэ ў большай ступені адносіцца і да падзелу іншых жанраў у паказальніках Аарнэ і Томпсана. Таму немагчыма класіфікаваць сацыяльна-бытавыя казкі ў адпаведнасці з існуючымі міжнароднымі паказальнікамі, хаця часткова пры сістэматызацыі твораў, пры складанні каментарыяў да іх гэтыя паказальнікі выкарыстоўваюцца.

Сістэматызуючы творы ў томе, мы не абазначаем раздзелаў, а даём агульную парадкавую нумарацыю казак. Разам з тым мы ўмоўна групуем іх паводле ідэйна-тэматычнага зместу: казкі пра цара, пра хітрага злодзея і жартаўніка, пра пана і мужыка, пра мудрага парабка, пра беднага і багатага селяніна, пра папа (ксяндза) і мужыка, пра дурня, пра жонку і дзяўчат, пра іншапляменнікаў, пра знахароў, небыліцы, савецкія казкі.

Сістэматызацыя твораў, паводле адзначаных груп, не можа быць паслядоўна вытрыманай таму, што ў працэсе свайго бытавання многія казачныя сюжэты кантамінаваліся, і створаныя ў выніку гэтага казкі можна адносіць да розных груп. Да таго ж замяняліся дзеючыя асобы пры зусім нязначных зменах сюжэта, структуры твораў і інш.

Да сацыяльна-бытавых казак мы адносім і частку твораў на «анекдатычныя» сюжэты. І сапраўды, асобныя творы бытуюць у народзе і ў якасці анекдотаў і казак. Я. Тышкевіч, напрыклад, апублікаваў анекдот тыпу «сці-

---

[9] Дзяржаўны літаратурны музей Грузінскай ССР імя Георгія Леанідзе. Рукапісны аддзел. Н. П. Андреев. Социально-классовые мотивы в анекдоте (рукапіс, адзінка захавання № 21118, л. 2).

зорык зламаўся»[10]. Твор характарызуецца лаканічнасцю, аднаэпізадычнасцю, нечаканай камічнасцю развязкі, гэта значыць усімі рысамі, якімі вызначаецца анекдот як жанр фальклорнай прозы.

Але нельга ўжо назваць анекдотам твор, запісаны А. К. Сержпутоўскім, «Мужык і пан»[11]. У аснове яго таксама сюжэтны тып «сцізорык зламаўся». Але тыповая аснова «абрасла» такім мноствам мастацкіх дэталей, што твор значна змяніўся. У адрозненне ад анекдота са зборніка Тышкевіча ў ім ярка раскрываецца вобраз галоўнага героя, яго характар. Анекдотператварыўся ў сацыяльна-бытавую казку, вельмі блізкую па структуры і зместу да літаратурнага апавядання. У маральна-інтэлектуальным паядынку ў казцы селянін перамагае вельмі жорсткага пана-прыгонніка, такога «паганага, злоснага, што проста бяда...» Сяляне яго «баяліся, бы чорта», адзначаецца ў казцы; скажа селянін «што-небудзь кепскае, не пад гумар — засячэ, усю шкуру зніме». Але і такога жорсткага пана зусім не баіцца «нехлямяжы мужык» Стопак. У казцы выкарыстоўваюцца трапныя мастацкія дэталі, якія яскрава характарызуюць смеласць Стопка. Яго кліча грозны пан, а ён «тым часам дастаў капшук, напхаў у люльку цюцюну, выняў з магалейкі губку й крамянец, узяў цагало й давай красаць агонь. От выкрасаў ён агню й давай курыць люлечку; курыць сабе да паплёўвае на чысты памост». Не палохаецца Стопак пана і тады, калі лакей у другі раз перадае загад пана неадкладна з'явіцца да яго: «Не трасца трасе,— гаворыць Стопак,— няхай абажджэ». Калі ж яшчэ раз паклікаў пан, ён, не спяшаючыся «дакурыў люльку, выбіў з яе попел і схаваў за пазуху і толькі тагды памаленьку пасунуўся к пану ў крэданс». Такія сцэнкі паводзін героя, якія ярка раскрываюць характар, псіхалогію персанажа, больш уласцівы літаратурным апавяданням. Кемлівасць і дасціпнасць Стопка трапна выяўляюцца ў дыялогу паміж ім і панам. Для твора характэрна індывідуалізацыя мовы персанажаў. Стопак карыстаецца ў гаворцы прыказкамі, прымаўкамі, народнымі афарызмамі: «Калі жарабятка ўродзіцца з лысінкаю, то яно ці здохне, ці яго воўк з'есць»; «без нажэндзя й вошы не заб'еш»; «як топішся, то і за брытву хопішся» і інш. Мова Стопка рыфмаваная ў стылі народнага райка. Пан жа гаворыць на польскай мове.

Кожнае слова ў гэтай казцы нясе вялікую сэнсавую нагрузку. Стопак, напрыклад, паведамляе, што ўтапіўся ў калодзежы любімы панскі выжал (сабака), і нібы мімаходам заўважае: «Эж, дай, божа, памяць, здаецца мне, што пан аддаў за таго выжла суседняму пану трох мужыкоў». А перад

---

[10] J. Tyszkiewicz. Opisanie powiatu Borysowskiego. Wilno, 1847, стар. 428.

[11] А. К. Сержпутовский. Сказки и рассказы белорусов-полешуков, стар. 83—86.

намі паўстае малюнак бяспраўнага становішча прыгонных сялян, якіх паны цанілі танней, чым жывёлу, мянялі на сабак і інш.

Такім чынам, і ідэйна-мастацкі змест, і структура твора «Мужык і пан», і абмалёўка вобразаў у ім не адпавядаюць пэўным кампанентам анекдота. «Анекдатычнай» засталася ў казцы толькі развязка. Падобных выпадкаў трансфармацыі анекдотаў і іх пераходу ў жанр казак у беларускім фальклоры нямала. Толькі сюжэт дазваляе без цяжкасцей аднасіць казку да пэўнай ідэйна-тэматычнай групы. У казках з кантамінаванымі сюжэтамі выбіраецца найбольш важны сюжэтны тып, паводле якога мы і сістэматызуем казкі такога структурнага віду.

Зборнік пачынаецца з казак, у якіх адлюстраваны сацыяльныя адносіны, перш за ўсё накіраваных супраць цара, паноў, папоў і іншых эксплуататараў.

Вельмі папулярнай у беларусаў і ў іншых славянскіх народаў была казка «Мужык і цар» (у «Паказальніку казачных сюжэтаў па сістэме Аарнэ» М. П. Андрэева № 1610). У цэнтры сюжэтнага тыпу дзяльба царскіх падарункаў і пабоеў за прынесенае селянінам золата. «Палавіннікам» мужыка часта выступае салдат. Але ў казцы са зборніка П. В. Шэйна замест салдата дзейнічае генерал. Такая замена дзеючай асобы мае істотнае значэнне. Ашукаць салдата — для мужыка не надта вялікі гонар. Салдат паходжаннем такі ж самы селянін або рабочы. А вось накпіць з генерала — гэта зусім іншая справа. Казка адразу ж набывае востры сацыяльны сэнс.

Галоўнае ў казцы — канфлікт паміж мужыком і генералам. У выніку паказу развіцця канфлікту раскрываюцца асноўныя рысы персанажаў: сумленнасць, бескарыслівасць селяніна, прагнасць і дурасць царскага генерала, якому мужык хітра аддае і свой падарунак за золата — 50 розгаў.

Бескарыслівасць і непатрабавальнасць селяніна ярка выяўляецца ў дыялогу паміж ім і царом. Селянін за аддадзенае цару золата просіць толькі чарку гарэлкі, кавалак чорнага салдацкага хлеба, танцаў пад дудку і пасцель з гарохавай саломы, а адмаўляецца ад багатага падарунка, белага хлеба, танцаў пад музыку палкавога аркестра і мяккай царскай пасцелі.

Аднак у гэтай казцы, як і ў іншых, адбіліся супярэчнасці ў светапоглядзе селяніна: вострая крытыка сацыяльнай несправядлівасці, бязлітаснае асмяянне паноў — сваіх бліжэйшых ворагаў — спалучаліся з паказам першага памешчыка Расіі — цара дабрадзеем, які не толькі не крыўдзіць мужыка, але і задавальняе ўсе яго просьбы, карае паноў (генерала ён разжалаваў у салдаты, а мужыка зрабіў генералам).

Як вынік класавай абмежаванасці светапогляду сялян з'явілася адлюстраванне ў асобных казках слабасці грамадскіх ідэалаў герояў, асноўная мэта жыцця якіх — дасягненне багацця. Таму некаторыя казкі канчаюцца цудоўным ператварэннем бедняка ў багацея, у пана, нават у генерала.

Праўда, часцей за ўсё гэта здараецца ў чарадзейных казках, а ў сацыяльна-бытавых такія канцоўкі вонкава рэалістычна апраўданыя. Шчаслівы фінал з'яўляецца вынікам спрытнасці, мудрасці, кемлівасці героя, яго смеласці і знаходлівасці. Удачы ў жыцці ён дасягае дзякуючы нястомнай і самаахвярнай барацьбе. І толькі ў некаторых казках ухваляецца пасіўнасць і прымірэнне з цяжкім становішчам працоўных.

Але не ва ўсіх казках вобраз цара ідэалізаваны. Часам ён малюецца несправядлівым, жорсткім і дэспатычным. Ён забойца сваёй жонкі, гвалтаўнік («Несправядлівы цар») [12].

Яшчэ большай папулярнасцю ў народзе карысталіся бытавыя казкі на тэму «мужык і пан», у якіх ярка раскрываліся ўзаемаадносіны паміж памешчыкамі і сялянамі. Асноўнае ў сюжэце гэтых казак — канфлікт паміж панам і селянінам. Праз камічныя сітуацыі, у якія ставіцца пан, ярка выяўляецца яго прагнасць, скупасць, жорсткасць, дурасць, амаральнасць.

Характар пана часам раскрываецца ўжо ў самым пачатку казкі. «Жыў люты, люты пан. Ніхто доўга ў яго не служыў. Усіх ён выганяў і не плаціў нават, бо к таму ж яшчэ і скупы быў»,— апавядаецца, напрыклад, у казцы «Як Янка збавіў мужыкоў ад лютага пана». Далей гэтыя якасці прыгнятальніка раскрываюцца ў паказе сутыкненняў «ладнага хлопца» Янкі і лютага пана, у выніку якіх пан гіне.

У многіх казках селянін не проста бярэ верх над панам, але і свядома помсціць за здзекі. Класічным прыкладам з'яўляецца казка «Пану навука», у якой горды хлопец Рымша адплаціў пану «за ўсе людскія слёзы ды за крыўду» — чатыры разы адлупцаваў ён пана ды так, што ледзь жывога пакінуў. Характэрна, што ўсе выпадкі помсты селяніна пану падаюцца ў камічным плане. Камічны эфект у эпізодах лупцоўкі пана дасягаецца нечаканасцю сітуацый, у якія ён ставіцца: спадзяецца ён палячыцца ў лекара-вянгерца, а той аказваецца Рымшам, прывязвае рукі пана да жэрдачкі ў лазні, «здымае шкуру» з яго і пасыпае соллю; хоча ён прадаць лес купцу, а купец (Рымша) яго ледзь «насмерць не забіў да так і кінуў прывязаным к хвоі, бы падла» і г. д.

Мары сялян аб пакаранні паноў увасоблены ў казцы «Як сяляне ад пана пазбавіліся», запісанай у пасляваенны час у г. п. Парычы Гомельскай вобласці. І ў гэтай казцы пан трапляе ў камічнае становішча: просіць селяніна навучыць запрагаць каня, а той запрагае яго самога, б'е бізуном, а іншыя сяляне частуюць дубінкамі, «пакуль ён богу душу не аддаў».

Становішча прыгонных сялян ярка адлюстравана ў арыгінальнай беларускай казцы «Жаласлівая пані». У гэтай казцы вобраз пані паказваецца рознабакова, раскрываецца яе псіхалогія. Яна вельмі «жаласлівая», але

---

[12] Архіў Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН БССР, ф. 8, воп. 1, спр. 6, л. 4.

не да людзей, а да жывёл: «Як здохне кот, сабака або здыхліна-каняка, то пані плача, бы па родным бацьку, веліць плакаць і другім...» Да сялян жа яна ставіцца бязлітасна: «З маладзіц да з дзевак шкуру здзірала, калі яны нядобра даглядалі таго жывёла». У выніку бязлітаснай эксплуатацыі сяляне «збяднелі, пухнуць ад голаду, бо некалі хлеба зрабіць: пані зганяе па што дзень у двор». Злая іронія, з'едлівы сарказм, выразная антытэза, розныя іншыя мастацкія выяўленчыя сродкі даюць малюнкі жудасных здзекаў з сялян, выкрываюць паразітызм і амаральнае аблічча паноў.

З едкім сарказмам высмейваецца паразітызм, жорсткасць і абжорства паноў, іх імкненне да таго, каб «усё было не па-люцку», у самабытнай сатырычнай беларускай казцы «Недапад». Гратэскны малюнак, як паны накінуліся на страву, «бы сабакі на косці або свінні на мякіну», «лопаюць да мнуць, аж за вушамі трашчыць», а потым трапляюць у камічнае становішча, калі даведваюцца, з чаго прыгатавана ежа,— гэта бязлітасная сатыра на ганарлівых паноў.

Актыўна бытавалі ў народзе казкі пра папа, ксяндза, рабіна. Асноўнай прычынай шырокага распаўсюджання гэтых казак было імкненне сялян высмеяць свайго «духоўнага пастыра» за тое, што ён быў амаль такім жа жорсткім эксплуататарам, як і пан, абараняў інтарэсы пануючых класаў, заклікаў да пакорлівасці, да беднага і гаротнага жыцця, хоць сам ніколі не быў узорам для сваёй паствы. Народ заўважыў, што справы духавенства не супадаюць з яго словамі. Прапаведавалі, напрыклад, царкоўнікі любоў да бліжняга, а самі бязлітасна прымушалі працаваць бедных сялян на царкоўных і манастырскіх землях, якіх у іх уласнасці было нямала: да Кастрычніцкай рэвалюцыі звыш 10 працэнтаў казённых земляў Расіі належалі цэрквам і манастырам [13]. Духоўныя пастыры і самі былі буйнымі землеўласнікамі і не адмаўляліся ад багацця і раскошы, а толькі заклікалі сваю паству жыць у голадзе і галечы, за што абяцалі вечнае райскае існаванне ў нябесным царстве. У свядомасці змардаванага селяніна нарастаў пратэст супраць існуючай сацыяльнай несправядлівасці і яе абаронцаў — царкоўнікаў. Гэты пратэст ярка адлюстраваўся ў народных творах, папы і ксяндзы ў якіх, як і паны, малююцца негатыўна: бязлітаснымі эксплуататарамі, прагнымі да чужога дабра, п'яніцамі і распуснікамі, крывадушнымі ашуканцамі і зладзеямі.

Папоўская прагнасць трапна высмейваецца, напрыклад, у казцы «Папоўская хцівасць». Па сутнасці, прагнасць да грошай і штурхае папа на злачынны ўчынак: за кучку срэбранікаў ён адпявае сабаку... Прагнасць з'яўляецца галоўнай рысай і ў характары архірэя. Убачыўшы добры варашок сярэбраных рублёў, ён аж анямеў, потым «вочы загарэліся агнём». Спачатку ён аблаяў селяніна за просьбу пастрыгчы казла ў айца Івана

---

[13] Документы обличают. Минск, 1964, стар. 111.

такімі словамі, «што і пераказаць сорам», але калі пачуў звон грошай, якія хаваў мужык у кішэнях, не вытрымаў і згадзіўся выканаць жаданне селяніна. «Хоць ён і архірэй, да ўсё ж такі паповае вока»,— гаворыцца ў казцы. Выслоўе «папоўскае вока» іншасказальна паказвае вышэйшую ступень прагнасці. У папа яна ж бязмежная: ён пераапранаецца ў д'ябла і ідзе адбіраць скарб у селяніна-бедняка, згаджаецца прыняць работніка без ніякай платы, але з пагрозай смерці, калі зазлуецца на яго, і інш.

Перавелічэнне і гратэск шырока выкарыстоўваюцца пры паказе амаральнага аблічча папа: ён прыстае да жанчын, бы «шаўцоўская смала», і ўжывае ўсе сродкі, каб ашукаць прыгожую сялянку і прымусіць яе да распусты. Каб здзейсніць свае «грахоўныя» задумы, ён не баіцца спаслацца нават на свяшчэннае пісанне. Нярэдка поп выстаўляецца ў камічным выглядзе: начуе ў чужой жонкі, хаваецца ад мужа ў скрыні або ў бочцы з пер'ем ці сажай і выдаецца за чорта. Для больш камічнага эфекта поп выстаўляецца на публічную ганьбу ў вельмі непрыстойным выглядзе: без адзення, укачаны ў пер'е або ў сажу, кудлаты і страшны. У такім стане яго паказваюць не толькі простаму народу, але і панам, папам, купцам; часам яго праганяюць праз строй салдат, якія б'юць «святога айца» палкамі. Такім жа распуснікам паказваецца і ксёндз, у вобразе якога трапна выкрываецца агіднае маральнае аблічча каталіцкіх свяшчэннаслужыцеляў, іх уменне абходзіць цалібат (бясшлюбнасць) і хаваць за маскай прыстойнасці свае брудныя справы.

У сацыяльна-бытавых казках больш позняга паходжання ярка адлюстравана класавае расслаенне ў вёсцы, якое набыло асаблівы інтэнсіўны размах у парэформенны час. Канфлікт паміж беднымі і багатымі перарастае ў класавую барацьбу, у час якой выразна выяўляюцца асноўныя рысы і якасці вобразаў — бязлітасна жорсткага багатыра і прыгнечанага і абяздоленага бедняка. У барацьбу нярэдка ўступаюць родныя браты, з якіх адзін багаты, а другі бедны. Але сваяцтва не перашкаджае багацею здзекавацца з роднага брата, адбіраць апошні мізэрны скарб, забіваць адзінага старэнькага коніка, асуджаць усю сям'ю на галечу і жабрацтва. Больш таго, ён спрабуе забіць бедняка.

Сатырычны вобраз багатыра ствараецца часта з дапамогаю перавелічэння і завастрэння пэўных рыс і гратэску. Напрыклад, зайздросцячы брату, якому ўдалося выпадкова разбагацець, багаты забівае жонку і вязе яе прадаваць (ён паверыў брату, што ў горадзе дорага каштуюць мерцвякі).

У некаторых казках пра багацея значна большае месца ў параўнанні з іншымі празаічнымі народнымі творамі адводзіцца псіхалагічнай характарыстыцы персанажа. У казцы «Багатыр» яскрава раскрываецца, напрыклад, унутраны духоўны свет багацея, яго думкі, перажыванні. Жыве ён у раскошы, але адно «ліха» грызе яго, не дае яму ні есці, ні спаць: «калі добра, дык хочацца яшчэ лепш, а тут нельга нічога лепшага прыдумаць». Ад гэ-

тага і пачаў ён «сохнуць да пятрэць». Сустрэча з бедным чалавекам навяла яго на думку, што ўся бяда ад багацця: бедны спявае і весяліцца, у яго няма ніякага клопату, бо няма грошай. Неадольная прага да багацця багатыра цікава паказана ў эпізодзе, калі ён аддае бедняку капшук з грашыма. Аддаў багатыр грошы і «лягчэй стала на сэрцы, што ён хоць раз зрабіў добрае дзела». Але вельмі скора радасць змянілася такім жалем па аддадзеных грашах, што ён засумаваў і хадзіў, «як у ваду апушчаны, смутны, як пад зямлёю».

Псіхалагічны стан персанажа абмалёўваецца трапнымі народнымі выслоўямі, дасціпнымі параўнаннямі, выразнымі эпітэтамі, метафарамі. Такая вялікая ўвага да раскрыцця псіхалогіі герояў набліжае казку «Багатыр» да літаратурнага апавядання, у якім апісанню духоўнага свету персанажаў адводзіцца значна больш месца, чым у фальклорных творах.

Для кампазіцыі казкі характэрна таксама своеасаблівае абрамленне: пачынаецца яно разважаннем, што багацце і грошы не прыбаўляюць здароўя: «Бо штоб з таго было, каб яшчэ багач да і быў здароў; ён тады і бога сапхнуў бы з неба». Усім сваім зместам казка сцвярджае, што шчасце не ў багацці, і заканчваецца афарызмам: «Дзе багацтва, там шчасця няма... багатыр ад багацтва гіне». У абрамленні даецца філасофскі роздум, ідэйны сэнс якога па-мастацку ярка адлюстраваны ў творы. Тут робіцца спроба паказаць крыніцу багаццяў: не сваёй сумленнай працай, а эксплуатацыяй сялян-парабкаў нажыў багач свае скарбы: «Усе яго грошы да ўсё дабро абярнуліся ў чалавечы пот і кроў». Уцякаючы ад такіх грошай, ён трапляе ў калодзеж і гіне. Падобны фінал жыцця эксплуататара — вельмі частая з'ява ў сатырычна-бытавых казках. У гэтым адлюстраваліся мары працоўных, іх жаданне пакараць прыгнятальнікаў, здзейсніць якое ў жыцці ім амаль ніколі не ўдавалася. Невыпадкова і пан, і поп, і багатыр у сутычках з селянінам-бедняком або гінуць, або высмейваюцца ці застаюцца пераможанымі, прычым часцей за ўсё значна слабейшым чалавекам.

Казкі з падобным зместам мелі асабліва вялікае значэнне для класавага самаўсведамлення сялян, для зараджэння ў іх імкнення змагацца супраць эксплуататараў і сацыяльнай несправядлівасці. Працоўныя вучыліся распазнаваць сваіх ворагаў і пераконваліся ў неабходнасці барацьбы з імі. Творы садзейнічалі распаўсюджванню актыўнага палітычнага пратэсту шырокіх мас прыгнечанага народа.

Героем многіх твораў, змешчаных у томе, выступае спрытны злодзей, які ніколі не крыўдзіць бедных, а крадзе ў паноў, папоў, багатыроў і так хітра, што пан (поп або багацей) нічога не можа зрабіць, нягледзячы на ўсе прынятыя ім захады, хоць ён быў папярэджаны злодзеем раней. Па сутнасці, злодзей своеасабліва карае ворагаў працоўнага люду і выстаўляе на пасмешышча іх тупасць і дурасць, таму яго ўчынкі не асуджаюцца, а ўхваляюцца.

Дасціпна ашуквае сваіх антаганістаў бедны, але вельмі кемлівы і спрытны жартаўнік. Часта ён выкарыстоўвае веру сваіх працаўнікаў у існаванне чарадзейных рэчаў і звышнатуральных сіл: шкура каровы нібы дапамагае выкрыць яму любоўныя забавы распуснай пападдзі, падказвае, дзе схаваны прысмакі; дзівосны капялюш нібы дазваляе браць у купца або карчмара ўсё дарам; простая палка быццам бы ажыўляе мёртвага і інш. Жартаўнік вымушае прагных багацеяў рэзаць кароў і везці прадаваць шкуры, таму што сам быццам бы выгадна прадаў шкуру з адзінай сваёй кароўкі, уступае ім «дзівосныя» рэчы за фантастычна высокую плату, адпраўляе іх у мяшках за статкамі коней або кароў, якіх нібы шмат у рацэ, і інш. Даставернае адлюстраванне жыцця і класавай барацьбы ў казках гэтага цыкла спалучаецца з фантастычнымі эпізодамі, якія ўводзяцца для сатырычна завостранай абмалёўкі персанажаў. Выкарыстоўваючы забабоннасць людзей, жартаўнік выдае сябе за выхадца з таго свету, расказвае пра галечу і голад, якія нібы пануюць там, бярэ для памершай дачкі (або іншых сваякоў) гаспадыні адзенне, ежу, каня і інш. Высмейваючы прымхі і забабоны, народныя творы сеялі сумненне ў існаванні звышнатуральных сіл і царства нябеснага, садзейнічалі ўмацаванню стыхійна-матэрыялістычных поглядаў. Важна, што галоўны герой сацыяльна-бытавой казкі сам не верыць ні ў бога, ні ў д'ябла і нярэдка кпіць з рэлігійных фанатыкаў. Яскрава праяўляецца гэта ў казцы аб тым, як селянін хаваецца ў дупло дрэва і выдае сябе за святога, каб правучыць сваю здрадлівую жонку і яе палюбоўніка. Ажыццявіць гэта яму ўдаецца толькі дзякуючы забабоннасці жонкі. Аналіз такіх казак дае магчымасць даследаваць светапогляд народных мас, якія іх стварылі. Мы маем усе падставы зрабіць вывад, што творцы гэтых казак былі далёка не рэлігійныя людзі і трывала трымаліся матэрыялістычных пазіцый у разуменні навакольнага свету, хоць і недастаткова ўсвядомлена, стыхійна. Разам з тым нельга лічыць, што ў народзе пераважала яснае антырэлігійна-матэрыялістычнае светасузіранне. Шматлікія народныя творы сведчаць пра супярэчлівасці ў светапоглядзе беларускіх сялян, неразуменне імі законаў развіцця прыроды і грамадства.

Адна з важнейшых асаблівасцей спецыфікі адлюстравання рэчаіснасці ў сацыяльна-бытавых казках заключаецца ў спалучэнні даставернага паказу жыццёвых абставін з карыкатурна-гратэскавым. Гратэск не перашкаджае рэалістычна адлюстроўваць жыццё, хоць і парушае контуры рэчаў з мэтаю сатырычнай крытыкі і насмешкі.

Такім чынам, бязлітасны смех сатыры сацыяльна-бытавых казак бічаваў ворагаў працоўнага люду, садзейнічаў усведамленню імі сваёй сілы. Форма крытыкі, яе вастрыня ў казках пра сялян адрозніваецца ад крытыкі ў творах, аб'ектамі сатыры ў якіх былі класавыя ворагі працоўных. Хоць і ў казках пра сялян заўважаецца пэўная залежнасць ад значнасці аб'екта

асмяяння (народ, які асабліва высока цэніць шчырую працу, больш бязлітасна высмейвае гультайства, чым іншыя заганы), але ўсё ж пераважае мяккі гумар, не такая злаcлівая сатыра.

Высмейваючы ўсё адмоўнае, заганнае ў жыцці, сатыра сацыяльна-бытавых казак прымушае слухача «адштурхоўвацца» ад ідэалу, які сцвярджаецца ў творах гэтага жанру часцей за ўсё негатыўна.

Персанажы бытавых сатырычных казак — гэта па-мастацку абагульненыя тыпы, якія, аднак, з'яўляюцца не тыпамі-схемамі, а жывымі экспрэсіўнымі вобразамі. Характэрныя рысы і якасці гэтых вобразаў раскрываюцца лаканічнымі, але трапнымі мастацкімі штрыхамі, якія выяўляюцца ў дынаміцы дзеянняў і толькі ў некаторых казках у раскрыцці ўнутранага свету, псіхалогіі персанажаў.

Вялікай папулярнасцю карысталіся ў народзе казкі, галоўнай дзеючай асобай у якіх з'яўляецца дурань. З вясёлым гумарам расказваецца ў іх пра бязглуздага чалавека, які ўсё робіць неўпапад; замест таго, каб пажадаць радасці маладой, ён яе б'е; замест таго, каб паспачуваць людзям, што хаваюць нябожчыка, ён ім гаворыць: «Каб вы кожны дзень так радаваліся» і інш. За гэта ўсё яго б'юць, таму народ і называе такога дурня «набітым».

Вобраз дурня нярэдка сустракаецца і ў чарадзейных казках, але там часцей за ўсё ён прыкідваецца дурнем, на самай жа справе ён разумнейшы за ўсіх, з кім сутыкаецца.

Персанаж бытавых казак пра дурня карэнным чынам адрозніваецца ад чарадзейных: з яго сапраўды смяюцца і здзекуюцца, ён сапраўды прыдуркаваты, але тым не менш часта перамагае сваіх ворагаў у выніку выпадковай удачы, без удзелу дзівосных памочнікаў і чарадзейных рэчаў. Ён змагаецца не з цмокам і змеем, а парабкуе ў папа, пана або багатыра. Усе яго ўчынкі апраўданы дакладным выкананнем загаду, але сваёй логікай яны, як правіла, бессэнсоўныя: загадвае яму, напрыклад, поп зарэзаць тую аўцу, якая на яго паглядзіць, а ён рэжа ўсіх, таму што ўсе на яго пaглядзелі; загадваюць яму ўкінуць у страву пятрушкі, а ён кідае туды сабаку Пятрушку і г. д. У гэтым і асаблівасць фантастыкі казак пра дурня: апавядаць пра падзеі, якія ў прынцыпе магчымыя, але незвычайныя. Учынкі дурня недарэчныя, абсурдныя, але дапушчальныя ў чалавека без розуму. Казачная фантастыка ўзаемадзейнічае з гратэскам як сродкам сатырычнага адлюстравання рэчаіснасці, чым дасягаецца даволі акрэслены паказ найбольш характэрных рыс вобразаў.

У аснове будовы многіх разгледжаных намі казак пра дурня знаходзіцца алагізм звычайнага як мастацкі прыём, якому ўласціва наўмыснае скажэнне агульнапрынятага. Гэты прыём можа стаць пераважаючым і нават адзіным у творах, напрыклад у небыліцах, для якіх іменна і характэрна скажэнне звычайнага. У небыліцах селянін перамагае пана сваім творчым талентам, майстэрствам слова, кемлівасцю і дасціпнасцю.

2. Зак. 984

Небыліцы таксама змяшчаем у гэтым томе, таму што па свайму зместу яны блізкія да бытавых і сатырычных казак. На першае месца мы ставім творы з сацыяльным зместам. Сярод іх цыкл казак тыпу: «Не люба — не слухай». У цэнтры небыліц гэтага тыпу пан, які вельмі любіць слухаць казкі. Пан абяцае многа золата, калі мужык раскажа такую казку, каб ён згадзіўся, што гэта няпраўда. Як правіла, апавяданне вядзецца ад першай асобы («Як мужык у пана талерку чырвонцаў выйграў» і інш.). Герой расказвае пра падзеі, якія нібы адбываліся тады, калі ён яшчэ не нарадзіўся, але пасвіў ужо пчолы, або ён ужо нарадзіўся, а бацькі яшчэ не было. Якіх толькі дзіўных здарэнняў не адбываецца з героем: ён выратоўвае ад ваўкоў або мядзведзяў пчалу, але потым прырэзвае яе і накладвае 12 кадушак мяса, касцямі ж пчалы ўсцілае звыш дзесяціны сенажаці. Пчала неймаверна гіпербалізуецца. Шкілет яе адным канцом стаіць на зямлі, а другім упіраецца ў неба. Цікавы і сродак руху: герой хапае сябе за «чупрыну», з размаху падскоквае і перакідваецца на другі бок ракі. З усім гэтым пан згаджаецца: «Свет вялік, можа быць і праўда». Але ён не вытрымлівае і крычыць: «Лжэш, хаме!» — калі селянін расказвае, што панскі бацька ў пекле, «абарваны, абшарпаны, босы, пасціць свінней». Мужык выйграе золата, хапае яго і ўцякае. Незвычайныя здарэнні ў характэрным для жанру стылі нанізваюцца адно на другое.

З авантурных казак мы змяшчаем у нашым томе толькі тыя, у якіх адсутнічаюць чарадзейныя элементы і пераважаюць навелістычна-бытавыя замалёўкі.

Арыгінальнай з'яўляецца казка «Дзяўчына», у якой ярка раскрываюцца эстэтычныя густы сялян, глыбокае і тонкае разуменне імі прыгожага і яго ролі ў жыцці. Разбойнікі, апавядаецца ў казцы, не могуть адарваць вачэй ад прыгожай дзяўчыны і першы раз у жыцці каюцца, што забілі яе бацькоў і жыхароў вёскі. Паводле казкі, прыгожае ў жыцці — важны сродак выхавання. Пад уплывам прыгажосці дзяўчыны перавыхоўваюцца і разбойнікі. Аднак не толькі любаванне жаночай прыгажосцю характэрна для авантурных казак, але і рэзкая крытыка здрады, свавольнасці.

У томе змешчаны творы з такімі папулярнымі ў розных народаў сюжэтамі, як утаймаванне ўпартай жанчыны, вернасць жонкі, несправядліва абвінавачанай у здрадзе, і інш.

Большая частка авантурных казак змешчана ў раздзеле пра хітрых і спрытных людзей, таму што галоўнымі вобразамі гэтых твораў якраз і з'яўляюцца знаходлівыя і дасціпныя героі, дабрадзейныя і справядлівыя ў сваіх учынках і паводзінах. Яны змагаюцца супраць сацыяльнага зла за праўду і дабрачыннасць.

Авантурная казка зведала больш значны ўплыў кніжнай літаратуры, чым чарадзейная, бытавая і казкі пра жывёл. У выніку гэтага ў ёй сустракаюцца выразы, не характэрныя для народнай гаворкі, скажоныя замежныя

словы (Ваксонскі каралевіч, пінціён, шпектыр, ардзіна, дзіншчык, ампіратыр і інш.).

Сацыяльна-бытавыя казкі, асабліва сатырычнага зместу, найбольш жывучыя і папулярныя і ў XIX ст., і ў савецкі час. Прычынай гэтага з'яўлецца не толькі іх больш позняе паходжанне, але і актуальнасць, надзённасць ідэйнага зместу, здольнасць задавальняць эстэтычныя запатрабаванні сучасніка і змагацца з такімі недахопамі мінулага, якія характэрны ў большай або меншай ступені ўсім эпохам. Таму многія традыцыйныя бытавыя казкі былі запісаны ў савецкі час. Аднак і яны ўсё радзей і радзей сустракаюцца ў вусным бытаванні. Нямнога стварaецца і новых казак. Найбольшую папулярнасць з савецкіх сацыяльна-бытавых казак атрымалі «Ленінская праўда» і «Як мужык і рабочы дабіліся сваёй праўды», у якіх выкарыстаны традыцыйны матыў праўдашукання, але адлюстроўваюцца новыя, рэвалюцыйныя ідэі.

У першай з гэтых казак браты не знайшлі праўды ні ў пана, ні ў папа, ні ў купца, а толькі ў Леніна, які расказаў аднаму з братоў, «як трэба за рабочую праўду змагацца, каб не служыць ні панам, ні купцам, ні фабрыкантам, і як выгнаць іх разам з царом». Ленінская праўда перамагае. Адносіны народа да Ленінскай праўды ярка характарызуюць эпітэты: залатая праўда, сапраўдная, рабочая праўда і інш.

Як і ў жыцці, у гэтых казках Ленін — просты, уважлівы чалавек, які разам з тым валодае мудрым розумам, геніяльнай празорлівасцю, умее пераконваць працоўныя масы, здольны аб'ядноўваць і накіроўваць усіх прыгнечаных на барацьбу з эксплуататарамі. Народ знаходзіць такія паэтычныя сродкі, якія не толькі даюць яркі партрэт правадыра, але і паказваюць адносіны да яго працоўных, іх бязмежную любоў, адданасць і падзяку. Ленін выступае вельмі клапатлівым і шчырым да простых людзей. Самыя сардэчныя і трапныя эпітэты, параўнанні і іншыя мастацкія сродкі знаходзяць працоўныя для характарыстыкі У. І. Леніна ў казках, песнях, прыказках.

У народных творах Ленін — мудры настаўнік, які шчыра любіць усіх прыгнечаных і не шкадуе для іх шчасця ні сваіх сіл, ні жыцця, ён правадыр працоўных, які цвёрда верыць у невычэрпныя сілы рабочых і сялян.

Такім чынам, ідэйна-тэматычны ахоп адлюстравання рэчаіснасці ў беларускіх сацыяльна-бытавых казках надзвычай шырокі: невыносна цяжкае жыццё прыгоннага селяніна, антаганістычныя супярэчнасці ў грамадстве, асмяянне паноў, папоў, ксяндзоў, багацеяў, выкрыццё рэакцыйнай сутнасці царквы, паказ класавага расслаення ў вёсцы, крытыка заган і недахопаў людскіх — вось асноўны ідэйны змест гэтых твораў. Раскрываецца змест бытавых казак часцей за ўсё не шляхам разгорнутага эпічнага апісання, а праз кароткія малюнкі, сцэнкі, камічныя сітуацыі, эпізоды, у якіх, аднак, даволі выразна малююцца вобразы сацыяльных тыпаў або выяўля-

еццa сутнасць пэўных грамадскіх з'яў. Прычым перабольшаны і гратэскава-карыкатурны паказ асобных з'яў і рысаў персанажаў нікольki не перашкаджае праўдзівасці адлюстравання жыцця, таму што завастрае ўвагу пераважна на камічных момантах і тых якасцях, якія найбольш ярка вылучаюць і падкрэсліваюць галоўнае ў пэўным тыпе або ў адпаведнай з'яве.

Наяўнасць сатыры і гумару ў казках і анекдотах не змяншае, а ўзмацняе іх пацешлівую функцыю. Гэтаму садзейнічае нярэдка і намер казачніка, які ставіць мэтай развесяліць слухачоў, зараней падрыхтаваных паслухаць штосьці цікавае, смешнае. І казачнік, і слухачы ставяцца да зместу казкі як да мастацкай выдумкі. Але ў пацешлівым змесце казкі аб'ектыўна адлюстроўваюцца пэўныя ідэі, якія апасродкавана, праз мастацкія вобразы, цікавыя эпізоды, смешныя сітуацыі, вострыя канфлікты і калізіі даходзяць да слухача і вымушаюць яго асацыіраваць іх з жыццём.

Персанажы сацыяльна-бытавых казак — гэта вельмі абагульненыя тыпы, якія, аднак, з'яўляюцца не тыпамі-схемамі, а жывымі вобразамі. Характэрныя рысы і якасці гэтых вобразаў часцей за ўсё раскрываюцца лаканічнымі, але трапнымі мастацкімі штрыхамі, якія выяўляюцца ў дынаміцы дзеянняў элементарна-камічнага або часцей за ўсё сацыяльна-камічнага характару. У асобных сатырычных казках, запісаных ад таленавітых майстроў народнага слова (напрыклад, ад Азёмшы і Рэдкага), вобразы падаюцца са значнай ступенню мастацкай індывідуалізацыі, што дасягаецца галоўным чынам раскрыццём псіхалогіі персанажаў і асаблівасцямі іх гаворкі (селянін, напрыклад, часта карыстаецца прыказкамі, трапнымі выслоўямі, рыфмаванымі выразамі, насычанымі гумарам з едкім і мудрым іранічным сэнсам; пан жа грэбуе простым народам і яго «мужыцкай» мовай, таму перасыпае сваю гаворку паланізмамі, русізмамі і іншымі замежнымі словамі, у лаянках ужывае вульгарызмы).

Аналіз сацыяльна-бытавых казак дае магчымасць лепш пазнаць гісторыю жыцця і барацьбы працоўных, іх імкненні, думкі і мары, зразумець глыбокія супярэчнасці ў ідэйна-палітычных поглядах сялян, прасачыць эвалюцыю светапогляду народа, яго светасузіранне ў розныя эпохі. Сацыяльна-бытавыя казкі, у якіх адлюстраваўся гнеўны пратэст супраць эканамічнага, палітычнага і нацыянальнага прыгнёту, адыгрывалі важную ролю ў класавай барацьбе, у выхаванні працоўных мас. Пазнавальнае і эстэтычна-выхаваўчае значэнне маюць гэтыя казкі і зараз.

Рыхтуючы тэксты да друку[14], мы імкнуліся захаваць лексічныя і асноўныя марфалагічныя асаблівасці твораў у адпаведнасці з першапачатковымі запісамі, але паводле сучасных норм правапісу. Варыянты друкуюцца толькі найбольш далёкія, а пра блізкія паведамляецца ў каментарыях.

---

[14] У выверцы тэкстаў прымалі ўдзел А. І. Гурскі, В. І. Скідан, С. Т. Бахмет, А. М. Акунькова.

## 1. САМЫ ВУМНЫ

Цар пытае сваіх губернатараў:

— Ці ўсё спраўна ў маім гасударстве, ці няма якога машэнства?

— Усё спраўна, ваша царскае вялічаства.

Наймае цар сабе дзядзька падзённым рашчотам, адзяваецца ў дзеравенскую адзежу, падпаясваецца вяроўчынай і паехаў у свет. Заязджае ў дзярэўню, у адну, у другую, у трэцюю, а ў чацвёртай на адной хаце бачыць вывеску: «Я вумней за ўсіх». Цар на звозчыка гаворыць:

— Астанавіся.

Астанавіліся, цар злез, заходзіць у хату.

— Дзень добры! Хто тут хазяін?

— Я.

— Вывеска твая?

— Мая.

— Ці ж ты вумней за ўсіх?

— Да, вумней мяне няма на свеце.

А ён, гэты дзядзька, гэтым самым грошы дабываў сабе вялікія. Цар кажа яму:

— Збірайся, паедзем са мной, мой савет будзець доўгі, я цябе абратна завязу.

Селі, паехалі. Урэмя было зімняе. Праехалі колькі, відзяць, аўчыннік мые аўчыны. Цар спрашывае:

— Ці ж сем пяці не апраўдвае?

— Не,— адказвае аўчыннік.

— А індыка скубсці можаш?

— Свабодна магу.

— А яго імператарскае вялічаства 1000 раз за раз відзець можаш?

— Свабодна магу.

Цар на звозчыка:

— Паязджай!

Паехалі яны, цар і спрашывае:

— Ты вумнейшы за ўсіх, паясні, што азначаюць гэтыя вапросы. Калі праз два месяцы не атвеціш — галава з плеч. Паязджай пака дамоў і вывеску знімі.

Распрануў адзежу і паказаў царскі кафтан. Прыехаў чалавек дамоў, думаў, думаў і нічога не выдумаў. Надумаўсяісці да аўчынніка. Прыйшоў, пытае ў яго:

— Скажы мне, аб чым вы з царом гаварылі?

Аўчыннік гаворыць:

— Дай 1000 рублёў, тады скажу.

Той яму даець і 300 рублёў, і 500 — не, толькі 1000.

Пайшоў чалавек дамоў і думае: «Век грошы збіраў, а тут трэба аддаць усе за раз». Ну, як ні думаў, а нічога не дапамагае — трэба несці грошы. Прынёс, аддаў — усё срэбраныя рублі, на кожным галава імператара.

Гаворыць яму аўчыннік:

— Сем месяцаў цёплых у гаду я даўжон паработаць, штоб пяць халодных аддыхаць. А ў мяне сем месяцаў пяці не апраўдваюць, прыходзіцца работаць і зімой. А індыка скубсці — гэта я цябе абскуб сразу. Ты абрастаў, абрастаў, а я цябе і абскуб. А тышчу раз за раз імператара ўбачыць, дак паглядзі і ты на грошы: на кожным рублі яго імператарскае вялічаства.

Падыйшло ўрэмя, яўляецца вумнік к цару.

— Ваша імператарскае вялічаства, я ўжо знаю вашы вапросы.

— Ну, калі пабываў у навуцы ў аўчынніка да ведаеш, як індыка скубуць, цяпер ужо больш не вывесіш аб'яўлення. Першы раз абскублі, а за другім патрашыць будуць.

## 2. ЯК СЕЛЯНІН ЗРАБІЎСЯ ПАМОЧНІКАМ ЦАРА

Аднойчы рубіў мужык ля дарогі дровы. Была зіма, а ў яго не было рукавіцаў. Рукі мёрзлі, але трэба было зарабіць на хлеб. Па дарозе міма ехаў цар, які ўбачыў, што чалавек у мароз голымі рукамі сячэ дровы. Цар сказаў астанавіць коні і падышоў да чалавека.

— Ці ж тыя пяць не могуць гэтым семяром адпачыць даць? — запытаў цар.

Чалавек спачатку разгубіўся, а потым сцяміў, што цар гэтым хацеў сказаць, і адказаў:

— Маглі б тыя пяць даць адпачынак семяром, але трыццаць два не дазваляюць.

Цар задумаўся над адказам мужыка, нічога не кажучы, паехаў у свой палац.

У палацы цар доўга думаў, што азначае адказ чалавека, але нічога не выдумаў і загадаў прывясці таго чалавека да сябе.

Той, перапужаўшыся, стаяў перад царом, які запытаўся, што азначае яго адказ і ці зразумеў ён яго пытанне.

Чалавек адказаў:

— Тваё пытанне зразумеў так: пяць — ёсць летнія месяцы, а сямёра — зімнія. Але ўлетку няма сілы таго зрабіць, што за зіму з'ясі — таму я і казаў, што трыццаць два не дазваляюць, бо чалавек мае 32 зубы.

— Так,— цар адказаў,— віжу, што ты разумны і таму не будзеш болей дроў сячы, а будзеш маім памочнікам.

## 3. КНЯЗЬ І ПАЛЯСОЎШЧЫК

У старыя часы князі дужа блізка жылі з народам: часта яны ці пехатой, ці на каню ездзілі па свайму княству, каб паглядзець, як жывуць іх людзі, разабраць іх спрэчкі і параіць ім, як лепш жыць.

Вось аднойчы адзін князь, полацкі Усяслаў, пераапрануўся ў вопратку простага селяніна, каб яго не ўзналі, і пайшоў па дарозе. Спачатку ён ішоў па бальшаку, потым звярнуў на прасёльную дарогу і па ёй зайшоў у лес.

Ідзе князь па лесу і бачыць, што дарожка канчаецца, пачынаецца маленькая сцежачка.

Заблудзіўся князь у лясу. Як выйсці?

Прыслухоўваецца, ці не чуваць дзе якога гуку ці сабачага лаю, каб знайсці чалавечае жыллё.

Вось здалёку пачулася яму, што дзесьці сякуць лясіну.

Пайшоў ён на гэты гук.

Чым бліжэй ідзе, тым гук больш чутна.

Выйшаў князь на лясную палянку і бачыць, што якісь-та чалавек сячэць дровы.

— Хто ты? — запытвае князь чалавека.

— Я палясоўшчык, пільную вось лес! — адказвае чалавек.

— А колькі ж ты атрымоўваеш за сваю працу?

— Ды нямнога: маю дармавую хатку, дровы, крыху зямелькі ды яшчэ 30 грыўнаў у год!

— Куды ж ты гэткія грошы дзяеш?

— А вось куды: адну частку — доўг аддаю, другую даю на пазыку, трэцюю — у ваду кідаю, а чацвёртую — падаткі плачу!

— Нічога не разумею,— кажа князь,— растлумач ясней!

— Доўг аддаю — гэта я кармлю свайго старога бацьку і старую маці, на пазыку даю — сыноў вучу, у рэчку кідаю — дачок гадую, а што падаткі плачу — гэта для князя, зразумела.

— Добра ты растлумачыў, толькі вось табе наказ: нікому без маёй прысутнасці не кажы аб гэтым. А цяпер падвязі мяне да нашага стайнага месту, Полацку! — просіць князь.

Палясоўшчык пачаў адмаўляцца, што далёка, што наступае вечар.

Князь кажа:

— Вось табе 3 грыўны і вязі мяне хутчэй!

Палясоўшчык пачасаў затылак, але дужа спакушалі яго 3 грыўны, і пайшоў запрагаць каня. Селі на павозку і паехалі.

У час падарожжа князь запытвае палясоўшчыка:

— Ці бачыў ты калі-небудзь свайго князя ў вочы?

— Ды вось не прыходзілася спаткаць, а аб князю нашым многа чуваць: і што ён з ворагамі добра ваюе за нашу краіну, і што ён сваіх людзей шчадзіць і нікога не крыўдзіць. Дужа жадаў бы яго бачыць!

— Дык хутка яго ўбачыш! Як прыедзем у Полацк і як увідзіш там людзей без шапак, а каго ў шапцы — вось той і князь!

Абрадаваўся палясоўшчык, што ўбачыць князя, і барджэй паехаў да места.

Вось ужо відаць высокія вежы цэркваў, дахі замкаў і будынкаў Полацка.

Між тым у месце і ў замку, дзе жыў князь, паднялася сумяціца — прапаў князь.

Трэба ехаць вышуківаць князя. У гэты ж час князь з палясоўшчыкам уязджаюць у места. Князь кажа палясоўшчыку:

— Вязі мяне да верхняга замку!

Пад'язджаюць к замку. Тут некаторыя княжыя слугі завідзелі павозку з князем, радасна здымаюць усе шапкі і адчыняюць браму ў замак.

— Ці бачыш ты цяпер, хто князь?— запытвае князь палясоўшчыка.

Палясоўшчык аглядаецца пужліва і, бачучы, што ён ды сядок у шапках, сцяміў, у чым справа, і сам скідае шапку і радасна кажа:

— Ты князь!

Князь адарыў цямлівага палясоўшчыка і зноў кажа яму:

— Ну, глядзі ж, каб без маёй прысутнасці ты нікому не адгадываў сваёй загадкі.

Цераз некалькі дзён у княжаскім замку было піршаства, на якое сабралася шмат баяр, княжаскіх служкаў і слаўных людзёў.

Вось князь у час піршаства і задае ўсім прысутным загадку палясоўшчыка, хто адгадае яе, князь абяшчае шчодра нагарадзіць.

Усе ламалі галаву і ніхто не мог адгадаць, тады двое княжых служкаў сцямілі, што, мусіць, князь чуў гэту загадку ад палясоўшчыка.

Пайшлі к палясоўшчыку і кажуць яму:

— Адгадай нам загадку, якую ты князю нашаму казаў. Дадзім табе многа грошаў!

А палясоўшчык ім адказывае:

— Вымайце па чарзе з сваіх кішэняў грыўны па адной, і ў каго апошняя грыўна будзе, таму і адгадаю загадку!

Умовіліся слугі падзяліць папалам княжую награду і пачалі выкладываць на стол па адной грыўні.

Кладуць, кладуць, а два стоўбчыка грошаў растуць усё вышэй і вышэй. Урэшты рэштаў адзін служка ўсе свае грошы на стол паклаў, а другі яшчэ кладзе.

Палясоўшчык тады і адгадаў загадку апошняму слузе.

Радасныя паспяшаліся слугі ў княжы замак.

Адзін з служак уваходзе к князю і кажа:

— Я адгадаю загадку!— і адгадаў.

Князь нарадзіў слугу, але ў той жа самы час сцяміў, што пэўна служка з'ездзіў к палясоўшчыку і той выдаў тайну.

Едзе князь к палясоўшчыку і кажа яму строга:

— Як ты адважыўся без маёй прысутнасці адгадаць загадку! І цябе чакае такая кара!

А палясоўшчык адказвае:

— Я свае словы стрымаў! — і паказывае князю грыўны, якія ён атрымаў ад служак і на якіх выбіты княжы твар.

— Сцямлівы ты! Жыві шчасліва!— і паехаў князь назад.

А палясоўшчык зажыў багата: пабудаваў сабе добрую хату, завёў сабе вялікую гаспадарку і да канца дзён сваіх часта ўспамінаў сваім дзеткам пра спатканне з князем і пра загадку, якая яму прынесла шчасце.

## 4. „АБ КРОЛЮ РУСКІМ ДАЙ МЛЫНАРУ

Раз ехаў кроль рускі дай то па дарозе ўбачыў багаты кляштар, шкода яму яго стала, так загадаў паклікаць бернардына самага найстаршага дай кажа:

— Забяру гэты кляштар, калі мне не адгадаеце гэтыя тры загадкі. Першая: як можна аб'ехаць цэлы свет? Другая: што я варты? А трэцяя: чаго я не ведаю?

Даў яму часу да намыслу цэлы год, дай то сам паехаў. Недалёка ад таго кляштара жыў млынар, а быў і хітры і не жарт які разумны. Прыязджае ён аднаго разу да кляштара з мукой дай бачыць, што той бернардын ці штось вельмі смутны. Так пытае яго:

— Чаго ж гэта ксёндз такі смутны?

Так бернардын кажа, што так і так.

— Гэта байкі,— кажа млынар,— я ксёндзу параджу: няхай ксёндз дасць мне сваю адзежу, дак я стану перад кролем і адкажу за ксёндза.

— Добра.

Надышоў тэрмін, прыязджае кроль, так стаў перад ім млынар дай адказвае:

— Няхай кроль сядзе на сонейка, дак ад пары да пары аб'едзе цэлы свет. То першая. Другая: што кроль варты — толькі 29 грошай, бо Юда, як прадаў пана Езуса, дак узяў 30, а такі кроль няхай грошам танней будзе. А трэцяя: кроль не знае, што гэта не бернардын перад ім стаіць, але млынар.

Так кроль — няма чаго рабіць, паехаў, як змыты, а бернардыны як жылі, так і жывуць сабе далей.

## 5. ПЕТР ЗАГАДЫЦЬ СВАІМ СЕНАТОРАМ, ЯК НЕБА ВЫСОКА І ЯК ЗЯМЛЯ ГЛЫБОКА. МУЖЫК ПЯТРУ РАСКАЗВАЕЦЬ, КУДА ЁН ЗАРАБАТАК ДЗЯВАЕЦЬ: ЯКІЯ ДЗЕНЬГІ ЗА ДОЎГ ПЛАЦІЦЬ, ЯКІЯ Ў ДОЎГ АДДАЕЦЬ, ЯКІЯ НА ВЕЦЕР ПУШЧАЕЦЬ

Загадаў Пётр сваім сенаторам:

— Как высока неба і как глубака зямля?

Не маглі яны етага рассудзіць. Пётр паехаў у поле. Мужычок пахаў; Пётр спрашываець мужыка:

— Рассудзіце мне еты історыі: как неба высока? Как глубака зямля?

Мужык атвячаў:

— Неба очэнь нізка: как гром гранець, і глухой паслышыць. А зямля глубака: я свайго дзедушку пахараніў, к етаму врэмю шэсцьдзесят лет прайшло, і ён не павараціўся.

Вось тады сенаторы началі разысківаць, хто б ета рассудзіў. Спрашываюць у лакея, каторы за царом ездзіў:

— Ідзе цар быў?

— Быў цар у полі і з мужыком разгаварываў.

Тады еты сенаторы паехалі ў поле і пачалі расспрашываць у мужыка:

— Скажы нам, пажалуйста, ету загадку, как неба высока? Как зямля глубака?

Мужык атвячаў сенаторам:

— Я вам скажу,— што мне будзець за ета?

— А што ты хаціш?

— Ета будзець стоіць дзела сто рублёў, када я вам раскажу. Дзедушка ў мяне помер шэсцьдзесят лет, і ўзвароту яму нет. Так она очэнь глубака, зямля, а неба очэнь нізка: гром ударыць — глухі паслышыць.

Тады еты сенаторы заплацілі мужыку сто рублёў і варацілі-ся к Пятру і хвастаюць:

— Цар, ета,— гавораць,— дзела знаім!

І началі гаварыць:

— Зямля глубака: мой дзядзюшка памёр лет сорак і не павараціўся, а неба очэнь нізка: как гром стукнець, і глухі паслышыць.

Тады Пётр і гаворыць сваім сенаторам.

— Верна, вы ў мужыка распрасілі.

У етага ж мужыка распрашваў Пётр.

— Скажы мне, мужык, па сколька ты бярэш у суткі за ету пахату?

— А вот сколькі, Пётр: восем грывен.

— Ох, многа ж ты дзенег бярэш! Куда ж ты еты дзеньгі дзяваеш?

— Дзве грыўны доўг аддаю, дзве грыўны ў доўг закладаю, дзве грыўны на вецер пушчаю, а дзве грыўны пітаюся з жаной.

Цар і спрашыіць:

— Што ета значыць такое, што доўг аддаеш дзве грыўны?

— А ета ў мяне ёсць ацец і маць: дак ане мяне малыва кармілі, дак я і іх старых за ета кармлю. Вот ета ім і доўг аддаю.

— Скажы, пажаласта, каму ты закладаіш у доўг?

— Мяне ёсць два сына малых; дак я іх пітаю. Вот ета ў доўг закладаю: када я буду стары, дык ане тада мяне будуць пітаць і доўг будуць аддаваць.

— Ну, скажы, пажаласта, яшчэ, што ж ета значыць такое: дзве грыўны на вецер пушчаеш?

Атвячаў мужык Пятру:

— Вот, цар, куды дзве грыўны дзяваю — дачок пітаю: я іх воспітаю і тады аддаю іх у людзі. Вот ета на вецер пушчаю.

Цар прыехаў у сенат, загадаў сенаторам мужыкову загадку; не дадумалісь яны і заплацілі тому мужыку, што ён ім сказаў, дзвесце рублей.

## 6. ДВА БРАТЫ

Ну вот, былі так сабе ў вадном сяле два браты. Абодва жылі яны ўмесце, а тады падзяліліся, і большы забідзеў меньшага: даў яму адну кароўку, а сабе ўзяў сем кароў і ўсё дабро. Ну, дак ён ужо бядзяк,— ідзе яму дзецца? Дак ён прыдзе к багатаму да й работае за кусочак хлеба, абы б даў пад'есці, а ў двор-та і няма нічога, а ў дварэ і баба ёсць, і дзяўчошка малая ёсць. Людзі тагды сталі яму казаць:

— Эх,— кажа,— што ты: робіш, робіш, тут сам пад'ясі, а ў двор табе нечага несці. А ты б пашоў к людзям, дак ба ты і сам пад'еў, і ў двор ба табе далі кусочак хлеба!

Тагды ён узяў і пашоў к чужым людзям, мо к чалавеку к якому. Паработаў там дзень ці два, далі яму кусок хлеба, а мо мукі жменьку ці так чаго, што бог даў. Зарабіў хлеба кусок, прынёс дамоў, ну й пад'елі яны там. Ну, тагды прыходзя к яму брат яго багаты ў госці да й кажа:

— Што ты, брат? То прыходзіў,— кажа,— ка мне, ато ўжо і не йдзеш!— кажа.

— А што ж,— кажа,— мне йці? Я раблю, раблю, сам пад'ем, а ў двор ты мне і кавалка хлеба не дасі. Ну, да хоць я к табе, брат, не пайду, дак я цябе ўгасцюю. Унясі-тка, хазяйка, таго малачка, што кароўку падаілі, да хлебца я кавалачак зарабіў. Сядзь-ка,— кажа,— брат, да пад'еж у мяне!

Дак ён сеў і пад'еў, падзякаваў і пашоў у свой двор. Ну, тагды багаты прышоў у свой двор да й кажа на бабу:

— Вот,— кажа,— баба: падзяліліся мы з братам, да нехарашо!

— Ну, як?

— Да як жа: у яго адна кароўка, да ё малачко, а ў нас сем кароў, да не стоюць яго аднае кароўкі!.. А што,— кажа,— баба?

— А што?

— А мы адцягаем у яго і тую кароўку!

А баба кажа: —Як жа нам яе адцягаць?

— А як: я пайду к пану! Такі ж я чалавек багаты, а ён бедны чалавек, дак я пайду к пану і скажу, што ён у мяне хлеб браў, да не аддаў, ці шчэ што. Дак мне пан і прысудзя яго карову. Яго ж кароўка харошая, а нашы лядаштыя!

Ну, пашоў к пану і пажаліўся.

— Ён у мяне хлеб браў,— кажа,— то тое, то сёе, ды не тдаваў. Дак мне,— кажа,— прыналежна кароўку ету атабраць!

Ну, тэй прызваў беднага:

— Ці вінават ты, так і так?

— Не,— кажа,— не вінават: я не браў у яго нічога. Гэта,— кажа,— на мяне мо напасць якая: спрасіце і на міру ў начальнікаў!

Ну, пан і гавора:

— Трэба б,— кажа,— судзіць і за беднага чалавека.

І багаты адказуе, што ён,— кажа,— вінават яму!

Ну, тэй пан думаў, думаў, што яму дзелаць, за каго яму судзіць, а дылі і гавора:

— Загадаю я вам тры загадкі: калі багаты адгадае, дак яму беднага кароўка, а калі бедны адгадае, дак багатага сем кароў беднаму!

Ну, тагды ён сказаў ім загадкі:

— Што ж то ў свеце мілей за ўсяго?

А другую сказаў:

— Што ж то ў свеце быстрэй за ўсяго?

А трэцюю сказаў:

— Што ж то ў свеце сычэй за ўсяго?

Ну, цяпер пашлі яны ўжо дамоў. Бедны ідзе да плача, а багаты ідзе да радуецца. Ну, ён прыходзя дамоў, багаты, да й кажа:

— Вот,— кажа,— баба, загадаў,— кажа,— пан тры загадкі!

— Якія ж,— кажа,— тыя загадкі?

— Адна,— кажа,— што ў свеце мілей усяго?

— Э,— кажа баба,— я,— кажа,— тую загадку разгадаю: мілей жа,— кажа,— нігдзе няма нічога, як мы з табой жывом міла да дружна. Ета,— кажа,— загадка пра нас, я ўгадала!

— А другая загадка: што ў свеце быстрэй за ўсяго?

— Э,— кажа,— у нас жа ё жарабок жырны, моцны, дак дужа шыбка бегае,— быстрэй яго нікога ў свеце няма. Во і ету я,— кажа,— разгадала загадку!

— А трэцяя загадка: што,— кажа,— сычэй за ўсяго?

— А ета,— кажа,— у нас ё кабан, дак ні ў кога, ні ў кога няма такога сытнага, як ён!

Ён кажа:

— Ці верна ж ты,— кажа,— баба, угадала?

— А як жа,— кажа,— не верна? Гэта ўжо, што я ўгадала, дак гэта верна!

Ну, а той бядзяк прышоў дамоў, плача, а дочка тая ў яго пытаецца:

— Татка,— кажа,— чаго ты плачаш?

А ён кажа:

— Як жа,— кажа,— мая дочка, не плакаць: загадаў пан тры загадкі: первая — што ў свеце мілей за ўсяго? А другая: што ў свеце быстрэй за ўсяго, а трэцяя: што сычэй за ўсяго? Як іх адгадаць, бог знае.

— Э, татка, сакалок, лажысь,— кажа,— спаць: дасць бог дзень, дасць і пуць!

Ляглі яны спаць, пераначавалі. Цяпер ён кажа:

— Уставай, мая дочка! Кажы, што ты мне скажаш?

— Да вот,— кажа,— татка: первая загадка — мілей за ўсяго ў свеце сон. Хоць якое гора, а як ляжаш, заснеш і забудзешся. А быстрэй за ўсяго — мыслі: дзе ты думай, ці думай — а твае мыслі ўжо там. Сам ты тут, а твае мыслі ўжо далёка.

А трэцяя загадка: сычэй за ўсяго,— кажа,— зямля! Яна і сычэй і багачэй за ўсяго: людзі з зямлі і жывюцца, і кормюцца!

Ну, цяпер ідзе к яму багаты:

— Ну, ты,— кажа,— не ўгадаў, а я ўжо ўгадаў, якія тыя загадкі! Хадзем!

Ну, а беднаму і не хочацца іці, да трэба. Пашлі яны к пану, пан і кажа:

— Ну, багаты, станавісь! Ці ўгадаў?

— Э, пан! Я ўгадаў,— кажа,— добра!

— Ну, што ж? — кажа.

— А вот што: мілей,— кажа,— у свеце нічога няма, як мы з бабай жывом — дружна, харашо!

— Ну, а што ж,— кажа,— быстрэй за ўсяго?

— Ну, а быстрэй за ўсяго ёсць у нас жарабок,— кажа,— быстрэй за яго нічога няма!

— Ну, а сычэй усяго?

— А сычэй за ўсяго ёсць у нас,— кажа,— кабан, дак ён дужа жырны: сычэй за яго нічога няма!

Пан стаіць, усё гэта слухае.

— Ну, а ты ж,— кажа,— бядзяк, ці ўгадаў?

— А бог,— кажа,— святы знае, ці ўгадаў я, ці не ўгадаў!

— Ну?

— Мілей за ўсяго,— кажа,— сон, быстрэй за ўсяго мыслі, сычэй,— кажа,— за ўсяго зямля,— кажа.

— Ну, вот жа,— кажа,— ты, багаты,— кажа,— не ўгадаў, а бядзяк угадаў, што за загадкі. Вот, табе,— кажа,— аддаць беднаму свае сем кароў!

Ну, багаты ўжо муліцца, як жа ета аддаць сем кароў тых? Ну, а як прысудзілі ў суду, штоб аддадзены былі, дык што тут,— мулься не мулься...

— Ну, і ступайце з богам у двор!— кажа.

Толькі яны пашлі да двара, цяпер пан гавора:

— Эй, бядзяк, вярнісь-ка,— кажа,— сюды!

Ну, ён вярнуўся. А ён : гавора:

— Ну, пачом ты етыя загадкі ўгадаў?

— А ёсць у мяне,— кажа,— дзяўчонка малая, дак ета яна мне сказала так сказаць!

— Ну, вот, яна,— кажа,— твая тая дзяўчонка вумная, разумная: на ж,— кажа,— табе сем яец вараных, штоб яна высе-дзела за ноч, вывела куранят і штоб к абеду прыслала мне цыплёнка загатаваць!..

Ну, бедны ўзяў яйцы, ідзе дамоў да плача слёзна.

— Ну, вот табе,— кажа,— дочка, сем яец, штоб ты з іх вывела за ноч куранят і паслала к пану куранёнка на абед!

Ён плача, а яна кажа:

— Тацьь, не плач! Дасць бог дзень, дасць бог пуць: што-небудзь і будзе,— кажа,— не плач!

А дочка етая была калека: седнем сядзела, нагамі не ўладзела, і ёй усё янгалі паказвалі, як што гаварыць. Пераначавалі яны, бацька й гавора: — Ну, што ж мне, мая дочка, дзелаць?

— А вот што,— кажа,— ёсць у мяне прыгаршчы пшанца. Вазьмі ты яго, ета пшанцо, нясі к пану, аддай пану і скажы пану, няхай ён за ноч ляда выпратае, высяча, тагды выпале, тагды ўспаша ды й пасее етым пшаном, і штоб ета пшано ўзрасло, ён пажаў, намалаціў і мне прыслаў, штоб было чым куранёнка выкарміць, к пану на абед несці!..

Бедны чалавек пашоў, панёс пшано і аддае пану і гавора:

— Вот мая дочка прыслала пшанцо і казала, штоб за ноч ляда выпраталі, успахалі, етым пшаном пасеялі, і штоб яно ўзрасло, і штоб пажалі, намалацілі і прыслалі ёй, штоб было чым цыплёнка карміць, к пану на абед несці!

Тагды пан кажа:

— Што ета яна ў цябе такая моцна разумная!

А ён кажа тагды:

— А я ж не знаю, бог жа яе знае, ёй, верна, так бог даў.

Пан ужо гавора тагды:

— Як жа гэта,— кажа,— можна, штоб за ноч ляда выцерабіць, засеяць і штоб узрасло і паспела? Ета няможна здзелаць!

— А вот жа,— кажа,— пан: калі ты не можаш гэтага здзелаць, дык і мы не можам з пячоных яец куранят вывесці, выкарміць і к пану на абед прынесці!

— Ну, ідзі ж ты,— кажа,— дамоў і скажы ты ёй, што няхай яна прыедзе заўтра ка мне ні ў чом, ні на чом, ні ў сарочцы, ні голая, ні па дарозе, ні па полю, і штоб падарак мне прынесла, да я яго не спажыў — дак я на ёй ажанюсь!

Прышоў бедны мужык дамоў і плача:

— Чаго ты, тацьь, плачаш?

— А як жа,— кажа,— мне не плакаць, калі вялеў пан прыехаць табе заўтра ік яму ні ў чом, ні на чом, ні ў сарочцы, ні голая, ні па дарозе, ні па полю, і штоб падарак яму прынесла, да ён яго не спажыў?

— Што ж,— кажа,— ідзі папрасі,— кажа,— мне казла і брадзьнік, дак у брадзьнік увярчуся, а казла ў цялежку запрагу і паеду!

Бацька дастаў ёй брадзьнік і казла. Яна запрагла казла ў цялежку, увярцелася ў брадзьнік, узяла ў рукі ката і паехала ні полем, ні дарогай,— паехала па яго саду, па гародах. Едзе, ламае гародніну, усё. Тагды пан спужаўся:

— Хто ета,— кажа,— едзе? А! Ета ж тая, што я ўчора прыказаў!

Вялеў ён тагды выпусціць сабак, каб яе зарэзалі. Сабакі пабеглі, а яна ката кідзель! А кот на яблднку, а сабакі за ім! А яна на казле ў комлату шам!

— Нума,— кажа,— пан, жаніцца. Бач, я прыехала ні ў чом, ні на чом, ні ў сарочцы, ні голая, ні па дарозе, ні па полю і падарак прынесла, да сабакі твае адагналі!

І стала яна січас і харошая, і здаровая. Пан із ёй і жаніўся.

А бедзяку багач аддаў сем кароў, і сталі яны з бабай жыць да пажываць. Можа, і цяпер жывуць...

## 7. ПРА ДЗЯРЭЎНЮ І КРЭСЦЬЯН

Жыў крэсцьянін. Была ў яго дочка. Ішоў па дзярэўні, па вуліцы, стараста, старшына і соцкі.

Ідуць яны і раўняюцца з дочкай (яна ў варотах стаяла). Праходзяць міма варот гэтай дзеўкі, нічога не сказалі, ні здраствуй, ні дзень добры, і прайшлі міма яе. Так яна проста п...нула. Аглянулася, аж усе ўтрох астанавіліся.

Стараста на яе гаворыць:

— Ох ты, бяссовестная дзяўчына.

Яна ім атвячае:

— Мае почкі атвячаюць, хто гэта ідзе — стараста і соцкі.

Стала ім стыдна, што дзяўчына апазорыла.

Пашоў стараста к пану, што дзяўчына так апазорыла. Вялеў ён старасце, штоб прышоў бацька к пану.

Бацька прышоў к пану.

— Твая гэта дзяўчына такая мудрая? — спытаў пан.

— Мая.

— Дак, от ты ёй скажы, штоб яна прышла ка мне.

Дзяўчына прышла к пану:

— Ну, відная дзяўчына, нават магу жаніцца на табе.

І сказаў ёй:

— Сматры, штоб ты трэцяга дня прышла ка мне,— ні гола, ні адзета, у мой сад напроціў балкона.

Яна прышла дамой, бацька яе спрашуе:

— Што табе было?

Яна сказала:

— Пан сказаў, штоб я прышла ні гола, ні адзета і штоб прынесла падарак — ні падарак.

Думала яна, як жа к пану надзецца ні гола, ні адзета, штоб надзець такое плацце, штоб ні была голая.

Надзела на сябе такую сетку, нападобіе, як на рыбу. Вялела бацьку вывесці з хлява барана, і з сабой яна ўзяла тры кошкі і села на барана, абсядлала яго, узяла за рогі і вышла на дарогу, напроціў балкона, на памешчыкавай зямлі, мяжэю, і з гэтым баранам дурачыцца — ні йдзе, ні едзе. Пан угледзеў, што яна едзе. Выпусціў сабак, штоб яе разарвалі: от яна выпусціла кошкі із-за пазухі — сабакі пабеглі за імі. От яна абратна прадзвігаецца ўпярод. Так жа і ўтарой раз. Так і трэці раз, такім жа самым пуцём.

Падыходзіць яна пад балкон, вынімае голуба із-за пазухі і падае пану этат падарак. Пан руку працягнуў, так голуб паляцеў.

Прыходзіцца пану свае словы помніць...

Значыць, так раз гэта самая дзяўчына была на ярмарцы. Едзе па гэтай дзярэўні самай жа, а ў яе кабыла была худая. Стаіць стараста. От ён і думае: «Нада апазорыць гэту дзяўчыну».

Яна едзе вуліцай і пае. Ён крычыць:

— Эй ты, дзяўчына, ты весела! На дарозе ты, верна, сустрэла каго і харашо пажыла.

От яна і гаворыць:

— А разве, стараста, калі так зробіш, то вельмі весела будзе?

А ён гаворыць:

— Да.

Дак яна і кажа:

— Пан стараста, то ўзлезь на маю кабылу дый цяляпуй, то пойдзе яна весялей.

Стараста ізноў пашоў к пану і заявіў:

— Ізноў апазорыла дзяўчына.

Пан вялеў, штоб прышоў бацька ізноў.

Прышоў бацька.

— Твая гэта такая мудрая дзяўчына?

Бацька атвячае:

— Мая.

— Ага.

Вяліць ён лакею зварыць тры дзесяткі яіц, штоб вывела цыплята.

Бацька прыходзіць і гаворыць дочкі:

— Вельмі скверна. Пан завялеў вот з гэтых яец, штоб вывела цыплят.

— Нічога, садзісь, бацька, будзем яйкі есць.

Селі за стол, яйкі паелі.

Запісала дзяўчына тое ўрэмя, када выдуць цыплята.

Блізка к гэтаму ўрэмю дочка бацьку пасылае ік пану.

— Ідзі к пану і скажы, пушчай тот сад бальшой іссячэ і на поле здзярэ, і пшаніцу пасее, штоб пшаніца парасла і паспела, і ссушыў, і змалаціў, ато цыплята з голаду падохнуць.

Пан відзіць, што не ўспеіць, дак ён сказаў:

— Ох, твая дочка хітрая.

Падазваў лакея і лакею гаворыць, штоб прынёс гаршок. Пан лакею вялеў прабіць у ім дзірку. Завялеў аддаць гэтае дзеўкі бацьку.

— Вот нясі сваёй дочцы, пускай яна яго залатае ні глінаю і ні мякінаю, но іголкаю.

Бацька прыходзіць дамоў і дочцы гаворыць:

— Дочка, ты цяпер прапала.

Дочка бацьку атвячае:

— Э, нічога, бацька, гэта ні значыць, мы гэта іздзелаем. Нясі, бацька, к пану гаршка, штоб пан яго ўзяў ды вывернуў, да штоб нідзе яго не паламаў, ато ніхто, не вывернуўшы на леву сторану, не лапіць.

Пан гаворыць:

— Ой, шануйся, што вумная!

Па перву яго слову прыходзіцца на ёй жаніцца.

Многа ён не стаў гаварыць і думае: «Жаніцца мне на сялянцы? — На такой пану жаніцца — пацярпець гонар. Узнаюць аб гэтым усе мае падругі і паны. Будзе мне вельмі стыдна. Но паскольку я справядліў і трэба дзяржацца совесці, справядлівасці — я мушу браць яе за жану».

І сказаў усёй радні і ўсім знакомым панам, штоб прыехалі на пір.

З'ехаліся ўсе радныя і паны на эты самы пір.

Расказаў пан усім:

— Буду на сялянцы жаніцца.

Радныя і паны ўсміхнуліся.

— Што з табою случылася?

Пан стаў расказваць пра дзяўчыну з пачатку да канца. Паны аб гэтым узналі і дзівіліся. Вяселле прайшло. Раз'ехаліся ўсе паны і пан паехаў па сваіх справах у горад.

А на ўтра сказаў пан:

— Сматры, раз ты такая умная, мая жана, без мяне ніякіх ты дзел каб не судзіла. Еслі ты без мяне гэта здзелаеш, я з табой разайдусь.

Ехала тры хрэсцьяніна. Пад'язджаюць яны пад гэта сама іменне і сталі начаваць. У гэту ноч выжарабілася кабыла. У аднаго былі калёса, у другога быў хамут, у трэцяга была кабыла.

Адзін кажа, што гэта мой хамут выжарабіўся, другі, што гэта мае калёса, а трэці, што гэта мая кабыла выжарабілася.

І доўга яны спорылі за жарабёнка. Кажды сабе хацеў прысвоіць. Пашлі к пану, штоб пан рассудзіў. Пана не было, а была жана яго. І от яна сказала на таго, чый хамут.

— Разве хамут выжарабіўся?

На другога:

— Разве калёса выжарабіліся? Кабыла выжарабілася, ад таго і жарабёнак.

Якраз на гэта ўрэмя пан прыехаў. Вайшоў у дом, людзі стаяць на кухні. Жана яго стаіць, прычыняе дзверы з зала.

Пан пытае:

— Што за людзі?

Яна атвячае:

— От ехалі па дарогі, выжарабілася кабыла, і от я іх развяла як-небудзь.

Пан гаворыць:

— Ах, ты сматры, якая ты нявыдзержаная. Ты помніш, што я табе сказаў? А ты парашылася не выканаць тое, што я табе сказаў. Сейчас будзем збіраць пір для рашэння таго, што я сваё слова выканаў, а ты майго прыказу не выканала. Ад гэтага дня не будзеш маею жаною.

Сабраліся людзі, сталі гуляць пір. Весяліліся, ігралі, танцавалі, харашо выпівалі. Але ўсё-такі пану было жалка і сказаў і панам:

— Глядзеце, паны! Я сваёй жане аддаю із свайго іменння, каго захочыць, і аддаю ёй тры пары каней.

Яна вялела кучару запрэгці каней. Кучар пад'ехаў пад крыльцо, ён сказаў:

— Пані, усё гатова.

Яна сядзела блізка ля пана, крэпка ўзяла яго пад руку і вялела кучару павесці і палажыць яго на воз.

Пан быў крэпка хмяльной. Едуць яны цэльну ноч дарогай, коні ідуць ступай, штоб далёка не ўехаць, але ехалі.

Пан праспаўся, ужахнуўся:

— Што са мной, еду я, еду?

Глядзіць, ля яго жана сядзіць. Пытае ён у кучара:

— Хто мяне пасадзіў на воз?

Кучар атвячае пану:

— Пані пасадзіла.

— Як жа гэта ўдалося? Мы з ёю разлучыліся.

Кучар і пану гаворыць:

— Яна выконвае, пане, вашае слова. Аб гэтым вам пані скажа.

Пан спрашвае ў пані:

— Што паміж намі случылась?

Яна гаворыць:

— А от што случылась. Пры панох, на прашчальным слове ты мне сказаў з імення ўзяць тры пары лучшых каней і з імення ўзяць, што мне люба і міла. А хто мне люб і мілы? Мой муж. Я і забрала і ўехала.

Ну, на гэтым піры пілі, і я там якраз быў.

## 8. МУЖЫК І КРОЛЬ

Быў сабе адзін бедны чалавек, а ўсе, ведаючы, што ён бедны, збыткавалі з яго: паслі на яго капусце козы, то тое, то сёе... Ну, ён — пажджы ж! паехаў, купіў паперу, а не ўмеўшы пісаць, узяў угля, адмаляваў плот, адмаляваў козы, як ідуць у яго капусту, дый панёс да кроля.

Ідзе, так ідзе, а кроль быў на паляванню, спаткаў яго і кажа:

— Куды ідзеш, чалавечку?

— Да кроля з скаргаю!

— А якая ж то скарга?

Той выняў і паказвае.

Так кроль у смех, а ён, ні пазнаўшы, што гэта кроль, кажа:

— Ат, махляры вы! Я такі казаў, што вы змахлюеце. То ж ля: гэта мая капуста, а гэта мой плот. Ось козы суседавы ідуць да капусты.

Кроль ніц не сказаўшы, аддаў яму папер і паехаў у палац, ды гэта змяніў адзежу і жджэ. А прыходзіць той чалавек:

— Чаго ты прышоў?

— Да кроля, ось ля з скаргаю!

Так кроль глянуў на папер і кажа:

— Гэта,— кажа,— пэўна, твая капуста, гэта платы, а ось козы ідуць у тваю капусту.

— От,— кажа,— калі гэта кралеўска галава! Я казаў, што кроль дагадаецца.

Кроль гэта даў яму грошай, адправіў дахаты дый прыказаў, каб з тых пор шкоды не рабілі.

## 9. ЯНКА-ВОЙТ

Служыў у аднаго пана войт Васіль. Ён быў чалавек дужа багаты. Уміраючы, прыказаў ён свайму сыну Янку:

— Помні, сынок, гэта, што я табе гавару: ніколі з панам не дружы, жонцы праўду не кажы і чужых дзяцей за здольнікаў не бяры!

Памёр бацька; Янка стаў жыць добра, усяго было досыць і грошай было многа. Захацелася пану ўзяць Янку ў двор, каб ён заступіў бацькі яго месца. Янку хоць не хацелася, але волі панскай не мог працівіцца: аставіў жонку, сына Грышку і ўзяў з беднай хаты мальца за здольніка на помач сыну ў свой двор, а сам пайшоў на службу за войта к свайму пану. Добра яму там павялося: людзі паважаць сталі, і пан дужа палюбіў і яму ўсё сваё хазяйства зверыў. Але войт быў чалавек разумны. Прышло яму ў галаву ўкрасці сокала таго, што пан над усё болі любіў. Пайшоў ён уночы і ўкраў яго. Украўшы сокала, занёс яго ў такое места, што ніхто яго вечна знайсці не мог. Тады войт Янка забіў варону, абскуб яе і прыносіць жонцы да свайго двара. І гаворыць ёй пад бальшым сакрэтам:

— Гэта,— кажа,— я прынёс сокала,— украў яго ў свайго пана. Глядзі ж, барані бог, нікому не кажы на свеце, бу тады ўсё жыццё прападзець! Спячы мне яго, кажуць, мяса яго дужа смашнае!

Паслухала яго добрая жонка, на скорый поспех утушыла таго сокала. А войт Янка не канечне есці хацеў гэтага сокала,— аддаў і пайшоў, куды яму было трэба.

А ў панскім двару крык ды голас падняўся, што сокала не стала з пакою. «Мусіць, нехта яго ўкраў!» Паразаслаў пан людзей ва ўсе стораны. Хто ўхапіў шапку, хто пояс, і паразбягаліся хто куды іскаць сокала. Бегалі, бегалі, шукалі, шукалі і не знайшлі — паварочаліся з пустымі рукамі. Пытаецца ў іх пан:

— Што ж не чулі, не відзелі майго любімага сокала?

Людзі адказваюць, што хадзілі і там і сям і пыталіся, але нідзе не чулі, не бачылі! Стаў пан скучаць дужа і журыцца, не

можа забыць сокала. Войт Янка не смеў з панам і спытканца, бо знаў яго; баяўся ў яго і спытацца што-небудзь.

Ці доўга так было ці мала, але бяда бядой стала. Янкі жонка дажыдалася і сокала прыгатавала ў масле. І як няможна было яго даждацца, дык яна папрасіла куму сваю любімую паспытаць сокала. І расказала ёй сакрэт мужыка, але каб кума нікому не казала. Ну, кума, вядома, паклялася, што будзе ўсё ціха і што з яе не выйдзець ліха на галаву Янкі-кума. Пайшла яна к другой куме і толькі адной ёй сказала, што смачнага мяса ў кумы-войціхі спытала. Тут, зю-зю-зю, гу-гу-гу і вышла, што сакольче мяса ела кума войціха. Дайшлось гэта скора і да пана. Ай, крык-голас падняўся! Янку-войта падхвацілі і ў цямніцу пасадзілі. Пан сабраў многа людзей, прыскочыў к Янкавай жонцы:

— Што, гэта ты, Мар'я, ведзьма старая, сокала майго зжарыла?

— Не, паночак, я сама не брала ў пана. Мой Янка прынёс мне абскубаную птушку і сказаў мне спеч. Я ўлажыла ў міску і спякла яму, як трэба. Але Янка быў у пана на службе і не спытаў!..

Пан стаў крычаць, сярдзіцца, што сокалу смерць такая. А ён многа цаніўся. Кінуў з Мар'яй гаварыць, пайшоў у двор аддыхаць, бо быў крэпка ўмарыўся. Палажыўся з дасады на пасцелі і сказаў прывесці Янку з цямніцы.

— На што ж ты, Янка, стары слуга, гэта зрабіў? Чаго табе трэба было ад мяне? Нашто ты сокала майго зжыў?

— Не, панок,— мне і спытаць не прышлося. Але як сказывалі людзі пану,— няхай будзець воля панская. Я не буду адпірацца: віна мая! Чыні, пан, што хочаш са мной!

— Будзеш павешан або ад розак не ўстанеш!

— Добра, панок. Але толькі прашу пана, пазволь мне дамоў схадзіць, папрашчацца з жонкай, з дзецьмі, і суседзей на дзярэўні пазаву к сабе, пагаворым з усімі, як на свеце жыць трэба!..

Пан пусціў Янку-войта дамоў, але нядоўга думая, і сам пайшоў падзівіцца, як Янка будзець прашчацца і чым гасцей вітаць. Вот толькі людзі сабраліся к Янку, аж тут і пан на двор прыходзіць. Зараз усе старыкі пачалі прасіць пана ў хату. Ён увайшоў. Тады Янка прыносіць мяшок грошай на стол. Насыпаў на стол чатыры кучы грошай і кажа:

— Адна куча жонцы Мар'і, адна куча сыну Грышку, адна куча здольніку, а адна куча таму, хто мяне вешаць будзе!..

Як пачулі гэта — сын заплакаў, жонка слязьмі залілася, а здольнік кажа:

— Я цябе, татка, павешу, няхай мне будзець дзве кучы грошай!

Ну, усё ладно. Але пачаў Янка перад усімі рэчы гаварыць, было што паслухаць!

— Помню,— кажа,— я майго бацькі-нябожчыка прыказанне! Ён перад смерцю сказаў: помні, сынок Янка, маё напамінанне: ніколі з панам не дружы, жонцы праўду не кажы і чужых дзяцей за здольнікаў не бяры!

Стала гэта рэч яго ўсім надзіўна, але пану стала і стыдна, бо ён войту цераз дружбу быў вінен сто чырвонцаў. Тады Янка кажа:

— Няхай-тку грошы ўсе чатыры кучы паляжаць, я шчэ прынясу!

Пайшоў і прыносіць жывога сокала!

Ах, як жа пан узрадаваўся! Стаў яго абнімаць, цалаваць за яго розум. Усе прызналі Янку болей чэсці і славы з тых пор. І ён ужо тады на войты не пайшоў, а застаўся ў двары весці сваё хазяйства, каб здольнікаў не дзяржаць.

## 10. ДУРАНЬ, ДУРАНЬ, А РАЗУМНЫМ СТАЎ

Кажуць, цо кедысь была сабе якаясь чарнаксёнжнічка, яна хацела выйсці замуж і намыслілася ўзяць мужыка такога, цобы ён ёй заганіў, а яна не адганіла, а каторы загадку загоніць, а яна адгоніць, то таму галаву затне. Ну, так нябавам і разышлося гэто па ўсём свеце. А жыў на вёсцы мужык, меў аднаго сына і той быў дурнаваты, пазней тато ўмёр, за таткам — маці, і ён астаўся сіратою. Так узялі яго суседзі на выхаванка, дзе быў і другі сын, а той быў разумнейшы. А яны хацелі пазбыць таго дурнаватаго, так гавораць міжы сабою:

— Трэба яго выправіць да гэтай чарнаксёнжнічкі, няхай яму галаў затне.

Ну, дзе быўшы, так і выправілі яго ў дарогу, даўшы яму бохан хлеба і слабога каня. А гэто хлеб быў затруты. Пад'ехаў ён міль кілька, конь яму зачаў прыставаць, ён дае яму кусок хлеба, дае і другі, конь, пад'еўшы, падох. Ён сеў над канём і зачаў бедаваць, аж прылятае два крукі і ядзяць гэтага каня. Елі, елі і паздыхалі. Узяў ён крукі і пашоў да лесу, дзе напаткаў дванасце

разбойнікаў. Яны агонь разлажылі і грэліся, забачылі ў яго тых два крукі і мувяць:

— Дай упячэм і будзем іх есці.

Ён і аддаў. Яны ўпяклі і як з'елі, то і самі паўміралі. Ён ад еднаго ўзяў стрэльбу і пашоў далей. Прыходзіць да густаго леса, чуе: цось шамоча, ён прыцэляваў у гэта месца і стрэліў. Прыходзіць, аж ляжыць цэльна каза. Ён дастаў з яе казляня, разлажыў агню, упёк і з'еў. Пашоў далей. Ідзе, ідзе, аж прышоў над велькія трэньсавы, няма як перайсці, сеў і думае, цо тут рабіць? Аж відзіць вязуць людзі дашчкі, папрасіў, далі яму дзве дошчкі. Так ён адну ўпярод палажыў і па той падышоў, потым палажыў другую, узяў першу і зноў падышоў далей і так перайшоў цэло балото. Прышоў да замку, дзе жыла чарнаксёнжнічка, і кажа ёй:

— Хлеб з'еў аднаго, адзін з'еў двох, з'ело двунасту, нявідзячы забіў, нястворана з'еў, ішоў ні полем, ні дарогаю і сляды за сабою пазбіраў?

Яна сама думала — не адганіла, да другіх чарадзяеў паслала — і тыя не адганілі. Потым ён ёй сам расказаў і яе мужыком застаў. Я там на вяселлю быў, мёд, віно піў і г. д.

## 11. ЦАНА ЛУСТЫ ХЛЕБА

Жыў-быў вельмі багаты цар. Усяго ў яго было ўдосталь, чаго ён толькі хацеў, але не любіў ён добрых людзей. Цар думаў, што ўсе яны гультаі, не хочуць рабіць, таму ў іх і няма нічога.

Цар заказаў сабе залатую карэту, каб у яго было лепш, як у другіх цароў. Багата золата пайшло на тую карэту. Людзі яго здабывалі, а самі гінулі.

І вось аднойчы едзе цар у сваёй залатой карэце, а насустрач яму стары чалавек ідзе, бедны, абшарпаны і худы.

Цар спыніўся і пытае ў старога:

— Колькі каштуе мая карэта? Яна ж уся залатая!

А стары адказвае яму:

— Як не даясі, то за лусту хлеба аддасі.

Пасмяяўся цар з дурнога мужыка і паехаў далей.

А ў наступным годзе зрабіўся вялікі голад у тым царстве, град пабіў усе пасевы, людзі паўміралі з голаду, адзін цар застаўся.

Запрог цар свайго апошняга каня ў залатую карэту і паехаў, каб дзе чаго знайсці паесці. Едзе ён і бачыць: на дарозе стаіць той стары мужык і есць хлеб ячны з асцюкамі. Цар просіць:

— Дай хлеба паесці.

А стары гаворыць:

— Аддай карэту залатую, тады дам хлеба.

Круціўся цар і так і гэтак — шкада яму карэты, але голад не цётка, ён і ўзяў сваё. Цар так захацеў есці, што і залатой карэты не пашкадаваў.

Дык вось колькі каштуе луста хлеба.

## 12. СТАРЫ БАЦЬКА

Кажуць, што край, то абычай, што сяло, то нораў, а што галава, то розум. У вадном мейсцы быў абычай — дабіваць старых людзей, каб яны дарэмна не елі хлеба, калі не могуць рабіць. Часам і самі старыя людзі прасіліся, каб іх дабілі, бо, ведама, ім цяжка было лупаць ачыма, чакаць, пакуль ім дадуць есці або піць. От жыў адзін чалавек: у яго было многа дзяцей, ды ўсе ўдалыя, добрыя. Саўсім састарэўся бацька, а яны яго слухаюць, шануюць. Але от давай суседзі прыставаць, каб яны дабілі свайго бацьку-дармаеда, бо ён ужо вельмі стары і ні к чому не гож. Шкода дзецям старэнькага бацькі. І схавалі яны яго ў пограб да і носяць яму туды цішком есці і піць.

Доўга жыў старэнькі ў пограбе. Ляжыць сабе на саломцэ да богу моліцца, а як суседзі разыдуцца на работу, от ён высунецца з пограба, паглядзіць на яснае сонейка, пагрэецца і зноў схаваецца ў пограб. Малыя ўнукі і праўнукі прынясуць яму туды суніц або другіх ягад, а ён есць і кажа ім казкі. Ато забягуць к яму маладзіцы або дзяўчаты, паюць яму ў пограбе песні, чэшуць голаў. А сыны, ужо барадатыя, часта прыходзяць к старэнькаму бацьку пажупіць пра хаджайства да папытаць старога: калі і дзе што сеяць, як лепш абрабляць поле, як даглядаць гаўядка. Старэнькі ўсё ім скажа, усяму навучыць.

Жыве сабе стары бацька, а дзеці да й унукі рады. Але вось настаў там вялікі голад. Прапаў немаль увесь статак. Пухнуць людзі ад голаду, жыватамі качаюцца,— няма за што рук залажыць. Панеслі дзеці старэнькаму бацьку апошні хлеб, а ён да й кажа ім, каб яны садралі з харом стрэхі да й вымалацілі тую салому. Паслухалі дзеці старэнькага бацька, садралі стрэхі да й

давай малаціць старую салому. Глядзяць, аж на таку так многа зярнят, што хваціць хлеба да новага ўраджаю. Пытаюць суседзі, адкуль у іх хлеб, а тыя і расказалі ім, што гэта іх навучыў стары бацька, каторага яны хаваюць у пограбе. Пайшлі гэта ўсе суседзі, старыя і малыя ў пограб к старэнькаму да й вынеслі яго эдтуль на руках. Доўга яшчэ пасля таго жыў старэнькі бацька. От з тае пары годзі дабіваць старых людзей, а пачалі ім служыць, даглядаць іх да шанаваць.

## 13. ЗА СТАРОЮ ГАЛАВОЮ, ЯК ЗА ПНЁМ

Аднаго разу, як яшчэ паншчыну служылі, было такое здарэнне: папрыходзілі маладыя гаспадары да двара і кажуць да пана:

— Трэба, канешне, дзе нашыя бацькі падзець, ато мы ўжо не вытрымаем: паншчыну за іх служы, падушнае плаці і кармі хлебам, а з іх карысці няма ніякае.

Пан падумаў, падумаў, кажа:

— Ну, ну, добра, неяксьці зробім з імі.

Так гэта ўвечары яшчэ казаў, каб усе папрыходзілі да двара тыя старыя, дай адаслаў іх патайком недзе аж па Палессе да свайго другога фалiварку. Ну, назаўтра ўстаў пан чуць дзень дай кажа цівуну, каб паехаў на сяло заказываць на работу з нажамі, рыдлямі дай сакерамі. Як тые ўжо пазбіраліся, так кажа:

— Ну, ідзеце ж мне ў тое і ў тое месца, да з тамтых каменяў пазнімайце скуры, адно глядзіце з усіх, што і на версе і ў зямлі!

Тыя пашлі паўмеўшыся. Прышлі яны да тых каменяў, пачалі гэта іх даўбці, скрабці, рэзаць і ніяк няма скуль пачаць скуры драць! Так пашлі яны да пана:

— Паночку,— кажа,— няхай пан, што хоча робіць, а мы нічога не парадзім.

Пан кажа:

— А мне што за дзела? — радзьце, як хочаце, абы паздзіралі!

Так яны кажуць:

— Хіба каб гэта якіх старых людзей папытаць.

— То пытайцеся сабе, я і сам малады, то не ведаю як, абы мне было зроблена.

Пашлі яны бядуючы. Што тут рабіць? Так давай гэта выпытваць, дзе бацькі, ці яшчэ жывы ці не? Ажно і даведаліся ўрэшце. Давай жа ісці да іх да ну ж ляментаваць:

— Будзем ужо мы вас,— кажуць,— як дзеці малыя дагля-даць, адно выратуйце нас з гэтай бяды!

Тыя гэта папрыходзілі да пана, зачалі гэта перад панам сяк да так аб тых каменях, так старыя кажуць:

— Паночку, з жывіны мы ведаем, як скуру драць, бо мае і галаў і ногі, то вядома скуль пачынаць, а ў каменя нічога няма...

Так пан тады кажа ўжо да тых сыноў:

— А штоғ відзіце, галганы, не шануеце бацькоў, шкадуеце ім хлеба, а самі не толькі зрабіць, але і сказаць не ведаеце так, як старая галава!

Ну, дай скончылася на тым.

## 14. СКАМАРОХ І ПАН

Раней для забавы людзей па вёсках і мястах хадзілі ска-марохі ды вадзілі з сабой ручных мядзведзяў.

— А ну-ка, Мішутка, пакажы, як рабяты крадуць гарох! — кажа скамарох мядзведзю, і мядзведзь паўзе брухам па зямлі.

— А ну-ка, Мішутка, пакажы, як бабы на працу ідуць! — і мядзведзь ідзе ціха-ціха, перакуліваючыся з боку на бок.

І многім другім шуткам навучылі скамарохі мядзведзяў.

Вось адзін такі скамарох зайшоў на панскі двор.

А ў пана былі дзве цапных сабакі, дужа злыя, асабліва яны кідаліся на кожнага, калі пан натравіць...

Глядзіць пан і дзівуецца фокусам мядзведзя, а потым кажа скамароху:

— Добры твой мядзведзь, але мае сабакі мацней за яго!

Слова за слова і пачалі пан і скамарох спрачацца, хто мац-ней — мядзведзь ці сабакі.

Урэшце рэшт скамарох кажа:

— Кладзі, пан, на стол 100 рублёў. Калі мой мядзведзь пераможа тваіх сабак — прапалі твае 100 рублёў. А калі сабакі мядзведзя,— я даю табе 100 рублёў і ў прыдачу мядзведзя!

Паклаў пан на стол 100 рублёў. Скамарох ведаў, што мядз-ведзь асабліва злы становіцца, калі ён што-небудзь есць, а яму мяшаюць.

Вось папрасіў скамарох, каб мядзведзю з панскай кухні пры-неслі буханку хлеба. Мядзведзь пачаў яе есці. Тады скамарох кажа пану:

— Спускай сваіх сабак на мядзведзя!

Пан загадаў спусціць сваіх сабак і паказвае на мядзведзя, пачаў наусківаць.

Мядзведзь спачатку спакойна прадаўжаў есці хлеб, а як пачуў боль, дык з такой ярасцю схапіў адну сабаку і так моцна кінуў яе аб зямлю, што яна засталася ляжаць мёртвая. А тады схапіў другую ў дзве пярэднія лапы, стаў назад, размахнуўся і перакінуў яе далёка цераз высокі плот.

Так быў пасаромлены пан за сваю пахвальбу, а скамарох, задаволены, атрымаўшы 100 рублёў, пакарміў добра мядзведзя, даў яму на перакуску мёду.

І пайшлі яны далей пацяшаць народ.

## 15. СЦЯМЛІВЫ СЕЛЯНІН І ЦАР

Жыў-быў адзін цар. Ён дужа любіў атрымліваць ад сваіх сялян падарункі. Вось аднаму беднаму селяніну як-та ўдалося забіць зайца.

— Занясу гэтага зайца к цару на падарунак, мо стану багатым.

Жонка згадзілася.

Узяў тады селянін мяшок, паклаў туды зайца, захапіў з сабой краюшку хлеба і пайшоў. Доўга ён ішоў, пакуль дабраўся да царскіх палац. Прэць ён проста ў вароты, а тут вартаўнік кажа:

— Стой, ты куды.

Селянін апавядае, што ён нясець зайца ў падарунак цару.

— Назад! Нельга, куды ты ў такой бруднай і старой вопратцы пойдзеш! — крычыць вартаўнік.

Мужык пачаў жаліцца і нават плакаць, што такі далёкі свет і не пойдзе к цару.

Тады вартаўнік кажа:

— Калі даш мне палову таго, што ты атрымаеш ад цара, дык тады пушчу!

Селянін не спрачаўся, і вартаўнік прапусціў яго. Ідзе далей і падыходзіць ён да царскага прысцёнка. А тут стаіць прыдзвернік і таксама не пускае селяніна, трэбуе ад яго паловы таго, што атрымае ад цара. Селянін згадзіўся, ідзе далей.

У самых дзвярах царскага пакоя стаіць камердынер і так жа трэбуе ад селяніна паловы таго, што дасць яму цар. Селянін згаджаецца, і камердынер адчыняе яму дзверы.

Там яго прыдворныя людзі запытваюць, зачым ён прыйшоў і што ён хоча ад цара.

Селянін растлумачыў, што прынёс цару ў падарунак зайца. Сказалі аб гэтым цару. Цар выходзіць. Селянін выцягівае з мяшка зайца і з паклонам дае яго цару. Цар прыняў зайца, які яму спадабаўся, і запытвае селяніна:

— Што ты жадаеш за зайца?

Селянін адказвае:

— Я першы раз бачу цара, і на памятку дай мне тры разы па твару!

Цар здзівіўся такой просьбе і кажа:

— Што ты, здурнеў? Я лепш табе дам грошай.

А селянін упарта стаіць на сваім:

— Грошы маёй беднаце не дапамогуць, а як дасі па твару, дык я буду памятаваць аж да самай смерці.

Цар раззлаваўся, што такі дурны селянін, даў яму па твару тры разы і крыкнуў:

— Ухадзі вон!

Селянін пайшоў назад.

Спатыкае камердынера і са словамі:

— Вось, што я атрымаў ад цара,— і так дае яму па твару, што той паляцеў уверх нагамі.

Тое ж самае ён зрабіў з прыдзвернікам і вартаўніком.

Падняўся гвалт, галгатня.

На гэта выскаквае цар і накінуўся на селяніна:

— Што ты нарабіў?

А той яму і тлумача:

— Калі б ты мне грошы даў, дык я прымушан быў бы аддаць усё тваім слугам-хабарнікам, а так хай і яны памятуюць маю аплявуху!

Раззлаваўся цар на сваіх прыслужнікаў і прыказаў іх пасадзіць у турму, а селяніна накарміць і напаіць.

Пакуль селянін падмацоўваўся на царскай кухні, цар падумаў:

— Заўтра мае імяніны, пакажу я ўсім сцямлівага селяніна.

Так і зрабіў.

На другі дзень сабралася ўся прыдворная світа на баль.

Селі за вячэру. Цар і апавядае прысутным гісторыю пра селяніна.

Усе пажадалі бачыць селяніна. Цар кажа:

— Я затрымаў яго!

І прыказаў паклікаць селяніна.

Селянін уваходзе. Прысутныя пажадалі, каб селянін сеў радам з царом. Пасадзілі. Усім было смешна, як селянін сядзіць

разам з царом. Некаторыя з прысутных пачалі думаць, як бы зрабіць, каб селянін даў па твару цару.

Адзін з прыдворных служкаў устае і з бакалам кажа:

— На гонар цара будзем па чарзе адным келіхам піць, а замест слоў «бывай здароў» — будзем ударадь на памятку адзін другога па твару!

Усе згадзіліся.

Пайшоў кубак па чарзе навокал стала. Дайшло да селяніна, сусед-генерал добра хлопнуў яго па шчацэ.

Глядзіць селянін, што цара біць не выходзе.

І вось ён устае і просіць дазволу ў прысутных апавядаць ім адзін выпадак з яго жыцця. Яму дазволілі.

Тады селянін і кажа:

— Па маёй беднаце я ем без хлеба, а к вялікоднаму святу задумаў спеч хлеб. Трэба было ехаць на млын, каб змалаціць мучыцы. Млын жа стаіць на другім баку возера. Калі навокал ехаць, дык далёка і мая кляча не зацягнула б мяшок. А возера яшчэ было замёрзшы, і я рашыў проста паехаць па лёду. Даехаў да млына, а перад млынам бераг вольны ад лёду.

Цяпер я запытваю ўсіх, што мне нада было рабіць?

Некалькі галасоў са смехам сказалі:

— Няўжо ж ты не сцяміў? Трэба было назад вярнуцца.

Тады селянін, нядоўга думаючы, павярнуўся ад цара і хлоп генерала.

Усе так зацікавіліся сцямлівасцю селяніна, што прасілі цара, каб ён задаў яму яшчэ якое-небудзь пытанне. Цар запытвае селяніна:

— На ўсё ты сцямлівы! Скажы, колькі я стою пры поўным мундзіру?

Селянін адразу кажа:

— Дваццаць дзевяць рублёў!

— Тут ты, селянін, не сцяміў, адзін гузік даражэй каштуе!— адказвае цар.

А селянін кажа:

— Я не гузік цаню, а чалавека. Ісус Хрыстос быў бог і яго прадалі за 30 рублёў, а ты бог зямны, дык на рубль каштуеш танней!

Цар шчодра наградзіў сцямлівага селяніна, і ён зажыў багата.

# 16. МУЖЫК І ЦАР

Адзін мужык капаў пограб і нашоў там кусок золата. Ён узяў гэта золата і думае: «Дзе мне яго дзець? Аддаць пану? Пан і скажа, што я ўкраў. Аддаць жыду? Жыд абмане, што гэта не золата. Не! Панясу я лепш к цару і дам гасцінца». Надзеў лапці і сярмягу і панёс. Дні цераз тры зайшоў ён к цару. Там яго часавы спрашывае:

— Куды ты, мужык, лезеш?

— К цару, служывенькі.

— Што табе там трэба?

— Ах, служывенькі, пусці, мне дужа трэба.

Так яго прапусціў первы і другі часавы, і ён дашоў да царскае комнаты, а там ля царскае комнаты стаяў ганарал. Той суняў мужыка і спрашывае:

— Куды ты, мужык, ідзеш?

— К цару.

— Чаго?

— А во чаго: капаў я пограб і нашоў кусок золата і нясу цару гасцінца.

— Пакажы!

Мужык дастаў і паказаў гэтае золата. Тады ганарал кажа:

— Ну, калі дасі палавіну таго, што табе цар дасць, то пушчу, а не дасі, то ідзі назад.

— Добра, паночак, дам!

Ганарал далажыў цару. Цар вышаў і спрашывае:

— А што табе нужно, мужычок?

— Нічога, царочак-паночак! Я прынёс вам гасцінца,— і даў яму кусок золата. Цар узяў золата і кажа:

— Што ж табе аддаць за гэта?

— Нічога царочак-паночак. Калі ёсць чарка гарэлкі, то дайце.

Цар прыказаў прынясці гарэлкі грахфін і белага хлеба. Мужык пашэндзеў на белы хлеб і кажыць:

— А мой жа ты царочак-паночак! Мой дзед такога хлеба не еў і я не буду,— я баюся яго есці. Ці няма ў вас салдацкага хлеба?

Цар прыказаў прынесці салдацкага хлеба. Прыняслі. Цар паставіў хлеба на гарэлку і мяса, а сам пашоў у другую комнату і глядзіць з царыцаю, як мужык п'е і есць. А мужык нальe чарку, вып'е, закусіць і зноў нальe, вып'е, закусіць; так і выпіў

увесь грахфін ды глядзіць, няма нікога, ён перахрысціўся. Тут цар вышаў. Тады мужык:

— Спасіба, царочак-паночак: напіўся, наеўся!

А цар кажа:

— Што ж яшчэ табе нужна, мужычок?

— А царочак-паночак! Штоб цяпер паскакаць.

— Музыку! — сказаў цар. Тут прышла палкавая музыка.

— Не, не! Царочак-паночак! Я па такой музыцы не ўмею скакаць, мне штоб дуду!

Цар разаслаў по гораду — нашлі дуду. Мужык скакаў, скакаў, потым сказаў:

— До!

Тады цар спрашываець:

— Што ж цяпер табе нужна?

— Цяпер царочак-паночак, штоб паспаць.

Цар прыказаў прыгатовіць пасцель, а мужык як углядзеў пасцель, так аж удзівіўся:

— Не, не, царочак-паночак! Мне штоб грахоўя!

— А што такое грахоўя?

— Гэта салома з гароху.

Цар прыказаў дастаць грахоўя. Прывезлі цэлы воз грахоўя і палажылі ўсё ў комнату мужыка. Тады мужык шапку палажыў пад галаву і тут жа захрапеў. А цар усё слухае: ці жыў ён, што выпіў цэлы грахфін гарэлкі. Храпіць мужык. Потым устаў, а цар спрашываець:

— Ну, што цяпер табе нужна?

А мужык, скрабя салому, кажэць:

— А што царочак-паночак? — Чарку гарэлкі, галава дужа баліць, аж трашчыць.

Цар даў яму гарэлкі. Мужык выпіў дзве чаркі, а цар спрашывае:

— Цяпер што нужно, мужык?

— Спасіба, царочак-паночак! Я вам тут нагрубіяніў, наскакаў, насарыў, акраўкаў з лапцей накідаў, за гэта мне сто розаг.

— Нашто табе розгі? Ты ж мне даў золата?

— Не, царочак-паночак, не хочу, дайце мне сто розак.

— Розак!

Тут прынаслі лазы, мужык лёг, абнажыўся і сталі яго драці лозамі.

Як адлічылі яму 50 лоз, ён ускрычаў:

— Не, царочак-паночак, у мяне ёсць палавіннік.

— Какой?

— Як я ішоў к вам, царочак-паночак, так ганарал не пускаў мяне к вам і сказаў: калі дасі мне палавіну таго, што цар табе дасць, то пушчу. Я абяшчаў даць; так дайце напярод яму пяцьдзесят, тады мне пяцьдзесят.

Цар прыказаў здзець ганаралу адзежу і легчы. Ганарал лёг, яго адлупілі. Тады мужык гаворыць:

— Ах, царочак-паночак! Ён у вас добра служыць, дайце яму і маю часць.

Тады ганаралу далі яшчэ 50, а ўсіх сто і разжалавалі на радавыя салдаты. Цар распрасіў мужыка, адкуль ён, і хацеў яго нарадзіць, а мужык за шапку да за дзверы, толькі яго і бачылі. Яшчэ мужык не прышоў дамоў, як яго аслабанілі ад прыгону, зрабілі дваранінам і назначылі пенсію. Пан тады здзіўся: за што гэта мужыку такая чэсць? І да сіх пор не ведаець.

## 17. ПРА ЦАРСКАГА ГЕНЕРАЛА І МУЖЫКА

Капаў адзін мужык агарод і знайшоў кавалак золата. І вось ён спыніўся і пачаў думаць:

— Куды мне яго дзець? Сабе пакіну — пан адбярэ, а не пан, дык падпанак, а не той, дык стараста. Панясу я лепш золата да цара. Цар мяне ўзнагародзіць, а царскай награды ніхто не адбярэ.

Так ён і зрабіў. Пайшоў мужык да цара. Дайшоў мужык да царскага палаца, а ля яго генерал стаіць.

— Ты куды, мужык, ідзеш?

— А вось нясу я кавалак золата да цара.

Загарэліся вочы ў царскага генерала.

— Ну,— кажа генерал,— калі дасі мне палову царскай награды, дык пушчу, а не дасі — пайшоў прэч.

— Добра, паночак, дам.

Генерал паведаміў цара.

Цар выйшаў.

— Што табе, мужык, трэба?

— Нічога, царочак-паночак. Я вам гасцінец прынёс.

Мужык падаў яму золата.

А цар кажа:

— Што табе даць за гэта, мужычок?

— Дайце мне, царочак-паночак, сто бізуноў.

А цар адказвае:

— Як сто бізуноў? Ты ж мне золата прынёс!
— Нічога, дайце сто бізуноў.
Прыняслі бізуноў і хацелі мужыка лупцаваць.
А мужык як закрычыць:
— Спыні, царочак-паночак, у мяне ёсць палавіннік.
— Які палавіннік? — спрасіў цар.
Мужык расказаў, як генерал яго не пускаў і прасіў палавіну царскай нграды ў яго.
Прывялі генерала і пачалі яго лупцаваць. Усыпалі яму пяцьдзесят бізуноў.
А пасля мужык кажа:
— Аддайце ж яму і маю палавіну.
Усыпалі царскаму генералу сто бізуноў, а мужык смеючыся пайшоў дадому.

## 18. ЯКУЮ КУМ У КУМА ГАСЦІНУ МЕЎ

Прышоў да аднаго гаспадара кум: сядзіць ён дзень, два, тыдзень, месяц, абрыд ужо богу і людзям: жарэ, як свіння, а рабіць не хоча! Так гаспадар — пачакай! — пашоў да акомана і кажа: так і так, ратуй мяне, паночку.
Акоман кажа:
— Ну, я ўжо яму штуку зраблю, анно як прыду пад акно і спытаю, дзе ён, то скажы, што няма.
— Добра.
Прышоў дахаты, анно нібавам пад'язджае пад акно акоман:
— Пятрук!
— А што, паночку?
— Які гэта ў цябе валачай у хаце?
— Э-э, то мой кум, але няма яго, ужо пашоў дахаты.
Так той кум пад печ, а акоман кажа:
— А-а, шкада! Пан хацеў сабакі патравіць крыху,— і паехаў.
Ледзь ён ад'ехаўся, так кум высадзіў галаў з-пад печы, глянуў сюд-туд і кажа:
— А мой кумочку, а мой саколіку, адвязі мяне, калі ў бога верыш!
— Добра,— кажа,— але я цябе хіба ў мяшок усаджу, бо акоман як угледзіць, то табе будзе і мне.
— Куды хочаш усадзі, анно адвязі мяне!

Той гэта яго ў мяшок, завязаў, скінуў на воз і павёз да двара. Ужо каля гумна маргнуў на акомана, паказаў на мяшок дай паехаў.

Анно ж за дваром даганяе акоман дай пытае назмысне:

— А што вязеш, Пятрук?

— Жыта, паночку, пасею крыху.

Так акоман давай жарыць бізуном у мяшок дай за кожным разам кажа:

— Радзі, божа, жыта, радзі, божа, аўёс, пшаніцу, гарох, грэчку, ячмень і г. д.

А той маўчыць! Як ад'ехаліся далёка, так гаспадар:

— Вылазь,— кажа,— уцякай, бо як акоман угледзіць, то яшчэ лепш дасць.

Так той, вылезшы, кажа:

— Ах! Хвала богу, што ён хоць гародняга насення забыўся, бо ўжо я не вытрываў бы! Ну, аставайся, кумачку, здароў: ні дурны я ехаць другі раз да цябе.

І пашоў, як куля!

## 19. КАРЧМАР І МУЖЫК

У трыдзесятым царстве, у вялікім гасударстве, у палескай вёсцы стаяла карчма. Карчмар быў вельмі багаты: і грошай меў многа, і дабра рознага, але ж быў вельмі пудкі. Трэба было яму ехаць кудысьці ў горад за пакупкамі. Наняў ён мужыка Сцяпана. Паехалі. Колькі там ад'ехалі, карчмар і гаворыць:

— Слухай, Сцяпанка, на табе грошы, схавай іх падалей, бо я баюся іх у сябе дзяржаць.

А Сцяпан за грошы ды за пазуху, да і едуць далей. Едуць, а Сцяпан усё думае, як бы тыя грошы ў яго засталіся, да і карчмару б даць добра. Пад'язджаюць к лесу. Бачыць Сцяпан: стаіць пень у рост чалавека зломлены.

Сцяпан гаворыць:

— Там нехта стаіць.

— А дзе ж мне схавацца?

— Лезь у мяшок.

Карчмар залез у мяшок, Сцяпан яго завязаў, паклаў на воз і едзе.

Пад'язджае да таго месца і, змяніўшы голас, крычыць:

— Стой, куды едзеш?

А потым сам ужо сваім голасам адказвае:
— У млын.
— А што вязеш?
— Пшаніцу.
— Колькі мерак?
— Тры.
— Якія тры, тут усе чатыры будуць.
Узяў Сцяпан пугу і хлешча па меху:
— Глядзіце, адна, дзве, тры.
— Што ты хлусіш, я кажу, што тут павінна быць чатыры. Во адна, дзве, тры, чатыры,— да ўсё пугай па карчмару лупіць.
— Да не, тут толькі тры,— і зноў пугай па мяху.
— А дзеньгі твае дзе? Давай іх сюды.
— Наце, наце, толькі пусціце,— гаворыць.
— Паязджай.
Ад'ехалі колькі, карчмар пытае:
— Можа, я ўжо вылезу?
— Сядзі ціха.
Праехалі яшчэ, карчмар зноў пытае:
— Можа, далёка?
— Вылазь.
Вылез карчмар і гаворыць:
— Што мужык, што дурак: кажа ён, што чатыры, чорт яе бяры, няхай будзе чатыры, нашто гэта тры разы адмяраў?

## 20. ЯК СТРАЖНІК ХІТРА САЛА АДАБРАЎ

Быў сабе адзін стражнік, аднаго разу пашоў ён у лес, а ў хаце асталася жонка. Здарылася, што ўначы дабраліся да каморкі зладзеі дый укралі сала.

Мужык вярнуўся, так жонка яму кажа:
— А ей! Гані зладзеяў, бо анно што панеслі сала!
— А куды яны панеслі?
Так яна яму паказала.

Ён гэта, ні чакаўшы, пабег за імі. Адбегся крыху, глядзіць, ажно адзін нясе сала, а другі (бо ноч была цёмна), спусціўшы ганавіцы, ідзе перад ім ракам і свеціць... Так стражнік пашоў памалюсеньку за імі і ні аказваецца.

Ажно як аднаму збрыдне нясці сала, а другому свяціць, так мяняюцца: той бярэ сала, а той свеціць.

Так стражнік, нядоўга думаючы, перабег ім дарогу, спусціў ганавіцы, дый стаў ракам памалюсеньку ісці паміж іх: так той, што свяціў наперадзе, пабег і пабег.

Утэды стражнік устаў і шэпча да злодзея:

— А можа табе, братка, збрыдла нясці сала? Дай мне, а сам свяці: анно,— кажа,— бяжы хутка, каб нас хто ні злавіў!

Так той, спусціўшы ганавіцы, стаў ракам бегчы, а стражнік завярнуўся дый пашоў дахаты.

Ажно як разбегся той злодзей, так тыц носам у... таму, што свяціў наперадзе.

— А ты, — кажа, — што тут робіш?

— Ля,— кажа,— а то ж я свячу!

— А то ж, — кажа, — ты сала нёс?

— Ля, а то ж я табе аддаў сала, а я свяціў!

Дый слова па слове, сталі біцца і чыста пазабіваліся, а стражнік тым часам смяяўся з іх, аж мала яму жывот ні пэнк!

## 21. АБ САХАРКУ-ЗЛОДЗЕЮ

Быў у аднае ўдавы сын дураваты, называўся Сахарка. Аднаго разу кажа ён да мацеры:

— Трэба нашу карову зарэзаць дай скуру здзерці, бо я буду ўчыцца красці.

— Добра,— кажа,— сынку, зарэж сабе.

Так гэта зарэзалі, абялілі, мяса тое з'елі; дай то, узяўшы тую шкуру, высушыў, павесіў на плоце да ўсё скрадаецца да яе: ухопіць да зноў вешае, да зноў скрадаецца.

Ажно едзе пан, пазнаў яго дай кажа:

— А што ты, Сахарку, робіш?

— Ля, учуся, паночку, красці!

— То ўкрадзі ж ты ў мяне жарабца, то я табе яго дарую.

А ў таго пана быў жарабец такі ліхі, што ніхто да яго падысці не мог. Ажно Сахарка пашоў уночы, улез праз верх, выразаў у столі дзіру дай, закінуўшы пятлю таму жарабцу на шыю, давай яго цягнуць да гары.

Як жа ж той жарабец стаў на заднія лапы, тады ён закінуў другую пятлю на пярэднія ногі да то, падцягнуўшы мацней угору, прывязаў другі канец да калочка дай гэтак дзяржаў да раніцы, так жарабец, вядома, чыста змэнчыўся.

Ажно як пачало світаць, пасылае пан хлопца да стайні дай кажа:

— Вывалач там таго дурня з-пад жарабца, бо ён, пэўне, яго растрапятаў.

Хлопец у стайню, ажно: ля! жарабец стаіць на задніх нагах, бы то авечачка! Так гэта бразь дзвярыма, прыбег да пана дый кажа:

— Дзе там, паночку, яго забіў, калі сам стаіць на задніх нагах!

Так пан кажа: — Эт, дурны ты, мусіць ты добра ні заглянуў, як то можа быць?

Бяжыць хлопец другі раз, прыбягае пад стайню, а Сахарка ўзяў ужо жарабца на вуздэчку і вядзе, калі то жарабятка! Прыбягае:

— Паночку, так і так!

— Чорт яго бер! Няхай вядзе.

Назаўтра пан, яго заклікаўшы, кажа:

— Украдзі ты ў мяне быка, то дам сто рублёў, а калі не, то дзвесце бізуноў!

— Добра,— кажа,— паночку, пастараюся!

А той бугай быў такі збройны, што няхай бог крые-ратуе: ніхто да яго падысці ні мог.

Ажно Сахарка такім самым спосабам і з ім сабе парадзіў дай яшчэ перад доднікам завёў яго дахаты. Ну, назаўтра прышоў ён па грошы, так пан кажа:

— Чуеш, калі ты парадзіш абмануць нашага папа, то я табе свой маёнтак запішу.

— Чаму не, папрабую, паночку.

Так гэта зара зашоў дахаты, парабіў сабе крыла дай, пашоўшы на клябаню, улез на топаль да давай клікаць:

— Попе, попе, прыслаў бог аняла, каб це ўзяў да неба!

А той поп акурат вышаў у спацыр, харашо прыбраўшыся, дай, пачуўшы, што нехтась кліча, стаў і прыслухоўваецца.

Тымчасове Сахарка споўз з дзерава, падышоў да папа дай кажа:

— Прыслаў бог мяне, аняла, каб це ўзяў да неба!

— А як жа ж,— кажа,— ты мяне возьмеш?

— Трэба,— кажа,— скінуць адзетак дай улезці ў гэты мяшок.

Так гэта поп хутчэй паскідаў адзенне, улез у мяшок, тады Сахарка завязаў яго дай то павалок да двара!

Валачэ яго, валачэ, ажно поп пытае:

— Анеле, анеле, ці зара будзем у небе?

— Зара,— кажа,— зара!

Урэшце завалок, укінуў у хлеў, дзе гусі былі, дай то сам, прыбраўшыся ў яго адзетак, пашоў на клябаню, зачыніўся да то папераварочваў усё, дзе якія грошы пазабіраў, дай уцекі.

Ажно той поп ляжыць у гусарніку: як не аказваецца, то й гусі сядзяць ціха, а каб анно мала-веля адазваўся, так пастануць наўкол да ўсё над ім дудокаюць, а поп усё сваё:

— Анеле, анеле, ці зара будзем у небе?

Ажно як рассвітала, прыносіць дзеўка гусям есці да то, угледзеўшы, што нехтась ляжыць у мяху, як ні наробіць крыку на цэлы двор, тут такая зрабілася струшня, пазляталіся ўсе, калі развяжуць, ажно там поп голы, як маці радзіла!

Тут людзі не ведаюць, што з ім рабіць, данеслі пану, а ён калі выскачыць, калі пойдзе, анно каўтуны за ім затрасліся! Ну, так і ні было радачкі: мусіў пан свой маёнтак на Сахарка запісаць.

От тады ён і багатым стаў: ложкаю сала еў дай, выслаўшы пакой саломаю, спаў.

## 22. ЯК ІВАНУШКА НАВУЧЫЎСЯ КРАСЦІ І АЖАНІЎСЯ НА ДАЧЦЫ ПАНА

Жыў-быў старычок. У яго было тры сыны, два разумных, а трэці дурань. У старычка было многа быдла. Перад смерцю сваёю ён прыказаў сынам раздзяліцца быдлам так, штоб не было между імі гневу.

Старычок сказаў паставіць каждаму па хляву і агарадзіць іх плотам, і як усё будзе гатова, то тады ўгнаць усё быдла на фальварак: каторае ў чый пойдзе хлеў, то тое будзе яго. Два разумныя паставілі хлявы добрыя, а дурань паставіў шалаш із рознага галензя, нанасіў у яго травы з балота і пакрыў яго з усіх старон. Патом разумныя прынеслі, кажды ў свой хлеў, сена і аўса. Толькі як яны ўгналі ўсё быдла, то яно забачыла зялёнае і пайшло ў шалаш дурня. Браты, калі забачылі, што ўсё быдла пашло ў яго хлеў, то яны прышлі ў злосць і парашылі яго пагубіць. Раз яны сказалі яму, што паедуць у лес за дровамі і прасілі яго, каб ён паехаў з імі і памог што-небудзь. Іванушка сагласіўся. Яны паехалі ў вялікі лес, нарубалі троху дроў і сказалі дурню, штоб ён папільнаваў, а самі будто бы паехалі далей за дровамі і ўцяклі дадому.

Іванушка астаўся сам у лесе. Доўга ён сядзеў, а потым узяў палку, насадзіў на яе шапку, прывязаў яе за шнурок і ўзяўся за яго, і стаў бегаць кругом, крычаць і свістаць. Вечар быў блізка. Іванушка прадалжае сваё дзела. Вечарам чуе ён, едзе хто-та. То быў пан. Пад'ехаўшы блізка, ён спытаў:

— Іванушка, што ты робіш?

— Учуся красці, пане.

— Добра,— кажа пан,— украдзі ў мяне коні са стайні.

— Добра, пане,— кажа Іванушка.

Пан узяў яго з сабою. Прыехаўшы дадому, пан назначыў ноч яму, у каторую б ён украў бы коні. Прышла тая ноч. Пан сказаў сваім парабкам, штоб яны паўссядалі на коні і пільнавалі іх. Іванушка, як усе парабкі заснулі на конях, прышоў у стайню, прынёс колькі кулёў саломы, пакруціў перавясла, пазнімаў спяшчых парабкаў з коней, пасажаў іх на кулі і даў у рукі перавясла заместа павадоў, а сам забраў коні і паехаў. На другі дзень пан прыклікаў Іванушку і пахваліў яго за ўхватку. Потым пан сказаў, як яшчэ ён украдзе грошы яго, то ён за яго аддасць сваю дачку. Яна была бардзо гожа. К ночы пан сабраў сваіх верных парабкаў у адну камору, прынёс усе свае грошы і прыказаў, штоб яны іх пільнавалі. Іванушка як-та даведаўся, дзе грошы, і як ужо прышла ноч, то ён прынёс дзве дошкі.

Адну ён палажыў на зямлю, а другой так ударыў крэпка па першай, што ляск ад іх бардзо злякаў усіх дамашніх. Іванушка схаваўся за жорна. Парабкі, каторыя пільнавалі грошы, учуўшы ляск, так злякаліся, што ўсе выбеглі із каморы. Іванушка ціхком забраўся у камору, узяў грошы і ўцёк другімі дзвярыма. Парабкі вярнуліся ўжо, пабачылі, што грошай няма. После таго, як Іванушка ўкраў грошы, пан не мог адказацца ад свайго слова і выдаў дачку сваю за дурня. З тых пор Іванушка стаў багатым і на братоў сваіх глядзеў скоса, і не хацеў ужо з імі гаварыць.

## 23. ПРА ЗЛОДЗЕЯ

Як у аднаго чалавека да было тры сыны. Ну, вот яны жылі, і ўжо ў возрасце поўным і нічэм ані не заніmаліся.

Бацька з маткаю рашылі ўзнаць, чым іх сыны зацікаўлены.

Вот пасадзіў бацька большага сына на воз і нічога не гаворыць, нашто вязе. Едуць праз поле, праз лес і ўсё маўчаць.

Прыехалі ў лес, там палянка гэткая красівая, навокал сосны стромкія. Вось сын і гаворыць да бацькі:

— От, тата, каб тут хату паставіць, быў бы хутар харошы.

— Праўду кажаш,— кажа бацька. Прыехалі яны дамоў, і гаворыць ацец мацеры, што будзе з гэтага сына гаспадар харошы. Купілі яму зямлі, апрадзялілі месца і стаў ён гаспадарыць.

Назаўтра садзіць бацька сярэдняга сына. Едуць, маўчаць. Едуць яны доўга ці коратка, даехалі да лесу, арэшнік расце.

— От, тата, каб тут з арэшніку зрабіць бандарку, то добра было б.

— Да, сынок, праўда.

Вяртаюцца дамоў, бацька кажа маці:

— Вось будзе ў нас харошы бандар.

Апрадзялілі і яму месца.

На трэці дзень садзіць на воз меншага сына Івана. Таксама едуць цераз поле, цераз лес, выехалі на шлях, бачаць — карова ходзіць, а пастушкі прыгрэліся на сонейку і спяць.

— От, тата, каб украў вала гэтага, от мяса б бочка была,— гаворыць Іван.

— А як жа ты ўкрадзеш?

— А от паглядзі.

Узяў Іван шпільку, ножыка. Прыходзіць да статка.

Адны валы ляжаць, другія стаяць. Выбраў Іван вала самага лепшага, адрэзаў у яго хвост, а потым паймаў другога, вытачшчыў у яго язык і прычапіў булаўкай адрэзаны хвост, а з тым, бясхвостым, пайшоў да бацькі. Прывялі вала дадому, а бацька не хоча яго рэзаць.

А тым часам праснуліся пастушкі, глядзяць — няма вала рабога. Пабеглі туды-сюды, нідзе няма, аж бачаць — хвост тырчыць у вала з рота. Пабеглі да пана.

— Паночку, вол вала з'еў!

— Як гэта з'еў?

— А так: з'еў, і хвост з рота тырчыць.

Пан з аканомам прыехалі глядзець, і, праўда, хвост тырчыць у вала з рота. Думаюць — нячыстая сіла ўсіх валоў пераведзе.

— Застрэліць яго?

Застрэлілі, потым выцягнулі язык, бачаць, што да яго хвост шпількай прышчэплены.

Пачалі шукаць злодзея. А людзі бачылі, сказалі. Вось прыводзяць злодзея да пана.

— Ты ўкраў вала?

— Я.
— Судзіць цябе будзем.
— Судзіце.
— Еслі ты ўкрадзеш каня са стайні, я цябе падарую, а не— застрэлім.
— Добра, пане.
Прыходзіць дамоў, да бацькі гаворыць.
— Тата, купі мне гарнец гарэлкі, пайду ў пана каня красці.
Купіў бацька гарнец гарэлкі, ён і пайшоў. А пан пасадзіў двух чалавек пільнаваць каня. Адзін сядзіць ля каня і за аброць трымае, а другі на кані сядзіць.
Іван пайшоў не ў стайню, а палез на дах, прарваў крышу пад тым месцам, дзе стаяў конь, і патрошкі гарэлку пралівае.
— Ты знаеш, Панас, мне на галаву нешта капае.
— Ці не дождж пайшоў і сюды забівае.
Той падставіў ладоні, панюхаў і кажа:
— Братка Панас, ей-богу, гарэлка цячэ.
Напіліся яны гарэлкі і паваліліся спаць, а злодзей у стайню, адцягнуў іх за ногі, вывеў каня, зачыніў стайню да і паехаў сабе.
Прыбягае раненька пан, бачыць стайня зачынена, значыць, конь на месцы. Адчыніў, аж бачыць — парабкі спяць, а каня няма.
— Дзе конь?
— А, паночку, мы толькі задрамалі.
Зноў пасылае аканома па злодзея.
— Украў каня?
— Украў.
— Ну, будзем судзіць. Даю табе яшчэ адну задачу, каб ты сёння ноччу прышоў і з маёй жонкі сарочку зняў.
— Добра, пане.
Што ён робіць? Прышоў дадому, сказаў бацьку, каб той купіў пачку дражджэй. Узяў іх у баначку, разбаўтаў. Пашоў на кладбішча, выкапаў пакойніка небальшога і пашоў к пану.
А пан з ружжом пільнуе!
Ён падышоў, акно памаленьку адкрыў і паціханьку пакойніка падымае. А пан з паняю на ложку сядзяць, пан стрэльбу трымае, пільнуе, каб яго забіць.
Злодзей трымае тога пакойніка паціху, а пан чакае, кажа:
— Вось я яму зараз пакажу.
Як стрэліў пан, так пакойнік паваліўся, а пані гаворыць:
— Ідзі быстрэй у рэчку яго занясі.

Пан пабег, нябожчыка на плечы, а злодзей у хату, выліў з баначкі дрожжы на ложак і кажа на паню:

— Ты нешта напачкала, трэба памяняць сарочку.

— Няўжо гэта я пусціла і не пачула?

— Ну, прынясі мне другую сарочку.

Яна толькі скінула сарочку, а злодзей хап за яе і ўцёк.

Прыходзіць пан, бачыць — пані голая сядзіць, без сарочкі.

— О, пся крэў, украў сарочку. Што ж ты сядзіш голая?

— А ты ж сказаў, штоб я пераапранулася.

— А, то ж той злодзей.

Назаўтра з'ехаліся некалькі паноў на суд судзіць таго злодзея. Судзілі-судзілі і пастанавілі: раз ён такі праворны злодзей, даць яму дыплом і няхай ён крадзе законна.

## 24. АБ ЗЛОДЗЕЮ КЛІНУ

Быў сабе адзін злодзей, называўся Клін. Ішоў ён раз дарогаю, ажно бачыць: вядуць людзі казу на кірмаш. Ну, так ён, нядоўга думаючы, скінуў гэта з нагі бота на дарогу, а сам шык пад куст і сядзіць. Яны надышлі дый кажуць:

— Каб гэта было два, то ўзялі б,— дый, ні падняўшы, пашлі далей.

Клін гэтага і ждаў, дый то як адышлі, ён то за бот, забег кустамі напярод, на дарогу кінуў, а сам куцнуў пад кустом і пазірае. Ажно тыя надышлі дый кажуць:

— Ля, а то ж другі бот ляжыць!

А той пачухаўся ў галаў дый кажа:

— Але, братко, чаму гэта мы таго ні ўзялі.

— Ля,— кажа,— то бяжы бардджэй, бо яшчэ хто забярэ.

— От,— кажа,— ведаеш, хадзем разам.

— Ну, добра,— дый то прывязаўшы казу да хвойкі, пашлі. Адышлі крыху, а Клін гэта ўхапіў бота да за казу дай павёў у гушчар. Прыходзяць, ажно ні бота, ні казы!

— Ля! Што гэта?

— От,— кажа,— мусіць, Клін украў, то яго работа.

Што тут рабіць — рада ў раду, вышла на тое, што пашлі на скаргу да пана. Так пан казаў заклікаць Кліна дый кажа:

— Ты ўкрад козэ?

— Украд, пане, собе, а не тобе!

— А ў мне, гіцлю, украднеш кровэ?

— Украднэ, пане, собе, а не тобе!
— Ну, а кеды ўкраднеш?
— Дзісяй уноцы, пане.

Пан, пачуўшы гэта, парасстаўляў старажоў усюды каля каровы, ажно Клін купіў барылачку водкі да то, прыбраўшыся ў чорнае адзенне, прыходзіць да тых вартаўнікоў дый кажа:

— Ну, хлопцы, наце вам гарэлкі, анно пілнуйце добра каровы, каб Клін ні ўкраў,— дый паспойваў іх. А як ужо паснулі, сам за карову дый у ногі.

Назаўтры пан, аба ўсём даведаўшыся, кліча да се Кліна:
— Ты ўкрад кровэ?
— Украд, паночку, да собе, а не тобе!
— А порадзіш тэй ноцы ўкрасць у мне жрэбца?
— Украднэ, пане, собе, а не тобе!
— Недачэкане твое!
— Га, забачым.

Так пан яшчэ больш старажоў парасстаўляў дый смолна прыказаў, каб адзін дзяржаў за грыву, другі за хвост, а чатырох за ногі.

Ажно Клін, прыбраўшыся за пана, прынёс і тым разам водкі, панапойваў іх, да то, як заснулі, так тым, што дзяржалі за хвост і за грыву, уваткнуў у рукі канапель, а тым, што за ногі, калы, а сам за жарабца дый па-амчаўся!

Назаўтра кліча пан Кліна дый пытаецца:
— А цо, то ты ўкрад жрэбца?
— Украд, пане, собе, а не тобе!
— Но няма цо, спраўны з цябе злодзей, а жонка дзісь уноцы порадзіш у мне ўкрасць?
— Украднэ, пане!
— Но, то як украднеш, то дам тры тысёнцы, а як не, кажэ даць сто бізунов тобе!
— Добжэ, паночку.

Ну, так як вартаўнікі паснулі, так ён кінуў сабакам мяса да то хлеба, улез праз акно да пакою, дзе паны спалі, дый палажыў у ложка брушкоў смярдзячых, а сам закраўся ў куточак і сядзіць.

Ажно пан прачхнуўся: нюх, нюх, — смярдзіць, дай то, пасварыўшыся, ляглі паасобна спаць.

Ну, як ужо паснулі, так то Клін запаліў газу каля яе ложка дый кажа:

— Дом палісе! Уцекай, душко!

Так пані зо сну думала, што муж, дый, схапіўшыся з ложка, пабегла за ім.

Прачхнуўся пан, ажно ля, жонкі няма! Так заклікаў Кліна дый кажа:

— То ты ўкрад мі жонэ?

— Украд, пане, собе, а не тобе!

Так ні было радачкі, даў яму тры тысёнцы і ледзве адабраў жонку.

## 25. МАЙСТАР-ЗЛОДЗЕЙ

Быў у аднаго бацька дурны сын, да то бацька заўсёды з яго збыткаваўся, так ён, ні могучы ўбыць, пашоў у лес, каб дзе хоць прыстаць да разбойнікаў. Ідзе ён так, ідзе, ажно спатыкае яго дванаццаць разбойнікаў.

— Куды ты ідзеш?

— Прыстаць да разбойнікаў!

— А ўмееш ты добра красці?

— А буду ўчыцца.

— Ну, то гэтуды адзін чалавек вясціме вала на кірмаш: калі ўкрадзеш, то добра, а як не, то выжанем.

І, завёўшы то яго да свае зямлянкі, далі яму пі-іці, е-есці...

Ну, на заўтрашні дзень пашоў жа ён на дарогу пілнаваць. Ажно доўга ні ждучы, чуе: вядзе, так ён гэта хутчэй забег напярод дай на галіне павесіўся.

Той чалавек падышоў з валом блізка, глянуў, ажно ля, вісіць чалавек! Так ён, спалохаўшыся, павёў то хутчэй вала, а той адчапіўся, забег напярод дай зноў павесіўся.

Ажно як з'очыў яго той чалавек, так кажа:

— Ля, а гэта ўжо што-о? Там адзін, а тут другі вісіць, так як родныя браты! — і пагнаў далей. А ён тым часам зноў забег дай трэйці раз павесіўся.

Як жа той яго ўгледзеў, так кажа:

— Ля! а гэта ўжо што за чума? Трох, як адзін, вісіць! Мушу ж я палядзець, ці тыя вісяць?

І гэта, увязаўшы вала, пашоў пераканацца.

Чалавек адышоўся, а той дзыгець з дзерава, за вала, па-а-вёў! Прыводзіць да зямлянкі, а разбойнікі кажуць:

— Ну, гэдак добра, но ён яшчэ аднаго будзе вясці, да ўжо ж цяпер будзе астражнейшы.

Тым часам той чалавек прыходзіць, ажно няма ні вісельнікаў, ні вала!

— От табе,— кажа,— маеш! Хіба ні буду казаць сваёй жонцы, бо яна мяне забіла б,— і пашоў дахаты.

Прыходзіць:

— А што,— кажа,— прадаў?

— Прадаў,— кажа.

Ажно ў колькосціць дзён меўся быць зноў кірмаш, так майстар-злодзей узяў гэтым разам срэбнага чаравічка дай зноў пашоў пілнаваць на дарогу. Пасядзеў крыху, чуе: вядзе. Так гэта хутчэй кінуў чаравічка на дарогу, а сам шык за куст і ўзіраецца. Ажно той чалавек надышоў дай, угледзеўшы чаравічка, кажа да се:

— А, які чаравік! Я яшчэ ў жыцці ні бачыў гэтакага. От каб было два, то б занёс жонцы, мо яна ні сердавала б на мяне за таго вала,— дый, ні падымаўшы, павёў далей.

Ажно майстар-злодзей ухапіў таго чаравічка, забег кустамі напярод, паставіў, а сам шморг за куст і сядзіць. Дзе быўшы, падходзіць той чалавек:

— А,— кажа,— осьдзека і другі! А каб це халера з натураю! Чаму я ні браў таго, а цяпер трэба схадзіць зумысне,— дай то, увязаўшы вала, пашоў, а майстар-злодзей за вала,— па-авёў да зямлянкі!

Той пашоў: чаравіка няма, прыходзіць, ажно і вала нямашака!

— От табе,— кажа,— маеш!— і пашоў небарака дахаты, голаў увагнуўшы.

Ну, тыя то разбойнікі, угледзеўшы вала, кажуць:

— Ну, украў, той добра, да ён яшчэ будзе трэйцяга вясці, то мусіш і таго ўкрасці.

— Добра,— кажа,— можна папрабаваць.

Ну, так як надышоў кірмаш, так ён зноў пашоў на тую саму дарогу пілнаваць.

Сядзіць ён, так сядзіць, ажно чуе: вядзе. Так гэта адбегся ў лес ад дарогі і стаў рыкаць: «Му-у! му-у!». Той чалавек, учуўшы, думаў, што гэта яго валы рыкаюць, так, прывязаўшы гэтага, ідзе ў лес шукаць, а той абмінуў яго, за вала, па-авёў, анно закурэла!

Чалавек хадзіў, хадзіў па лесе — нічога ні выхадзіў. Прыходзіць, вала нехтась украў.

— От,— кажа,— цяпер я ж згінуў і прапаў!

Дый то заплакаўшы, пашоў дахаты. Той майстар-злодзей прыводзіць вала, так разбойнікі кажуць:

— Ну, цяпер ты не будзеш красці, ні біць людзей, анно будзеш у зямлянцы сядзець, піць да есць, а мы будзем цябе слухаць, бо ты за нас спраўнейшы.

Як ужо пабыў ён там дзён з кілька, так кажа да іх:

— Ну, хлопцы, ідзеце ж вы там і там на дванаццаць дзён, а я тут буду.

Ажно як яны пашлі, так ён, прыждаўшы ночы, узяў тыя валы, пазаганяў таму чалавеку на надворак, потым пашоў да бацька, расказаў яму ўсё, так гэта стары запрог каня, паехаў з ім да тае зямлянкі, срэбра, золата паўвозіў, і ўжо жылі з таго часу ў згодзе.

Ну, ажно раз кажа ён да бацькі:

— Ведаеш, татку, ідзі ты да кроля дый скажы, што майстар-злодзей хоча кроляву дачку ўзяць.

— Дай ты,— кажа,— дурню, хварэў! Я пайду да кроля, каб яшчэ голаў сцяў? Не дажджэш!

Да то ён як стаў прасіць, як стаў маліць, так бацька, нішто, пашоў.

Прыходзіць на кралеўскі двор, зара яго завялі, так кроль пытае:

— А цо ж ты повеш?

А ён кажа так і так, так і гэтак.

— Ну, добра, калі ён украдзе з мае жонкі кашулю ночну і прэсцірадла, то аддам за яго сваю дачку.

Так бацька, прышоўшы, расказаў яму аб усём дай кажа:

— От, дурню, дзе табе думаць аб гэтум!

— Ні бось,— кажа,— ні твая бяда!

Дай не доўга ждучы, пашоў.

Ажно як надышоў вечар, так адкапаў на магілцах мярца, прынёс пад акно да таго пакою, дзе кроль з жонкаю спаў, дай усё матылгае таею галавою, дай усё матылгае.

Ажно кроль яшчэ не спаў, так гэта ўгледзеўшы, схапіўся з пасцелі, за стрэльбу, да бэнц! праз акно, а ён мярца баба-ах! аб землю, дай сам захіліўся за ўгол і слухае.

Ажно кроль кажа да кралёвай:

— Хоць я гэтага ні баюся, да ўсё ж мне брыдка, скажуць, што я людзі б'ю: знаеш,— кажа,— трэба яго цішком пахаваць. Убярыся ты дай ідзем.

Яны паўбіраліся, панеслі таго мярца хаваць, а ён праз акно, цап за кашулю, цап за прасціpадла,— па-апёр, анно пяты заблі-скацелі! Прыбягае дахаты:

— На, — кажа,— татку, нясі да кроля!

— А каб цябе,— кажа,— сынку, паралюш кінуў! Як ты красці ўмееш! — дай гэта як засвітала, панёс да кроля. Так кроль проста здзівіцца не мог, а потым троху паміргаваўшы, кажа:

— Ведаеш, скажы ты свайму хлопцу, што як ён таго і таго дня ўкрадзе са стала пячэню, то ўжо без адказу выдам сваю дачку за яго.

Так гэта ён пачухаўся ў галаў:

— Добра,— кажа,— скажу,— дай пашоў. Прыходзіць дахаты:

— Ну,— кажа,— сынку, так і так, мусіць, ты цяпер ужо не дасі рады.

А ён:

— Паляджу,— кажа,— татку,— да то за шапку дай пашоў да лесніка, купіў у яго тры жывых зайцоў, пасаджаў у мяшок дай пашоў на кралеўскі двор. Так гэта прышэчы, сеў сабе пад плотам дай пусціў на дзядзінец аднаго зайца. Ажно слугі, угледзеўшы, пабеглі зара да кроля дай кажуць:

— Міласцівы кролю, заяц па дзядзінцы бегае!

— Ат,— кажа,— чорт яго бяры!

Ажно троху паждаўшы, пускае ён другога, слугі зноў да кроля:

— Міласцівы кролю, двох зайцоў ле́тае!

— Чорт іх бяры!

Ажно як пусціў трэцяга, кроль ужо тым разам не вытрываў, дай то за стрэльбу, па-аляцеў, а за ім уся дворня.

Утэды майстар-злодзей уляцеў угінкам да палацу, цапнуў пячэню, дай гэта як беж, так беж дахаты!

Ажно на заўтрашні дзень прыносіць бацька гэту пячэню, так кролю, няма рады, брыдка слова не датрымаць, выдаў дачку за яго, а па смерці ўсё кралеўства на іх запісаў.

## 26. ПОП І ХІТРЫ МУЖЫК-ЗЛОДЗЕЙ

Паспрачаліся поп і мужык. Мужык кажа папу:

— Я цябе, як хочаш, ашукаю.

— Як жа ты мяне ашукаеш?

— Коні вазьму, з жонкі сарочку здыму, у царкву без адзення завяду.

А ў папа былі вельмі добрыя коні, прыгожая жонка.

Не верыць поп. Дамовіліся, што калі мужык усё зробіць, як казаў, дык поп дасць яму 500 рублёў.

— Ды за такія грошы я за адны суткі ўсё гэта зраблю.

«Не, хваробы. Я зраблю ўсё, каб гэтага не было»,— думае поп.

Пасадзіў поп на коней вартаўнікоў і загадаў, каб усю ноч не злазілі з сядла. А мужык узяў гарнец гарэлкі, прышоў да вартаўнікоў і так напаіў іх, што яны нічога не помнілі. Зняў мужык іх з коней, пасадзіў на бэльку і папрывязваў. Забраў мужык коней і прывёў у свой хлеў. Вось перад сном поп пашоў паглядзець, ці добра вартуюць работнікі яго коней. Прыходзіць у хлеў, а коней няма. Пачаў ён лупцаваць вартаўнікоў і пытаць, дзе коні, а яны толькі мікаюць, нічога не разумеюць, думаюць, што на конях сядзяць, тпрукаюць.

Здзівіўся поп і пытае мужыка:

— Як ты дадумаўся гэта зрабіць? Я ж іх напалохаў грэхам і смерцю!

— Зрабіў гэта, зраблю і іншае,— кажа мужык.

«Абажджы ж, з жонкі сарочку не здымеш»,— думае поп.

Лёг поп спаць з пападдзёю, а мужык уночы пракраўся ў спальню, набраў карэц вады і выліў пад пападдзю. Прачнулася пападдзя і бачыць, што сарочка мокрая. Зняла яна сарочку і павесіла на спінку ложка. Забраў мужык сарочку і пашоў.

Трэба ж яшчэ завесці папа без адзення ў царкву!

Налавіў мужык ракаў, прыклеіў да іх свечачкі, запаліў і пусціў на падлогу ў царкву. Убачыў гэта вартаўнік, прыбягае да папа і крычыць:

— Бацюшка, цуд — святыя прышлі ў царкву, свечкі запалілі. Хутчэй, ато пойдуць!

Ускочыў поп з пасцелі, у адных споднікам пабег у царкву. Бачыць: рухаюцца свечачкі па царкве, а здалёку нічога не відаць. Ён бягом у царкву, а мужык і зачыніў царкоўныя дзверы.

— Ну, бацюшка, завёў я вас?

— Ах, гэта ты так накпіў, ашуканец! Але з жонкі сарочкі не зняў, таму і плаціць не буду,— кажа поп.

— А гэта што? — дастае мужык сарочку пападдзі і паказвае папу.

Пачаў поп прасіцца, каб мужык яго выпусціў. Абяцаў аддаць і пяцьсот рублёў і яшчэ ў прыдачу аднаго каня.

## 27. МІХЕЙ-КРАВЕЦ І МАРЦІН-ШАВЕЦ

Не ў каторым царстве, не ў каторым гасударстве сабраліся ўместа два таварышы майсцярых — Марцін-шавец і Міхей-кравец. Так яны сабраліся і разгаварыліся адзін з адным.

— Чым ты, брат, занімаешся? — пытаецца Марцін у краўца.

А Міхей адказвае:

— Я магу ў дзікія вуткі вынуць яйцы з гнязда, і яна не пачуе, не зляціць з гнязда!

Пашлі яны вуткі шукаць. Нашлі вутку, Міхей выбраў яйцы — вутка і не зляцела. А пакуль ён выбіраў, дак Марцін у яго падошвы адпароў, а ён і не пачуў. Ну, цяпер адышлі яны троху, Марцін і спрашуе:

— А што, брат Міхей: ці твае сапагі на две падошвы шыты?

— Не, на дну!

— Паглядзі ж,— кажа,— няма ніводнай!

Тады Міхей паглядзеў — няма падошваў. Ну, ён вынімае з кармана падошвы і прыкладае падошвы к Міхеевым сапагам.

— Ну, вот што,— кажа,— брат Міхей: пакладом, што вутка спала, як ты выняў яйцы; а ты ж не спаў, як я адпараваў падошвы!

Вот цяпер Міхей адказвае:

— Ну, вот што, брат Марцін: будзем мы з табой жыць за таварыша, сагласна! Толькі куды нада ў харошае места, у харошы горад, у сталічны, а не так як-небудзь!

Увашлі яны ў горад, нанялі сабе хватэру. Як яны майстры, Марцін — шавец, а Міхей — кравец, дак яны нанялі сабе хватэру. Там яны жылі, работалі, той шыў сапагі, а той партнёнае. Ведама, шавец і кравец. Вот яны жылі, жылі, после надумаўся Марцін:

— Што мы,— кажа,— брат, будзем там працаваць? Пойдзем,— кажа,— брат, вараваць!

Міхей пытаецца ў яго:

— Куды мы пойдзем вараваць?

Марцін-шавец адказвае яму:

— Куды ж мы пойдзем? Пойдзем,— кажа,— у царскі склеп!

Прышлі ў склеп, адамкнулі, віна карыта напусцілі, мукі насыпалі да псоў напаілі. Псы напіліся. Яны хвасты па пары пазвязвалі да чэраз плот паперавешвалі. Цяперака Міхей стаў вартаваць, а Марцін вараваць,— што трэба было яму, браць. Цяпер, наканец, выходзячы з інбару, царскую шубу сабе ўзяў.

Прышлі дадому. Давай дзяліць сваю крадзежу: усё падзялілі, а шубу ніяк не падзелюць. Марцін кажа, што «я вараваў — мне шубу!»

А Міхей гавора:

— Я вартаваў, дык мне! Ну, а за тым часам, як мы не раздзелім, пойдом лучша спросім у цара, як маем мы спорыць, каму шубу: ці таму, што вараваў, ці таму, што вартаваў?

Ну, прышлі яны к цару. Ён мо на трэццям этажы спаў. Падмасціліся яны пад вакно. Вот у цара баяшнік быў — ведама, цар спіць, а баяшнік байкі бая. Дак ён задрамаў на тое ўрэмя. Яны падмасціліся і пытаюць у цара:

— Ваша царскае вялічаства! Былі ў вашам даму воры, што трэба варавалі і, наканец, царскую шубу ўзялі. Усё падзялілі, а шубы ніяк не падзеляць. І нарошна прышлі спрашываць у вашыя міласці, каму вы прыкажаце: ці таму, хто вараваў, ці таму, хто вартаваў?

Цяпер цар думаў, што ета баяшнік кажа, вот ён думаў, думаў і кажа:

— Як то можна таму, хто вартаваў? Хто вартаваў, той ба ўцёк, а хто вараваў, таго б паймалі. Дак трэба таму, хто вараваў!

Яны й пайшлі.

— Вот жа, — кажа Марцін,— відзіш, брацец,— шуба таму, хто вараваў!

Ну вот, яны й пайшлі на сваю хватэру.

Вот цар слухаў, слухаў — не чуць баяшніка; а баяшнік спіць сабе, не чуе, што і воры былі, што і спрашывалісь — ён етага не чуе нічога. Ну, цяпер цар гавора:

— Ну-тка, баяшнік, ізбай мне новую гэту баячку, што січас баяў!

А баяшнік не чуў. Ён заводзя адну.

— Не,— кажа,— не ету! Ут ету, што січас баяў!

А ён не чуў, дак ён пачом знае. Заводзя другую.

— Не, не ету! Во тую, што січас ты казаў, што ў царскім скляпу воры былі і шубы не падзялілі!

А той не знае.

— Э,— кажа цар,— ці няма ў нас абманы якія? Паслаць січас часавога аглядзець склепу!

Пашоў часавой, сабакі вісяць чэраз плот, інбар разбіт.

Ён прыходзя і сказуе:

— Былі,— гавора, — воры ў вашым склепе!

Даў бог дзень ужо, і цар, як ба не было, ведама, усякі звесцян стаў, што ў цара былі воры. І цару сталі смяяцца многа, што ён сваю шубу сам варам падзяліў. Ета цару стала совесна, што ўсякі яму смяецца. Ну, тады цар назначыў двох жандараў ці салдатаў і даў ім вадзіць казла. «Ужо калі воры, дак яны казла міжда вас украдуць!» Ну, яны вадзілі, вадзілі па гораду цэльны дзень, патом ужо прывязалі яго на час ля стаўпа, самі пайшлі ў шынк па кручку выпіць. Ведама, дзень жа хадзілі не еўшы. А яны тожа казла адрэзалі і пашлі! Ну, цяперака вышлі тыя — няма казла!

Як ім адказваць? І казла няма, і вароў не нашлі. Ну, прыходзяць яны.

— Дзе ж ваш казёл?

— Няма!

— А воры?

— Няма!

— Да як жа ета вам прышлося? — гаворуць.

— Да як-ся,— гаворуць,— загуло, задуло, як ветрам, вяроўку, як нажом перарэзала — і няма казла!

— Ну, дак вот: заўтра,— гавора,— хоць пяць рублёў хунт, а штоб казлінае мяса было! Ужо яны самі казлінага мяса есці не будуць,— прадаваць будуць. Па чом, па чом, да хунты тры купіць. Хто будзе прадаваць, дак той і вор!

Ну, цяпер, назаўтра пайшлі, нашлі ў іх казлінае мяса, купілі. Выйшаў той, што купіў казлінае мяса, і напісаў на варотах: «Вот здзесь куплена казлінае мяса». Чэраз час-мінуту выйшаў Марцін нарошна зірнуць і ўбачыў, што на варотах напісана: «Казлінае мяса». Уходзіць ён у дом і гаворыць:

— Эх, Міхей, брат! Плахое наша дзела выходзя: напісана на варотах, што казлінае мяса куплена!

— Эй, брат,— кажа Міхей,— пойдам-ка мы абапал вуліцы — ты па адной старане, а я па другой — і напішам на ўсіх варотах: здзесь казлінае мяса куплена!— Узялі і пайшлі і прайшлі абапал усёй прабойнай вуліцы, і панадпісвалі на ўсіх варотах, што казлінае мяса куплена. Цяперака ён прынося мяса.

— Ну, нашлі,— гавора,— вароў?

— Нашлі! Ну пойдзем к ім, я напісаў,— кажа,— на варотах!

Прыходзяць яны туды. Сюды глядзяць — напісана: «Тут казлінае мяса!»; туды глядзяць — напісана: «Тут казлінае мяса!». Ну, яны прайшлі скрозь вуліцу — усюды напісана. Ну, ці ўсе ж воры? Адзін краў, а не ўсе. Да й паехалі, не нашлі вара. Ну, так жа смяюцца цару, што шубу ў яго ўкралі, казла паміж рук узялі, гавядзіну прадалі, і ўсё вароў нямаш. Совесна цару. Цяпер цар сабірае к сабе баль: і худых, і добрых, усіх, і простых, і разнага звання. Панагатаваў сталы, віна, усяго, закускі і вот насыпаў ля сталоў сцежкі чырвонцаў. Паставіў остражу, сматрэць здалека: хто сагнецца, той вор.

Ну, цяпер, яны пілі, пілі, тады Марцін-вор гавора:

— Эх, брат Міхей! Ці не можна б нам падабраць гэтыя чырвонцы? — гавора.

— А якім жа мы родам іх падбяром?

— А вот, пойдам-ка мы дамоў!

Пашлі яны да надзелі сапагі бальшыя расейскія ўжо, да вару пад падошвы напікавалі, ета, падыспод. Вот яны і не сагіналіся: пахадзілі па чырвонцах, дак яны і папрыліпалі к вару. І сагінацца ніхто не сагінаўся, і чырвонцаў мала асталося. Усё-такі бальсышоў, і чырвонцы падабралі, і злодзеяў не знайшлі.

І ўсё-такі як бы хто да хто смяяўся, а больша за ўсіх ксёндз смяецца цару: і шубу раздзяліў, і казла ўкралі, і мяса прадалі, і чырвонцы пабралі — і ўсё-такі няма. І аб'явіў цар паблікацыю: «Прашу міласці вароў к сабе! Усё вам прашчаю, а награджу вас чым хочаце!» І прыйшлі яны нарошна к цару:

— Здрастуйця, ваша вялікае анпяратарства!

— Здраство, здраство! А што вы за людзі?

— Вот прыйшлі к вашай міласці, тожа, воры вашы. Дзела ўсё наша: мы і ўваравалі шубу — вы нам падзялілі, мы і казла ўваравалі, і мяса прадавалі, і чырвонцы падабралі!

— Прашу вашыя міласці, каб вы здзелалі штуку якую ксяндзу, каб я пасмяяўся ля ксяндза, а то ксёндз мне дужа смяецца!

Вот яны напісалі яму чысло, каб у такі і такі дзень ён прыехаў у касцёл на мшу. Ну, вот яны пад тое чысло падышлі к ксяндзу і нагатавалі сабе мех бальшы шкурацінны, як кавальскі, і налавілі торбу ракаў, і насукалі свечачак, да такіх тоненькіх, усякаму раку па свечачцы. Вот свечку запаляць да раку ў клюбы дадуць — ён сцісне, яны яго і пусцяць па двару: ён паўзе і свечачку нясе. Яны ўсю торбу ету ракаў распусцілі, яны і поўзаюць і свецюць ета па двару. А самі вот прыйшлі к вакну, да вакно выбнялі, да абапал вакна дзве свячы запалілі, а самі сталі за луткамі і мех дзержуць. А шчэ ў мех усыпалі гарцаў дваццаць сажы, етае, каторая ў коміне выціраецца. Тады сталі крычаць:

— Ксен-жа бо-жый! Пры-слаў бог ан-га-лаў па тва-ю ду-шу спа-сення!

Ксёндз спрасоння ўсхапіўся, зірнуў, што аж ззяе ўвесь двор — свечкі гараць. Тады яны апяць жа сказалі:

— Ксен-жа бо-жый! Пры-слаў бог ан-га-лаў па тва-ю ду-шу спа-сення!

— Куды мне,— кажа,— ісці?

— А ў вакно,— кажа.— Тут ужо нагатован мех, толькі лезь!..

Ну, ён у вакно. Яны яго зашчапілі і паняслі к касцёлу к дзвярам, ля касцёлу павесілі ля дзвярэй. Ета к таму дню нагатовілі, як цар прыедзе на мшу. Павесілі мех, на мяху палажылі булаву і напісалі так: «Хто стаю булавою ўдара, таму дасць бог спасенне; а хто мацней удара, то шчэ больша спасення будзе!»

Ну, прыязджае цар на мшу. Прыходзе к касцёлу і відзе — вісіць мех і ляжыць булава і напісана: «Хто тры разы ўдара, таму бог дасць спасенне!» Ён раз ударыў — маўчыць, ксёндз там цярпіць. Другі раз ударыў — маўчыць; трэцій раз як ударыў, ксёндз ужо не выцярпеў і крычыць:

— Ой!

Ну, січас жа знялі той мех, сталі развязваць. Вылез аттуля ксёндз, усё роўна як чорт уздзелаўся ў сажу, ведама, гарцаў дваццаць яе там было! Стаў тады цар смяяцца з ксяндза:

— Няхай жа я шубу падзяліў, казла аддаў, гавядзіну купляў, чырвонцы пааддаваў, ато й ты во: табе трэба імшу служыць, а ты во ў мяху сядзіш!

І за етым ён ворам даў чыстый бялет ва ўсю сваю зямлю: усё вам сваё прашчаю і бялет вам чысты даю!..

## 28. ЯК І З ДУРНЯ ЧАСАМ РАЗУМНЫ

Было двох братоў разумных, а трэйці дурань, дай аднаго разу разумныя з дурнем выбраліся красці. Уехалі ў лес, так разумны кажа:

— Ото, браткі, лес, ото будзем будавацца!

А дурань кажа:

— А каб це так і гэдак — ты ўжо хутчэй будавацца,— і не хацеў ехаць з ім далей, дай назад вярнуліся. На заўтрашнюю ноч паехаў з другім, анно і той сказаў так сама, так і з ім не хацеў ехаць. Ну, на трэйцю ўжо ноч паехаў дурань з дзядзькам. Уехалі ў той лес, так дзядзька кажа:

— Ото, сынку, лес, ото будзем красці да сюды насіць.

Ну, так з тым ужо паехаў. Прыехалі да двара, а ў таго пана былі сабакі вельмі ліхія, так яны што робячы ўлезлі ў маказын, а там стаяла куфа спірытусу, так гэты спірытус з мукою змяшалі дай далі сабакам. Сабакі, вядома, наеўшыся, пападалі, тады яны хвасты з хвастамі пазвязвалі дай павешалі. Тады ж то дурань улез у маказын, браў, краў да ўсё падаваў дзядзьку, а дзядзька прымаў ды да лесу насіў. Як ужо што было лепшае паўносілі, тады пашлі да лесу дзяліцца. Усім падзяліліся, анно залатым кубкам не.

Дурань кажа:

— Мне кубак, бо я табе падаваў.

А дзядзька кажа:

— Мне, бо я да лесу цягаў.

Урэшце дурань кажа:

— Ну, ведаеш, дзядзьку, што будзе, то будзе, а я пайду да пана: каму ён прысудзіць, таго і будзе.

А дзядзька:

— Дурню ты,— кажа,— што ты думаеш, ты і сябе і мяне яшчэ згубіш!

Да то дурань, канешне, упёрся, сам пашоў і дзядзьку казаў ісці. Падышлі пад акно, так дурань стук, стук, а пан пытае:

— Хто там?

Так дурань:

— Паночку, а мо пан любіць басні слухаць?

— Добра,— кажа,— на-ат люблю.

Так дурань казаў дзядзьку стаяць пад акном і ўслухацца, а сам адчыніў пакой, увайшоў дай давай пану правіць:

— Было,— кажа,— трох братоў, двох разумных, трэці дурань, дай то аднаго разу выбіраліся яны красці,— ну, і давай яму правіць так сама, як яны рабілі, дай за кожным словам кажа:

— А ты, дзядзьку, слухай.

Так пан пытае:

— Скажы ты мне, што гэта значыць?

— А паночку,— кажа дурань,— з басні слова не выкінеш! — После,— кажа,— той дурань улез у маказын, падаваў дзядзьку, а ён насіў у лес. Ну, як ужо ўсё паўносілі, так пашлі ў лес дзяліцца, усім падзяліліся, а залатым кубкам не. Каму гэта залаты кубак належаўся б?

А пан кажа:

— А то ж, вядома, што таму, хто падаваў, бо той мог бы б уцячы, а гэтаму ўжо неяк.

Так-то дурань, сказаўшы:

— А ты, дзядзьку, слухай! — вышаў, і такі яму кубак астаўся, бо так сам пан прысудзіў.

Наша басня да канца і па чарачцы вінца, а наш пан не такой, не шкадуе па другой.

## 29. У ЯКІМ НЕБЕ ПАН БЫЎ

Быў сабе багаты пан, а любіў ён вельмі слухаць баек і трымаў на сваім двары баяра. А было ў яго пяць сабак надта ліхіх, і ніхто ў яго ніц не мог украсці за тымі сабакамі. У том двары жыў

мельнік-мудрагель і надта ўжо смешны чалавек; так аднаго разу ён і яшчэ пяцёх змовіліся, каб таго пана абкрасці. Ну, добра. Падышлі яны ўночы пад варота, а там ляжаў гарох тылё цо пакошаны, так яны паабверчваліся ў гарох і давай каціцца пад свіран. Там то сабакі давай брахаць, але як падбягуць да іх, то баяцца, вядома, гарох шалясціць. Аж пан, пачуўшы сабак, кажа да баяра:

— Баяжу, а обач, цо там так псы шчэкаё.

Так баяр глянуў праз акно і кажа:

— Э-э, то, проша пана, вятэр гроховіны розпэндза.

Потым сабакі яшчэ горш сталі брахаць, так пан кучыў баяра, кучыў, аж ён і вышаў. Ён пад свіран, а яны ўхапілі, замкнулі, а млынара паслалі, жэб пашоў да пана. Ён прышоў, нібы-то лёг, аж пан кажа:

— Баяжу, дай табакі!

Так мельнік мац, мац, сюд-туд, аж пад падушкаю абмацаўшы, паднёс пану. Пан, панюхаўшы, кажа:

— Баяжу, а паведз мі байкэ, бо цось спаць не могэ.

Так мельнік кажа:

— Яко я юж пану оповем байкэ?

— Эх,— кажа,— можа, там ешчэ една знойдзесе ў цébе?

Так мельнік, доўга не чакаўшы, кажа:

— Быў сабе адзін пан, меў ён велькія маёнткі, пяцёра надта злосных сабак, но і баяра сабе трымаў. А жыў там недалёка мельнік, ён змовіўся... і г. д. Аж як дашоў ужо да таго мейсца, як пану табакі падаў, так пан кажа:

— А, можа, то ў мне?

— Не вем,— кажа,— можа, і ў пана.

Ну, так як развіднела, так пан пазнаў, цо гэта не баяр, і хацеў мельніка на суд падаць.

А сусед таго пана, як даведаўся аб том, так давай з яго смяяцца, так пан да мельніка кажа:

— Но, веш цо, даруе тобе, тылё жэбы ты тамтэму пану зробіл фігля.

Так мельнік пацалаваў пана ў руку і кажа:

— Добжэ, пане, постарамсе.

Так гэта зараз пашоў да рэчкі, налавіў ракаў, да то, як надышоў вечар, так падкраўся з імі да двара, да то папрычапляўшы каждаму да хрыбёту пазапаліваны свечкі, пусціў перад пакоямі, а сам з мяшком стаў пад акном і крычыць:

— Гэй, гэй! Неба атварласе! Кто до неба хцэ се достаць, нех скачэ!

Так пан гэта схапіўся да акна, паглянуў, так думаў, цо зоры — да дзыг! Праз акно ў мяшок, а мельнік, завязаўшы, закінуў на плечы да панёс да таго пана і на варотах павесіў. Як развіднела, аж мужчыны якраз ішлі да двара гарох малаціць, да кажан па мяшку цэпам да цэпам! Той у крык, развязалі мяшок, аж там пан! От табе і неба!

## 30. КРАДЗЕНЫМ, ЯК ТОЙ КАЖА, НЕ ПАСЫЦЕЕШ

Быў адзін чалавек, меў двох сыноў, дай то як выраслі, так пайшоў з імі ў свет, каб кожан выбраў сабе які спосаб да жыцця. Ідуць так, ідуць, ажно стаіць велька, як вокам кінуць, вёска, так старшы кажа:

— О-о, каб тут кузню паставіць, то каваль меў бы з чаго жыць.

Так гэта бацька паставіў яму кузню і асадзіў за каваля, а сам з меншым павандраваў у свет. Ідуць так, ідуць, ажно пасуцца валы, так сын кажа:

— Ай, татку, каб то гэтыя валы ўкрасці!

— Крадзі,— кажа,— прабуй шчасця, усё роўна я вас на тое ваджу, каб вы сабе што-коляк абабралі.

Так гэта хлопец заняў аднаго вала, дай пагнаў да хаты, а бацька тымчасове пайшоў да вёскі, заплаціў таму гаспадару за вала (але хлопец не ведаў аб гэтым), пасля дагнаў сына, дай разам ужо пагналі вала дахаты. Ну, так прыгнаўшы, давай хлопец рэзаць таго вала, да ўсе аглядаецца, ці дзе хто не ідзе па вала. Зарэзаў, шкуру здзёр дай зачалі варыць. Так бацька кажа:

— Ведаеш, сынку, знімем мы мерку з сябе, каторы з нас хутчэй пасыцее.

Так узялі шнурочка дай з шыі мерку знялі. Ну, так вядома, бацька спакойна сабе еў, а сын, бало, як хто рыпне дзвярыма, то ён, як воўк, з мясам хаваецца. Ну, як ужо з'елі ўсё мяса, так бацька кажа:

— Ну, сынку, памерайма цяпер шыі, хто з нас пасыцеў?

Узялі тую мерку, сталі мераць, ажно бацька пасыцеў, а сын яшчэ горш схуд. Тады бацька кажа:

— А што, сынку, крадзеным ніколі не пасыцееш! — Я за таго вала заплаціў, то і нічога не баяўся, а табе бало як ясі, душа з страху іные дай на карку сядзіць.

# 31. ЯК РАЗУМНЫ МУЖЫК ГУСЬ ДЗЯЛІЎ

У адной вёсцы жылі-былі два мужыкі. Адзін мужык багаты, а другі бедны. У багатага мужыка ўсяго хватала і піць і есці, а ў беднага было шмат дзяцей, а з багатства толькі адна гусь. Чуць жыў бедны мужык з дзецьмі, і дайшло да таго, што ў іх не было чаго больш есці. Думаў, думаў, што рабіць, і сказаў:

— Жар, гаспадыня, гусь.

Зажарылі гусь і паставілі на стол, а хлеба няма ні крошкі. Кажа мужык:

— Ну, як будзем без хлеба есці, надоўга нам хваціць яго? Лепш аднясу пану і папрашу ў яго хлеба.

— Ідзі, мужычок, ідзі, —кажа жонка,— можа, мукі з паўмяшка дасць.

Прышоў мужык к барыну.

— Прынёс табе гусь, прымі яе, а мне хоць трохі мукі дай.

— Ну, добра,— кажа барын,— умеў ты гусь падарыць, умей ты раздзяліць паміж нас без крыўды. Раздзеліш без крыўды, прыкажу ўзнагародзіць, не сумееш — атрымаеш розгаў.

Сям'я таго барына: сам з жонкаю, два сыны, дзве дачкі — усяго шасцярых. Папрасіў мужык нажа і стаў дзяліць.

Спачатку адрэзаў галаву, падае барыну:

— Ты ўсяму дому галава.

Адрэзаў гузку, барыні падае:

— Табе дома сядзець, за домам глядзець, вот табе і гузка.

Адрэзаў лапкі, падае сынам:

— Вот вам па ножцы, таптаць бацькавы дарожкі.

А дочкам па крылцу даў:

— Вам з бацькам не век жыць, выраснеце, паляціце сваё гняздо віць.

Астатняе сабе ўзяў. Засмяяўся барын:

— Харашо, мужык, гусь раздзяліў і сам у крыўдзе не астаўся.

Паднёс стаканчык віна і прыказаў даць мужыку два мяшкі мукі. Пачуў пра гэта багаты мужык, пазавідаваў беднаму. Зажарыў пяць сытых гусей, прынёс барыну:

— Не пабрэзгай, барын, прыняць ад мяне пяць сытых гусей.

— Спасіба, брат, спасіба. Сумеў ты гусей падарыць, сумей свой падарак паміж нас без крыўды падзяліць. Калі падзеліш без абіды, награду палучыш, а не сумееш падзяліць, прыкажу розгаў даць.

Стаіць багаты мужык, прыкідвае і сяк і так, неяк яму пяць гусей паміж усімі падзяліць.

Паклікаў барын бедняка:

— Ці можаш ты пяць гусей паміж намі без абіды падзяліць?

— А чаму ж не падзяліць? — адказвае бедны мужык.

Падае аднаго гуся барыні з барынам і кажа:

— Вас двое, вот вам і гусь. Цяпер вас стала трое.

Другую гусь двум сынам падаў і кажа:

— І вас цяпер трое стала.

Трэцюю падае двум дочкам і кажа:

— І вас цяпер трое стала.

Дзве астатнія гусі сабе забраў і кажа:

— І нас стала трое. Ніхто не будзе крыўдзіцца.

Барын рассмяяўся і кажа:

— Ну і маладзец мужык, знаў, як трэба дзяліць, сябе не забыў.

Паднёс яму стаканчык віна, даў яму воз мукі, а багатага мужыка на канюшню паслаў, прыказаў высечы розгамі.

## 32. ЯК МУЖЫК ХІТРА ГУСЬ ПАДЗЯЛІЎ

Адзін бедны мужык прынёс да пана гусь і просіць, каб пан даў за яе шуфель жыта. Так пан кажа:

— Ну, нас ест сямёра: я, пані, двох сыноў і дзвёх дочак, падзялі ж ты на нас усіх гэту гусь?

Той падумаў: «Добра».

— Пан,— кажа,— галава ў дому, то пану будзе галава; пані будзе шыйка, бо першая па пану; паненкам будзе па ножцы, каб летка танцавалі, панічом па скрыдэлку, каб пекна пісалі, а я,— кажа,— мужычышча, вазьму кадлубішча.

— Ну,— кажа пан,— хітры ты!

Гусь яму аддаў і ўжо не адзін шуфель, але, можа, якіх даў з пяць. Ён прынёс жыта, а брат, як даведаўся, так узяў дзве гусі, занёс да пана і просіць таксама жыта.

Пан кажа:

— Добра, але падзялі ж ты нас.

Той падумаў і кажа:

— Пану будзе гусь і пані будзе гусь.

— А маім дзецям?

Так той і не ведае, што рабіць.

— Ідзі ж,— кажа пан,— па свайго брата, ён нас падзеліць.

Пашоў ён па таго, прыходзіць, так пан кажа:

— Падзялі ты нас, бо твой брат дурны якісь, не дасць рады.

Той падумаў трошкі і кажа:

— Ці пан верыць у святую тройцу?

— Цо табе гэто, альбо ж я не каталік?!

— Ну, калі так, то пан, пані і галоўка — то святая тройца, дзвёх паненак і ножка — і то святая тройца, двох панічоў і скрыдэлка — то і то будзе святая тройца, а мужык і дзве гусі — то таксама святая тройца.

Так пан аддаў яму гусі і жыта, колькі ён хацеў, а брата прагнаў вон. От якісьці быў мудрагель!

## 33. ДАГАДАЎСЯ

У некаторым царстве, у сякім-такім гасударстве за морамакіянам да за багатым панам жылі-былі два брата: бедны і багаты.

Бедачок-худачок пачаў з выдумкі гуркі засаджваць на зіму. Паставіць на вокна на сонейка, ато і бліжэй к печцы. Даглядаўгадаваў і выгадаваў. На Новы год узяў бедны брат тыя гуркі і панёс іх пану.

— Дзень добры, пане!

— Дзень добры!

— Паночку, прынёс вам на свята свежых гуркоў з грады.

— О, то добжэ! Аконам, дай яму пару валоў і воз пшаніцы.

Мужык сваім вушам не верыць, каб так магло быць. Але ж і праўда: павёў яго аканом у двор. Загадаў рабочым, каб запраглі валоў і наклалі воз пшаніцы.

Сеў бедны брат на воз і паехаў дадому і песні заспяваў вясёлыя. Пачула яго жонка і думае: «Ці гэта пан яго напаіў, ці ў карчме прапіў усе грошы, што пан за гуркі яму даў?» Прыехаў мужык і кажа:

— Ты ж паглядзі, гэта ўсё дабро — наша, цяпер і ў нас свой хлеб будзе.

Прышла да іх багатага брата жонка, убачыла такое і хутчэй да свайго мужыка:

— Во, глядзі ты, ляжаў на пячы ўсю зіму, ляжаў і які падарак выляжаў. Давай на лета пасеем гуркоў і павязём пану, дак ён за іх паўмаёнтка аддасць.

Насеялі яны гуркоў ужо столькі, што ні жыту, ні бульбе месца не знайшлося: трэба ж пану дагадзіць, каб даў добры падарунак.

Выраслі гуркі, набралі яны поўны воз, і сабраўся ўжо багаты брат ехаць, а жонка кажа:

— Вазьмі яшчэ з дзесятак гарбузоў, можа, іх пан вельмі любіць.

— Не, пакінь іх лепей дома, а калі хочаш, пакладзі яшчэ гуркоў.

Прыехаў мужык к пану і кажа:

— Добры дзень!

— Добры дзень, што скажаш?

— Гуркоў прывёз у гасцінец.

— Які ж ты дурань, у мяне свае ёсць.

Ён зноў:

— Паночку, прывёз вам гуркоў у гасцінец.

— Кажу гэтаму дурню, што ў мяне сваіх няма куды падзець, а ён зноў за рыбу грошы.

Багаты брат яшчэ ніжэй кланяецца і зноў пра сваё. Не вытрымаў пан, вялеў паставіць яго на карачкі і хто ні пойдзе, браць гурка і даць яму па з...цы. Ідуць людзі, кідаюць у яго гуркамі, а ён за кожным ударам гаворыць:

— Добра хоць, што дагадаўся.

Сказалі пра такое пану, ён і пытае багатага брата.

— Цо ты мувіў, кеды тобе давалі ў д... гурком, цо ты дагадаўся?

— Паночку, гэта ж жонка гаварыла, каб я гарбузоў узяў хоць з дзесятак. Калі б я ўзяў, то й памёр бы тут, а так мо шчэ даеду жывы дадому.

## 34. МУЖЫК І ПАН

Жыў бедны-прабедны мужык. Ды так пражыўся, што няма нічога нават паесці. І тут яшчэ прыходзіць вялікдзень. Мужык кажа сваёй жонцы:

— Давай закруцім апошнюю гуску, зжарым яе і аднясём да пана. Пан павінен добра заплаціць за яе. Вось мы і справім вялікдзень.

Так і зрабілі. Прынёс мужык гуску да пана і кажа:

— Панок, купі ў мяне гуску!

Паглядзеў на яго пан:

— Добра, куплю. Толькі пры той умове, калі раздзеліш гуску пароўну: двум панічам, двум барышням і двум панам — мне з жонкаю. Раздзеліш — заплачу дванцаць пяць рублей.

Мужык згадзіўся. Узяў нож, адрэзаў перш-наперш галаву з шыяй і да пана:

— Вось вам галава, таму што вы ўсяму дому галава, а пані — шыя, таму што яна знаходзіцца за панам; панічам — ножкі, каб пільнавалі дарожкі бацькі; паненкам — крылушкі, таму што ім ляцець у дальнія старонкі (замуж). А я мужык глуп — мне ўвесь труп.

Пан зарагатаў, даў мужыку дванцаць пяць рублей.

Прыйшоў мужык дадому, накупляў мяса, сала. Уселіся за стол мужык з жонкаю і ядзяць. Прыйшоў да іх сусед-багач. Здзівіўся багаты, кажа:

— Дзе ты ўзяў усё гэта, ты ж вельмі бедны?

— А вось зжарыў адну гуску, аднёс да пана, пан даў мне дванцаць пяць рублей, за іх я і накупляў сабе ўсяго.

Багаты пачухаў патыліцу і думае сам сабе: «Я ж зарэжу пяць гусак і зжару іх не проста так, а ў масле. Ох, і грошай жа мне дасць пан!»

Зжарыў пяць гусак і панёс да пана.

— Купі гусей, пан!

— Куплю, калі раздзеліш нам сваіх гусей пароўну: нас шэсць чалавек, а гусей у цябе пяць. Не раздзеліш — загадаю даць дванцаць пяць розак.

Тут і задумаўся прадаўшчык: «Як жа раздзяліць пяць гусей на шэсць чалавек?»

Пану не церпіцца:

— Што доўга думаеш — дзялі!

— Панок, не магу,— прызнаўся прадаўшчык-багач.

— Ідзі да свайго суседа і прывядзі сюды. Бядняк табе дапаможа.

Прыйшоў бядняк.

— У нас тут тупік: ніхто не можа раздзяліць пяць гусей на шэсць чалавек. Дапамажы нам! — кажа пан.

— Раздзяляю,— кажа бядняк.— Вось адну гуску — пану з паняй. Пан, пані і гуска — вас трое. Другую гуску — двум панічам. Два панічы і гуска — таксама трое. Так і з паненкамі. Мне ж дзве гускі — нас таксама будзе трое. Вось бачыце, усе па тры. Пароўну? — спытаў ён у пана.

— Пароўну! — адказаў пан і засмяяўся з вынаходства бедняка. Заплаціў бедняку багата грошай і багача прыказаў высекці.

Бядняк зажыў на шырокую ногу. Гуляе цэлы год, весяліцца. Прыйшло зноў свята — вялікдзень. У бедняка зноў хоць шаром пакаці. Мужык і кажа жонцы:

— Пайду да пана і пазычу грошай у яго.

Прыйшоў да пана:

— Панок, пазыч дзесяць рублей!

— А калі аддасі? Дзе ты іх возьмеш?

— Панок, калі не аддам, то забярэш маю кароўку.

Даў яму пан дзесяць рублей і кажа:

— Калі не аддасі ў срок, карова мая.

Выйшаў срок аддаваць пазыку пану, а грошай у бедняка няма. Сядзіць мужык каля акна і думае, як выкруціцца. Бачыць — едзе пан. Мужык узяў у карман капейкі — цэлы рубель, а сам прытварыўся п'яным і выйшаў на вуліцу. Пастаяў, зашатаўся, заківаўся і пайшоў. Пан убачыў гэта дзіва, зацікавіўся, куды ён пойдзе — такі ж п'яны.

Мужык заходзіць у першы шынок. Купіў дзве чвэрткі гарэлкі, адну выпіў, а другую загадаў схаваць:

— Буду ісці назад — вып'ю.

Прыходзіць у другі шынок да яўрэяў.

— Прадай, шынкар, дзве чвэрткі гарэлкі.

Адну тут жа выпіў, а другую зноў аставіў.

— Буду назад ісці — вып'ю.

Прыйшоў у трэці шынок. А пан следуе за ім. У гэтым шынку бядняк выпіў яшчэ дзве чвэрткі.

— У расчоце? — пытае гаспадара-шынкара.

— У расчоце.

Дзівіцца пан: столькі выпіў гарэлкі і ў расчоце. «Але што ж будзе далей?» — думае пан.

Ідзе дадому бядняк. Зноў заходзіць у шынкі: «Дай,— думае пан,— я першы буду заходзіць». Зайшоў пан у шынок і чакае, калі прыйдзе мужык.

Мужык як заваліўся ў шынок, так адразу патрабаваў гарэлку тую, што ён загадаў захаваць. Выпіў.

— У расчоце? — пытаецца.

— У расчоце, галубчык!

Дзівіцца пан: як гэта — п'е, а не плаціць.

У другім шынку бядняк зрабіў тое ж. «Тут хтосьці памагае яму, не інакш»,— думае пан.

Выйшаў мужык з шынка, прыхіліўся да сцяны, зняў з галавы сваю дзіравую-прадзіравую шапку і кажа сам сабе: «Ох ты мая збавіцельніца. Ох ты...»

Тут і падумаў пан, што шапка ў яго не простая, што яна памагае яму ва ўсім.

— Прадай мне яе!

— Не, не прадам. З гэтай шапкай я кожны дзень буду піць-гуляць. Шапка плаціць за мяне.

— Я дам за яе сто рублей, і пазыка — дзесяць рублей — будзе табе.

— Як ні жаль, але бяры ўжо.

Узяў мужык грошы і паехаў сабе ў горад. А пан тым часам заказаў у горадзе абед на тысячу рублей, пазваў усіх багатых. Абедаюць усе. Глядзяць на пана: пан як пан, а ў дзіравай шапцы. «Адурэў, мабыць»,— рашылі госці. Паелі паны і раз'ехаліся. Апошнім вылез з-за стала пан.

— У расчоце? — пытаецца ў хазяіна.

— Як жа ў расчоце? Ты ж абед заказаў на тысячу рублей і гаворыш пра расчот!

Звязалі пана.

— Пусціце мяне, я дома аддам вам грошы!

Прыехалі да пана, пан расплаціўся, а сам сабе думае: «Пайду і ўб'ю таго мужыка».

А тым часам мужык сабе купіў добрую вопратку і добра адзеўся. Бачыць — едзе пан. «Да мяне,— думае.— Не памагла шапка!»

Мужык хуценька прыбраў усё ў хаце, а ў качарэжніку паставіў арэхавую палачку. Сам лёг на лаўку, прытварыўся мёртвым. На жонку: — Скажаш: памёр ад гарэлкі.

Як убачыў пан мёртвага, яму стала жаль, што не ўспеў расплаціцца як след з мужыком. Узяў палачку і думае: «Удару хоць не па жывым». Замахнуўся, стукнуў раз, а мужык не ўцярпеў і прыгнуў з лаўкі. Дзівіцца пан:

— Прадай мне яе. Яна, мабыць, валшэбная.

— Не, не прадам. Яна не для паноў. Я прадаў табе шапку, а яна, я чуў, не паслужыла табе, бо ты заказаў абед на тысячу рублей, а шапка плаціць толькі пяцьсот рублей. Аб гэтым я забыў сказаць, а ты не спытаў, як патрэбна адносіцца да шапкі.

— Хай сабе, але прадай мне палачку.

— Не. Мне яна самому трэба.

— Я дам за яе трыста рублей і жывёлу, якая ёсць, і шэсць вазоў хлеба ў прыдачу.

— Ну, раз ты хочаш так — бяры.

Заваліў пан двор мужыка球 рознай жывёлай, прывёз хлеба шэсць вазоў, аддаў грошы.

Узяў пан палачку і паехаў дамоў. Хваліцца пан сваёй палачкай, не нахваліцца:

— Вось махну раз палачкай — усіх мёртвых ажыўлю!

Памёрла ў цара дачка. Дачуўся цар, што на свеце жыве адзін пан, а ў таго пана ёсць валшэбная палачка, якая можа ажывіць мёртвых. Паслаў цар сваіх слуг да пана. Прыехаў пан у залатой царскай карэце ў царскі дом і кажа да цара:

— Да мёртвай я пайду адзін, каб ніхто мне не мяшаў.

Так і зрабілі. Але цар паставіў каля акна свайго слугу, каб той назіраў, што будзе рабіць пан адзін.

Увайшоў пан, выняў палачку і стаў біць па мёртвай. Раз ударыў — не ўстае, другі — не ўстае. Трэці, чацвёрты — не ўстае. Стаў біць да тых пор, пакуль не пацяклі мазгі. Тады слуга бачыць, што дрэнь справы, данёс цару, што пан не вылечыў дачку, а наадварот, збіў у цеста.

Прыказаў цар арыштаваць пана з яго палачкай. Пан бачыць, што папаўся, ніколі цяпер яму не выкруціцца, і кінуўся ў акно. Застаўся з пана толькі адзін блін.

У бедняка памёрла ў гэты час жонка.

Прыйшоў бядняк да пані і кажа:

— Пані, давай з табой пажэнімся. Я цяпер ужо багаты.

Згадзілася пані. Пажаніліся яны, мабыць, і цяпер яшчэ жывуць.

## 35. КАЗКА ПРА ПЯТРА ВЯЛІКАГА І САЛДАТА

Прыехаў да Пятра Вялікага германскі гасудар. Было іх толькі двое: Пётр і германскі гасудар. І давай яны піць ды гуляць. Панапіваліся і заспрачаліся.

Германскі гасудар і кажа:

— Мае салдаты храбрыя.

— А вось мае,— кажа Пётр,— лепей! Давай не спрачацца. Сядзем на трэцім паверсе каля акна, ты свайго салдата пазавеш, а я — свайго, і скажам: «Прыгай вось у гэтае акно». Хто прыгне на зямлю, той і храбрэйшы.

Пайшоў германскі гасудар, паклікаў свайго салдата.

— Прыгай у гэтае акно, служывы!

— Дайце мне развітацца з сваімі таварышамі,— кажа салдат.

— Ну, ідзі развітайся.

Пётр Вялікі гукае свайго салдата.

— Прыгай у акно, служывы!

— А ў якое акно прыгаць, ваша вялікасць?

— А вось у гэта, дзе мы сядзім!

Толькі ён разагнаўся прыгнуць, яны схапілі яго за шынель і затрымалі, каб не зваліўся з акна.

Гэта быў Пятро-салдат. Даў яму Пётр Вялікі грошай на дарогу і сказаў:

— Едзь дамоў, жаніся і жыві. А калі грошай у цябе не стане, то напішы мне пісьмо,— я табе яшчэ прышлю.

Пятро-салдат пайшоў дадому. Ісці яму трэба было праз лес.

А Пётр Вялікі паехаў у гэты час на паляванне. І заблудзіліся ў лесе і салдат, і цар.

Хадзілі так да вечара і вось сышліся адзін з другім, абрадаваліся сустрэчы і расклалі агонь. У Пятра Вялікага было паесці. Паелі яны ўсё гэта. Глядзяць на дрэва, адкуль парос мох, шукаюць паўночную старану. Пётр Вялікі і кажа:

— Хадзем на поўнач.

Пайшлі яны. Доўга ішлі — усю ноч. Вось бачаць — агонь свеціцца. Ну, і слава богу, што хоць выбіліся к якойсьці дзярэўні. Падыходзяць бліжэй і бачаць: вялікая агароджа і вялікі дом. Стукалі, стукалі ў вароты, але ніхто ім не адкрываў. Сталі яны радзіцца — што рабіць? Салдат кажа:

— Пастаў каня паўз агароджу, сам стань на яго, а я на цябе стану. Можа, я так і дастану верх агароджы.

Так і зрабілі. Пятро-салдат дастаў верх агароджы, пералез, адпёр завалу і адчыніў вароты. Завялі на двор каня, паставілі яго пад навес. Бачаць — пад навесам стаяць сані, вазкі, а ў вазках авёс і сена. Пусцілі каня да аўса, а самі пайшлі ў дом. Там была нямая жанчына. Ківаюць яны ёй:

— Дай нам паесці.

Бачаць — на стале ляжыць булка хлеба, а каля яе манах гарэлкі. Жанчына ківае: «Ешце, моў, хлеб».

А салдат кажа:

— Нішчымнага хлеба мы не будзем есці.

А сам тым часам да печы, адкрыў засланку: у печы стаіць жароўня, поўная вокаркаў і каўбас.

Узялі яны выпілі трохі і давай есці каўбасы і вокарак. Пад'елі і пытаюцца ў жанчыны:

— Дзе нам спаць легчы?

Яна паказала на чардак: «Лезце, моў, там сена».

Выйшлі яны ў сенцы, там стаіць лесніца. Палезлі па лесніцы, адкрылі ў зашыўцы дзверцы і ўзлезлі на чардак. На чардаку

сена і саломы поўна. Ляглі яны спаць. Пётр Вялікі хутка захроп, а салдат не спіць, чуе — хтосьці едзе на конях, аж зямля стогне. Паставілі коней пад навес і пытаюць:

— Што гэта за конь тут стаіць?

Зайшлі ў дом дванаццаць разбойнікаў і пытаюць у нямой:

— Хто гэта прыехаў?

Нямая паказвае:

— Я не ведаю, хто гэта такі. На адным адзежа залатая, а другі — просты.

— Дзе яны?

— Палезлі на чардак спаць.

Тут старэйшы разбойнік і кажа:

— Мы шукаем здабычу, а яна сама прыйшла да нас у рукі. Ідзіце распраўцеся з імі.

А Пятро-салдат слухае. Дастаў шаблю Пятра Вялікага і сеў каля дзверцаў.

Вось лезе п'яны разбойнік адзін. Толькі ён паказаў галаву ў дзверцы — салдат схапіў яго за косы і адрэзаў шабляй галаву. Труп нячутна ўпаў на салому ў сенцах.

Стаў старэйшы разбойнік пасылаць па чарзе на чардак сваіх таварышаў, а салдат усім і паздымаў галовы. Тады старэйшы разбойнік палез сам. Салдат і яму адсек галаву. І ўсе галовы паставіў каля дзверцаў.

Вось ужо раніца. Пятро-салдат будзіць Пятра Вялікага. Устаў Пётр Вялікі, стаў злазіць, падышоў да дзверцаў, бачыць — галовы.

— Што гэта такое?

— Калі б я заснуў, дык нашы галовы вось так ляжалі б,— адказаў салдат.

Тады Пётр Вялікі і кажа салдату:

— Ну, цяпер будзеш маім наследнікам.

Пятро-салдат узяў і матку да Пятра Вялікага, і сталі яны пажываць, і жылі датуль, пакуль Пётр Вялікі не памёр. Тады ўступіў на прыстол Пятро-салдат.

## 36. ЯК САЛДАТ З АРМІІ ІШОЎ

Ішоў, ішоў салдат дадому і застала яго ноч у дарозе. Ішоў ён і загледзеў хатку, і папрасіў бабкі пераначаваць. Яна яму адказала, што няма месца ў хаце.

— Лезь хіба на гару!

Потым прыйшоў яшчэ і цар прасіць, каб пераначаваць.

І палезлі яны на гару начаваць. Цар гаворыць на салдата:

— Ты спі, а я буду пілнаваць.

А салдат адказвае:

— Спі ты, а я буду пілнаваць.

Салдат убачыў, што хтосьці пад'ехаў да хаты.

Гэта былі бандыты. Яны паставілі коні і пачалі ў бабкі піць водку. Потым старая сказала, што на гарэ спяць салдат з царом. Старшы бандыт закамандаваў младшаму, каб расправіўся з імі.

Калі салдат убачыў, што лезе на гару бандыт, ён узяў шаблю і знёс галаву яму з плеч.

Перабіўшы ўсіх бандытаў, яны злезлі з гары і ўвайшлі ў хату і спыталі старой, дзе тое дабро, што тыя награбілі. Старая павяла іх у каморку. І калі салдат з царом увайшлі ў каморку, старая хацела замкнуць іх там. Але ёй гэта не ўдалося. Салдат набраў поўныя кішэні грошай і паехалі дахаты. Пад'язджаюць яны да горада, і цар гаворыць на салдата:

— Ты ідзі, а я паеду ў горад.

Цар заказаў музыку, а сам пайшоў сустракаць салдата. Сустрэўшы салдата, цар сказаў:

— За тваю храбрасць будзеш намеснікам у мяне.

## 37. ЯК ІВАН НАПАЛОХАЎ РАЗБОЙНІКАЎ І ЗБАВІЎСЯ АД ПАПА І ДЗЯКА

Жыў-быў мужык з жонкаю. Звалі яго Іван, разумны ён быў чалавек, а як збяднеў, дык пачалі зваць яго Іван-дурань. Быў Іван з жонкаю ні малады, ні стары, а так сабе ў сярэдніх гадах.

Жылі яны, працавалі, гаравалі, зямлю потам палівалі, а прыбытку ў сваёй гаспадарцы не мелі.

Прадалі яны карову ды каня ў галодны год, а самі пачалі жыць у старэнькай хатцы.

Аднаго разу Іван кажа жонцы:

— Знаеш што, жонка, чым паміраць галоднай смерцю, дык лепш ісці жабраваць, няўжо людзі не змілуюцца нада мной ды не кінуць мне кусочак хлеба?

Згадзілася жонка, і пайшоў Іван па свету плясціся, хлеба ў добрых людзей прасіць.

Але бедны люд быў у той час. Мала было ў іх саміх хлеба, а жабракоў многа, ой многа!

Пайшоў Іван у другую зямлю, а ісці трэба было цераз цёмны лес. Ішоў ён, ішоў, стаміўся, адпачыць пара, але ні душы чалавечай, толькі ваўкі выюць ды нейкая птушка крычыць страшным голасам.

Але бачыць Іван: хатка стаіць каля дарогі. Узрадаваўся. Пайшоў ён у гэту хатку, бачыць гаспадароў нямашака, толькі кот сядзіць на прыпечку.

А ў хаце чаго толькі няма.

А на стале яшчэ лепшае, як у нашага пана.

Сеў Іван за стол ды пачаў усё падчыстую падмятаць, бы не еў ён сколькі дзён.

Паеў, закурыў люльку, і стома падышла к яму. Лёг ён пад ложак і заснуў трывожным сном.

А ў той хатцы жыло сем братоў-разбойнікаў. Вось прыходзяць браты-разбойнікі і бачаць, што хтосьці ў іхняй хатцы гаспадарыў, нямашака на стале нічога, торба якая-то ляжыць ля парога.

— Ну што калі хто быў, ці будзе яшчэ. Такая сіла нас,— кажуць браты-разбойнікі.

Пашукалі браты-разбойнікі ў хаце, за хатай, толькі пад ложак не зірнулі, і селі.

А Івану сніўся дрэнны сон — нібыта ловіць ён чорта ў балоце. Як зараве Іван:

— Лаві, трымай яго! Вунь ён!

Папалохаліся браты-разбойнікі ды наўцёкі.

Пакідалі яны і ўсё нарабаванае. Неўзабаве прачнуўся Іван, змёў яшчэ тое-сёе са стала ды і хацеў ісці ў пуць-дарожачку. Спяшаўся Іван, бо ведаў, што прыдуць гаспадары і ўсыпяць яму, як багатаму.

Толькі прыгнуўся сваю торбу браць, аж бачыць — клумкі ляжаць.

Баднуў лапцем у адну, нешта цвёрдае, звоніць. Развязаў ён,— аж там грошы, залатоўкі, насыпаў ён сваю торбачку хуценька ды пайшоў дадому рад-радзёханек.

«Паразумнеў» тут наш Іван і купіў ён хату, прама не хату, а пакоі, каня ды карову і пачаў жыць-пажываць.

А ў гэтай вёсцы быў надта зайздросны поп. Убачыў гэта і гаворыць:

— Іван, мабыць, з разбойнікамі ты звязаўся, дабра колькі ў цябе!

І пачаў поп сачыць за Іванам. Спатрэбілася нешта раз Івану ў горад купіць тое-другое, бо, вядома, гаспадарка, усё ламаецца, рвецца, на новае спадзяецца.

Прыязджае ён у горад, зайшоў у краму, пахадзіў ля прылаўка, паглядзеў тавар ды кажа крамніку:

— Ведаеш што, паночку, дам я табе вось гэтыя грошы і буду браць тавар, пакуль не набяру на ўсе.

Згадзіўся крамнік. Іван наш закурыў люльку і кажа:

— Падай мне тагда тавару столькі, а такога столькі.

І набраў ён такі ворах тавару, што і сабака не пераскоча. У гэты ж якраз час у краму з'яўляецца поп з дзякам.

Іван наш упакаваў тавар, падышоў к крамніку, зняў сваю парваную шапку ды стукнуў разы са два аб прылавак і кажа:

— Разлік! Разлік!

Крамнік здагадаўся і таксама стукнуў аб прылавак і кажа:

— Разлік! Разлік!

Убачыў гэта поп з дзякам, і вочы ў іх на лоб палезлі.

— Чаму ты, Іванька, не плоціш? — пытаецца поп.

А крамнік у гэты час заняўся з нейкім другім купцом.

— А ў мяне, бацюшка, шапка-разлічка, яна за ўсё і разлічваецца,— кажа Іван.

— Прадай ты яе мне, Іванька,— кажа поп.

— Што вы, бацюшка, я ж праз яе багацце такое нажыў, яна мяне ад галоднай смерці выкупіла, а вам яна не трэба, прыбытак у вас добры і без яе.

Стаў поп прасіць-маліць, не адчэпішся. Іван паламаўся крыху ды і згадзіўся, запрасіўшы 500 рублёў. Поп узрадаваўся і пачаў з дзякам грошы з кішэняў насыпаць. Узяў наш Іван грошы і тавар ды дадому, а поп па краме з шапкай-разлічкай ходзіць ды тавар бярэ.

Браў ён з дзякам тавар, што на прылаўках ужо мала засталося.

Крамнік здзівіўся ды кажа:

— Разлічвайцеся, бацюшка.

— Добра! Хутка буду разлічвацца,— кажа поп.

Выняў ён сваю чароўную шапку-разлічку ды трах, трах аб прылавак і кажа:

— Разлік! Разлік!

Глядзіць крамнік, вылупіўшы вочы, і нічога не разумее.

Поп таксама глядзеў, глядзеў ды ад злосці як грукне аб прылавак, ды як крыкне на ўсю краму:

— Разлік! Разлік!

— Вар'ят нейкі,— падумаў крамнік.

Паклікаў паліцыю, поп пачаў не давацца, паліцыя звязала папа з дзякам ды вонкі выштурхнулі. Панёсся поп прама к Івану.

А Іван не дурны чалавек, лёг ён на ўслон, абкрыўся белым і ляжыць, быццам бы памёр, а жонцы сказаў, каб паклала ля дзвярэй палачку.

Ляжыць Іван, а жонка галосіць ды прычытаець:

— А божа ж мой міленькі, як я жыць цяпер буду. А татулькі мае родныя, а матулькі!

Убягае поп з дзякам у хату, раззлаваўся, вочы вытарашчыў, бы чорт, ды як крыкне:

— Дзе той нягоднік?

А жонка кажа:

— Памёр ён, бацюшка, цэлы дзень праляжаў ды памёр.

Захваціў поп са злосці палку ды к Івану падскочыў. Перахрысціўся поп ды давай дубасіць Іванку. А Іван як бы спрасонку вочы адкрывае, глядзіць кругом ды кажа:

— Вялікі вам, бацюшка, дзякуй, што разбудзілі мяне гэтай палачкай жывільнай, ато спаў бы я вечным сном. Дайце мне гэтую палачку, я ёй цуды тварыць буду.

А поп тут пра шапку-разлічку забыўся, глядзіць на палачку-жывілец.

Пачаў ён Івана нашага прасіць, каб ён прадаў яму гэты жывілец.

А Іван кажа:

— Як аджывілі мяне вы, бацюшка, дык за 1000 рублёў бярыце.

Тут поп з дзякам сабралі 1000 рублёў, узялі жывілец ды пайшлі збірацца ў дарогу.

А дарога была во якая: у той час памёрла ў аднаго гасудара дачка.

А гасудар казаў:

— Калі хто ажывіць маю дачку, дык паўцарства аддам.

Тут поп і задумаў падзарабіць ды славу заваяваць.

Ехалі яны многа ці мала, але прыехалі к таму гасудару якраз. Цар-гасудар здзівіўся, узрадаваўся, прама на цыпачках каля папа ходзіць.

Адвёў ён іх у асобны пакойчык, прынёс туды царыцу-красавіцу і пакінуў там аднаго папа з дзякам.

Дастаў поп палачку-жывілец ды давай хлястаць царскую дачку, а яна не ўстае, аддаў дзяку, той біў, біў, усё не ўстае.

Выхваціў поп зноў палачку-жывілец у дзяка ды па галаве як пачаў біць, аж мазгі пацяклі, а царэўна ўсё мёртвая ляжыць.

Поп тут ужо сам здагадаўся ды давай наўцекача, бо цар, каб злавіў, ён ім напэўна б галовы паадсякаў.

Ведае Іван, што яму цяпер не здабраваць, рашыў ён забіць дзяка з папом.

І кажа ён жонцы:

— Як прыбяжыць поп з дзякам, ты ім скажы, што я лапці пляту, і я што-небудзь з імі зраблю.

Прыбягае поп і крычыць немым голасам.

— Дзе той нягоднік!

А жонка, спалохаўшыся, кажа:

— Вось тут, лапці пляце.

Поп з гарачкі за тапор ды туды, а Іван наш ломам папу ў лоб.

Дзяк туды заскочыў, ён і дзяку стукнуў, не жалеючы.

Справа гэта была якраз на хрышчэнне. Мароз тады быў вялікі, аж вушы трашчалі.

Якраз цераз сяло, дзе жыў Іван, праходзіла вайсковая часць.

К нашаму Івану папрасіўся адзін салдат ночку пераначаваць.

Іван і кажа салдату:

— Начуй, мне не жалка, але чэрці ў мяне, служывенькі, спаць не даюць, стукаюць за пераборкай, бегаюць.

А салдат кажа:

— Заплаці мне грывеннік, дык ні аднаго чорта за ноч не застанецца.

Наш Іван рад, згадзіўся.

Як толькі змяркацца пачало, паставіў ён папа за пераборкай, а той, бы дзеравянны, бо, вядома, з марозу.

Прывязаў ён к руцэ папоўскай вяровачку ды працягнуў сабе на полак.

Толькі задрамаў салдат, а Іван цягіль, цягіль за вяровачку, а поп стук, стук рукой аб пераборку. Салдат тут падняўся ды за пераборку.

Згроб ён папа, а Іван кажа:

— Служывенькі, нясі яго к царкві на возера, там ваду свяцілі і пролламка ёсць.

Папёр наш салдат чорта-папа к цэркві і ўтапіў. Ляглі спаць, тут наш Іван таксама: цягіль, цягіль ужо за дзякаву руку, а той таксама: стук, стук.

Салдат ужо са злосці як рынуўся, схваціў дзяка ды папёр к проламцы.

А царкоўны сторал заўважыў ды пабег к архімандрыту, які праездам спыніўся ў старой папоўскай хаце, і кажа:

— Якраз як нашага бацюшку служывы панёс.

Архімандрыт падхапіўся ў ніжнім бяллі ды за салдатам. Бяжыць архімандрыт і крычыць:

— Хто ідзе?

— Салдат.

— А каго нясе?

— Чорта!

— Куды нясеш?

— Тапіць!

Салдат утапіў дзяка ды за архімандрытам, бо і той на чорта быў падобен: валасы распусціў, вочы вытарашчыў ды белы ў бяллі.

Бег ён, бег за архімандрытам, няможна дагнаць, але паслізнуўся на льду, бо, вядома, цяжкі, неўваротны.

Тутака наш салдат падхапіў архімандрыта ды волакам к проламцы, той крычаць, крычаў, крычаў, але салдат пад лёд запіхнуў архімандрыта, бурбаўкі пайшлі. Прыходзіць салдат к Івану і кажа:

— Ведаеш што, два чорты ўтапіў, а трэці за мной, напэўна, дагнаць хацеў, а я за ім, дагнаў яго, ён цяжкі, напэўна, бацька чарцячы.

Заплаціў яму Іван грывеннік, салдат стаў рад-радзёхенькі і лёг спаць пасля стомы.

Дык вось якія былі ў нас Іван і салдат. Салдат зарабіў сабе грывеннік і добра, а Іван разумны пачаў жыць-пажываць, папоўскія грошы пражываць.

## 38. ЯК МУЖЫК ПАПОЎ АШУКАЎ

Жыў вельмі бедны мужычок, такі бедны, што хлеба ў яго не хапала нават да каляд. Адзін год сядзяць дзеткі дома галодныя і горка плачуць. Не выцерпеў мужычок, завугаў за рогі апошнюю карову і павёў яе на базар. Сустракае папоў. Папы яму і кажуць:

— Прадай казу.

— Якую казу? Гэта ж карова.

— Якая карова, спытайся ў людзей.

Ідзе пан. Ён і пытае яго.

— Якая гэта карова, адным словам, каза,— кажа пан.

Ідзе дзяк. Пытае ён і яго.

— Каза, а не карова, здурэў ты, чалавек.

Прадаў бядняк папам карову за казу. Накінулася на яго дома жонка.

— Не крычы. Я яшчэ ім адпомшчу,— кажа бядняк.

Пайшоў ён да багатага брата, пазычыў у яго 150 рублёў. Зайшоў у адну карчму, згаварыўся з карчмаром і аставіў яму 50 рублёў. Тое ж сама зрабіў і ў двух другіх карчмах. Прыйшоў на базар і сустракае зноў папоў. Ён ім і кажа:

— Вы ж казу купілі, а барышу не пілі. Трэба і барыш папіць.

— Хадзем.

Пайшлі. Зайшлі ў адну карчму. Просіць мужык у карчмара піць і есці. Выпілі, закусілі. Узяў мужык капялюш, стукнуў і кажа:

— Квіт?

Карчмар адказвае:

— Квіт.

Пайшлі ў другую карчму. Набраў мужык выпіць і есці. Выпілі, закусілі, узяў мужык капялюш, стукнуў і кажа:

— Квіт?

Карчмар адказвае:

— Квіт.

Пайшлі ў трэцюю карчму. Набраў мужык выпіць і есці. Гаворыць карчмару:

— Квіт?

— Квіт,— адказвае карчмар.

Зайшлі ў чацвёртую карчму. Там мужык зноў набраў піць і есці і зноў расплаціўся такім жа спосабам. Папы аж вочы вылупілі ад зайдрасці. Пачалі шаптацца, што, мабыць, у мужыка капялюш чарадзейны.

А мужык сказаў:

— Да пабачэння,— і пайшоў.

Згаварыліся папы паехаць да бедняка і купіць у яго капялюш. Прыязджаюць да яго. Набралі гарэлкі, закускі. Пояць яго, каб адурманіць, а потым ашукаць. А мужык змікіціў гэта. Калі пачалі паны прасіць прадаць капялюш, ён не згадзіўся, а сказаў:

— Капялюш корміць і поіць не толькі мяне, а і маіх дробных дзетак і прадаць ніяк нельга.

— Дык мы табе дадзім вялікія грошы — 300 рублёў.

— Не, не прадам.

Пачалі прасіць папы, прыбавілі яшчэ пяцьдзесят рублёў. Тады мужык аддаў ім капялюш. Аддаў мужык грошы брату, якія ў яго пазычаў, купіў карову, каня, хлеба. Жыве і гора не ведае.

А папы барджэй у карчму. Сталі піць заморскія віна, есці самыя дарагія стравы. Напіліся, аж языкі заплятаюцца. Стукнуў адзін поп капялюшом і кажа:

— Квіт?

Карчмар жа кажа:

— Які табе квіт? Заплаці грошы — і будзе квіт.

Другі поп кажа першаму:

— Ты не ўмееш. Давай я. Я бачыў, як рабіў мужык.

Узяў капялюш, стукнуў рабром і кажа:

— Квіт?

— Які табе квіт. Не прыдурвайся, плаці грошы — і будзе квіт.

Схапіў капялюш трэці поп. Але і ў яго нічога не атрымалася. Вымушаны былі заплаціць папы з свайго кармана.

— Што будзем рабіць з гэтым ашуканцам-мужыком? — пытае адзін поп.

— Адбярэм грошы,— адказвае другі.

Так і рашылі. Паехалі па мужыка. Двое засталіся на двары, а адзін пайшоў у хату. А ў мужыка быў глыбокі пограб, поўны вады. Вось ён, калі поп прычапіўся аддаць грошы, піхнуў яго туды, поп і захлынуўся.

— Што ён так доўга не ідзе? Можа, грошы не злічыць? Пайду я дапамагу,— кажа другі поп. Пайшоў ён у хату, а мужык і яго ў пограб. Ждаў, ждаў трэці поп, не дачакаўся і пайшоў у хату. Толькі ён у хату, а мужык мялам па галаве ды і яго ў пограб.

Адумаўся мужык, баіцца, што прыдзецца адказваць. А тут якраз прыйшлі ў вёску салдаты. Адзін салдат прыйшоў на начлег да яго. Вось ён і кажа яму:

— Быў у мяне поп і так напіўся, што паслізнуўся і ўпаў у расчынены пограб. Не паспеў я яго выратаваць, як ён ужо адправіўся да свайго бога. Баюся, што мяне абвінавацяць.

— А ты дай мне кварту гарэлкі, стары дурань, дык я яго занясу ў раку.

Мужык абрадаваўся. Паставіў тры кварты гарэлкі, напаіў салдата. Сцямнела. Палез мужык у пограб, выцягнуў папа, дапамог салдату падняць на плечы. Пацёг салдат папа ў рэку. Варочаецца назад, а мужык і кажа:

— Прыбег той поп назад.

— А хварэць яго мацяры. Я ж яму пакажу!

Узяў мяла ды давай яго лупіць. Узваліў на плечы і пацёг зноў. Укінуў у рэку і другога папа. Але толькі прыйшоў салдат у хату, як бачыць: ляжыць зноў поп. Узяў салдат сякеру, адсек галаву і пацёг у рэку:

— Ну, цяпер ужо не вылезеш!

Ідзе ён дадому аж бачыць: едзе поп на брычцы.

— Ах, ты кудлаты, ты зноў вылез.

Да за яго, згроб з каляскі, стукнуў галавою аб калясо, што ў таго і дух выперла, і панёс тапіць.

Сеў у брычку і прыязджае да мужыка:

— Бач, які хітры. Успеў выскачыць з вады і ўкрасці каляску. Але цяпер ужо не вылезе.

— Да ты забіў папа з нашай вёскі? Гэта ж яго конь! Той жа поп быў не наш!

— Чорт іх пахватаў. Бяры вось брычку ды стаў магарыч!

— Не, брычку я не вазьму, а гарэлкі пастаўлю.

Напаіў мужык салдата, а каня ў брычцы пусціў па дарозе.

## 39. ЦЯГАЎ ВОЎК АВЕЧКІ, ПАЦЯГНУЛІ І ВОЎКА

Быў сабе адзін мужык з жонкаю, нічога ў іх не было, анно вол і бычок-сысунец. Абрадзіліся яны з жонкаю, што трэба вала прадаць, то будзе за што хлеба купіць, а бычок няхай гадуецца.

І павёў на кірмаш таго вала.

Анно ж знайшлося трох скалазубнікаў, абрадзіліся між сабою:

— Ён,— кажуць,— някі быў дурнаваты, угаворым яму, што гэта цяля, не вол, то купімо за бесцань.

Ну, так падходзіць перш адзін да яго дай кажа:

— Што, чалавечку, просіш за гэта цяля?

— Ля, шэсцьдзесят рублёў.

— Здурэў ты — ля, за цяля шэсцьдзесят рублёў, як за вала!

— Ля, то ж гэта вол — ні цяля!

І давай у спрэчкі: той кажа цяля, той кажа вол. Ну, адступіўся той купец, ажно падходзіць другі сябар і той таксама га-

ворыць. Той ужо сабе і не давярае: а мо гэта і цяля, але чаму ён мне такі вялікі выдаецца?

Потым і трэці падышоў і збілі чалавека з толку, што той і зусім даў веры, што гэта цяля, і прадаў за тры рублі.

Так купцы павялі сабе вала рагочучы, а той пашоў, бы то п'яны, дахаты.

Так жонка пытае:

— Колька ўзяў за вала?

— Анно,— кажа,— тры рублі, бо гэта я цяля прадаў, а не вала.

Жонка ў крык:

— Ці гэта ты здурэў? А то ж цяля ў хлеўчыку, а ты вала прадаў!

Ён пашоў, паглядзеў — праўда! Усю ноч думаў, думаў і надумаўся сабе адну рэч. Устаў раненька, узяў цяля з хлява дай павёў прадаць. Анно ж і тыя самыя купцы падходзяць:

— Ну, што ты хочаш за тое цяля?

— Ля, то ж гэта вол, ні цяля, вы ўчора ў мяне купілі цяля!

— Што ты, чалавеча, можа ўкляпаўся? То ж мы ўчора і на кірмашы не былі!

Так ён нічога ім больш не сказаўшы, прадаў цяля за тры рублі. Сам гэта хутчэй пайшоў, купіў за тры рублі капялюша такога, як венгрыны носяць, дай то забегшы да трох корчмаў, падаваў па рублю шынкаркам дай кажа:

— Я прыду сюды на барыш, то не хачу тады дурыцца, а мо і напіты буду, то маеш цяпер грошы.

— Добра,— кажа,— я цябе па гэтым капелюшы пазнаю.

Пашоў, анно ж зараз і спаткаўся з тымі купцамі. Так яны кажуць:

— Чалавечку, ты нас ашукаў, тое цяля не варта гэтых грошай, што мы далі, вярні нам хоць з рубельчык.

Так ён кажа:

— Грошай не вярну, калі хочаце, хадзеце за мною барышу нап'емся.

Яны маргнулі адзін на другога, засмяяліся: добра і тое. Увайшлі да карчмы, ён кажа да шынкаркі:

— Дай нам выпіць і закусіць, толькі што добрага!

Шынкарка ім настаўляла якраз на таго рубля, дый ужо як папілі, паелі, так той чалавек устаў, патрос капялюшам дай кажа:

— Шынкарачка, ушыстко заплацоно?

— Заплацоно!

Ну, вышлі, пахадзілі крыху, так ён кажа:

— Ведаеце што? Кірмаш, а чалавек не падпіў добра. Хадзем яшчэ!

І павёў іх, да ўжо ў другую, не ў тую самую.

І там таксама зрабіў ім. Так яны пачалі меркаваць: гэта штось е ў гэтым капелюшы, ён не плаціць і не вінават!

Пахадзіўшы крыху, давай самі прыгаворывацца:

— Яшчэ,— кажуць,— «на расходніка» варта было б выпіць.

Ён учыніўся ўжо п'яным, што не памятуе, што робіць, дай кажа:

— Ну, добра, хадзем!

Пашлі ў трэцюю карчму і там таксама зрабіў. Так яны шэпчуць між сабою:

— Гэта, мусіць, такі капялюш, што грошы сыплюцца, анно ніхто не бачыць, толькі той, у каго капялюш. Трэба ад яго выкруціць, пакуль п'яны.

Дый прысталі да яго:

— Чалавечку, прадай нам капялюш.

А ён кажа:

— А-а, ніндачкі не прадам. Гэта мой усей спосаб, мы з жонкаю з голаду памерлі б!

Так іх яшчэ ахвота лепш ударыла, давай дурыць яго, давай дурыць, так ён кажа:

— Дасце пяцьсот рублёў, то аддам.

Яны яму хутчэй грошы ў рукі, а самі за капялюш дый уцекі ад яго. Прышоў дахаты, падаў жонцы грошы, дай то абстругаўшы качалачка, панарэзваў на ём цацкі ўсялякія, прыбраў устужкамі дай кажа:

— Я лягу на лаве і ўчынюся нежывым, а як прыдуць сюды мужчынаў трох, то ты ўсё плач дай усё гэтым качалачкам штырхай мяне.

Яна так і зрабіла.

Прыходзяць яны:

— Ля! Што гэта такое?

— Я й сама не ведаю, вярнуўся з кірмашу п'яны дай зараз умёр.

— Нашто ты яго штырхаеш?

— Бо гэта такі чэнчык, што як трапіш у такое месца, то нябожчык аджыве, але я не ведаю таго месца, ён то ведаў.

Дай усё штырхае і штырхае. Анно ён схапіўся, сеў дай кажа:

— А-а, я так лёгка заснуў, што гэта было?

— Ты не заснуў,— кажа,— анно ўмёр!

Так яны нічога ўжо яму не спамінаюць, што іх шынкары папабілі, анно ўчапіліся да таго чэнчыка:

— Прадай нам!

— А бойцеся бога, гэта мой усей спосаб!

— А які гэта спосаб?

— От, падчас хто ў багатых паноў умрэ, то я пайду, аджыўлю, то мне дадуць, што я сам схачу за тое.

Так яны яшчэ лепш прысталі. Пачалі дурыцца і то, даўшы яму надта многа грошай, забралі чэнчык дай пашлі.

Ідуць, анно ж даведваюцца, што надта пан багаты недалёка ўмёр. Бягуць яны туды і кажуць:

— Так і так, мы можам аджывіць.

— Добра.

Так старгаваліся, колькі ўзяць за тое, і давай штырхаць таго пана тым ва́лачкам,— аж чыста на ём скуру паабсоўвалі. Так гэта таго нябожчыка сын уступіў у злосць, казаў павязаць і адаслаў іх недзе да астрогу.

От як ашуканства ў карысць не пашло.

— Цягаў воўк авечкі, пацягнулі і воўка!

## 40. ЯК МУДРАГЕЛЬ П'ЯНІЦАЎ АШУКАЎ

Адзін чалавек быў сабе надта вельмі мудрагель, а было зноў шэсць п'яніцаў велькіх да багатых, так ён усё думае думку, як бы тут іх ашукаць? Ну, так гэта пашоў да аднае карчмы, даў карчмару грошай дый кажа:

— Я тудакава прыду з маімі кампанамі, так вы падавайце ўсё тое, што я скажу, дый калі спытаю, перакруціўшы шапку, ці заплачана? — скажы: заплачана.

— Добра.

Потым пашоў і да другой карчмы, таксама ўмовіўся, і да трэйцяй, нарэшце, і да тых п'яніцаў дый кажа:

— Пойдзем мы хоць раз да карчмы, то ўжо я вам захфундую.

— Добра.

Пашлі яны да карчмы, так ён кажа да шынкара:

— Ну, рандар, дай таго і таго!

Той даў, ён пакаштаваў — да лоп! аб зе́млю:

— Дай накшага!

Шынкар дасць, ён пакаштуе і зноў аб зе́млю, а тыя сядзяць галодныя. І так пагракатаў усё. Пры канцы ўжо, перакруціў шапку дый пытае:

— Заплачана табе?

— Няўжэж, заплачана, заплачана, можаце ісці дахаты.

Так гэта ўстаўшы, кажа:

— Хадзем,— кажа,— браткі, да другой, бо тут усё нялюдскае!

Ажно і там таксама зрабіў. Ну, як ужо вышлі з трэйцяй, так тыя, думаўшы, што гэта тая шапка за ўсё плаціць, кажуць:

— Прадай нам, браце, гэту сваю шапку.

— Што вам, браткі, стала, хіба вы падурэлі? Я за гэту шапку п'ю і купляю ўсё, жонка п'е і купляе і дзеці мае, і я б яе меў бы б прадаць?

Ажно тыя як пачалі прасіць, маліць, навалілі яму золата, колька сам хацеў...

— Ну,— кажа,— што тут зробіш, калі вы гэдак просіце, мушу вам гэта ўжо ўчыніць.

Тыя ўхапілі шапку, такія ра-адыя пабеглі да карчмы, а ён гэта, перабраўшыся, за імі.

Уходзяць яны ў карчму, а ён гэта, перабраўшыся, за імі. Уходзяць яны ў карчму дый крычаць:

— Давай нам таго і таго.

Шынкар думае сабе: «Мо і ад іх гэдак утаргую», падаў ім зара, чаго хацелі, а яны пакаштуюць, ні пакаштуюць — го-оп! — да го-оп! аб землю: гэта такое, гэта гэдака! Нарэшце, адзін перакруціў шапку дый пытае:

— Заплачана табе?

— Не яшчэ!

— Ны,— кажа,— ты дурны, не так круціш! — я сядзеў блізка яго, то добра бачыў,— і гэта, злажыўшы на сваю голаў, пытае:

— А што, заплачана?

— Ны, што вы, падурэлі? Хочаце мяне абшукаць? — дый стаў у дзвярох, каб не паўцякалі.

Так нішто рабіць, заплацілі за шкоду дый пашлі да другой.

І там таксама!

Пашлі да трэйцяе — усё аднакава! А той усё за імі наглядам ходзіць, ажно яны гавораць да се:

— Што яму тут зрабіць? Гэта ён нас ашукаў!

— Ля, што? Забіць гіцля дай годзі!

Той, гэта пачуўшы, пабег дахаты, умыўся, увабраўся, лёг на лаве, паставіў у канцы галавы крыж, а на жонку кажа:

— Ты тудака сядзь, дай вычытвай усяляк, а калі хто прыдзе, то скажы, што я ўмёр.

Яна села, ажно ўбягаюць тыя:

— Дзе мужык?

— Ляньцеся! Умёр сёні, от ляжыць на лаве.

А яны:

— Што тут яму зрабіць за гэта?

Дый то, узяўшы адзін крыжа — цюк! яму ў грудзі, а ён схапіўся:

— А мае вы, браткі, такія-гэдакія, вы,— кажа,— мяне ад смерці выратавалі! Я быў у пекле, у небе, у атхланні, чысцы, а вы як дзюгнулі крыжам, так я бы то зо сну ўстаў.

Так яны шэпчуць да се:

— Трэ ад яго гэтага крыжа адкупіць, будзем хадзіць па свеце, людзі ад смерці ратаваць дый грошы браць добрыя за гэта.

Дый кажуць:

— Прадай нам, братка, гэтага крыжа.

— А-ах! мае вы браткі, што-о вам гэта? Я па свеце як пайду, то не думайце, што грошай вазьму.

Ажно яны як прысталі, як насталі, так прадаў ім за горбу золата.

Пашлі яны ў свет, выпытваючыся, ці хто ні ўмёр? Ажно якраз кажуць: кралеўска дачка ўмярла. Так яны туда дый кажуць: так і так. Упусцілі іх туда, дзе кралеўна ляжала, яны зачыніліся, узяў адзін крыжа і дзюб! — не ўстае:

— Ля! Як ты дзяўбеш? дурноце!

— От як трэба!— і як дасць, так аж да косці. Ніц!

Так яны гэта напераменy: то той, то той, як пачалі дзяўбсці ад пят да галавы, на ўсе чатыры бакі перакідаючы,— чыста яе здзяўблі, анно косці свецяцца!

А кроль гэта ўсё бачыў праз дзірачку, так гэта казаў іх узяць, павязаць дый як сабак павешаць.

## 41. ЯК ПОП АБМАНІЎ ТАРАСА АДНАЖДЫ, А ТАРАС ЯГО ДВАЖДЫ

Жыў мужычок бедны, і была ў яго жана, а дзяцей не было. Пражыўся да таго, што хлеба купіць не за што. Была ў іх карова.

— Ну,— гаворыць мужык,— жонка, павядзем, прададзім карову да хлеба купім.

Павёў мужык карову прадаваць. Едзіць свяшчэннік з прычэтам з горада, сустракаецца з етым мужыком:
— Здароў, Тарас!
— Здароў, бацюшка!
— Куды ты ета казу вядзеш?
— Бацюшка, ета ж карова!
— Нет, свет, ета каза, вун і дзякан скажыць.
Дзякан гаворыць:
— Ета каза!
Мужычок етый асуміўся. Поп гаворыць:
— Брат Тарас, прадай мне ету казу — вот табе 3 рублі.
Нечага дзелаць мужычку: ён узяў і прадаў ету карову заміст казы за 3 рублі і пашоў двору. Гаворыць на жану:
— Якая ты глупая: заміст каровы казу забратала!
Жонка на яго напусцілася:
— Што ты з ума сайшоў? Козы ўсе дома, а каровы нетуці.
— Ну, баба, што дзелаць?! Я прадаў свяшчэнніку — як-небудзь апосля разбярэмся.
Даў бог другое скрысенне. Едзіць Тарас у горад і знаець, што свяшчэннік са сваім прычэтам зайдзець у трахцір абедаць. Падгаварыў ён трахціршчыка:
— Я вып'ю і закушу на грывеннік, а ты гавары, што на сто рублей.
Еты прычэтнікі сядзяць у другім нумары і гавораць:
— Во мужык Тарас: за адзін абед 100 рублей правёў! Гэта ж мы ўчацвяром і то рублей 10 правядзём, а ён сто рублей!..
Глядзяць яны ў дзірку: чым гэта будзіць Тарас расплачывацца.
Тарас як ташчыць калпак аршына ў 1,5, уносіць у трахцір. Ударыў раз па калпаку:
— Што, трахціршчык, заплочана?
— Заплочана.
Поп ета відзіць і дзівіцца з прычэтам. Другі раз ударыў Тарас па калпаку — да звіданія. Трэці раз ударыў — гаворыць трахцірщчык:
— Ну, маладзец, Тарас: плаціць умееш.
Свяшчэннік і гаворыць:
— Рабяты-прычэтнікі, купім у Тараса етый калпак: ён нам будзіць нада: у нас жодную паездку будзіць дармавэй абед у трахціры. Ну, дзякан, ты кладзі 25 рублей, дзячкі паложуць умесце 25, а я адзін 50: за 100 рублей, можа, прадасць калпак.
Тарас едзіць дамоў, даганяець яго свяшчэннік:

— Што, Тарас? Прадай етый калпак нам: етый калпак нас будзіць вызваляць. Што ты за яго вазьмеш? Мы табе, Тарас, дадзім 50 рублей серабром.

— Не, бацюшка, нікак нельзя атцоўскае благаславенне пакідаць: хуць жа раз злучыцца ў горадзе быць, дак пап'ю-пагуляю.

— Ну, паслухай, Тарас: вот табе 100 рублей серабром.

— Не, ужо, бацюшка, када хочыце купіць, дак прадам за 150 рублей.

— Ну, прычэтнікі, купім січас, а то хто-небудзь дарожы дасць.

Купілі етый калпак за 150 рублей. Прыязджаець Тарас двору і гаворыць на хазяйку:

— Ну, хазяйка, бранілась ты на мяне, што я заместа казы карову прадаў,— прадаў і я свой калпак за 150 рублей.

Тарас етый троху паправіўся жыць. Свяшчэннік дажыдаець праздніка, штоба ехаць у горад на дармавэй абед. Паехалі яны і з жонкамі, і з нянькамі, і з дзяцьмі ў горад. Заказалі трахціршчыку:

— Дай-ка нам на 200 рублей папіць-пагуляць!..

Трахціршчык гатоў: падаў на 200 рублей.

Як паелі:

— Ну, гаспадзін свяшчэннік, пажалуйце і рашчот.

Бацюшка вылазіць:

— Січас, гаспадзін трахціршчык.

Прынёс панамар з двара калпак. Свяшчэннік як ударыў:

— Ну, ці ў рашчоце, трахціршчык.

— Не-е, поп, падай дзеньгі.

Січас поп аддаў дзякану біць: дзякан біў, біў — усё рашчот спрашыюць. Усе етый калпак білі, а ўсё рашчот спрашыюць. Сталі складывацца, занялі дзенег і заплацілі ў трахцір.

Тарас еты дзеньгі года за два спусціў, гаворыць, на хазяйку:

— Што, баба? Умірай-ка ты, а я паеду за свяшчэннікам, я яму скажу: «Бацюшка, пажалуйце з пакаяннем: мая хазяйка нездарова».

Прыязджаець к свяшчэнніку. Бацюшка і пытаець:

— Ну, што ты прыехаў?

— А што, бацюшка, пажалуйце з пакаяннем: хазяйка ўміраець.

Сабраўся поп і паехаў з Тарасам. Прыязджаюць. Хазяйка ўжо ўмерла і ляжыць на куце прыбраная.

— Вот, бацюшка, благаславіце-ка вы мяне! У мяне ёсць старынная дубіна (яшчэ калі свет зачынаўся): я сваю жонку тры разы ўдару, дак яна атжывіцца.

— Ну,— гаворыць поп,— калі ета яшчэ ад старых атцоў, то благаслаўляю!

Бацюшка з вотарапу вышаў у сенцы, а Тарас прымер здзелаў: жану не біў, а ўдарыў па лаўкі вокала яе тры разы — яна замычэла. Як бацюшка быў чалавек добры, то абрадаваўся, што чалавек атжывіўся. Уходзіць у хату: яна ўжо сядзіць на лаўкі і паківаваецца, тут ёй далі вадзіцы халодненкай напіцца. Яна стала ачухвацца: бацюшка паблагадарыў яго за ета і паехаў дамоў. Прыехаў дамоў і перасказыець свайму прычэту злучай, што пры ім злучыўся.

— Как бы нам ету дубіну купіць як мы на похараны ездзім, то мы етаю дубінай аджывалі ба мертвяцоў. Складзёмся мы і купім у яго дубіну.

— А вы, бацюшка, з'ездзіце, патаргуйце.

— Не, паедзімце ўсе туды.

Прыязджаюць яны к етаму Тарасу.

— Што, Тарас, прадасі нам тую дубіну, што людзей аджываець?

— Прадам.

— Што ты за яе вазьмеш?

— Ах, бацюшка, дайце 500 рублей.

Ну, яны і радуюцца.

— Я,— гаворыць поп,— адзін палажу 250 рублей, а вы, прычэт, утраём 250.

Аддалі дзеньгі і дубіну з сабою ўзялі. Толькі яны прыехалі дамой, прыехаў к ім купец багатый.

— Бацюшка, у мяне сёння жана памерла: пабеспакойцеся цела схараніць.

— Січас, гаспадзін купец, прыедзем.

Сабраліся яны ехаць і ўзялі ету дубіну з сабой. Прыязджаюць, ляжыць на стале цела. Гаворыць поп на дзякана:

— О-о, мы яе атжывім! Нясі-ка, панамар, дубіну!

Купец гэта глядзіць, на што гэта панамар дубіну нясець. Ударылі тры разы яе — не тжыўляітца. Сродственнікі далажылі аб етым купцу. Купец стаў на іх жаліцца, што цела пабілі. Папоў етых пабралі на суд да спраўкі дзела.

## 42. АБ ЧУДАКЕ МІКУЛЕ: ЯК ЁН ПРАЎЧЫЎ ЛЮБОЎНІКА КУПЧЫХІ, ПАТАПІЎ ГЛУПЫХ МУЖЫКОЎ, ПАПУ ШУТКУ СШУЦІЎ І Ў БАТРАЧКІ, ЗАМЕСТ БАБЫ, У ПАПА НАЙМАЎСЯ

Як быў мужык бедны, худа ў яго было: адна кабылёнка — і тая нездарова. Так суседзі яго прысыгласілі:

— Брат Мікулка, збудзь ты ету кабылку, а мы табе купім другую, харошую.

Так ён ету лошадзь завёў у кусты, забіў яе, а шкуру блупіў і панёс у горад прадаваць (а горад быў блізка). Ён ету шкуру прадаў, далі яму за яе 70 капеек на асігнацыю. Узяўшы тыя дзеньгі, зайшоў у піцейны, выпіў, закусіў і сабраўся дамоў ідзіць. Пашоў дождж, і такі магучы, бальшы. Зайшоў ён к аднаму купцу пасядзець, пакамісць дождж перайдзець. Купец быў у лаўке, а жонка адна дома. Прыехаў к ёй любоўнік. Жана купцова стала яму рада: давай піць, гуляць і ляглі яны ўмесце спаць, а жонка купцова прызабыла, што купец скора прыдзець з лаўкі. Мужучок сядзіць і ўсё ета відзіць. Патом таго стаў купец у дом стукацца — агу, любоўніку етыму дзецца некуды. Жана купца гаворыць:

— Ідзі ў прыхожую, палязай пад печ.

Мужычок ета відзіць, што харашо адзетый чалавек пад печ палез ад хазяіна,— убаяўся ён:

— Када ён у харошай адзёжы хаваецца — палезу і я к яму...

Палез і мужык пад печку. Захацеў мужык еты ў любоўніка дзенег атабраць і гаворыць яму:

— Брат, сёння ў мяне памёр бацька і не вялеў ні плакаць, ні скучаць, а вялеў весяліцца.

Любоўнік гаворыць:

— Брат, пацярпі. Вот табе 100 рублей: толькі маўчы!

— Ну, 100 рублей вазьму, да ўрад лі ўцярплю, запяю.

Узяў мужык у любоўніка 100 рублей. Троху пасядзеў да як закоціць песні на ўвесь дом... Купец ета чуець і гаворыць на жану:

— Што, любезная, катца, у нашым доме песні іграюць!

Жонка гаворыць:

— І-і, ета ідуць па вуліцы парні і пяюць.

Муж етаму, значыць, веры паняў:

— Тошна, знаць, праўда!

Мужучок гаворыць на любоўніка:

— Брат, стала мне тошна: бяры свае назад дзеньгі, а я пець хачу.

Любоўнік гаворыць:

— Брат, вазьмі мае сапагі, яны стояць рублей 12, а толькі маўчы!

— О-о, не, брат, і дзеньгі бяры, і сапагі не нада, не ўцярплю!

Ну, аднака ўгаварыў яго і сапагі яму аддаў — мужык маўчыць. Надзеў мужык сапагі і думаець:

— У етага любоўніка конь харош, запяю...

Як запеў ён песню, ажно дом трашчыць. Любоўнік гаворыць:

— Брат, маўчы: у мяне ў дварэ стаіць конь з цялегаю, сто рублей стоіць, бяры яго сабе,— толькі маўчы.

Мужык гаворыць:

— Ну, буду цярпець,— толькі не знаю! Бацькіна слова нада выпаўніць: ета вялікі рашчот.

— Ну, пацярпі!

Купецкая жана ўлажыла мужа спаць, а сама пайшла вароты адчыняць, любоўніка выправажываць. Етыму любоўніку совесна паказвацца ў разодраным жупане, у растоптаных кавірзнях: усё мужыку аддаў. Во, еты мужык лезець напярод, а любоўнік ззаду. Купчыха думала, што напярод лезець яе любоўнік: узяла дай падарыла яму кальцо залатое, яна яму і лошадзь паказала. Мужучок на ету лошадзь сеў і благадарыць купчыху. А настаяшчы любоўнік ні вопрымя і віду ёй не паказаў, што ён яе любоўнік. Дуў ён пяшком вярсты тры ілі чатыры. Мужучок етый, ехаўшы, на сваё поле ўз'ехаў. Мужучкі ўжо выехалі пахаць, старыкі не знаюць, што ета едзіць Мікулка, а маладыя гаворуць:

— Ета Мікулка едзіць.

Пад'язджаець ён к етым мужучкам і гаворыць:

— Памагай бог, суседзі!

Яны яго спрашываюць:

— Брат Мікулка, якою ета ты судзьбою сабе еткую лошадзь купіў?

Мікулка гаворыць:

— А, братцы, вы мне сказалі ету кабылку ўбіць,— во я яе забіў, а шкуру прадаў.

Мужучкі гаворуць:

— Што ж ты за шкуру ўзяў?

— А, братцы, узяў я 170 рублей, за то купіў цялегу, каня да і сам сябе адзеў. Нынічы, братцы, коні ні па чом: харошая лошадзь рублей 5, а харошая шкура рублей 200.

Еты мужучкі сабралісь у кучу і давай радзіцца:

— Што, братцы суседзі, бросім пахаць, коней паб'ём, а шкуры прададзім, а самі падзелаемся купцамі.

Бросілі яны пахаць, сохі на калёсы і папрыехалі дамоў. Жоны спрашыюць:

— А што, ці відзелі, як Мікулка ехаў?

— А-а, і мы сваіх коней паб'ём, а шкуры прададзім: гэта ён за шкуру купіў.

Жоны гаворуць:

— А луччы будзіць, калі мы бросім пахаць, а станім таргуваць.

Б'юць яны лашадзей усёй дзярэўняй. Дні два білі етых коней, усіх пабілі, аставілі па адном толькі дровы вазіць. Панагрузілі яны шкуры, павязлі прадаваць. Уязджаюць яны ў горад на плошчаць: ідуць тарговыя мяшчане і гаворуць, увідзеўшы еты абоз:

— О, господзі, нечы абоз ідзець з кожамі, якога-та купца?

Сустракаюцца яны з імі і гаворуць:

— А што, мужыкі, якога ета купца тавар?

— Ета наш собственны.

І нескалькі мяшчан гаворацць:

— Господзі, во наказаў: са ўсёй дзярэўні коні падохлі.

Мужукі еты астанавілісь на плошчадзі і адпраглі коней. Прыходзяць к ім пакупацелі-кажэўнікі:

— А што, мужучкі, прадаюцца шкуры?

— А няго ж не прадаем?

— Ну, якую цану будзіце прасіць ад шкуры?

— А, брат, ні раўна: есць па трыста, па двесці і па 50 рублей — якая шкура.

Мяшчане гаворуць на другога мужука:

— А што, мілы чалавек, верна, у вас ён пабунтаваўшысь: просіць за шкуру тое, што за завадскую лошадзь і за жывую не даюць!

Етый мужык гаворыць:

— Эка-та дурак! Да мае шкуры ішчо дарожа: мае коні былі пабуйней!

Мешчанін падрад траіх мужыкоў папытаў: па трыста да па сто рублей. І прышоў той мешчанін, каторы ў Мікулкі шкуру купіў, і спрасіў, па чом шкуры. Яны яму і сказалі:

— Есць па трыста, па сто — не роўна.

Той ім стаў гаварыць, а яны гавораць:

— У нас учора Мікулка з саўсім нездаровай лошадзі шкуру прадаў, а ўзяў 170 рублей, а нашы коні вон якія былі!..

Мешчанін еты гаворыць:

— Братцы, да я ўчора ў Мікулы купіў шкуру за 70 капеек, на сігнацыі. Када не верыце,— хадзіце шкуру паглядзіце.

Мужучкі ету шкуру пазналі. Заплакалі еты мужучкі: абманіў Мікулка! Прадалі еты шкуры, едуць дамоў, і плачуць, і радзютца:

— Мікулу етага мы заллем! А жывая галава ўсяго нажывець,— як-небудзь пераб'емся!

Прыехалі дамоў, прызываюць Мікулку:

— Ну што, Мікулка, мы цябе з свету збудзем: ты нас спадманіў.

Мікулка не тпіраецца:

— Да, братцы, стою я таго!

Яны яго без усякага званія звязалі, павялі к раке:

— Ну, што аднаму ілі дваім яго піхаць, будзіць грэх.

Адзін старык гаворыць:

— Братцы, Мікулка няхай тут пастаіць, а мы пойдзем у зарысць, высікім на кожныга хазяіна па хлудцу аднэй меры.

Вот яны пашлі, а яго бросілі. А зарысць ад возіра была з вярсту. Стаіць Мікулка і крычыць:

— Ах, кабы хто да на маё месца стаў, я не ўмею ні чытаць, ні пісаць, а мяне суддзёю ставяць: у дзень сто рублей, а ў нядзелю тысячу.

Ехаў нейкі праязджаюшчы, ні з нашых зямель, каталічаскай веры. Услыхаў ён етый крык, пасылаіць кучыра:

— Ідзі-ка ты ўзнай, чаго ён крычыць!

Кучыр пытаець у Мікулкі:

— Чаго ты крычыш?

— А во чаго: паставілі мяне суддзёю, я не ўмею ні чытаць, ні пісаць, а даюць мне ў дзень сто рублей, а ў нядзелю тысячу, дак я хачу ета месца каму-нібудзь перадаць.

Кучыр пра ета сказаў пану. Во еты пан абрадаваўся і едзіць к Мікулке на тройке лашадзей.

— Ну, перадасі сваё месца?

— Ды перадам.

Пан яму аддаў тройку лашадзей і кучыра. Напрануў пан Мікулкіну адзежу, а сваю аддаў яму, а сам стаў на Мікулкіна места. Сеў Мікулка на коней і паехаў. Мужукі ідуць з рошчы і гавоўруць:

— Етымі хлудцамі ўпіхнем Мікулку ў рэчку ўсе разам: грыха будзіць усім па троху.

Во яны етага пана і ўпіхнулі. Гаворуць міз сабою:

— Няхай-ка ён цяпер чуды пачудзіць, а то ён хацеў усю дзярэўню звесць.

Ідуць яны дамоў. Во і Мікула з імі сустракаецца на тройке коней у карэце, з кучырам.

— А што, Мікулка, ці ты жыў?!

— А вы думаеце, што не? Вы мяне за коней залівалі, а там іх колькі каму нада. Я толькі ў ваду папаў, то сказаў: «Давай тройку бурых з вупражжу». Мне січас і падалі.

Прышлі мужукі дамоў і гаворуць жонкам:

— Мы Мікулку було напрасна залілі,— не нужна було залівацЬ. Ён нам многа способу даў.

— Якога? — спрашыюць жонкі.

— А во: ён з вады прыехаў на тройке бурых коней, у карэце і з кучырам.

— А-а, дак ета ўсім нада залівацца, а мы вам башлыкі пашыем, штобы паскарэй захлябнулісь.

Во сталі яны шыць, жодная на свайго мужука,— нашылі прымножыства на старых і на маладых, штоба коней з вады паболей прывялі. Даў бог тыя часы, када нада было залівацЬ. Уся дзярэўня выйшла на бераг, штоба піхаць у воду. Усіх пупаўпіхалі, адны жоны па берагу ходзюць і дажыдаюць, ці скора будуць з вады на конях ехаць. Дажыдалі яны коней ад паўночы да белага свету — нету. Ужо пастух панскае стада выгнаў к рэчкі, пытаіць у іх:

— Што ета вы, лябедкі, рана ходзіце?

Яны ета пастуху расказалі. Пастух ім адказыіць:

— Эх, вы! Вам жа тапер сваіх мужоў век не відаць.

Яны ўзялі адна аднае за шыю, за рукі, ідуць і плачуць:

— Мікулка спадманіў!..

Мікулка сам быў дужа красіў, ну і жана была тожа красіва — не пазнаеш: як адно ліцо былі. Радзіцца Мікулка са сваею жаною:

— Тапер мужыкоў у дзярэўні нету, я паеду пахаць на багачову паласу.

Выехаў пахаць на ўсіх сваіх лашадзях,— і так еты лошадзі харашы, што лучны нету.

Пачуў поп, што Мікулка чуды чудзіць:

— Пайду, пупрашу Мікулку, штоба ён мне чуду счудзіў.

Прыходзіць к Мікулке на поле:

— Я хацеў бы цябе пубеспакоіць: счудзі ты мне чуду харошую.

— Ах, бацюшка, тапер харашо пахаць халадком, а ў жар дрань...

Ну, як еты поп быў для свайго прыходу дужа міласэрдзен,— нельзя яму, Мікулкі, ні паслухаць папа: нада яму чуду здзелаць.

— Ну вот, бацюшка, вы пасядзіце здзесь, а я пайду і чуду счужу!

Адпрэг коней і пашоў. Пашоў бярэзнічкам, прыбягаець на папоў двор:

— Здраствуйце, матушка!

— Здрастуй, Мікулка! Што ты к нам прышоў?

— А вот, матушка, я лі дарозі пахаў, лі мяне быў бацюшка. Ну, праязджаў нехта і заспорыў з бацюшкаю, што ў вас у доме нету 3 тысяч дзенег. Када ёсь, дак давайце: я панясу бацюшке, а вам тады дадуць 6 тысяч — тысяча на тысячу.

Пападдзя яму 3 тысячы воддала і з шкатулкаю. Дайшоў Мікулка да гумна:

— Ну, што, ета чуда не чуда, а нада яшчо.

Вярнуўся ён к пападдзі:

— Матушка, я забыў: бацюшка вялеў са ўсіх старон дом запаліць, а праязджаюшчы вам выстраіць каменны, трыэтажны.

У пападдзі былі дочкі, яны і гаворуць:

— Ах, маменька, када так, дак запалім! Наш тапер дзеравянны, а то будзіць каменны.

Мікулка да тых пор не пашоў, пакуда запалілі дом. Відзіць поп з поля, што яго дом гарыць. Бяжыць і гаворыць:

— Ай да Мікулка! Во чуда счудзіў,— чудней і не нада...

Прыбягаець к дому, стала яго пападдзя ругаць:

— Ну, нашто ты Мікулі прыказаў ета дзелаць?

— Да, ета я яго папрасіў чуду счудзіць... Ну, чудней етага чуда і не нада... А ці выняла ты дзеньгі?

— Як?.. Ты ж вялеў Мікулке прынесь к табе дзеньгі!..

— Ну, счудзіў жа ён, чудней етага і нету... І жаліцца нельзя.

Ну, упярод лясы былі паболей: яму паны надарылі лесу,— ён месяцы ў два і абстроіўся.

Мікулка ўсё знаў, што будзець. Раз ён гаворыць жонке:

— Ну, жонка, сянні прыдзець к нам поп цябе ў батрачкі нанімаць. Прыгатуй ты мне саян, платок — усю адзежу,— я надзенусь бабаю.

Надзеўся ён, сеў пад кудзель і прадзець. Прыходзіць поп.

— Здрастуй, Мікульчыха!

— Здрастуйце, бацюшка.
— Ну, і дзе ж Мікулка?
— А, бацюшка, плуту плутоўская і смерць: як спаліў вам двор,— дык некуды сыйшоў, да і нету.
— Ну, а што, кагда ба ты нанялась ка мне ў работніцы?
— А чаго ж, бацюшка? Мне ўсё адно: чымся так жыць, луччы наняцца куды.
Узіла прасліцу на плячо і пашла за папом. Прыходзіць у дом, пападдзя радая такая, што красіва баба. Даў бог сенакос. У дзякана батракі, у дзячка батракі, а не дзін з паповаю батрачкаю не справіцца. Тры гады служыў Мікула за ўдаву. Ну, быў у етым сяле прыстол, прыехаў адзін дзячок к етаму папу ў госці. Мікула гатуець усё заміст жэншчыны і ўдавою ўзываецца. Гаворыць дзячок папу:
— Бацюшка, я заўдавеў, хазяйства вадзіць некаму,— пагаварыце вы батрачкі, штоба яна за мяне пашла замуж. Свяшчэннік стаў гаварыць:
— Ну, ці пойдзеш за дзячка замуж?
— Дак атчаго ж? Када ён мною не грэбуець, дак пайду...
Тады ўжо ўзнаў поп, што ета быў Мікулка, а не Мікульчыха.

## 43. ШУТ ШУТКІН, ЯК ЁН ПАПА, МУЖЫКОЎ І ПАНА ПРАВЕЎ

Как жыў адзін чалавек, а называўся ён Шут Шуткін. Захацелась яму адзін раз прайдзіцца кала дарогі. Ідзець ён дарогай, а кала дарогі поп пашыць, ён і гаворыць яму:
— Здрастуй, бацюшка!
— Здрастуй, Шут Шуткін! Брат, сшуці мне шутку!
— Ах, бацюшка, сшуціў ба, да шуткі дома пазабыў. Ежалі вам угодна, то выпрыгіце мне каня, а я з'езжу за шуткамі.
Вот поп выпрыг каня і аддаў Шуту Шуткіну. Шут Шуткін і паехаў за шуткамі. Заехаў у балота, утапіў каня, атрэзаў яму галаву, хвост, а патом апяць пpыляпіў і пашоў к папу:
— Ну, бацюшка, за шуткамі не з'ездзіў, а толька каня ўтапіў, пайдзем цянуць.
Вот яны перва ўзялі за галаву, цянулі, цянулі — не выцянулі. Патом Шут Шуткін і гаворыць:
— Ну, бацюшка, бяры-ка ты за галаву, а я за хвост.

Вот поп узяў за галаву, а Шут Шуткін за хвост. Сталі цягнуць. Поп цягнуў, цягнуў і атарваў галаву проч і гаворыць на Шута:

— Ну, брат, сшуціў ты мне шутку,— што мне тапер дзелаць?

— А купі, бацюшка, яшчо.

Вот поп бросіў каня, а сам пашоў дамой. А Шут узяў ету лошадзь, аблупіў, шкуру прадаў і купіў сабе клячу. Павёў яе ў дзярэўню да прыводзіць к тром таварышам і купіў ёй гарніц аўса, пасыпаў ёй:

— Вот, сматрыце: паесь етыт авёс, а пірадзелаіць на серабро.

Вот яна паела гарніц аўса, а ён узяў і падсыпаў пад яе гарніц серабра.

— Вот, пасматрыце: паела гарніц аўса, а наваліла гарніц серабра.

— Брат, прадай яе нам.

— А, купіце!

— Што возьмеш?

— Тры тысячы!

— О, брат, так дарага будзіць. Ну, да што дзелаць? Мы свае дзеньгі вароцім.

Вот яны купілі лошадзь. Адзін і гаворыць:

— Дай, брат, перва мне.

А другі гаворыць:

— А не, перва мне.

Трэці гаворыць:

— Да хто ўзяў, тот узяў.

Вот адзін узяў, піранaчавала яна ў яго, падсыпаў ён ёй мерку аўса і гаворыць:

— Ну, жонка, к заўтраму ты шый машну: дзенег у нас будзіць многа заўтры.

Вот ён назаўтрыга пашоў падбіраць дзеньгі, пасмотрыць: там не дзеньгі, а толька навоз. Вот ідзець к яму другой таварыш і спрашыець у яго:

— Што, брат, как тваё дзела?

— А я уж, брат, свае дзеньгі вараціў.

— Ну, брат, давай тапер мне: я свае варачу!

Вот ён прыводзіць яе, паставіў яе на чыстым палу да засыпаў ёй как не можна болей аўса. «Вот многа дзенег будзіць заўтра». Пашоў назаўтрыга сматрэць: а яна паела авёс да напакасціла. Прыходзіць трэці таварыш:

— Што, брат, у цябе?

А ён атвячаець яму:

— Слава богу, я свае вараціў!
Патом і гаворыць трэці:
— Ну, цяпер дай-ка мне!
Вот і трэці так здзелаў, прыходзіць і гаворыць:
— Што, братцы, у вас? У мяне г...о!
— Ну, брат, усім раўно.
І гаворуць яны:
— Пойдзем мы да зарэжам яго...
Вот яны прыходзяць к Шуту і гаворуць яму:
— Ну, брат Шут, мы цябе прышлі рэзаць!
А ён і гаворыць ім:
— Братцы, што вы мяне будзіце галоднага рэзаць? — падаждзіце: жонка бліноў напякець, пад'ем бліноў, тады ўжо рэжце.
А ён узяў да начыніў авечы пузыр кроўю, да падвязаў яго пад паху, прыходзіць і гаворыць:
— Жонка, пякі бліны!
Яна яму гаворыць:
— Што ты ета здурэў?
А ён схваціў нож да ёй пад бок, яна — брык і звалілась. Яны ета відзюць, што ён яе зарэзаў:
— Братцы, ухадзіце.
А ён і гаворыць:
— Падаждзіце: я яе атжыўлю.
— Чым жа ты яе атжывіш?
— А во чым: увідзіце.
Прыносіць кнут, секануў яе тры разы і гаворыць:
— Пужка-жывушка, аджыві маю жанушку!
Вот яна ўскочыла і давай печ бліны, падкарміла іх усіх. Вот яны і гаворуць:
— Брат Шут, прадай нам ету пужку.
— Купіце.
— Што вазьмеш?
— А тры тысячы рублей.
— Да ці не дорага будзіць?
— Нет, яна стоіць!
Вот яны купілі ету пужку і панеслі з сабой.
Адзін і гаворыць:
— Дай-ка перва я застаўлю сваю жонку напеч бліноў!
Вот ён узяў ету пужку, прышоў дамоў і гаворыць:
— Жонка, пякі бліны.
— Што ж ты ета ашалеў, я ж бліноў не ўтварала.

Ён схваціў нож да жонку пад бок і закалоў. Патом узяў ету пужку-жывушку, сек, сек, сек, а жонка не ўстаець — няжыва. Назаўтрыга прыходзіць таварыш:

— Ну, што, якава пужка?

— А, брат, ішчо раз толька секануў, дык яна падпрыгнула.

— Ну, брат, тапер дай мне.

Вот ён узяў пужку і прыходзіць дамоў:

— Жонка, пякі бліны.

— Што ты ета ашалеў: якія я буду бліны печ?

Ён схваціў нож да кальнуў ёй пад бок,— яна і заваліласъ. Вот ён узяў ету пужку-жывушку, сек, сек: не ўстаець жонка!.. Назаўтрыга прыходзіць трэці таварыш:

— Ну што, брат, якаво тваё дзела?

— А, брат, толька секануў адзін раз, дак яна і ўскочыла.

— Ну, брат, дай тапер мне!

Прыходзіць дамоў і гаворыць:

— Ну, жонка, пякі бліны!

А яна і гаворыць:

— Ці ты ўзбясіўся?

А ён схваціў нож і закалоў сваю жонку. Патом узяў ету пужку, сек, сек, не ўстаець жана! Назаўтрыга і гаворыць адзін другому:

— А мы ведзь сваіх жонак пакалолі!

Вот яны і гавораць:

— Пойдзем, зарэжам Шута Шуткіна!

Вот яны і прыходзяць к Шуту, а яго нетуці. Спрашываюць у хазяйкі:

— А дзе ж ета Шут?

А яна гаворыць ім да і заплакала:

— Мае вы галубочкі, мой Шут памёр.

Яны і гаворуць ёй:

— Пакажы нам хоць яго магілку.

А яна і гаворыць ім:

— А ідзіце на кладбішча, дзе будзіць нарыта зямля, там ён і ляжыць.

Вот яны прыходзяць на кладбішча: свежая, неатрытая магілка. (А ён не памёр, а ад іх схараніўся). Вот яны і гаворуць:

— Вазьмем мы хоць на яго магілку напакасцім.

Вот адзін і гаворыць:

— Ну-ка, перва я!

Вот ён толькі сеў, а Шут как парнець яго адтуль шылам у дуплю,— вот ён как падскочыць да как закрычыць:

— Ай, братцы, ён жа жыў. Вазьмем мы яго, выташчым вон.

Вот яны выташчылі яго вон да давай яго біць, а ён давай іх прасіць:

— Братцы, не бейце, я вас накармлю мёдам.

Вот ён павёў іх у пчальнік і накарміў іх мёдам.

— Братцы, за што вы мяне хацелі зарэзаць?

— А во за што, Шут! Ты перва нам прадаў лошадзь да абмануў, у другі раз з абманам ты прадаў нам пужку-жывушку, а яшчо абмануў нас у трэці раз, што ты памёр: мы сталі памінаць цябе, а ты нас шылам было закалоў.

А Шут гаворыць:

— Да, памін ваш харошы, разве так памінаюць чалавека.

— Ну, да прасці ўжо нас, Шут, ну, што дзелаць.

— Да бог з вамі.

Вот яны нямнога пагадзя і гаворуць:

— Пайдзем мы ў яго пчальнік да вазьмем самых харошых пчол.

А Шут ета пачуў і пабег упярод за іх у пчальнік і ўлез у пусты ўлій да ўзяў з сабою венічак. Вот яны прыходзяць утраіх у пчальнік і гаворуць:

— Ну, каторы будзем выбіраць.

— А каторы будзець шумець, тот і возьмем.

Вот яны падходзяць к таму, дзе сядзеў Шут, узялі яго на плечы і паняслі дамой. Вот яны няслі, няслі, а ён, седзячы там, свісь! А яны і гаворуць:

— Братцы, пайдзем паскарэй: Шут даганяець!

Ішлі яны, ішлі, а ён апяць, седзячы там: свісь!

— Братцы, Шут даганяець.

Патом ён у трэці раз: свісь! Вот яны як бросілі ўлій, да как пабягуць ухадзіць, а ён за імі ў дагоню:

— Стой, падаждзі, не ўшлі.

Вот яны беглі, беглі, патом астанавілісь і гаворуць:

— Чаго ж мы ўходзім? Разві мы не справімся ўтраіх с адным! Пайдзем да хоць пакушаем мёду.

Вот яны прыходзяць апяць к вуллю і гаворуць:

— Ну, давайце мёд есці.

Вот адзін закалупнуў рукою да палажыў у рот, патом другі і гаворуць:

— Ах, как харашо!

А трэці ўзяў і гаворыць ім:

— Ета г...о!

А яны і гаворуць:

— Ну, брат, усім раўно.

Патом і гаворуць:

— Ну, братцы, ета нам усё Шут панадзелаў! Давайце яго іскаць. Ён тут нейдзе недалёка.

Вот яны іскалі, іскалі, нашлі яго і гаворуць:

— Ну, тапер мы цябе не прапусцім!

Вот яны ўзялі вязуць яго і прывязлі к возеру, пасадзілі яго ў мяшок і гаворуць:

— Пайдзем за тапаром прасеч пролыбку.

Вот ён астаўся адзін лі дарогі ў мяшке; едзець гаспадзін, а ён і крычыць:

— Не ўмею ні чытаць, ні пісаць, а на тот свет у каралі іду.

Памешчык і гаворыць:

— Давай я за цябе ў каралі пайду.

Яго аттуда памешчык выпусціў, а Шут усадзіў яго ў мяшок, піхнуў яго ў ваду і гаворыць:

— Пішы там бурых і сівых.

А сам сеў на памешчыкавых лашадзей, паехаў дамой, стаў жыць да пажываць, да дабра нажываць, а худа пражываць.

## 44. ЯК МУЖЫК СВАЙГО БАЦЮШКУ ПАДНАДУЎ

У некаторым сяле быў свяшчэннік, очынь сярдзіты, і магарышлы, і багаты. Вот адзін быў мужык, і такой ён быў шут і такой машэннік. Патом адзін раз што-та быў гадавой празнік, вот ён і прыходзіць у цэркву, пумаліўся богу (а дзяла сваі ён уж абстрапаў). Патом послі абедні падходзіць ён к папу і гаворыць:

— А што, бацюшка, ці грэх ета, што я здзелаў?

— Ну, што? — гаворыць поп.

— Да во што: я выгнаў з паповага гароху свінню.

— Во дурак, ну, какой жа ета грэх, што ты папу здзелаў пользу,— ета, брат, яшчо табе дажа спасіба.

Да патом яшчо гаворыць:

— Во што, бацюшка! Што я з паповага калідору ваўка выгнаў?

— Усё дурак! — гаворыць поп,— ета ж какой грэх,— ета ты мне тожа пользу здзелаў: ён бы ж тама паеў мой і скот, і дзяцей, і ўсіх бы маіх дамашніх паразагнаў! За ета, брат, тожа спасіба!..

Патом гаворыць:

— Да во што яшчо, бацюшка, хацеў я вам сказаць: толька я прыхаджу ў царкву, і ўвесь народ стаіць, а шаптуны так і шэпчуць: то ці грэх, што я іх выгнаў?

Ён і гаворыць:

— Во мужык, значыць, дурак: ну какой жа грэх, з божай царквы выганяць нячыстую сілу? Ета ты, значыць, палучыў сабе спасенне!

Вот поп яму ўсё прасціў, патом і пайшоў дамой, раздзеўся і садзіцца ён абедаць,і ў яго быў у доме госць, і селі яны ўсе абедаць. Поп і гаворыць на пападдзю:

— Нам нясі гавядзіны паесць.

А яна і гаворыць:

— Я там кідала ў гарох свініну,— будзеце лі вы яе есць ілі нет?

А ён гаворыць:

— Давай!

Вот яна пабяжала ў кухню, цап у гаршчок: нету той свініны, тут яна і давай на работніцу шумець, патом прыходзіць у горніцу і гаворыць папу:

— Мой ты папочак, я кідала ў гаршчок свініну, а патом яе і нету: я не знаю, хто яе ўташчыў.

А поп кусь сам сябе за язык:

— Ну,— гаворыць,—пападдзя, ты сваю свініну не спрашый, яе ўташчыў такі-та і такі мужычок, і я яму прасціў.

Патом той госць і пабяжаў у калідор, а там ляжала ваўчыная шуба, і шубы той нету.

— Ну, брат,— гаворыць поп на таго госця,— а ты, брат, не спрашывай: я й тваю прасціў.

Потым яшчо адзін памешчык у царкве хваць у карман, хацеў пасматрэць, каторы час, а часоў і нету. Тут стаў такі розыск, а поп гаворыць на етага памешчыка:

— Ну, брат, і ты не ішчы сваіх часоў: у нас у сяводняшні дзень у траіх вышла прапажа, то я ўсю прасціў і разрашыў, а нашым вяшчам: свінні, ваўку і шаптунам — узвароту не будзець.

## 45. АБ УБОГІХ СТАРЦАХ, ЯК ІХ МАЗУРЫК НАДУЎ

Ішлі старцы па гораду, і было іх 12: 6 — сляпых, 5 — храмых, а 12-ы храмаіць, да не дужа, і рукамі троху дзейстуіць. Ішлі яны па вуліцы блізка к трахціру. Выходзіць к ім мазурык:

— Здраствуйце, убогія!

— Здраствуй, бацюшка.

Прыходзюць храмыя напярод, а сляпыя — ззаду; мазурык на сляпых гаворыць:

— Вот вам, сляпыя, сто рублей!

А сам і пайшоў, нічога ім не даўшы. Сляпыя астанавілісь і думаюць, што дзеньгі ўзяў хто-небудзь з іх:

— Што будзем дзелаць з гэтымі дзеньгамі?

— А пайдзёмце-ка ў трахцір, пап'ём да пагуляім.

Пайшлі ў трахцір:

— Трахціршчык, дай-ка нам на 100 рублей папіць да пагуляць.

— Ды ці ёсь жа ў вас дзеньгі?

— Ды ёсь!..

Селі. Трахціршчык ім на сто рублей падаў.

— Ну, што, убогія, пажалуйце рашчот!

— А вот січас.

Во яны адзін у аднаго сталі пытаць:

— Ці ў цябе дзеньгі?

— Нету.

Мучыўся, мучыўся трахціршчык — нету дзенег. Уходзіць мазурык той, што дзеньгі даваў:

— Ну, што, рабяты ўбогія, чым вы разабіжаны?

— Да вот так і так, бацюшка!

— Ну,— гаворыць мазурык,— я вам паваражу, толькі сабярыце дзенег!

Вот етыя сляпыя, хто пятачок, хто капеечку: набралі рублей 5 і аддалі мазурыку.

— Ну, сляпыя, прыхадзіце вы заўтра на такую-та вуліцу: я вам паваражу, а сёння некада.

Прышлі яны назаўтрыга на тую вуліцу. Прыходзіць і мазурык:

— Ну, убогія, прашу я вас на памінкі!

— А куда ж нам ідзіць, бацюшка?

— А ідзіце за мною.

Прывёў ён іх у царскі дварэц, сам узяў дай пайшоў, куда яму нада. Яны думаюць:

— Прышлі мы на памінкі: када ж будуць нас часціць?..

Прыходзіць к ім салдат:

— А што вы, убогія, зайшлі сюды без просу?

— Как, бацюшка? Нас адзін завёў на памінкі: будуць атца памінаць.

Салдат далажыў царэўне:

— Прышлі нейкія ўбогія вашага атца памінаць, а ён яшчэ добр-здароў і царствам вірадуіт.— Царэўна не ўзлюбіла:

— Забраць іх у цямніцу, карміць, паіць, пакель цар умрэць.

Засадзілі етых сляпых, кормяць, пояць, а яны радуюцца, што харашо ім. Царэўна думаіць:

«Дакуда буду я карміць гэтых убогіх? Гэта ўтрата бальшая». Думаіць: «Распусціць іх на сваю родзіну, дзе каторы радзіўся, і даваць па 3 рублі ў месяц».

Старцы богу молюцца за гэтага мазурыка:

— Дай яму бог здароўя, як мы тапер спакойны!..

Стала ім і тут нехарашо.

— Як умрэць цар, дак нам і не давядзецца на памінках пабыць, давай прашэнне спішым, штоб апяць было можна нам па гораду хадзіць, ато нам і жалаванне царскае не нада...

Ета прашэнне дайшло да царэўны: усердзілась, яна, што ім не наравіцца лежа на баку хлеб зарабляць, не прыказала яна ім пендзіі даваць, а дазволіла ім хадзіць па ярмалкам стадамі і памінаць. Старцы етым давольны сталі.

## 46. ЯК ХРАМЫ, СЛЯПЫ І ГЛУХІ ЦАРУ СЛУЖЫЛІ

Сабралісь у кучу на дарогу: храмы, сляпы і глухі. Сляпы і гаворыць на храмога:

— Ну, дзе нам дзенег дастаць?

Удруг ім прычулась, што глухі нешта сказаў:

— Пайдзем к цару: ён нам будзіць дзеньгі даваць.

Прышлі к царскаму дварцу і сталі яны, дзе часавыя ходзюць на калавуры. Ідзець часавы на хватэру, а яны гаворуць:

— Гаспадзін часавы, далажыце цару, што мы прышлі ў работнікі к яму нанімацца.

Цар гаворыць:

— Спрасіце іх сюда.

Прыходзяць яны налішна к цару.

— Ну, мужычкі, какою вы работаю ў мяне хаціце заняцца?

— Свет-гасудар, дайце нам работу, каторая палегчы!

Пасылаець цар у думу: «Як там уздумаюць яму работу даць палегчы». У думе ўздумалі: «Сляпога пасадзіць картошкі сцярэч, храмога жывацїну пасціваць, глухога паставіць на царскіх варо-

тах, штоба ён чуў, хто будзіць калакалом ехаць». Развялі іх усіх: кожнага на сваё места. Нямнога яны пабылі, храмой думаець:

«Ну, што ж ета мы не дагаварылісь з царом, па сколькі кожнаму жалавання. Пайду-тка я адзін дагаварусь».

Храмы дзве вярсты ішоў два месяцы. Далажылі цару, што храмы прышоў прасіць жалаванне. Цар прыказаў пазваць яго.

— Ну, што, харашо жывацiну пасціваць?

— Цар, вялікі ампіратар! Я ішчо жывацiну і не пасцівіў і не відаў яе.

— А дзе ж ты быў два месяцы?

— А, цар-гасудар, мяне туды на кані звязлі, а я ўздумаў, какое ты нам будзеш жалаванне плаціць, і прышоў адтэль пяшком.

Цар гаворыць:

— Яму не жывацiну пасцівіць, а яго пасадзіць на бахту і карміць.

Сляпы сядзеў на картошках, і ўзналі пра ета гаражане, дакладаваюць цару, што ад сляпога ўсё ў горадзе параскралі. Цар прыказаў яго прывесць.

— Ну, как ета ты, сляпы, калавурыў картошкі — усё параскралі.

— Свет гасудар, я нікога не відаў.

— Вот жа, ідзі на хватэру к храмому.

Слугі звялі сляпога к храмому. Цар прыказаў:

— Запрагіце тры тройкі, і прывесце к жоднай тройке па 3 калакалы, і едзьце каля глухога.

Запраглі і едуць каля тых варот, дзе глухі, ён нічога і не чуець. Даняслі цару:

— Ён і на ногі не ўстаў, не чуець нічога.

— Прывесць яго к храмому і к сляпому.

Сабралісь яны ў кучу, і гаворыць цар на слуг:

— Звясціць і храмога, і сляпога, і глухога ў думу.

Гаворыць тады цар на сваіх сынатораў:

— Ну, як вы рассудзілі іх па розным работам, то рассудзіце, хто тут вінават за етых работнікаў.

Судзілі, судзілі, паставілі:

«Храмы праў: на што яго станавілі скаціну пасцівіць, када зналі, што ён хром? Етага суддзю, што прысудзіў храмога скаціну пасцівіць, аштрахаваць на 1000 рублей і аддаць штрах храмому на пракармленне. Прысудзілі з суддзі 1000 рублей і сляпому; глухому тожа з суддзі 1000 рублей, патаму што яны зналі, хто глух, хто слеп».

Цар прыказаў, штобы іх развязлі па дамах на царскі шчот, а дзеньгі дастаўляць не разам, а патроху: а то яны разам з дзеньгамі збалуюцца, нечым будзіць да смерці пракарміцца, а еслі ад іх дзеньгі астануцца, то можна после іх смерці сродственнікам палучыць.

## 47. СЛЯПЫ, ГЛУХІ Й БЯЗНОГІ

У вёсцы былі сляпы, глухі й бязногі. Нахапілася там вайна. Варагі падышлі к вёсцы. Зачулі людзі, што непрыяцель блізка, схапілі сваё даброа дай пахаваліся: хто ў лес уцёк, а хто забіўся ў балота ці на берагі ў лозу, толькі засталіся ў вёсцы сляпы, глухі да бязногі. Сляпы чуе, што статак стукаціць на вуліцы, калёсы грукацяць на масткох, людзі крычаць да кудысь бягуць, але нічога не бачыць і не ведае, куды йці. Так і застаўся ён на ўёсцы. Глухі сядзіць сабе на загумеччы ў халадку пад ліпаю да пляце лапці. Ён бачыць, што ў полі падняўся пыл дай думае, што гэта, мабыць, круціць віхар. І не чуў ён, што людзі пакінулі ўёску. Бязногі чуе, што непрыяцель блізка, бачыць, што людзі ўцякаюць, хто куды, але, ведама, без ног, сядзіць, бы пень, да адганяецца ад мух. Тым часам нахапіўся вораг, ператрос усю ўёску, забраў хлеб, забраў усе, што было, а ўёску падпаліў з усіх канцоў. Гарыць ўёска, бы сухое сена, і няма каму ратаваць. Куды не сунецца сляпы, то ўсё наткнецца на агонь. Пачаў ён крычаць, зваць людзей на ратунак, але ніхто не памагае, бо людзі кінулі ўёску, а непрыяцель, зрабіўшы сваё ліхое дзела, не мае ўвагі на сляпога, а хутчэй ідзе далей. Глухі мог бы памагці сляпому, да не чуе, што той просіць ратунку. Бязногі чуе й бачыць, што робіцца, да не мажэ хадзіць. От так і гінуць яны кожын сам па сабе, й няма ім жоднага ратунку. Ужо адусюль пячэ агонь сляпога і бязногага бы ў печы, а ніхто іх не чуе. Але ось пачаў бязногі паўзці з агню на загумечча. Падпоўз ён к глухому дай давай яго шчыпаць. Хапіўся глухі, зірнуў на пажар, але не ведае, што рабіць, не ведае, чаго хоча бязногі і што ён мае сказаць. Лупае вачыма глухі, бы сава, а на пажары немым голасам просіць сляпы:

— Ратуйце, хто ў бога веруе! Гару!

Пачаў тут бязногі паказваць глухому на мігі, што гіне чалавек. Зразумеў той мігі, усхапіў бязногага сабе на плечы дай папёр у пажар. Нясе бязногага, а той ім кіруе. Пайшлі яны на голас паміж агню дай вывелі адтуль сляпога. От адышліся яны ад

пажару, селі пад крыжом дай не ведаюць, што рабіць, сядзяць да плачуць. Змокла ўёска, бы яе хто языком злізаў, толькі курацца ўшулы да дагараюць галавешкі. Няма ні яды, ні начлегу; кругом ні дамоўкі, ні людзей. І пачалі яны радзіцца, як тут далей жыць на свеце. І надумаліся яны не пакідаць адзін другога да самае смерці, а рабіць усё, бы адзін чалавек.

От пайшоў глухі дай прывёз перадок. Пераблуталі яны веццем аглоблі, пасадзілі на перадок бязногага дай павезлі. Сляпы й глухі вязуць перадок, а бязногі сядзіць да кіруе. І едуць яны як мае быць: дзе яма, там пакажа глухі, дзе выюць галодныя ваўкі, там перасцеражэ сляпы, а дзе трэ ўбачыць стрэчнага да запытаць у яго дарогі, там паможа бязногі. Прыцягліся яны так у якуюсь вёску. Астаўся бязногі на сваём возе, а сляпы і глухі пайшлі шукаць яды да вады. Чуе сляпы, што бурчыць вада, штурх ён глухога, а той і ўбачыў крыніцу пад дзеравам дай набраў вады. Бачыць глухі, што кала аднае хаты штось лятае многа варон да сарок. Падышлі яны туды, аж у клетцы поўна сыраў. Забралі яны сыры дай хацелі вярнуцца назад, аж ось сляпы чуе, што ў хлеўчуку пішчаць да скрыгічуць парасяты. Штурхануў ён глухога, а той і ўбачыў мо паўтузіну парасят. Так знайшлі яны хлеба, яец і другое жыўнасці дай засталіся там жыць, покі не вернуцца людзі. Нанач залезуць на гумне ў салому, каб не знайшоў ліхі чалавек ці не напаў драпежны звер, а ўдзень вылезуць на сонейка дай грэюцца. Ведама, сляпы не бачыць, дак затое так добра чуе, што к ім не падкрадзецца ані звер, ані злодзей. Глухі не чуе, але ён бачыць, бы арол, і ветрыць носам, бы сабака. От закмецяць яны якую-небудзь мітрэнгу, схопяць бязногага дай схаваюцца ў пограб. Раз якась і там знайшлі іх якіясь абдзіранцы дай хацелі пабіць, але бязногі як пачаў з імі жупіць, пачаў ім даводзіць, што з таго не будзе ім жоднае карысці, дак і тыя не зачапілі калек. Так пражылі яны да тых часоў, пакуль скончылася вайна, і людзі вярнуліся назад у свае дамоўкі. Знайшлі іх людзі дай дзівіліся, як гэта яны маглі, будучы калекамі, перажыць такі ліхі час.

— Нам усё было ніщто,— адказваюць калекі,— бо мы былі ў згодзе, бы адзін чалавек.

## 48. ПОП І ШЫДАР

У адном месцы быў бедны чалавек, але ён вялікі шыдар (хто шуткі якія ўмее гаварыць). Яго так і не называлі па імені, але яго называлі Шыдаром. Адзін раз запрог ён кабылу сваю і паехаў.

Едзе, дак едзе, а кабыла яго была благая (худая). Прыехаў ён на грэблю (дзе ў балоце да зробяць дарогу, накідаюць хлуду шмат (хлуд — галлё), а на той хлуд навозваюць пяску і паабапал гэтае грэблі капаюць капаніцы. Гэта называецца грэбля). Прыехаў Шыдар на гэтую грэблю і думае сабе: паеду я ў балота, а можа з каго пашыдарую. І паехаў. Як уехаў у балота, кабыла благая узяла і ўгразла. Едзе поп парма коньмі з сваім хурманам. Як углядзеў Шыдар, што едзе поп, прыбег на грэблю, пакінуўшы кабылу ў гразі, шапку зняў і просіць, кажа:

— Бацюшка, памілуйце мяне, от з'ехаў у бок з грэблі і ўгразла кабыла, памажыце выцягнуць.

Кажа поп на свайго парабка:

— Злезь, пайдзі памажы.

Злез парабак і пашлі ўдвух. Цягалі, цягалі гэтую кабылу, ніяк не выцягнуць. Прыходзіць поп да іх, кажа:

— І я памагу трохе.

Стаў памагаць ім, і ўсё роўна не выцягнулі такі. Кажа поп:

— Трэба паклікаць больш людзей.

А Шыдар адказвае:

— Дайце мне свае коні, я паеду ў гэтую вёску, прывязу чалавек з чатыры.

Кажа поп:

— Вазьмі, толька не баўся.

Шыдар сеў на папоўны коні і паехаў, а поп з парабкам стаіць каля гэтае кабылы. А Шыдар, не едучы па людзей, а паехаў да паповага дому. Як прыехаў ды кажа на папову жонку:

— Матушка, казаў бацюшка, каб вы далі мне ўсе свае грошы, колькі ў вас ёсць, і яшчэ так веле, каб пазычылі, бо бацюшка бярэ двор у арэнду вялікі, дак грошай трэба шмат.

Бацюшкава жонка дала яму сваіх пяць тысяч, і недалёка там быў двор, пашла яна ў той двор, пазычыла ў таго пана пяць тысяч і дала. Гэты Шыдар забраў грошы і паехаў. Прыехаў туды, дзе яго кабыла ўгразла, а бацюшка стаіць з парабкам ды кажа:

— Што ты забавіўся гэтак доўга?

— Дак гдзе,— кажа,— прасіў, прасіў людзей, ніяк не дапрасіўся. Будзем цягнуць утрох, папрабуем, можа выцягнем, а можа не.

Як сталі яны папраўдзе ўсе трох цягнуць, узялі і выцягнулі. Бацюшка паехаў з парабкам да свайго дома, а Шыдар — да свайго. Прыехаў бацюшка дадому, выходзіць бацюшкава жонка і пытаецца:

— А ці вялікі той двор, што бацюшка ўзяў?

Пазірае бацюшка ў вочы:

— Які двор?

— А гэта ж прыязджаў Шыдар і казаў, каб я дала грошы, колька сваіх было, ящчэ так вялеў, каб пазычыла. У мяне сваіх грошай было пяць тысяч, а пяць тысяч я пазычыла і дала яму.

Кажа бацюшка:

— Вот дурань, хоць бацюшкава жонка, але дурань. Дзе ж мы іх сышчам, ён жа бедны саўсім, ды нічога...

Назаўтра бацюшка кажа на парабка:

— Запрагай мо коні, паедзем шукаць Шыдара. Мы яму ўчора кабылу памаглі цягаць, а ён прыехаў да матушку тут ашукаў.

Запраглі коні і паехалі. Усё едуць па вёсках і пытаюцца, а потым дапыталіся. Бацюшка злез ды ідзе ў хату. А Шыдар, як угледзеў праз акно, што бацюшка ідзе, шапку скінуў з галавы, а жончыну хустку завязаў на галаў, і жончыну спадніцу злажыў, і жончын каптан адзянуў, і ўзяў у рукі сякач і сячэ ў карыце картоплі свінням. Бацюшка ўвайшоў у хату і пытаецца:

— Гэта Шыдарава хата?

— Гэта,— адказвае Шыдарава жонка.— А чаго вы хочаце?

— Ён учорачы ехаў грэбляю і з'ехаў у бок з грэблі, і яго кабыла ўгразла, і ён нас папрасіў выцягнуць, і мы цягалі яе і не выцягнулі. То я яму, як добраму, даў коні свае, каб ён паехаў у вёску і папрасіў людзей. А ён, не едучы ў вёску, да паехаў да майго дому, да ўзяў усе грошы забраў. Я не ведаю сам, што цяпер рабіць: ці вы аддасцё мне, ці не?

Жонка Шыдарава засмяялася ды кажа:

— Гдзе мы вазьмом вам аддаць, калі і яго няма дома.

А ён стаіць каля карыта і сячэ картоплі. Бацюшка яго і не пазнаў. Пытаецца бацюшка ў яго жонкі:

— А гэта што за кабета?

А жонка Шыдарава адказвае:

— Гэта дачка мая.

Бацюшка гаворыць:

— Трэба мне яе забраць, няхай яна мне адслужвае гэтыя грошы.

Жонка Шыдарава гаворыць:

— Бярэце.

Узяў бацюшка на воз і павёз гэтую дачку. А гэта не дачку, а самога Шыдара. Служыць Шыдар у бацюшкі за дзеўку.

Адзін раз прыехаў малады чалавек у сваты да бацюшкавай дачкі і гаворыць:

— Вот я жанюся, хоць мужычку ўзяў бы замуж, але каб яна... мне спадабалася.

Пасля гэты малады кажа:

— Я буду браць гэтую служанку.

І давай жаніцца з ёю. Нанялі музыкаў трох, а тыя музыкі да ўсе тры браты родныя. І звянчаліся, гуляюць, а музыкі іграюць. Як прыйшла тая гадзіна, што іх трэба весці спаць, дак як жа ж яны пойдуць спаць, калі яны абодва мужчыны. То гэты Шыдар думае: «Як тут выкруціцца ад гэтага». Так узяў, давай дурнець: то таго ў голаў, то таго выцеў, бацюшкава гумно запаліў. Усе крычаць:

— Здурнела маладая.

Узяў бацюшка павыганяў усю дружыну. Ідуць музыканты ды гавораць:

— Ах, няшчасце наша: колькі гралі — і ніхто не заплаціў. Возьмем хаця бацюшкаў вулей з пчоламі.

І прыйшлі і бяруць. А гэтая маладая, як выскачыла, ды ў вуллі лягла. Трэба папасці гэтым музыкантам у гэты самы вулей. Нясуць ды гавораць:

— Нешта цяжка: мусіць, шмат мёду тут.

А не мёду, да Шыдара нясуць. Гэты Шыдар, лежачы ў вуллі, як аднеслі музыканты вёрст дзве, так ён памаленьку і гаворыць:

— Стой!

Музыканты гавораць адзін на аднаго, кажа:

— Браце, гоніцца нехта.

Так другі раз Шыдар, лежачы ў вуллі:

— Стой!

Яны ўзялі і кінулі гэты вулей ды ўцёкі. Гэты Шыдар пайшоў адзін уночы цераз лес. Ідзе, дак ідзе, чуе: пішчыць парася недзе. Ён давай ісці. Прыходзіць туды, дзе гэтае парася пішчыць, дак парася ў яме і воўк там. А гэта яма была: адзін пан выкапаў яму глыбокую і ўкінуў туды парася, і прыкідаў гэту яму ломам, і гэтае парася як стане пішчаць, то воўк ідзе на гэты піскат, і як прыйдзе на гэты лом, дык уваліцца ў гэтую яму, парася задушыць, а сам сядзіць. То гэты пан прыйдзе ды застрэліць у яме ваўка. А гэта ідучы, Шыдар пайшоў на еты піскат. Воўк задушыў ужо парася і сядзіць у яме. Узяў Шыдар вяроўкаю ваўка за шыю і вядзе напраціў тых музыкантаў. Пытаюцца яны:

— Што вядзеш, чалавек?

— Валоўскага маркача.

— Прадай нам.

— Ці вы купіце: ён дарагі.
— Што яму за цана?
— Трыццаць рублёў.
Адзін з другім гавораць:
— Аднак мы ўсе тры браты: складземся па дзесяць рублёў і забярэм. Добра будзе да авец пушчаць.
Узялі і заплацілі. Прыводзяць дахаты, старшы брат кажа:
— Сягодня гэты маркач няхай з маімі авечкамі пераначуе.
Пусціў да сваіх авец, а назаўтра рана пайшоў паглядзець, ці памаркітавалі авечкі.
Як адчыніў хлеў, дык гэта воўк сядзіць у парозе, а авечкі ўсе падушаны.
— Ах,— кажа,— на ліха мне; нашто я пусціў, гэта ж воўк. Мусіць, буду маўчаць, няхай возьмуць і яны, і іх авечкі няхай падушыць.
Прыходзіць селядоршы брат і кажа:
— Ну, а што, памаркітавалі?
— Памаркітавалі.
— Ну, я ўжо вазьму.
— Бяры.
Узяў і пайшоў у свой хлеў і пусціў да авец. За ноч і селядоршага брата падушыў.
На трэцюю ноч прыходзіць меншы брат, пытаецца:
— Ну, а што, памаркітавалі тваё?
— Памаркітавалі.
— Дай мне, няхай і мае памаркітуюць.
Узяў і пайшоў. За ноч і трэцяга брата авечкі падушыў. Прыйшоў ён да селядоршага:
— Гэта,— кажа,— воўк падушыў мае ўсе авечкі. А твае?
— І мае,— кажа,— падушыў. Пойдзем разам да старэйшага брата, папытаемся.
Пайшлі.
— А твае авечкі жывы ці не?
— А вашы? — адказвае старшы брат.
— Нашы падушаны.
— І мае падушаны.
— Ну, сукін сын, пойдзем шукаць яго.
Так пайшлі ўсе трох. Пытаюцца то ў той вёсцы, то ў той вёсцы: нейкі чалавек прадаў нам маркача, казаў, што гэта валоўскі. А гэта не маркач, але воўк, ён нашы ўсіх трох авечкі падушыў. Людзі сталі смяяцца:
— Ета не іначай як Шыдар, ён умее гэтакія штукі рабіць.

Пытаюцца яны:

— А дзе ён жыве?

А людзі паказалі ім.

— Вунь там, у той вёсцы.

Пайшлі яны, дапыталіся яго хаты, увайшлі к яму ў хату, пытаюцца:

— Гэта ты, Шыдар?

— Я.

— Чаму ж ты нам ваўка прадаў за маркача?

— І мне прадалі людзі за маркача, а я вам.

Адзін да другога гавораць:

— Што яму рабіць? Заплаці нам за нашы авечкі.

Адказвае Шыдар:

— О-го-го, як стану я вам усім плаціць, то на свеце і грошай не стане.

А старшы брат гаворыць на гэта:

— Няма з ім што гаварыць. Узяць мех, усадзіць у мех і занесці на рэчку, прасекчы лёд і пусціць яго пад лёд, бо ўжо шмат ён людзей паашукваў.

Адказвае Шыдар:

— Што хочаце, тое рабіце, я — адзін, а вас — трох.

Узялі ў мех і панеслі на рэчку, палажылі на лёд.

— Бяда, што сякеры няма, чым палонку прасячы,— кажа старшы брат на селядоршага,— пайдзі ў гэтую вёску пазыч сякеру.

— Я,— кажа,— не пайду, няхай ідзе меншы.

А меншы адказвае:

— Пойдзем усе трох.

Пакінулі Шыдара ў мяху, завязалі яго і пайшлі па сякеру.

Едзе пан чацверыком, гэты Шыдар крычыць у мяху. Кажа пан на хурмана:

— Затрымайся, хто-та крычыць.

А хурман адказвае:

— Чалавек у мяху завязаны, і ён крычыць.

Шыдар:

— А, гвалт, ратуйце, не знаю ні чытаць, ні пісаць, за караля абіраюць.

Злез пан з сваіх санак ды кажа:

— Вылезь, чалавеча, з мяха, сядзь на маіх санях ды едзь, а я ўлезу ў гэты мех, я знаю чытаць і пісаць, то я буду каралём.

Шыдар сеў на панскіх санях і паехаў з хурманам, а пан улез у мех і сядзіць.

Прынеслі гэтыя тры браты сякеру, высеклі палонку і ўкінулі гэтага пана ды ідуць дахаты і гавораць:

— Ну,— кажа,— хоць пагаравалі, але Шыдара спраталі. Ужо не будзе людзей ашукваць.

Ідуць, ідуць дарогаю, Шыдар аб'ехаў, дзе яму трэба, і насустрач іх едзе. Кажа на хурмана:

— Памалей коні.

Хурман едзе памалей. Пад'язджаюць пад гэтыя тры браты, крычыць хурман:

— Гэй, на бок!

Яны схіліліся і ідуць памалу. Адзін меншы брат кажа на гэтае:

— Ета Шыдар паехаў.

А селядоршы адказвае:

— Куда ён паедзе, ён жа з вадою паехаў.

А старшы брат гаворыць:

— Здаецца, ён.

Аднак жа яшчэ блізка, папытаемся. І пытаюцца.

— Адкуль вы, пане?

Шыдар кажа на хурмана:

— Стой!

Хурман спыніўся, Шыдар гаворыць:

— Нашто вам, адкуль мы, хадзеце сюды.

Падходзяць яны, такі пазналі, што гэта Шыдар, і гавораць:

— Адкуль ты ўзяўся? Мы ж цябе ўтапілі.

— Адкуль я ўзяўся,— адказвае Шыдар.— Вот як вы мяне ўкінулі, дык я папаў якраз на етыя сані. Хурман сядзеў на іх, чэцвера коней гэтыя самыя запрэжаны. Дак хурман мяне праз гэсту палонку і вымчаў.

Гавораць яны:

— А каб гэта мы ўскочылі, ці папалі б гэтакія коні?

— Ой-ой-ой,— адказвае Шыдар,— каторы ўпярод ускочыць, то лепшыя пападзе коні.

Пайшлі яны да той палонкі, дак адзін перад другім спяшаўся, каб гэта наперад ускочыць. Як ускочыў адзін, потым другі, а потым і трэці, узялі патапіліся. Яны хацелі Шыдара ўтапіць, а Шыдар патапіў іх. З Шыдарам няма што зачапацца. Голаму разбой не шуміць. Пасловіца гаворыць: голы, як біч, а востры, як меч.

## 49. ХМАРА БУЛКАВАЯ І АЛАДКАВАЯ

Даўней было, за паншчыну. Араў мужык на сваём полі. Выараў ён шмат грошай. Няма як яму забраць, каб жонка не ведала. А яго поле было за лесам. Пайшоў мужык да места, накупляў булак і аладак, панёс. Цераз лес трэба было яму ехаць. Параскідаў мужык па кустах булкі і аладкі і прыйшоў да хаты і кажа да жонкі:

— Жонка, едзьма з табою па грошы. Я за лесам араў на сваём полі, выараў шмат грошай.

Узялі і паехалі. Уехалі ў гэты лес, мужык кажа на жонку:

— Злезь з воза: можа, дзе ёсць грыбы.

Жонка злезла і пайшла. Грыбоў няма, адно булкі і аладкі. Жонка пытаецца ў мужыка:

— Адкуль яны набраліся, булкі і аладкі?

Мужык кажа:

— Гэта ішла хмара булкавая і аладкавая, і адна аб адну як абцерліся, то пасыпаліся булкі і аладкі.

Узялі і паехалі па грошы. Забралі грошы і вязуць. Пішчыць на асіне сава. Жонка пытаецца мужыка:

— Што гэта пішчыць?

Мужык кажа жонцы:

— Ціха, маўчы, гэта арол нашага пана падстрыгае і падгольвае, начай ніхто не можа яго падстрыгчы і падгаліць, як арол.

І паехалі. Прыехалі да хаты, пабылі дзень і два, стаў мужык з жонкаю сварыцца і ўзяў жонку набіў. Жонка пайшла да пана і сказала пану, што мой мужык араў за лесам і выараў шмат грошай, і мы прывязлі да хаты. Пан вялеў мужыка даставіць да двара. Прыйшоў мужык да пана — пан пытаецца:

— А што ты, чалавеча, жонка твая гаворыць, што ты выараў шмат грошай.

Мужык кажа пану:

— Каму пан веры дае, так гэта ж яна — вар'ятка, няхай скажа, пане, калі.

Жонка гаворыць пану:

— Тагды, пане, як ішла булкавая хмара і аладкавая, то мы ў той дзень ездзілі.

Пан кажа:

— Што ты, дурная, дзе ж ёсць булкавая хмара і аладкавая?

Мужык кажа:

— Во, пане, не дурная гэта? — Няхай яна скажа, калі гэта было.

Жонка кажа:

— Тагды, пане, як пана на асіне арол падстрыгаў і падгольваў.

То пан сказаў:

— Ты — дурная, ідзі вон, як жа, каб мяне арол падстрыгаў і падгольваў.

Мужыку асталіся грошы ўсе.

## 50. ДАРАГАЯ ШКУРА

Жылі два браты, адзін бедны, а другі багаты. Бедны меў старэнькага каня, а ў багатага было многа дужых коней. Просіць бедны ў багатага:

— Дай мне тваіх коней узараць поле.

Вельмі не хацелася багатаму даваць сваіх коней, скуголіў ён ад жаднасці, але мусіў быў даць аднаго коніка.

Пайшоў бедны араць сваё поле.

А багатаму не сядзіцца дома, ные сэрца, як там маецца яго конь.

Прыбягае ён на поле і сочыць за бедным братам.

Вядома, што кожны мужык любіць прыгаварываць на сваю жывёлу брыдкія словы:

— Но, каб ты здохла.

Гэта ён робіць не ад злосці, а так сабе, да слова. Пачуў гэта багаты і рашыў, што бедны нагаварвае на яго каня смерць. Усхапіўся ён і пабег. Прыбег, ухапіў сякеру і забіў старэнькага коніка свайго брата.

Гараваў-гараваў бедны, але што ж рабіць? З гора ён садраў шкуру з каня, высушыў яе і панёс прадаваць.

Ішоў, ішоў дый цёмна стала. Бачыць — стаіць багаты дом, ён сабе і думае: «Калі дом багаты, дык тут розныя дзіўныя рэчы дзеюцца, можа, я тут і згаджуся».

Глядзіць бедны ў акенца і бачыць, што гаспадара-памешчыка няма дома, а замест яго з барынавай жонкай гуляе поп. У гэты час загрымела-загрукала, гэта значыцца, барын едзе дадому.

Пачуўшы гэта, жонка ўсхапілася, папа заслала ў падпечча, смажана-варана ў печ, гарэлку за шкап.

Паглядзеўшы ўсё гэта, мужык падыходзіць да пана і пытаецца ў яго дазволу пераначаваць. Пан дазволіў, і яны разам увайшлі ў хату. Жонка пачала лемантаваць, што яна хворая, у печы не паліла, есці нічога няма.

Пачуў гэта бядняк і рашыў яе абдурыць. Узяў ён сваю шкуру, дубасіць па ёй. Памешчык пытае, што гэта ён робіць. Мужык кажа:

— Гэта мой варажбіт. Я даведаўся цераз яго, што ў печы стаіць смажана-варана, а за шкапам — гарэлка.

Паглядзеў пан, і сапраўды, ёсць і смажана-варана, і гарэлка. Паелі, папілі. Пан тады просіць мужыка:

— Паваражы яшчэ мне.

Мужык адказвае:

— Я б табе, паночак, паваражыў, але ў цябе ў хаце чорт сядзіць.

Пан спугаўся і пачаў мужыка прасіць выгнаць яго з хаты.

— Дай мне, паночак, за гэта воз хлеба і пару коней, і я выганю чорта.

Пан згадзіўся. Тады мужык нагрэў вады, дастаў яе з печы і лінуў у падпечак. Папу няма дзе дзецца, мітусіцца ён па падпечку і раскасмачыўся ён там — увесь чорны зрабіўся. Ну, сапраўды чорт. Вылез ён з падпечка — і ну ўцякаць прэч.

Пан і кажа:

— Праўда, выгнаў ты чорта.

За гэта мужык атрымаў воз хлеба і добрых коней.

Вось прыязджае ён дадому. Багаты брат пытае ў яго:

— Дзе ж ты такога дабра набраў?

— А са шкуры каня, якога ты забіў.

Дзівіцца багаты брат і сам сабе разважае:

— Заб'ю ўсіх сваіх коней і павязу іх прадаваць у горад.

Як нагадаў, так і зрабіў.

Прыходзіць у горад і крычыць:

— Прадаю шкуры, прадаю шкуры!

— Што за іх хочаш?

— А два вазы хлеба і чацвёра коней.

— Дурны, хто табе гэта дасць. Уцякай адсюль, пакуль не адлупцавалі.

Багаты ўзлаваўся і вырашыў забіць свайго брата. Звярнуўся дадому, узяў сякеру і адрубіў галаву. Але на тое месца, дзе заўсёды спаў бядняк, сёння лягла іх маці. Выйшла, што багаты забіў не свайго брата, а ўласную маці.

Доўга-доўга гараваў бедны, потым запрог каня, пасадзіў забітую маці і паехаў. Прыязджае да пана.

Пан запрашае іх у хату, але «старая» не ідзе. Тады пан ідзе да старой і частуе яе гарэлкай. Ледзь дакрануўся да яе, як галава і зляцела. Мужык пачаў крычаць. Пан кажа:

— Маўчы, на табе два вазы хлеба і чацвёра коней ды пахавай яе ціха.

Так мужык і зрабіў. Прыязджае дадому. Багаты ў яго і пытаецца:

— Дзе ж ты такога дабра набраў?

— А прадаў маці на базары і столькі хлеба набраў.

Тады багаты вырашыў забіць сваю жонку і прадаць.

Прывёз у горад і крычыць:

— Прадаю мёртва цела, прадаю мёртва цела.

Людзі пачулі і кажуць:

— Сціхні, дурань, уцякай ад бяды хутчэй, вязі дадому мёртва цела і пахавай.

Прывозіць, пахаваў, а беднага рашыў утапіць. Скруціў яго ў мяшок і нясе.

Потым схамянуўся і ўспомніў, што яшчэ не памаліўся. Паклаў мяшок каля плоту і пабег у царкву грахі замальваць.

У гэты час едзе пан са сваім статкам кароў і свіней. Раптам чуе голас бедняка.

— Чудзяса, мяне нясуць на небяса.

Пачуў гэта пан, і яму вельмі захацелася на неба. Бядняк кажа:

— Развяжы мяшок, я вылезу, а цябе аднясуць на неба.

Так і зрабілі. Багаты прышоў і ўтапіў мяшок з панам.

Прыходзіць дадому і бачыць, што бедны ідзе, а за ім — цэльны статак рознай жывёліны.

— Дзе ж ты ўзяў усё гэта?

— Ты ж мяне ўкінуў у рэчку, а там усяго шмат, там і панабраў рознага дабра.

Паслухаў багаты і пайшоў, кінуўся ў рэчку. Усё хацеў, каб дабра было больш.

## 51. ЯК ДУРАНЬ ШКУРУ БІЎ

Жыў-быў мужык, і было ў яго тры сыны. Два разумных, а адзін дурак. І ўмёр той мужык, і астаўся ў яго толькі адзін вол. Сыны думалі, думалі, як таго вала дзяліць, і прыдумалі: здзелалі тры загародкі і сталі вала ганяць,— у чыю загародку ўскочыць, таго і будзе. Вол да і ўскочыў у дуракову загародку. Ладна. Узяў дурак вала, зарэзаў, мяса з'еў, а шкураціну надзеў на сябе і пайшоў. Ішоў, ішоў дурак і зайшоў у дзярэўню — відзіць:

з краю хата стаіць, і ён давай узлез на крышу, разабраў столь, зздзелаў сабе дзірку і глядзіць: што-то там у гэтай хаце дзелаецца?

А ў хаце дый у етай хазяін куды-то пайшоў, вясціма, можа, за якім дзелам адлучыўся. А к жонке тым часам поп прыйшоў. Вот яна напякла яму бліноў, напрагла яечні — селі за стол і ядуць. А дурак усё ета і відзіць. Ажно тут, адкуль узяўся,— мужык ідзець. Спужалася тая баба, скарэй яечню, бліны ў печку схавала, а папа некуды хаваць, узяла дый у падполле ўпіхнула. Улез мужык у хату і стаў у жонкі есці прасіць:

— Давай, жонка, вячэраць.

Жонка яго пасадзіла за стол, дастала з печкі капусты ды крупені і паставіла на стол. А тут і дурак злез з крышы і прыйшоў у хату, і стаў прасіцца:

— Ці не пусціце пераначаваць?

А мужык кажыць:

— Чаму не? Я сам у людзёх начую і к сабе людзей пускаю, садзісь за стол.

Вот яны селі і сталі хлябаць капусту з крупеняй. Як паелі, вот дурак узяў дый начаў сваю шкуру біць, біець дый прыгаварываець:

— Нашто ты мне салгала! Нашто ты мне салгала!

А мужык і спрашываець:

— За што ты яе б'еш?

А дурак кажыць:

— За то, нашто яна мне салгала, яна сказала, што тут яечню ды бліны ядуць.

Мужык і прыстаў к жонке:

— Давай яечню да бліны.

Жонка туды-сюды, аднеківалася, а ён узяў сам палез у печку, найшоў тыя бліны ды яечню, узялі ўсё ды з дураком і паелі. Тады дурак узяў ды і зноў стаў сваю шкуру біць. Біець дый прыгаварываець:

— Нашто ты мне салгала, нашто ты мне салгала!

А мужык апяць спрашываець:

— За што ты яе б'еш?

А дурак кажыць:

— А нашто яна мне салгала? Яна мне сказала, што тут пад палом поп сядзіць.

Палез мужык пад пол — і найшоў там папа. Узяў яго, выцягнуў, набіў, набіў, сколькі ўлезла, і выпіхнуў у каршэнь за дзверы. І стаў прасіць мужык дурака:

— Прадай ты мне сваю шкуру — што яна табе так усю праўду гаворыць? Я табе дам пяцьдзесят рублёў.

Дурак узяў дый прадаў яму сваю шкуру за пяцьдзесят рублёў. Тады ўзяў дурак свае дзеньгі і пайшоў дамоў к братам. Прыйшоў дый кажыць:

— Дуракі вы, дуракі, не за жывую скаціну бяруць грошы, а за лупленую. Во я за сваю шкураціну пяцьдзесят рублёў узяў.

А браты былі ўжо трошкі зажыліся і скацінку завялі, а як увідзелі, што дурак за сваю шкуру пяцьдзесят рублёў узяў, узялі папарэзалі сваіх кароў, палупілі і павязлі ў горад прадаваць — вядома, ім там не далі па пяцьдзесят рублей. Ну, вот і рассердзіліся браты на дурака і згаварыліся, каб яго са свету звесці. Прыехалі дамоў, ажно тут матка памёрла. Нечага дзелаць, нада матку хаваць. Вот і сталі браты спорыць. Старшы гаворыць на меншага:

— Ты меншы, ты матку хавай.

А малы на старшага:

— Ты старшы, ты хавай.

Спорылі, спорылі дый палажылі:

— Не будзем дурака забіваць, няхай матку хаваець.

Вот узяў дурак матку, узваліў на санкі і павёз хаваць. Едзіць, едзіць, ажно насустрэчу яму ганчар з гаршкамі. Ганчар крычыць:

— Ціха, ціха,— гаршкі паб'еш.

А дурак не слухаець, едзіць ды едзіць.

Вот ганчар схваціў хварасцінку, як цюкніць па санях, а дурак як закрычыць:

— Авоінькі! Матку забіў!

Ганчар глянь — от узабыль, мёртвая жэншчына ляжыць. Спужаўся мой ганчар, давай кланяцца дураку:

— Міленькі, сякі-такі! На табе пяцьдзесят рублёў, толькі ў суд мяне не цягай.

Дурак узяў пяцьдзесят рублёў, схаваў матку і едзіць апяць к братам.

— Дуракі вы, дуракі, не за жывых людзей грошы бяруць, а за мёртвых: вот я матку прадаў, пяцьдзесят рублёў узяў.

Браты тады ўзялі сваіх жонак зарэзалі і павезлі ў горад прадаваць. Ажны іх там схвацілі, у цюрму пасадзілі дый у Сібір саслалі. Ну, вот і былі яны на Сібіры, ажно пакуль выйшаў царскі маніхвест, штоб усіх сібірнікаў прасціць. Вот і браты вярнуліся дамоў, ажно там дурак сядзіць, хазяйствамі іхнімі камандуіць. Вот і згаварыліся браты, каб яго ўтапіць. Узялі ў мяшок

пасадзілі і пацягнулі ў проруб — прыцягнулі к рацэ, глядзь — ажно лунка замерзла, а тапор яны з сабой не ўзялі, вот і сталі апяць спорыць, каму ісці за тапаром. Старшы гаворыць:

— Ты ідзі.

А малы:

— Не, ты ідзі.

Спорыліся, спорыліся і пайшлі абое за тапаром. А дурака ў мяшку аставілі ў лункі. Вот дурак сядзіць там у мяшку дый пяець:

— Не ўмею ні чытаць, ні пісаць, каралём пасодзяць.

Ажно на ту пору едзіць пан у карэце, з лакеем, з кучарам. Пачуў той пан, што дурак так пяець, і стаў яго прасіць:

— Міленькі, пусці мяне ў мяшок — я ўмею і чытаць, і пісаць, хачу быць каралём, а сам бяры маю карэту і коней, і кучараў.

Вот так дурак узяў дый пасадзіў пана ў мяшок — пан там і запеў:

— Умею і чытаць, і пісаць, каралём не содзяць. Умею і чытаць, і пісаць, каралём не содзяць. Умею і чытаць, і пісаць, каралём не содзяць.

А сам сеў у карэту і паехаў. А браты прыйшлі дый пана ўтапілі. Толькі што вярнуліся яны дамоў, глядзь — едзіць дурак у карэце дый крычыць ім:

— Дуракі вы! Дуракі! Ні на етым свеце жыццё, а на тым, глядзіце, якую мне там далі карэту, коней, кучара і лакея!

Вот браты як пачулі ета, пайшлі ў лунку дый патапіліся. А дурак узяў усё іх дабро і цяпер жывець.

## 52. ЯК ВАНЬКА БРАТОЎ ПАДМАНУЎ

Жылі-былі тры браты: два разумныя, а трэці, Ванька,— дурны. Той самы Ванька, што за добрага злодзея вучыўся і што быў рахманым парабкам.

Разумныя браты хадзілі на паляванне: білі зайцоў, дзікіх качак, а Ваньку пакідалі дома мак з попелам перабіраць. Надаела Ваньку гэта работа, і давай ён прасіцца ў братоў:

— Пусціце і мяне хоць разочак на паляванне схадзіць.

Наканец браты згадзіліся. Далі яму стрэльбу, торбу з патронамі і яшчэ торбу для дзічыны.

— А што там страляць? — пытаецца Ванька.

— Што ўвідзіш, тое і страляй.

Толькі Ванька ўвайшоў у лес, відзя: баба ягады збірае. Ускінуў ён стрэльбу, злажыўся і бабахнуў. Баба перакацілася нежывая. Ванька ўзваліў бабу на плечы і валачэ дамоў.

— Вы тыднямі прападалі на паляванні, а такой дабычы не прыносілі,— з гонарам сказаў Ванька.

Браты аж прыселі ад спалоху.

— Нясі туды, дзе і браў,— гэта ж баба. За яе нас усіх на катаргу запруць.

Пакруціў Ванька галавой, але панёс забітую бабу назад у лес. Падышоў да лесу, чуе — нехта едзе. Ён схінуўся за куст, каб не бачыла злое вока, якую паклажу ён нясе. Праехаў яўрэй на кабыле, а жарабё далёка ззаду засталося. Ванька адрэзаў бабе галаву і зноў прыставіў.

Падазваў жарабё, пасадзіў на яго бабу і пусціў. Агляну ўся яўрэй, аж нейкая баба на яго жарабяці едзе.

— Баба, злазь, жарабё задушыш! — закрычаў ён.

Баба сядзіць, быццам і не чуе.

— Баба, злазь, жарабё задушыш! — крыкнуў яшчэ раз яўрэй.

Сядзіць баба. Тады яўрэй злез з калёс ды трах пугаўём бабе па галаве. У той галава і звалілася далоў. А Ванька выскачыў з кустоў і накінуўся на яўрэя.

— Ты на што маю матку забіў? Пойдзем разам у паліцыю.

Атарапеў яўрэй.

— Я табе,— кажа,— жарабёнка з кабылай аддам, толькі не кажы нікому і ў паліцыю не вядзі.

— На чорта мне твая падла. Давай мех золата, дык будзе шыта-крыта.

Мусіў даць яўрэй. Прынёс Ванька золата дамоў і кажа:

— Во што я за тую бабу ўзяў.

Давай браты жаніцца скарэй. Пазабівалі сваіх жонак і павязлі на рынак.

— Што вы прадаіцё? — пытаюцца іх на рынку.

— Бабы бітыя.

— Пакажыце. — Паглядзелі людзі — і праўда — у возе бабы бітыя ляжаць.

— Уцякайце, дуракі, пакуль паліцыя не ўбачыла,— параілі ім добрыя людзі.

Злосныя едуць дамоў браты ды не могуць прыдумаць кару Ваньку...

— Што ж нам зрабіць з гэтым негадзяем Ванькам? Утапіць.

Пасадзілі Ваньку ў мяшок, ускінулі на сані і павезлі да возера. Прыехалі, а вада замерзшы. Тапара забылі ўзяць з дому. Таргаваліся, таргаваліся, каму ісці па тапор.

Ні адзін не хоча ісці. Пабеглі ўдваіх. А Ванька чуе, што нехта пад'язджае да яго. Седзячы ў мяшку, ён давай крычаць:

— Не хачу быць царом, не хачу быць царом.

А гэта ехаў купец на раскошнай валовай упражцы ды вёз безліч дарагіх тавараў.

— Я хачу быць царом,— кажа ён.

— Дык лезь у мех.

Купец выпусціў Ваньку з меха, а сам залез туды. Ванька сеў у карэту і паехаў дадому. Па дарозе ён сустрэўся з братамі, але тыя не пазналі яго.

Прарубілі браты ў лёдзе проламку і кінулі туды мех з купцом.

— Ну, пазбавіліся ад Ванькі,— радуюцца яны.

Прыехалі дамоў, аж Ванька на печы ляжыць.

— А, брат, як ты вярнуўся?

— Го, я яшчэ вунь якіх быкоў прыгнаў ды тавараў сколькі прывёз.

Паглядзелі браты: праўда — быкі і бурыя, і рыжыя, а тавараў колькі, дык і не злічыць.

— Мы тое, што як кінулі цябе ў проламку, дык ты «буры-буры» крычаў. Гэта ты быкоў лавіў. А нас ці можаш туды звазіць?

— Можна,— кажа Ванька,— хоць зараз.

Узялі яны два мяшкі, запраглі каня і паехалі да возера.

Завязаў Ванька мех з адным братам і бултых яго ў проламку. А той толькі «бур-бур-бур».

— Дык ён усіх лепшых быкоў паловіць,— закрычаў другі брат і без меха прыгнуў у ваду.

А Ванька стаў жыць-пажываць, хлеб нажываць.

## 53. ЯК ВАНЬКА ПАДМАНУЎ ЖАНІХА

Жылі-былі тры браты: два разумныя, а трэці, Ванька,— дурны. Іх дзядзька быў адпеты злодзей. Прыходзіць да дзядзькі старшы брат і гавора:

— Дзядзька, навучы мяне красці.

— Добра,— кажа,— навучу.

І пайшлі яны ўдваіх у вялікую дарогу. Вось ідуць праз вялізны дрымучы лес. Старшы брат і кажа:

— Дзядзька, вось каб гэты ўвесь лес выразаць, от бы шмат хат пабудаваць можна.

— Табе гаспадаром толькі быць, не выйдзе з цябе злодзея,— сказаў дзядзька і прагнаў старшага брата.

Пайшоў сярэдні брат да дзядзькі і гавора:

— Дзядзька, навучы мяне красці.

— Добра,— кажа,— навучу.

Павёў дзядзька і гэтага брата ў вялікую дарогу. Вось ідуць яны па вялізным зялёным лузе. Сярэдні брат і кажа:

— Дзядзька, вось каб гэты ўвесь луг скасіў, от бы шмат сена было.

— Табе гаспадаром толькі быць, не выйдзе і з цябе злодзея,— сказаў дзядзька і прагнаў сярэдняга брата.

Настала вочарадзь Ваньку-дурачку ісці да дзядзькі:

— Дзядзька, навучы мяне красці,— прыйшоўшы, сказаў ён.

— Не выйшла злодзеяў з разумных братоў, а дзе табе, дураку, такую мудрасць пасцігнуць.

Але Ванька так стаў прасіць дзядзьку, што той згадзіўся,

Сабраліся яны і пайшлі. Ідуць і відзяць — арэць чалавек на валах.

— Як бы гэта аднаго вала ўкрасці? — кажа Ванька да дзядзькі.

— Бачу, выйдзе з цябе злодзей,—адказвае на гэта дзядзька.

— Ну, добра. Ты ідзі да лесу, залезь на дрэва і на ўвесь дух лямантуй: «Дзіва, дзіва!». Аратовы прыбяжыць да цябе пытацца, што за дзіва, а я тым часам адрэжу ў быка хвост, упіхну яго ў глотку другога і павяду бясхвостага вала. І калі араты стане пытацца, што за дзіва, ты гавары: «Вол вала з'еў».

Так і зрабілі. Ванька залез на асіну і пачаў крычаць:

— Ай, дзіва, дзіва!

Араты кінуў валоў і пабег паглядзець на дзіва.

— Што за дзіва? Што за дзіва? — разам пытаецца ён у Ванькі.

— Вол вала з'еў.

Паглядзеў араты — аж і праўда: вол ды другога вала праглынуў, толькі хвост тырчыць з рота.

А Ванька злез з дрэва і пайшоў разам з дзядзькам у глыбіню леса.

Пачало змяркацца. Яны аблупілі вала, расклалі агонь і сталі рыхтаваць сабе вячэру. Толькі чуюць яны нейкі шум ды гоман. Да агню пад'ехала вяселле, і маладыя просяцца пабыць ля агню да раніцы, каб не збіцца ўначы з дарогі і не заблудзіцца.

— Што ж, вельмі рады,— згадзіліся дзядзька з Ванькам.

І пачалі частаваць маладых валовым мясам. Толькі маладая адказвалася ад пачастунку і ўсё журылася, што кончылася яе дзявоцтва.

Ахмялелая дружына скора заснула. Тады Ванька падышоў да маладой і сказаў ёй:

— Твой мужык шалёнага вала з'еў.

Маладая скінула адзежу з сябе і дала дзёру. А Ванька адзеўся ў адзежу маладой і лёг каля маладога.

На раніцу ўся дружына прачнулася, з пахмелля ніхто не абраціў унімання на тое, што маладая за ноч нашмат патаўсцела і стала вышэй ростам.

Малады, дык той абнімае Ваньку і не знайся. Прыехаўшы дамоў, маладыя пайшлі раздзяляць мядовую мінуту ў рыгу на сенавал.

Сенавал быў высокі, трэба было лезці па вяроўцы. Малады першым улез на сенавал і тым часам усцягнуў Ваньку. Ляжаць гэта сабе яны на пахучым сене і гутарку вядуць.

— Ці многа ў твайго бацькі золата,— пытаецца малады.

А Ванька адказвае:

— Нейдзе ёсць з бачонак.

— А дзе яно ляжыць?

— Не ведаю.

— А у майго ж дык цэлая бочка.

— А дзе ляжыць?

— Тут, у гумне, пад рашатнём закапана.

А Ванька думае: «Толькі гэта мне і трэба».

Паляжалі яшчэ трохі, Ванька і кажа:

— Я хачу да ветру спусціцца. Як буду падымацца, тры разы дзёрну за вяроўку. Як трэці раз дзёрну, так і цягні.

Злез Ванька з сенавала, пайшоў, адкапаў з-пад рашатня бочку з золатам. А каб малады не стаў трывожыцца, што доўга няма маладой, ён прывязаў да вяроўкі казу. Як толькі каза тузанула за вяроўку тры разы, малады як пацягне, а каза як зараве. Маладому здалося, што гэта дамавы, ён прытаіўся ў сене і ляжаў да раніцы ні жывы ні мёртвы. А калі рассвітала, убачыў, што каза да вяроўкі прывязана, а пад рашатнём свежая яма выкапана. Дагадаўся ён, што за маладая спала з ім. Толькі Ванька прыпёр бачонак з золатам дамоў, павыганяў сваіх братоў з хаты, ажаніўся і жыве-пажывае, хлеб спажывае, дзяцей гадуе.

Нават надоечы я сам быў у яго, пачаставаў ён мяне, як гэта палагаецца, і яшчэ запрашаў заходзіць.

## 54. ПАН І ПАРАБАК

Жыў сабе парабак у аднаго пана. Вельмі было яму цяжка ў яго служыць: і біў ён яго, і есці не даваў,— штодзень 15 розаг замест хлеба.

Потым усадзіў пан батрака ў мех, завязаў і павёз к вялізнай рэчцы. Аж па дарозе ўстрачаецца з паненкамі:

— Як маецеся? — пытае ён.

І паклаў ён на беразе ракі быстрай батрака звязанага, а сам паехаў з паненкамі.

Едзе купец дарогай і чуе такі разгавор:

— Ня ўмею ні чытаць, ні пісаць, а мяне за караля браць хацяць.

А купцу зайздросна стала.

«Я купец,— думае сабе,— а ніколі шчэ каралём не быў».

— Дык я ўмею,— голасна сказаў ён, а яму батрак у адказ:

— Развяжы мех і садзіся туды.

Вылез батрак, завязаў у мяшок купца, а сам сеў на купцовых коней.

А пан тым часам выправіў сваіх слуг утапіць батрака, яны і кінулі мех у глыбокую рэчку.

А Сцяпан сабе жыве ды на купцовых конях катаецца. Аднаго разу паехаў пан на кірмаш, глядзіць — Сцяпан прадае коні.

— Сцяпан! — закрычаў голасна пан,— гэта ж ты з таго свету?

— Ага.

— А дзе ж ты браў гэтыя коні?

— Ды на том свеце, панок.

— А што ты там бачыў?

— Да там рэчкі з золатам, а колькі ўсякага багацця, а коней — не пералічыш!

— Эх, кабы мне там багацця ўзяць! — зайздросна сказаў пан.

— Вазьмі жалезную бочку і хай цябе туды слугі ўсадзяць.

Прыняслі слугі бочку, хутчэй усадзілі туды пана, звязлі яго к мору, а Сцяпан як бросіць у глыбокае мора да кажа:

— Вось табе багацце, для цябе хопіць.

Утапіў пана, а сам запеў вясёлую песню і стаў ён жыць-пажываць ды паноў забываць. Вось і казкі канец.

# 55. ПРЫГОДЫ САЛДАТА

Ішоў салдат з царскай арміі дадому. Прышоў у адну хату і просіць:

— Пусціце паначаваць.

У хаце была ўдава з маленькім дзіцем. Яна пабаялася пагаварыць адна з салдатам і кажа яму:

— Схадзі ў бліжэйшую хатку і прывядзі сюды старую бабульку.

Ён і пашоў. А была тады надта дрэнная пагода. Бабка гаворыць:

— Куды ж я, дзеткі, пайду такой завеяй.

А салдат кажа:

— Нічога, бабка, я цябе на плячах данясу.

І панёс ён бабку. А гэта было ўжо вечарам. Натрапіў ён на завеяны калодзезь і бухнуў туды разам з бабкай. Але гэты калодзеж быў не надта глыбокі.

Салдат неяк выкарабкаўся адтуль, а бабка засталася. Прышоў ён да ўдавы і кажа:

— Не захацела ісці такой пагодай.

Сабралася па бабку сама гаспадыня. Кажа яму:

— Лезь на печ і пільнуй дзіця, а я скора вярнуся.

Раптам да дзіцяці падышоў кот. Салдат як кіне шчапнікам, папаў не ў ката, а ў дзіця і забіў яго.

Прыходзіць гаспадыня і кажа:

— Дзе ж ты падзеў бабку. Ты ж, казалі, панёс яе.

Яму і нечага казаць. Агледзелася гаспадыня, што і дзіця ляжыць забітае. Тут яна стала галасіць і праклінаць салдата.

Сабраліся вясковыя мужыкі і сталі прыдумываць яму кару.

Адны гавораць забіць, другія гавораць павесіць, трэція — спаліць. Адзін кажа:

— Я прыдумаў яму кару. Што толку, калі мы яго адразу заб'ём, але трэба, каб ён памучыўся. Пасадзіць яго трэба ў бочку і кінуць у лес.

Так і зрабілі. Узялі крэпкую бочку шчыльна забілі, але невялічкую дзірачку аставілі і завезлі ў лес. Так і прасядзеў ён некалькі дней у лесе. Аж падходзіць да бочкі воўк. Абнюхаў яе і пачуў, што там сядзіць чалавек. Але як жа выгнаць яго адтуль.

Узяў воўк усадзіў хвост у дзірку і стаў махаць у бочцы, гэта ўжо пужаць чалавека. Салдат схапіў ваўка за хвост. Той спужаўся і давай унасіць. Так ён бег, бег доўга, цягнучы за сабой

бочку. Бочка разбілася, цягнучыся па каменнях, і воўк добра замарыўся.

Салдат ужо пазбавіўся бочкі. Узяў зморанага ваўка на рамень і вядзе.

Прыходзіць у адну вёску. Там напаткалі яго купцы і пытаюць:

— Што ты вядзеш?

— Завадскога барана,— адказвае салдат.

Тут купцы і давай таргавацца, давай купляць гэтага барана.

Салдат не дурак быў, запрасіў такую вялікую цану. Усё ж купцы адкупілі гэтага ваўка і загналі ў хлеў, дзе стаялі ўжо раней накупляныя авечкі.

Салдата пусцілі ў хату начаваць, угашчаюць яго. Салдат лёг спаць, але яму не спіцца, бо знае, што там натворыць воўк з авечкамі. Ён ціхенька вышаў, узяў стаяк з пчаламі, палажыў на сваё места, накрыў і пашоў далей сам.

Назаўтра пашлі купцы выганяць авечак і гнаць на рынак. Тут воўк схапіў авечку, даўся пад ногі і ўцёк. Усе астальныя авечкі ляжалі на зямлі падушаныя.

Купцы вярнуліся ў хату, усе пасталі па вуглах з каламі, адзін пашоў будзіць салдата.

— Уставай,— кажа,— хваціць спаць.

Салдат не варушыцца.

— Уставай, кажу,— крыкнуў ён і стукнуў калом.

Як узарваліся пчолы, як загудзелі і сталі кусаць купца. А выступілі яны цэлым роем. Тут купец схапіўся за галаву і ходу. Астатнія купцы думалі, што гэта ўцякае салдат. Яны і сталі мясіць яго каламі. І забілі гэтага купца. А салдат пашоў у горад, выпівае сабе ды пасмяхаецца з купцоў.

## 56. МУДРЫ ДУРАНЬ

Было ў бацькі тры сыны, двух разумных, а адзін дурань. Пасеялі яны каля дарогі гарох. Каторагось дня пайшоў бацька на поле, аж бачыць, што е шкода.

Пасылае ён на ноч старшага сына пільнаваці. Пайшоў ён пільнаваці. Пільнаваў, пільнаваў, але на другі дзень зноў е шкода.

На другую ноч ідзе другі сын пільнаваці. Пільнаваў, пільнаваў, але так жа не ўпільнаваў. Зноў е шкода.

На трэцюю ноч ідзе бацька сам пільнаваці. Пільнаваў, пільнаваў, але так жа не ўпільнаваў.

На чацвёрту пайшоў дурань пільнаваці. Вечарам ідзе да яго маці і кліча яго вячэраці. А ён узяў жардзіну і трэснуў яе па галаве, і забіў. Прыбяжаў бацька і крычыць да дурня:

— Ай, што ты зрабіў!

А дурань кажа:

— Вазьмі залажы кабылу да воза.

Бацька залажыў і пад'ехаў. Яны ўзялі бабу і пасадзілі на воз, і паехалі. Прыязджаюць яны да папа. Дурань ідзе да папа і кажа:

— Бацюшка, уставай хутчэй: маці ўмірае, трэба яе выспавядаці.

А поп кажа:

— Не хочу.

Так ждалі яны да рання. Поп устае і выходзіць на двор, а яны кажуць да яго:

— Ай, бацюшка, што ты зрабіў, маці ўмерла.

Поп злякаўся, як даведаўся, што яна ўмерла і кажа:

— Не крычы, я табе дам грошы і дарма пахараню.

Яны ўзялі грошы і паехалі да другога папа. Прыехалі яны да цэркві і паставілі бабу пасярэдзіне і падперлі калком. Ідзе поп і перавярнуў бабу, а яны да яго:

— Ай, бацюшка, што ты зрабіў, мацеру забіў.

А поп да іх кажа:

— Я вам дам грошы, адно едзьце сабе.

Яны ўзялі і паехалі. Едуць яны, едуць, і заехалі яны да леса і астанавіліся каля вялікай сасны. Дурань і бацька ўзлезлі на сасну і ўцяглі бабу на дзерава. Аж едуць якіясь паны з фурманам і з лёкаем, і пад'ехалі яны пад гэту сасну і астанавіліся пад дзеравам папасаці. Паставілі самавар і сядзяць і ядуць. А дурань кажа да свайго бацька:

— Бацька, го, бацька, я скіну на паноў шышку.

А бацька кажа:

— Не кідай.

Дурань не выдзержаў і скінуў. Пан пытаецца лёкая:

— Што там упала?

А лёкай кажа:

— Шышка, проша пана.

Зноў дурань кажа да бацькі:

— Я не выдзержу, скіну шышку.

А бацька кажа да яго:

— Цыц, дзяржы, не пускай.

Але дурань не выдзержаў і пусціў. А пан пытаецца ў лёкая:
— Што там упала?
А лёкай кажа:
— Шышка, проша пана.
Дурань зноў кажа да бацькі:
— Бацька, го, бацька, я пушчу, не выдзержу.
А бацька кажа:
— Цыц, дзяржы, не пускай.
Але дурань не выдзержаў і пусціў бабу. Баба ўпала з дзерава і ўпала сярод іх. Паны вельмі злякаліся і пачалі ўцякаць. Пан пасылае свайго лёкая пабачыць, што гэта такое. Лёкай пайшоў. Падходзіць ён да таго месца, а дурань злавіў яго і адрэзаў яму языка. Лёкай пабяжаў да паноў, а яны як пабачылі яго, так сталі зноў уцякаць і ўсё аставілі. А дурань сеў да коча, узяў з сабою бацька і паехаў да сябе. І было ў яго з той пары ўсяго ўсякага багата.

## 57. АБ НАБІТЫМ ДУРНЮ

Жылі тры брацця, два разумных, а трэці дурань. Пайшлі яны ў лес дровы рубаць. Разумныя брацця рубаюць добрыя дровы, а дурны гнілую калоду. Рубілі доўга, брацця разумныя насеклі многа дроў, а дурань злота кацёл. Брацця, як гэта ўвідзілі, так і зарадаваліся, насыпалі сабе і рубашкі, і шапкі, і боты; адны забралі ўсё золата, самі асталіся сцерагчы, а дурня паслалі па мех. Ідзець дурань па мех, дайшоў да палавіны дарогі і забыўся, па што ідзець. Вярнуўся назад к разумным і пытаецца:
— Братцы! Я забыў, за чым вы мяне паслалі.
— Па мех! Каб боле не забыў, ты ўсё ж кажы: мех!
Дурны бяжыць і ўсё кажа: мех, мех, мех.
Сустракаець яго пан і кажа:
— Дзе тут дарога?
Дурны яму кажаць:
— Сюды мех, туды мех і туды мех.
Пан рассярдзіўся на дурня, даў яму крэпка. Дурань ізноў забыў. Бяжыць і пытаецца:
— Братцы! Па што вы мяне паслалі!
— Дурнішча! Па мех!
— Братцы, мяне сустрэў пан і пытаўся дарогі, і я яму сказаў: «Сюды, паночак, мех, туды, паночак, мех і туды мех»,— і ён мяне за гэта біў.

— Дурнішча. Ты б сказаў: «Сюды, паночак, дарога і сюды дарога, едзьце, куды вам трэба».

Пайшоў ізноў дурань па мех і кажа:

— Мех! Мех! Мех!

У дзярэўні апанавалі яго сабакі, а ён ім і кажа:

— Сюды дарога і сюды дарога, бяжыце, куды вам трэба.

Глядзіць ён, што сабакі не слухаюць,— уцёк, забыў, па што бяжыць.

— Братцы! Па што вы мяне паслалі?

— Па мех, дурань ты!

— А мяне як сабакі апанавалі, я ім казаў тое, што вы мне казалі.

— Дурань ты! Ты б іх палкай біў.

Пайшоў дурань па мех, усё кажа:

— Мех! Мех! Мех!

І ўзяў з сабою палку.

Сустракаець яго свадзьба. Маладуха злезла і кланяецца, а ён яе палкай. Тут усе яе адбаранілі, дурня набілі. Дурань зноў забыў, па што бяжыць. Ізноў вярнуўся і пытаецца:

— Братцы! Па што вы мяне паслалі?

— Ах, каб цябе пранцы з'елі! Па мех!

— А мяне сустракала свадзьба, зачала маладуха кланяцца, а я яе палкай.

— А, дурышча, ты б сказаў: «Каб вы так кожды дзень радаваліся».

Пабег дурань, кажа:

— Мех! Мех! Мех!

Вязуць мерцвяца хараніць, ён і кажа ім:

— Ах, каб вы кожды дзень так радаваліся!

Тыя яму апяць аддубасілі, ён ізноў забыўся, па што бяжыць.

— Братцы, па што вы мяне паслалі?

— Па мех!

— Ах, братцы мае! Вязлі мерцвяца, і я тое сказаў, што вы мне сказалі, і мяне за тое выбілі.

— Ай, дурнішча ты! Здзеў бы шапку, да богу памаліўшысь, пайшоў.

Дурань пабяжаў і ўсё кажа:

— Мех! Мех! Мех!

Відзіць ён, што мужык смале на дварэ свінку, ён зняў шапку, на каленкі — богу моліцца. Той мужык абліў яго вадой, ён уцёк і забыўся, па што бяжыць.

Вярнуўся, зноў пытаецца. Відзяць браты, што не даждуцца яго меха, пашлі самі, узялі мех, прышлі ў лес, забралі золата і сталі ўсе багата жыць.

## 58. НАБІТЫ ДУРАНЬ

Жылі-былі дзед і баба. І быў у іх сын. І гэты сын быў дурны. Ён ніколі не знаў, дзе што гаварыць. І вось аднойчы маці яму сказала, што калі ты, сынку, заходзіш у хату, то патрэбна здаровацца. Аднаго разу зайшоў ён у хату, а там нябожчык ляжыць. Тут ён і гаворыць:

— Здаровы будзь!

Яго за гэта набілі, выгналі з хаты. Прыйшоў ён дадому і кажа:

— Маці мая, Васіліха, вучыш ты мяне на ліха. Білі мяне.

— А што ты гаварыў, сынку?

— Я сказаў: «Здароў будзь!»

— Дурны ты, дурны. Патрэбна было сказаць нябожчыку: «Вечны пакой, царства табе нябеснае».

І вось ён заходзіць у адну хату, а там наваролжаны. Ён і гаворыць:

— Вечны пакой. Царства табе нябеснае.

Яго пабілі і выштурхнулі з хаты. Прыходзіць ён дадому і кажа:

— Маці мая, Васіліха, вучыш ты мяне на ліха.

— А што ты гаварыў, сынку?

— Я сказаў: «Вечны пакой. Царства табе нябеснае».

— А патрэбна было табе сказаць, сынку: «Падымі цябе на высату і красату, на доўгія вяка».

Аднойчы Іванка ідзе і бачыць, што гарыць хата. Ён тут і гаворыць:

— Падымі цябе на высату і на красату, на доўгія вяка.— І тут Іванку чуць не забілі. Прыйшоў ён дадому і плача:

— Маці мая, Васіліха, вучыш ты мяне на ліха. Зноў мяне білі.

— А што ты гаварыў, сынку?

— Я сказаў: «Падымі цябе на высату і на красату, на доўгія вяка».

— А патрэбна было, сынку, узяць лапату і засыпаць агонь пяском.

Пайшоў ён зноў. І тут ён бачыць, што дзядзька паліць агонь, якім будзе смаліць кабана. Іванка ўзяў лапату і засыпаў пяском агонь. Тут яго зноў пабілі. Ледзь жывы прыйшоў Іванка дадому і плача:

— Маці мая, Васіліха, вучыш ты мяне на ліха. Зноў мяне пабілі.

— А што ты казаў, сынку?

— Я ўзяў лапату і засыпаў агонь.

— А патрэбна было табе тут сказаці, сыночак: «Дай, божа, даждацца празніка». Ну з цябе нічога не будзе, сынку. Патрэбна цябе ажаніць. Заўтра пойдзем у сваты. Ды ты толькі не пі і не еш нічога, а вядзі сябе скромна.

У сватах Іванка вёў сябе спачатку вельмі добра. Калі падышоў вечар, то ўсе ляглі спаць. І тут Іванка просіць у маці есці. Яна яму тут кажа:

— Ідзі, сыночку, за комін, там ляжаць пірагі са смятанай.

Пайшоў ён туды, дастаў рэшата з кацянятамі і паеў іх. Затым Іванка лёг спаць. Но не спіцца яму, вельмі хочацца піць. І тут ён просіць у маці піць. А маці кажа:

— Ідзі, сынку, і пад лавай вазьмі глёк з квасам. І вось з гэтага гляка і напіся.

Пайшоў ён, узяў глёк і ўсунуў туды галаву. Іванка напіўся квасу, а назад галаву не можа выняць. Як ён ні кідаўся, як ні матаўся, а глёк з галавы не злазіў. А людзі падумалі, што гэта нейкі звер, узялі палкі ды разбілі яму галаву. Так і закончылася жаніцьба дурака.

## 59. СМЕРЦЬ

Жылі сабе старэнькія дзед з бабаю. Жылі яны доўга, доўга, але ім здавалася, што яны пражылі мала. Пакуль бог даваў здароўе, ім так жылося, што яны й нічога не памятаюць з свайго жыцця і здаецца, што была кароткая жытка. Але пад старасць начало ўсё балець: косці трэ, спіну ломіць, ногі і рукі млеюць, кашаль душыць, вочы не бачаць, вушы не чуюць, а на языку смаку няма. Есці хочацца, а палажы ў рот — душа не прымае. Ойкаюць да стогнуць дзед з бабаю; а тут яшчэ трэ гаравацць, бо не даў бог ім плоду. Былі ў іх дзеткі і ўнукі, да ўсіх пабраў бог к сабе. Цяжка жыць на старасці дзеду з бабаю без памогі. Адно крэхча на печы да жаліцца, што не дае бог смерці. Другое сабе ж стогне на палу да на бога наракае, што людзі ўміраюць

і маладыя, а яго і на старасці бог не хоча прыбраць, свет апрастаць. Саўсім здзяцінелі дзед з бабаю, а ўсё жывуць да жывуць. Але ось раз палетку высунуліся сабе дзед з бабаю з хаты, сядзяць на прызбе да на сонейку грэюцца. На вуліцы грабуцца куры; ходзяць свінні да ў лужах кеўзаюцца; валандаюцца гусі да праз плот з агародаў шчыпаюць траву; дзеці перакідаюцца да перасыпаюць пясочак або лепяць аладкі. Сонейка пячэ, а дзед з бабаю сядзяць у кажушках да й то ім холадна. Падышоў к ім сусед да й пытае пра здароўе.

— Ой, якое наша здароўе! — кажа дзед.— Як так жыць, лепей гніць, да от бог адступіўся і не дае смерці.

— Эй, дзеду, не грашы богу! Бог ведае, што робіць. Жыць важка, а паміраць яшчэ гарэй.

Тут баба пачала жаліцца, што бог адступіўся ад іх і не дае смерці, не апрастае зямлі. Тым часам к таму чалавеку падбег яго хлапчук.

— Злабі мне хацьку, бацька,— прыстае ён і давай лашчыцца да прасіць.

— Добра, добра, зраблю,— кажа чалавек і пачаў гладзіць сынка па кудзерках.

Весела стала бабе; усміхаецца яна, і сама давай песціць хлапчука. Зірнуў дзед на бабу і ўздумаў тую пару, як яго баба песціла сваіх дзетак; уздумаў — і так радасна яму стала на сэрцы, што і сам пагладзіў хлапчука. От пачаў сусед з шчэпачак будаваць хатку, а дзед з бабаю сядзяць на прызбе, пазіраюць то на яснае сонейка, то на дзяцей, слухаюць, як яны смяюцца да весела шчабечуць, і самім радасна стала. Тым часам гусь падышла к бабе й давай яе шчыпаць за кажушок.

— Чаго яна прычапілася,— крычыць баба.

А сусед да й кажа:

— Гэта, баба, смерць прышла па цябе.

Спалохалася баба, не хоча паміраць, адпіхае ад сябе гусь і крычыць:

— Агіль да дзеда.

А дзед крычыць:

— Агіль да бабы.

От так ганяюць яны гусь адно к другому, бо нікому не хочацца паміраць. Засмяяўся сусед, пазваў гусь да й кажа:

— Жыць важка, а паміраць гарэй.

## 60. ЯК ДЗЕД БАБУ ГЛАДЗЕНЬКА АШУКАЎ

Прыйшоў адзін дзед да гаспадыні і просіць, каб дала есць. Тая дала і кажа:

— Пастой, дзедку, зара пасалю.

— Э-э,— кажа,— не трэба, мая саколка, е ў мяне такая ложка, што як кілька разы замяшаю, то й салёна будзе.

Добра. Той дзед выняў ложку з торбы, сыпнуў няўзнакам крышку солі, усё мяшае і гаворыць:

— Абсалютум, абсалютум, абсалютум.

— На,— кажа,— цяпер пакаштуй, мая гаспадынька!

Тая пакаштавала — праўда, салёна! Так кажа:

— А мой дзядзюшку! А мой саколіку! Прадай мне яе, я табе што хочаш дам.

— Э-э,— кажа,— мая гаспадынька, як та такую рэч збываць!

Анно ж як пачала ляменціць, надала яму грошай, адзежы, усяго, так той аддаў, да й сам, сабраўшыся, дай бог ногі! Анно ж прыязджае яе мужык і якраз прывозіць мяшок солі.. Яна гэта выбегла, да за тую соль:

— А ты такі-гэтакі! Хто цябе просіць, каб ты соль вазіў.

Той думае сабе: «Звар'явалася баба!»

Ідзе ўжо ў хату, а яна яго за стол, наліла місу стравы:

— На, еж!

Той пакаштаваў:

— Каб цябе ўпадкі ўзялі! То ж без солі.

— Ото ж бач, зара будзе салёна.

Да гэта за тую ложку да, усё мяшаючы, кажа:

— Абсалютум, абсалютум, абсалютум.

Што пакаштуе — не салёна! Той мужык пачаў дагадвацца, што неякія штукі е, да то вяроўку намачыў, да давай бабу апляцаць! А тая плача да яшчэ мяшае і ўсё:

— Абсалюту-ум! Абсалюту-ум!

## 61. МЕНА

Жыў сабе дзед з бабай. Пасеялі яны боб пад палом. Той боб як расці дык расці — вырас пад самы пол. Яны ўзялі пол раскінулі. Той боб як расці дык расці — вырас пад самую столь. Яны ўзялі столь раскінулі. Той боб як расці дык расці — вырас пад

самае неба. Паглядзеў дзед на бабу і кажаць: «Палезу па струччу на неба!» I палез. Лез, лез і ўзлез на самае неба. Там яму бог падарыў залатую цяцерку. Узяў дзед цяцерку і пайшоў дамоў. Відзіць: пасцюць канюхі коняў.

— Дзень добры, дзедзька! Дзе ты быў?
— На небе ў пана бога!
— Што табе пан бог даў?
— Залатую цяцерку!
— Памяняйся з намі на коніка!

Дзед памяняўся, уссеў на каня і едзець дамоў. Відзіць: пасцюць пастухі валоў.

— Дзень добры, дзедзька! Дзе ты быў?
— На небе ў пана бога.
— Што табе пан бог даў?
— Залатую цяцерку!
— А дзе яна?
— Памяняў на коніка!
— Памяняй з намі коніка на воліка!

Дзед памяняўся, узяў вала і пайшоў. Відзіць: пасцюць бараноў.

— Дзень добры, дзедзька! Дзе ты быў?
— На небе ў пана бога!
— Што табе пан бог даў?
— Залатую цяцерку!
— А дзе ж яна?
— Прамяняў на коніка!
— А конік дзе?
— Прамяняў на воліка!
— Прамяняй нам воліка на барана!

Дзед памяняўся, узяў барана і пайшоў. Ідзець, відзіць: пасцюць індыкоў.

— Дзень добры, дзедзька! Дзе ты быў?
— На небе ў пана бога!
— Што табе пан бог даў?
— Залатую цяцерку!
— А дзе ж яна?
— Прамяняў на коніка!
— А конік дзе?
— Прамяняў на воліка!
— А волік дзе?
— Прамяняў на барана!
— Прамяняй нам барана на індыка!

Дзед прамяняў барана на індыка і пайшоў.

Ідзець, ідзець, відзіць: дзеці гуляюць на вуліцы, ездзюць на качарэжках.

— Дзень добры, дзедзька! Дзе ты быў?
— На небе ў пана бога!
— Што табе там бог даў?
— Залатую цяцерку!
— А дзе ж яна?
— Прамяняў на коніка!
— А конік дзе?
— Прамяняў на воліка.
— А волік дзе?
— Прамяняў на барана!
— А баран дзе?
— Прамяняў на індыка!
— Прамяняй нам індыка на качарэжку!

Дзед прамяняў, уссеў на качарэжку і прыехаў на качарэжцы дамоў. Баба ў яго пытаецца:

— Ці ж быў ты на небе ў пана бога?
— Быў!
— Што табе пан бог даў?
— Залатую цяцерку!
— А дзе ж яна?
— Прамяняў на коніка!
— А конік дзе?
— Прамяняў на воліка!
— А волік дзе?
— Прамяняў на барана!
— А баран дзе?
— Прамяняў на індыка!
— А індык дзе?
— Прамяняў на качарэжку!..

Усердзілася баба на дзеда, давай яго качарэжкай біць. Забіла да смерці і пахавала пад загнетам.

## 62. УРОДА Ў МОЗЫРЫ

Быў чалавек, імеў у сябе ўсяго многа, толькі не было ў яго грошай. Ён думаў, думаў, дзе іх узяць, пасля сказаў:

— Пайду ў свет,— і пайшоў.

Ідзе ён дарогаю і бачыць: барануе хлопец. Ён прыйшоў к яму і кажа:

— Хадзем, дзіця, са мною грошай шукаць.

Той кажа:

— Хадзем, дзядзька.

Ідуць яны і бачаць — стаіць двор. Тады чалавек кажа хлопцу:

— Ты будзь тут, а я пайду ў двор; калі будуць у цябе чаго пытацца, то ведай, што атвячаць.

Прыйшоў чалавек у двор і пытаецца:

— Хто ў гэтом дварэ жыве?

Яму сказалі:

— Пані.

Тагды ён пайшоў к пані. Як вашоў у яе пакой, то пані, яго ўбачыўшы, спыталася:

— Адкуль ты, чалавеча?

Ён кажа:

— З Мозыры.

— Як там урода? Кажуць, што вельмі добрая.

— На ўсё, пані, добрая ўрода, але вельмі капуста добрая ўрадзіла, такая харошая, што з адной галоўкі можна нашаткаваць дванаццаць кадзей.

Пані кажа яму:

— Ты маніш.

— Не, калі, пані, хочаш ведаць праўду, то пасылай свайго чалавека, няхай там паглядзіць у нас на месце.

Пані кажа:

— Калі няпраўда, што ты мне заплаціш за гэта, што мой чалавек туды паедзе?

— А калі праўда, то, пані, мне што дасі?

Яна кажа:

— Сто рублёў.

— Але, калі няпраўда, то я застануся ў пані служыць.

— Ну, добра!

Пані вялела свайму лёкаю запрагчы пару каней і ехаць паглядзець ў Мозыры, ці праўда гэта, што ёй чалавек гаварыў. Лёкай паехаў і паўстрачаў таго хлопца, каторы быў з тым чалавекам, што к пані зайшоў. Пытаецца лёкай ў яго:

— Адкуль ты, хлопча?

Ён кажа:

— З Мозыры.

— А якая там урода ў гэтым гаду?

— Добрая ўсё, но вельмі капуста ўрадзіла, так што пад адным лістом можна чатырнаццаці чалавекам схавацца ад дажджу.

Тады лёкай узяў дай вярнуўся дамоў і кажа пані, што сустрэў хлопца, катораму болей не будзе як сем ці восем гадоў, і мне здаецца, што ён маніць не ўмее яшчэ, ён мне сказаў, што ў Мозыры капуста так урадзіла, што пад адным лістом могуць схавацца чатырнаццаць чалавек ад дажджу, а такі хлопец маніць не будзе, яшчэ мал.

Тады пані дала чалавеку сто рублёў і падзякавала, што ён ёй сказаў вялікае чуда. Чалавек узяў грошы, пайшоў к свайму хлопцу і кажа:

— Ужо сто рублёў ё, хадзем далей!

Ідуць яны і бачаць другі двор. Тады чалавек кажа свайму хлопцу:

— Ты будзь тут, а я пайду ў двор, но ты толькі ведай, што казаць, калі будуць пытацца ў цябе чаго.

Прыходзіць у двор і пытаецца:

— Хто тут жывець?

Яму кажуць, што пані. Ён адправіўся к ёй. Пані, убачыўшы яго, спыталася:

— Адкуль ты, чалавеча?

Ён кажа:

— З Мозыры.

— А як там урода?

— Харошая на ўсё, но вельмі гарбузы ўрадзілі, так што аднаго гарбуза не паднімуць 20 чалавек.

Пані кажа:

— Маніш.

А ён ёй кажа:

— Калі хочаш, пані, ведаць праўду, то пашлі туда свайго чалавека ці лёкая, няхай паглядзіць там на месце.

Пані кажа:

— А што будзе мне за гэта, калі гэта, што ты гаворыш, не будзе праўда?

— Ну, а што будзе, калі будзе праўда?

— Я табе дам сто рублёў.

— Ну, а калі будзе няпраўда, астануся ў цябе служыць.

Пані вялела свайму чалавеку ехаць паглядзець на месце. Чалавек паехаў. Едзе ён, едзе, а на сустрэчу яму ідзе той хлопец, каторага чалавек, ішоўшы к пані, аставіў на дарозе. Лёкай пытаецца ў яго:

— Адкуль ты, хлопча?

— З Мозыры,— кажа ён.

— А не ведаеш ты, якая там урода?

— Добрая, но як гарбузы ўрадзілі, то вельмі вялікія, так што аднаго гарбуза 20 чалавек выкацілі з гарода на вуліцу і так аставілі. Свіння прыбегла, прагрызла ў ём бок і выяла ўсе ўнутранасці. Пасля гэтага ехаў пачтальён на тройцы коней і з разгону ўляцеў у гарбуз, дзе ездзіў тры дні, пакуль выехаў на дарогу.

Лёкай вярнуўся і кажа пані, што яму сказаў хлопец. Пані паверыла і дала чалавеку сто рублёў. Чалавек узяў і пайшоў к свайму хлопцу і кажа:

— Ну, добра! Дзвесці рублёў ё. Хадзем ужо на вялікую дарогу.

Прыйшлі. Чалавек кажа:

— Я лягу, а ты плач нада мною, то людзі будуць думаць, што я памёр і будуць класці табе грошы ў шапку, каб было за што пахаваць мяне.

Стары лёг і ляжыць, а хлопец сядзіць дай плача. Людзі бачаць мёртвага чалавека і дзіця, каторае плача, над ім седзя, сталі даваць яму грошы і надавалі палавіну шапкі.

Пасля едзе пан, бачыць: ляжыць на дарозе чалавек, і дзіця плача, ля яго стоячы. Ён злез са сваёй павозкі, паглядзеў на ляжачага чалавека і адразу здагадаўся, што ён не мяртвец. Пан узяў свой аграпнік, злажыў удвоя да расхінуў яго адзежу і ну аграпнікам біць яго. Хлопец жа паваліўся на галаву свайго бацькі, як ён яго ўжо зваў, і стаў яшчэ больш крычаць і прыгаварываць:

— А, татачка, цярпі мёртвае цела, будзе душа спасёна.

Пан бачыць, што чалавек не ўстае, выняў чатыры рублі і даў хлопцу, а сам на павозку да і ўцёк. Тады чалавек устаў і кажа:

— Каб яшчэ адзін раз выцянуў, я б закрычаў.

Ідуць яны дарогаю і прыйшлі ў лес. Лесам едзе пан. Хурман крычыць:

— На бок!

А яны кажуць:

— Мы з брахунцамі.

— Што? — пытаецца пан.

— Мы з брахунцамі.

— Што то за брахунцы? — пытаецца пан.

— А вот такія, калі пан хочаш, то выпражам у цябе пару коней.

— Ну, брашыця,— кажа пан.
— Не, мы не можам скора выбрахаць, но вунь там, што дым вялікі за лесам ідзе, там жывуць старыя брахунцы, тыя скора могуць выбрахаць, вот, пан, адпражы пару коней і дай майму хлопцу, няхай ён з'ездзіць па старых.
Пан кажа хурману:
— Адпражы яму пару коней, няхай з'ездзіць.
Хурман кажа:
— Не трэба адпрагаць, ён як паедзе, то і не прыедзе.
Пан крыкнуў на хурмана і вялеў яму адпрагчы пару коней. Ён адпрог. Хлопец сеў вярхом дай паехаў. Пан ждаў, ждаў — не вязе хлопец брахунцоў. Тады стары кажа:
— Яны яго не слухаюць, вот каб я, я б іх скора прывёз.
Пан аддаў і другую пару. Чалавек паехаў, то і не вярнуўся к пану.
Скора настала ноч. Пан злез з сваёй брычкі з хурманам і пайшоў у сяло на ноч, а чалавек з хлопцам запраглі коні да і паехалі ў Менск. Прадалі іх там за 200 рублёў і вярнуліся дамоў, сталі жыць-пажываць да віно папіваць.

## 63. МУЖЫК І ПАН

Адзін мужык увідзеў у памешчыка харошую свінню з парасятамі. Ён пайшоў і стаў кланяцца свінні. Гэта відзела пані з балкона. Яна паслала лакея спрасіць, чаму ён свінні кланяецца? А той кажэць:
— Гэта мая Рапка жэніцца, а ваша Белка маёй Рапцы родная цётка, дык я заву на веселле, а яна ўсё кажа: «Не хачу!»
Лакей пайшоў і расказаў пані. Тая расхахаталася і сказала прызваць мужыка. Мужык прыйшоў. Тагды пані кажа:
— Што ты нашай свінні кланяешся?
— А во што: у мяне ёсць Рапка, а ваша Белка ёй родная цётка, дык мая Рапка жэніцца і просіць вашае Белкі на вяселле,— вот я і прыйшоў прасіць, а яна кажа: «Не хачу!»
— Ха-ха-ха!.. Ну, дык як жа ты яе павядзеш? — кажаць пані.— Ці павязеш?
— Не, павяду, калі пойдзе,— я прыйшоў.
— А парасяты як будуць?
— І з дзеткамі прасіла Рапка, штоб пусцілі.
— Ну, так я скажу, штоб запраглі каня і палажылі Белку, а калі не захоча ляжаць, то прывязаць, а парасят у мяшок.

Пані прыказала запрэгчы каня, палажыць на воз свінню і парасят і даць мужыку.

— Ці скора ты назад прывязеш?

— Скора, мая панечка.

Мужык сеў і паехаў. Пана не было ў двары. Як прыехаў пан, так пані яму кажэць:

— У нас быў мужык, ён нашай Белцы кланяўся, прасіў на вяселле. Я яе пусціла і каня дала ехаць.

А пан кажэць:

— Во дура, а мужык абмануў; прападзе і конь, і свіння з парасятамі. Скарэй лашадзей давайце!

Далі тройку з калакалом. Пан сеў і спрашываець:

— Куды ж мужык паехаў?

— А во сюды,— кажуць людзі і паказалі пану дарогу.

Пан туды і паехаў. А мужык пачуў колакал, звярнуў у лес. Там убіў свінню з парасятамі, каня прывязаў, а сам выйшаў на дарогу, наклаў кучу памёту, накрыў шапкаю і сядзіць. Едзе пан.

— На бок,— крычыць панскі кучар.

— Не, паночак, не! Едзьце вы сабе на бок,— мне не можна!

Пан сказаў кучару аб'ехаць мужыка. Мінуўшы мужыка, пан астанавіўся і спрашываець:

— Ці не бачыў ты, мужычок, тут мужыка, едучы і везучы свінню з парасятамі?

— Відзеў, паночак, ён тут нядаўна ехаў.

— А ці знаеш, куды ён паехаў?

— Знаю.

— Пакажы ж нам дарогу.

— Не, паночак, не! Мне і з места не можна сыйсці. Калі хочаце, то я вам дарогу скажу: вы будзеце тут прама, потым звароціце крута-крута ўправа, а там крута-крута ўлева і так далей.

Пан і спрашывае ў кучара:

— Ці паняў ты?

— Не, пане!

— І я не паняў.

Тагды пан спрашывае ў мужыка:

— Ці дагнаў бы ты яго?

— Чаму не, пане? Я яго зараз бы прыцяг к вам.

— Ну, дагані, я табе заплачу.

— Не, божа сахрані! Мне з месца не можна сыйсці.

— Чаму ж табе не можна сыйсці? Што ты тут робіш?

— Гэта, паночак, ехаў мой пан і сустрэўся са знакомаю паняю, і тая пані падарыла яму шчыгла. Дык пан сказаў мне яго дзяржаць, пакуль ён будзе ехаць назад.

— Ну, так ты едзь з маім кучарам, а я буду вартаваць.

— Не, пане, не хачу: тады мне ад пана жыцця не будзе, як ты ўпусціш шчыгла.

— Я не ўпушчу.

— Не, пане, не паверу.

— Ну, дык я буду вартаваць з хурманам, а ты едзь адзін!

— Не, не хачу!

— На табе сто рублей, едзь!

— Не, баюся, пане: вы пусціце шчыгла.

— Да не пусцім жа.

Мужык узяў сто рублей і сеў ехаць. А пан спрашывае:

— Ці скора ты вернешся?

— Цераз час, паночак, я тут буду.

Мужык паехаў. Па дарозе ён адчапіў колакал, заехаў у лес, узяў каня з свіннёю і парасятамі і ўехаў.

Пан з кучарам праждалі час — мужыка няма, праждалі другі — яго няма. Тады кучар кажэць:

— Пані была дурань: аддала каня з свіннёю і парасятамі, а пан яшчэ дурней — аддаў тройку коней і сто рублей.

А пан кажэць:

— Цо ты мувіш, дурню! Я як здзелаю аб'яўленне: чый шчыгол, так і найду вора.

Потым стала сонца заходзіць, а кучар кажэць:

— Не хачу ўжо сядзець. Я есці хачу, хадзем у двор.

А пан кажэць:

— Ну, так ты бяры шчыгла, а я буду падымаць шапку.

Троха падумаўшы, пан кажэць:

— Не! Ты ўпусціш; ты падымай шапку, а я буду браць шчыгла.

Кучар узяў за вяршок шапкі, а пан абедзве рукі падсунуў пад шапку. Кучар як падыме шапку, дык пан разам абеімі рукамі як хваціць — дык прама ў памёт. Тут як закрычыць:

— А дурань! А галган! Во шчыгол!

А кучар кажэць:

— Я гаварыў, што пані дурная, а пан дурней.

А пан крычыць:

— На, атсеч мне рукі! Цо мне зробіць?

— А што вам, пане, зрабіць? — кажа кучар.— Абатрыце аб траву.

Пан так і здзелаў, і пайшлі яны ў двор. Прыйшоўшы, пан і кажэць пані:

— Ты дурная: аддала каня і свінню з парасятамі, а я дурней: аддаў трох каней і сто рублей, а яшчэ рэнкі ўпачкаў, ванюць дужа, хоць атсеч нужна.

Пані расхахаталася. А мужык і цяпер ездзіць на панскіх конях.

## 64. ВЯСНА-КРАСНА

Жыла-была старушка з сынам. Забіла яна кабана. Сын і кажа маці:

— Мне ўжо жаніцца трэба. Прадам я сала, каб былі грошы, паеду ў горад. А ты вось гэты кублік з салам не чапай, пакуль не прыдзе вясна-красна.

— Добра, сынку.

Паехаў сын у горад. Праз некалькі дзён бачыць маці: ідуць па вуліцы людзі, танцуюць, спяваюць. Яна да іх.

— Гэта не вясна-красна?

— А што?

— Ды мой сын пакінуў ёй кубел з салам.

«Вось дурная баба»,— думаюць людзі.

— Давай яго сюды, гэта вясна-красна,— кажуць яны.

Яна і аддала кубел. Прыехаў сын і кажа:

— Ну, мама, буду жаніцца! Грошы ёсць, сала ёсць!

— Якое сала? Ты ж сказаў, каб я аддала яго вясне-красне. Я і аддала ёй!

— Якая ж ты дурная, мама. Пайду ў свет. Калі знайду яшчэ дурней за цябе, дык вярнуся. А калі не — дык не прыду зусім.

Ішоў ён, ішоў. Стаіць панскі палац. Ён — на двор. Аж у гразі ляжыць вялізная свіння з дванаццацю парасятамі. Ён шапку зняў і пачаў кланяцца ёй, а свіння: «рох-рох...»

Барыня якраз стаяла ў вакне і бачыла ўсё гэта. Засмяялася і думае: «Вось дурны мужык! Свінні кланяецца». Паклікала лакея, каб прывялі мужыка. Ён ёй у ногі:

— Барыня-сударыня, памілуй мяне!

— А што, устань!

— Ды вось, як народзіць жонка дзіця, дык памрэ. А мне параілі, каб не памірала, каго сустрэнеш, таго і запрашай за куму ці кума. Я сустрэў вашу свінню. Адпусціце яе, барынька-сударынька, на хрэсьбіны!

«Ну і дурань»,— падумала пані, засмяялася і кажа:
— Запражыце каня, палажыце свінню ў воз, няхай будзе кумою!
— Барыня-сударыня! Адпусціце і парасят, няхай павесяляцца на хрэсьбінах!
— Ха-ха-ха! Палажыце і парасят.
Сеў гэты хлопец, як пан, і паехаў. Толькі яго і бачылі. Прыязджае ён дахаты і гаворыць маці:
— Ну, вяселле будзе!
Забіў свінню, а парасят і каня — у хлеў і зажыў, прыпяваючы.

## 65. ЧАЛАВЕК З ТАГО СВЕТУ

У аднаго мужыка быў адзін сын. Яны яго называлі дурнем. А ён сказаў:
— Пайду ў свет, пагляджу. Калі дурнейшых знайду, то прыду дадому, а калі не, то не пайду.
Вот ён ідзе дарогаю, бачыць: баба палошча плацце на рэчцы. Ён пытаецца ў бабы:
— Што ты, баба, робіш?
А баба гаворыць яму:
— Палашчу плацце з дачкою.
Ён гаворыць бабе:
— Вот твая дачка пойдзе замуж і прывядзе дзіця. Дзіцяываліцца з калыскі, а клопат дасць па дзіцяці і заб'е.
Баба сказала дачцы і паляцелі дадому. А ён узяў плацце мокрае, самае лепшае. Ідзе ён далей, бачыць: баба рэшатам сонца ловіць. Толькі ўнясе ў сені, сонца прападзе. А ён гаворыць:
— Што ты, баба, робіш?
Яна кажа:
— Вот, мужычок, ва ўсіх хатах сонца ёсць, а ў маёй няма.
А ён кажа:
— Што дасі, так пушчу ў хату сонца.
Яна пытаецца:
— Што табе даць?
Ён гаворыць:
— Дай каптур грошай.
Ён узяў сякеру і прасек у хаце вакно. Сонца засвяціла. Баба дала яму каптур грошай, і сама рада, па хаце казака скача.

І ён ідзе далей, бачыць, што баба курыцу з куранятамі б'е повадам. Ён кажа:

— Што ты робіш, бабка?

Яна адказвае:

— Вот курыца куранята прывяла і не корміць іх.

Ён гаворыць ёй:

— Дасі гарнушок грошай, то будуць і куранята есці, і курыца.

Узяў ён крупаў, налажыў і насыпаў іх на дошчачку. Курыца з куранятамі ядуць крупы. І баба тады дала яму гарнушок грошай, і сама рада, казака пайшла па хаце скакаць.

І пайшоў ён далей. Ідзе ён, ідзе дарогаю і бачыць ён: людзі вядуць на вяроўцы вала, на стрэху цягнуць, а вол упіраецца, не хоча ісці. Ён кажа:

— Што вы робіце, людзі? Што вы,— кажа,— мне дасцё? Дасцё мне кашалёк грошай, то вол з'есць траву.

Узяў ён серп і палез на стрэху, зжаў траву і даў валу, і вол стаў есці траву. Тады далі яму кашалёк грошай, і самі рады, і пайшлі казака скакаць.

Пайшоў ён далей. Ідзе ён, ідзе дарогаю, насцягнула яго ноч. Ён зайшоў у карчму. Пытаецца ў яго яўрэйка:

— Адкуль ты, чалавечку?

А ён адказвае:

— З таго свету.

Яна гаворыць:

— Бачыў майго тату, маму?

Ён кажа:

— Чаму ж не бачыў.

А яна пытаецца:

— А як яны там ходзяць?

А ён кажа:

— Ходзяць абарваныя, абшарпаныя.

Яна кажа:

— Можа, табе даць плацце і грошай.

Далі яму грошай і плацце. Ён сеў і паехаў. Едзе ён, едзе, прыехаў у лес, злез з каня і пусціў каня хадзіць. Сам ён ідзе і бачыць: у пані ляжыць свіння з парасятамі на двары. Ён зняў шапку і стаў кланяцца свінні. А пані ўгледзела праз вакно і кажа:

— Што ты робіш, мужычок?

Ён гаворыць:

— Гэта мая цётка, я яе прашу на вяселле.

Яна гаворыць:

— Што свіння табе гаворыць?

А ён кажа пані:

— Што гэта яе дзеткі маленькія. Яна шкадуе іх пакідаць. Каб гэта пані дала пару коней, і брычку, і свінню з парасятамі. Я яе завязу, яна пабудзе ў мяне на вяселлі.

І парабак запрог пару коней у брычку, і ўзлажылі свінню з парасятамі на воз. Ён сеў і паехаў. А сам ад'ехаўся ў лес і адпрог коні, пусціў пасвіць, а сам выцягнуўся на дарозе аддыхаць.

Прыйшоў к ёй [пані] мужык, яна яму сказала, што яе ашукаў мужычок. Ён узяў каня і нагайку, сеў і паехаў яго даганяць. І знайшоў яго на дарозе і пытаецца ў яго:

— Ці не бачыў ты: тутака ехаў мужычок на пары коней і ў брычцы, і свіння з парасятамі на возе?

Ён сказаў яму:

— Паехаў тутака, але пан яго не дагоніць. Каб мне аддаў свайго каня і нагайку і каб сваю аддаў шапку і боты, усю сваю адзежу, тады я яго даганю.

І пан паскідаў сваю адзежу. Той сеў і паехаў. А ён паклаў адзежу падрану і лапці абуў, лыка цягалася, і лёг яго чакаць на дарозе. Той паехаў у лес, пабраў коні свае і паехаў. Едзе, едзе, даганяе яго яўрэй і пытаецца:

— Адкуль ты, мужычок?

Ён кажа:

— З таго свету.

Яўрэй кажа:

— Мужык, ты — свіння, трымай каня, я буду лыка драць, я цябе павешу.

Ён кажа:

— Давай буду дзяржаць.

І ўзяў ад яго каня і паехаў у лес. Запрог пяцера коней і паехаў дахаты. Той яўрэй надраў лыка і прынёс яго вешаць. Шукаў ён яго, шукаў — не знайшоў. Узяў ён сам павесіўся там. А той пан ляжаў на дарозе і чакаў, пакуль ён дагоніць таго злодзея. Захацелася яму есці, і пайшоў ён дахаты. Як толькі пані яго ўгледзела, крыкнула на парабка:

— Гэта той ідзе ашуканец. Біце яго ў карак.

Пачалі яго біць у карак, і ён чуць адазваўся, што гэта сам пан, што яго ашукалі. А той прыехаў дадому і сказаў сваім, што вы мяне называлі дурнем, адно ж ёсць яшчэ дурнейшыя людзі на свеце за мяне. І стаў ён жаніцца. Ажаніўся і стаў жыць са сваім сямействам.

## 66. ДУРНЫЯ ЛЮДЗІ

Як жыў сабе дзед з бабай, і была ў іх дачка. Толькі кажаць дзед бабе:

— А што, баба, прымем мы зяця к дочцы?

Баба кажаць:

— Прымем!

Прынялі зяця-салдата. Раз зяць паехаў у поле араць, бацька дома застаўся, баба стала печку тапіць, а дачка пайшла малоць у жорны. Малола яна, малола, ажно лапацень з жорнаўываліўся. Тады стала яна плакаць. Плачыць і прыгаварываець:

— Што, каб у мяне дзіцятка было, ды я б яго на загнеце пасадзіла, лапаценьываліўся, дзіцятка б забіў...

Прыходзіць матка, спрашыець:

— Чаго ты плачаш?

— А таго, што каб я дзіцятка мела ды на загнеце пасадзіла б, а лапаценьываліўся, дзіцятка б забіў...

Стала і матка плакаць. Плачуць удваіх. Прыходзіць бацька:

— Чаго вы плачыце?

Кажаць яму баба:

— А таго, што каб наша маладзіца дзіцятка мела ды на загнеце пасадзіла, а лапацень выаліўся, дзіцятка б забіў...

Заплакаў і дзед. Плачуць утраіх. Зяць на полі ждаў, ждаў абедаць — ніхто не ідзець. Прыходзіць у двор, ажно дома ўсе плачуць. Як увідзелі зяця, сталі ўсе яго ругаць:

— Чаму ты лапатня не забіў? Маладзіца ў жорны малола, лапацень выаліўся; а каб яна дзіцятка мела ды на загнеце пасадзіла, дык лапацень дзіцятка б забіў...

Усердзіўся зяць, плюнуў і пайшоў упрочкі.

Шоў, шоў дарогаю, зайшоў к аднаму хазяіну, ажно там абедаюць: ядуць кісель із сытой — зачэрпнуць па ложцы кісяля, а тады ўсе ідуць у клець кісель у сыту макаць; з'ядуць, зноў зачэрпнуць і зноў ідуць у клець макаць. Тады салдат кажаць:

— Што вы гэта дзелаеце?

— А ці ты не відзіш: кісель із сытой ядзім!

— Ды як жа вы ясцё: усё ў клець ходзіце ў сыту макаць! Калі дасцё мне паабедаць, дак я вас навучу, як трэба рабіць, каб усё ў клець не хадзіць!

— Добра, дадзім, толькі навучы!

Салдат наклаў у міску мёду, наліў вады і паставіў на стол. Сталі ўсе есці, і салдат паабедаў. Падзякаваў ён і пайшоў далей.

Ідзець, пара падышла палуднаваць. Зайшоў ён у адну хату, відзіць — дзед з бабай стаяць на крышы і вала за рогі цягнуць туды.

— Што вы гэта дзелаеце?

— А ці ты не відзіш? На крышы трава вырасла, дак мы хочам сюды вала ўсцягнуць, каб ён гэту траву паеў!

Тады салдат кажа:

— Калі дасцё мне палуднаваць, дак я вас навучу, як траву дастаць!

— Добра, дадзім, толькі навучы!

Узяў салдат серп, траву на крышы пажаў і валу скінуў. Накармілі дзед з бабай салдата, пад'еў ён і пайшоў.

Ідзець па дарозе, відзіць — строяць людзі хату і ўсё па сцяне цягаюць бярно. Салдат кажаць:

— Дзень добры вам! Што гэта вы, добрыя людзі, робіце?

— А ці ты не відзіш? Во бярно каротка, не прыходзіцца, дык мы яго хочам выцягнуць!

Салдат кажаць:

— Калі дасцё мне грошай, дак я вам яго выцягну!

— Добра, дадзім!

Салдат узяў із груда доўгае бярно, прымерыў к сцяне, абцясаў, і вышла бярно акурат. Далі салдату за гэта два рублі, ён узяў і пайшоў далей.

Відзіць: мужык пастроіў новую хату і ўсё нешта ў хату лукошкам носіць.

— Дзень добры,— кажаць салдат,— што ты гэта робіш?

— А вот пастроіў хату ды цёмна ў ёй, дык я хачу сонца ў хату напусціць!

— Калі дасі мне грошай,— кажаць салдат,— дак я табе січас цэлую хату сонца напушчу!

— Добра, дам!

Узяў салдат тапор, прасек вокны, і стала ў хаце светла. Даў салдату мужык тры рублі, ён падзякаваў і пайшоў далей. Ідзець, а ўжо ноч на дварэ. Зайшоў ён у адну хату.

— Дзень добры! Хазяін, пусці начаваць!

— Начуй!

Салдат заначаваў. Толькі кажаць хазяін сваёй бабе:

— Трэба нам, баба, барана зарэзаць!

Прывялі барана ў хату: хочуць рэзаць, а ён прама на цяпло глядзіць. Тады кажаць мужыку баба:

— Як мы яго будзем рэзаць, калі ён нам у вочы глядзіць?

А салдат кажаць:

— Я вам гэтага барана так зарэжу, што ён у вочы не будзець глядзець, толькі вы мне дайце за гэта баранюю галаву!

— Добра, зарэж!

Пагасіў салдат цяпло і адрэзаў барану галаву. На другі дзень узяў салдат баранюю галаву і пайшоў далей.

Ішоў, ішоў, заходзіць па дарозе к шляхтам, ажно там на гумне панічы малоцяць.

— Дзень добры вам,— кажаць салдат,— ці не можна мне ў вас баранюю галаву абсмаліць?

— Не, тут няможна, а ідзі лепей у хату: наша матка печку топіць, дык ты ў яе абсмалі галаву!

Прыйшоў салдат у хату і кажаць:

— Панічы казалі, каб я ў цябе галаву абсмаліў!

Матка загаласіла:

— Як гэта салдат хочаць мне галаву абсмаліць? Што хочаш бяры, толькі не смалі!

— Добра,— кажаць салдат,— дай сто рублей, дык не буду смаліць!

Яна дала яму сто рублей, салдат і пайшоў барджэй далей. Тым часам прыйшлі панічы ў двор, ажно матка галосіць:

— Што гэта вы сказалі салдату ў мяне галаву абсмаліць?

— Ды гэта ж мы казалі баранюю, а не тваю: ён цябе падманіў!

Тут большы паніч уссеў на каня і паехаў салдата даганяць. А салдат тым часам вывернуў армяк і шапку найзнанку і ідзець па дарозе.

Даганяе его паніч і не спазнаў салдата.

— Дзень добры, чалавек! Ці не відзеў ты, ці не ішоў тут салдат?

— Відзеў,— кажа салдат,— во ў гэты лес пабег!

Паехаў паніч у лес — неяк на каню праехаць! Вярнуўся ён назад і кажаць салдату:

— На, чалавек, падзяржы, пажалуйста, майго каня, а я пайду ў лес салдата даганяць!

Пайшоў паніч у лес, а салдат тым часам барджэй па каню і прыехаў у двор.

Дзівяцца дзед із бабай: адкуль гэта зяць столькі багацця набраў! І пытаюцца ў яго:

— І дзе ты гэта столькі грошай набраў?

А салдат кажаць:

— Гэта я авёс малоў, кісель варыў, у кашэль ліў і на рынку прадаваў,— во і зарабіў грошы!

Стала бабе завідна. Намалола яна аўса, наварыла кісяля і кажа дзеду:

— На, дзед, нясі на рынак прадаваць!

Дзед завязаў кісель за плечы, а баба кажаць:

— Глядзі ж ты, дзед, грошы не прапі, усе ў двор прынясі!

Узяла дзеда жаль. Стаў ён на каленкі і кажаць:

— Каб я счарнеў, калі грошы прап'ю!

Пакланіўся ў землю, а кісель увесь і выцек дзеду на лысіну.

## 67. ДУРНЫ ПАН

Былі сабе дзед і баба. Было ў іх двое дзяцей: сын і дачка. Пайшла дачка на рэчку плацце праць. Папрала яна плацце, села на беразе і плача. Прыйшла маці і кажа:

— Чаго ты плачаш?

А дачка кажа:

— Як я пайду замуж на той бок рэчкі, і як у мяне будзе сын, і як ён будзе ісці да вас, то ў гэтай рэчцы ўтопіцца.

Маці кажа:

— Так.

А потым селі і плачуць удвох. Прыйшоў бацька і кажа:

— Чаго вы плачаце?

А дачка кажа:

— Як я пайду на той бок рэчкі замуж і як у мяне будзе сын, то ён будзе ісці да вас і ў гэтай рэчцы ўтопіцца.

І бацька сеў, і ўжо ўтраіх плачуць. Прыйшоў сын і кажа:

— Чаго вы, дуракі, плачаце?

А сястра кажа:

— Як я пайду замуж на той бок рэчкі і як у мяне будзе сын, то ён будзе ісці да вас і ў гэтай рэчцы ўтопіцца.

Брат кажа:

— Ці пойдзеш ты замуж, ці не, ці будзе ў цябе сын, ці не, і будзе ён ісці ці не, а вы цяпер, дурні, плачаце. Калі вы такія дурні, то я пакіну вас і пайду ў свет. Калі найду такіх дурняў, як вы, то вярнуся, а калі не найду, то не вярнуся.

Пайшоў ён у свет. Ішоў, ішоў, прыходзіць да аднаго двара і бачыць: ходзіць свіння з парасятамі па двары. Ён скінуў шапку і ўсё ходзіць па двары за свіннёю да кланяецца. Пані ўгледзела праз вакно, што ён ходзіць за свіннёю, но без шапкі, і кажа на свайго парабка:

— Пайдзі, папытайся, чаго гэты чалавек ідзець за свіннёю без шапкі?

Парабак пайшоў і кажа:

— Чаго ты, чалавечку, ходзіш за гэтаю свіннёю?

А ён кажа:

— Гэта свіння маей мацеры сястра, і я прыйшоў прасіць яе на вяселле.

Парабак прыйшоў да пані і кажа:

— Чалавек кажа, што гэта свіння яго мацеры сястра і ён прыйшоў прасіць яе на вяселле.

Пані ўцешылася і кажа:

— Я не ведала, што ў нашай свінні ёсць сястра,— і вялела запрагці чацвёра коней і павозку. Слугі запраглі, а потым злавілі свінню, звязалі, палажылі ў павозку і далі яму, каб ён вёз да свае мацеры на вяселле.

Пана не было ўдома, як пані аддавала свінню, потым ён прыехаў. Пані стала казаць яму, што чалавек прасіў свінню на вяселле і што яна дала яму коні, павозку і свінню. Пан пазнаў, што той чалавек ашукаў пані, узяў запрог шасцёра коней і пагоніў таго чалавека.

Гоніў, гоніў — прыехаў аж у лес, а той чалавек пачуў, што яго гоняць і ўзяў скіраваў коней у лес, а сам выйшаў на дарогу, накрыў шапкаю каменя і дзяржыць. Зноў едзе той пан і пытаецца ў яго:

— Ці не бачыў, едучы, чалавека з чацвярымі коньмі?

Ён кажа:

— Бачыў.

— Але ці не ведаеш, куды яго гоніць?

— Я табе яго дагоніў бы, але тут у мяне дарагая пціца пад шапкаю, то я баюся, каб яна не ўцякла. На, ты падзяржы, то я даганю.

Пан дзяржаў, дзяржаў, а потым паглядзеў, аж пад шапкаю камень,— так ён вярнуўся дадому.

## 68. СЕЎЧЫК

Радзілася дзіця ў бедных людзей, і жонка заклапаталася.

— Як мы прымем людзей? Трэба хрысціць дзіця, а мы бедныя зусім.

Муж надумаўся: «Трэба ісці ў лес»,— і кажа жонцы:

— Дай мне мех.
— Нашто табе?
— Ды пайду ў лес, можа чаго-небудзь дастану.

Тады ён хадзіў, хадзіў па лесе і надыбаў на спячага зайца, злавіў яго і ў мех сунуў.

Прыходзіць дамоў, прыносіць зайца ў мяху, і жонка пытаецца:

— Што ты прынёс з лесу?

Ён паказвае.

— Што ж гэта будзе за звярок?
— Гэта будзе сеўчык.

Панёс ён зайца ў горад: трэба дабыць грошай на хрэсьбіны.

Пан сустракае яго:

— Што нясеш?
— Сеўчыка.
— Пакажы.

Паказаў.

— Што каштуе гэты сеўчык?
— Тры сотні рублёў.

Ну, набыў ён трыста рублёў. Такі вясёлы стаў. І жонка весялілася (у старыну велькая сума гэта была).

Тады пан сабраўся ўсемяніць зямлю і пасылае сеўчыка, за якога заплаціў такія грошы. Як выслаў яго ў поле абсемяніць і торбачку яму прывязаў на шыю, ён пабег і пабег, задаволены, што вырваўся з рук. Тады пан глядзіць: няма сеўчыка і зямля не абсяменена.

Праз некалькі дзён сустракаецца пан з гэтым чалавекам у горадзе на вуліцы і робіць яму вымову:

— Вось ашукаў ты мяне: асталася зямля не абсяменена. Сеўчык пабег у свет і назад не вярнуўся.

Тады гэты чалавек кажа:

— Вы самі, пане, вінаваты, таму што вы не паказалі сеўчыку граніцы. Вось ён і пабег усім людзям абсемяняць зямлю, і цяпер яго не знайсці.

## 69. БЯДА

Быў у пана сын. А калі мужыкі да пана прыдуць, то ўсё гавораць: «Бяда».

Паніч выслухаў гэтае слова і паехаў прагуляцца.

Едзе ён з фурманам і кажа:

— Што такое бяда? Ты, можа, ведаеш пра гэту бяду?

— Вось едзем шляхам, можа, хутка ўгледзім бяду.

Перабягае цераз шлях заяц. Перабегшы, ён трошкі прысеў. Фурман кажа:

— Вунь бяда пабегла.

А заяц як спаў, дык ён перабег і зноў прысеў. Панскі сын крычыць:

— Пастой, пастой!

І шубу на воз. Бяжыць бяду лавіць.

А гэты зайчык усё падбягае і прысядае.

Панічу хочацца бліжэй паглядзець на бяду. Лес быў там, шыпшыннік такі калючы, а паніч у адным пінжаку і падраў пінжак на кавалкі.

Не дагнаў гэтай бяды і пінжак падраў. А фурмана не застаў. Уцёк.

І кажа паніч:

— Вось я цяпер ведаю, аб чым мужыкі гавораць: «Бяда». Справядлівая бяда.

## 70. ГОЛЫ СУДДЗЯ

Быў у горадзе суддзя. Ён вельмі быў жорсткі. Абы-хто кашляне ці словам абзавецца — дае штраф. Раз паехаў ён з слугамі на паляванне. Выскаквае ласянё. Паляўнічыя цэляцца, а суддзя кажа:

— Не страляйце, я на кані злаўлю.

Гоніцца ён за ласянём. Ласянё ў раку, ён за ім. Завяло яго ласянё ў палескія гушчары і балоты. Збіўся суддзя з дарогі, згубіў і каня, і адзенне. Ходзіць голы суддзя. Аж пасуць дзед з унукам гаўяду. Як убачылі голага — перапалохаліся. Ён за імі. Асмялеў дзед ды давай яго пугай ды сваёй трубой біць.

— Я ж ваш суддзя,— крычыць суддзя.

А дзед яго па голых месцах. Пасля даў яму мех. Прарэзаў дзіры для рук і пайшоў суддзя шукаць свой горад.

А ў горадзе яго не прымаюць. Месца яго заняў ужо другі суддзя.

Нечага голаму суддзі і есці. Дык ён стаў вадзіць сляпых і жабракоў. Жабракам жа даюць міластыню.

Памёр яго намеснік-суддзя дык яму кажуць:

— Хадзем да нас у суддзі.

— Не, лепш я буду старцаў вадзіць.

Так сваё адцярпеў і больш не захацеў грашыць. І зараз яшчэ водзіць суддзя ў чужой старане старцаў.

## 71. ЯК ПАНІЧ ЗЛАВІЎ ГОРА

У багатага пана быў сын. Ды вельмі цікаўны. Чуе ён, што людзі кажуць: «Гора, гора! Гора зваліла яго». Вось панскі сын і думае: «Што ж гэта за такое гора, што людзей звальвае і прыносіць людзям шмат бяды?» І захацелася яму пабачыць гора. Паехаў ён у свет. Едзе да едзе. Бачыць, што мужыкі ловяць рыбу. Падыходзіць ён да іх і пытае:

— Што ловіце, мужычкі?

— Гора ловім.

— Дайце я злаўлю. Вельмі ж хачу пабачыць гора.

Мужыкі падумалі: «Можа, нейкі дурны панскі сынок».

— Лаві, лаві.

Раздзеўся паніч, сеў у лодку. А мужыкі за коней, за адзенне, за грошы ды ходу. Вылез паніч з лодкі, так і не злавіўшы ні гора, ні рыбы. Бачыць: аж няма ні коней, ні адзежы. І нідзе нікога. Пайшоў ён голы. А ўжо сцямнела. Бачыць: аганькі свецяцца. Падышоў ён да аднаго акна, глядзіць аж там якраз да чужой жонкі прыйшоў поп. Так заняліся любоўнымі справамі, што не чулі, як гэты паніч падпоўз пад печ. Сядзіць паніч пад печчу і выглядае, як мілуюцца поп і жанчына. Раптам хтосьці застукаў у дзверы і ў сенцах затупаў. Жонка як заойкае і кажа папу:

— Мой чалавек прыехаў. Дзе ж я цябе дзену? Лезь пад печ.

Папу недзе дзецца, палез ён пад печ. Паніч адразу да яго да за грыву. Спалохаўся поп.

— Ты хто? — пытае ён.

— Чорт!

— Святы божа, ратуй мяне,— захныкаў поп.

А гаспадар у хаце.

— Вось я гаспадара паклічу,— кажа паніч.

— Ой, чорцічак даражэнькі, не кліч! Я табе аддам, што ты хочаш.

— Здымай адзежу.

Скінуў поп адзежу і застаўся голы. А паніч адзеўся і, як гаспадар захроп, выйшаў ціхенька і стукае ў вакно.

— Хто там? — пытае гаспадар.
— Поп.
— А што табе трэба ноччу?
— Твая хата несвячона, трэба пасвяціць, ато ўжо чэрці завяліся.
— Заходзь, заходзь, бацюшка.
Зайшоў ён у хату і кажа:
— Э-э, ды ў вас ужо трэба чарцей ганяць. Нагрэйце ваду.
Нагрэлі яны вады і пытаюць:
— А дзе ж чэрці, бацюшка?
— Пад печчу! Давайце вар, будзем выганяць.
Узялі яны вару ды як лінулі пад печ, дык голы поп аж завыў ад болі і выскачыў з-пад печы, і бягом з хаты — і сапраўды, як чорт: валасы доўгія, ускудлачаныя, голы, як маці радзіла.
— Вось, дзякуй табе, бацюшка, дзякуй. Гэта ж трэба! Чэрці ў хаце расплядзіліся,— кажа гаспадар.
Даў ён «папу» грошай, запрог каня і падвёз да маёнтка. Вярнуўся паніч дадому і кажа бацьку:
— Ну, бачыў я гора. Ведаю, што за яно.

## 72. КСЁНДЗ ЗАМІЖ Д'ЯБЛА

Быў сабе пан: каторы мужык прыдзе да яго, так усё кажа: «Ах, бяда, пане!»
Так пан думае сабе: «Каб гэта мне хто даў з адну бяду, то б яму што даў бы за тое».
Адзін раз надумаўся пан сабе і пашоў на спацыр у лес. Ідзе сабе, аж стражнік стаіць, так пан кажа:
— Не бачыў ты дзе бяды?
Стражнік падумаў сабе і кажа:
— Толькі што палезла на хвою.
Пан кажа:
— То хутчэй пакажы, дзе яна, і скажы, як яе злавіць?
Так стражнік кажа:
— Няхай пан скіне ўсё адзенне і без кашулі лезе на дзерава і зловіць.
Так пан разабраўся данага і палез, а стражнік за адзенне, узяў і пашоў.

Пан узлез, аж бачыць: вавёрка бегае (а стражнік сказаў яму, што то бяда), так лавіў, лавіў, а гэта вавёрка на другое дзерава ўскочыла і пашла.

Пан злазіць на землю — няма ні стражніка, ні адзення, і думае сабе: «Праўда, што бяда!»

Сядзіць пан да вечара ў лесе, пазней думае сабе: «Пайду да двара» (а там быў двор недалёка другога пана). Пан ужо той устыдаецца ісці: голы, але бяда, то мусіць.

Прышоў ён барджэй у кухню, анно няма нікога, так ён за печ схаваўся, аж там стаіць ксёндз! А той ксёндз прышоў на вячэрыну, а пана ўдома не было, так пані яго схавала за печ. Так пан пытаецца:

— Кто ты ест?

А ён мові:

— Я естэм ксёндз. А ты кто ест?

— Я естэм нагі.

— То на тобе мая кашуля і ідзь собе.

А ён узяў кашулю, стаіць і мові:

— Не вытшымам, заспевам!

А ксёндз мові:

— А бойсе бога, не спевай! На тобе мое сутанне, і буты, і капелюш муй, і там конь увёнзаны стоі за дворэм, вэзь собе і едзь.

Тэн узяў сабе і пашоў. Узяў таго каня і прыязджае пад ганак. Прыходзіць да пакою, пан яго пшыймуе, яко ксяндза, і дае яму гарбату, хлеб і мові:

— Цось мне нігды хлеб не ўдаесе.

А ён:

— Ве пан цо? Пан ма д'ябла за пецэм; допукі он там, то пану нігды ўдавацьсе не бэндзе.

Так пан давай яго прасіць, абы таго д'ябла якім спосабам выпэндзіць. Так он муві:

— Добжэ, можно выпэндзіць, але трэба горонцэй воды заготоваць.

Загатавалі рондэль вады, зрабіў ён сабе крапідла і ідзе, а за ім пан, а пані не пашла. Прышоўшы, давай то свянціць гарачай вадою, а той ксёндз стаяў, стаяў там нагі, а потым як скочыць у вакно, так выбіў і выляцеў. Так пан мові:

— Ах, праўда, жэ д'ябал!

Так то падзякаваў, жэ яму д'ябла выпэндзіў, і ён сабе паехаў дадому.

# 73. ЗАЛАТЫЯ ПТУШКІ ПАД ШАПКАЙ

Жыла бедная ўдава, мела аднаго сына. Сама хадзіла да паноў на работу, а сын аставаўся ўдаму. Мала плацілі паны за работу, то за тое, то за сёе вышчытывалі, шчыра яна рабіла, аж пакуль не нагнала сухотаў і памерла.

Астаўся адзін сірата, усё з харчоў вышла, пайшоў да паноў служыць, хоць курэй пасціць за кусок хлеба. Ішоў, ішоў, едзе насустрач багаты пан і пытаецца:

— Куды, хлопча, ідзеш?

— Я іду, каб дзе стаць на службу, хоць і цяжкую работу рабіць, абы пражыць.

— Ну, добра, станавіся ў мяне за фурмана, будзеш мяне вазіць, коні пасціць, а я табе заплачу, што ты хочаш.

Згадзіўся хлопчык у пана цэлы год служыць, а пан за службу мусіць даць боты.

Так у пана прарабіў ён чуць не год: і недасыпаў, уначы коні пасвіў, а ўдзень пана вазіў.

Прайшоў год, прыходзіць хлопчык да пана і кажа:

— Паночак, аддай маю заплату, што мы згадзіліся.

Прыносе пан боты, а хлопец як закрычыць:

— А, паночак, не гэтыя! Гэта скураныя, дай мне залатыя, бо я падам пана на суд.

Як яны ў пачатку года гадзіліся, дык хлопчык на словы не згаджаўся, казаў:

— Пан ашукае, не аддасць ботаў, як адслужу.

Дык пан напісаў на паперы, што дасць боты, якія ён захоча, а як не аддасць, мае права падаваць на суд. Распісаўся, падбіў пячаць і аддаў хлопчыку.

Але нічога не падумаў, што хлопчык ашукае. Але гэта папера яму наруку. Ён быў хітры, разумны, хоць за панамі шчыталі багатага пана разумным, хоць бы быў у палавіну дурнейшым за беднага, а беднага, як скаціну. Як меў гэту бумажку, ён падумаў: «Давай я ў пана вазьму залатыя, а не скураныя».

Пан падумаў, падумаў. Трэба аддаць залатыя, ато як падасць у суд, як дазнаюцца, што мужыцкі хлопчык пана ашукаў, дык усе паны пасмяюцца з яго і не будзе гонару.

Скінуў свае залатыя і аддаў хлопчыку. Ён узяў боты, у мех улажыў і пану кажа:

— Знаеш, панок, у цябе лысая галава, я ўмею так рабіць, што будуць валасы і пан пастрайнее, толькі мне за гэта дайце капялюш, бо ў пана тры.

— Ото, то добжэ, не шкодзіла б, жэбы на галаве былі валасы. Я яшчэ і грошы дам.

Пашоў хлопец, набраў гною, увярцеў у паперу, улажыў у капялюш і пану адзеў на галаву, сказаў пану, каб гаварыў «вем, вем, повем, повем» і рукі трымаў на галаве, прыдзержываючы капялюш, а болей нічога не гаварыў адну гадзіну, бо як што-небудзь скажа, тады валасы не вырастуць.

Прышоў хлопчык да пані і кажа:

— Пані, пан казаў, каб далі касцюм.

Пані дала касцюм. Яна не знала, што хлопец пана ашукаў і пан касцюм не даў бы. Ён забраў усё, злажыў у мех і пайшоў у свет.

Уваходзіць пані ў пакой, аж глядзіць — ходзіць пан па пакоі, залажыўшы рукі за галаву, і гаворыць:

— Вем, вем, повем, повем.

Пані пытаецца:

— Цо ты вем?

Але пан нічога не адказвае, а ўсё:

— Вем, вем, повем, повем.

— А ты, пэўна, ведаеш, што я касцюм ізвозчыку дала?

— А ты яму яшчэ касцюм дала, ашуканцу?

Як падайме рукі, як пацячэ гной па твары. Скінуў пан капялюш, сеў у брычку, узяў з сабой наган і паляцеў даганяць свайго ашуканца.

Відзе хлопчык, што пан ляціць на конях. Перадзеўся, усё схаваў, аж глядзіць — кучка гною ляжыць, скінуў шапку і палажыў на кучу, сам сеў і сядзіць.

Пад'язджае пан і пытаецца:

— Эй, добры маладзец, ці відзеў тут ідучы хлопчыка?

— Вот відзеў, цяпер пайшоў, забыўся, як гэна вёска завецца, да аднаго дзядзькі, але я гэнага дзядзьку ведаю, дзе жыве.

— А што ты тут робіш, шапку скінуўшы?

— Я тут сяджу, бо пад шапкай залатыя птушкі выседжваюцца, як зайдзе сонца, тады можна будзе ўзяць, ато цяпер не возьмеш, бо паўцякаюць.

Пану і залатых птушак хочацца, і хлопца дагнаць і забіць, і залатыя боты ўзяць, і не знае, дзе хлопец пайшоў.

Пан і кажа:

— На́ маю брычку і едзь, прывязі гэнага хлопчыка, а я табе за тое заплачу і тут я папілную залатых птушак.

Хлопчык забраў усё сваё і паехаў, як пан; прадаў коней, брычку, а грошы сабе ўзяў у карман. Пан сядзеў, сядзеў, не дачакаўся,

памаленечку падняў шапку і цап! рукой — цёплае і мокрае... Вымае руку з-пад шапкі, а ягоная рука ў гнаі — ні птушак няма, а куча гною. Калі падоймецца пан, як паляціць да свайго маёнтка. Запрог другую пару коней і зноў паехаў шукаць хлопца.

Хлопец, як згледзеў, што пан едзе, ды ходу, ляцеў, ляцеў, глядзіць — ляжыць дзіравая бочка з кранам. Купцы вязлі гэту бочку з півам, прадзіравілася, піва выцякла, дык яны выкінулі на дарозе.

Дык ён падняў, адчыніў, балота накідаў, вады наліў, кран выкруціў, схаваў, а пальцам затаркнуў дзірку, каб не выцякла балота.

Пад'язджае пан, глядзіць — стаіць нейкі багаты купец заткнуўшы пальцам у бочцы дзірку, каб не выцекла балота.

Пан пытаецца:

— Добры купец, ці відзеў тут едучы ў брычцы на сівых конях хлопца.

— Відзеў, вот толькі нядаўна тут ехаў. Я ў яго прасіўся, каб мне бочку падвёз да горада, дык ён сказаў, што не туды едзе, а едзе ў Балотнікі.

— А што тут ў бочцы маеш?

— Тут заморскае віно, я вёз, і недзе кран згубіўся, мы тут паставілі, а мой памочнік паехаў — можа, дзе купе, а так не давязеш, усё расплюхаецца.

Пан і кажа:

— Дык ты мне добра раскажы, дзе вёска Балотнікі, ато я не чуў такой вёскі.

— Вот будзеш ехаць гэтай дарогай, потым налева і направа, тады будзе вёска «Бочачка», тады возера «Бяскрайка», а тады і «Балотнікі». І з вадой і разам мяжуюцца. А як не будзеш хітры, не панімаеш, то ты яго ніколі не зловіш.

Пан падумаў і кажа:

— На́ мае коні і едзь, як увідзіш яго, з міліцыяй прывязі яго сюды, я за тое многа заплачу і патрымаю пальцам, каб віно не выцякла. А як прыдзе твой памочнік, дык мы цябе пачакаем.

Хлопец сеў і паехаў, куды яму задумалася. Чакаў пан, чакаў, надаела. Як гэта не пакаштаваць заморскае віно, ён яшчэ не піў яго, пэўна смачнае.

Раззявіўся і адаткнуў пальцам. Як хлынула вада з балотам пану ў горла, дык закашляўся, запляваўся; пакуль ачысціў горла, дык балота з вадой фантанам абліла ўсяго пана. Пан сказаў:

— Болей за ім ганяцца не буду, ён мне сам сказаў, што каля бочкі трэба лавіць, а я яго не ўзяў, як пачну за ім ганяцца, дык

увесь маёнтак праганяю, ды і сам жывы ці астануся, ужо чуць каля бочкі не задавіўся.

Пан вярнуўся і пайшоў да свайго маёнтку з горам і бядой.

## 74. ЯК МУЖЫК АШУКАЎ ПАПА І ДЗЯКА І ЗАСТАВІЎ РУКІ ЗБРУДЗІЦЬ

Капаў адзін мужык калодзеж і выкапаў золата. Вось ён і думае:

— Куды мне яго дзецьʔ Сабе пакіну — пан адбярэ, а не пан, дык падпанак, а не той, дык стараста. Панясу я лепш схаваю, бо мне ад іх заплаты не будзе і палепшання не будзе. Бо рабі пану верна, а пан табе не верне.

А ў мужыка стаяла ў доме кабыла. Палажыў мужык у гной золата. Пан не нойдзе, а калі нойдзе, то ў гной рук не папхне. Аднаго разу заехаліся да мужыка поп і дзяк.

Глядзяць — у мужыка ў доме кабыла стаіць. Пытаюцца ў мужыка:

— Чаму яна ў доме стаіцьʔ

Мужык і кажа:

— Знаеце, паночкі святыя, яна мне многа пользы прыносіць. Я яе сенам кармлю, а яна мне золатам адкідывае.

Вымае золата з гною і паказвае панам. Як глянулі на золата, дык вочы заіскрыліся.

Яны і кажуць:

— Знаеш, мужычок, прадай ты нам гэту кабылку, а мы табе заплоцім.

Доўга мужык не згоджваўся, пакуль не нагнаў вялікай цаны.

Але прадаў папам і ўзяў у іх грошы (што можна было б купіць каля сотні коней).

Аддаў кабылу папам, а сам завярнуўся і выехаў у другую мясцовасць.

Згадзіліся па калейцы, адныя суткі кабыла будзе ў папа, а другія ў дзяка.

Паставіў дзяк кабылу ў пакоі, накарміў яе булкамі. (Бо мужык сенам карміў, і то золата давала).

— А я накармлю булкамі, дык болей дасць.

Нарабіла кабыла гною. Дзяк падляцеў з жонкаю, шукаў, шукаў і не найшоў.

Прылятае поп, пытаецца:

— Ну, як, многа золата?

Дзяк адказаў, што многа, бо скажы, што няма, то будзе смяяцца: «Як, ты рукі збрудзіў, а золата не найшоў!»

Узяў і поп кабылу. Прывёў яе ў свой пакой, накарміў булкамі, а сам ляжыць на ложку і паглядае, ці многа золата будзе.

Нарабіла кабыла гною. Поп калі ўзрадаваўся, падлятае да гною. Шукаў, шукаў, а золата не найшоў.

Зазлаваліся і падалі мужыка на суд, але мужыка тут не было. Так асталіся поп з дзякам у дурнях.

## 75. ХЛОПЕЦ-НЯНЬКА

Жылі два браты. Яны ўвесь час ад маленства аралі панскую зямлю. Старэйшы брат ажаніўся, і нарадзіўся ў іх хлопчык. Надта быў разумны і хітры, не маглі бацькі з яго нацешыцца.

Вырас хлопчык, хадзіў на поле бацьку памагаць, то есці занясе, то так пагля́дзець. Аднаго разу прынёс хлопец бацьку збан малака. Паставілі ля куста, а самі сеяць. Падляцела да збана ліса, упіхнула ў збан галаву, а вынуць не можа. Увідзелі браты, што ліса ўпіхнула галаву ў збан, павыломлівалі палкі і кінуліся да лісы. Яны да лісы, ліса ходу, лётаюць за лісой, а дагнаць не могуць. А хлопчык астаўся ля дарогі і назірае, як яны ловяць.

Па гэтай дарозе ехаў пан і вёз дзяўчынку за няньку, а яна ўсё плача і плача.

Пад'язджае пан да хлопчыка, пытаецца:

— Ты скажы, хлопец, чаму гэта людзі лётаюць па полі?

— А таму, што ловяць залатую птушку і не могуць злавіць: усё ўцякае і ўцякае.

Пан як саскоча з воза і паляцеў памагаць лавіць залатую птушку (хоць і быў багаты, але быў прагавіты, хацелася, каб яшчэ болей было).

Хлопчык пытаецца ў дзяўчынкі:

— Чаго ты плачаш? Ці хто цябе абідзеў, ці абабіў?

— Не, мяне ніхто не абабіў, але мяне пан узяў у нянькі, мама не хацела аддаваць, але проці пана не пойдзеш.

Хлопчык ёй кажа:

— Скідай сваю адзежу, а на маю і ўцякай дахаты, а пан не пазнае, і я ў яго неяк пражыву.

Яны так і зрабілі. Хлопчык скінуў сваю, а адзеў дзяўчынкіну, а дзяўчынка адзела хлопчыкаву і паляцела да сваёй хаты.

Прыходзе пан і кажа:

— Гэты хлопчык мяне абмануў, яны лёталі за лісой, а не за залатой птушкай.

Сеў у брычку і паехалі. Ехалі яны, ехалі, пан пытаецца:

— Чаму ты не плачаш?

— А чаго мне плакаць, паночку, ці плач, ці не плач, уся роўна не паможаш, і падумала — я еду не так да каго, а да пана, і мне будзе лепей у пана, як дома.

Прыехалі да пана. Хлопчыку трэба і лазню вытапіць, духу даць і абуваць дачок, хоць яны і былі старэйшыя. Былі благія панскія дочкі, як не ўгодзіш, дык скажуць пану, пан абаб'е. Аднаго разу выпаліў хлопчык лазню і пайшоў даваць дух, і зімняга духу даў, дык яны расплакаліся:

— Скажам татусю, абаб'е цябе.

Нянька як раззлавалася і ababіла дочак. Яны павыскаківалі не адзеўшыся і паляцелі плачучы да бацькі. Пан выслаў слуг, каб прывялі няньку: — Я ёй пакажу, як біць маіх дачок.

Прывялі няньку да пана, пан і кажа:

— Я цябе пакараю, нашто біла маіх дачок, надта ты разумная.

— А, паночак, я тут розуму не дабаўляў, я іх біў сілай, а калі хочаш, дык пакажу, які ў мяне розум. Я выйду з панскага дому і сягоння ўночы ўкраду коні, а пан сабе запірай як мацней,— і ходу.

Панскія слугі кінуліся за нянькай, але не дагналі. Пан загадаў усім слугам, каб пазапіралі добра хлявы і самі старажавалі, і нікога не пускалі без яго разрашэння.

А хлопчык прыйшоў да сваёй хаты, перадзеўся, узяў каня, прычапіў бараду, узяў водкі бочачку і паехаў. Прыязджае да панскага маёнтку і просіцца, каб пераначаваць.

— Пусціце мяне пераначаваць каля будынку. Я вам нічога не зраблю.

Слугі падумалі: «Няхай начуе, ён нам урэду не зробе».

— Начуй сабе.

Прыехаў, паставіў пад хлеў каню есці, а сам лёг на возе.

Слугі стаялі, памёрзлі, хлопец даў кожнаму гарэлкі; як выпілі, і пап'янелі. Хлопец улез у хлеў, узяў двое коней і паехаў.

Прыходзе назаўтра да пана і кажа:

— Я ў цябе, паночак, украду з шафы грошы, во гэту ноч — пан сабе пільнуй.

Пан спора, што не ўкрадзе, а хлопец, што ўкрадзе. Прыходзе ноч, пан сеў над грашыма з шабляй і сядзіць.

А хлопец пайшоў, выкапаў мерцвяка, прынёс пану пад акно, адарваў акно і ўпіхнуў галаву мерцвяка ў хату. Пан шабляй як дасць, дык і адсек галаву мерцвяку, а сам лёг на ложку спаць (бо болей не прыйдзе без галавы). Як пан заснуў, хлопец улез у шафу, узяў грошы і пайшоў да сваёй хаты.

Рады бацькі, што сын вярнуўся, а яшчэ з коньмі і грашыма, вызвалiў іх ад гора. Разбагацелі яны, болей на пана не рабілі, а купілі сабе кусок зямлі і добра жылі.

## 76. ЯК МУЖЫК АСМЕЛІЎСЯ ПРОЦІ ПАНА СКАЗАЦЬ

Гэта было яшчэ пры паншчыне. Жыў-быў адзін мужык бедна і не мог разбагацець. То на пана рабі, а платы не палучыш, але трэба яшчэ пану заплаціць за ўсякую мелач.

За пяць гадоў мужык сабраў аўчынак на кажух, пашыў кажух.

У адзін святочны дзень была пагода, ані хмаркі, сабраўся мужык, адзеў новенькі кажух і пайшоў да царквы.

Варачаўся з царквы, як даў дождж, заліў увесь мужыкоў кажух.

Вярнуўся мужык пад царкву і калі крыкне на ўсю моц:

— Богу не веру, пана не баюся, а поп дурней маёй кабылкі.

Пачулі слугі і данясьлі пану, што знайшоўся мужык, што пана не баіцца.

Загадаў пан слугам, каб прывялі да яго мужыка. Прывялі да пана мужыка. Пан і кажа:

— Ага, гэта ты свіння такая знайшлася проці мяне ісці. Знаеш, я за гэтыя словы насмерць засяку.

Мужык і кажа:

— А паночак, я нічога благога не казаў.

— А чаму ты казаў, што богу не верыш?

Мужык кажа:

— Як жа я буду богу верыць? Сабраў я за пяць гадоў кажух. Было цёпла. Пайшоў у царкву, а назад як варачаўся, як даў дождж, замачыў мне кажух. Як я яму буду верыць?

— А чаму ты казаў, што пана не баішся?

— А паночак, чаго я буду пана баяцца? Як на пана я буду добра рабіць, пану плаціць, дык і баяцца няма чаго.

— А чаму поп дурней тваёй кабылкі?

Мужык і кажа:

— Знаеш, паночак, мая кабыла ўвабралася ў папоў авёс, поп як адлупіў, яна болей не пайшла. А поп прыходзе да маёй жонкі. Я б'ю, б'ю, ну ніяк не магу адагнаць.

Адпусціў пан мужыка, і пайшоў мужык смеючыся, што надумаўся ашукаць пана.

## 77. ПОП, СЫНЫ І ПАПАДДЗЯ

Былі ў папа тры сыны. Яны займаліся разбоем. Хадзілі, кралі ў людзей жывёлу і што пападалася пад рукі.

Аднаго разу — гэта было перад святам — выправіў поп іх, каб яны ўкралі ў аднаго мужыка здаровага быка.

Паехалі сыны, укралі быка і павялі. Агледзеліся людзі, што прапаў бык, кінуліся ў розыскі і дагналі братоў, адабралі ўсё і давай лупцаваць братоў. Прыходзіць адзін брат у царкву, стаў ля дзвярэй і стаіць.

Увідзеў поп, што ягоны сын ёсць, а яму цікава дазнацца, ці прывялі быка, можа, не ўдалося, але няма як запытацца, трэба малебны адпраўляць, дык ён як запяе:

— Ці пры-вя-лі му-у?

А сын яму адпявае:

— Не пры-вя-лі му-у-у, а ўтра-ці-лі і-га-га.

Поп ізноў яму пяе:

— А ці ўсе жы-вы-я?

— Мікіта ўбіты, Раман абадран, а я чуць уцёк.

Поп і дзяк, як лічыліся святыя, дык яны былі ў дружбе.

Поп быў багацейшы, а дзяк бяднейшы, дык ён у папа глядзеў за гаспадаркай.

Аднаго разу загнаў дзяк паповаму кабану ў лабаціну цвік, дык і даўся. Поп думаў, што здох, хацеў выкінуць, але дзяк папрасіў, каб аддалі яму. Поп і аддаў яму, нашто есці дохлага, калі хваця ў яго і не дохлых.

Прыходзіць да дзяка папова жонка і пытаецца ў дзяцей:

— Што вы ядзіце?

— Мяса мы ядзім.

— А дзе вы бралі?

— Тата паповаму кабану загнаў у лоб цвік, дык поп і аддаў. З'ядзім гэтага, загане другому.

Прыходзіць жонка да папа і кажа:

— Дзякавы дзеці казалі, што і гэнаму кабану дзяк загнаў у лоб цвік, а не здох.

Невядома, ці праўда тут, поп не ўгадае. Мала што дзеці гаварылі. Можа, яны есці не хацелі, дык дзяк сказаў, што цвіком закалоў, а можа і праўда — як-небудзь трэба ўвазнаць.

Поп прыходзіць да жонкі і кажа:

— Я думаў, але надумаўся. Я на які тыдзень выеду адгэтуль і занясу да яго куфар, а ты ў куфар улезеш, я замкну, яды табе ў куфар палажу, і ты падслухаеш, што яны будуць гаварыць.

Так і зрабілі — завёз поп да дзяка куфар, а сам паехаў.

Стаіць куфар дзень, стаіць два, многа чаго перагаварылі дзяк з жонкай.

На трэці дзень захацелася пацікавіцца дзяку, што там у куфры ёсць. Зрабіў ключ і давай адмыкаць. Як пачула папова жонка, што да яе дабіраюцца, як узяў яе страх, не рада, што так зрабіла.

Адчыняе куфар дзяк — глядзь у куфар, а там ляжыць папова жонка і трасецца, як асіна.

Ён яе задушыў, напхаў у рот сыра і замкнуў. Прыязджае поп, скарэй за куфар і да свайго дому, каб не задушылася. Адчыняе куфар, а там ляжыць нежывая Кася. Поп у плач:

— А мая ж ты Каська, я ж табе казаў, каб сыра не брала, ато задавішся.

Пахаваў поп яе і астаўся жыць адзін.

Непадалёку ад папа жыў бедны мужык. Так бедна жыў, што не было чаго есці. Пайшоў, выкапаў Касю, пасадзіў на каня, прывязаў пад папова акно.

Поп глядзь у акно, а там на кані Кася сядзіць, як увідзеў, дык у крык і ходу ад акна.

Усё баіцца падысці да мерцвяка. Прыходзіць гэты мужык да папа і кажа:

— Заплаціце мне, дык я яе злаўлю і ізноў пахаваю, бо задарма, дык можа задушыць мярцвяк.

Поп яму многа заплаціў, дык ён аднёс яе ад акна, а на другую ноч ізноў паставіў. Як увідзеў поп, што ізноў Кася ёсць, сэрца ў яго лопнула і памёр са страху.

## 78. АБ КСЯНДЗУ І АРГАНІСТАМУ

У адной парафіі жылі прапойцы, ксёндз і клерк. І вот яны так прапіліся, што ні граша за душой, а выпіць хочацца.

А парафія таксама была бедная.

Было гэта ў суботу вечарам.

Падазваў к сабе ксёндз арганіста і бядуе, што заўтра нядзеля, а выпіць нельга, няма за што. Пабедавалі яны, пагаварылі, а потым і гаворыць ксёндз арганістаму:

— Я ведаю, што ў Сцяпана ў хляве стаяць добрыя авечкі. Пайдзі, украдзі са тры, дык мы і вып'ем.

— Калі пан пробач дазваляе, я зраблю.

Гэтак апоўначы запрог арганісты каня і паехаў да Сцяпана.

Паставіўшы каня за хлявом, улез у хлеў і стаў вязаць авечкі. Звязаў адну, звязаў другую, стаў вязаць трэцюю.

А ў Сцяпана быў сын, і сын якраз вяртаўся з вячорак. Ідзе, аж бачыць, што ў хляве адчынены дзверы. Зачыніў ён дзверы, прыйшоў у хату і пытаецца ў бацькі, чаму адчынены ў хляве дзверы.

— Я зачыняў,— адказаў бацька.

Але яму хацелася паглядзець, што там такое. Прыйшлі яны ў хлеў, аж бачаць: арганісты вяжа трэцюю авечку. Але каталікі не любяць выдаваць сваіх святошаў.

— Пан арганісты, проша пайсці да мяшкання,— кажа Сцяпан.

Няма таму што рабіць, кінуў ён вязаць тыя авечкі і пайшоў у хату.

Паслалі яму пасцель, палажылі спаць, а каня паставілі пад павець і далі есці. Назаўтра раненька Сцяпан устаў і пайшоў даваць скаціне, а жонка пайшла ў кладовую па сала, каб зрабіць добрае снеданне для арганіста. Сын моцна спаў. Вот арганісты ў гэты час і ўцёк ад Сцяпана. Прыбег ў касцёл і зайграў у арган. Даў знаць ксяндзу, што вярнуўся. А ксяндзу вельмі хацелася ведаць, што з авечкамі. І ён заспяваў:

— Асэкулі адолелі, як там мэ-э?

Арганіст адказаў:

— Няма мэ і і-га-га-га.

І затрубіў у арган.

А парафіяне пачалі крысціцца:

— Ва імя айца, сына, духа свентэга, амэн!

## 79. КСЁНДЗ І АРГАНІСТ

Жыў ксёндз і арганіст. Ксёндз быў багаты, у яго ўсяго было многа. Арганіст быў бедны, у яго дзяцей штук сем было. Прыйшлі каляды, дык у яго не было чым разгавецца. Арганіст надумаўся, як бы ксяндзоўскіх вепрукоў забіць, каб ксёндз не ведаў. Ён пайшоў да добрага слесара і папрасіў, каб ён яму зрабіў маленькую стрэльбачку. Слесар зрабіў. Арганіст пайшоў у той хлеў, дзе вепрукі ляжалі, проста зблізка даткнуў вепруку ў зад і забіў, што і чутно не было.

Раніцай служанка пайшла ў хлеў і бачыць, што ёсць нежывы вяпрук. Прыйшла да ксяндза і кажа:

— Вяпрук падох!

Ксёндз адказвае:

— Пайдзі да арганіста, няхай забярэ яго.

Яна прыйшла да арганіста і кажа:

— Ксёндз сказаў, каб ты забраў парсюка нежывога.

Арганіст ідзе да ксяндза:

— Дык вы жывога вепрука мне не аддалі, а даеце мне здохлага?

— Для цябе, бедняка, нічога не значыць,— кажа ксёндз,— не памрэш і сям'я не памрэ. Бяры, еш.

Ксёндз загадаў парабкам, каб выцягнулі вепрука арганісту і абсмалілі.

Калі арганіст з'еў аднаго вепрука, яму захацелася другога: спадабалася! Так ён і зрабіў. І з трэцім вепруком ён зрабіў, як з першым і другім.

Тады ксёндз здзіўляецца:

— Нідзе хваробы няма, ва ўсіх здаровыя вепрукі, а ў мяне падохлі.

Аднойчы ксёндз ад'ехаў на суткі і замкнуў тую служанку ў шафу, каб выслухала, што арганіст з жонкай гавораць.

Вось жонка пытаецца ў яго:

— Як ты гэта робіш?

Ён кажа:

— Не твая справа.

А жонка ўсё хоча ведаць. Так ён пачаў памаленьку ўсё расказваць жонцы. А калі ён расказаў, хтось забразкацеў у шафе. Тады ён адамкнуў дзверы і ўбачыў у шафе служанку. Ён задавіў яе там і заткнуў ёй каўбасы ў рот, каб ксёндз падумаў, што сама падавілася.

Ксёндз прыехаў, зайшоў да яе спытаць, а яна — нежывая, з каўбасамі ў глотцы. Ён спалохаўся і пабег да арганіста. Кажа:

— Ідзі паглядзі, што з ёй зрабілася.

Арганіст пайшоў, паглядзеў. Ксёндз даў яму сто рублёў, каб ніхто не ведаў пра гэта.

А справа была зімой. Арганіст схаваў труп у салому. Калі ноч была месячная, ён пасадзіў яе на кані, прывязаў повадам за ногі, і яна паехала ноччу на кані. Калі ксёндз убачыў, што яна едзе на кані, спалохаўся і зноў даў яму сто рублёў, каб арганіст зноў яе схаваў.

На трэцюю ноч арганіст пасадзіў труп на карову. Калі ксёндз убачыў, зноў даў сто рублёў, каб ён яе схаваў.

Аднойчы ксяндзу ўздумалася прынесці ўсе свае грошы, пакласці іх на стале і пералічыць, колькі ў яго ёсць. А акно было адчынена. І ўзяў арганіст труп мёртвага і кінуў ксяндзу на стол праз акно. Як упала нябожчыца на гэтыя грошы, ксёндз убег і сказаў арганісту:

— Ідзіце, забярыце яе, і грошы няхай будуць вашы. І схавайце яе ў глыбокай яме, каб яна ніколі не здольна была выйсці наверх.

Так што ўсе грошы асталіся беднаму арганісту, і з таго часу стаў ён жыць багатым чалавекам.

## 80. МУЖЫК І ПАН

Быў сабе адзін пан да такі паганы, злосны, што проста бяда. Ніхто не мог яму ўгадзіць. Усе яго баяліся, бы чорта. Бывала, як прыдзе к яму хто чаго-кольвек прасіць, а ён раптоўна й крыкне:

— Што скажаш?

Той кажа:

— Усё добрае, паночку.

А сам дрыжыць, бы асіна.

— А па добрум што?— закрычыць пан.— На канюшню яго, галгана.

От так не дасць і слова прамовіць. Іначай ён і не ўмеў з людзьмі гаварыць. І баяліся ж людзі гаварыць таму пану што-небудзь кепскае, не пад гумар — засячэ, усю шкуру зніме, калі хто не патрапіць сказаць яму так, як ён хоча, а скажа не па шэрсці. Толькі быў адзін нехлямяжы мужычок, дражнілі яго Стопкам: той умеў з тым панам гаварыць. От раз той пан іграў у кар-

ты дай выйграў вельмі харошы маёнтак. От гэтак вясною, каля Міколы, паехаў пан аглядаць той маёнтак дай астаўся там на ўсё лета. Бачыш, яму вельмі спадабаўся той маёнтак. Праўду ж кажуць, што новае сітка на калочку вісіць, а старое пад лаваю ляжыць. Бачыць аканом, што доўга нямаш пана, а тут у двары бяда на бядзе едзе дай бядою паганяе, от ён стаў думаць, як бы заведаміць пана. Думаў, думаў дай надумаўся пасладь к пану пасланца. Толькі не ведае, каго пасладь, каб ён добра расказваў пану пра ўсё няшчасце. Каго ён ні пашле, усе не слухаюць,— баяцца пана, каб за праўду не засек. Абяцаў ён вялікі гасцінец таму, хто пойдзе к пану. Перабраў усё сяло — няма ахвотніка. Не знае аканом, што рабіць,— сядзіць да ломіць рукі. Прачуў пра тое Стопак, пайшоў к аканому і кажа:

— Я пайду к пану і ўсё яму скажу: я ўмею, як з ім гаварыць.

Рад аканом, чуць не цалуе Стопка. От аканом даў Стопку цэлую жменю грошай, чобаты з сваіх ног і пасылае яго к пану ў новы маёнтак. Ідзе Стопак і ні аднае карчмы не мінае. Ці доўга ён ішоў, ці мала, толькі ось прыйшоў у новы двор. Падходзіць к пакоям, аж там сустракае яго лёкай.

— Ты чаго тут шляешся, валацуга! — крыкнуў лёкай на Стопка й давай яго цкаваць сабакамі.

Стопак дастаў з вярэнькі кусок сала й кінуў яго сабакам. Сабакі годзі брахаць. Тым часам Стопак узышоў на ганак.

— Што табе трэба? — пытае лёкай удругае.

— Мне трэ бачыцца з панам,— кажа Стопак.— Прыйшоў я, паночку, з старога панскага двара.

— Добра,— кажа лёкай,— я скажу пану аб табе, але скажы ж ты мне, адкуль ты знаеш, што я пан?

— Адтуль знаю — бачу. Ты пан — не пан, а так сабе — палупанак, бо ў цябе нос нізкі, лоб слізкі, от і бачно, што лізаў панскія палуміскі.

Хацеў тут лёкай ухваціць Стопка за каўтуны да, як кажуць, пасладь яго з валасянога апраўлення да ў земскі суд, але тут якраз лёкая пазваў к сабе пан.

— Які там хлоп? — пытае лёкая пан.

— То пасланы ад пані з панскага маёнтку, — кажа лёкай.

— А позваць его да крадэнсу.

Пабег лёкай зваць Стопка к пану. А Стопак тым часам дастаў капшук, напхаў у люльку цюцюну, выняў з магалейкі губку і крамянец, узяў цагало і давай красаць агонь. От выкрасаў ён агню й давай курыць люлечку; курыць сабе да паплёўвае на чысты памост.

— Ідзі, цябе пан заве,— кажа лёкай.

— Не трасца трасе, няхай абажджэ,— кажа Стопак і пакурвае сабе люлечку.

— Прэндзэй ідзі!

— Зараз, зараз, толькі люльку дакуру.

Ждаў, ждаў пан Стопка — не даждаўся. Гоніць удругае лёкая па Стопка. А Стопак агінаецца да шавеліцца, бы мокрае гарыць. От ён дакурыў люльку, выбіў з яе попел і схаваў за пазуху і толькі тады памаленьку пасунуўся к пану ў крэданс. Лёкай, бы сабака, бяжыць наперадзе да адчыняе дзверы. От улез Стопак к пану ў крэданс да і закашляўся. Рыгае Стопак, а пан чакае да толькі вусы круціць.

— Дзень добры, паночку!

— А цо повеш? — пытаецца пан.

— Усё добрае, паночку.

— А па добрум цо?

— Да от, паночку, мяне прыслаў аканом... Панскі сцізорык зламаўся.

— Які сцізорык?

— Да гэта ж, мабыць, той, што пану пер'я рабілі.

— Як жа его зламалі?

— Кажуць жа, пане, што без нажэндзя і вошы не заб'еш. Але ўсялякае нажэндзе пры рабоце псуецца. От так і панскі сцізорык. Хацелі пану на боты злупіць з выжла шкуру, узялі сцізорык... Але на панскім выжлу вельмі ж моцная шкура... Сцізорык і зламаўся.

— Якего выжла? Цо ты плецеш, галган!

— Панскі выжал: той самы, можа, пан памятае, ён яшчэ ўскочыў у калодзесь, а Мікіту паслалі даставаць да ён і ўтапіўся там. Эгэ ж, той самы выжал, што пан любіў яго браць на паляванне. Эж, дай, божа, памяць, здаецца мне, што пан аддаў за таго выжла суседняму пану трох мужыкоў.

— Цо ж, мой выжэл здэх?

— Здох, пане.

— З чэго ж он здэх?

— Кажуць, паночку, быў здароў, але як каніны аб'еўся, дак разам і ногі выпруціў.

— Якей каніны?

— Да мяса ж жарабца.

— Якего жжэбца?

— Панскага ж буланога жарабца, з лысінкаю.

— Цо ж, і он здэх?

— Здох, паночку. А шкода — добры быў жарабец.

— Я несчэнслівы!

— Э, пане, чаго вельмі турбавацца? Ужо ж ведама, калі жарабятка ўродзіцца з лысінкаю, то яно ці здохне, ці яго воўк з'есць.

— З чэго ж жжэбец здэх?

— Падарваўся, мабыць.

— Цо ж на нім рабілі? Прэнтко ездзілі, чы цо?

— Не, пане, на ём не ездзілі: заўжды ён стаяў на стайні.

— А цо ж?

— Воду, пане, вазілі.

— Але ж на цо была та вода?

— Людзі ж кажуць, паночку, што як топішся, то і за брытву хопішся. От як загарэўся ў двары свінух, дак аканом вялеў і на жарабцу воду вазіць.

— Цо ж і свінух спалілсе?

— Згарэў, паночку.

— Як жа ён запалілсе?

— Бачыш, пане, ён быў блізка каля аборы, от ад яе і загарэўся.

— То і абора паліласен?

— Гарэла, пане, як свечка.

— З чаго ж она запаліласен?

— От гэтага, паночку, добра не ведаю, ці ад абозні, ці мо ад пакояў.

— Езус Мар'я! То й пакоі спалілысен?

— Згарэлі, пане, суздром усё змокла, от як бы хто языком злізаў.

— І вшыстэк двор спалілсен?

— Увесь, пане: чыста, гладка, хоць рэпу сей.

Ухваціўся тут пан за голаў і давай божкаць.

— Але з чэго ж запалілысен пакоі? — пытае зноў пан Стопка.

— Ад свечак, пане,— кажа Стопак.

— Для чэго ж палілы свецы?

— Ну, як жа, пане? Ведама, заўсёды свечкі паляць, як хто памрэ.

— Кто ж там змарл?

— Вечны пакой, каб ёй на тым свеце лёгка ікнулася,— пані памерла.

— Цо-цо? Цо ты гадаш? Пані змарла? О, я несчэнслівы!..— давай тут пан плакаць, убівацца.

— Чаго ж пан плача? Пану ж бог даў і прыбытак.
— Які? Гадай прэндзэй!
— Пану бог даў унука. Большая панская паненка сына мела. Гожы, кажуць, хлапчук ці бо паніч, от рыхтык як выліты панскі хурман Мікіта.
Пачуўшы тое, пан зваліўся з крэсла, а Стопак пайшоў сабе ў пякарню падвячоркаваць. Дык от які быў Стопак і як ён умеў з панамі гаварыць.

## 81. МУЖЫК З РАПОРТАМ

Едэн аконам паслаў мужыка з рапортам да пана, а той пан жыў у месце.
Прыходзіць мужык да пана і кажа:
— Дзень добры, пану!
— Як се маш, а цо повеш?
— Прышоў да яснага пана з ляммпортам.
— А но, дай, дай.
Мужык мац, мац кала се — няма!
— Згубіў, пане!
— Шукай, можа, дзе за пазухаю.
Той яшчэ памацаў і кажа:
— Гавары з панам як з дурням: кеды згубіў, то няма!
— Но ты, можа, ведаеш, аб чом там было, то скажы.
— А ведаю, пане, тылё не ведаю, з каторага канца зачынаць: чы з старшага, чы з малодшага?
— Ушыстко роўно, гавары з малодшага.
— Панска сучка хфаварытка здохла.
— І чаго ж она здэхла?
— Як аб'елася агера, то і здохла.
— Я-ак, і огер здэх — чэго?
— Як павязлі панску матку пад касцёл, як зазванілі, то як спалохаўся, палётаў па полю і здох.
— Я-ак, і матка не жые? Чэго она ўмарла?
— А таго, пане: двор як загарэўся, яна перапалохалася і ўмярла.
— Як? І двор спалілсе?
— Спаліўся, пане.
— А ідзь ты — нех вас ушысцы д'яблі вэзмо! Нема юж чэго там ехаць!

## 82. ЯКУЮ СВЯТЫ МАРЦІН ДАЎ НЕМЦУ НАВУКУ

Адзін парабак, годзячыся да немца на службу, вымавіў, каб усе польскія свята святкаваць. Так ён да ўсіх святых ніц не казаў: свята, ну, то святкуй. Надышоў дзень усіх святых, так парабак ідзе і кажа:

— Но, паночку, буду святкаваць, бо дзісь ушысткіх святых.

Аж немец так урадаваўся, даў парабку водкі, мяса, усяго, бо думаў, цо ўжо больш свят не будзе. Ну, перайшло кілька дзён, аж парабак прыходзіць і кажа:

— Пане, заўтра ў нашай парафіі свята.

— Ато зноф яке?

— Святога Марціна.

— То як он застал една, кеды юж была ўшыстке свентэ? Ты гультай! Ты едзь мі зараз до ляс по дрова!

Парабак паехаў і агледзеў мядзведзя ў ломе, так вярнуўся назад і кажа:

— Пане, ніц не бэндзе — святы Марцін не дае дроў!

Так немец:

— Ну, ты, фозіць мне до его, я з нім розпрафіцьсе!

Прыехаўшы, кажа:

— А дзе он?

— А о тут лежы! — і сам у ногі.

Так немец падышоў і кажа:

— Но, чэму то ты, свенты Марцін, не даеш мі з моя лясу дрэв?

А мядзведзь устаў з лома, як зачаў немца біць, як зачаў біць, так ён гоп! на землю, утаіў дух і ляжыць. Мядзведзь нюх, нюх, падумаў, цо нежывы і пакінуў. Немец, устаўшы, ну ж дадому, прыляцеў і кажа:

— То не свенты, то бэстыя: біл, біл, біл, біл і ешчэ прыкладал своего уха до мэго духа.

## 83. ПРЫСЯГА ЖАНОЦКА

Павесілі разбойніка на могілках і паставілі хлопца, жэбы пільнаваў, жэб другія разбойнікі не адкралі. Той хлопец змёрз добра, аж відзіць блішчыць агонь, так паляцеў туды, жэб пагрэцца. Глядзіць у акенка: аж там адна кабета моліцца сабе. Просіць ён яе, жэбы ўпусціла пагрэцца, а яна кажа:

— Няможна, бо я прысягнула не гаварыць ні з кім і не відзіцца.

А ён:

— Пусцеце,— кажа,— пусцеце, калі ў бога верыце, бо я змерзну на марозе.

Падумала: «Не ўратаваць чалавека, без пары ўмрэ, то і зноў будзе грэх». І кажа:

— Пушчу, але жэб только каля парога сабе пастаяў.

Адчыніла дзверы, увайшоў, стаў сабе і грэецца. Пастаяўшы трошкі, пытае ў яе:

— Цо ж то, кабетка, так една на могілках пакутуеш?

— А,— кажа,— так мне трэба.

А потым расказала яму так:

— Быў у мяне мужык, любіў мяне, а я яго моцна; калі я ўрэзала пальца на руцэ і ён забачыў кроў, самлеў, упаў і ўмёр. Так то я сабе пастанавіла да смерці на могілках жыць і замуж не выходзіць.

— І-і, цо то, кабетка, мовіш! Жарты: така млода, пекна; ён ужо ўмёр, то ўмёр, мало мужыкоў уміра, а жонкі астаюцца? Яшчэ такі магла б і замуж выйсці да нацешыцца, пукі млода святам. Але,— кажа,— пайду, пагляджу, жэб не ўкралі, бо на яго месца мяне павесяць.

Пайшоў, паглянуў: няма, ўкралі! Так пастаяўшы, варочаецца назад. Увайшоў да хаты і плача. Яна пытае:

— А то ж чаго?

— Ах,— кажа,— укралі вісельца разбойнікі, заўтра мяне на яго месцы павесяць.

Шкода ёй зрабілася маладога хлопца, так кажа:

— А, можа, можна зарадзіць?

— Якая ж тут рада? — прапаў я і досць.

Так яна кажа:

— А ведаеш што, прысягні мне, што мяне возьмеш, то,— кажа,— мой муж нядаўна ўмёр, то яго на месцы таго павесім, то не пазнаюць.

— Але,— кажа,— калі ў таго разбойніка не было двух зубоў нaпeрaдзе.

— То і маяму мужу выб'ем.

— Ну, добра.

Пайшлі, дасталі яго з магілы, і кажа яна:

— Выбівай зубы.

— Я,— кажа,— не магу нявіннаму чалавеку, хіба ты сама.

Тады яна ўзяла каменя: трах! і выбіла два зубы.

— Нясем на шыбеніцу!

Занеслі, павесілі, папрыходзілі да хаткі і гаворацъ, як будуць жаніцца. Аж ён кажа:

— Ого! З табой жаніцца! Ты прысягнула на магілках пакутавацъ да смерці за тое, цо ён тылё на тваём пальцы абачыў кроў і ўмёр, а сама выбіла два зубы, то цо ж ты допіро мне потым зробіш? Ты больш не варта, як тут це скончыць!

І то ўзяўшы,— забіў яе, у мужыкову труну ўлажыў і пахаваў. А там тыя назаўтра прыйшлі і, не пазнаўшы, цо то іншы, казалі пахавацъ, а ён астаўся спакойны. От як бог карае тых, цо прысягу ломяцъ.

## 84. ЯК САБЕ МУЖЫК ПАРАДЗІЎ З ЛІХОЮ ЖОНКАЮ

Была сабе адна дзеўка такая сярдзітая, што ўсіх хлопцаў папалохала і ніхто да яе не хацеў прыехаць у сваты. Асё ж абабраўся адзін маладзік дый кажа:

— Я яе перамагу,— і паехаў.

Прыязджае ён туда, выпілі там, закусілі, ну, і хутка зрабілі вяселле. Ну, так што ён робіць: купляе за тры рублі каня дый едзе ўжо па яе. А ведама, у мужыкоў такая ўстанова, што як едуць маладыя цераз сяло, то застаўляюць дарогу жэрдкаю, маладыя выкупляюся. Едуць, асё ж і ім гэдак зрабілі. Так ён бы то зазлаваў на каня, што не пераскочыў, схапіў гэта з калёс сякеру дый забіў каня. Так яна, угледзеўшы гэта, думае сабе: «Ого,— кажа,— з ім жартаў няма — ён гатоў і мне смерць зрабіць!». Прышлі яны дахаты, яна такая спакойненькая, так яму прынараўляе, а ён як звер ходзіць дый с падлоб'я ўсё пазірае. Назаўтра пашоў ён да карчмы, выпіў мо там з кручок дый прыходзіць дахаты, бы то п'яны: паразварочваў сталы, лаўкі дый сам лёг, бы то спаць. Асё ж прыходзіць яе маці дый кажа:

— А што, як табе, дачушка, добра?

— Ай, мамачка, і цяпер ляжыць п'яны, а ўчора, як ехалі, то й каня насмерць забіў!

— Да праўды?

— Няўжэ ж!

Так старая, падышоўшы, шэпча:

— Ля, то й на гэта ёсць рада: як ён засне, то ты вазьмі сякеру і забі яго, а сама ўцячэш да нас.

А ён гэта як ні схопіцца ды за мацеру:

— Пачакай ты, старая ведзьма! Навучу я це хіба! Давай, жонко, хамута і пастронкі!

Тая нішто, прынясла. Ён гэта запрог бабу да бараны, наклаў каменняў дай кажа на жонку:

— Ну, барануй гарод!

Так яна, няма рады, пашла, а ён стаў, узяўшыся пад бокі, дый крычыць:

— Накідай яшчэ больш камення, бо летка ходзіць!

Тая, няма рады, мусіла накласці, так баба і прыстала, а ён гэта калі ні возьме бізуна, як ні зачне даваць па бабе — чыста яе збіў, скумісаваў, мала з яе дух не выскачыў. Утэды яе адпрог, спутаў дый пусціў на траву, а на жонку кажа:

— Ідзем абедаць!

Яны дахаты, а баба распуталася дай дай божа ногі!

Нештась на трэці дзень ідзе ўжо да іх бацька ў гасціну. Як прышоў, так яна давай на мужыка ваяваць. Так бацька кажа:

— Як ён прыдзе п'яны, то ты навары яму, напячы, дай яму з'есці, пасцель пасцялі мякенька дый палажы яго спаць, то ён будзе да цябе добры.

А ён ляжыць, бы то п'яны, да ўсё чуе. Меўся ўжо бацька выходзіць, а ён з печы да за яго:

— Стой! — жонка, давай нажа!

Яны чыста папалохаліся, асё ж ён узяў нажа, пайшоў да каморкі, прынёс сала, каўбасы, усялякіх прысмакаў, водкі і давай бацьку гасціць. Пабыў ён там адзін дзень, другі, на трэці ўжо ідзе дахаты, калываючыся ад водкі. Асё ж жонка, угледзеўшы яго, думала, што мужыком той тараў дый амуляў яму карк, так узяла сланіны, ашкарыла поўну патэльню і, як голаў высадзіў, так яна яму — люсь! сланінай на карк: хацела замулянку заліць, асё ж узяўшы зусім запарыла дый на трэці дзень пахавала.

## 85. ЯК ХЛОПЕЦ ДЗЕЎКУ К РАБОЦЕ ПРЫЛАМІЎ

Адзін хлопец адслужыўся ў салдатах. Дома няма месца. Надумаўся ажаніцца. Грошай у яго няма. Можа, хто падорыць, то ён купіць кабылёнку. Вот гаворыць хлопец на дзядзьку:

— Паедзем у сваты. Нагледзеў добрую дзеўку на хутары. А яна і яе матка такія ж гультайкі — з рук вон.

Кажа дзядзька:

— Трэба бульбіну сабраць і іх накарміць.

— Не, я яе вазьму, я яе к рабоце прыламлю.

Дагаварыліся.

Згулялі вяселле. Там яму нешта падарылі, каб купіў кабылёнку. Пажылі, мусіць, нядзелю, жонка кажа мужу:

— Паедзем к татку ў госці.

— Паедзем.

Прывёў кабылёнку. Запрог. Пайшоў у сенцы і ўзяў шашку.

Яна кажа:

— На чорта табе гэтая зялезіна?

— Я без гэтай зялезіны жыць не магу. Скажу адно слова, другое, а трэцяе гаварыць не буду — стукну — галава з плеч пакоціцца.

Едуць яны. Перад імі лашчына, гразь. Кабыла ўперлася ў гразь — не выцягне.

Ён:

— Но, но!

На трэці раз саскочыў з калёс, шашку ўзяў і — раз па галаве. Галава — пялёх у гразь.

Кажа жонцы:

— Злазь далоў і надзявай хамут.

Яна надзела, к аглоблям прывязалася. Яна разоў некалькі на калені павалілася, ну, такі выцягнула.

Прыехалі да бацькі. Яна паздароўкацца не можа, затоўкалася, ледзь дыхае. Цесць ведае, што дочка гультайка. Пачаў цесць зяця частаваць.

Жонка расказала мацяры, што муж кабылёнку засек. Матка думае, што так і дочку засячэ.

Паабедалі, зяць паспасібаваў. Жонку запрог і паехалі.

Маці думае, што, можа, дочка дзе стала, дык засек.

Яна кажа мужу:

— Схадзі паглядзі, можа, засек у дарозе.

Муж адказвае:

— Сама ідзі.

Яна і пайшла. Прыходзіць. Яны толькі ладзяцца. Муж кажа на жонку:

— Хадзі, плуг прынясі.

Яна прынесла.

— Хамут нясі.

Прынесла.

— У нас яшчэ гарод не гараны,— кажа ён.

Запрог жонку і яе маці ў плуг і нутка гарод гараць. Ганяў, ганяў. Задохліся.

— Можа, аддыхнуць?

Муж дае жонцы кнута і кажа:

— Вядзі маці на лужок і спутай, каб не ўцякла.

Прыйшлі на лужок. Матка кажа:

— Не путай, я не ўцяку.

Яна не путае. Вярнулася да мужа. Паелі.

— Ну,— кажа,— трэба гараць.

Жонка пайшла на лужок. Прыходзіць і кажа:

— Няма маці, путы парваны.

Матка вярнулася дамоў і кажа мужу:

— Ідзі-тка ты да зяця і даведайся, ці не засек ён, гад, там яе.

Прыйшоў бацька да зяця. Той угасціў, лучша быць не можа. Пасядзелі: бацька ісці дамоў ладзіцца, зяць кажа:

— Тата, я табе рубашку дам, надзень, ато локаць парваны.

Той надзеў красну рубашку і пайшоў. Ідзе п'яны па дарозе і хістаецца. Жонка ўбачыла і як закрычыць (от ёй здалося, што ён у крыві):

— Люданькі, даражэнькія, вунь увесь аблуплены ідзець.

Людзі паглядзелі, а ён п'яны і рубашка на ім красная.

З тых пор і жонка, і маці працавалі. Так хлапец прыламіў к рабоце сваю жонку.

## 86. ХОМКАВА ЖОНКА

Быў сабе Хомка, і была ў яго жонка,— гультайка была. Раз пашла яна жыта жаць. Пажала, пажала, сноп ці два нажала дай лягла спаць. Мужык ждаў, ждаў абедаць ды ўзяў і пашоў к ёй на поля. Прыходзя ік ёй, бача — яна спіць. От ён узяў, адзежу з яе зняў, а яе дзёхцям вымазаў, пер'ям абсыпаў, узяў адзежу і пашоў дамоў.

Прышоў дамоў, надзеў андарак, завязаў хустку дай затапіў печку і бліны пячэ. А жонка прачнулась к вечару і сама з сябе дзівіцца:

— Ці я Хомкава жонка, ці не я?

Пашла яна ў сяло, ідзе дарогай і гукая:

— Гу-гу-гу! Ня так ішла, як іду!

Прышла к сваёй хаці, падышла пад вакно і пытая:

— Хомка, Хомка, ці дома твая жонка?

А ён кажа:

— Дома, бліны пячэ!

Тады яна і кажа:
— Верна я ня Хомкава жонка!
І пачала хаты счытаць:
— Ета Сямён, а ета Халімон, а ета мой двор!
Падыходзя зноў пад вакошка і пытаецца:
— Хомка, Хомка! Ці дома твая жонка?
— Дома, вон яна бліны пячэ!
Ну яна і кажа:
— Верна я ня Хомкава жонка!
Пашла зноў па сялу. Ідзе і крычыць:
— Гу-гу-гу! Ня так ішла, як іду!

Аж ідуць насустрэчу ёй два злодзяі, нясуць скрыню грошай. Як убачылі яны яе, як спужаюцца,— кінулі й скрыню з грошамі да самі бегчы! А мужык усё ета бача. Выбег ён з хаты, ухапіў скрыню дай кажа:

— Годзі ўжо брадзяжнічаць! Хадзі ўжо дамоў!

От яна тагды толькі ўвазнала, што яна Хомкава жонка.

Годзі з тых пор спаць у полі!..

## 87. ВАДА ПАМАГЛА

Жаліцца адна маладзіца, што ёй ад гаспадара жыткі няма: як толькі сыйдуцца, то перш сварацца, клянуцца, зневажаюць адно другога, а потым гаспадар давай яе біць. І так немаль кожын дзень.

Цярпела, цярпела маладзіца і давай шукаць людзей, каб памаглі. Якіх толькі забабонаў і прымхаў яна ні рабіла — нічога не памагае, яшчэ гарэй б'е гаспадар; бо ён перш не піў, а як пачаў з жонкаю калаціцца, дак стаў піць. Хадзіла маладзіца і ў прошчу, пасціла і сем пятніц, давала гаспадару зелляў піць — яшчэ гарэй ідзе ў іх калатня.

От парадзілі людзі схадзіць яшчэ к старэнькаму дзядку, мо ён што парадзіць. Недалёка ад сяла, каля перавоза, жыў сабе той старэнькі дзядок. Улетку ён лавіў рыбу і перавозіў у чоўне, каму трэ, цераз рэку. За тое яму давалі хлеб і страву. Так і жывіўся сабе дзядок.

От прыходзіць к яму маладзіца і жаліцца на сваю бяду. Паслухаў дзядок і дае ёй пляшку вады.

— На,— кажа,— гэтае зелле. Як прыйдзе гаспадар у хату, ты набяры яго ў рот, не каўтай (глытай), а так і дзяржы ў роце, то гаспадар і не будзе не толькі біць, але й зневажаць.

Падзякавала маладзіца і пайшла да гасподы.

От як прыйшоў гаспадар у хату, яна і набрала ў рот вады, трымае і маўчыць. Так прайшоў адзін дзень, другі, цэлая нядзелька, а гаспадар і пальцам не зачапіў яе. Рада маладзіца. Хваліць зелле, што даў дзядок. Толькі вось выйшла ўся вада з пляшкі. Зноў давай яны сварыцца да калаціцца.

Удругое пайшла маладзіца к старэнькаму дзядку, просіць, каб даў яшчэ зелля. Даў дзядок пляшку вады. От і ўтрэйкі прыходзіць маладзіца к дзядку па воду.

— Эй,— кажа дзядок,— маладзіца, маладзіца, ці ты не бачыш, што гэта простая вада! Вада, бач, табе памагла, бо як ты набярэш у рот вады, то й не можаш аскірзацца, а маўчыш, як жа кажуць, бы вады ў рот набраўшы. От гаспадар хоць аблае цябе, калі е за што, ты маўчыш, і ён замаўчыць. Ведаеш, што бабу б'юць за язык. Кажуць: за губу да ў губу. От ідзі ж,— кажа,— дзеткі, з богам да не напрыкрайся свайму гаспадару, а лепш прамаўчы, то ўсё будзе добра.

З тае пары жывуць маладзіца з гаспадаром ладком і ніколі не сварацца.

## 88. ЧОРТ І БАБА

Жылі сабе дзед да баба. Жылі яны ў згодзе да ў ладу, ніколі не сварыліся, не зневажалі адно другога. Так пражылі яны ўсю жытку й дажылі да старасці. Чорт хацеў спакусіць іх. Дванаццаць гадоў сядзеў ён у падпечку, але нічога не зробіць. Выпетраў чорт, бы шкурат. А дзед з бабаю жывуць сабе ладком да бога хваляць. Хацеў ужо чорт кінуць гэтых людзей да ісці спакушаць другіх, але ось раз чуе, што людзі кажуць: дзе чорт не йме, там бабу пашле. Пачуў гэта чорт і пашоў шукаць такое бабы, каб яна звяла гэтых праўдзівых людзей. Не доўга прышлося чорту шукаць такое бабы: чуць толькі ён высунуўся на вуліцу, як бачыць, ажно бяжыць за мужыком з качаргою падтыканая баба і дубасіць яго па патыліцы й па чом папала да крычыць на ўсё сяло:

— Ось жа табе, хварэць тваёй матары!.. Я табе пакажу, як збожжа ў карчму цягаць... Я табе пакажу, валацуга ты гэтакі. Ад мяне не ўтоішся. Я што захачу, то зраблю. Хіба ты забыўся, што баба й чорта перахітрue!

Лупіць баба качаргою мужыка, а чорт і рад.

— От,— думае,— гэтая баба ўсё зробіць, што захоча, трэ толькі к ёй падкаціцца.

От чорт, каб задобрыць бабу, хацеў ёй прыслужыцца дай ухапіў мужыка за каўнер, каб прытрымаць яго.

— Ах ты, сякі-такі! — накінулася баба на чорта.— Свой сячыся, рубайся, а чужы не мяшайся. Што нос уваткнуў у чужую задніцу.— І давай чорта пярэсціць качаргою. Насілу чорт вырваўся да ў ногі. Толькі на загуменні трохі ачухаўся чорт, стаіць да паскрэбаецца, бо баба яму немаль усе косці паламала. Пастаяў чорт і вярнуўся ў сяло. От найшоў тую бабу й давай яе прасіць, каб памагла спакусіць тых праўдзівых людзей.

— Добра,— згаджаецца баба,— толька за тое дай ты мне шапку грошай.

Чорт абяцаў даць бабе поўную шапку грошай, абы яна толькі так зрабіла, каб дзед з бабаю пасварыліся.

— Што, каб пасварыліся! — кажа баба.— Я так зраблю, што заўтра дзед не только аблае бабу, але й павалочыць за косы.

Рад чорт. Зноў залез пад печ і сядзіць, чакае, што гэта баба зробіць. От гэтая сярдзітая баба, бы незнарок, бяжыць з вядром і сустракае жонку таго праўдзівага чалавека. Сталі яны пасярод вуліцы й давай сакатаць. Ведамо, бабы, як сыдуцца, та датуль будуць лапатаць, пакуль аб усім не перагаворапь. От пытаюцца яны адна ў другой, ці любяць іх гаспадары, ці добра з імі жывуць.

— Мой гаспадар,—кажа сярдзітая баба,— хаць і п'яніца, хаць і лаецца й зневажае, але так любіць, так любіць...

А тая кажа, што яны з сваім гаспадаром так добра, так згодна жывуць, што дай бог так жыць усім добрым людзям.

— Але твой гаспадар цябе, мабыць, не любіць, калі ніколі не аблаяў або не выцяў, ці мо ён ужо няўздолее? — Пры гэтых словах баба прыгнулася к вуху й штось шапнула суседцэ.

— Эгэ ж, праўду ты кажаш,— жаліцца жонка праўдзівага чалавека,— гэта маё няшчасце.

— І-і, родная! Калі схочаш, я наўчу, што зрабіць, дак не только штоб што, але й не наталіш!

— Ой, баюся я, родная, мо яшчэ зашкодзіць...

— Не, не зашкодзіць, ты толькі слухай, зрабі, што я табе скажу. Гэта, бачыш, усё няшчасце, што ў твайго гаспадара пад барадою выраслі сухія валасы; от каб ты іх выразала, толькі каб гаспадар аб том не ведаў, тагды б вы былі так шчаслівы, так шчаслівы, што б вам усе людзі завідувалі.

— Як жа гэта зрабіць, каб гаспадар не ведаў?

— А от як. Купі гарэлкі, спячы яечню дай напой свайго гаспадара, а як ён ляжэ да засне, вазьмі нож, пагастры аб прыпек,

плюнь трэйко пад печ дай выраж тые сухія валасы. Яны так і стырчаць проціў шэрсці.

— Дзякуй табе, родная!

— Так глядзі ж, зрабі сягоднячы, та заўтра яшчэ не так падзякуеш: здаволішся, усю ноч спаць не дасць, як з замаладу, хі-хі-хі!..— І баба засмяялася дай пашла да гасподы.

От толькі сонейка села за лес, жонка праўдзівага чалавека збегала ў карчму, прынесла кварту моцнай гарэлкі й давай прагці яечню. Тым часам тая баба сустрэла таго праўдзівага чалавека дай кажа яму, што яго сягоднячы хоча жонка зарэзаць. Той не верыць, але яна клянецца на чом свет стаіць, што праўда.

— От жа,— кажа,— пабачыш, яна цябе сягоднячы падпоіць, а як ты ляжаш спаць, та яна цябе зарэжа. От пабачым. Толькі ты сягоднячы ўлезеш да гасподы, яна паставіць на стол яечню й пляшку гарэлкі. Гэта, каб ты ўпіўся да не скеміў, што яна ліха замышляе. А ты толькі прыкінься, быццам спіш, та пабачыш, што яна будзе рабіць.

— Брэшаш, патаскуха! За што мяне мая баба будзе рэзаць, калі мы так добра жывем,—маўляў справядлівы чалавек і пацёгся да гасподы, каб скарэй аб том сказаць жонцы, але толькі ён пераступіў парог і зірнуў, што жонка ўпраўду пражэ яечню, дак і прыкусіў язык. «Эге,— думае,— мабыць, паганая баба не брахала».

І прыкінуўся ён, што батцэ нічога не ведае, каб паглядзець, што з гэтага выйдзе. Пазірае ён: ось жонка спякла яечню, паставіла на стол пляшку гарэлкі і кажа:

— Пасілкуйся.

— Што гэта ты, баба? Хіба сягоння свята, ці што?

— Не, гэта кума мне дала... Выпі, некалі тое будзе.

Выпіў ён чарак зо тры гарэлкі, з'еў яечню дай выцягся на лаве, нібыто заснуў. Храпе, батцэ спіць, а адным вокам пазірае. Бачыць, аж жонка ўзяла вялізазны нож і давай яго вайстрыць аб прыпек. «Ну,— думае,— праўду казала паганая баба».

От навайстрыла жонка нож, плюнула трэйко пад прыпек так, што аж вочы чорту заплявала, і падходзіць к гаспадару. Толькі яна ўзяла гаспадара за бараду, а той як усхваціцца, хопіць яе за косы да пачне пярэсціць па чом папала. Крычыць баба на прамілы бог:

— Людзі добрыя, ратуйце!

А ён лупіць, як сідараву казу.

— Ось я табе, хварэць твайму бацьку да стагнаць тваёй мацеры, ось я табе пакажу, як гаспадара рэзаць!

Чуць не забіў дзед бабу, але суседзі пачулі крык, збегліся й абратавалі. Рад чорт, вылез з падпечка, працёр вочы да толькі хвастом віляе. І панёс ён бабе грошы. Прыпёр цэлы мех. А баба паставіла ўверх дном вялізазную бочку, прарэзала ў дне дзірку, а на яе палажыла дзіравую шапку. Сыпаў, сыпаў чорт у шапку грошы — ніяк не напоўніць. Знаў ён, дзе ў зямлі схованы грошы. Паляцеў, прыцёг яшчэ мех. Сыпаў, сыпаў, а шапка ўсё няпоўна. Падняў ён трохі шапку, бачыць, аж баба яго перахітрыла. Як закмеў тэя чорт, дак і кінуўся к бабе з кулакамі. Ухапіла баба вілы дай кажа:

— Ну, падлезь, дак я табе адразу бельма выкалю.

Спужаўся чорт і пераскочыў цераз плот. Баба за ім. А чорт ухапіў ожаг і абараняецца.

— От,— кажа баба,— пакуль ты мне зробіш ожагам адну дзірку, та я табе віламі дзве.

— Давай мяняцца,— кажа чорт.

— Давай.

Памяняліся яны і давай біцца. От баба што пырне ожагам праз плот, та ўсё ў чорта пападзе, а чорт пыраў, пыраў, да ўсё вілы ў плоце застраюць. Бачыць чорт, што нічога з бабаю не зробіць, а яна яго скора зробіць, як рэшата, і давай прасіцца.

— Годзі, баба! Давай палірымся. Я яшчэ дам мех грошай, толькі скажы ты мне, у чом гэта ў баб сядзіць сіла.

— Добра,— кажа баба.

Паляцеў чорт і па немалом часе чуць плішчыць мех грошай. Аддаў бабе грошы дай пытае:

— Ну, у чом ваша сіла?

— От у чом, — кажа баба. Тут яна... і паказала чорту свае зелье. У таго аж вочы на лоб вылерла. От чорт туды й схаваўся, толькі падол у бабы скалыхнуўся. От з тае пары і сядзіць там у бабы чорт. Людзі ўсё выганяюць яго адтуль ожагам, да не могуць выперці.

## 89. ЖОНКА СТРАЖНІКА І ЧОРТ

Быў сабе адзін стражнік, у яго была вельмі жонка ліхая. Бывала, як прыйдзе ён з лесу, жонка кожды раз як зачне грызці яго:

— А ты ўсё цягаешся па лесу і чорт знае дзе, а я сама ўсё мушу рабіць!

Адзін раз ён ішоў праз лес і ўвідзеў там вельмі глыбокую яму; і як прыйшоў дадому, жонка пачала ўсяляк яго лаяць:

— А ты сякі і такі! Ты дадому прыйшоў толькі есці, а я сама мусіла рабіць усё!

Мужык кажа ёй:

— Пакінь ты лаяцца! Я нашоў у лесе адну глыбокую яму, а ў той яме на дне вельмі многа золата і дарагіх рэчаў.

Тады жонка кажа на яго: — Але то на ж еж!

Як пачаў мужык есці, то жонка яго начала ўсё ганяць:

— Еш ты прэндзей да вядзі паказвай мне тую яму!

Мужык не ўспеў ложак пяць з'есці стравы, як жонка прыстала, мусіў весці яе ў лес. Прывёўшы яе ў лес і паказаў яму, ён сказаў:

— Прыглядзі на само дно!

Жонка нахілілася глядзець у яму, а муж яе за плечы дай папхнуў у яму, а сам пайшоў дадому. Ісчакаўшы днёў тры, стала мужу скушна, што дзецям некаму ні есці зварыць, ні абмыць, ні падаць. Пазбіраў ён усе вяроўкі, пазвязваў і пайшоў да ямы жонку даставаць, прывязаў да вяроўкі камень, каб ён цягнуў вяроўку да дна; упусціць вяроўку і зноў пацягне, пробуе: ці не цягнецца жонка, і адзін раз папробаваў — аж ужо цяжка цягне і выцягае,— глядзіць: аж чорт. Спугаўся і стаў пускаць яго назад, аж той як зачне прасіцца ў яго:

— Змілуйся, выцягні мяне адгэтуль, я зраблю цябе вельмі багатым.

— Калі я не цябе хацеў выцягнуць? Мне трэба дзяцей даглядзець.

— Не трэба табе будзе жонкі: ты так усяго будзеш мець.

Пытае стражнік у чорта:

— А ты чаго адтуль уцякаеш?

— Ай, дарагі мой! Дней тры таму назад папала сюды, у гэту яму, якаясь баба да як пачала ўсіх нас мучыць: таго штурхне, таго парне, таго ганяе хату мясці, таго па ваду прэ, таго ў печы паліць,—а ўсё крычыць, енчыць, што ўжо ўсе нашы чэрці паўцякалі, а я адзін без ног, то яна мяне чыста заштурхала. Змілуйся, ратуй мяне ад яе.

— Гэта ж мая жонка!

— Ай, няхай яна там адна будзе.

— Ідзем мы з табой, чы не знаеш, хто тут ёсць вельмі багаты?

— Не знаю нікога апрыч свяшчэнніка нашага: ён вельмі багаты.

— Але то добра; я ўлезу ў комін яго і буду яму піскам і свістам вельмі даядаць, і ніхто мяне адтуль не выжне, а толькі дорага згадзіся з ім і прыйдзеш туды і скажаш:

— Я прыйшоў, а ты ідзі! — і я выйду адтуль.

Як улез чорт к свяшчэнніку ў комін, як зачаў пішчаць, вішчаць, не даваў ім спакойнасці! І што свяшчэннік ні рабіў: і вадою свянціў, і рознае закляцце чытаў, а злы дух не выходзіць і што разу ўсё горш чорт дурыць усех.

Узнаўшы пра гэта, стражнік стаў гаварыць:

— Я магу гэтага чорта выгнаць з коміна.

Свяшчэннік прызывае яго і пытаецца:

— Чы можаш ты мне злога духа з коміна выгнаць?

— Магу, толькі добра заплаціце.

— А што ты хочаш?

— Пяцьсот рублёў, бочкі дзве жыта, бочку пшаніцы, паўтара пуда сала і 20 каўбас.

— Не, грошай многа будзе,—не хаці так многа грошай. Хлеб, сала і каўбасы дам, а грошай будзе з цябе дзвесьце рублёў.

— Ну, што ж з бацюшкам рабіць? Няхай так сабе будзе.

Як прыйшоў ён туды пад комін, так выслаў усіх з хаты і сказаў да чорта:— Я прыйшоў, а ты пайшоў.

І чорт выскачыў з коміна і сказаў яму:

— Ну, я ж цяпер пайду ўлезу да цара ў комін, але ты ўжо не выжанеш адтуль і не важся.

Як улез чорт да цара ў комін, цар ззываў свяшчэннікаў, мудрацоў і ведзьмароў, і ніхто не мог выгнаць гэтага чорта з коміна царскага. Дзе цар не пасылаў, ніхто не найшоўся выгнаць яго. Аж после ўчуў цар, што ёсць такі чалавек, што можа выгнаць. Зараз паслаў цар па стражніка, просіць яго, каб зрабіў ласку і паслухаў яго, абяцаў даць вялікую награду, калі выжане чорта. Тагды мужык папрасіў у цара, каб хто выдумаў зрабіць яму такую каляску, якая магла і крычаць, і пішчаць, і граць на разныя галасы, і тады выжане яго.

Цар пастараўся знайсці чалавека, каб зрабіў такую каляску.

Як узяў мужык тую каляску і зачаў граць каля той трубы, чорт мусіў выскачыць адтуль. Угледзеў свайго сябра і пытае:

— А, ты тут? Як ты мяне адгэтуль выгнаў?

— А я сваю жонку дастаў з ямы і сюды прывёз.

— А як жонка твая ўжо тут, то я ўцяку ў лес і сюды ніколі не пакажуся.

Цар з радасці зрабіў мужыка найбагацейшым панам. Мы нават заязджалі да тога пана і з ім пілі і закусвалі.

## 90. БАБА І ЧОРТ

Была баба такая злая, што работнік у яе неяк не жывець: яна яго ўсё паб'ець.

Стаў к ней чорт у работнікі, ну, служыў ён, сколькі сілы яго, стараўся, а ўсё-дыкі яна яго памялом біла. Ён пабёг уцякаць ад яе. Вёз мужык вугалля, ну, ён у вугалля ўваліўсь. Баба раскапала ўсё вугалле, ды чорта не нашла, дык набіла мужыку тому памялом. Чорт после, як адчуралася баба, выскачыў дый спасіба тому мужыку даў. І гаворыць:

— Не будзеш жа ты цяпер вугаллем таргавацць, я табе другое срэдства дам. Вот пайду я ў цэркву і буду порч у цэркві дзелаць, а ты выскажысь, што ты вывядзеш. Бяры ўзятку харошую: табе дадуць, а я выйду адтуль, ну, й перайду ў другую цэркву.

Вот чорт і пайшоў у цэркву, і стаў там порч дзелаць, а мужык і высказаўся, што ён умее порч выводзіць, і вывеў; яму далі дзвесьце рублёў. Тады зачалася порч ў другой цэркве. Мужыка таго ўжо і трэбаваюць, каб ён порч вывеў. Ён і ў гэтай цэркве порч вывеў. Тады чорт яму кажыць:

— Ну, цяпер я пайду ў сабор, толькі ты туды не ідзі, ато я цябе зыдаўлю.

Вот як толькі зрабілася порч у саборы, мужыка таго і трэбываюць. Ён было і не хацеў, але яго ўзялі дый сілком прыстанавілі. Вот ён думаў, думаў і выдумаў сабе. Сказаў, каб расставілі каля сабора войска і з пушкамі і з трубамі, каб зачалі страляць і трубіць, як толькі ён увойдзе ў сабор. Вот увайшоў ён у сабор, а чорт к яму:

— Я ж табе казаў, каб ты не хадзіў!

— Што ты, дурак, я ж к табе па добрасці! Ці чуеш, як гручыць? Гэта ж за табой тая баба прыехала.

Чорт як стаяў, так скрозь донныя і праваліўся, і з тых пор і не стаў ён па свету хадзіць.

## 91. ЯКУЮ КСЁНДЗ ДАЎ РАДУ СТАРОМУ ОЙЦУ

Было ў бацькі два сына. Як яны падраслі і пажаніліся, так і гаспадаркаю падзяліліся, а ўжо бацьку і не было каму дахавацць да смерці: і адзін не хоча, і другі тое сама. Так бацька не меў дзе, пайшоў да ксяндза на скаргу. Ксёндз яму кажа:

— Пачакай, стары, чы не маш ты срэбных рублёў з осем?

А ён кажа:

— Маю, ксёнжульку, але баюся казаць, бо і рэшнія адкралі б ад мяне.

Так ксёндз мові:

— Но, то, старэнькі, пшынесь іх до мне, а з імі вазьмі збан, які вялькі з вензко шыё, то я тобе так зробе, жэ це доховаё до смерці.

Т... чловек пшынёс осем рублі і збан, ксёндз казал насыпаць повен попелу, а наверх уложыл тэ рублі срэбнэ і тэды, заклікаўшы абодвух сыноў, кажа:

— Но, мое каханэ, ото ваш ойцец здае мне пінёнзы на схованне з тэм, жэб тэму по его смерці оддаць, кторы го пшэхова і погжэбе.

Такі едэн і кажа:

— Я буду схаваю!

І другі кажа:

— Я!

Так зачалася ў іх спрэчка, аж ксёндз кажа:

— Ідзьце додому і ховайце абыдва, то я вас потым падзеле.

Пайшлі дадому: той сабе хоча хаваць, той сабе, аж, нарэшце, умовіліся па тыгодню і дахавалі ўжо так да смерці ў найлепшы спосаб. Прывезлі хаваць. Як пахавалі, прыходзяць да ксяндза па грошы. Так ксёндз еднаму даў чтыры рублі і другому чтыры.

— А рэштэ,— мові,— як ойцец аброцілсе ў прох, так і яго праца,— і оддал ім збанок з попелам.

Яны паспушчалі насы, а ксёндз:

— Як вам,— мові,—устыду нема, жэб допіро хітросці ўчыць, як трэба шанаваць родзіцув.

І пшэгоніл іх вон. От кеды хітры ксёндз быў да разумны.

## 92. САЛДАЦКІ «ОТЧЭ НАШ»

У адно прэжняе ўрэмя нахадзіўся радавой салдат у генерала веставым. Он сядзіць у сваём памяшчэнні, закурвае трубку і абіжаецца на сваю долю. Гаворыць:

— Ах, доля мая горкая, ума ў мяне многа, а дзенег ні кап'я.

У гэта жа ўрэмя генерал нахадзіўся ў сваём кабінеце. Услыхаў, як салдат абіжаецца на сваю судзьбу. Ён сказаў:

— Пайдзі-ка сюда, веставой.

Веставой падходзіць:

— Што ізвольце, ваша прэвасхадзіцельства?

— Скажы, пажалуста, што ты за умніца такая, што гаворыш — у цябе ума многа, а дзенег ні граша?

— Я правільна гавару, ваша прэвасхадзіцельства. Мне давай,— гаворыць,— аб генералах, аб палкоўніках, на які хочаш вапрос я магу даць атвет: ні ў чом не саб'юся, што двойчы два.

— А ну, скажы, пажалуста, што та бог стварыў неба, зямлю, ўладзее семянамі, а мы яго называем ты, а не вы?

— Патаму, ваша прэвасхадзіцельства, што вас, генералаўчарцей, многа, а бог у нас адзін, паэтаму мы называем яго ты, а не вы.

Генерал застыдзіўся і сказаў:

— Праўду ты гаворыш, толькі што ты меня лічна аскарбляеш, грэх табе будзе за гэта.

— Ваша прэвасхадзіцельства, ведзь грэх скончаўся, праўда памерла, совесць ахрыпла, слых аглох, благадзеяніе міластыняю пітаецца, правасуддзе пад арэстам сядзіць, нявіннасць ў катаржнай рабоце, вера ў Ерусаліме, любоў у моры з якарам, цярпенне адно асталось і то скора лопне. Чаво ж харошага ажыдаць?

— А ну, прачці мне, салдацік, «Отчэ наш».

— Пазвольце слушаць, ваша прэвасхадзіцельства. Кагда салдат у строй уступае, ён цяжка ўздыхае і гаворыць: «Отчэ наш».

Румяна зара па небе іграе, рота камандзіра ажыдае, стучыць, гручыць, з дасады рвецца, страшны гром раздаецца — яко на небесі.

У чом жа мы цябе правінілісь, на службу не явілісь ілі ў кабак шаталісь,— даш нам днесь.

Што нам ад казны палагаецца, вы далжны нам аддаць, а еслі будзеце красці і ў свой карман класці, будзеце далжнікам нашым,— не ўвядзі нас ва іскушэнне, но ізбаві нас, як і мы ізбаўляемся ад цябе, ад лукавага.

## 93. САЛДАТ У КАСЦЁЛЕ

Пры касцёле салдаты былі на манеўрах. Нікагда салдат у касцёле не быў, дык ён просіць фельдфебеля:

— Пусціце, я пайду гляну, што ў касцёле, я ад роду не быў, не знаю абстаноўкі яго.

Фельдфебель атвячае:

— У касцёле людзі граматныя, богу моляцца, песні співаюць, а ты што,— радавы салдат: нічога не ведаеш.

— Я буду спяваць тожа і богу маліцца.

— Ну, ідзі, толькі плахога нічога не здзелай там.

Салдат аж бежкам пабег.

Убег салдат ў касцёл, аглянуўся туда і сюда,— правільна пан фельдфебель гаварыў: богу моляцца і песні спяваюць.

У руках у яго няма нічога — ні кніжкі, ні цятрадзі.

Ён успомніў, што ў яго ў карманах калода карт ёсць. Ён вынуў і давай іх тасаваць, як будта прыгатаўляецца к якому-небудзь набажэнству. Тут жа замеціў гэту работу арганісты і паслаў служыцеля да фельдфебеля, штоб убраў сваго салдата з касцёла, патаму што ў касцёле картамі не занімаюцца і не мае ён права вынімаць ва ўрэмя бажэственных малітваў.

Фельдфебель прыбег у касцёл без душы.

Арыштаваў салдата і адправіў к ротнаму камандзіру. А камандзір быў очэнь пракляты чалавек, прама дрыжыць — хочацца салдата набіць.

— Как ты, сукін сын, імеў права ва ўрэмя бажэствэнных малітваў вынуць калоду карт? Што ў іх абазначаецца, у гэтых картах?

— Ваша благародзіе, ведзь карт я не купляў у магазіне, для якога-небудзь пабальства або для ігры ў грошы, карты даны мне маімі радзіцелямі, кагда я ішоў у салдаты, для апазнання бога.

— Какой можа быць бог, машэннік, у картах, што ты тут маніш?

— Вот вы слушайце, не сярчайце, я вам раскажу. У нас у поўнай калодзе чатыры тузы, у нас састаіць свет з чатырох старон: север, юг, запад і васток.

У нас поўна калода дзяржыць пяцьдзесят дзве карты, у нас у гаду пяцьдзесят дзве нядзелі, і ў ёй поўна калодка — трыста шэсцьдзесят пяць ачоў, у нас у гаду трыста шэсцьдзесят пяць дней.

У нас дама састаіць з трох ачоў, у нас бог ёсць у трох ліцах— бог ацец, бог сын, бог дух святы.

Каралі ў нас, каторыя каралявалі па сваіх каралеўствах, дзяржаць 4 ачкі... (Забыў далей).

Шасцёрка абазначае — шэсць дзён дзелаем, а сядзьмой, ён быццам выхадной, васкрасенне; дзевятка — дзевяць апосталаў.

Даў ён пяцьдзесят адну карту да ладу, а піковы валет астаўся, гэтаму месца нет. І камандзіру ахота ўдарыць салдата, што піковаму валету нет месца. Ён сказаў:

— Ваша благародзіе,— узяўшы пікавага валета ў рукі, ударыў плячыма яго аб стол,— гэта той бяздзельнік-фельдфебель, каторы арыштаваў мяне і прыставіў к вашаму благародзію.

## 94. ЯК КУЧАР ВУЧЫЎ ПАНА ПТУШАЧАМУ ЯЗЫКУ І ЗРАБІЎ ТАКОЕ, КАБ БЫЛО З ЧАГО ПАСМЯЯЦЦА

Адзін памешчык очань часта любіў ездзіць на ахоту. Імеў сабе аддзельнага кучара толькі для паездкі на паляванне, так што гэтаму кучару надаела ездзючы, хацеў як-небудзь ізбавіцца.

Ён узяў з сабой кілаграм хлеба ў дарогу і кусок ветчыны і завёў у такі лес, што не знае будта, як дамоў вярнуцца, і ўродзе ўжо ехаць нада дамоў, і кажа:

— Пане, абалдзеў, не знаю, куда і дамой ехаць.

Памешчык атвячае:

— Што ж будзе сейчас?

А хлеб-та схаваў кучар у кусце.

Ляціць варона і кракнула.

Кучар сказаў:

— Харашо.

— Што вы гаворыце? — памешчык сказаў на кучара.

— Вот варона гавора, дзе-та хлеб есць у кусце і кусок ветчыны.

— Дак давай, міленькі, шукаць, ато ахота есці.

І пачалі іскаць.

Якраз узбіўся памешчык у той куст, дзе ляжаў хлеб з ветчыной.

— Ах міленькі, ёсць ужо што паесці. Скажы ты мне, як гэта ты можаш гаварыць з варонамі?

— Ды вельмі проста, панок, я з усімі птушкамі магу гаварыць.

— Так ты, міленькі, навучы і мяне.

— Панок, цяжка навука. Мяне вучылі, то што са мной не рабілі, але ў большай часці пабоі я знасіў.

Кучар напутаў, напутаў якіх-небудзь непанятных слоў да і спрашвае:

— Разуме, пан, чы не?

— Не разумею, мая дзетка кахана.

— Дак от я і муве пану, што цяжка вучыцца. Эх, мяне, пане, вучылі, дак розгамі білі.

— Ну, бі мяне, але навучы.

Кучар накідаў жменю розак і вялеў пану скінуць штаны. Пан без спрэчкі скінуў. Кучар пасмаліў яму розгамі і спрашвае:

— Разуме, пан, чы не?

— Ні, не разуме. І досыць, пане, задужа ж гэта баліць.

І сказаў:

— Едзем дамоў, калі ведаеш дарогу.

Прыехалі дамоў, разбалелася ў пана, ніяк сядзець не можа, то на той бок варочаецца, то на той.

Пані спрашуе:

— Янэчэ, цо табе такее?

— Ах, нех яго перун заб'е тэго кучэра. Можа мувіць повурны. Я хацеў, жэб мне навучыў, ён так дужа д... зрэзаў.

— Ах, які ж ты дурань, пане, што просты мужык цябе не так пакрыўдзіў, як дужа цябе абмануў. Дзе ты слухаў, штоб просты мужык умеў з птушкамі гаварыць. Тэга быць не можа.

І ўжо які-небудзь праступак, што-небудзь такое, то пані кажа:

— Ідзь до фурмана, нех тобе д... насмаліць.

Так што пану вельмі страшна.

Прыходзіць пан на канюшню і просіць хурмана.

— Здзелай што-небудзь пані, штоб было з чаго пасмяяцца, ато жыць нельга за ўпрокамі.

Хурман сказаў:

— Калі пан не будзе абіжацца, то я магу здзелаць.

— Не буду абіжацца, бо жыць нельга.

— Ну, дак вы, пане, так. Бярыце другога кучара і скажыце: «Паеду я туда і туда і буду там начаваць». І прыедзьце перад вечарам нямнога, да пушчай сабе хурман вернецца назад, штоб пані не замеціла, а самі прыдзеце пад пакоі, станьце пад тым акном, дзе вы начуеце з паняю, ды і пазірайце, што я буду там рабіць.

Прышоў хурман, пані збіраецца спаць лажыцца, сеў на стула, увайшоўшы ў яе спальню, тужыць, божкае і ўздыхае:

— Бяда, панюхна.

— Што з вамі такое?

— Да я самняваюся дажа гаварыць, бо вы майму гору не пасабіце.

— То скажы ж, пажалуста, можа, і пасоблю.

— Уздурылі мае нервы, проста сказаць, захацелася пані...

— Ой, які ж ты глупы хлопец, аб гэтым балець, дак і пажалуста. Аб гэтым пан ведаць не будзе.

Адкідвае з сябе коўдру і запрашае кучара к сабе...

# 95. ЯК ДАНІЛКА ПРАДАВАЎ ЗАЙЦАЎ І ВУЧЫЎ ГАВАРЫЦЬ ПЕЎНЯЎ

У адной вёсцы жыў мужык. У яго была добрая гаспадарка. Але на гэтага мужыка вельмі зліўся поп. Мужык часта гаварыў аднасяльчанам, што ён богу не верыць, а жыве лепш, чым тыя, якія вераць. Поп задумаў адпомсціць мужыку.

Аднойчы ў горадзе мужык у карчме сустрэў папа. Поп хацеў пры чарцы гарэлкі пераканаць мужыка на свой густ, каб ён не мяшаў яму. Але ў яго нічога не выйшла. Ап'янеўшы ад выпітай гарэлкі, поп паспрачаўся з мужыком. Мужык і поп пагадзіліся на тым, што мужык аддасць на тры месяцы папу ў батракі сына. Калі за гэтыя тры месяцы ён ні разу яго не наб'е за дрэнную работу, ён аддасць сваё багацце і адну з дачок за яго замуж. Калі ж батрак будзе працаваць дрэнна, то і ён, і мужык, яго бацька, застануцца назаўсёды батракамі ў папа.

Прыехаўшы дадому, мужык расказаў аб гэтым свайму сыну Данілку. Даніла прыгатовіўся і пайшоў да папа на работу.

Спачатку поп даручыў Данілку даглядаць жарабят. Ён лічыў, што гэта самае цяжкае заданне, да якога можна прыдрацца і адлупцаваць за гэта работніка. Аж Даніла так даглядаў жарабят, што поп не мог ні к чаму прычапіцца.

Поп убачыў, што справы дрэнныя.

Аднойчы ў горадзе ён убачыў паляўнічых, якія часта бывалі ў яго лесе. Ён звярнуўся за парадай да іх. Яны параілі яму даць работніку пасвіць зайцаў. Паляўнічыя далі папу зайцаў, ён заплаціў за іх грошы, пабраў у мяшкі і прывёз дадому. Паклікаў Данілку і загадаў пасвіць іх, пры гэтым так, каб усе былі цэлыя, ні адзін не згубіўся.

Данілка забраў зайцаў з мяшка, а яны ўсе і разбегліся. Сеў Данілка на густую траву і заплакаў ад гора, што яму і ўсёй яго сям'і трэба будзе батрачыць у ненавіснага папа.

Пайшоў ён у лес. Але тут якраз ішла бабулька з вязкай дроў, зачапілася за корні і ўпала вязка на яе. Яна ніяк не магла пазбавіцца ад вязкі. Данілка дапамог ёй падняцца, паднёс дровы да маленькай хаткі ў лесе. Бабулька спытала Данілку, чаго ён такі сумны. Данілка ўсё ёй расказаў.

Яна і кажа:

— У цябе ж ёсць дудка. Зайграй і зайцы прыбягуць да цябе.

Пайшоў Данілка на луг, зайграў у дудку і бачыць, што не толькі тыя зайцы прыбеглі, а шмат другіх з лесу.

Праз некаторы час поп захацеў праверыць. Прыходзіць ён і бачыць, што зайцы слухаюцца Данілку, а ад яго адбягаюць.

Поп пайшоў на хітрасць. Пасылае ён старэйшую дочку купіць у Данілкі зайца, сказаўшы, каб без зайца яна не вярталася дадому.

Вось узяла яна мяшок і прыехала на луг. Пачала прасіць Данілку прадаць зайца. Ён спачатку адказваўся, а потым здагадаўся, што гэта папова дачка, і кажа:

— Я прадам зайца, але за гэта ты павінна пераспаць са мною ноч.

— Ну, што ты. Гэта ж вялікі грэх. Ніяк нельга. Я ж цябе зусім не ведаю. За зайца я заплачу столькі грошай, колькі ты скажаш.

— Не. Калі не хочаш са мной пераспаць, то можаш ехаць туды, адкуль прыехала, без зайца. Мне грошы не трэба.

Што рабіць паповай дачцы?

Ехаць дадому без зайца — страшна. Бацька гаварыў без зайца і не паказвацца дома. Вымушана яна была застацца начаваць у будане Данілкі. Затое раніцай яна ехала з зайцам у мяшку. А калі дастала яго з мяшка, ён рвануўся з рук і на вачах папа, пададдзі і людзей уцёк (пачуў дудку Данілкі).

Поп разлаяўся так, што страшна было слухаць. Пасылае поп сярэднюю дочку. З ёю здарылася тое ж самае. Потым паехала малодшая, самая прыгожая. Але і з ёю адбылося так жа сама. Раззлаваўся поп. Паслаў пападдзю. Пападдзя з вялікаю асалодаю згадзілася на прапанову Данілкі.

Заяц уцёк і ад яе. Нарэшце, паехаў сам поп. Ён пераадзеўся. Але Данілка пазнаў і яго. Вось поп пачаў прасіць прадаць зайца. Данілка не згаджаўся ні за якія грошы. Потым ўсё ж прадаў, але па гуку дудкі і гэты заяц прыбег да Данілкі. Чухае патыліцу поп. Скора расплата. Зноў звярнуўся ён да паляўнічых. Паляўнічыя параілі яму даць Данілку заданне: навучыць гаварыць трох пеўняў.

Забраў Данілка пеўняў, парэзаў іх, зварыў і з бацькам і з сям'ёю паеў.

Скора выклікае поп Даніла і пытае, як справы з абучэннем пеўняў. Даніла гаворыць, што ўжо пеўні ведаюць азбуку.

Цераз нядзелю кліча поп Даніла зноў. Кажа, што час канчаецца. Даніла гаворыць, што пеўні ўжо ўмеюць гаварыць, але гавораць такое, што ён баіцца іх паказваць бацюшку.

— А што ж яны гавораць? — пытае поп.

А яны гавораць:

— Усе паповы дочкі спалі з мужыком, матушка спала з мужыком і другія грахоўныя словы.

— Ну, скажы бацьку, што я прайграў. Можаш браць сабе любую дачку замуж.

— А навошта мне вашы дочкі патрэбныя? Лепш Ганначкі Іванавай мне не трэба.

— Ах ты, галган, дык ты іх сам папорціў, а цяпер адмаўляешся!

— Дык як жа мне іх усіх чатырох браць. Лепш я адну вазьму, ды не вашу.

## 96. ПОП

Быў адзін поп да такі паганы, што як яго й зямля насіла. Проста драў з людзей шкуру. А да баб быў такі падкі... Ужо збіраліся дзецюкі абстрыгці яму косу да паперабіваць ногі, але баяліся граху.

Жыў у том сяле хлопец, сірата, але вельмі ўдалы, да ўсяго здатны. Перш ён служыў парабкам, а потым зарабіў грошай, пабудаваў сабе хату й завёў хаджайства. Але, вядома, што гумно плача без гаспадара, а хата без гаспадыні. Так і яму кепска без гаспадыні. От давай ён сватаць сабе дзеўку. Выбраў сабе самую гожую дзеўку, а на вешняга Міколу яны й пабраліся. Жывуць Семка з Матрунаю да бога хваляць. Матруна яшчэ пахарашэла. Убачыў яе поп — і не жыў: трасецца, бы асіна, але нічога не зробіць, бо Матруна вельмі любіць свайго Семка. Але ось перад дзесятухаю выладзіла Матруна свайго Семка ў балота рабіць сена. Яна й сама хацела ехаць з ім, але ён кажа, што няма каму астацца ў дамоўцы. Паехаў Семка адзін на цэлых дзве нядзелі. Асталася Матруна адна. Сумна ёй адной. Удзень яшчэ нічагусенька, а прыйдзе ночка — сядзіць Матруна да плача.

От даў бог нядзельку. Дагледзела Матруна гаспадарку, села каля акна, пазірае на загумечча, як там дзеўкі з хлопцамі жартуюць, смяюцца, песні паюць, а самой так каля сэрца й завіло: апанаваў такі жаль, што не можа вытрымаць,— сядзіць і плача. Але ось ідзе поп і пытае, чаго яна плача.

— Так, бацюшка, з добрага раю,— кажа Матруна.

Поп зайшоў у хату, расселся на лаве, пазірае на Матруну да ўсе ківае галавою.

— Што гэта, — кажа, — Семка нарабіў? Што ж гэта будзе?

Спужалася Матруна, а поп кажа:

— Як жа гэта можна? Гэта ж Семка недарабіў дзіця, гэта ж яно будзе без галавы.

— Што ж тут рабіць, бацюшка? — пытае Матруна.

— Што рабіць... Хіба ось я памалюся да дараблю табе дзіця.

І пачаў поп маліцца... да так захадзіўся, што Матруна аж пачала крычаць. Здаволіўся поп і пайшоў да гасподы. Тым часам зыскаўся да гасподы Семка, а Матруна й навалілася на яго, што гэта ён нарабіў.

— Добра,— кажа,— што поп дарабіў дзіця, ато было б без галавы.

Дагадаўся Семка, як поп накпіў над яго жонкаю й давай ён думаць, як бы замсціцца папу. Кончылася лета. Узяліся людзі сеяць жыта. Бачыць раз Семка, што поп на агародзе бярэ каноплі: падходзіць ён бліжэй і просіць пазычыць борану.

— Добра,— кажа поп,— вазьмі хоць абедзве. Онь у павеці стаяць бораны. Там каля свіронка, мабыць, матуля з паненкаю мак б'юць. Скажы ім, няхай дадуць абедзве бораны.

Прышоў Семка к пападдзі дай кажа:

— Матулька, вялеў бацюшка, каб вы й паненка далі мне абедзве.

— Што ты гаворыш,— кажа пападдзя,— не можа гэта быць?!

— Папытайцеся ў бацюшкі,— кажа Семка.

Пападдзя кінула пранік, падышла к плоту й пытае папа:

— А ці даць Семку?

— Дайце, дайце,— кажа поп,— дайце абедзве.

— А што? Я казаў.

Нічога не зробіш — трэба бацюшкі слухаць. Павялі гэта яны Семку ў свіронак... Пападдзя ж нічагусенька, нават вельмі даволна,— спадабалася, а пападзянка такі аж заплакала... Мабыць, у яе быў якісь свой паніч. Справіўся Семка дай пашоў да гасподы. Сядзіць пападдзя з дачкою, маўчаць: сорам ім адна другой у вочы зірнуць. Ось прыходзіць поп. Не ўспеў ён пераступіць цераз парог, як на яго накінулася пападдзя..., крычыць:

— Сякі-такі ты! Няхай то ўжо мяне зняважыў, дак нашто ж ты сказаў, каб яшчэ й Маша...

Тут поп дагадаўся, што яго Семка падмануў, прасіў барон, а ўзяў жонку й дачку і рабіў з імі, што сам хацеў. Злуе поп, як сам сябе за с... не ўкусіць, але ўжо нічога не зробіць. От на другі дзень сустракае ён Семку, параўняўся й кажа:

— Дзень добры, Семка, барон пазычаўшы!
А Семка:
— Дзень добры, бацюшка, дзяцей дарабляўшы.
Прыкусіў поп язык і пасунуў далей.

## 97. ТРАПІЛА КАСА НА КАМЕНЬ

Аднаго разу поп, спавядаючы слабога чалавека, пачаў намаўляць, каб ён ахвераваў карову на цэркву. Так гаспадар кажа:

— А пры чом я, ойча духоўны, пакіну жонку дый дзеці, альбо і сам буду, калі яшчэ не ўмру? То ж у мяне ўсяго адна жывінка, як ока ў лобе.

— Дурню ты,— поп кажа,— табе бог дубальт дубальтамі аддасць, калі ты дасі не шкадуючы.

«Гм,— мужык сабе падумаў,— а можа і гэта быць праўда»,— дый зараз сказаў жонцы ці там сынаві завясці карову пад цэркву дый прывязаць да тыну.

Ажно потым бог даў, што той чалавек ачуняў, дый то трэба якраз той карове схадзіцца да быкоў. Ну, так як зазвычай, быкі за караваю, а за быкамі і ўсё быдла папова пабегла ў сяло дый да таго гаспадара цэліла на надворак. Прыбягае пастух папоў да быдла, аж ужо гаспадар гатункуе яго — становіць па хлявох: збрайнейша з збрайнейшым, слабейша з слабейшым, дый то кажа да пастуха:

— А чаго, сынку, хочаш?

— Прышоў,— кажа,— дзядзюшка, па быдла!

— О-о, ужо што на што, але гэтага не будзе, каб я боскаю ласкаю ўзгардзіў: каб я тое аддаў, што мне бог найвыжшы прыслаў!

І не даў хлопцаві быдла.

Пашоў пастушок, плачучы, да папа. Потым і поп сам прышоў і судзіліся за тое быдла, але поп нічога ні ўскураў, бо мужык ні слухаў ані судоў, ані нікога ў свеце, анно цёнглечку казаў:

— Я рызыкаваў свае дзеці асірацiць без каплінкі малака, аддаючы богу астатню кароўку на ахвяру, а цяпер бог мне аддаў дубальт дубальтамі, то ніхто адабраць не дасць рады.

І не даў быдла, адным словам.

## 98. ВЯЛІКАЕ ЯЙЦО

Пан вывез гарбузы на торг. Ходзіць Мазур, азіраецца, што гэта такое. Пан гаворыць яму:

— Гэта яйка такое.

А Мазур пытаецца:

— Што-то з гэтага яйка ўродзіцца?

А пан яму гаворыць:

— Пасядзі сам на гэтым яйку, то жарабя выседзіш.

Прынёс Мазур гэтага гарбуза дахаты. Пытае жонка ў яго:

— Што ты купіў?

— А, то я такое яйка купіў, што я буду мець каня.

Яна пытае ў яго:

— Што ты даў за гэта яйка?

— Рублёў пятнаццаць. Цяпер, жонка, дай мне месца за печчу: я буду сядзець, а мяне, жонка, кармі яйкамі харашо, водкаю паі, каб я не галодны быў, каб я гэтага яйка не замарыў.

Жонка яго харашо корміць, харашо поіць. Корміць яго тры нядзелі. Сядзіць ён на гарбузе, а жарабя няма. Жонцы зачало ўжо смярдзець ад гарбуза. Яна пытае ў яго:

— Ці не яйка тваё смярдзіць, ці не жарабя будзе выходзіць?

Яна гаворыць яму:

— Сядзіш, сядзіш, я не маю чым карміць.

— Пайдзі на рынак, накупі.

Казакоў многа было, і папрасіла казака, штоб даў каня, сваё адзенне і саблю. Прыязджае дамоў і кліча яго:

— Хадзяін, адчыні.

А хадзяін сядзіць за печкаю да не адзываецца:

— Га-га-га.

Казак абаждаў і другі раз кліча:

— Хадзяін, адчыні.

А хадзяін:

— Га-га-га-га.

Злез казак з каня, узяў нагайку харошую:

— Чаго ты тут сеў, да ге-ге-ге, што за ге-ге-ге!

Да пачаў яго нагайкаю сеч. Пытае казак у яго:

— Дзе твая жана?

— Пашла на базар кушаць пакупаць.

— Глядзі, як жана прыдзе з базару, пакушаць дасць, занясі гэта яйка ў лес, кінь, бо як другі раз прыеду, так я табе і жане галаву зрублю. На таком бальшом яйцы не сядзі!

Паехаў казак. Прыходзіць жонка дахаты. Ён плача і скардзіцца:

— Дзе ты забавілася? Да мяне прыехаў казак і нагайкаю чыста ссек.

— Мой ты галубочак, не сушы ты мяне і сябе, бо як другі раз прыедзе, то нас абоіх пазабівае.

Так ён паслухаў яе, узяў гарбуза і панёс у лес. Прынёс да лому бальшога і кінуў гарбуз там. Як кінуў гарбуза, а заяц з лому выскачыў дай пабег. Мазур думаў, што жарабя, успляснуў рукамі:

— Сам сябе загубіў, каб пасядзеў адзін дзень, меў бы жарабя.

## 99. ЯК КРАВЕЦ ШЫЎ ПАНУ ФРАК БЕЗ АБРЭЗКАЎ

Вядома, паны багатыя, яны ўсягда ездзілі за граніцу — у Парыж, у Рым, і яны там бачылі ў багатых вяльмож харошую вопратку,— модную і з дарагіх мацерый, якіх не было ў нашай Расеі.

Ну і вот, адзін багаты пан купіў сабе дарагой мацерыі ў Парыжы і прывёз з сабой яе ў Расію. Захацеў сабе сшыць фрак. Ён абраціўся к аднаму краўцу, к другому, але ніхто не ўмеў сшыць. Пры том пан яшчэ загадваў шыць так, каб не было абрэзкаў, бо мацерыя дарагая.

Усе краўцы баяліся шыць, ніхто не атчаіваўся, ніхто не браўся. Наканец, адзін найшоўся чалавек, каторы і не быў краўцом, но быў лоўкі абдурыць пана. Прачуў ён, што пан ішчыць краўца. Вядома, у то ўрэмя швейных машын не было, увесь інструмент быў у краўца — аршын, ножніцы, напёрстак і некалькі іголак. Вось гэты самы чалавек узяў свой інструмент і пайшоў к пану. Заходзіць к яму і пытае работы:

— Ці няма ў вас якой работы, паночку, я кравец.

Пан яму гаворыць:

— Ёсць, ёсць у мяне работа, але я хацеў бы знаць, ці харошы ты кравец.

— О, я кравец! Што ўгодна магу пашыць — бурносы, фракі, сюртукі, усё шыю.

Пан спрашываець:

— Каму ты што шыў, раскажы мне.

— О, каму я шыў! Я ўсім панам, і графам, і баронам усім шыў. От пану Заблоцкаму шыў я фрак, графу Забеламу шыў я бурнос і барону Розіну шыў я сюртук.

Канешне, мужык гаварыў пра вядомых паноў, багатых.

Пан гаворыць:

— Да, раз ты такім панам шыў, цяпер я паверу, што ты можаш пашыць. Ну, толькі з такім условіем, штоб шыў без абрэзкаў, мацерыя стоіць очэнь дорага.

Яму кравец атвячаець:

— Эта я магу здзелаць, але мне трэба даць другую комнату. Эта работа очэнь мудрая, я не хачу, каб хто відзеў, як я шыю без абрэзкаў. Штоб туда ніхто не заходзіў.

Эта было для яго здзелана. Там кравец распалажыўся шыць, там ён будзець і начаваць, так яму будуць насіць і абедаць у эту комнату. А кагда прыйшла ноч, кравец сабраў мацерыю, звярнуў яе пад мышку і праз вакно ўшоў.

Ждаў, ждаў пан, калі кравец пазавець на прымерку, калі ён папросіць абедаць. Ждаў, ждаў — не даждаўся. Падышоў да комнаты, стаў прыслушывацца — у комнаце цішына.

Пан адкрыў дзверы, а там нет ні краўца, ні мацерыі, ні абрэзкаў. Толькі асталась адкрытае акно, і на вакне ляжыць маленькая запіска: «Вот, паночак, вы хацелі шыць без абрэзкаў фрак, а без абрэзкаў толькі і шыюць так».

Пан пачасаў сабе затылак:

— Вот уж дзействіцельна, ніякага абрэзачка не асталося.

## 100. АДУКОВАНЫ БЫЧОК

Жылі сабе дзед да баба, й не было ў іх дзяцей. Чаго ні рабіла баба, к якім знахарам і знахаркам яна не хадзіла, якіх зелляў не піла — нічога не памагае: няма дзяцей да й толькі. Абхадзіла яна ўсе прошчы. Нарэшце параіла адна маладзіца, каб яна пашла на раду к папу.

— Бачыш, пападдзі плодныя, бы свінні,— кажа тая маладзіца,— схадзі к нашаму папу, занясі яму гасцінца да папрасі яго гожанька, мо й ублагаеш. Ён ужо многім памог. Цяпер дзякуюць.

Адзелася гэта тая баба, бы ў свята, набрала гасцінцаў да й пашла к папу. Аддала яна папу гасцінцы да й прызналася ва

ўсём, бы на споведзі. От поп трохі паблагатаў і давай лячыць бабу. Лячыў ён лячыў, аж яе сагрэў да й сам спацеў.

— Ну,— кажа,— прыхадзі, баба, па штодзень цэлы тыдзень.

Ходзіць баба к папу кожын дзень. А поп яе ўсё лечыць. Быў у папа шалапаваты парабак. Ведама, папы любяць дзяржаць шалапаватых парабкаў, бо яны не бяруць грошай, а служаць дармо. От і падгледзеў той шалапаваты парабак, як поп лечыць бабу й кажа:

— Бацюшка, гэ й я ўмею лячыць, як бацюшка. От летась як палячыў нашу цяліцу, дак бачыш, якога яна прывяла гожага бычка.

Папляваў тут поп, палаяў шалапаватага парабка, узяў таго бычка, завёз у лес да й кінуў, каб ён там загінуў. Але ось пасцілі ў лесе пастухі гаўяда, спаткалі таго бычка да й прыгналі ў сяло. Прыбіўся ён к гаўяду таго дзеда з бабаю да й прыцёгся на двор. От сядзяць дзед з бабаю на прызьбе да сваю бяду разважаюць. Тым часам падходзіць к ім убогі. Пачаў ён маліцца да выспеўваць свае песні. От абдарыла баба таго ўбогага і давай заганяць гаўяда. Зірне яна, аж якісь бычок, як убачыў яе, дак падбег, лашчыцца, трэцца каля хвартуха, от бы дзіця. А гэта той самы бычок, што поп завёў у лес. Бачыце, шалапаваты парабак лашчыў таго бычка да й прывучыў яго к рукам. Ходзіць бычок за бабаю хвастом, бы дзіця. Убачыў тое ўбогі да й кажа:

— От разумнае цяля, бы дзіця; з яго будуць людзі.

Падзякаваў убогі да й пашоў далей. А дзед з бабаю ўсё думаюць, што ж гэта сказаў убогі. Мабыць, гэта бог даў нам не цяля, а дзіця: толькі ліхія людзі абярнулі яго ў цяля. От давай яны гадаваць таго бычка, бы сваё дзіця. Расце бычок, бы на дрождажах, а дзед з бабаю самі не даядуць, а ўсё яго кормяць. Хутка вырас такі гожы бык, што хоць у саху запрагай. Не нарадуюцца дзед к бабаю: нянчацца з быком, бы з дзіцем. Усё думаюць яны, што гэта заклята, што ім даў бог сына, а ліхія ведзьмакі так прырабілі, што дзіця стала бычком. От і пачалі дзед з бабаю жупіць да радзіцца, гдзе б ім найці такога чалавека, такога моцнага знахара, каб ён адрабіў і абярнуў бычка ў чалавека. Жупілі яны, жупілі праміж сабою да й нарадзіліся аддаць свайго бычка ў адукацу, каб з яго былі людзі. От сабраўся дзед у дарогу, залыгаў бычка да й павёў у свет шукаць такога моцнага ведзьмара, каб ён выадукаваў і перарабіў таго бычка. Ідуць яны да йдуць, але ось сустракае іх якісь чалавек і пытае, куды дзед вядзе свайго бычка.

— У адукацу, мой саколіку. Гэта, бачыш, не бычок, а мой

сын, да толькі заклялі яго ліхія людзі, каб ім хварэць да стагнаць да й на том свеце дабра не маць. Заклялі, от я й шукаю такога чалавека, каб ён адрабіў да выадукаваў майго сына.

— Гэ, дзеду! — кажа той.—Я з гэтага толькі й жыву. Давай мне свайго бычка — з яго будуць людзі. Я ўсё адраблю да так выадукую, што ты толькі падзівішся.

— Ой, мой лебедзіку, да як яшчэ буду дзякаваць. Бяры да й рабі, што трэ.

От і пашлі яны разам. Прышлі да гаспады таго ведзьмара, а тут і ноч нахапілася. Астаўся дзед начаваць. Усю ноч вядзьмар пазіраў на зоры — усё гадаў да разгадваў, як гэта заклята бычка. Па ранку павёў вядзьмар дзеда й бычка ў лес напаіць вадою з свянцонае крыніцы. От спускаюцца яны з узгорачка ў даліну, аж пад таўшчэразным дубам крыніца. Яна невялічкая, бы рэшата, але з яе так і б'е вада чыстая, бы сляза, ды халодная, бы лёд. Перш вядзьмар штось шаптаў, загаварваў тую воду, потым напіўся сам і напаіў дзеда. От падводзіць ён к крыніцы бычка, а той упіраецца, не хоча. Ведама, гаўяда не любіць крынічнае вады, бо яна вельмі халодная. Але як ні круціўся бычок, вядзьмар такі таўкануў яго мордаю ў ваду. Абмачыў бык пыскі да толькі зачмыхаў. От павялі яны бычка назад да гасподы. Дзед вядзе за павадок, а вядзьмар ідзе обак. Ідуць яны да йдуць, але штось бычок упіраецца. Тузануў дзед за павадок, пацокаў — бычок упіраецца. Азірнецца ён, аж ззаду на павадку такі гожы, высокі хлапчук замест бычка. Падзівіўся дзед, а вядзьмар і кажа:

— Гэта ж я адрабіў. От зірні, які твой сын. Толькі цяпер трэ яго адукаваць.

Загаманіў было дзед к хлапчуку, але той маўчыць, бы пень.

— Не, дзеду, — кажа вядзьмар, — перш трэ адукаваць.

От прышлі яны к ведзьмару да гасподы. Дзякуе дзед, дае ведзьмару грошы да абяцае больш прынесці, да й вяртаецца да гасподы. Прышоў дзед да гасподы да й расказвае сваёй бабе, якое з ім было дзіва. Рада баба, аж падскоквае. — А што, ці я не казала,— крычыць яна на ўсё сяло,— ці я не казала, што гэта хлопец, а не бычок. Ці я не казала, што гэта бацюшка зрабіў, бацюшка выпрасіў у бога нам пацеху на старасці.

Бегае баба па сялу да крычыць, ламантуе, па дзесяць раз расказвае людзям, як поп яе лячыў, як маліўся й як бог паслаў ёй бычка да што то не бычок, а хлапчук. Дзівяцца людзі да й кажуць — на ўсё боская моц. Насілу дзед трохі ўняў бабу, сабраў грошай, наладаваў цэлы воз усялякага дабра да й павёз таму

ведзьмару, каб ён добра даглядаў да шчылна адукаваў хлапчука. Бачыць, аж хлапчук ужо стаў дзецюком, да такім гожым, разумным да ўдалым, што й не ўвазнаць. От ездзіў, ездзіў адзін дзед, але нарэшце пачала прагціся баба, каб ён і яе ўзяў з сабою паглядзець дзецюка. От сабраўся дзед да й паехаў з бабаю. Прыязджаюць яны к таму ведзьмару й пытаюць, гдзе іх дзяцюк. А вядзьмар да й кажа:

— Гэ, мае саколікі, ваш дзяцюк цяпер такі вялікі пан, што ў яго й крукам носа не дастаць.

— Гдзе ж ён? — пытаюць старыя.

— А онь у дварэ — камысарам. Мяне й знаць не хоча,— кажа вядзьмар.

От і паехалі дзед з бабаю ў двор шукаць таго камысара. Дапыталіся яны і лезуць проста ў станцыю. Баба, дак тая плішчыць цэлы прыпол кускоў хлеба, каб пакарміць свайго бычка, як яна карміла яго колісь. Камысар сядзеў за сталом і перагартаў якіясь паперы; але ўбачыў дзеда з бабаю да як закрычыць на іх, што ім трэ, чаго яны сюды лезуць.

— Бач, які сярдзіты,— кажа баба к дзеду.— Але рыхтык бычок, — нават лысінка асталася. Толькі той цяней рыкаў.

От трасе баба прыполам, падходзіць бліжэй к сталу да й заве:

— Бучок, бучок, бучок!

Пазірае камысар і не мажэ расшалопаць, што гэтыя людзі гавораць і чаго яны прышлі.

— Бучок, бучок, бучок! На-ш бо табе лусту хлеба...

— Вон,— крычыць камысар да лупіць кулакамі па сталу.

— Бэч, бэч! — кажа дзед.

І замахнуўся пугаю да й сперазаў камысара па лысіне.

— Гэй, воўчае мяса! Хіба ж ты нас не пазнаў!

Да й давай лупіць, давай пярэсціць камысара. Насілу той уцёк. Збеглася тут уся дворня. Павялі дзеда з бабаю к пану. Той пытаў, пытаў і нічога не дапытаўся, а падумаў, што гэта кручаныя людзі, да й вялеў заперці іх у свіран. Дак от які адукаваны бычок.

## 101. ЯК БЫЧОК НАЧАЛЬНІКАМ БЫЎ

Ну вот. У аднаго мужыка быў очэнь красівы бык. А які хазяін не рад, калі добрая скаціна на дварэ ў яго ёсць. Рад быў і гэты яму. І хто да яго заходзіў, ці знакомы, ці то родзіч, дык

ён усё тым бычком хваліўся, як ён рос, як ён даглядаўся. І вот аднойчы зайшоў да яго салдат, дык той мужык давай і салдату сваім бычком хваліцца.

— Вось,— гаворыць салдату,— які ў мяне бычок ёсць.

А салдат кемлівы быў.

— Э,— кажа,— дзядунька, гэтага бычка, каб аддаць на навуку, то з яго начальнік выйшаў бы.

Тут мужыка і зацікавіла, як бы бычка вывесці на штось добрае, і дагаварыўся з салдатам аддаць яго ў горад на навуку.

Вот прыйшоў салдат аднаго разу, забраў быка, завёў на бойню і зрасходаваў, а мужыку сказаў:

— Прыдзеш праз месяцы 2—3 — вось ён і будзе начальнікам.

Дачакаўся мужык да пары і пайшоў у горад адшукваць бычка-начальніка, як ён там выглядае. А салдат сказаў яму вот туды і туды прыйсці, там табе і ўкажуць.

А ў тым горадзе начальнікам пошты быў нехта па прозвішчы Быкаў, вот ён і направіў мужыка на почту, дзе той рабіў, і гаворыць:

— Там твой бычок не толькі навучаны, а цэлы начальнік з твайго бычка выйшаў.

Прыходзіць мужык, туды-сюды, кажа:

— Дзесь з бычка начальнік?

Ну, тут думалі, што хоча ён да начальніка, да не знае, як дапытацца.

Нарэшце знаходзіць аднаго чыноўніка і пытае ў яго, а той кажа:

— Можа быць, Быкаў?

— Да, ён, той самы! — крычыць мужык.

Ну, той і напраўляе яго ў кабінет да начальніка. Зайшоў мужык і дзівіцца.

— Ай,— кажа,— не пазнаць. Ай, быцюнечка, неяк і рожкі пагубляў.

А той, як затупаціць нагамі да з кабінета яго выгнаў.

Ідзе мужык і кажа:

— Як быў маленькім упрамым, такім і цяпер застаўся.

Прыйшоў дадому да бабы і кажа:

— Вот, бабка, не варта зусім бычка вучыці да на навуку аддаваці, горды стаў, не пазнаў мяне, лепш ён быў бы дома.

## 102. ПРА БЫЧКА-ТРАЦЯЧКА

Павёў Язэп быка-трацяка на рынак прадаваць. Убачыў яго салдат ды і пытаіць:

— Куда ты прыцёг, Язэп, такую злыбіну?

— На рынак прадаваць.

— Ты аддай яго нам у горад, тагды, па крайней меры, грошы возьмеш.

Язэп падумаў і аддаў салдатам падласага на навуку.

Прыходзіць дадому да і кажа сваёй жонцы:

— Жынка, ты знаеш, што я зрабіў?

— А што?

— Я падласага аддаў салдатам у горад на навуку.

— Дальбог, ён там навучыцца?

— А чаго ж не? От ён там навучыцца, што і добрыя грошы за яго вазьму.

Праходзіць нядзеля. Язэп звіў новага пастронка і думае пайсці ўзнаць пра свайго падласага, як ён там навучыўся ў горадзе. Убачыў салдат і пытае:

— Як жа мой падласы ў вас, салдацікі, навучыўся?

— Маўчы ты, чалавеча. Бяды мы з ім набраліся. Зрабіўся падабнюсенькім чалавекам. Зняў сабе кватэру і жыве ўжо ў даму.

Язэп і кажа:

— Я яму скора гэты розум выганю. То скажыце, салдацікі, у яком жа доме ён жыве?

— А от там стаіць бальшая брама, захадзі ў дом, і ты яго ўбачыш.

Язэп адчыніў браму, уваходзіць у двор, заходзіць у дом і відзіць седзячага за сталом пана.

— Экі ты падласы, іш ты які ласун, іш ты куды папаўся!

Пан пачынае крычаць на Язэпа:

— Што ж ты гаворыш пра падласага?

Язэп пачынае ўцяшаць ласкавымі словамі:

— Бытчу, бытчу!

А пан усё зліцца. Потым Язэп і кажа:

— Прасторна ў доме зрабіў!

Зрабіў пятлю і гэй яго за шыю, і давай яго біць пугаю. І штоб гэта было, каб не набеглі людзі і не абаранілі ашаломленага пана.

Вот і ўсё.

## 103. НЕДАПАД

Што ж мне вам расказаць? От здаецца, я ўжо ўсё расказаў, што знаю. А мо што й забыў. Ведама, жыву на свеце мо ўжо восьмы дзесятак. Дак от хіба ж раскажу вам гэтакае ж здарэнне з адным кухарам, як ён не мог прыдумаць аднае патравы. Толькі гэта не казка, але саўсім праўда. А як устарэе, та мо будзе й казка. Бо тое, што я колісь бачыў і чуў, дак вам здаецца байкаю, адно ж яно было праўдаю. Бо даўней былі не такія людзі, як цяпер, да й свет быў іншы. Бывалешнія паны не нашым роўня: такія пушныя да грозныя, што ты й не падступіся, бацца наравістая кабыла. Каб іх часам не палічылі людзьмі, дак яны не гаварылі, як бог даў, як гавораць усе людзі, а гугнявілі, шапялявілі, балбаталі ці заікаліся да цягнулі кожнае слова ці выпушчалі праз зубы да лічылі, што яно даражэй золата. Кажуць жа, што панскае слова грэе. Яно як нагрэе, та й голы ў мароз пабяжыш наўцякача. А прыдзе бало пану ў галаў якое-небудзь ліха, дак давай яму, хоць радзі, даставай і тагды, хаць бы на надвор'і з неба сыпалася каменне. Эге ж, упартыя да пушныя былі даўней паны.

Дак от яшчэ пры паншчыне жыў такі пан, што не знаходзіў сабе роўні і хацеў, каб у яго ўсё было не па-людску. Апавясціў ён па ўсёй акрузе, што дась многа грошай такому кухару, каторы цэлы год кожын дзень будзе гатовіць яму новую страву. Але хто возьмецца, да не дацягне да тэрміну, ці не прыдумае новай стравы, таму пан нічога не заплаціць, а толькі дасць сто бізуноў. Ніхто не бярэцца, не хоча і грошай, абы не закаштаваць бізуноў.

А ў таго пана быў такі хурман, што бало як смаляне, дак аж пара пойдзе. Але жыў там адзін п'янчужка. Ён хаць піў, як у халяву ліў, але да ўсяго быў вельмі здатны да такі штукар, так ён вычвараў, што ніхто таго не зробіць. Бало няма за што выпіць, бо ўжо апошняе лайно прапіў, а напавер не даюць, дак ён і пачне рабіць усялякія штукі, пачне такое вычвараць, што і смех добрым людзям казаць, дак падзівяцца людзі да і дадуць яму кватэру або дзве, а натрапіць на якога дурнога пана, дак той сыпане й жменю грошай.

От дачуўся той п'янчужка да й пашоў наймацца к таму пану за кухара. Наняўся ён да й пачаў кожын дзень прыдумоўваць усё новую да новую страву. Прыдумае да згатовіць якуюнебудзь новую патраўку да й закарбуе сабе на кіёчку. І чаго толькі ён не гатовіў, якім толькі брудам не карміў паноў. Але,

ведама, паны не сабакі — усё з'ядзяць да яшчэ абліжуцца. Рабіў ён каўбасы з давальдрэку, вужовую яечню, верашчаку з мышыных хвастоў, кашачых вантроб да жабячых клюшаняк, пёк пячэню з пацукоў да чарапах, гатовіў галярэту з жабурэня або з шаршнёвае чарвы, рабіў чарвяковае масла да вашыную затаўку. Кожын дзень усё новае да новае гатовіць ён пану, а той есь да толькі хваліць. Як ужо вельмі хітрае прыдумае кухар, дак пан атусюль назбірае гасцей, частуе ён іх да хваліцца, што такіх патравак нідзе няма, апрыч у яго.

От так выдумоўваў, выдумоўваў той п'янчужка да ўсё карбаваў кій, нарэшце ўжо нічога не можа прыдумаць. От узяў ён кій да й пачаў лічыць зарубкі, налічыў трыста, копу і пяць.

— Ну,— думае,— от і год.

Хацеў ён ужо іці к пану па пенсію да яшчэ запытаў людзей, ці ўжо год, ці не. А тыя кажуць, што на яго няшчасце выдаўся прыбышовы год. Аблаяў п'янчужка Касьяна, што той яму зрабіў здраду, але няма чаго рабіць, трэ цягці да канца. Але колькі ён ні думаў, як ні круціў галавою, от хоць ты што, нічога не прыдумае. А тут к пану атусюль наз'язджалася паноў, паняў да паненак, бы гною, хоць ты гаць гаці. Пахаджаюць яны ды чакаюць, што такое смачнае прыдумае штукар-кухар. Бегаў, бегаў п'янчужка з палуміскам у руцэ, нічога не прыдумае, да й пабег ён яшчэ раз у пограб, ці няма там чаго такога, каб з яго згатовіць новую патраўку ці якую-небудзь страву. А тут ужо і сонейка пачало падымацца ўгору, пара гатовіць сняданне. Выбег ён на дзядзінец. От ужо пастух сабраўся выганяць на пашу гаўяда. Паднялася тое, пацягаецца да ўгнойвае двор. Зірнуў п'янчужка, штось прыдумаў да й падставіў карове палумісак.

— Не ўпала далоў,— сказаў ён сам сабе,— дак гэта будзе недапад. Навару да насмажу сягоднячы панам так смачна, што яны пальцы пааблізваюць.

Пабег ён барджэй гатовіць недапад, тую апошнюю страву. От згатовіў ён. Пачаў лёкай да пакаёўкі захаджацца кала стала. Пытае лёкай, якая ў яго чарговая патрава.

— Недапад,— адмаўляе кухар,— гэта такі смак, што мо ты яшчэ ніколі такога не каштаваў. Скажы панам, каб яны, як будуць есці, трымалі моцна языкі, ато праглынуць.

Прышла пара, пачалі паны абедаць, але не ядзяць да ўсё чакаюць, пакуль прынясуць тую смачную чарговую патраву. Нарэшце, лёкай прынёс недапад. Накінуліся на яго паны, бы сабакі на косці або свінні на мякіну. Лопаюць яны да мнуць, аж за вушамі трашчыць.

— Ну,— кажуць,— яшчэ такога смачнага ніколі не было.

Чмыхае пан ад гонару да толькі носам водзіць, бы крутагалоў.

— А пазваць сюды кухара,— кажа ён.

Усунуўся п'янчужка да й стаў пры парозе, бы слуп, чакае, што скажа пан.

— З чаго ты згатовіў гэты недапад?— пытае пан.— Скажы, то дам гасцінца тры дукаты.

— Не можне, паночку,— кажа кухар,— бо сапсуецца. Не можне казаць, пакуль пан не разлічыць мяне, бо як ужо мне кончыўся тэрмін.

От пан заплаціў п'янчужцы, як абяцаў, многа грошай да яшчэ даў гасцінца тры дукаты. Насыпалі тут яму яшчэ панскія госці грошай поўну шапку, от толькі тагды сказаў ён пану да тут і ўсім гасцям, з чаго згатовіў недапад, а сам і сунуў наўцекача да проста ў карчму. Пачулі паны — да пачне іх нудзіць да вярнуць з душы, дак насілу вычухаліся. А што было з панямі да з паненкамі, дак аж брыдка казаць. От якое было здарэнне.

## 104. АЎСЯНАЯ ДВОРНЯ

Сышлася ўся дворня й жаліцца, што пан корміць іх толькі адным аўсом.

— Даніла, братко! Ты ўсім нам галава. Дай ты нам раду, што тут рабіць з панам? Заморыць ён нас гэстым аўсом.

— Эй, Сцяпане, не табе гэта казаць, ты бываў у свеце, многа бачыў, многа чуў. А я нічога не знаю. Якую я тут дам раду!

— Праўду кажа Даніла. Калі ты, Сцяпане, не парадзіш, та ўсе мы паздыхаем ад гэстага аўса.

— Што я параджу, калі пан кажа: «Бачыш, якія дужыя коні ад аўса. От такая дужая мая дворня, бо яна аўсяная».

— Ой, мы горкія! Што тут рабіць, што пачаць? Гэсты авёс ужо нам кішкі пераеў.

— Да што кішкі... Онь у мяне кірдзюк на языку.

— Добра табе казаць, калі ў цябе кішкі, бы халява. Я бачыў, як ты еў яршы ў кума на радзінах. От, мае браткі, кідае ў горла адзін за другім сухія яршы, бы ў прорву. Мо ад таго ў цябе й кірдзюк на языцэ.

— Талкуй, ад таго. Яршы я кідаю ўперад галавою... Не, гэта ад аўса. Ад гэстага аўса мы скора саўсім абернемся ў коней.

— Ой, ратуй, Сцяпанко, калі ў бога верыш. Не хачу я быць кабылаю.

— Ну, чаго заскуліла? Хіба ж спалохалася, што кабыла толькі адзін раз у гаду гуляе?

— А табе абы зубы вышчараць.

— Вышчарыш і ты, як абернешся ў кабылу.

— Ну, Сцяпане, чаго к маладзіцы прычапіўся? Бачыш, што й ёй ад аўса жыцця няма. От лепей пакруці галавою да парадзь, што тут рабіць.

— Што я параджу? От хіба нам хурман Нічыпар парадзіць, што рабіць з паганым панам. Нічыпар мае дачыненне да коней...

— Хіба ж мы ўжо коні?

— Да чаго ты прыплёў тут коні?

— Онь нашы коні ніколі аўса й не бачаць.

— Авёс, авёс!.. Людзі заўжды з аўса гатовяць блінцы, робляць талакно.

— Онь салдатка Рыпіна з аўса варыць крупнік і не нахваліцца, як смачно.

— Я ку, што Нічыпар ездзіць з панамі на конях, дак ён лепей знае коней, лепей знае, што паны гавораць і што думаюць...

— Да не пляці ты лапці, не чмуці. Мы самі з вусамі.

— Я не пляту, а праўду кажу. Не мая праўда, Нічыпар?

— Ужо ж праўда. Я чую, што паны гавораць, знаю, што яны думаюць: я бачу іх навылет.

— Ой, Нічыпарко, саколік, памажы ты нам у бядзе.

— А што вы мне дасце? Калі паставіце гарнец гарэлкі, дак не ўбачыце аўса, як сваіх вушэй.

— Не толькі гарнец, а нават два, толькі памажы нам, Нічыпарко, адвярні гэстую плягу.

— Ну, так хадзем-тко на дзядзінец, да рабеце тое, што я скажу.

— Камендуй, камендуй, Нічыпарко, будзем рабіць, што ты завеліш.

— Дак от пакуль я схаджу па гарапнік, вы ззавеце сюды ўсю дворню да й чакайце мяне. Як я прыйду да пачну смаліць гарапнікам, дак вы бегайце да ржэце, бы коні. К пану наз'язджалася многа гасцей, я ўсё расталкую пану пры гасцях. Пану будзе сорам ад гасцей.

— Рабі, Нічыпарко, як добра. Ты лепей нас знаеш.

— Нічыпар, Нічыпар! Чаго там тыя галганы пазбіраліся на дзядзінец? Распэндзь іх бічам.

— Да я ўжо разганяў, паночку, толькі яны яшчэ гарэй ржуць, от баццэ коні!
— А ты задай ім пад фэ.
— Гэй, каб вас так і сяк. Чаго пазбіраліся?
— І-га-га-га! І-га-га-га!
— Але цо то ест? Гесці бардзо зацікаўёны сон.
— Што? Бачыце, што людзі ў коней абярнуліся.
— З чэго ж то?
— З чаго? Ведама — з аўса.
— З якего овса?
— А пан жа вялеў усю дворню карміць усё аўсом. От кармілі, кармілі да й выкармілі на адзін бок.
— Цо ж тэрас робіць?
— Што? Ведама, што рабіць. Трэ й дваровых карміць усялякаю страваю, а не аўсом, як коней. От няхай пан спытае ў панскіх гасцей, што яны скажуць, праўду я ку, ці не.
— З тых час каж іх карміць вшысткім, цо ест і цо готуён до мэго стола.

## 105. ДВАРАНІН

Быў сабе адзін дваранін, на прозвіско Пятроўскі. Ён не меў ні двара, ні падданых, а так сабе валачыўся ад аднаго пана к другому. Гдзе прыстане к панам на паляванне, гдзе трохі паслужыць наменснікам або аканомам. От так і жывіўся цэлы век. Бо,— як жа кажуць,— ён ад хаджайства адбіўся, ад зямлі атарваўся, але і неба не дастаў да так і цяляпаецца паміж небам і зямлёю... Але, ведама, дваранін,— ён усё-такі спаганяе панства. Дармо, што ў яго часам у гаршку трасца кіпіць, затое на назе чабот рыпіць. А на нашага брата мужыка йнак не пазірае, бы як на гаўяда. Бало, на паляванні ці што, крычыць:
— Мужык, гад! У цябе ў роце чорна.
Дак от які-то дваранін быў, бо не маў свае хаты, а, бы сабака, на дварэ жыў да на людзей брахаў, батцэ б сваё дабро аберагаў. Але як ён ні круціўся, да такі да ліха дажыўся... А ведама, як трывога, та й да бога. От пан Пятроўскі пайшоў да касцёла, укленчыў да й моліцца:
— Пане Езу Хрыста, дай мне рублі трыста, але й без еднэго не вэзма.
Ходзіць ён кожын дзень да касцёла да ўсё моліцца, усё просіць рублі трыста, ні на шэлег не збаўляе. Падслухаў тое ксёндз

і вялеў арганістаму зрабіць пробу, што з таго будзе, даць Пятроўскаму без аднаго трыста рублёў. От як Пятроўскі, укленчыўшы, маліўся: «Пане Езу Хрыста, дай мне рублі трыста. Без еднаго не вэзма»,— арганісты залез на хоры да й спусціў адтуль на нітачцы дзвеста дзевятдзесят дзевяць рублёў у Пятроўскага перад самым носам. Пятроўскі пералічыў грошы, палажыў іх у кішэню да й кажа:

— Кеды пан Езус Хрыста даў рублі трыста без еднэго, то дасць і ўшыстко. Дзяньковаць за боскую ласку.

Пры гэтых словах Пятроўскі падняўся на ногі і хацеў ісці, але чуе, хтось кажа:

— Хаць жа пан Пятроўскі шляхціц, але кеп!

Гэта сказаў ксёндз, бо яму шкода стала грошай. А Пятроўскі падумаў, што гэта кажа Езус. Закіпеў Пятроўскі, аж затросся ад злосці да й крычыць на ўвесь касцёл:

— Цо, цо? Я кеп? З ласкі боскай естэм пан Пятроўскі, радавіты шляхціц да патопу да прзытым і двожанін гэрольдэм утвердзоны.

І пашоў з касцёла. Дак от які быў ганаровы дваранін пан Пятроўскі.

## 106. ПАНУ НАВУКА

Слухайце бо! Скажу вам не казку, а шчырую праўду. Дзе тое было — цяпер я забыўся, бо ўжо, бачыце, старасць. А ведама, калі з чупрыны гінуць валасы, то й памяць — з галавы. От я забыўся, што сягоннячы абедаў. Не памятаю. А мо й нічога. Трапляецца і гэ. Кажуць жэ: «Часам з квасам, а пароюз бядою ці бо з вадою». Цяпер ліха, жаляцца маладзічкі, а даўней было гарэй. Вы таго не памятаеце. Не вельмі даўно тое было, яшчэ за паншчыну. За паншчынаю было добра, калі трапляўся добры пан. Было так добра, так добра, што не трэ й паміраць. Добры пан даглядаў сваіх мужыкоў, як родны бацька. Але дзе траплял́іся такія добрыя паны? Больш былі не паны, а зяр'ё паганае. От як трапіцца такі паганы пан, то хоць лажыся і памірай — нічым яму не ўгодзіш. Кажуць жэ: «Зачыні чорту дзверы, то ён у вакно». Гэ й ліхі пан. Ты яму годзіш, шчыра робіш, а ён табе ўсё крычыць:

— Не так, шэльма, не так, галган, не так, пся крэў,— і есць цябе поедам, есць, зневажае, здзекуецца.

А чуць што — жыўцэм шкуру злупіць. Ой, цяжка, вельмі цяжка было за ліхімі панамі. А ліхія паны немаль былі ўсе. Эге ж.

От у вадном двары быў такі ліхі пан. Чаго толькі ён не вычвараў. Як толькі ён ні наздзекуваўся над людзьмі! Сек ён і мужыкоў і баб, старых і малых. Расцягнуць, бало, маладзіцу або дзеўку, камісар тычэ пальцам да й кажа:

— Пане, о!

— Лупі па о,— кажа пан, і хурман пачне пярэсціць, што аж пара валіць.

Не аднаго ён засек насмерць і нікога не баяўся. А людзей ён лічыў гарэй сабак... Што ён вычвараў над маладзіцамі да дзеўкамі, дык сорам і казаць. Не мог той паганы пан ужо больш нічога прыдумаць, каб паздзекавацца над людзьмі, от і вялеў ён, каб мужыкі прыводзілі на продаж валоў толькі ў двор, а па канцах сяла паставіў рагаткі да й не пазволіў праехаць к мужыком ніякаму купцу. От і павялі людзі ў двор валоў на продаж. Але прывядзе хто вала, а пан і кажа:

— Што ж ты прывёў, асёл? Гэта ж не вол, а казёл.

І заплаціць, бы за казла, ато яшчэ пашле на стайню да ўсыпле ў сядзібу паўсотні гарачых. Доўга мучыліся бедныя мужыкі з такім паганым панам, доўга цярпелі, бо што зробіш, каму пажалішся? Ведама, паны за панамі і цягнуць.

Але ось знайшоўся адзін чалавек, што адплаціў таму пану за ўсе людскія слёзы да за крыўду. Дак от як тое было. Быў там удалы, здатны хлопец. Рана ён асірацеў, але і адзін узбіўся такі на хаджайства. Гарды быў хлопец. Ніхто яго ніколі і пальцам не зачапіў. Толькі от ён прыводзіць у двор на продаж вала. Убачыў пан, выйшаў на ганак да й кажа:

— Што ж ты прывёў, асёл? То ж не вол, да казёл.

Пазірнуў той дзяцюк, што блізка нікога няма каля пана, паказаў яму папліску да й пытае:

— Што гэта, пане, бяроза ці лаза? Я ж прывёў к табе вала, не казла...

І давай пярэсціць, давай дубасіць пана тою папліскаю. Рэзаў, рэзаў, пакуль сам здаволіўся.

— От жа табе, пане, за тое, што ты людзей мучыш. Калі вычухаеш гэта, то чакай мяне яшчэ трэйка. Трэйка я здыму з цябе шкуру.

Сказаў гэта тое дзяцюк да й уцёк у лес. А ведама, якія даўней былі цёмныя да густыя лясы. У іх жыві колькі хочаш, ніхто цябе не трапіць. Нашла дворня пана без памяці, так яго вымесіў

той дзяцюк. Толькі на трэці дзень трохі ачухаўся пан і вялеў злавіць Рымшу — так звалі таго дзецюка. Да куды там — яго й след ветрам замяло. Немаль нядзель сем пракачаўся пан: чуць чорту душу не аддаў. Якіх толькі дахтуроў не спраўаджалі — нічога не парадзяць, бо яму, мабыць, Рымша адсадзіў печанцы. А што ўложыць хам, то не выме і пан.

Але ось па немалым часе прыехаў у двор якісь вянгерац. У яго ўсялякіх зелляў, усялякае лякобы. Рад пан, чапкуе, просіць таго вянгерца, каб яго палячыў. Пагасцяваў вянгерац у двары да й давай лячыць пана. Вялеў гэта ён напаліць лазню, павёў пана туды, пасадзіў яго на лаўцы да й вялеў аберучкі дзяржацца за жэрдачку, а сам пачаў націраць пана ўсялякімі мазямі. Сядзіць пан, трымаецца аберучкі за жэрдачку да толькі крэхча. Але нядоўга ён так сядзеў: выцяг вянгерац з кішэні суромец, прывязаў ім к жэрдачцы панскія рукі, заткнуў пану вехцем горла, узяў хварасціну да й кажа:

— Што гэта, пане, бяроза ці лаза? Я ж прадаў табе вала, не казла.

Бачыць пан, што гэта Рымша, а не вянгерац, хоча крычаць, да не можа, бо вехаць у роце. Круціцца пан, бы ўюн на гарачай скавырадзе, а Рымша дастаў з-пад палы канчук і давай хрысціць паганага пана па чом папала. Лупіў, лупіў, немаль усю шкуру садраў да й давай пасыпаць пана соллю. Самлеў пан ад болю. А Рымша сеў на коней да й паехаў сабе. Толькі яго і бачылі.

Доўга хварэў пан, чуць не паўгода пракачаўся. Усе думалі, што ўжо яму прышлі капцы. Але ліхога й смерць не бярэ: к вясне трохі вычухаўся пан і хацеў ехаць за граніцу на воды, да, бачыце, грошай няма. От і ўздумаў ён прадаць лес. Пашла пагаласка, і пачалі купцы аглядаць лес. Таргаваліся яны, таргаваліся, дак не сходзяцца аб цане, бо пан вельмі даражыўся. Толькі ось прыехаў якісь бачно вельмі багаты купец. Павёў яго пан аглядаць лес. От пан хваліць лес, а купец толькі ўсё адводзіць пана ў гушчарню да ў нетру. Забраліся яны ў такую гушчэчу, што і свету божага не бачно, от купец давай абдымаць хвоі, сажнем мераць таўшчыну. Абхапіў і пан адну хваіну, а купец хуценька выхапіў з кішэні суромец да й прывязаў пана к хвоі. Бачыць пан, што тут не пярэліўкі, і хацеў крычаць, зваць на ратунак, але так спалохаўся, што няма голасу. Але ось купец паказаў яму папліску да й пытае:

— Што гэта, бяроза ці лаза? Я ж,— кажа,— прадаў табе вала, не казла.

Тут пан дагадаўся, што гэта Рымша, да аж у калошы напусціў. Тым часам Рымша запхаў пану мохам рот да і давай пярэсціць па чом папала да прыказваць, каб больш не здзекуваўся над людзьмі. Біў, біў Рымша пана, чуць насмерць не забіў да так і кінуў прывязаным к хвоі, бы падла. Так да вечара і ўсюсеньку ноч правісеў пан на хвоі, чуць яго нудзьга не з'ела, пакуль дворня нашла. От тут ужо пан цэлы год пракачаўся: усё не мажэ выздаравець. Няма ачунку: от і радзяць пану ехаць на воды.

Прадаў гэта пан лес, прадаў збожжа да гаўяда. Сабраў многа грошай да й давай выладжвацца на воды. Тым часам Рымша ўсё цікуе за панам. От толькі пан выехаў з двара да ўехаў у лес, як Рымша ўжо зрабіў на яго пастку. От ён паставіў на дарозе ганоў на трое адзін ад другога двух конных хлапчукоў з доўгімі паплёскамі. Толькі пад'ехаў пан, як першы хлапчук трасе паплёскаю да й крычыць:

— Што гэта, пане, бяроза ці лаза?

А сам па каню да й наўцекача.

— Лапайце, лапайце! — крычыць пан.— То ж галган Рымша.

Хурман адрэзаў пастронкі, сеў на каня да й пагнаўся за хлапчуком. Але той сунуў у лес і чорт ведае, куды дзеўся. А хурман папёр дарогаю ўперад мо вёрстаў дзесяць. Тым часам заехаў упярод перад панам другі хлапчук, паказаў папліску да й пытае:

— Што гэта, пане, бяроза ці лаза?

— Лапай, лапай яго, галгана! — крычыць пан на лёкая.— То ж Рымша.

Ускочыў лёкай на другога каня да й пагнаўся за хлапчуком. Астаўся пан адзін. Тут Рымша высунуўся з-за выскаці да й паказаў пану папліску:

— Што гэта, пане, бяроза ці лаза? Я ж,—кажа,—прадаў табе вала, а не казла.

І давай дубасіць да перыць пана тою папліскаю. Збіў Рымша пана на горкае яблыка, забраў усе грошы да й пашоў сабе ў лес, у сваю зямлянку. Кажуць, потым Рымша многа дабра рабіў людзям. Яшчэ да тыхчас у цёмным лесе сярод балота стаіць гара. Яе называюць Рымшаваю Гарою. Гэта паміж Заполлем і Навасёлкамі (Мазырскага павета). Мо ведаеце. Дак, кажуць, там жыў той Рымша. Ён дзесь схаваў многа грошай, але нельга знайсці. Зямлянку та я сам бачыў, як хадзіў туды ад пана з картаю. Каб пашукаць, мо і грошы е.

## 107. КАЗКА ПРА БАРЫЛУ

Сярод балот, сярод лясоў дрымучых жыў магутны волат Барыла Мазалевіч. Многа страху наганяў ён на паноў да ўжо і зусім збіраўся з імі паквітацца за здзекі над беднымі, за слёзы сірочыя. Дайшла аб гэтым чутка да пана Хлысцецкага, што жыў недалёка ў раскошным маёнтку. Людзі баяліся яго горш, чым чумы і напасці лютай. Колькі гора з ім людзі зазналі, колькі слёз крывавых праз яго пралілося, колькі сірат няшчасных засталося. Аднаго разу паехаў пан у царкву спавядацца. Паспавядаўся да едзе назад. Раптам чуе — нехта крычыць. Азірнуўся — аж гэта дзяк.

Дзяк і кажа яму:

— Бацюшка забыў, у якіх грахах вы яму спавядаліся, і паслаў наўздагон.

Пан і кажа:

— Спавядаўся, каб дараваў бог грахі мае цяжкія.

— Ага,— кажа дзяк,— ды вы, яснавяльможны пан, забылі яшчэ адзін маленькі грашок: ваша багацце, якое вы на слязах сірочых нажылі.

Скінуў з сябе дзякава адзенне. Пан пазнаў, што гэта Барыла, ды як наробіць гвалту! Прыгнуў Барыла бярозу, потым вяроўку пану на шыю і кажа:

— Ну, падымайся, яснавяльможны пане, там ужо ў астатніх грахах кайцеся. Няхай душа твая спавяданая ў неба ляціць, бо на зямлі месца табе больш няма.

## 108. ЯК СЯЛЯНЕ АД ПАНА ПАЗБАВІЛІСЯ

Гэта было даўно, калі ўся ўлада належала памешчыкам і капіталістам, калі паны прыцяснялі сялян. Паны былі скупыя, усё багацелі.

Недалёка ад нашай вёскі быў маёнтак пана Таўсцяка. Цяжка жылося сялянам ў гэтага пана. Ад цямна да цямна працавалі яны на полі, аралі, сеялі, жалі, а потым у гумне малацілі.

Ні ласкі, ні дзякуй не чулі яны ад пана, апрача яго бізуноў.

Працаваў у пана бедны селянін Андрэй Моцны.

Не сказаць, каб асілак, але бугая валяў на зямлю і, трымаючы за рогі адной рукой, здзіраў шкуру другой.

Выпаўняў Андрэй абавязкі конюха і дрывасека.

Паехаў аднойчы Андрэй у лес па дровы. Праехаў вёрстаў пяць і бачыць: па дарозе едзе пан на залатой калясцы з англійскімі рэсорамі. Коні гладкія, з дарагой збруяй. Як толькі параўняўся пан з селянінам, коні яго распрэгліся. Злез Таўсцяк з каляскі дый кажа Андрэю:

— Пакажы, мужык, як трэба каня запрагаць.

— Добра,— кажа Андрэй,— я пакажу пану, як трэба каня запрагаць.

Распрог Андрэй свайго каня дый кажа пану:

— Ідзі сюды, паночку, стань паміж аглобляў.

Стаў Таўсцяк, як раіў яму селянін. Андрэй надзеў хамут пану, накінуў сядзёлку, прымацаваў дугу і засупоніў. Сеў Андрэй на воз, пацягнуў за лейцы. Пан не зрушыў з месца.

Раззлаваўся Андрэй ды як сцебане пана бізуном. Завыў пан, закруціўся вужакай, а Андрэй усё лупіць яго бізуном.

Пачулі сяляне, што працавалі непадалёку, прыбеглі на дапамогу Андрэю, адламалі дубінкі і давай пана частаваць, аж пакуль ён богу душу не аддаў.

Так сяляне пазбавіліся ад панскай пакуты.

І пачалося ў іх новае жыццё, аб якім яны не марылі, якога ў сне не бачылі: шчаслівае і заможнае.

## 109. ПІСАР

Быў адзін ліхі пан. Цяжка пад ім жылося людзям: цэлы тыдзень хадзі на паншчыну, а што зробіш у нядзельку, і тое аддай пану. Та яму давай сушаных грыбоў, та назбірай рыжкоў, та ягад — усё яму трэ. Даўней, як дасць бог зіму, цэлы абоз хурманак плішчаць усялякае дабро ў места або ў другі двор. Самога пана немаль ніколі не бачно было, бо ён усё ездзіў за граніцу ці ў Аршаву. Раз доўга пана не было ў дварэ, і пайшла чутка, што пан суздром не вернецца, што ён прадаў маёнтак якомусь другому пану. Хто іх там ведае, мо й праўда,— кажуць, батцэ, той пан за пару заграні́чных коней і пяток якіхсь сабак аддаў увесь маёнтак з людзьмі. Але ось па немалом часе прыехаў новы пан. Сабралася грумада і давай радзіцца, як тут далей жыць, вельмі ж цяжка было жыць пад тым панам, ці не можна ўпрасіць новага пана, каб ён трохі збавіў паншчыну да падаткі. Радзілася, радзілася грумада і прыгаварыла прасіць новага пана; а каб усё добра

сказаць — ведама, мужык цёмны, не скажа, як трэ — прыгаварылі напісаць пану ўсё на паперы. Але як жа тут напісаць, калі ніхто не ўмее. Карбаваць яны яшчэ добра ўмеюць, але пісаць — эні ў зуб. Прачулі яны, што ў мястэчку е якісь п'янчужка пісар і што ён умее вельмі добра пісаць. Піша дробна, бы макам сыпле, а гдзе трэ — кругла, бы яйца, і так накруціць, што толькі вельмі пісьменны бачыць, што там напісана. От прывезлі яны таго пісара, паставілі яму кварту гарэлкі і просяць, чапкуюць, каб ён ужо добра напісаў пану. Толькі пісар цэлы тыдзень піў да еў яечні, а пісаць не браўся.

— Трэ ўпярод нажэндзе,— кажа пісар.

Паперу аркуш хлопцы купілі ў мястэчку ў кромцы. Тым часам пісар вялеў назбіраць дубовых арэшкаў да насушыць іх, а сам пайшоў у кузню, набраў там з-пад тачыла вады, наліў яе ў гаршчок, насыпаў туды дубовых арэшкаў і паставіў гаршчок на печ. Праз тры дні ўзяў ён той гаршчок, аж там атрамант, чорны, бы сажа. От нанеслі гэтаму пісару з усяго сяла гусінага пер'я. Нарабіў ён сабе цэлы пук пер'яў.

— Ну,— кажа,— цяпер давайце яшчэ гарэлкі, каб лягчэй рука хадзіла.

Далі яму гарэлкі. Пісар выпіў з паўкварты, агурком закусіў і давай пісаць. Сышлася грумада людзей. Адзін кажа:

— Напішы, каб пан даў на дым па пяці коп жэрдзя на плот.

— Пішы, каб пан збавіў падаткі,— кажа другі.

Многа гаварылі мужыкі пісару, каб ён пісаў. А ён пацягне з пляшкі гарэлкі да так піша, што пяро скрыпіць, бы немазаныя калёсы. Піша пісар, аж пот на ілбу выступіў, батцэ не пяром, а сакераю дровы пляжыць. А лоб у яго вялізазны, і галава голая, хоць боб малаці. Напісаў пісар. Мужыкі паставілі крыжы і дзякуюць пісару. Сабралі яму з усяго сяла курэй, яец, арэхаў, мёду, сала — хто што меў. Паехаў сабе пісар да гасподы, а мужыкі сабраліся й гуртом пайшлі к пану. Выйшаў пан на ганак і пытае, чаго яны прыйшлі. Мужыкі цялюх пану ў ногі й падаюць прашэнне. Узяў пан у рукі паперу, перачытаў і кажа:

— Дзякуй вам, хлопцы, што вы мне даеце з дыму па валу, па капе яец і па асьміне аўса.

Пераглядваюцца мужыкі, насілу расшалопалі, што гэта пан кажа. Дагадаліся яны, што пісар іх абмануў, але нічога не зробіш,— трэ аддаць пану, што напісалі. Пайшлі мужыкі да гасподы, аж кудлы дзяруць, так ім шкода дабра. Ідуць, а адзін кажа:

— Э, хварэць вашай матары, падвялі й мяне. Я тады знаў, што ён піша. Бачу — піша вялікае да й закруціць. Ну, думаю,

гэта валы крутарогія. Піша круглае — от гэта вам яйца, а дробнае — от вам авёс.

— Чаму ж ты тады не казаў? — крычаць мужыкі і давай яго лупцаваць.

Пабіліся мужыкі, пабожкалі й пайшлі збіраць пану авёс і яйца.

## 110. АБ ТЫМ, ЯК КСЯНДЗЫ ВЫЛЕЧЫЛІСЯ

Тры гладкія, атылыя ксяндзы сабраліся ехаць на воды лячыцца. Яны растаўсцелі, як адкормленыя вапрукі. Чаго яны не рабілі, якіх зелляў не прымалі — нічога не памагае. Дахтуры кажуць, што ім трэ ехаць на воды, дак там лою збудзе. Паехалі ксяндзы па панох збіраць грошай на дарогу. От прыязджаюць яны к аднаму пану і жаляцца яму на сваю бяду. Просіць пан ксяндзоў пасілкавацца да пераначаваць. Заначавалі ксяндзы. От пасадзіў пан іх вячэраць да так участаваў, што ксяндзы і заснулі пры стале. Храпуць ксяндзы на ўсе застаўкі, спяць так моцна, што хоць з гармат страляй — не пачуюць. От пан вялеў іх раздзець, перанесці ў бровар да й палажыць там разам з браварскімі работнікамі.

Прачухаліся назаўтра трохі ксяндзы, але не ведаюць, дзе яны. Але ось і будзяць дзецюкоў набіваць картаплянік. Падняліся ксяндзы й не хацелі ісці на работу, але як перацёг іх наменік бізуном, нябось, пайшлі. Робяць ксяндзы разам з другімі ўсе, што трэ ў бровары, разам ядуць, разам спяць і ніяк не могуць з бровара вырвацца.

От праходзіць нядзеля — другая, і пачало з ксяндзоў спадаць сала, а цераз нядзель пяць яны падгіндзіліся, як харты. Пагадзяць яны адзін на другога і пазнаць не могуць, так выпетралі за гэтыя пяць нядзель. Думалі ўжо ксяндзы, што гэта іх чэрці ўхапілі да й засадзілі ў бровар на пакуту, думалі, што ўжо ім ніколі адтуль не выбавіцца. От раз вялеў пан даць браварскім работнікам вядро гарэлкі, а ксяндзам — лепшае гарэлкі, самае моцнае. Напіліся яны і без памяці пассоўваліся ў бровары каля катла. От як ксяндзы моцна заснулі, пан вялеў перанесці іх у ахвіцыну і палажыць там, дзе яны ляжалі першую ноч.

Прахапіліся назаўтра ксяндзы і трасуцца, спалохаліся, што позна спалі: баяцца, каб наменік не лупцаваў іх бізуном; сталі скарэй апранацца, але бачаць,— аж каля іх ляжыць ксяндзоўская адзежа. Дзівяцца ксяндзы і вачам не вераць. Адзеліся яны,

але ось прыходзіць пан, заве гарбату піць. Стаў гэта пан частаваць ксяндзоў да й пытае, куды яны думаюць ехаць на воды.

— Не,— кажуць ксяндзы ў адзін голас,— цяпер не трэба ехаць на воды, бо мы ўжо вылечыліся.

От як пан вылечыў ксяндзоў.

## 111. МУЖЫК, ПАН І КСЁНДЗ

За штось пан вельмі абазліўся на ксяндза. От і захацелася яму накпіць над ксяндзом, але так накпіць, каб ксёндз не дагадаўся, хто гэта так зрабіў. Думаў, думаў пан, нічога не прыдумае. Сядзіць пан сярдзіты да толькі вусы кусае. Тым часам прыходзіць к яму мужык. Бачыць мужык, што пан вельмі моцна штось думае, да не можа агарнуць сваёю панскаю галавою, і захацелася яму памагці пану сваім дурным мужыцкім розумам.

— Памагай бог, паночку! — кажа мужык — і цялюх пану ў ногі.

— Табе што? — пытае пан.

— Паночку дарагенькі! — кажа мужык.— Пан штось думаеш вельмі моцна, скажы мне, мо я памагу сваім дурным мужыцкім розумам,— і плюсь пана ў руку.

— Што ты,— кажа,— паможаш! Мне трэба накпіць над тым галганам ксяндзом.

— Добра, паночку. Заўтра пан пабачыць, як я накплю над ксяндзом.

— Ну, глядзі, калі добра зробіш, то заплачу, а калі не, то з'ясі бізуноў.

— Слухаю,— кажа мужык і пайшоў на рэку.

Налавіў гэта мужык ракаў, папрыклейваў ім свечачкі, папускаў ракаў у саду перад ксяндзоўскімі вокнамі да й пазапальваў свечачкі. Поўзаюць ракі. Вечар ціхі, як у вусе. Гараць свечачкі ў траве, бы зоркі. Падышоў мужык пад вакно і кліча ксяндза.

— Хто там? — пытае ксёндз.

— Анёл з неба.

— А чаго ён прышоў?

— Па ксяндзоўскую душу. Велена яе аднесці ў неба.

Рад ксёндз. Адчыніў ён вакно, зірнуў, аж у траве гараць свечачкі, бы зоркі. Паверыў ксёндз да й высунуўся ў вакно. Мужык падставіў мех, а ксёндз—шусь у мех. Ускінуў мужык мех на плечы і папёр у свінушнік, кінуў там мех з ксяндзом і запёр дзверы.

Назаўтра, ужо сонейка высока, мужык пайшоў к пану й просіць, каб пан прадаў яму парсюка. От пан і пайшоў туды з мужыком к свінушніку паглядзець парсюка. Падходзяць яны туды. Скрыгічуць свінні ў свінушніку, аж дзверы грызуць. От адчынілі дзверы, выбеглі свінні; зірнулі яны ў свінушнік, аж там сядзіць у вугле ксёндз у адной сарочцы, чуць жыў ад страху.

— Чаго гэта,— пытаецца пан,— сюды забраўся ксёндз-дабрадзей?

Маўчыць ксёндз, зубы сцяўшы, так яму сорам. Пасмяяўся пан і даў мужыку многа грошай.

## 112. ЖАЛАСЛІВАЯ ПАНІ

Гэта было яшчэ за паншчыну. Вы ўжо не памятаеце, бо, пэўна, тады яшчэ не радзіліся на свет. Да й які то быў свет. Хіба то свет, што дзесятак або другі паноў да багатых людзей панавала, а наш брат, гарапашнік, так мучыўся, што не рад быў і жыццю. І на што толькі бог так даў на свеце, што той, хто жыве праўдаю да гаруе — мучыцца, а хто ліхам да круцельствам — пануе. Але, мабыць, тагды бог адступіўся ад людзей і аддаў іх у рукі чартоў да паноў. І чаго толькі тады паны не вычваралі, як яны не мучылі людзей, як не здзекуваліся над імі. Але мо вы думаеце, што паны былі ліхія, што яны не малі жаласці ў сэрцы й затым так вычваралі? Не, мае браткі,— паны былі такія ж людзі, як і мы з вамі, былі жаласлівыя мо больш нас і такія добрыя да лагодныя, бы анёлы, але гэта толькі к свайму брату, к вольнаму, а не к мужыку. Бачыце, чорт, а мо бацькі закрылі ім вочы, зацямнілі розум, і яны не ведалі да й не хацелі ведаць, што і мужык такі ж чалавек, як і яны. Але што гаварыць — тады, калі яшчэ й цяпер паны мужыкоў не лічаць за людзей і робляць перад людзьмі такое, што сорам і казаць, робляць і не саромеюцца...

Раз ужо была вольнасць: ехала якаясь пані; прыехала яна з хурманам у наша сяло на пары коней да й заначавала ў мяне. Бачыце, тагды ва ўсім сяле толькі ў мяне была чыстая хата з комінам, а другія сядзелі яшчэ ў курніках. Заначавала пані, а раненька хацела ехаць далей. Але вось чуць свет улазіць у хату хурман да й кажа, што коні выпруціліся. Што тут рабіць! От пані наняла мяне, каб я яе звазіў у адзін двор на сваёй кабылцы. Запрог я кабылку, вытаптаў драбінкі саломаю, пасадзіў пані да й павёз. Гэта якась было па лету, у Пятроўку ці што. От едзем

мы да едзем, толькі пані сядзіць на возе да ўсё чухаецца. Мабыць, у саломе было многа скочак. Чухалася яна, чухалася да й давай знімаць з сябе ўсё адзенне. Едзе пані голая, у чом маці радзіла, толькі парасолікам закрываецца, а тым часам насустрач ідуць або едуць людзі. Дак нічагусенька — пані не саромеецца людзей да ўсё ловіць скочкі дзе папала. Але ось захацелася ёй да ветру. Кажа яна, каб я супыніў кабылку. Я супыніў. Злезла гэта яна голая з воза да й прысела на дарозе, але не можа ўдзяржацца — хістаецца: от-от упадзе. От і заве яна мяне. Падышоў я, а яна учапілася за мае рукі, зрабіла, што трэ, да й палезла на воз. Дак от гэ ехала пані немаль увесь дзень і не саромелася ні мяне, ні другіх людзей — мужыкоў, бо яна іх не лічыць людзьмі, а гаўядам, а ведама, гаўяда ніхто не саромеецца.

Дак от я хачу расказаць вам пра адну жаласлівую паню, якая яна была літасцівая да добрая. Эге, дак, дай божа памяць, быў сабе адзін пан з паняю. Яны не мелі дзяцей. Ведама, паны, што яны не вырабляюць з веськімі дзеўкамі з самага маленства, чаго яны не спробуюць, каб мець самы вялікі слодыч, а як прыдзецца жыць з паняю, дак і пойдзе ўсялякае ліха да хваробы. А пані сабе ж наровяць, каб толькі мець слодыч да каб хараства не згубіць. Дак от гэ й тыя паны толькі й зналі, што прыемнасці шукалі.

Жыў каля таго сяла адзін шляхтун. Ён маў малы кусок зямлі і гараваў на ёй, як і мужыкі. Але, ведама, як вольнаму чалавеку, яму ат сабе жылося, як жа кажуць, што ўбіў, то ўехаў. Толькі даў бог яму няшчасце: памерла жонка й пакінула малога хлапчука. Пахавалі жонку. Убіваецца шляхтун, з глузду выбіўся і розуму не прыложыць, што яму рабіць з малым дзіцем. Убачыла гэта адна маладзіца — у яе якраз аб той пары бог узяў маленькае дзіцятка,— пашкадавала шляхтуновага хлапчука да й узяла яго карміць цыцкаю. Выкарміла яна хлапчука да й пакахала яго, як сваё роднае дзіця. Гадуецца шляхтун на сяле, грае з дзецьмі, а тым часам памёр яго й бацька. Пачуў тое пан да й узяў гэтага хлапчука ў двор, каб на сяле не прападала вольнае дзіця. Тады ўжо быў гожы хлапчук, яму было немаль дзесяць гадоў.

Жыве шляхтунец у двары, адукуецца разам з панскімі дзецьмі, але ўсё не забывае тае маладзіцы, што яго выгадавала, не забывае свайго таварыства і ўсё бегае на сяло. От так і вырас ён у двары, выадукаваўся лепш паніча. І зрабіў пан маладога шляхтуна камысарам і хацеў аддаць за яго сваю дачку, але камысар не схацеў, бо ён вельмі спадабаў дачку тае маладзіцы, што яго выгадавала. Пранюхаў тое пан да й вялеў аддаць тую дзеўку

замуж за свінапаса. Давай тут камысар прасіць пана, каб ён прадаў тую дзеўку яму, дае многа грошай і ўсю сваю зямельку, што дасталася ад бацька. Але куды там — пан і слухаць не хоча, зарубіў сваё, да хоць ты яму кол чашы на галаве. А свінапас быў ужо стары да самы лядашчы, гультай, п'янчужка. Кажуць людзі, што ён, бала, п'яны так біў, так здзекаваўся над першаю жонкаю, што тая, як пайшла на рэку паласкаць плацце, дак адтуль і не вярнулася, ніхто не ведаў, куды й дзелася. Толькі праз тыдзень усплыла наверх і рыбакі валачком выцяглі на бераг. От як пачула тая дзеўка, што пан веліць аддаць яе замуж за такога лядашчага чалавека, дак спалохалася і то галосіць, то рагоча, бы кручаная. Бачыць камысар, што нічога не будзе, што загубяць яго дзяўчыну, сабраўся, забраў яе, да й пайшлі яны ў свет няведама куды. Аглядзеўся пан, што няма дзеўкі, няма й камысара, да так рассердзіўся, што й дух выперла.

Тым часам хутка за панам памерла і пані. Астаўся толькі адзін паніч, той самы, што адукаваўся разам з камысарам. І пачаў паніч сам рондзіць, пачаў такое рабіць, што людзям жыцця няма, гарэй стала, як пры старом пану. Стары пан быў хаджаін. Ён клапаціўся, каб зрабіць гаспадарку лепш, як у суседзей, шкадаваў сваіх людзей, як сваё гаўяда, бо, ведама, лічыў людзей сваім дабром. Малады ж пан не глядзеў на хаджайства, а толькі думаў аб том, каб ужыць слодыч. І пачаў ён зганяць у двор гожых дзявок да маладзіц, вялеў ім скідаць усю адзежу і голым гуляць у саду. Тым часам ён зваў к сабе суседніх паноў да ўсялякіх палупанкаў, бегаў з імі за дзеўкамі з бізуном у руках і як сам вычвараў, што хацеў, так і другія паны. Але от напрыкрылі яму веськія дзяўчаты і маладзіцы, і давай ён адусюль прыводзіць розных паненак. Усе пакоі запаганіў. Ведама, без гаспадара хаджайства хутка знішчылася. Яно й пры старом пану дзяржалася толькі камысарам. Малады ж пан зрабіў камысарам свайго хурмана... Хурман так пачаў рондзіць, што хутка ў пана нічога не асталося. Бачыць ён, што саўсім прашыкаўся, от і давай шукаць багатае жонкі.

Па суседству там быў вельмі багаты пан. У яго была толькі адна дачка. А праўду кажуць, што калі ядначка, то... лайдачка. Так і тая паненка. Гадавалася яна ў раскошы, ніякае работы не знала, от як вырасла, дак і пачала так вычвараць, што сорам і казаць. Але дарма — бацька лічыў, што харашэй і лепш яго дачкі нікога няма й на свеце. Пачалі панічы сватацца. Ведама, к багатай паненцы заўжды находзіцца багацька жаніхоў. Але куды там! Пан думае, што яе вазьме князь. Тымчасове жаніхі ўсё

ездзяць у залёты к гэстай паненцы, але нічога не парадзяць, бо от спадабаецца ёй паніч, пагаворыць яна з ім — усё добра. Але як памацае яго да знайдзе ў парткох, дак і прагоніць. От і пайшла прачутка, што тая паненка шукае такога жаніха, каб у яго нічога не было ў парткох. От наслухаўся той паніч... да й паехаў у сваты к той паненцы. Памацала яна паніча — няма ў парткох нічога. От і згадзілася яна ісці за яго замуж. Рада паненка, кліча к сабе паніча кожын дзень. Ездзіць той к паненцы па што дзень... От ужо пара рабіць і лад, але бацька не хоча за галыша аддаваць свае дачкі. Тым часам паненка пражэцца замуж за таго паніча, як жывое вады. Бачыць пан, што нічога няможна зрабіць з шалёнаю дачкою, справіў вяселле, аддаў зяцю грошы, а сам паехаў да Аршавы да там і загінуў. Жыве малады пан з жонкаю, не чапае яе да й рад, што й яна яго не займае, бо ён ужо не мажэ мець з жанчынамі дачынення — ядуць яго пранцы. От пакачаўся пан гадоў са тры да й здырдзіўся. От тут і пачала тая пані сама рондзіць маёнткам.

Тым часам у камысара памерла тая жонка, што ён узяў у гэтом сяле. Пакінула яна двое малых дзетак. Думаў, думаў камысар, што рабіць, да й вярнуўся ў свой фальварак. Пачула пані, што вярнуўся той камысар, што вельмі добра рондзіў маёнткам пры старом пане, і пачала яго прасіць, каб ён і ў яе стаў камысарам. Падумаў той да й згадзіўся. Прыехаў ён у двор к пані да й уходзіць у пакоі. Зірне ён, аж там поўны пакой гасцей: усё пані да паненкі. Усе паскідалі сукні, расплялі косы да так голыя й ходзяць па пакоях. От пашоў камысар далей шукаць паню, усунуўся ён у другую станцаю, аж там цэлая чарада голых хлопцаў, а паміж іх трэцца й сама пані, вішчыць, смяецца, бегае за тымі мужчынамі да наровіць абсеч ім крапівою сарамаценне. Убачыў тое камысар, плюнуў да й пашоў вон. Пані за ім: просіць, благае, каб астаўся.

— Гэта ж,— кажа яна,— мае ймяніны.

Астаўся камысар і пачаў хадзіць з паняю па ўсіх пакоях. Тым часам панічы сышліся з паненкамі да з панямі да й пашлі рагатаць да бегаць па ўсіх пакоях, бы коні. Чаго толькі яны не вычваралі. Але ось павяла пані камысара ў сад. А там яна вялела сагнаць з сяла маладых мужчын і жанок да дзевак, напаіла іх гарэлкаю, наняла музыку й зрабіла забаву. Панапіваліся усе; перш яны скакалі да спявалі песні, а потым паскідалі адзежу да, бы й паны, давай гайсаць па саду да валяцца ў кустох да на траве. Тым часам паны й паненкі выбеглі з пакояў у сад да й памяшаліся з мужыкамі і мужычкамі... Ночка была летняя, цёплая, аж

парыла. Ужо й даў бог дзень. Сонейка паднялося высока, а ў саду яшчэ не ўсё заціхла.

І пачаў камысар з тых часоў аглядаць хаджайства. Але куды ні зірне, усё не па-людску: поле не засеяна, сенажаць запушчана, зарасла ніцаю, лазою да хмызняком, будоўля асунулася, сцены пакрывіліся, стрэхі пагнілі, або вецер паздзіраў, толькі дрэбы тырчаць, бы косці з дохлага каня. Гаўяда звялося, у коней толькі шкура да косці. Мужыкі абяднелі, пухнуць ад голаду, бо некалі хлеба зрабіць: пані зганяе па што ў дзень у двор. Тут яна вялела будаваць харомы і даглядаць катоў, сабак да старых коней. Яна, бачыце, вельмі жаласлівая над гэстым жывёлам, яна атусюль назбірала коп пяць усялякіх катоў — і сама не даесць, а іх даглядае. Назбірала валачашчых сабак, корміць іх, мые, чэша да абшывае. Цалюсенькія дні даглядае гэстую погань сама і трымае на том дзеле ўсіх баб. А здохлым канякам дак яна збудавала стайні, прыставіла к гэстаму падлу людзей і вялела служыць. А як здохне кот, сабака або здыхліна-каняка, то пані плача, бы па родным бацьку, веліць плакаць і другім, а потым робіць труну, хавае, бы людзей, і над магілаю кладзе прыклад. Уся дворня да й усё сяло толькі і рабіла на гэстую пошкудзь. А пані была такая жаласлівая, такая жаласлівая над катамі да сабакамі, што часам з маладзіц да з дзевак шкуру здзірала, калі яны нядобра даглядалі таго жывёла. Вельмі яна карала тых маладзіц, што шкадавалі сваіх дзяцей і ўкрадкі карвілі іх сваімі цыцкамі, а не катоў, ці сабак, як вялела пані. Дак от якая была то жаласлівая пані. Але кажуць, што забег у той двор кручаны кот да й пакусаў другіх катоў і сабак. Прыйшоў маладзік, і пакруціліся каты і сабакі. От як напалі яны на тую паню, дак і загрызлі яе насмерць. Сталі людзі збіваць тую пошкудзь, але ўсё-такі многа і людзей пашалела.

## 113. РАДЗІНКІ Й ПАМІНКІ

Пашоў адзін чалавек у свет. Доўга ён хадзіў, многа бачыў усялякага дзіва на белым свеце. Многа ён абышоў краёў, многа бачыў усялякіх людзей. Усюды людзі родзяцца, жывуць і паміраюць: усюды часам плачуць, а часам скачуць; усюды е людзі добрыя й ліхія. Толькі ўсюды людзі трымаюцца свайго абычая.

Прышоў ён у вадну вёску да й заначаваў. Толькі ось даў бог дзень, усхапіўся ён, з прасоння да й не расшалопае, чаго гэта ўсе

ў хаце плачуць. Перш ён думаў, што мо хто памёр або другое якое няшчасце, да й пытаецца, чаго гэта яны так галосяць. А яму й кажуць, што затым плачуць, што радзілася дзіця, от яны аплакваюць яго долю, бо не ведаюць, што яго ў жытцы стрэне.

— У нас,— кажуць,— такі звычай, што заўсёды плачуць, як хто родзіцца.

Падзіваваўся той чалавек да й падумаў, што мо гэта й праўда, бо няведама, якая будзе жытка гэтага дзіцяці. Але ось на другі дзень прахапіўся той чалавек да й чуе, што ўсе спяваюць, скачуць да гасцююць, як на вяселлі. Ён ізноў пытае, чаго яны так весяляцца. А яму кажуць, што памерла маладзіца, от яны й рады, пяюць, скачуць, весяляцца, што яна перажыла гэту цяжкую жытку.

— Як тут не весяліцца,— кажуць яму,— калі гэтая маладзіца яшчэ мала бачыла бяды на сваім вяку; а цяпер, як памерла, та й не ўбачыць. У нас усе весяляцца, скачуць, песні пяюць, як хто ўмрэ. Думаў, думаў той чалавек, а потым і дагадаўся, што гэта праўда. Ведама, якая наша слімазарная жытка: часам лепш памерці, як гэ жыць.

## 114. ЗЛОДЗЕЙ, ПАН І ЧОРТ

Жыў сабе чалавек, у яго не было ні бацькі, ні мацеры. Ён быў сусветны лянцяй: рабіць ён не хацеў, а толькі шляўся, як свіння ў дождж, і краў коні, жыта, лазіў у клець. Божа збаў, чаго ён не рабіў. Адзін раз ён украў каня і павёў яго ў горад прадаваць. Вёў ён, вёў, а насустрэчу яму едзе пан шасцерыком. Пан гэты вельмі быў багаты: еў ён толькі сала, мяса, бліны з маслам, а аб грашах сваіх так не помніў. Гэтаму-то пану палюбіўся гэты конь, і ён купіў яго за сто рублёў і наняў гэтага самага злодзея к сабе ў парабкі хурманам. Згадзіліся яны за трыццаць рублёў у год, на панскім хлебе і адзежы. Прыехалі яны к пану ў двор, а пан у яго пытае:

— Што, пане хурмане, ты ўмееш рабіць?

— Эх, пане, усё ўмею рабіць: коні красці з хлява і ў карты ўмею гуляць.

— А больш нічога не знаеш? — пытае пан.

— Ага, бач забыўся! Умею яшчэ шыць.

— Ну, добра,— кажа пан, — калі так, то абыграй мяне, а калі не абыграеш, так галава табе далоў з плячэй.

— Добра, пане, абыграю.

Селі яны за стол і сталі гуляць. Хурман выграў ужо ў пана ўсе грошы, а пан усё кажа:

— Гуляй-ка яшчэ, бо я пастаўлю сваю жонку і ўсё маё імене і сам сябе.

Узялі яны пaследні раз карты і хурман выйграў і цяпер.

«Што рабіць? Трэба ўжо служыць хурману»,— думае сабе пан і скінуў з сябе плацце панскае і надзеў світу, абуўся ў лапці з раменнымі аборамі, пагнаў валоў на раніцу і пасціў іх да позніх абедаў. Прыгнаўшы валоў з раніцы, ён пайшоў араць нашча. Араў ён, араў і думае сам сабе: «Вот, божа мой, быў я панам, еў я сала з мясам і бліны з маслам, а цяпер і хлеба з'еў бы сухома, ды таго нямашака». Сеў ён ды плача. Прыходзіць к яму чорт і кажа:

— Чаго ты плачаш, пан? Не плач: я табе памагу, толькі прадай мне сваю душу.

Пан думаў, думаў, а далей кажа:

— Няхай будзе, як ты хочаш, толькі ў мяне нямашака нажа разрэзаць палец, бо я чуў, што ў вас трэба распісвацца кроўю. Пагэтаму,— кажа пан,— ты садзіся ка мне ў мяшок і хадзем к кавалю — няхай зробіць нам нож.

Чорт улез у мяшок, і пан панёс яго ў кузню к кавалю, да на дарозе раздумаўся і не захацеў прадаваць свае душы, і кінуў чорта вобземлю, і начаў лупіць яго бярэзінаю, так што чорт заскакаў, як на вяселлі. Потым ён развязаў мяшок і выпусціў чорта, а чорт як ускочыць на шыю гэтаму пану, да як пачаў яго душыць, так ён не ведаў, дзе дзецца. Далей пан ухваціў за хвост чорта, скінуў яго далоў з сябе і хацеў яму надзець крыжык, но чорт стаў яго прасіць, штоб ён не надзеў яму крыжыка, але што ён будзе яму так служыць. Пан тады зрахаваўся з чортам, каб як-небудзь выгнаць хурмана з хвальварка. Пашлі яны туды,— прышлі ў двор, а там хурман віў сабе пугу, штоб біць пана за тое, што мала араў і толькі натрудзіў валоў. Пан выпраг валоў з сахі і хацеў ісці ў хату, а хурман яго паваліў на зямлю ды начаў лупіць пугаю, а пан крычыць:

— А братка чорт, ратуй мяне, заб'е хурман мяне!

А чорт так спужаўся, што не ведаў, што рабіць, баяўся толькі, каб яго не лізгануў. Адлупіўшы пана валовінаю, хурман пашоў і лёг спаць. Праснуўшыся, ён пашоў паглядзець, што робіць яго пан, а пан ужо даўно ўстаў і пагнаў валоў на раніцу. Толькі чарток дрыжаў, як баранні хвосцік: вельмі далася яму ў знак пуга.

# 115. ХІТРЫ ДЗЕД І ПАН

Даўным-даўно, яшчэ пры цару, жыў у адной вёсцы хітры дзед. Гэтага дзеда ніколі паны не маглі заставіць працаваць на іх. Але вось дзед ужо калі захоча, то любога пана абхітрыць, ды так абхітрыць, што злы пан аж падохне ад страху. Вось недалёка ад яго жыў адзін пан, задужа злы, і заўсёды біў людзей без усякай прычыны.

Дзюжа ж ужо людзі праклілалі гэтага пана, і сталі яны прасіць хітрага дзеда, каб ён адпомсціў пану за іх здзекі. Дзед спачатку не хацеў за гэту работу брацца, але як сталі яго прасіць усе людцы і цалаваць яму ў руку, то ён сагласіўся.

Дачуўся аб такім хітрым дзеду і пан. Надта ж ужо яму захацелася паглядзець на гэтага дзеда ды і пакпіць над старым. Гэта ж была яго самая любімая работа, якою ён усё сваё жыццё займаўся. Сядзіць дзед на печы і круціць вяроўкі. Чуе дзед — на конях са званочкамі нехта едзе к ім на двор. Дзед сказаў, што напэўна сваты да ўнучкі едуць. Унучка ўзялася стол абрусом накрываць, маці падушкі папраўляць, бацька пабег дзверы адчыняць, а дзед, як ужо стары, то пасунуўся далей за каптур захінуцца ад прыгожага малайца. Ды і, сказаць вам па праўдзе, не любіў ён мяшацца ў маладыя дзялы.

Глядзяць яны,— аж вочы чырвоныя, як у труса, галаву ўверх задраў ды толькі носам чмыша, ні на кога і глядзець не хоча пачалавечаму. Тут усе перапугаліся яго і давай перад ім выстрэнчываць, каб як угадзіць яму, як благой скуле. Бо ён жа тут усіх пагубіць. А дзед сядзіць на печы, круціць вяроўку і смяецца, што ўсе так баяцца гэтага вужакі. Увідзеў пан, што дзед яго не баіцца і нават смяецца яшчэ з усяго гэтага. Падыйшоў к дзеду і кажа:

— Ты хам, ты скаціна, ты не ўмееш вялікіх людзей шанаваць! Я цябе правучу за гэта! Я табе пакажу, дзе ракі зімуюць!

А дзед яму адказвае:

— Я ёсць пан, а ты хам. Я разумней за цябе, вось давай закладзёмся на што хочаш. Калі ты не ўверышся, што ты праграеш і ўбядзішся, што я праўду кажу.

Відзіць пан, што дзед не баіцца яго, а яшчэ і ў заклад ідзе смела, зацікавіўся ён і хоча ўжо ў любы заклад ісці, але каб толькі даказаць, што ён разумны пан.

Дзед кажа на пана:

— Кладзі свой кашалёк, то я і цябе навучу быць разумным чалавекам.

Пан палажыў кашалёк з грашыма на стол і слухае, што скажа дзед стары.

А дзед хітранька падміргнуў на ўсіх і кажа да пана:

— Калі ты гэта, што я кажу, зробіш хутчэй, то тады я паверу, што ты ёсцека разумны і пан, не хам.

Пан згадзіўся на гэта.

Тады дзед кажа:

— Вось у мяне ёсць унучак. Маленькі ён, нядаўна радзіўся, і калі ты яго абгоніш або зловіш, то ты будзеш самым бальшым панам над усімі панамі.

Пан сядзіць і смяецца, што ён нават і бегчы не будзе, як пераганіць маленькага ўнука, крошачнага. Дзед сказаў, што ўнук яго ў клеці ў засеку ляжыць і што пан яго добра ўбачыць, як зловіць. Пайшоў дзед у клець, узяў зайца, пасадзіў за пазуху і прынёс к пану і сказаў:

— Ну, я пускаю свайго ўнука: хто хутчэй пабяжыць і хто каго пераможа ў бягу.

Тут пан падрыхтаваўся бегчы, каб двума шагамі перагнаць зайца. Заяц як пабяжыць, прыгаючы па дарозе, а потым па полі, ды прама ў кусты і збег.

Пан бег, бег за дзедавым унукам дарогаю, потым полем, замарыўся, засопся і паваліўся ды давай плакаць што ёсць сілы, бо ўжо дужа ж яму ногі і жывот забалелі ад бегатні.

Падышоў дзед да пана і кажа:

— Ты яшчэ не поўнасцю праіграў. У мяне ёсць другая задача, лягчэйшая за гэту, і там ты ўжо выйграеш.

Узрадаваўся пан, устаў і пайшоў з дзедам, каб выйграць. Прывёў дзед пана ў хату і кажа:

— Ты ўмееш добра смяяцца, напэўна, ты маю старуху перасмяшыш.

Пан сеў на лаву і чакае, калі дзед прывядзе старуху сваю на абсмейванне яму. Прынёс дзед конскую галаву з вышчаранымі зубамі, укручаную ў хустку. Пан смяяўся, смяяўся, ды ўжо і сілы больш няма ў яго смяяцца, а ў бабы ўсё відаць зубы ад смеху.

Тады пан давай бегаць кругом бабы і смяецца, каб перасмяяць яе, і да таго дабегаўся, што ўжо і гаварыць не можа. Захварэў пан после гэтага і памёр, а грошы і коні пана засталіся хітраму дзеду. Вось так дзед адпомсціў злому пану за здзекі над людзьмі і стаў навучаць маладых людзей, як трэба помсціць злым панам.

# 116. ПАЛЯШУК І ЧОРТ

Людзі кажуць — колісь дак гэ: дзе балота, там і чорт. Але не то штоб толькі ў балоце, куды ні зірні — усюды трапіш гэтую нечысць. Вада бало кішыць чарцянятамі. Толькі на Вадохрышча як павыганяюць чарцей з вады, та яны таўкуцца ў паветры да паднімаюць такую хвілю, што ні пі, ні еж і з хаты не лезь. Затым-то па Вадохрышчы заўжды бываюць ганебныя мяцеліцы. Часам усходзіцца такая круцель да завіруха, што спрэсу пазаносіць вёскі. Бяда тады ў полі: свету божага не бачно. Пападуцца ў полі людзі, дак нячысцікі закруцяць іх каля самаго сяла да й загубяць. Бало, багацька хвіля нішчыла людзей. Цяпер ужо рэдка бывае ганебная завіруха, бо менш стала чарцей, а чарцяняты спрэсу перавяліся: іх Ілля пабіў громам, а другія не раджаюцца. Перш чэрці былі вельмі плодныя, але Паляшук перахітрыў і чорта. От як тое было.

Абабраў сабе Паляшук сядзібу паміж балота каля ракі да й давай там рабіць будоўлю. Збудаваў ён сабе перш станок, наклаў агню, налавіў уюноў, напёк іх, наеўся да й апекаецца сабе каля агню. Бачыць чорт, што Паляшук не лякаецца ні балота, ні ракі, ні лесу, от і давай ён усюдах пужаць чалавека, давай рабіць яму ўсялякую пакасць, каб выгнаць яго з тае сядзібы. Куды Паляшук ні сунецца, чорт ужо там чакае да наровіць, каб зрабіць якуюсь пакасць. Пашоў чалавек у лес, каб нагледзіць здатнага дзерава сабе на будоўлю, а тут чорт давай яго вадзіць да кружыць, каб ён заблудзіўся да й загіб. Але Паляшук ідзе сабе па лесе да ўсё залысвае сакеркаю дзераўлякі. Вадзіў, вадзіў чорт Палешука па лесе, кружыў, кружыў, аж сам заплутаўся, а той нагледзеў сабе здатнага дзерава, надраў лыка на лапці да й пашоў проста да гасподы, пазіраючы на залысленыя дзераўлякі. Бачыць чорт, што чалавек не заблудзіўся, забег уперад, сустрэўся да й пытае, нашто ён залысіў так багацько дзераўлячын.

— Гэта мне здатнае дзерава на будоўлю,— кажа Паляшук.

— Нашто ж табе так багата?

— Я хачу забудаваць усё Палессе.

— «От бяда», — думае чорт. От і пусціўся ён на хітрасць.

— Давай я табе буду памагаць,— кажа чорт,— мне ўсё роўна няма чаго рабіць.

— Добра,— кажа Паляшук,— памагай, та я падзякую.

Тым часам чорту толькі тое й трэба.

«Буду памагаць,— думае ён,— да так нараблю, што пападзеш ты ў мае лапы».

От давай Паляшук расчышчаць зямлю да гатовіць дзерава на будоўлю. Перш вялеў ён чорту расчысціць пушчу. Няма чаго рабіць — слухае чорт Палешука: выдзірае таўшчэразнае дуб'ё з карэннем да сцягае ў балота або ў возера. Кудэю чорт цёг дуб'ё, там да тыхчас яшчэ е равы да выскаці. Расчысціў чорт добрае лапіко зямлі, от Паляшук вялеў яму нарабіць дарог. Вырваў чорт вялізазнага дуба, ухапіў яго за верх да й пацёг цераз лес. Барануе дуб карэннем, вырывае дзераўлякі й так арэ землю, што ззаду толькі астаюцца брады да брадзяняты. Нарабіў чорт такіх дарог, што па іх толькі ён сам і можа прайці або праехаць. Зірнуў Паляшук да давай лаяць чорта на чом свет стаіць.

— Дзеля якога ты,— кажа,— чорта нарабіў брадоў да брадзянят?

Рад чорт, што нарабіў чалавеку ліха, рад, аблізваецца да толькі ціхенька хвастом круціць.

— Ну, давай жа,— кажа Паляшук,— я на табе праеду па тваіх дарогах.

Сеў Паляшук на чорта да й паехаў цераз брады й брадзянята. Бяжыць чорт па брадох у вадзе да ў гразі па самае горла, а Паляшук сядзіць на карку, падгібаўшы ногі, да толькі кіруе. Ездзіў, ездзіў Паляшук на чорту, здаволіўся да й вярнуўся да гасподы.

— Бачыш, добрыя дарогі,— кажа чорт.

— Добрыя та добрыя,— адказвае Паляшук,— да чорт бы іх пабраў разам з табою.

От з тае пары і асталіся ў Палессі такія дарогі, што па іх толькі на чорту можна ехаць. Потым пачаў Паляшук з чортам пляжыць лес да вазіць дзерава на будоўлю. Збудаваў сабе Паляшук усялякі будынак, ускарпаў палянку зямлі, расчысціў лапіко сенажаці да й зажыў добрым хаджайнам, а чорт рад, што яму асталіся балота й нетра,— пашоў туды да й сядзіць там з чарцянятамі. От абжыўся Паляшук, нагадаваў гаўяда, нажаў збожжа, налавіў уюноў — жыве й ліха не знае. Толькі ось раз малоціць Паляшук у гумне, аж і прыходзіць чорт да й пытае, што гэта чалавек робіць.

— Малачу хлеб,— кажа Паляшук.

— Дай я памалачу.

Даў Паляшук чорту цэп, а той як пачне біць, дак снапы ляцяць аж пад строп.

— Чаму ў цябе,— пытае чорт,— снапы ляжаць на месцы, а ў мяне скачуць уверх?

— Бо я дужэйшы: як дам, дак сноп і ўліпне ў ток.

— Адкуль у цябе такая сіла? — пытае чорт.

— Адкуль! Бо я сябе вылегчаў.
— Вылегчай мяне,— просіць чорт.
— Добра,— кажа Паляшук,— толькі трэ цябе звязаць, бо ты ўцячэш, а тое зашкодзіць.
— Звяжы.
От узяў Паляшук ліну, што цягаюць улье на дзерава, зкрампаваў ёю чорта, прывязаў яго да тоўстага дуба, узяў серп і давай лягчаць. Крычыць чорт, раве немым голасам, а Паляшук пііліць сярпом. Цярпеў, цярпеў чорт да як рванецца, дак перш дуба вырваў з карэннем, а потым і ліну разарваў, бы павуцінне. Вылегчаў Паляшук чорта да й кажа:
— Ну, цяпер будзеш дужы, як і я.—Пацёгся чорт у балота: ужо не бяжыць, а паўзе чуць не ракам. Пасядзеў ён там — няма рады: кроў льецца, бы з вапрука. Пацёгся ён зноў к Палешуку. Бачыць Паляшук, што чорт цягнецца раскарачыўшыся, сказаў жонцы, каб яна апранулася ў мужчынскую адзежу да й пашла ў гумно малаціць. Апранулася баба, пашла ў гумно да й малоціць. Прыходзіць чорт. З болі ён і не вазнаў, што гэта не Паляшук, а баба, да й пытае, што чаму гэта рана не зажывае.
— От чаго ты захацеў,— кажа баба,— каб так хутка рана зажыла. Мяне ўжо от дваццаць гадоў як вылегчалі, а яшчэ й цяпер не зажыло... От ён падагнуў хвост да й пацёгся ў балота. От з тае пары й годзі чэрці пладзіцца. Тым часам Ілля кожнае лецечка перуном б'е іх да нішчыць. Усё менш ды менш чарцей у балоце, а палешукі множацца да селяцца па ўсім Палессі. Мо скора ўсе чэрці перавядуцца, тады людзі заўладаюць і балотам, і ўсялякаю нетраю.

## 117. РАСЧЫНІ ХЛЕБ, ЗАРЭЖ АВЕЧКУ

Жыў пан і ў яго парабак. Адзін раз выбіраецца пан ў горад з сваёю жонкаю, а парабку гаворыць:
— Расчыні хлеб, зарэж авечку і ўсю работу зрабі, пакуль я прыеду.
Парабак на пана быў злы. Парабак запытаў, дзе хлеб расчыніць, а пан сказаў:
— Дзе найбольш вады ўлезе. Зарэж тую авечку, каторая на цябе гляне.
Пачаў парабак хлеб расчыняць. Падумаў, што вады найбольш у студні. Знасіў усю муку, высыпаў. Стаў мяшаць, а хлеб рэдкі.

Знасіў і крупы высыпаў, а потым давай насіць збожжа. Знасіў жыта, а ячменем загусціў хлеб. Потым пайшоў рэзаць авечку. Адчыніў хлеў, а на яго глянулі ўсе авечкі. Ён і пачаў рэзаць усе авечкі. Прыехаў вечарам пан і стаў пытаць, ці парабіў парабак работу. Парабак адказвае:

— Парабіў усё ды яшчэ ўмарыўшыся.

Пан пытае, дзе той хлеб, што парабак расчыніў. Парабак адказвае:

— У студні.

Пан запытаў, чаму ў студні, а не ў дзяжы.

Парабак і гаворыць:

— Пан гаварыў расчыняць там, дзе больш вады ўлезе.

Калі пан папытаў, ці зарэзаў авечку, парабак адказаў, што ўсе парэзаў, бо на яго яны ўсе глядзелі. Пан адразу прагнаў парабка. Парабак пайшоў дадому, а потым на пана падаў у суд. На суд вызвалі. Парабак расказаў, як усё было. Сталі пытаць у пана, а пан гаворыць:

— Я яму сказаў, а ён зрабіў па-дурному.

Пан заплаціў парабку за ўсю работу.

## 118. ПАРАБАК

Жылі ўдваіх бацюшка з матушкай. Згадзілі яны сабе парабка. Парабак на бацюшку гаворыць:

— Калі я скажу «крыўда», то ты мне шкуру здзярэш, а калі ты скажаш,— я табе здзяру.

Па гэтым згадзіліся.

У бацюшкі былі валы, і выпраўляе ён парабка араць:

— Сынку, едзь араць на валах і бяры сучку з сабою. І вазьмі булачку хлеба на полудзень. Каб сам папалуднаваў і сучку накарміў. І каб булачка цэла была. І колькі сучка выбегае, столькі выары на валах.

Сучка з ранку ляжала (яшчэ душна не было) — дык ён араў. Напалі на сучку мухі, дык сучка туды да туды, а ён з валамі за сучкаю бегаў. Сучка дадому пабегла, і ён з валамі дамоў.

Абора была добра замкнёна. Сучка прыбегла ў тую абору. Парабак убачыў сучку ў аборы. Абора замкнёна. Ён узяў ногі валам паадсякаў. Прыходзіць у хату да бацюшкі.

— А што, сынку, узараў колькі сучка выбегала?

— Узараў, бацюшка.

— А папалуднаваў?
— Папалуднаваў, бацюшка.
— А сучку накарміў?
— Накарміў.
— Булачка цэла?
— Цэла, бацюшка.
— А дзе ты, сынку, валы дзеў?
— Бацюшка, у аборы, сучка там, дык валам я ногі паадсякаў, бо абора замкнёна.

Цяпер кажа:
— Мо, бацюшка, крыўда?
— Няма.
— А калі няма, то паздымаем шкуры ды аддамо ў выраб, боты панашываем, а мяса будзем есці. Гэта табе не шутачкі — двое валоў.

Цяпер у бацюшкі было шмат авец. Ён кажа:
— Пайдзі, сынку, зарэж аўцу.
— А катору, бацюшка, зарэзаць?
— Катора на цябе паглядзіць.

Ён апрануў кажух і ўвайшоў у хлеў. Авечкі і ўсе глядзяць на яго. Вядома ж, аўца. Толькі адна здыхаць хацела ды на сена глядзела. Пачаў рэзаць ды ўсе авечкі парэзаў.

Дык ён там замяўся, пакуль парэзаў усе авечкі.

І бацюшка пытае:
— Чаму ты, сынку, там забавіўся?
— Таму, што я ўсе парэзаў.
— А чаму ты, сынку, усе авечкі парэзаў?
— Я тае не парэзаў, што на мяне не глядзела, бо здыхаць захацела. Бацюшка, вы не крыўдзіцеся, што авечкі парэзаў. Паздзіраем аўчынкі, аддамо ў выраб, то будуць кажухі, а мяса будзем есці.

Цяпер запрасілі гэтага бацюшку на радзіны. Вось так, як у нашым сяле. Пайшоў з матушкаю. На таго парабка кажа:
— Ты, сынку, пільнуй дзверы, дзе мяса.

А сам пайшоў.

П'юць там, гуляюць усю ноч. Той парабак выняў дзверы ды туды, дзе бацюшка п'е.
— Расступіцеся, людзі, я бацюшкавы дзверы нясу.

Тыя людзі расступіліся. Паставіў ён тыя дзверы за печку, сам стаў за печку і пазірае. Бацюшка пралупіўся, бо быў п'яны.
— Ці ты, сынку, тутака? Я казаў табе дзверы пільнаваць.
— Я, бацюшка, тутака і дзверы тутака.

Прыходзяць дадому. Мяса няма. Асталіся толькі дзверы. Цяпер бацюшка з матушкай рахуюцца.

— Уцякаймо ад парабка.

Наліў той бацюшка гарэлкі ды ўцякаюць з матушкаю. Парабак узяў тую бочачку, закінуў куды-та, сам улез у мяшочак і ляжыць у ім. А ў мяшочку бацюшка есці прырыхтаваў.

Той бацюшка за той мяшочак ды за плечы. Бацюшка наперадзе, матушка, за ім, а парабак у мяшочку.

Цяпер парабак цярпеў, цярпеў ды памачыўся ў яго за плячыма. Матушка на бацюшку кажа:

— Бочачка адчынілася, і віно льецца.

— Но, нічога, матушка.

Вось бацюшка з матушкаю ўтаміліся, а ён нічога (парабак). Прыбег бацюшка з матушкаю на мост. Дык бацюшка развязаў мяшок:

— Ці ты, сынку, тутака?

— Ага.

— Ай-ай-ай!

Тады яны сталі начаваць утрох. Матушку палажылі пасярэдзіне. Паснулі яны абое, бо патаміліся, а парабак не спаў. Устаў парабак той, адсунуў матушку на край, а сам лёг ля бацюшкі.

Дык той бацюшка прабудзіўся, узяў матушку за ногі, думаў, што парабак, ды ў рэку.

Парабак кажа:

— Што гэта ты зрабіў?

Бацюшка кажа:

— Ты мяне губіў, губіў, ужо і матушку я праз цябе ўтапіў.

Парабак гаворыць на бацюшку:

— Мо цяпер крыўда?

— Дзіва што крыўда. Авец няма, валоў няма і матушку загубіў. Адзін астаўся.

Цяпер той парабак у бацюшкі шкуру садраў ды ячневай мякінай нацёр яго, ды разышліся.

Тут і казкі канец.

## 119. ЯК ЯНКА ЗБАВІЎ МУЖЫКОЎ АД ЛЮТАГА ПАНА

Жыў люты, люты пан. Ніхто доўга ў яго не служыў. Усіх ён выганяў і не плаціў нават, бо к таму ж яшчэ і скупы быў.

Вось у адной вёсцы жыў ладны хлапец і звалі яго Янка. Сям'я была вялікая, дзяцей многа, Янка старэйшы, бацька стары

ды хворы, маці таксама хворая, зямлі мала. Вось і задумаў Янка пайсці служыць да лютага пана дый адпомсціць яму, як толькі зможа, за здзекі над яго аднавяскоўцамі. Прыходзіць Янка да пана дый пытаецца, ці патрэбны яму парабкі.

— Патрэбны,— кажа пан,— але з некай умоваю, калі ты правінішся ці не будзеш так рабіць, як трэба, я адрэжу табе вушы і нічога не заплачу.

— Добра,— кажа Янка,— згодзен. Але і маю ўмову прымі. Плаціць мне не трэба, я буду добра працаваць, каб пан не сердзіўся. Як толькі пан усердзіцца, дык я ў пана адрэжу вуха.

— Добра,— кажа пан.— Хай будзе так.

І згадзіўся толькі таму, што быў вельмі жадны. Пачаў Янка працаваць у пана. Добра першы час працаваў, сумленна, і пан не нахваліцца сваім парабкам. І вось аднойчы пасылае пан Янку пасвіць свінней, а свінней у яго было багата, багата. Пагнаў Янка свінні дый думае: «Як жа пану адпомсціць?» І тут глядзіць: едуць купцы па дарозе.

— Купцы, купцы,— кажа Янка,— купляйце ў мяне свінні, дзёшава аддам, толькі хвасты сабе забяру.

Здзівіліся купцы, але прамаўчалі, бо вельмі дзёшава прадаваў Янка свінні. Заплацілі купцы грошы, аддалі яму хвасты дый паехалі. А Янка паўтыкаў хвасты ў купіны на багне дый пайшоў дадому.

— Дзе ж свінні? — пытаецца пан.

— Ды там,— кажа Янка,— у балоце патапіліся. Ці не сярдуеш, паночку?

Памякчэў адразу пан дый кажа:

— Не, не крыўдую.

Назаўтра пасылае пан Янку араць на поле дый кажа:

— Ты ары да той пары, пакуль сабака есці не захоча і дадому не пабяжыць. З табою разам і пойдзе мая сабака.

Паехаў Янка араць. Прыехаў на поле. Сеў на мяжы дый думае: «Што зрабіць?»

Тады ўзяў забіў валоў, парубіў іх дый і кінуў на полі. Наеўся сабака валовага мяса, вады нідзе няма, а горача,— і пабег дахаты. Пайшоў за ім і Янка. Убачыў яго пан дый пытае:

— Чаму ты так рана? Дзе валы?

— Няма,— кажа Янка,— валоў, іх ваўкі парвалі, а я прышоў, таму што сабака пабег. Ты што, панок, мо сердзішся?

— Не,— кажа пан,— не крыўдую.

І вось задумаўся пан. Як яму пазбавіцца ад Янкі? Бо цераз год ён усю яго гаспадарку перавядзе. І раіцца са сваёю жонкаю,

што ж рабіць. Рашылі яны прадаць усё і, забраўшы грошы, уцячы ноччу, а Янку разам з хатаю спаліць. Так і зрабілі. Пан пасылае Янку працаваць, а сам прадае ўсё дый грошы ў мяшок складае. Склаў пан грошы ў мяшок і ноччу ўжо павінны бегчы, але Янка ўсё чуў. Устаў ён паціхеньку, узяў грошы, выйшаў на двор, закапаў іх, а сам залез у мяшок і сядзіць ціха. Апоўначы прачнуўся пан дый будзіць пані:

— Уставай хутчэй ды бяжым. Ты падпалі хату ды даганяй мяне.

Узваліў пан на плечы мяшок з Янкам ды ну бегчы, аж пыл курыць. Беглі яны, беглі, стаміліся, пані дый просіць пана, каб адпачыць крышку, а пан ёй і кажа:

— Вось пройдзем багну, тады і адпачнеш.

Ідуць яны па балоце, гразь па пояс, абыходзяць чортавы вочы, прыгаюць з купіны на купіну, але рады, што ўцяклі ад Янкі. А Янка сядзіць на плячах дый рагоча. Пачулі гэта паны, ды млосна ім зрабілася ад страху і злосці, а Янка кажа:

— А мой жа ты паночку, куды ж я ад цябе дзенуся, мне яшчэ, бадай, цэлы год працаваць трэба. А мо ты крыўдуеш?

— Ды не,— кажа пан.— Ідзі, Янка, ламачча назбірай, абсушыцца трохі трэба.

Адышоў Янка за куст дый слухае, аб чым паны гутарыць будуць. А пан з пані раяцца, як ад Янкі пазбавіцца. Пан і кажа:

— Як палягам спаць, Янку паложым на краю, а ў поўнач штурхнём яго ў ваду і ўсё будзе скончана.

Прынёс Янка ламачча, распалілі яны агеньчык, абсушыліся трохі, павячэралі дый леглі спаць. Янка лёг ля вады, а тады пан з пані. Як паснулі паны, Янка пералез ціхенька і лёг каля пані. Праснулася ля поўначы пані дый штурхнула свайго пана, і паляцеў пан у ваду. Пані і кажа:

— Уставай хутчэй дый бяжым.

Ажно глядзіць: паднімаецца Янка. Бедная пані ад жаху сама ў ваду за сваім панам скочыла. Вярнуўся Янка дадому. Адшукаў грошы, якія схаваў, дый пашоў у родную вёску. Грошай было многа. Раздаў іх Янка бедным сялянам дый з маёмасці пана, якая яшчэ засталася, тое-сёе раздаў. Дзякавалі ўсе Янку за тое, што пазбавіў іх ад лютага пана дый зажылі спакойна і добра, пакуль другі ліхі пан не прыехаў дый не сеў на іх карак.

## 120. ПАМЕШЧЫК І СІРАТА

У вёсцы Глівін, у дзесяці кіламетрах ад Барысава, жыў памешчык Свіда. У яго быў мальчык-сірата, які пас у яго казу. Надаела яму гэта каза. Але куды дзенешся? Трэба пасціць. І пасвіў ён яе да 18 год. Памешчык купіў яшчэ адну. Хлопцу яшчэ хужэй стала. Адна туда ідзе, другая туда. Ён надумаўся прадаць адну казу. Ехаў яўрэй, каторы па дзярэўнях сабіраў трапкі. От ён узяў і прадаў казу яўрэю. Едзе памешчык, глядзіць — толькі адна каза. Пытае ў яго:

— Дзе ж твая другая каза?

Так ён гаворыць:

— Панок, гэта ж другая каза (бо ён яе другую купіў).

Ён гаворыць:

— Дык гэта ж адна, а дзе другая?

Ён зноў яму так жа адказвае.

І вот гэты памешчык з ім спорыў, спорыў, патом плюнуў і паехаў. І вот падумаў яго перамяніць у другое места, патаму што ён гэту казу разбазарыў, нада яго аддаць пад надзор які-небудзь. Вот ён перадаў яго кучару. От ён быў у гэтага кучара, патом дзе-та нада быць гэтаму памешчыку паехаць. Вот гэты кучар пашоў к памешчыку, узяў мазі падмазаць брычку, гаворыць хлопцу:

— Замаж брычку, а я пайду заўтракаць, бо скора нада ехаць.

Ён і пайшоў. А ён [хлопец] пайшоў змазваць брычку. Так ён жа не мазаў калёса, а вакол усю брычку. Вот размазаў брычку кругом, не хваціла яму мазі памазаць там, дзе пану садзіцца. А кучара няма яшчэ. Ён за банку і пабег к памешчыку. Памешчык гаворыць, што кучар узяў толькі што мазь. Дак ён гаворыць, што не хваціла там, дзе пану садзіцца, а там кругом абмазаў.

Памешчык пагляздзеў, аж уся брычка абмазана, а колы ён і не падумаў мазаць. Ён напаў на кучара, што даверыў яму мазаць. Кучар кажа:

— Я ж гаварыў яму колы мазаць, а не брычку.

Гэты кучар пака ачысціў брычку, цэлы дзень работаў каля яе. Вот гэты кучар гаворыць памешчыку:

— Я не хачу, каб ён у мяне быў.

От пан гаворыць:

— Я перадам яго повару, повар такі сярдзіты чалавек, ён яго прымуштруе.

Вот ён пашоў к повару.

Ну, хлопец жа ўжо дарослы, ужо лет пад дваццаць. От нада была цялёнка зарэзаць. І от ён яму гаворыць:

— Ідзі ў сарай, зарэж цялёнка.

Ну, ён жа знае, як цялёнка рэзаць, але нарошна ўсё дзелае наперакор. Сеў на галаве цялёнка і рэжа нажом яго па карку. Цялёнак гэты раве, а ён рэжа.

Гэты повар пачуў, што цялёнак раве, гэты повар туда, аж ён ездзіць па ім і рэжа па карку яго. От ён гаворыць:

— Ці так жа цялёнка рэзаць?

— А як?

Гэты повар пакаціў цялёнка, нажом па горлу, тады гаворыць:

— Бялі яго.

А сам пабег у кухню. Дак ён жа не знімае кожу, а так скрабе яго нажом пакуль бела: ён жа сказаў яму «бяліць».

Тады ў другім месцы, таксама пакуль бела.

Повар гэты прышоў паглядзець.

— Ці так жа,— гавора,— бяліць нада?

— А як? — будта ён не знае нічога.

От ён яго на вяровачку павесіў і паказаў яму, як кожу знімаюць. Ну, зняў гэту кожу, забраў цялёнка і прынёс у кухню. Другі раз сказаў яму зарэзаць курыцу. Ну, ён жа ўжо знае, як рэзаць. Зарэзаў гэту курыцу, павесіў на вяровачку і давай кожу знімаць. Повар глядзіць — аж ён з курыцы кожу знімае.

— Што ты,— кажа,— дзелаеш?

— Кожу знімаю.

— Хто гэта з курыцы кожу знімае?

Ён за курыцу, у кухню, у кіпяток памачыў, пер'е аблезла — і гатова курыца.

Ну, вот і жывуць яны ў кухні. Ён ужо навучыўся варыць троху, так што ўжо для сваіх паноў мог зварыць абед. Повару дзе-та там трэба было ўехаць на скolькі там урэмя, расказаў яму, што зварыць на абед для паноў, і сам дзе-та там паехаў.

Якраз прыехалі госці і к гэтаму пану. Раз ужо госці прыехалі, нада ж ужо абед інакшы варыць. Вот далі яму зайца ўжарыць на абед. Ён яго ў кіпяток, абскуб, не патрашыў яго, нічога, ужарыў на блюду цалікам. Вот тут ужо абед. От ён і падае гэтага зайца на абед цалікам.

Пану ўжо ж перад гасцямі гэта стыд і пазор, што такія ў яго павара, што цалікам зайца падаюць на стол. От ён ужо да таго разазліўся на яго за гэту штуку (а даўней памешчыкі здавалі ў салдаты, каторыя ім не нравяцца), ён яго здаў у салдаты на 25 лет.

Ну, вот ён пака адбыў там гэтых дваццаць пяць лет, навучыўся там плотнічаць, па страіцельству. Явіўся ўжо адтуль, куда ж дзявацца? Абратна к гэтаму пану. У яго ж дома нікога няма. Ну, яго ўжо пан не ўзнаў цераз 25 лет. Гэтаму пану якраз трэба было строіць сарай для скатa.

Даўней жа памешчыкі бальшыя сараі строілі для скатa, бо скатa многа было. Мацер'ял загатоўлівалі ў лясу. З лесу вазілі яго гатовы на валах. Ён там дзе-та ўчапіўся з гэтымі валамі і зрубіў сасонку, санціметраў дваццаць. Пан яго аштрафаваў на 3 рублі за гэту сасонку.

Ён сабе падумаў: «Я ж табе штуку інакшую ўстрою».

Павозкі даўней былі на дзеравянным ходу, гэта цяпер ужо на жалезным. І восі дзеравянныя.

От ён паехаў у лес і гэтых валоў увагнаў у такія сосны, што ўжо санціметраў па сорак, і паабдзіоаў іх гэта. ужо каб заметна было, што ён быў там. Тады ўзяў ды гэтыя калёсы паабразаў: і спіцы, і трубкі па самыя восі, усе чатыры калясы. Тады гэтыя калёсы прыцягнуў і пастанавіў сярод двара, каб пан відзеў. От пан ідзе, убачыў гэтыя калёсы, гаворыць:

— Хто гэта паабразаў гэтыя калёсы? Пачаму ты іх паабразаў?

(А іх было па пары валоў у павозцы).

Ён гаворыць:

— З валом жа, як з чортам. Куда захоча пайсці, дык яму і рады не дасі. От упёрлі ў такія сосны, што санціметраў па 40. Дак такіх жа сасон,— кажа,— не зрэзаць. Як зрэзаў сасоньку ў дваццаць санціметраў, і пан мяне аштрафаваў на 3 рублі. Вот пагэтаму я ўзяў і калёса паадразаў і выехаў.

Тады гэты пан падумаў: «Ці не той ты Пархвен, каторы ў мяне казу пасвіў?»

Ён кажа:

— Я. І пан мяне здаў у салдаты. І от я там навучыўся плотнікам, і от прышоў к пану на страіцельства.

— Ну, як ты той, дык ты ў мяне не будзеш.

І ўзяў і прагнаў яго.

## 121. ПАН І ПАРАБАК

Жыў пан, і ў пана быў парабак — цыган. Пан паслаў яго араць і сказаў яму, што яго жонка прынясе яму есці ў абед.

Ён ждаў, ждаў і заснуў, а валы свае папускаў на пакос. Ваўкі прышлі, валоў палавілі, падавілі і сталі есці.

Парабак прачнуўся і бачыць: няма валоў. Ён пабег шукаць іх і бачыць чатыры ваўкі. Ён іх палавіў, запрог у воз і едзе к пану, а на пана кажа:

— Пан, ідзіце коням дайце есці.

А пан гаворыць:

— Ты ж ехаў не на конях, а на ваўках.

Пан пашоў да кінуў ім пару авец. Цыган пашоў, паглядзеў, паглядзеў ды кажа:

— Пан, галодныя коні, трэба яшчэ даць.

Пан пашоў і даў пару парсюкоў ім. Яны з'елі. Парабак паглядзеў, а коні галодныя. Пан пашоў і кінуў ім каня такога здаравеннага, што ваўкі з'елі і палеглі. Парабак паглядзеў і сказаў пану, што ўжо коні паелі.

Пан кажа:

— Раз пад'елі, я еду ў госці.

Ён, пан, едзе, а парабак пытае:

— Што мне рабіць?

Пан кажа:

— Што людзі, то і ты.

Парабак бачыць: чалавек сад капае. У пана сад быў такі добры. Парабак адразу ж стаў сад капаць.

Пан прыехаў і пытае:

— Што рабіў?

— Сад капаў.

Пан кажа:

— Трэба было не капаць.

А парабак кажа:

— Вы ж казалі, што людзі робяць, то і рабі.

На другі дзень пан едзе ў госці, і парабак у яго пытае:

— Пан, што рабіць?

— Што людзі, то і ты,— адказвае пан.

Парабак бачыць, што чалавек пустую крышу папраўляе, а ён падумаў, што раскідае. А ў пана добрая крыша была, і ён узяў і раскідаў яе.

Пан прыехаў і пытае:

— Што ж ты нарабіў?

Парабак адказвае:

— А вы ж казалі, што людзі, то і ты.

Парабак пытае яшчэ:

— Пан, мо вы сярчаеце?

А ён кажа:

— Не.

Пан гаворыць жонцы:

— Трэба пазбіраць малітвенныя кнігі ў мяшок. Давай ноччу падпалім хату, як ён засне, то ён згарыць.

Парабак гэта ўчуў і адклаў кнігі, а сам улез у мяшок.

Пан прыбег, хваціў гэты мяшок і пашоў наўцёкі з хаты, падпаліўшы яе.

А парабак сядзіць у мяшку і крычыць паціхонечку.

— Пан, падажджы.

Пан бягом уцякае, а парабак крычыць:

— Пан, падажджы.

Забеглі яны к рацэ, паставілі мяшка і развязалі, а парабак вылазіць з мяшка.

Пан палажыў парабка каля ракі з краю, а сам лёг з краю ад лесу, а жонка пасярэдзіне. Ён сказаў сваёй жонцы:

— Як засне парабак, я цябе, жонка, штурхну пад бок, а ты парабка, і ён паляціць у рэку.

Парабак усё чуў, не спаў. Як толькі яны заснулі, парабак узяў яго жонку, перакаціў к рацэ, а сам у сярэдзіне лёг. Пан прачнуўся, як стукнуў парабка, а парабак жонку, яна паляцела і ўтапілася.

Парабак з панам пашлі. Зашлі к адной бабе. Парабак убачыў макацёр і кажа:

— Пан, гэта стаіць у макатры рашчынка.

Пан прышоў і обе рукі ў макацёр апусціў, а то была не рашчынка, а смала. Так тут пан і завяз назусім.

## 122. ПАПОЎСКІ ПАРАБАК

Быў сабе адзін поп, а такі скупяндзя і лядашты, што ў яго ні адзін парабак не ўбыў. Асёж у том сяле было ў бацькі тры сыны: два разумныя, а трэці малодшы дурны. Узяў той поп найстаршага сына за парабка, пабыў ён кілька дзён дый уцёк, да то, прышоўшы дахаты, кажа:

— Не магу служыць, бо надта цяжка і рана ўставаць трэба.

Так серадольшы кажа:

— Як то можа быць, каб не вытрываць: пайду я!

Асёж і ён, пабыўшы кілька дзён, уцёк.

Тады адзываецца той дурны:

— Бо вы гультаі, то не хочаце рабіці, а я пайду і такі выбуду рок,— да й пашоў, а яны з яго анно пасмехваюцца.

Прыходзіць ён туда дый кажа:

— Я да бацюшка прышоў на службу на месца сваіх братоў.

— Ну, то добра,— кажа поп,— анно глядзі, што ў мяне тагды трэба ўставаць, як зязюля закуе.

— А як жа ж! — адказвае,— як скажаце, так я буду і рабіць!

Лёг ён спаць адну ноч, асёж ён яшчэ добра не ўспаўся — куе зязюля! Думае ён сабе: «Што тут за ліха?» На другую ноч ужо ён добра цікуе, якая то зязюля, асёж за печчу папова маці сядзіць дый куе! Так падумаў сам сабе: «Не дажджэш ты тут доўга каваць!»

На другі ці на трэйці дзень сеў ён вячэраць, а было ў таго папа трое дзяцей, не дадуць яны яму з'есці — да ўсё, каб ён іх на надворак выводзіў.

Ён гэта ўзяў, вывеў адно дый ссадзіў на астраколіну. Вышла няўбаўкі другое: ён і другому таксама зрабіў, а после і трэйцяму. Асёж выходзіць пападдзя:

— А дзе ж,— кажа,— дзеці пабеглі, што іх не відно?

А ён кажа:

— Ля, а дзе ж яны? Сядзяць!

Так яна, не пытаўшыся, дзе сядзяць, пашла сабе.

Прышла пара класціся спаць, так зноў вышла дый пытае:

— Дзе то дзеці бегаюць? Чаму не ідуць спаць?

А ён кажа:

— Дзе там яны бегаюць, ато ж вон дзе сядзяць!

Калі яна выйдзе, паляне, асёж яны нежывыя на калках сядзяць!

Ну, што тут яму зрабіць за тое? Узялі ўжо тыя дзеці, назаўтра пахавалі, паплакалі, пабедавалі дый на том скончылася. Вядома, з дурнем што зрабіць? После, праз колькісь дзён, дабраўся ўжо і да мацяры за печ, задушыў яе мялам, а сам спіць, ужо і слонка сышло.

Вышаў поп:

— Чаму ты, гіцлю, не ўстаеш?

Ён схапіўся:

— А бадай,— кажа,— яе каршак з'еў, вашу зязюлю! Слонка,— кажа,— сышло, а яна яшчэ не кавала.

Поп думаў, што яна, можа, заснула, калі паглядзіць, выправіўшы яго з кухні, асёж яна ўжо нежывая!

Ну, што тут яму парадзіць?

Выганяюць яго, ён не хоча, кажа:

— Як рок выбуду, тагды пакіну!

Што ўжо рабіць? Назаўтра пахавалі мацеру, трэба ўжо па ёй вячэру даваць, а тут якраз папа з пападдзіхаю на баль запрасілі. Так яны яму кажуць:

— Ідзі ж ты дый зарэж барана на вячэру.

— А каторага, бацюшка?

— От, каторы на цябе гляне!

— Добра! — дый пашоў.

Ён гэта ўвайшоў у хлеў, асёж усе гоўца на яго глянулі, так ён гэта ўзяўшы ўсе чыста парэзаў, нат і на высадкі не пакінуў. После гэта наклаўшы на воз, вязе пад кухню, асёж і поп угледзеў, так выскачыў і давай то яго лаяць, бэсціць... Так ён кажа:

— Ля, калі ж яны ўсе на мяне глядзелі, то я ўсе парэзаў.

Крычаў ужо на яго поп, крычаў, крычаў, праганяў,— не хоча ісці! Ну, і што тут з дурнем зробіш! Ну, узяла ўжо пападдзіха, панакладала бараніны ў гаршкі дый кажа:

— Ну, дагледзь жа ты тут гэтай вячэры, бо мы на баль паедзем, а не забудзься ўкінуць у кажан гаршчок пятрушкі.

Поп жа ж, усюды ўсё пазачыняўшы, кажа:

— А глядзі ж ты, наглядай ад свірна на дзверы, каб хто не пабіў.

— Добра,— кажа,— добра, буду наглядаць!

Яны то пашлі ці паехалі, а была ў іх сучка, называлася Пятрушка. Так дурны ўзяў тую сучку, барджэй то зарэзаў, парубаў дый, у кажны гаршчок па кусочку ўкінуўшы, паўстаўляў у печ, каб варылася. После гэта вышаў, да гэта дзверы, ад свірна выняўшы, на плечы дый пабег туда, дзе яго паны. Ужо пярэдаднем, калі поп аглянецца, асёж ён стаіць пад акном.

— Ці ты,— кажа,— тут?

— Ля, калі ж яны ўсе на мяне глядзелі, то я ўсе парэзаў.

— А я ж табе казаў на дзверы наглядаць!

— О, я такі,— кажа,— дзвярэй не пакінуў: а ось стаяць! Поп чыста спалохаўся, бягуць яны хутчэй дахаты, асёж нідзе ўжо нічога няма,— зладзеі ўсё пакралі!

Што ўжо рабіць, селі абедаць, з'елі, а после кажуць:

— А дзе ж то сучка падзелася? Чаму хоць яна зладзеяў не паадганяла?

А парабак кажа:

— Ля, ато ж я зварыў!

— Дзе ты зварыў?

— Ля, ато ж вы казалі, каб усюды Пятрушкі укінуць!

Ну, што тут парадзіць з дурным чалавекам?!

Давай яны нараджвацца так:

— Забірайма ўсё, што яшчэ засталося дый ідзем у свет, а хату з парабкам запалім.

— Добра.

А парабак гэту гутарку чуў пад дзвярыма, так — пажджы ж. Лёг ён бы то спаць, асёж чуе, што яны ўжо адзін мяшок напакаваўшы, вынеслі за плот дый паставілі, а самі пашлі рэшту пакаваць. Тагды ён гэта паціхусеньку вышаў, манаткі барджэй выбраў, пахаваў, да то сам улез у мяшок дый сядзіць. Асёж няўбаве і яны вышлі, да то, хату падпаліўшы, за мяшок дай у ногі. Такія ўжо рады, што хоць у хаце парабак згарыць!

Ідуць яны, так ідуць, асёж у аднум мейсцы трэба было ім цераз рэчку пераходзіць, так улезлі ў воду; асёж — ля, чуюць: нехтось адзываецца ў мяшку:

— Попе, попе, не замачы мяне!..

Яны што, чыста сумеліся, сталі, слухаюць, асёж ён другі раз:

— Попе, попе, падымай вышай, каб я не замок!

— Як то, ты тут?

— Ля,— кажа,— я тут! То ж яшчэ мой год не скончыўся — дзе ж я падзенуся?

Радзяцца зноў яны, што тут з імі рабіць? После кажуць так:

— Начуймо на гэтум мосце, то мы яго ўтопім.

Паляглі яны начаваць: дурны з берагу над вадою, пападдзіха пасярэдзіне, а поп з другога берагу; так як ужо добра паснулі, дурны пападзіху памаленечку адсунуў, да то сам лёг пасярэдзіне.

Асёж прачхнуўся поп, парваў жонку за плечы дый бах у рэку, а сам кліча:

— Уцякаймо! Ужо я яго ўтапіў.

Адышлі крыху, рассвітала, каліся поп паглядзіць, асёж — ля, дурны цягнецца за ім! Прасіўся поп у яго, малёгаў, але дурны ніяк не хацеў яго пакінуць: жабруючы, а такі цягаўся ўсюды за ім, пакуль яму не скончыўся год.

От пракуда!

## 123. АБ КСЯНДЗУ, ШТО ЕСЦІ СЛУГАМ НЕ ДАВАЎ

Было ў бацька тры сыны: адзін дурань, а два разумных. Пайшоў сабе адзін разумны на службу. Ішоў ён, ішоў сабе і зайшоў да папа.

— Прыймі мяне, бацюшка, на службу,— кажа ён да папа.

А бацюшка адзываецца да яго:

— Я вазьму цябе, хоць ты мне не патрэбны. Але есці табе не буду даваць. Тое, што будзеш рабіць, то тое будзеш і есці.

Паслаў яго поп па сена. Прывёз ён сена, а яму есці не далі.

Паехаў ён па дровы і прывёз дровы, і дроў не еў.

Паехаў зноў па гной, прывёз гной, і гной не еў. Тады кажа ён да папа, што не здужае рабіць, бо галодны.

Так поп шкуру здзёр з яго, набіў, набіў і прагнаў яго. Прыйшоў ён дадому і кажа бацькові:

— Я не выслужыў, і поп мяне набіў і прагнаў.

— А я табе казаў: не ідзі, сынку, на службу.

Цяпер кажа сярэдні:

— Я пайду і выбуду.

І пайшоў ён і зайшоў зноў да таго самага папа. (Тут паўтарыліся тыя самыя прыгоды, што і са старшым братам).

Прыходзіць ён да бацькі і кажа:

— Я служыў, служыў і не выслужыў, поп мяне набіў, набіў, шкуру здзёр і прагнаў.

Дурны цяпер кажа да бацька:

— Бацько, я цяпер пайду служыць.

І пайшоў ён. Ён ішоў, ішоў і зайшоў да папа.

— Прыймі мяне на службу,— кажа.

А поп кажа да яго:

— Хоць ты мне не патрэбны, але я прыйму цябе, а тое, што будзеш рабіць, то і тое будзеш есці, але калі гэта ты не зробіш, то я табе шкуру здзяру і праганю цябе.

А дурань кажа да пана:

— Як я гэта зраблю, то я табе гэта сама зраблю, шкуру здзяру.

Паехаў дурань па дровы, нарубаў дроў і завёз гаспадарові, прадаў тыя дровы і наеўся за тыя грошы. Прыязджае да папа. Поп пытаецца яго:

— Дзе твае дрова?

— З'еў.

Паехаў зноў па сена. (Такім самым спосабам з'еў нібы сена, а потым і гной).

Так узяўся за галаву поп, што мае такога хітрага парабка. Тады пайшоў дурань да хлява і закалоў два вепрукі паповы. І была ў папа бабуня. Узяў той дурань бабуню і ўсадзіў да хлява, прыйшоў да папа і кажа да яго:

— Што твая бабуня нарабіла, узяла і пакалола твае вепрукі.

Поп кажа да дурня:

— Так вазьмі яе і ўтапі.

Тады дурань узяў бабуню і ўсадзіў у стажок сена.

Пайшоў дурань да хлява і парэзаў валы, што былі ў папа. І ўзяў бабуню, паставіў у хляве і пайшоў да папа, і кажа да яго.

— Што твая бабуня зрабіла! Парэзала твае валы.

Поп кажа:

— То вазьмі яе і ўтапі.

Тады дурань узяў яе і замучыў.

Пазней прыходзіць тая пара, што парабак выбыў рок. Поп злякаўся і запрагае пару коней і ўцякае, а дурань узяў бабуню і занёс пасярод дарогі і паставіў. Едзе поп і перавярнуў і забіў бабуню. Дурань перабягае на дарогу і крычыць:

— Што ты зрабіў, бабуню забіў!

Поп скочыў з воза з пападдзёю і да бабуні, а дурань сеў на брычку да й паехаў.

## 124. ПАРАБАК СЦЯПАН

Жыў сабе старык, меў тры сыны, бедна жылі, хлеба не мелі. Старшы сын і гаворыць:

Бацька, пайду я ў свет, можа дзе хлеба зараблю і вас пракармлю.

І пайшоў. Ідзе дарогай, ідзе, сустракае папа.

— Здраствуйце, бацюшка!

— Здароў, дзеткі, а куды, дзеткі, бог нясе цябе?

— Іду, бацюшка, у свет за парабка, каб дзе кусок хлеба зарабіць.

— Найміся, дзеткі, у мяне.

— Харашо, бацюшка, а што ў бацюшкі рабіць?

— Пшаніцу малаціць.

Бацюшка павёў яго ў свой дом, есці не даў, павёў у гумно малаціць пшаніцу. А дагавор здзелаў бацюшка такі: калі засердзіцца парабак на бацюшку, так галава далоў, а калі бацюшка засердзіцца — так і яго галава далоў. Парабак гэты цэлы дзень малоціць пшаніцу, а бацюшка есці не завець. Нясець вечарам бацюшка кружку халоднай вады і гаворыць:

— Дзеткі, мо вады піць хочаш?

Парабак адказвае:

— Бацюшка, я есці хачу!

— Мо ты, дзеткі, засердзіўся? — гаворыць бацюшка. А парабак адказвае:

— Як жа не сердзіцца, я цэлы дзень малачу, а бацюшка вады нясе.

Па дагавору бацюшка зняў яму галаву. І пайшоў бацюшка. І сустракае на дарозе чалавека.

— Добры дзень, бацюшка!

— Здароў, дзеткі! А куды бог нясе цябе, дзеткі?

— Іду, бацюшка, кусок хлеба зарабіць: бацька з голаду памірае і сам з голаду паміраю. Адзін брат ужо пайшоў у свет, і няма яго, можа, дзе з голаду памёр.

Ён адказвае:

— Дзеткі, найміся ў мяне!

— А што ў бацюшкі за работа?

— Пшаніцу, дзеткі, малаціць.

— О, бацюшка, я магу добра пшаніцу малаціць.

І пайшлі да бацюшкі ў дом.

Бацюшка сесці не даў і павёў у гумно малаціць пшаніцу. Хлопец наклаў снапоў і давай малаціць. Змалаціў 25 снапоў, а бацюшка есці не заве. Ён узяў гэтую пшаніцу павеяў, усыпаў у мех, панёс у карчму, набраў булак, водкі за тую пшаніцу, прынёс у гумно, выпіў, добра пад'еў і давай малаціць. Бацюшка пад вечар нясе кружку халоднай вады, пытае:

— Што, дзеткі, вады хочаш?

— А, бацюшка, ужо даўно хачу піць.

— А дзе ты, дзеткі, пад'еў?

— Я,— кажа,— бацюшка, вас ждаў, ждаў, а есці мяне не завіцё, то я абмалаціў 25 снапоў, абвеяў, ссыпаў у мех, занёс у карчму, набраў водкі і булак і вас, бацюшка, угашчу!

Бярэ бутылку водкі і налівае бацюшку. Пытае:

— Можа, бацюшка, усердзіліся?

Бацюшка адказвае:

— А за што ўсердзіцца? — і завёў яго на абед. Прыходзіць дамоў і гаворыць сваёй жонцы:

— Гэтаму парабку не трэба даваць малаціць.

— Чаму? — пытаецца жонка.

— Змалаціў 25 снапоў, пераверў, занёс у карчомку, набраў водкі і булак і як прышоў, то і мяне ўгасціў. Ён можа цяпера ўсю пшаніцу прапіць.

— Нада яго адправіць.

— Ох,— адказвае,— як жа яго адправіць, калі я з ім зрабіў дагавор, хто засердзіцца — галава далоў.

Матушка гаворыць:

— Знаеш што, насыпем яму мякіны грэцкай і пушчай вязе ў млын і змелець пшанічную муку.

Яны насыпалі яму воз грэцкай мукі і павёз ён на мельніцу, а там мелюць чэрці. Ён засыпаў муку ў кош, а з калёс выняў шворын і гэты шворын укінуў у печку, якая тут гарэла. Глядзіць ён: не ідзе пшанічная мука, а чорная луска. Ён раззлаваўся:

— Ах,— гаворыць,— чэрці вы, я прывёз пшаніцу, а вы луску нейкую насыпалі.

Выхапіў з печкі раскалены шворан і як дасць аднаму чорту, другому.

— Давайце,— кажа,— мне пшанічную муку.

Чэрці бачаць, што дзела плоха, высыпалі луску, засыпалі пшаніцу. Адзін чорт і гаворыць:

— Пабягу за ім і зламаю яму калясо.

Як узʼехаў той на мост, чорт і зламаў яму калясо. Злавіў хлапец чорта за нагу.

— Ты мне,— гаворыць,— калясо зламаў — дзяржы вось!

Ён і трымае. Прыязджаюць да дому бацюшкі. Сцяпан гукае:

— Бацюшка, адчыняй дзверы!

— Пушчай табе чорт адчыняе!

Сцяпан адказвае:

— Чорт вось дзяржыць, калясо зламаў. Цяперака знасі гэтыя мяхі, бацюшка, выйдзе чыстая пшанічная мука.

Бацюшка ідзе ў дом, кажа жонцы:

— А ён прывёз чыстую пшанічную муку.

— Добра, што ён так зрабіў,— адказвае тая.

Гэта было ў суботу, а ў нядзелю бацюшка пайшоў у царкву з матушкай, а Сцяпану сказаў:

— Як дзеці прачнуцца, каб нагрэў цёплай вады, памыў дзетак, адзеў іх, блінцы расчыніў, накарміў і прывёў дзетак у царкву.

Сцяпан запаліў печку, нагрэў кіпятку, паклаў дзяцей у начоўкі, паапарваў іх кіпятком, прыбраў у адзежку і на покуце паклаў (мёртвых), а муку ўсыпаў у калодзеж і расчыніў бліны, а сам пашоў у цэркаў. Матушка пытаецца:

— Сцяпанка, а дзеткі дзе?

— Я іх, матушка, кіпятком паашпарваў, папрыбіраў і на покуце паклаў, а муку ў калодзеж занёс і блінцы расчыніў.

Так матушка абамлела. Усё тое ж было расказана затым бацюшку.

— Мо вы, бацюшка, засердзіліся?

— Не, дзеткі.

А што гаварыць?

Дзеткі пахаваўшы, і гаворыць матушка бацюшку:

— Што нам рабіць з ім, як ад яго пазбыцца?

— Давай насушым сухароў і сыйдзем з дому, можа ён тады пойдзе.

Насушылі сухароў цэлы мяшок і пашлі да рэчкі. Прыходзіць і Сцяпан туды.

— А што,— кажа,— я ад вас не адстану, бацюшка.

Бацюшка кажа жонцы:

— Як ляжам спаць, пакладзем Сцяпана ад ракі, а як Сцяпан засне, я цябе штурхну, схопім яго, ты за галаву, я за ногі, і кінем у раку.

Сцяпан тое чуў, хоць прыкінуўся, што спіць і, як матушка і бацюшка заснулі, ён ускочыў, штурхнуў матушку, схапілі яны бацюшку за галаву і за ногі і ўкінулі ў рэчку. Матушка кажа:

— Вось няхай Сцяпан з нашымі дзеткамі размаўляе.

Сцяпан адказвае:

— Не Сцяпан павінен размаўляць з дзеткамі, а іх бацька.

Матушка бачыць, што не тое зрабілася. Сцяпан і кажа:

— Бацюшка зрабіў дагавор і сам галавой налажыў.

## 125. ЯК ПОП ВУЧЫЎ МУЖЫКОЎ ГРАМАЦЕ

Слухайце ды запамінайце, бо раскажу вам не казку, а шчырую праўду. Было гэта за паншчынай. У адной вёсцы жыў бедны мужык. І было ў яго тры сыны. Калі падраслі яны, жонка і кажа мужыку:

— Пражылі мы з табой дурнямі, працавалі з цямна да цямна на паноў, а крапіве з бульбай былі рады. Трэба хоць дзяцей навучыць, можа, менш працаваць будуць на дармаедаў.

— Вядзі большага сына ды аддай куды-небудзь вучыцца.

Прайшла ноч. І пачалі яны сабірацца ў дарогу. Ідуць яны, ідуць, аж бачаць стаіць сяло.

— Дай,— падумалі яны,— у сяло зойдзем.

Падыходзяць к сялу, аж з вялікага двара каменнага выходзіць поп. Параўнаўся з імі дый пытае:

— Адкуль вы, мужыкі, і куды ідзіцё, пуць-дарожку трымаеце?

А мужык і адказвае громка:

— Мы з вёскі Абдзіралаўкі, з бабылінага роду.

І расказаў ён папу аб сваім горы.

— Вяду сына свайго, ці не аддам дзе ў навуку.

— Добра,— адказаў поп,— аддай мне, я яго навучу, але за гэта няхай папрацуе год у мяне.

Згадзіўся мужык, аставіў у папа сына, с сам вярнуўся ў сваю вёску.

Поп пазваў хлопца ў хату і кажа:

— Калі ў цябе хто што будзе пытаць, ты адказывай толькі словам: мы. На працягу году каб другіх слоў не казаў, а калі будзеш казаць другія словы, то і паху твайго ў мяне не будзе. Уставаць трэба раным рана, а спаць класціся позна вечарам. З гэтага дня ўся праца па гаспадарцы лажыцца на цябе. Глядзі ж, працуй добра, раб божы.

Так і пачалася папоўская вучоба.

Як пракрычалі пеўні, пападдзя падышла к яго ложку і будзіць.

— Уставай, хлопец, на золак займаецца. Ідзі нанасі поўну бочку вады, накалі дроў, пакармі жывёлу і птушку.

Хоць не хацелася ўставаць так рана, але нічога не зробіш. Не дома ж. Устаў дзяцюк і пайшоў на працу. Працаваў, працаваў, аж спіна забалела, кружылася ў галаве. Ужо сонца падыходзіла к абеду, а хлопец усё працаваў. І ніхто не пацікавіўся ім, ці еў ён, ці не еў.

Вось з хаты выходзіць поп на двор.

Глянуў у бочку, потым на дрывотню, а потым пайшоў у хлеў аглядаць жывёлу. Як назло, зарохкалі свінні і закудахталі куры. Тут папа і разабрала:

— Чаму не пакарміў жывёлу, абібок мужыцкі, чаму вады няпоўная бочка, чаму буйна паколаты дровы!

Дрыжыць дзяцюк, а ад працы аж рукі гараць. Колькі б працягвалася гэта папоўская іспаведзь, невядома.

Пачуўся голас пападдзі:

— Хама, хадзі снедаць.

І хлопец паспяшаў у хату. Пападдзя наліла сыраквашы і насыпала нялупкі, а сама пайшла. Не паспеў хлопец паснедаць, як з'явіўся поп.

— Бяжы па коней, паедзеш араць. Ды глядзі, рота не разяўляй. Каб праз гадзіну вярнуўся.

Не вопрамеццю пабег хлопец на выган.

Прывёў коней, запрог і паехаў араць. Арэ сабе дзяцюк дый годзе. Ды таго не ведае, што поп у кусце сядзіць і за ім назірае.

А дзяцюк заглядзеўся на царкву і не заўважыў, як плуг у пня стукнуўся, ды так стукнуўся, што аж у дугу сагнуўся. Выпрамляў, выпрамляў хлопец плуг, ды ніяк не выпраміць. Вядома, пад рукамі ніякага жалеза не было. Выскачыў поп ды як крыкне:

— Што ты нарабіў, галган!

І давай пярэсціць хлопца. Біў, біў, што аж сінякі па целе папаўзлі. І паскардзіцца было некаму.

Поп выпраміў плуг і прыказаў:

— Калі яшчэ што случыцца, то шкуру зніму з жывога.

І падаўся дамоў. Ледзь жывы звярнуўся хлопец з поля, галодны, змарнелы. Пападдзя зноў наліла сыраквашы і паклала штук з дзесяць бульбы-нялупкі ранішняй, а сама знікла. Не паспеў хлопец паесці сыраквашу, як прышоў поп.

— Запрагай коней і едзь па дровы.

Так поп здзекваўся з хлопца кожны дзень, а карміў горш за сабаку.

Мінуў год. З хлопца адны мошчы засталіся. Прыходзіць мужык за сынам. Не паспеў і за парог ступіць, як поп падбягае і яму гаворыць:

— Забірай хлопца ды магарыч стаў, бо сын твой ужо грамаце навучыўся.

Узрадаваўся мужык дый гаворыць:

— Ці не ўзяў бы ты, святы айцец, навучыць яшчэ аднаго сына?

— Добра,— адказаў поп,— навучу. Толькі няхай у мяне папрацуе паўтара года. Бо вельмі ж туга навука даецца сынам. На другі дзень мужык прывёў к папу сярэдняга сына, Фядоса. Аддаў дый пайшоў.

А поп завёў у каморку хлопца і кажа:

— Калі ў цябе хто што будзе пытацца, дык ты гавары так: ні за тое, ні за сёе. Каб другіх слоў я ад цябе не чуў. Калі пачую, і паху твайго тут не будзе. Давяраю табе ўсю гаспадарку, калі што якое, дык тры шкуры здзяру. Працуй добра.

Працаваў дзяцюк, працаваў, аплявухі хапаў, мазалі наганяў, а ласкі не меў. Ды і харч даваў поп хлопцу горш, чым жывёле. Дзяцюк не рос, а марнеў. У цяжкай працы і горы прайшло паўтара года для мужыцкага сына. Ледзь ногі не выцяг дзяцюк ад такой навукі.

Скончыўся тэрмін. Поп пазваў хлопца дый кажа:

— Цяпер з цябе чалавек будзе, раб божы. Паважай цара нябеснага, маліся і ўсё будзе добра. Міхаліна, прынясі нам па чарцы.

Міхаліна прынесла гарэлкі, паставіла на стол добрую ежу. Поп стаў такі добры, хоць да скулы прыкладай. Есць і адным вокам заглядае на вокны, ці не ідзе там па сына мужык. Ляпнулі вароты, і поп, як аглашэнны, выскачыў з-за стала і пабег сустракаць мужыка.

— Распранайся, Ілля, перакусі з дарогі. Сын твой ужо пісьменны, чалавек з яго будзе...

Радуецца мужык, а пад'еўшы загаварыў:

— Святы айцец, навучыў ты маіх двух сыноў, навучы і апошняга.

— Добра. Навучу. Толькі няхай папрацуе ў мяне два гады.

Падзякаваўшы, мужык з сынам пайшлі дадому.

Ішлі ці мала, ці доўга, а к ночы дабраліся дамоў. Раніцай мужык павёў к папу трэцяга сына, Назара. К вечару мужык з сынам прыйшлі к папу. Пакінуўшы сына ў папа, мужык адправіўся назад. А поп тым часам пазваў хлопца дый і кажа:

— Слухай, раб божы, ды помні. Колькі ў мяне будзеш, каб гаварыў толькі адно: «Інакш і не быць!» Калі пачую, што будзеш інакш гаварыць, то і паху твайго тут не будзе. Працуй так, каб бог не гневаўся.

Потым хлопца вывеў на двор, паказаў свінней, кароў, гусей, дровы.

— Каб кожны дзень карміў жывёлу, насіў ваду, сёк дровы, араў, баранаваў.

Назаўтра з цямна поп адправіў хлопца на працу. А працы хоць адбаўляй. Працаваў, працаваў хлопец, горб напрацаваў, а канца працы не відна. Заместа ласкі, поп аддзякаваў кулакамі ў спіну. Мінула два гады. Прыйшоў да яго бацька. Узрадаваўся хлопец, што канец прыйшоў яго вучэнню. Насустрач мужыку выйшаў поп з пападдзёй.

— Заходзь, заходзь, раб божы. Твой сын граматны. Толькі маліцеся і не гнявіце бога.

Пакланіўся мужык папу, ды і пайшлі дадому. Прыйшлі дамоў. Усе рады. А суседзі гавораць, што Іллю бог шчасце паслаў, што ён вывучыў сваіх сыноў.

А сыны ад такой граматы з печы не могуць злезці. Худыя-прахудыя, горб на гарбу, мазоль на мазалю, саромеюцца на людзі паказацца. Дый яшчэ і гаварыць пазабываліся. Гаспадарка ішла ў заняпад. Не было чаго есці. Аднойчы бацька і кажа:

— Дакуль вы будзеце сядзець без работы. З неба харч не падае. Ідзіце на працу.

Хлопцы ўзялі тапор, пілу ды і пайшлі з дому.

Недалёка ад вёскі купец нейкі выразаў лес. Ідуць яны і ідуць, аж бачаць — пасярод дарогі ляжыць забіты чалавек.

— Дай,— думаюць яны,— знясём з дарогі.

І толькі яны ўзялі на рукі забітага, як наперадзе паказаўся ўсаднік, які ва ўвесь дух імчаўся к ім. Каля іх спыніўся, убачыўшы, што хлопцы неслі забітага. Гэта быў стражнік.

Ён выхапіў шашку і крыкнуў:

— Стой! Рукі ўгору!

Калі хлопцы паклалі забітага, стражнік зноў закрычаў:

— Хто забіў чалавека?

Уперад выйшаў старэйшы дзяцюк і гаркнуў:

— Мы.

— За што?

— Ні за тое, ні за сёе,— адказаў сярэдні.

— Вараці ў турму,— крыкнуў стражнік.

А меншы брат падумаў і дадаў:

— Інакш і не быць.

Дык вось як вучылі бедных грамаце ў часы прыгону.

## 126. БАГАТЫР

І той багатыр, хто мае многа ўсялякага дабра, і той, хто вельмі дужы да здаравенны. Часам дурныя кажуць, што абы грошы, то й здароўе будзе. Не, мабыць, трасца табе — не здароўе будзе за грошы. Мабыць, ужо так бог даў, што багатага да заможнага дак заўжды якая-кольвек хвароба цісне. Бо што б з таго было, каб яшчэ багач да быў і здароў; ён тады і бога сапхнуў бы з неба. Бог знаў, што чалавек як багаты, та й гарды. От затым бог так зрабіў, што хто багаты, той заўжды нехлямяжы, або хворы, а хто бедны, той здаровы да дужы. Бедны бога памятае, а багатыр дак усіх забывае.

Гэтак жа, кажуць, даўней жыў адзін багатыр. Маў ён толькі ўсялякага дабра, што й палічыць не мог. Жыў ён у раскошы да выгадзе, не знаў ніякае бяды, не маў ніякага ліха. Адно толькі грызла яго, грызла і не давала яму ні есці, ні спаць. Грызла яго тое ліха, што калі добра, дак хочацца яшчэ лепш, а тут нельга нічога лепшага прыдумаць. От і пачаў той багатыр сохнуць да пятрэць, што ад дабра нельга найці дабра. Толькі ось яшчэ гарэй яму зрабілася, як стрэў ён якась аднаго вельмі беднага чалавека. Ідзе сабе багатыр каля сваіх палацаў, ідзе засмуцоны, што няма на свеце ўжо лепшага дабра, аж от акурат

сунецца насустрак чорны, абарваны, у лапіклу бедны чалавек, сунецца да пае песні, аж табе багатыра сад разлягаецца.

— Чаму ты паеш? — пытае багатыр.

— А от паю, бо здароў і весел.

— Чаго ж ты весел, калі ты такі бедны?

— А якога ж мне больш ражна трэ? Сягоднячы наеўся картопель, а заўтра буду маць і хлеб з салам, бо зарабіў трохі асьмакоў.

— Ці ж ты таго паеш, што здароў і наеўся?

— Не, я паю, што як ні ліха жыць на свеце, але пажыву, то мо будзе й лепш.

Прамовіў тое бедны чалавек да й пацёгся сабе далей, спяваючы якуюсь песню.

«Уся бяда ад багатства,— думае багатыр,— от аддам ткале людзям з большага сваё багатства, то мо і лепш будзе».

Падумаў ён так да й давай крычаць, зваць беднага:

— Эй, чуеш бо! Вярніся, е к табе дачыненне.

Пачуў бедны чалавек, што заве багатыр, да й вярнуўся. Тым часам багатыр дастаў з кішэні капшук, поўны чырвонцаў, да й дае беднаму.

— На,— кажа,— вазьмі гэстыя асьмакі, то і табе будзе добра да й мне лепш.

Падзякаваў бедны багатыру, узяў грошы да й пайшоў сабе, а багатыру і напраўду лягчэй стала на сэрцы, што ён хоць раз зрабіў добрае дзела. Але нядоўга радаваўся багатыр, бо як прыйшоў да гасподы да як пачаў лічыць грошы, от адразу яго й апанаваў жаль,— яму шкода стала тых асьмакоў, што ён аддаў беднаму. Ходзіць багатыр, як у воду апушчаны, смутны, як пад зямлёю. Чым далей, тым гарэй маркотна багатыру на сэрцу, маркотна да так моташна, хоць бяры да й засіліся. А тут яшчэ ўбілася багатыру ў галаў, што будзе з яго багаццем, як ён здырдзіцца.

«Як бы гэта зрабіць,— думае багатыр,— каб і па маёй смерці да ўладаць усім сваім багаццем».

Думаў ён, думаў да й надумаўся. От зрабіў ён у клеці пад памостам пограб, прыладзіў к яму так дзверы, што ніхто і не ўцяміць. Паскладваў багатыр у той пограб усе свае грошы да ўсё, што ў яго было самае дарагое. Ходзіць багатыр у той пограб да любуецца на сваё дабро. От гэ раз пайшоў ён у пограб, да нядобра зачыніў дзверы. Тым часам дзверы якась шчакаўзнуліся да й зачыніліся так, што багач не мажэ з пограба і вылезці. Сядзіць багач у пограбе да падыхае ад голаду.

Пробаваў крычаць, да ніхто яго не чуе. Пазнаў тут багач, якая цана грашом і ўсялякаму багатству, калі няма людзей, калі тое багацце нікому не трэ; пазнаў, што такое грошы, якая ад іх людзям карысць, пазнаў, да не мажэ нічога нікому сказаць, бо нельга вылезці з пограба.

От сядзіць ён і не ведае, што парадзіць, аж бачыць, што ўсе яго грошы да ўсё дабро абярнуліся ў чалавечы пот да ў кроў. Паднімаецца кроў з потам у пограбе ўсё больш да больш. От-от ужо яна даходзіць багачу па самае горла, от-от ён захлябнецца ў чалавечуй крыві. Тут багатыр сабраў што е моцы, да як крыкне, дак чуе, аж хтось абазваўся да й адчыняе дзверы. Абрадаваўся багатыр, так абрадаваўся, як яшчэ ніколі, калі ўбачыў, што яшчэ мо трохі пажыве на свеце, мо яшчэ зірне на яснае сонейка. Тымчасове бедны чалавек давай разбіраць памост, каб аслабаніць багатыра. Гэта, бачыце, быў той самы бедны чалавек, што яму багатыр даў капшук асьмакоў. Узяў ён тагды ад багатыра грошы да перш думаў, што з асьмакамі будзе лепш. Тым часам стала гарэй, як было: з грашыма ўдзень і ўночы — заўжды страшна, каб хто не ўкраў або не забіў. Не ведае бедны, куды дзяваць тыя асьмакі; носіцца з імі, бы кот з асяленцам. Не есць, не п'е, усё думае, каб не згубіць тыя грошы: годзі пець песні, годзі весела жыць. Спятраў за тыя дні, але, нарэшце, дагадаўся, што без грошай харашэй, да як дагадаўся, дак схапіў той капшук з асьмакамі да й папёр багатыру назад. Прынёс, аж таго няма. Давай бедны пытаць у людзей, гдзе багатыр, а тыя кажуць, што, мабыць, чорт на хорму ўхапіў, бо ён быў у гасподзе да раптам чорт ведае куды дзеўся. От стаіць бедны чалавек да чэша чупрыну, не вазьме сабе ў глузд, дзе найці багатыра. Але акурат тады багатыр закрычаў у пограбе. Бедны ўвазнаў яго па голасу да й кінуўся ратаваць. Дак от разабраў бедны памост да й раскідаў у пограбе столь. Вылез багатыр з пограба чуць жыў да й просіць есці. Дастаў бедны з кайстры печаную картоплю да асушкі хлеба, даў багатыру, а той накінуўся на тое, бы галодны воўк: жумрыць, аж за вушамі трашчыць. Пасілкаваўся трохі багатыр і давай дзякаваць беднаму. А той кажа:

— Богу, а мне не за што.

— От дзякаваць табе за твае грошы. На табе іх назад.

Тут бедны працягнуў руку з грашыма. Як убачыць багатыр тыя грошы да як закрычыць, што то чалавечая кроў да пот, да як пабяжыць ад грошай наўцекача, дак толькі яго пяткі мітусяцца. Бег, бег багатыр ад грошай да й ускочыў у кало-

дзесь. Калодзесь быў глыбокі. Пакуль збегліся людзі да кінуліся ратаваць, дак багатыр і заліўся. Кінуў тады бедны туды ж у калодзесь і капшук з грашыма, а сам пайшоў сабе прыпяваючы, як і ўперад.

Тады пазналі людзі, што гдзе багатства, там шчасця нямаш, што багатыр ад багатства гіне.

## 127. ЯК КУЛАК ЗРАБІЎ ДЗЕНЬ ДОЎГІМ

Кулак, што воўк: і жрэ, і з сабой бярэ — усё яму мала. З батрака стараецца сем шкур злупіць і яшчэ глядзіць, ці няма восьмай.

Тое, што я хачу расказаць, было не ў нашы дні. Адбылося гэта ў той час, калі кулак меў волю здымаць апошнюю кашулю з нас; калі багацеі смакталі нашу кроў, а беднякі не мелі ніякіх правоў; калі па спінах сялян гуляў панскі бізун, а за падаткі забіралі апошні зіпун; калі было добра жыць папам і манахам, а нас запугвалі божым жахам. Карацей кажучы, гэта было пры цары.

У кулака Жываедава працавала на касавіцы дзесяць батракоў. Ад сонца да зары касілі касары. Толькі дзе там! Хіба справішся выкасіць хутка велізарныя абшары кулацкіх лугоў? Як ні знураў батракоў кулак работай, але бачыць, што не скасіць яму за добрае надвор'е ўсяго, а наймаць больш батракоў скупіўся.

Тут якраз яшчэ падаспела свята — пятроў дзень. Шкада было ўпусціць дзень. Думаў ён, думаў і, нарэшце, рашыў пайсці да папа параіцца. Прыходзіць і кажа:

— Бацюхна, ці можна ў пятроў дзень касіць?

— Што ж,— адказвае поп,— можна, чада маё, бог працу любіць.

— А грэх жа,— кажа кулак, а сам кладзе на стол траяк.

Скасіў поп вочы на грошы і кажа:

— Ідзі з мірам, працуй, а я памалюся за грахі вашы.

Узрадаваўся кулак і ледзь не бягом пусціўся па вуліцы. Але раптам радасць знікла.

«Што, думае кулак, адзін дзень? Ці многа за яго скосіш, а плаціць батракам усё роўна трэба, каб дзень быў удвая ці ўтрая больш, вось тады іншая справа».

Так ідзе ён па вуліцы, а насустрач — стары ідзе, на кій апіраецца. Параўняўшыся з кулаком, спыніўся ён і пытае:

— Што задумаўся, ці не згубіў што?

Хацеў кулак са злосці аблаяць старога, але стрымаўся. Справа ў тым, што гэты стары хоць і бедна жыў, але славіўся на ўсю ваколіцу сваёй мудрасцю. Кулак рашыў папрасіць у яго парады.

— Скажы ты мне, чалавеча,— ласкава загаварыў кулак,— ці нельга зрабіць дзень даўжэйшым?

Задумаўся крыху стары, усміхнуўся ў сівую бараду і кажа:

— Чаму ж нельга? Можна.

— А як гэта зрабіць? — пытае кулак.

— Зрабіць гэта можна проста: устань рана, разам з пеўнямі, апрані кажух, валёнкі, цёплую шапку, пярчаткі і станавіся ўперадзе касцоў. Тады дзень будзе доўгім. Ён будзе цягнуцца да тых пор, пакуль ты захочаш.

— Што ты, з глузду з'ехаў,— запярэчыў кулак,— дзе ты чуў, каб касілі ў кажуху і валёнках?

— Ну, як сабе хочаш,— адказаў стары,— не хочаш, не слухай.

Не хацеў кулак парыцца ў кажуху, але прагнасць перамагла. Раніцой усе батракі здзівіліся, калі ўбачылі гаспадара, апранутага па-зімняму.

Пачалі касіць. Хутка разапрэў кулак у кажуху. Пот залівае вочы, быццам яго ў вар укінулі, а ззаду косы свішчуць, батракі ледзь пяткі косамі не адразаюць. Яшчэ сонца толькі ўзышло на сярэдзіну неба, а кулак ужо выбіўся з сіл. Батракі — народ прывычны, яны косяць ды пасмейваюцца і яшчэ падганяюць кулака.

Нарэшце, не вытрымаў кулак, кінуў касу і вылаяўся:

— Каб ты згінуў, пракляты дзед! Вось нараіў хваробу на маю галаву, здаецца, і канца гэтаму дню не будзе.

Батракі пераміргнуліся: яны зразумелі ў чым справа:

— Так дзень сёння нешта доўгі, як бы два разам.

Паглядзеў кулак на сонца, а яно як бы насміхаецца над прагным кулаком, які хацеў зрабіць дзень доўгім.

## 128. ГАЛОДНЫ ПАН

Было гэта даўным даўно. Жыў пан, і быў у яго парабак Іван. Адну зіму ў пана не хваціла корму для кароў. Паехаў пан з парабкам купляць сена. Ехалі яны ехалі, захацелі есці, тады парабак украў у пана хлеб, ідзе і есць.

Пан і пытае ў яго:

— Што ясі?

А парабак адказвае:

— Сена, бацюшка.

Пан пакаштаваў сена — нясмашна, а парабак усё есць і есць. Тады пачаў і пан есці, ды чуць не ўдавіўся і кажа:

— Лепш буду галодны, чым сена есці.

Едуць далей, пан і кажа, што скора будзе сяло, дзе ў яго ёсць знаёмы пан:

— Заедзем і паабедаем.

Прыехалі на двор к знаёмаму, пакуль пан злез з воза, абтросся, дык парабак пабег к пану і кажа гаспадыні, што як будуць даваць абедаць, то многа раз не прасіце пана, ато ён будзе крыўдзіцца.

Адпраглі коней і заходзяць у хату.

Гаспадыня прыгатавала абед і сказала:

— Садзіся, панок, паабедай!

Пан кажа:

— Дзякую, дзякую.

Гаспадыня больш і не прося садзіцца.

Парабак сеў за стол, пад'еў і смяецца з пана. Паслалі спаць ім на печы.

Усе ў хаце паснулі, а пану не спіцца.

Устаў і пайшоў шукаць, каб што-небудзь з'есці, а гаспадыня расчыніла цеста і паставіла на прыпечку ў гаршку. Пан найшоў гэта цеста і давай есці. Ён еў не адной рукой, а дзвюма, таму што адной няскора.

Пан уклаў абедзве рукі ў гаршчок і назад не можа вынуць.

Парабак і кажа:

— Што ты, бацюшка, не бі гаршчок у хаце, ато пачуе гаспадар.

А гаспадар спаў у другой комнаце і дзверы былі расчынены.

Гаспадар быў лысы. Парабак і кажа пану:

— Ты, пане, кідай гаршчок у гэту дзірачку, што свеціцца.

Пан як кіне гаршчок гаспадару ў галаву, дык той усхапіўся, падняў крык, а пан за дзверы ды і ўцёк.

Парабак пайшоў, запрог коней і паехаў.

Пад'язджае да суседняй вёскі, а там і чакае яго пан.

Так пан і сена не купіў, і галодны быў.

## 129. АБ ПАПОВЫМ БАТРАКУ

Как жыў адзін поп, такі чалавек быў добры, благадзецельны, а пападдзя была ліхая. Вот ён іскаў, іскаў сабе работніка, ніяк не мог найдзіць, патаму што пападдзя была ліха. Патом адзін сусед яго прыбліжні і гаворыць:

— Ну, бацюшка, я вам, як бліжні сусед, то я ўважу вас: вазьміце майго сына к сабе ў работнікі,— толькі ў такім палажэнні, чтобы ваша хазяйка не магла ў ім распаражацца.

— Ну, так што ж, ета можна, са ўсім удавольствіем.

Патом і гаворыць:

— Ну, сматры, пападдзя, у маім работніку ты не распаражайся!

Вот етаму работніку так харашо было. Патом прыходзіць восень, нужна ехаць у каляду. Поп і гаворыць на работніка:

— Ну, брат, запрагай лошадзь: мы паедзем з табою ў каляду.

Вот яны ездзілі, ездзілі, абняла іх ноч, і гаворыць свяшчэннік:

— Нужна прасіцца на начлег.

Вот ён, канешна, как свяшчэннік, не мужыку чыта, прыехаў к багатаму мужыку і гаворыць:

— Пусці нас на ноч!

А ён і гаворыць:

— А, міласці просім!

Вот яны заначавалі. Ну, канешна, свяшчэнніку там ужо было ўгашчэнне харошае, а на работніка і пазабылі, ён пайшоў убіраць лашадзей, а яны ўжо ляглі спаць. Прыходзіць работнік, і паесь нечага, патом і лёг спаць не емшы. Ляжаў ён, ляжаў — не спіцца, хочацца паесць; ведзь кішкі не свой брат, не емшы, не будзіць, ён устаў, ідзець к папу і гаворыць:

— Бацюшка, я дужа есь хачу!

— А што я табе дам? Ідзі-ка пасматры: на печке ўтворан хлеб, яго ты і падʼеш.

Вот ён і палез на печку, адкрыў дзяжу, іскаў, іскаў ложкі — не найшоў і давай есць горсцю, увесь паабмазаўся, злез аттуда і гаворыць папу:

— Бацюшка, што мне дзелаць? Я ўвесь паабмазаўся!

А поп відаў, што вісіць рукамойнік для парогу,— вот ён і гаворыць:

— Ідзі: для парогу вісіць рукамойнік,— ты ідзі і вымыйся.

Вот ён пайшоў к тому рукамойніку, а там у аббіціку чысты дзёгаць, вот ён удзеў туды рукі, а адтуда не выдзініць. Уж ён

насіўся, насіўся з етым аббіцікам — не знаець, што яму дзелаць. Патом уздумаў: сярод ізбы стаялі маслабойныя жорны, ён і гаворыць сам сабе:

— Пайду, разаб'ю аб камень еты аббіцік!

Падходзіць ён к етым жорнам пасматрэць: бялеецца камень на жорнах. То ён упацёмку не рассматрэў харашэнька, думаў камень, а там ляжаў лысы старык. Вот ён падышоў да как ляпніць етага старыка па лысіне: божа мой, еты старык как ускочыць, как справіць крык! Етаму работніку некуды дзявацца, дак бяжыць к папу і гаворыць:

— Бацюшка, паедзем дамой, у нас там няшчасце.

Поп скарэй ускочыў і крычыць на работніка:

— Праворней запрагай лашадзей: паедзем дамой.

Вот яны как селі, как паехалі.

Патом работнік і гаворыць папу:

— Ну, бацюшка, я вас спадманіў: у нас дома ўсё харашо, я толькі здзелаў неблагапалушна.

— Чым жа так?

— А во чым: як захацеў я есць, іскаў, іскаў — паесць нечага. Утворан быў хлеб, я іскаў, іскаў ложку, не найшоў, я і давай есць горсцю — абмазаўся ўвесь. Вісеў рукамойнік, я хацеў вымыць рукі: думаў вада, а там дзёгаць. Усадзіў я туды рукі, а аттуда і не выну, я стаў іскаць, аб што мне яго разбіць. Стаялі сярод хаты жорны, а на тых жорнах спаў лысы старык. Я падышоў, хацеў разбіць аб жорны, да как удару етага старыка па лазбяню: ён закрычаў да как справіў ператраску!

Вот поп і гаворыць на работніка:

— Ну, брат, спасіба табе, што ты так здзелаў, ато бы там нас задзяржалі і лашадзей бы нашых адпраглі, а цяпер, слава богу, мы дома.

## 130. ЯК БАЦЮШКА СЕНА ЕЎ

Пайшоў мужык з папом у лес па грыбы і яны заблудзілі. Хадзілі, хадзілі цэлую ноч і не маглі выбіцца на дарогу. Знайшлі ў балоце стажок сена. Гэты мужык кажа:

— Лезьма на стажок, бо з'есць воўк нас.

Гэты мужык узлез, а бацюшка не можа. Ён кажа:

— Можа, тут і не з'есць мяне воўк, — буду начаваць пад стагом.

А ў гэтага мужыка быў кавалак хлеба ў кішэні. Бацюшка пытае:

— Што ты, мужык, ясі?

— Сена.

Бацюшка просіць:

— Падай і мне сена.

— Выскубі і еш.

Бацюшка выскуб і стаў жаваць,— не можа есці.

Ён гаворыць:

— Не магу есці,— скінь мне зверху — можа, тое лепшае.

Мужык скінуў яму з гары.

Бацюшка не мог сена з'есці і начаваў галодны, а мужык наеўся хлеба. Вядома, мужык усякага чорта можа ашукаць.

## 131. ПАДАРОЖНЫ

Ішоў здалёка адзін падарожны, утаміўся, прагаладаўся й просіцца нанач. Абышоў усё сяло — ніхто не прымае, такія там жылі паганыя людзі. Што тут рабіць? Хоць начуй пад плотам! Стаіць гэта падарожны сярод вуліцы да й думае, што тут парадзіць. Тым часам ідзе старац — здаравенны мужык, чырвоны, бы рыжок. Падарожны зняў шапку да к яму.

— Так і так,— кажа,— ніхто не прымае нанач. Памажы ўпрасіць людзей. Што хочаш дам, толькі паратуй у бядзе.

— Добра,— кажа старац,— толькі ты дай мне за тое саракоўку.

Шкода падарожнаму грошай, але няма чаго рабіць. Дастаў ён каліту, выняў саракоўку й аддаў старцу.

— Ну,— кажа старац,— я буду нібыта сляпы, а ты будзь маім павадыром.

Узяўся старац за кій, і пашлі яны ў адну хату. Улазяць яны, аж там госці. Заспяваў старац свае жаласлівыя песні, а падарожны нібыта памагае. Заціхлі госці — слухаюць да ўздыхаюць. Паспяваў трохі старац да й просіцца нанач.

— Да начуйце ж, божыя людзі,— кажа гаспадар і давай ганяць бабу, каб яна скарэй падала ім пачостку. От толькі пасадзілі іх за стол, а госці пачалі расходзіцца, прыглядаецца гаспадар к падарожнаму да й кажа:

— Гэ, чалавеча, ты нас падманьваеш: ты не ўбогі, а той падарожны, што нядаўна прасіўся нанач.

Бачыць падарожны, што папаўся, да й прызнаўся ва ўсём.

— Ну,— кажа гаспадар,— няхай цябе багі любяць! Начаваць начуй, а за тое, што схацеў нас абшукаць, аставайся без вячэры.

Падзякуваў падарожны й за тое да й прылёг сабе на лаве спачываць. Тым часам ён бачыць, як частуюць старца, бачыць, куды гаспадыня хавае тую пачостку, што асталася ад гасцей. От напёрся старац, падзякаваў за пачостку, да й ляглі яны ўсе спачываць. Як ляглі, так і захраплі — спяць, бы забітыя. Толькі падарожнаму не спіцца. Ведама, галодны. Варочаўся ён, варочаўся, а потым ціхенька ўстаў, забраўся туды, гдзе гаспадыня пахавала пачостку, да ўсё й уладаваў, а крошкамі сыра абсыпаў да яечняю вымазаў старцу бараду. После таго лёг сабе падарожны спачываць. От даў бог дзень; усштурхаліся людзі. Устала гаспадыня, уздула лучыну да як зірне на старцаву бараду да паглядзіць, што няма ні яечні, ні сыра, да пачне старца зневажаць, да пачне хрысціць яго кавянёю, дак той аж не ведае, куды дзецца, й давай прасіць у падарожнага ратунку. От падарожны й кажа:

— А бачыш, як добра браць грошы з людзей, калі яны ў прыгодзе.

— Аддам і грошы, толькі ратуй ад ліхое бабы.

А тая пярэсціць яго кавянёю. Тут падарожны ўхапіў за каўнер старца да й вымчаў яго з хаты. Аддаў старац саракоўку да яшчэ й падзякаваў падарожнаму, што ён укрыў яго ад ліхое бабы. Дак от у дарозе ўсё трапляецца.

## 132. РАЗУМНАЯ ГАЛАВА

Жыў у вёсцы Смілавічы буйны, багаты пан. Прозвішча яго было Вільчынскі. Вось, гэта было ўвосень, задумаў пан натаргаваць шмат сабе грошай. Загадвае сваім прыдворным:

— Грузіце тры падводы дабра (збожжа).

Прыдворныя нагрузілі, упакавалі вазы. Усё было гатова. Пан паслаў у бліжайшую вёску лакея, каб прывёў селяніна, і расказаў яму ў чым справа. Хутка селянін і лакей вярнуліся і былі ў пана. Пан не хацеў браць больш людзей, бо думаў, што будзе лішняя трата грошай на яду дурным мужыкам.

Ён рашчытаў, што на адной падводзе паедзе сам, на другой мужык, а трэці конь у абозе будзе ісці без кучара. Дабро патрэбна было везці ў бліжайшы горад на рынак, а таму патрэбна

выязджаць пасля абеда. Такім горадам і быў Мінск. Добрых дарог у той час не было, як цяпер. Вось сонца спусцілася пасля абеда, было каля 6 часоў вечара. Пан загадвае мужыку запрагаць коней. Хутка коні былі запрэжаны. Пан садзіцца на першую падводу з партфелем, трымаючы партфель пад пахай, а другой рукой бярэ лейцы. Мужык, якога звалі Сцяпан, садзіцца на другую падводу, а трэцюю за повад верауўчаны прывязвае к сваёй падводзе. Умасціліся на вазах, паехалі. Выехалі на шырокі тракт (гэта дарога калісьці была пралажана з Масквы ў Мінск, яна была ўся абсаджана з бакоў бярозамі. Бярозы былі тоўстыя, старасвецкія, разгалістыя. Сама яна была гразная, што колы вязлі ў гразі, і паехалі павольна).

Пан Вільчынскі на першым возе сядзіць спакойна, ні слова, бо лічыў нізкім гутарыць з мужыком-лапцем. Вось едуць, едуць, а пан маўчыць. Мужык пануквае на коней ды і годзе. Вечарэе. Ужо і зусім сонца зайшло. Едуць, а коні з кожнаю мінутай становяцца, відаць, затаміліся.

Пан цярпеў, цярпеў, а потым як загаворыць:

— Мужык! А, мужык!

— Чаго,— буркнуў Сцяпан.

— Але ведаеш, якая ў мяне галава. О, у мяне галава!

— Чаму, панечка, так кажаце?

— Ото, у мяне галава, галава!— зноў буркнуў пан.

Усё было б добра, каб не застанавіўся конь, дзе ехаў пан. Нічога не зробіш, трэба выпрагаць коней і даць ім адпачнуць. І пан не сказаў, чаму ў яго такая галава. Застанавіліся ля адной з тоўстых бяроз, выпраглі коней і пусцілі пасвіцца. Мужык пасе коней і слядзіць за панам, а пан са сваім партфелем ніяк не хоча расстацца.

Сцяпан і задумаўся аб тым, каб як паглядзець, што там. Вось стала і зусім цёмна. Задумаўся пан, што рабіць з партфелем, у якім ляжалі грошы. І рашыў, што будуць пілнаваць коней па чарзе.

«Сцяпан пасціць, а я папасу, после я буду спаць, колькі ўлезе, і грошы будуць схованы за гэты час, калі будзе спаць Сцяпан». Так і рашыў пан. Вось ён кліча Сцяпана:

— Сцяпан, мужык, ідзі сюды!

— Чаго? — адказвае Сцяпан.

— Ідзі, будзе дагавор!

Прыйшоў Сцяпан. Вось пан і выкладвае Сцяпану сваю думку аб тым, каб па чарзе пілнаваць коней. Як сказаў пан, так і трэба было рабіць.

Сцяпан масціцца пад воз спаць, падсцілае куртку, а пан з партфелем пасе коней. Пан думае, як і дзе схаваць грошы, а Сцяпан думае падгледзець ды абдурыць пана — забраць грошы.

Вось Сцяпан не спіць, бо прытварыўся, але храпе.

Пачуў храпенне Вільчынскі і рашыў, што мужык спіць, што можна прыступаць к справе. Ён прыходзіць к возу, узбіраецца на яго ды становіцца на мяшкі, нагінае сук бярозы, прывязвае партфель і пускае.

Паколькі бяроза была густая, то з-за лісцяў і галінак партфель не было бачна.

Сцяпан не спаў, а ўсё бачыў, што рабіў пан. Пан тым часам ціхенька-ціхенька злез з воза ды падаўся к коням. Пасядзеў трохі і рашае будзіць мужыка, бо не хочацца сядзець ды і спаць хочацца. Яму трэба было толькі схаваць грошы, а не коней пілнаваць.

Вось ён і будзіць Сцяпана.

— Досыць спаць, мужык! Ужо мая чарга. Уставай, ідзі коні глядзі!

Сцяпан тут яшчэ захроп, пачмыхаў, плюнуў і падняўся, буркнуўшы, падаўся к коням.

Памешчык лёг у надзеі, што грошы схаваны, і хутка заснуў крэпка-крэпка.

А Сцяпан тым часам, бачачы, што памешчык спіць, узлез на воз, узяўся за галіну, нагнуў яе, адкрыў партфель, забраў грошы, а туды насыпаў пяску, напхаў ламачча.

Злез з воза, схаваў грошы і пайшоў коней пілнаваць.

Вось зарэе, а пан не ўстае.

Тут хутка і пан прахапіўся, загадаў запрэгчы коней.

Усё было гатова.

Селі па вазах. Пан зноў звярнуўся к мужыку:

— Мужык!

— Што, панечка, хочаце сказаць?

— О-о-о, мужык, у мяне галава!

Сцяпан маўчаў. Пан зноў:

— О, мужык, дурны ты мужык! О, у мяне галава! Паглядзі, што там вісіць!

Мужык і не хоча глядзець, маўчыць. Як зараве пан:

— Мужык-варона! Там вісіць партфель і грошы!

Сцяпан тут не змаўчаў і сказаў:

— Там вісіць нічога, там галлё ды партфель.

Тут пан хацеў пахваліцца. Як ускочыць на воз, нагнуў галіну, адшпіліў партфель, засунуў руку, а там... галлё ды пясок.

Усхадзіўся пан, насеў на Сцяпана, а Сцяпан так тых грошай і не аддаў. Што не рабіў пан, а мужык не прызнаўся. Прышлося зноў адправіцца дамоў. Мужыка вызвалі на суд, але суд нічога не прысудзіў. Так перахітрыў Сцяпан пана, і сам стаў жыць ды пажываць, ды дабро нажываць. Тут і казцы канец.

## 133. ЯК ВАНЬКА ПАРАБКАМ СЛУЖЫЎ

Жылі-былі тры браты: два разумныя, а трэці — Ванька-дурны. Разумныя браты зямлю аралі, хлеб дабывалі, а Ванька зімой і летам на печцы грэўся ды есці трэбаваў чым паболі. Раззлаваліся браты і выгналі Ваньку вон. І пайшоў Ванька, куды вочы глядзяць. Ідзе ён праз вялікае-вялікае сяло. Дамы ў гэтым сяле ўсе харошыя, зеленню абсаджаны. А каля аднаго дома сядзіць на лавачцы гаспадар ды люльку пакурвае.

— Дзе ты ходзіш, хлопец? — пытаецца ён у Ванькі.

— Іду, куды вочы глядзяць,— адказвае Ванька.

— Выгналі мяне браты з дому, не маю цяпер ні прытулку, ні начлегу.

— Хочаш да мяне ў парабкі пайсці?

— А чаму б і не? — абрадаваўся Ванька.— Я ўсё ўмею рабіць.

— Работы-та асаблівай у мяне няма, хіба на ворыве быкоў вадзіць ды дома жывёліну даглядаць. Давай зразу дагаварымся наконт платы — і дзелу канец.

— Заплаціце 100 рублёў золатам, дык буду верай і праўдай служыць табе, аж пакуль у тваёй хацеваўкі не завыюць.

Гаспадар падумаў, падумаў і рашыў, што 100 рублёў золата ён можа і не будзе плаціць, затое работнік будзе доўга, бо ў яго хаце ваўкі не вылі і не завыюць.

— Згодзен,— кажа гаспадар.

— Толькі я хачу яшчэ аб адным папярэдзіць,— кажа Ванька,— на леце я тры разы зыпкую. Так што тады не пакарайце, калі мяне зып заспее ў час работы.

— Гэта няважна,— успакоіў яго гаспадар, думаючы, што Ванька жартуе.

Сказана — зроблена. Ударылі па рукам, справа ўладжана.

— Сягодня гуляй,— кажа гаспадар,— а заўтра араць пойдзем.

Ванька адправіўся на сяло паслухаць, выведаць, як у гэтых краях люд жыве.

— Ты глядзі, хлопец, будзь насцеражэ,— кажуць мужыкі.— Да тваёй гаспадыні поп ходзя, гаспадар аб тым не ведае. Чаго добрага, гаспадыня можа атравіць, ці якую трасцу ўстроіць, каб лацвей было з папом любошчы вадзіць.

А Ванька знай маўчыць ды на вус матае, што добрыя людзі кажуць. На зарэ гаспадар будзіць Ваньку ехаць на ворыва.

Ванька надзеў кажух з буркай, шапку зімовую, валёнкі на ногі ўссунуў. Гаспадар дзіву даецца, што за дзівак яго работнік.

— Гэта каб жара не данімала,— гавора Ванька.

Арэць гэта гаспадар, а Ванька знай сабе быкоў водзіць ды на дом пазірае. Сонца ўжо ладна паднялося, як бачыць Ванька, што пашкандаваў поп да гаспадыні. Тады ён топ-топ нагой, перакаціўся па раллі ды ў кусты.

«А праўду, падла гаварыў, што зыпу баіцца»,— думае сам сабе гаспадар.

А Ванька ўбег у кусты, скінуў кажух ды вальней і пабег дадому.

— Прэцца ж гэты чорт,— згледзеўшы Ваньку праз акно, закіпяціўся поп.

— Дзе ж мне, галубка, схавацца.

— Лезь, бацюшка, пад печ,— параіла гаспадыня.

Ледзве залез поп у падпечак, як убягае ў хату Ванька.

— Ну, як арэцца? — быццам нічога не бывала пытаецца гаспадыня.

— Ай, чуеш, ці ведаеш, гаспадынька, не дай бог маёй службы. Робіш адно, а тут табе другое пасылаюць. Гаспадар кажа, што дождж паказвае, дык загадаў колля, што пад прызбай ляжаць, пад печ скідаць, каб не змоклі на дажджы.

(Ванька адразу ўбачыў, што поп падпечкам сядзіць).

— Ванічка, аддыхай, я сама скідаю.

— Мне загадана, я і павінен зрабіць.

Набраў Ванька бярэма калкоў і давай іх выкладваць пад печ. Поп і туды і сюды, нідзе не знойдзе спакойнага мейсца. Выламаў драбінку ды ходу.

— Гаспадынька, глядзі якога чорта выгнаў.

А гаспадыня топчыцца, як на вуголлях, не ведае, што і сказаць.

Тым часам Ванька забраўся на сенавал спаць. На зарэ гаспадар зноў будзіць Ваньку на ворыва ехаць. Ванька зноў апрануўся ў зімнюю адзежу і паехалі. Водзіць гэта Ванька быкоў ды на дом паглядае. Як сонца трохі паднялося, бачыць Ванька,— пашоў поп да гаспадыні.

Ванька топ-топ нагой, перакаціўся ў раллі і пабег у кусты. А гаспадара злосць бярэ, што араць трэба, а тут зноў быкоў няма каму вадзіць. А Ванька скінуў у кустах кажух, валёнкі і пабег дадому.

— Дзе ж мне цяпер хавацца, ляціць ізноў гэты чорт,— занепакоіўся поп.

— Лезь, бацюшка, на гару, там стаіць яшчык з пер'ем, дык ты ў пер'е схавайся, хваробу, не нойдзе там.

Пот так і зрабіў. А Ванька яшчэ здалёку ўгледзеў, куды палез поп.

Убег ён у хату, а гаспадыня, як ні ў чым ні бывала, пытаецца:

— Ну, як арэцца, Ванічка?

— Ай, чуеш, ці ведаеш, гаспадынька, ужо як маё шчасце, дык не дай бог каму такога. Загадаў жа гаспадар пер'е перасушыць, што на гарэ стаіць, ато, кажа, там пацукі гнёзды павілі.

— Аддыхай, Ванічка, я сама перасушу.

— Мне загадана, я павінен зрабіць.

Узяў Ванька яшчык ды як кіне з чардака аб зямлю. Поп выскачыў з пер'я ды давай ходу.

— Глядзі, гаспадынька, які вялікі пацук пабег.

А гаспадынька тая топчыцца, як ачумелая. Ванька забраўся на сенавал і праспаў да раніцы. На зарэ гаспадар і будзіць Ваньку на ворыва ехаць. Ванька апрануў кажух, валёнкі, шапку зімовую і паехалі. Ванька водзіць быкоў ды на дом пазірае. Як сонца трохі паднялося, бачыць Ванька — пашоў поп да гаспадыні.

Ванька топ-топ нагой, перакаціўся ў раллі і ў кусты. Гаспадара зло бярэ, што такога работніка ўзяў, каторы зыпу баіцца. Ванька скінуў у кустах адзенне зімняе і пабег дадому.

— Прэцца ж гэты чорт,— занепакоіўся поп.— Дзе ж мне цяпер схавацца?

— Бяжы, бацюшка, у хлеў, схавайся сярод цялят.

Бачыць Ванька, куды падаўся поп.

— Ну, як арэцца, Ванічка? — сустрэла яго на ганку гаспадыня.

— І не пытай лепш, гаспадынька. Такі пырнік, што карага не ўбіць. Загадаў гаспадар цялят выгнаць, каб аб'елі трохі.

— Аддыхай, Ванічка, я сама выганю.

— Мне загадана, я і павінен зрабіць.

Зняў Ванька са сцяны бізун і пашоў у хлеў.

— Цяляткі, ці ўсе вы? — пытаецца ён.— Цяляты: адно, два, пяць, дзесяць, адзінаццаць.

— А адкуль жа гэты дванаццаты бычок узяўся? — пытаецца Ванька ды калі ўрэжа бізуном папу па спіне. Поп аж зараве ад болю ды наўцёкі.

Бачыць поп, што няма ратунку ад Ванькі, і назаўтра паехаў і ён араць. Гаспадар з Ванькам араў у лагчыне, а поп трохі далей за ўзгоркам. У гаспадара абодва быкі чорныя, а ў папа — адзін з белай перапялісткай праз крыж. Ванька зняў споднікі і павесіў на аднаго быка.

— Нашто ты споднікі скінуў? — пытаецца гаспадар.

— Горача надта. А ведаеш, гаспадар, гаспадыня абяшчала вельмі смачны палудзень прынесці.

Толькі сонца на поўдня, гаспадыня ўвязала вандзэлак яешні, сала, ґуся смажанага, гарэлкі пляшку і нясе папу.

Бачыць у лагчыне адзін бык падласы і шыбуе прама туды. Падышла, глядзіць, аж гэта гаспадар яе з Ванькай. Няма куды ёй падзецца, мусіла развязаць свой вандзэлак.

— Як гэта, каб і бацюшку паклікаць,— кажа яна.

— Схадзі, Ванька, пакліч,— загадаў гаспадар.

— Бацюшка,— прышоўшы, кажа Ванька,— гаспадар узнаў, што ты ходзіш да гаспадыні. Гразіўся засячы цябе.

А вярнуўшыся да гаспадара, сказаў:

— Сашнік паламаўся ў бацюшкі. Прасіў, каб ты, гаспадар, прынёс яму тапор.

Гаспадар узяў тапор і пашоў. Бацюшка згледзеў, што той ідзе з тапаром, і ну ўцякаць.

— Пачакай, пачакай!— крычыць гаспадар, а поп яшчэ хутчэй уцякае.

З'елі гаспадар з Ванькам удваіх палудзень. Ванька вырваў адну травіну і кажа:

— Калі гэту травіну спячы ў булцы — аслепнеш.

Вырваў другую.

— Калі гэту травіну спячы ў яешні — аглохнеш.

Вырваў трэцюю.

— Калі гэту спарыць з малаком — зусім памрэш.

Гаспадыня ўкрадкай сабрала гэтыя травы і панесла гатаваць страву. А Ванька кажа гаспадару:

— Як сягоння сядзем вячэраць, глядзі, што я буду рабіць, тое і ты рабі.

Прыехалі яны вечарам з арбы, гаспадыня паставіла ім вячэру адменную: булкі, яешня, малако паранае.

Укусіў Ванька булкі і пачаў тыкаць рукамі куды папала, а гледзячы на яго — і гаспадар.

«Аслеплі, слава богу»,— думае гаспадыня.

Паеў Ванька яешні. Гаспадыня да яго гаворыць, а ён нічога не чуе. Гаспадар таксама. Хлебануў Ванька малака і бац пад стол, а гаспадар за ім.

— Падохлі,— абрадавалася гаспадыня.

Паклікала папа. Усю ноч з ім ела, піла, пела, весялілася. Пад дзень поп і кажа:

— Усяк пелі, толькі па-воўчаму не вылі,— і давай выць.

Ванька ўсхапіўся і кажа:

— Гаспадар, у тваёй хаце ўжо ваўкі выюць, давай 100 рублёў золата.

Памыкаў гаспадар, але мусіў заплаціць Ваньку абешчаных 100 рублёў золата.

Так Ванька за чатыры дні службы зарабіў столькі грошай.

## 134. ЯК ПАПОЎ БАТРАК ПАПАДДЗЮ ПРАЎЧЫЎ І ДЗЯКАНА, ЯЕ СПАЛЮБОЎНІКА, І ПАПА НАШЧОТ ПАПАДДЗІ АБРАЗУМІЎ

У некаторым царстве, у некаторым гасударстве, не іменна ў том, у каторым мы жывём, жыў поп. Вот нужын быў яму работнік, вот ідзець прахожы чалавек і гаворыць:

— Бацюшка, я слышаў, што вам нужна работніка.

— Да, нада.

— Ну, найміце мяне.

— А какую плату табе даць, прахожы чалавек?

— А сто рублей, бацюшка.

— Да какова ўрэмя?

— А пакуда за печкаю цяляты замычаць.

Поп думаў, думаў, какія ета цяляты, потым і гаворыць:

— Ну, так і так.

Вот ён яго наняў, патом і гаворыць:

— Ну, брат, паедзем у поле пахаць.

Вот яны едуць на цэлую нядзелю пахаць. А работнік знаў, што дзякан жывець з пападдзёю. Вот яны пахалі, пахалі цэлы дзень, патом прыходзіць ноч, адпраглі лашадзей, паужыналі, поп лажыцца спаць, а работнік сядзіць. Поп і гаворыць:

— Што жа ты не лажышся?

А ён атвячаець:

— Нет, бацюшка, мне нямьзя спаць.
— Чаго так нямьзя?
А ён яму гаворыць:
— А ў мяне палуношніца.
А ён гаворыць:
— Ах, божа, як мне цябе жалка. Дзень работаў, работаў і ноч не спаць.
— Ну, што дзелаць, бацюшка!
Толькі поп заснуў, а работнік за што наняўся, тога і смотрыць. Садзіцца на каня і паехаў дамой, прыязджаець дамой, а дзякан з пападдзёй піруюць. Ён пасматрэў у вакошка і давай стучаць:
— Атварыце-ка мне!
Пападзя і спрашыіць:
— Хто там такой?
— Я, работнік ваш.
Пападдзя і гаворыць:
— А, дзяканька мой, куды мне цябе дзець? Палязай ты пад пол.
Вот ён уходзіць у хату і гаворыць:
— Ах, к якому я беспакойнаму папу наняўся: дзень работай, а ноч не спі. Вялеў мне, штобы я печку вытапіў і цялят напаіў!
— А едзь ты, едзь. Я сама напаю.
— Не, матушка, пушчай не грэх будзіць пабажыцца, што я сваё справіў.
Вот ён затапіў печку, нагрэў пойла і давай цялят паіць. Вот ён паіў і папаўся яму дзякан. Вот ён как саскрэб яго за грыву, уж ён яго тапіў, тапіў, абпачкаў яго ўсяго ў пойла, а сам выйшаў і смотрыць пад вакно, вылазіць дзякан з-пад полу і гаворыць:
— Во, нанялі работніка, такога беспакойнага.
Работнік і паехаў апяць у поле. Прыязджаець ён к свайму месту, к шалашу, поп спіць і ён лег спаць. Назаўтрыга ўстаець поп і будзіць работніка:
— Ну, брат, уставай, будзем пахаць.
Работнік устаець і начынаець пахаць. Вот яны пахалі апяць да вечара, адпраглі коней, паужыналі, поп лёг спаць і гаворыць:
— Ну, брат, лажысь да спі.
— Нет, бацюшка, вы знаеце: у мяне палуношніца!
Поп заснуў, а работнік апяць паехаў, прыязджаець дамой, стук, стук пад вакно і гаворыць:
— Атвары, матушка! — (А дзякан уж там). Яна і спрашыіць:

— Хто там такі?

Ён і гаворыць:

— Ета я, работнік.

— Што ты прыехаў?

Яна і гаворыць:

— А, дзяканка ты мой, а дзе ж мне цябе дзець? Лезь на горніцу да ўлезь у мяшок.

Вот ён узлез на горніцу і ўлез у мяшок.

А работнік уходзіць у горніцу і гаворыць:

— Ах, к какому я беспакойнаму папу наняўся: дзень пашым, а ноч упраўляйся!

Яна і спрашыіць:

— Што ж ён табе прыказаў?

— Дак как жа што? Вялеў улезць на горніцу і перашчытаць мяшкі з пер'ем!

— Да я сама знаю, скалькі іх там. Паязжай ты ў поле!

— Нет, матушка, няхай мне не грэх будзіць пабажыцца, што я сваё справіў.

Вот ён палез на горніцу і давай еці мяшкі шчытаць, і папаўся яму мяшок, ідзе сядзеў дзякан, вот ён яго збросіць, збросіць аб землю да й апяць усташчыць, патом перашчытаў і апяць паехаў у поле. Вышаў за вароты і смотрыць пад вакно: уваходзіць дзякан, увесь ізбіты, і гаворыць:

— Во, нанялі работніка, какога беспакойнага: яму і ночы нет.

Прыехаў работнік апяць к свайму месту і лёг спаць. Назаўтрыга поп і будзіць работніка:

— Ну, брат, уставай — пара пахаць.

Пахалі, пахалі апяць да вечара, патом адпраглі коней і ляглі спаць. Работнік апяць устаў, сеў на каня і паехаў апяць дамой. Во ён стук, стук у вакошка і гаворыць:

— Матушка, атвары.

А яна гаворыць:

— А, дзяканка мой, куды ж мне цябе дзець. Вазьмі лезь за печку. Вот яна яго схавала, патом і спрашыіць:

— Хто ета там такой?

А ён атвячаіць:

— Ета я, работнік ваш!

— Што ты прыехаў?

— Да как жа, матушка, какой ваш беспакойны поп: сам ляжыць спаць, а мяне пасылаець печку вытапіць, вады нагрэць і ўсіх прусоў за печкай павыварыць!

— Паязжай ты спі: я ўсё падзелаю.

— Нет, матушка, пускай мне не грэх будзіць пабажыцца, што я сваё справіў.

Вот ён затапіў печку, нагрэў вады і давай прусоў заварываць: абварыў усяго дзякана, а сам пашоў і стаў пад вакошкам. Дзякан вылазіць із-пад печкі і гаворыць:

— Ну, я тапер досыць хадзіць к табе за такім машэннікам: ета не работнік, а ета машэннік, ён мне нідзе не даець спакойна спратацца. А вот табе скажу: заўтра я паеду пахаць, а ты мне прынясі абедаць.

— А йдзе мне цябе найці?

— А я буду пахаць пад бярэзнікам на пегым кані.

А работнік ета і слышыць, патом і паехаў апяць на места, лёг спаць і заснуў. Назаўтрыга поп устаець і будзіць:

— Ну, уставай, давай пахаць.

Апяць пахалі, патом і гаворыць:

— А што ты, бацюшка, знаеш?

— А што?

— Сяводні нам матушка прынясець палуднаваць!

— А пачом ты знаеш?

— А я відзеў ва сне.

Вот прыходзіць дзела к палудню, а ён пахаў на вараном кані, вот ён узяў да збросіў з сябе далоў штаны, падпаясаў лошадзь і здзелаў яе пегаю. Вот яна ідзець і нясець абедаць дзякану. Глядзела, глядзела з краю, ідзе пашуць на пегым кані, патом ідзець прама к ім. Патом ён і гаворыць:

— Во, бацюшка, віць нам матушка палуднаваць нясець: мой сон збыўся!

Вот яна падходзіць бліжы, пасмотрыць — не дзякан, а поп, то уж ёй некуда дзявацца, яна прыносіць прама к ім і плачыць, а поп спрашыець:

— Што ты ета сяводня ўздумала пра нас?

А яна гаворыць:

— А, бацюшка, сяводні маёй матушкі дзень, то я прынесла к вам атслужыць панахвіду.

Вот ён і гаворыць на батрака:

— Схадзі-ка за дзяканам.

Вот ён прышоў к дзякану і гаворыць яму:

— А што ты, дзякан, знаеш?

— А што?

— А ведзь поп знаець, што ты з пападдзёй жывеш.

Патом пашоў к папу і гаворыць:

— Не, бацюшка, не ідзець: ён гаворыць, штобы вы прышлі.

Вот ён пашоў за дзяканам, а работнік гаворыць:

— Бацюшка, вазьмі палку, ато яго сабакі ўкусяць цябе.

А дзякан як увідзеў, што поп ідзець з палкаю, думаў, што ета яго поп ідзець біць за то, што з пападдзёй жывець, да як пусціцца на ўход, а поп гаворыць:

— Дзякан, дзякан, падажджы! Што ты ета збясіўся?

А ён гаворыць:

— У цябе мыслі дурныя.

Поп прышоў і гаворыць:

— Дзякан наш, знаць, ашалеў! Я крычу: пажджы, а ён уходзіць, як воўк. Ну, што дзелаць? Я і адзін адслужу!

Во што дзякану несена, поп з работнікам усё пакушалі за здароўе дзякана. Вот яны ў суботу прыязджаюць дамой, назаўтра нада служыць абедню. Поп пашоў служыць, а дзякан не думаець: баіцца папа.

Вот аднажды пападдзя пашла ў калодзісь вады браць, прышлі і другія бабы, і пашлі ў іх там разгаворы, а работнік упярод адну ўдаву падгаварыў, штоб яна ёй расказала, чым іх істрабіць, вот яна і гаворыць:

— Матушка, у мяне ёсць такія каплі, што ежэлі дасі іх, то яны ад аднаго аглохнуць, ад другога аслепнуць, а ад трэцяга падохнуць.

Вот яна і гаворыць ёй:

— Ах, мая ты галубушка, дай мне етых капель!

Баба гаворыць:

— Матушка, я дарма не дам.

— А што возьмеш за іх?

— А толькі 100 рублей.

Пападдзя вынула і аддала, вот яна прыносіць вады і гаворыць папу:

— Бацюшка, я вам сяводня нагатую, чаго вы хочыце.

— Ну, гатуй.

А работнік гаворыць папу:

— Бацюшка, паслухайце мяне, што я буду дзелаць, то і вы дзелайце.

— Ну, харашо,— сказаў поп.

Вот яна засадзіла іх за стол, давай ім падаваць да ўсе еты лякарствы так і падсыпаець. Вот яны аслеплі, яна паставіла другой, то яны аглохлі. Крычаць адзін на другога. А яна гаворыць:

— Ну, слава богу!

Паставіла трэція, а яны елі, елі і заваліліся, а яна з радасці заскакала, зняла са стала, што яны елі, заслала чыстую скаця-

ротку, пабяжала з радасці за сваім дзяканам, прывяла і гаворыць яму:

— Во, што хацела, то й падзелала.

Вот яны січас началі піць, гуляць: пілі, пілі, гулялі, гулялі, а патом саскрэб дзякан пападдзю і павалок за печку і замычалі, як цяляты. Тады работнік і гаворыць:

— Бацюшка, цяляты мычаць за печкаю.

Работнік ускачыў, поп ускачыў: во й давай цянуць іх аттуда. Вот поп дзякана біў, біў і валасы ўсе папавырваў. Тада і работнік і гаворыць папу:

— Ну, бацюшка, я жыў у вас і служыў вам, цяпер ужо мне пажалуйце рашчот.

Вот поп узяў работніка рашчытаў, пападдзю прагнаў із дому далоў, а сам стаў жыць да пажываць, да дабра нажываць. Я там быў, мёд, віно піў, па губам цякло, а ў рот не папала; далі мне калача, куда та памача; я быў смел, узяў да і з'еў.

## 135. ЯК ЧОРТ МУЖЫКУ ВОЧЫ АДКРЫЎ

Быў сабе адзін чалавек, а такі лядашчы, што ў яго ніяк парабак ні ўбыў. Едзе ён аднаго разу шукаць парабка, ажно коўзаецца нейкі хлопец па ляду дый кажа:

— Дзядзьку, а ты куды едзеш?

Так гаспадар:

— А табе што, смаркачу, за дзела?

Як зачаў ён прасіць, як зачаў маляставаць, мусіў ён яму сказаць:

— Еду,— кажа,— парабка шукаць.

— А мой,— кажа,— дзядзюшку, а мой родненькі, то вазьмі мяне.

— А ты,— кажа,— на што мне здаўся? Уласна ты мне здужаеш рабіць усё, што мне трэба?

— Вазьмі мяне хоць на тыдзень, паглядзіш, што ўсё чыста зраблю, што прыкажаш.

Не мог гаспадар адчапіцца, мусіў узяць.

Прывёз дахаты, пабыў хлопец з тыдзень ці са дзве нядзелі, гаспадар здзівіцца не можа: яшчэ ён яму не скажа работы, анно задумае, што сказаць, а той ужо дагадаецца і ўсёнечка зробіць, так што гаспадара да нічога не дапусціць.

Пабыў якісь час, гаспадар кажа:

— Ну, сынку, скажы, што ты хочаш на рок, бо я з цябе да гэтай пары кантэцен.

— Нічога,— кажа,— дзядзюшку, анно як будзе ўлетку горача, каб ты мяне пушчаў купацца, як я папрашуся. Я ў цябе, дзядзюшку, буду датуль, дакуль у цябе козы не завядуцца.

Гаспадар удзіў дзівіцца: «Што то за такое? Чаму то ён платы не хоча? Я ўвек козаў не буду дзяржаць,— думае сабе,— абы гэтакага добрага хлопца не пазбыць».

Прышла ўжо вясна, вышлі яны гараць маладым быком: гаспадар гарэ, а ён быка водзіць; баало, прыдуць на поле, то ён кажа:

— Ну, ляж сабе, дзядзюшку.

Гаспадар ляжа, крыху задрэмле, прачхнецца, а тут ужо гоны згораны, анно ўжо валы на мяжы пасуцца! Такі ўжо гаспадар з яго раад, што ні сказаць!

Аднаго разу слонко прыгрэла, просіцца ён у гаспадара:

— Дзядзюшку, пусці ты мяне выкупацца.

Так гаспадар:

— То ідзі, сынку, то ж ты сабе вымавіў гэта.

А ён:

— Ляж ты сабе, дзядзюшку, засні крыху, а я зараз прыбягу — яшчэ і так згарэм загодзь.

Гаспадар сабе лёг, а ён то заміж купацца пабег дахаты, бо ведаў, што ў гаспадыні свае застане кума. Прыбег пад дзверы — засунены, так давай крычаць:

— Цётка, адчыні!

Так то кум хутчэй пад печ да курэй, утэды яна яго ўпусціла.

— А ты,— кажа,— чаго прышоў, мо саха папсавалася?

— Не,— кажа,— гэта дзядзька прыслаў, каб я куры пакарміў.

— Не трэба! Нашто іх карміць? Я толькі што пакарміла і загнала пад печ.

— Ат! Што ты, цётка, мне гаворыш! Што дзядзька кажа, я мушу слухаць.

Насыпаў пшаніцы, так кліча курэй, так кліча.

— А што яму за кадук, певень не вылазіць!

То так качаргу ўзяўшы, давай яго таўчы пад печчу, давай пароць! Наштырхаў, пападаў яму добра, кінуў качаргу:

— Аршак цябе бяры! Сядзі, калі не хочаш вылазіць! — і сам пабег.

Як прышоў, так гаспадар пытае:

— Ну а што, выкупаўся?

— Алс,— кажа,— выкупаўся, дзядзюшку, аж мне лягчэй стала.

Выгаралі свае гоны, прышлі дахаты, гаспадыня ўжо такая добрая! І палудзень дала лепшы, не елі заўсёды, і так ужо ім дагаджае, а гаспадар аб нічом не ведае, што тут такое.

Ну, на другі дзень пашлі гараць, так зноў ён кажа, што пойдзе выкупацца.

Пабег ён ізноў дахаты. Прыбег, застукаў дый крычыць:

— Пусці, цётка!

Гаспадыня сюд-туд, не мела, дзе кума падзець, у цялята ўсадзіла.

— Чаго ты,— кажа,— прыбег?

— Ля! Казаў дзядзька цялятка накарміць.

— Што ты са сваім дзядзькам! Я толькі што накарміла і напаіла.

— Адчапіся, цётка! Што мне дзядзька кажа, я буду тое рабіць.

Так то гаспадыня і кум чыста патрупянелі, а ён гэта ўзяўшы добрага шушвалка, пашоў цялята выпускаць. Павыпускаў цялята, а кум стаіць загнуўшыся пад жолабам, так то парабак:

— А ей! — кажа,— цётка, ато ж воўк да цялят улез!

Да ну ж яго там шушвалкам акладаць. Так яна:

— Дзе? Што? Які воўк?

А ён яго перыць да перыць! Як ні вырвецца кум, як ні паляціць, як чорт! Утэды ён цялята пазаганяў дый сам пашоў гараць.

Прышоў як нібы тое згаралі, прышлі дахаты, зноў такая гаспадыня ўжо добрая, што мужык сцешыцца не можа.

На трэці дзень зноў ён ад гарання прышоў бы то купацца. Прыбягае пад дзверы, гаспадыні недзе яго падзець, так гэта ў мяшок у воўну дый палажыла пад падушкаю.

Парабак гэта ўвайшоўшы ў хату, хутчэй давай дрова шчапаць і воду грэць на коміне. Так гаспадыня пытае:

— А ты што гэта будзеш рабіць?

— Ля! Казаў дзядзька, каб я ў воўне моль папарыў.

Так гаспадыня чыста скіпянела дый кажа:

— Нашто? Ці ты здурнеў са сваім дзядзькам разам! Я нядаўна перасушвала: молі няма, воўна свежа.

А ён:

— Ат! Што ты мне гаворыш, што дзядзька кажа, буду тое рабіць.

Да гэта выняў мяшок, палажыў серад хаты да давай палівацъ кіпятнем, а кум так ужо варушыцца ў мяшку!

— А што, цётка? Ты казала молі няма, бач, як варушыцца! Выліў цэлы саган вады.

— Цяпер,— кажа,— сушы сабе сама, бо я часу не маю, дый пабег.

Ён з хаты, а кум вылазіць з мяшка, як мыш апоўзла.

— А мая кумка,— кажа,— ужо я да цябе нігды не пайду!

— Чаму? — кажа,— прыдзі, кумок, прыдзі.

— Дальбо, кумка, не прыду, бо ён мяне з свету збавіць.

Так яна:

— Ну, то скажы, кумок, дзе ты будзеш заўтра гараць, то я табе штоколек звару дый прынясу.

— Пад лесам, кумка.

— А якія ж твае валы?

— Адзін,— кажа,— праз спіну белы, а другі праз шыю белы.

— Ну, то добра, я буду ведаць.

Прышлося назаўтра дзень, гаруць яны, гаруць, ажно парабак кажа:

— Дзядзьку, скінь ты свае ганавіцы і дай мне.

— Нашто табе? Ля, здурэў ці што!

— Дай,— кажа,— дзядзюшку, дай, дай, паглядзіш, будзе баль!

Не мог ён адчапіцца, мусіў даць. Так то парабак узяўшы і свае скінуў дый аднымі перавязаў шыю валу, а другому пераз спіну да й кажа:

— Дзядзюшку, пагары ты крышку адзін, а я схаваюся ў разору, каб мяне не відаць было.

— Здурэў,— кажа,— гэты хлопец сягодня ці што?

— Ай,— кажа,— ціха, дзядзюшку, зараз будзе баль.

Калі гаспадар аглянецца, ажно чаго нігдачкі не было, нясе гаспадыня палуднаваць! Утэды парабак хутчэй то з разоры схапіўся, ганавіцы пасхватываў дый кажа:

— Кладзі, дзядзьку, хутчэй!

Калі гаспадыня прыгледзіцца, ажно яна не да кума прышла, да да мужыка! Падышла, так гаспадар пытае:

— Ля! Чаго ты прышла?

— От,— так ёй няма чаго ўжо казаць,— гэта вы так цяжка працуеце, наце крышачку ўкусеце то сяго, то таго.

Калі яны паглядзяць, ажно куды! І гарэлка, і мёд, і закуска ўсяляка!

Калі яна разгледзіцца па палетку, ажно і кум недалёка гарэ, так яна гаворыць ужо да мужыка:

— А то ж ун дзе,— кажа,— кум наш недалёка гарэ, трэба клікнуць, няхай і ён пакаштуе.

Так мужык:

— Ну, але,— кажа,— трэба.

— То я,— кажа,— пайду, клікну.

А парабак:

— От,— кажа,— то я сам падбягу, а вы пасядзеце, цётушка. Да то ўхапіўшы свалакі, пабег!

А гаспадыня:

— А нашто ты свалакі ўзяў? Ён спалохаецца цябе.

— Калі, цётушка, у яго надта сабакі лядашчыя, то я баюся, каб не з'елі! — а сам далей да далей!

Кум як аглянуўся, як спасцярог, што парабак са свалакамі да яго бяжыць — як не пойдзе ў лес! А той са свалакамі за ім да крычыць:

— Я табе, гыцлю, спраўлю палудзень!

Так то гаспадыня ўгледзеўшы, што кум пабег у лес, за ім, гаспадар за гаспадыняю, а парабак кума ўжо чорт знае дзе запёр! Яны па лесе бегаюць, гукаюць, а парабак хутчэй вярнуўся да валоў, усё папіў, паеў, што гаспадыня прынесла, а сам зноў пабег у лес, нібы кума шукаці.

Пакуль яны разбіраліся, папрыходзілі, ажно няма нідзе нічагутка! Так то падумалі сабе, што гэта сабакі чые паелі. Пасля таго, ужо ўвечары, намаўляе парабак гаспадара:

— Дзядзьку,— кажа,— выбірайся ты нібы дзе ў дарогу за мною: паглядзіш ты, што ў це ў хаці робіцца.

Так той праз цікавасць прыстаў.

Пашлі яны пяшком нібы на кірмаш, а тым часам схаваліся ў гумне.

Гаспадыня, як толькі яны пашлі, хутчэй дала кумаві знаць, а сама панаварывала і панапякала ўсяго ўсялякага. Кум ужо мае прысці, парабак гэта ўзяў гаспадара, увязаў у куль, у салому, а сам чыста адмяніўся і прыходзіць у хату.

— Мая,— кажа,— гаспадыньку, пазволь мне пераначаваць.

Яна крыху паспрачалася і пазволіла. Ён кажа:

— Я і саломку сваю маю пад бок, анно мне дзе куточак легчы дайце.

Палажыў салому ў кутку, сам лёг на лаве, ажно прыходзіць кум пад дзверы дый:

— Мікікее! — забляяў, як казёл, а гаспадыня ў хаце:

— Мікікее! — да хутчэй стол заслала і заставіла ўсім усялякім.

Кум уваходзіць — кума за стол, утэды парабак узяў куля, развязаў:

— От,— кажа,— паглянь, дзядзюшку, што ў цябе ў хаце робіцца, і бывай здароў, бо ўжо ў цябе казлы завяліся.

І то сам у вокавідзі знік, анно вецер халодны загудзеў па хаце.

Утэды гаспадар дагадаўся, што гэта быў чорт, не парабак, дый пераканаўся, якую жонку мае.

## 136. ЗА ШТО МУЖЫК ПАПУ БАРАДУ АБГАЛІЎ

Былі адныя, нядаўна пажаніўшыся мужык і жонка, а да тае маладзіцы падыходзіў поп. Дзе быўшы аднаго разу зрабілася яна хвора дый кажа:

— Знахар мне прырадзіў, каб ты прынёс з мора такіх жабаў, то казаў, што мне ад іх палепшае.

Мужык, нябось, ні дурны, зміргаваў, што тут нештась е, так кажа добра і паехаў у лес. Да то як сцямнела, вярнуўся назад, глядзіць, ажно ў стайні стаіць такі харошы конь, што ні жарты, а гэта тым канём прыехаў поп дый панавозіў усяго ўсялякага. Ён зара-то пашоў да суседа дый пытае:

— Не знаеш, братка, што гэта за конь у маёй стайні?

— Не,— кажа,— не ведаю. А-а, гэта, мусіць, ці не поп да твае жонкі прыехаў! Знаеш, як зробім? Ты ўсмаліся ў ва што, перамяні адзежу і зрабіся сляпым, а я, братка, перабяруся дый буду це вадзіць.

— Добра.

Так зара гэдак і зрабілі: перабраўся адзін, другі дый ідуць. Увайшлі ў хату, ажно там поп з ёю так банкетуе! Яна здаравюсенька, гуляе так! Яны далі пахвалёны дый просяцца нанач.

— Добра,— кажа,— залезце сабе тамака за храмугу.

Яны пазалазілі дый сядзяць, а яна кажа:

— Ну, ужо выправіла сваго мужыка, мусіць, ужо ён стуль і не вернецца, дый давай падцінаць:

Выправіла мужыка па жабачкі,
Каб не вярнуўся да свае каханачкі!

(А яе той мужык называўся Раман). Сусед, як гэта пачуў, так і ёй давай падцінаць:

Ці ты бачыш, Рамане,
Свае жонкі спяванне?
Вісіць канчуг на сцяне,
Будзе папу па сцягне:
Папу раз, жонцы, два,
Голадырда, голадра!

Поп гэта як учуў, так кажа да яе:

— Трэ яму даць гарэлкі, каб гэдак не спяваў.

Ну, далі яму чарку, ён выпіў дый зноў падцінае сваё:

Ці ты бачыш, Рамане,
Свае жонкі спяванне?
Вісіць канчуг на сцяне,
Будзе папу па сцягне:
Папу раз, жонцы два,
Голадырда, голадра!

Поп яму зноў дае гарэлкі, раз, другі, трэці, а пасля ўжо палажыўся з ёю спаць.

Тады яны з печы, да за канчуг, да ну ж папа лупіць. Чыста яго збілі, скумісавалі ў шкументы, наат бораду вырвалі, а цела так спісалі, што аж ковалямі адпадала. Тады яны да жонкі, а доўгагрывы неякс праз акно выскачыў дый паамчаў дахаты, аж закурэла! Лёг ён каля свае жонкі, яна прачхнулася: мац, мац, аж барады няма! Так гэта падняла крэч:

— Мужу, мужу, ці гэта ты?

— А то ж я!

— А хто ж табе бораду абгаліў?

— О-о,— кажа,— як сталі мне бораду галіць, то я і ганавіц зрокся, а ўцякаў!

Назаўтрашні дзень бачыць жонка, аж ён цэлы ў крыві!

— Ля,— кажа,— а гэта што?

Так ён круціў, муціў, але такі канец канцом мусіў прызнацца, а Раманы з тае пары ўжо добра з сабою былі аж да смерці.

## 137. ПАЙШОЎ ХВЕДАР ЗА НЕМАН ПА ЛЕКІ

Жыў-быў мужык і жонка. У іх быў работнік. Вельмі дужы работнік і разумны. Хата іх стаяла блізка цэрквы. А жонка была вельмі багамольная і сабой прыстойная. Часта ў цэркву хадзіла і папа палюбіла. І дагаварваюцца яны, каб з свету мужыка перавесці, і ім дваім жыць. Поп граху баіцца, а жонка сілы мала мае. Вот поп жонку навучае:

— Зрабіся ты хвораю, пашлі яго да знахара за Нёман па лекі, і ён не вернецца навекі.

А работнік гэта знаў і гаспадару сказаў. Жонка кажа гаспадару:

— Я хвора, ты ідзі да знахара па лекі за Нёман.

А там была дарога дрэнная. Трэба было ісці лесам, палямі, і з туль ніхто не варочаўся. І пайшоў мужык з хаты. Зайшоў да хлява, там быў работнік.

— Ну,— кажа,— мудрэц, кажы, што цяпер мне рабіць?

А работнік кажа:

— Гэта справа мая, ідзі за мною, я цябе клікну.

Прыйшоў вечар. Жонка напякла, наварыла ўсяго. Водкі дабыла. Пайшла, клікнула да сябе папа ў госці.

З радасці селі за стол. П'юць, спяваюць і работніка прыглашаюць.

Работнік бачыць, што поп і гаспадыня п'яныя. Пайшоў да хлява і кажа:

— Ходзь, Хведарку, лажыся ў куль саломы, а я цябе ўкручу і панясу ў хату.

Прэ работнік у хату куль саломы.

Гаспадыня кажа:

— Ты нашто салому прэш?

— Спаць хачу, слацца буду,— кажа работнік.

— Кінь к чорту, ідзі піць будзем,— адказвае гаспадыня.

Работнік пайшоў да стала. Выпілі яны па шклянцы з папом.

Поп заспяваў:

— Пайшоў Хведар за Нёман па лекі, не вернецца навекі.

Спявае і работнік:

— Падзівіся, салома, што робіцца ў цябе дома. Вісіць розга на сцяне, на сцяне, будзе папу і жане.

Поп і кажа:

— Што ты гэта спяваеш?

А работнік кажа:

— А ты што спяваў?

Поп кажа:

— То я праўду спяваў.

Выскачыў Хведар з куля. Давай біць перш жонку, а потым папа.

Малаціў, малаціў, пакуль рукі забалелі. Ды прагнаў жонку і папа з хаты. А з работнікам сталі жыць, пажываць і дабра нажываць.

# 138. ЗАКАХАНЫ ПОП

У адной вёсцы быў бедны чалавек, а каля яго жыў поп. А ў гэтага беднага чалавека была жонка харошая, а да яго жонкі ходзіць поп. Жонка кажа свайму мужыку:

— Што то будзе, Рыгорка?

А Рыгор кажа:

— Што там будзе?

А жонка кажа:

— Да мяне поп ходзіць. Што яму зрабіць, каб ён не хадзіў?

А ў Рыгора была ў сенях скрыня вялікая. Рыгор кажа:

— Змятай сюды сажу ў гэтую скрыню, а калі свае будзе мала, то ідзі да суседзей і бяры болей, каб было палавіна скрыні.

Жонка сабрала сажу.

Рыгор адзін раз запрог каня свайго і едзе. На той час сядзеў поп на лаўцы і пытаецца:

— Куды, Рыгор, паедзеш?

Кажа:

— Паеду, бацюшка, дзе-небудзь.

— А куды паедзеш? — пытаецца поп.

— А што,— кажа Рыгор,— беднаму чалавеку трэба дзе ехаць, які рубель зарабіць, дома нічога не выседжу.

Поп думае: гэта добра, што паехаў Рыгор у дарогу, а я пайду сягоння да жонкі. Прыходзіць поп ў вечар да Рыгаравай жонкі, пытаецца поп:

— А дзе ж Рыгор?

А жонка кажа:

— Паехаў у дарогу.

— Ну, то і добра,— поп гаворыць ёй,— то сягоння я буду з табою начаваць.

А яна кажа:

— То і добра.

І сталі яны начаваць. Уночы прыязджае Рыгор і крычыць:

— Адчыні, баба! Што, ты спіш?

Пытаецца поп:

— Хто гэта?

А яна гаворыць:

— Гэта,— кажа,— Рыгор.

А поп кажа:

— Дзе мне падзецца?

Яна кажа:

— Скідай плацце і лезь у скрыню, а я цябе зачыню.

Поп скінуў плацце да ў гэтую скрыню і ўскочыў. Ён не ведаў, што тамака сажа ёсць, а яна ўзяла дый зачыніла.

А Рыгор усё крычыць на жонку стоячы:

— Адчыні!

Жонка выйшла адчыняць Рыгору, а ён усё крычыць:

— Што цябе трудна разбудзіць, табе нічога не руціць (нічога табе на ўме. От мне руціць на авечкі глядзець), а мне па ўсём галава баліць, мне трэба, каб як было жыць на свеце.

А жонка кажа:

— Чаго ж ты, Рыгорка, вярнуўся з дарогі?

— Але, чаго я вярнуўся: вунь там і там па дзесяць рублёў пуд сажы прадаецца, дак я вярнуўся забраць сваю сажу.

А жонка кажа:

— Забярэш, Рыгорка, другім разам.

А Рыгор кажа:

— Другім разам можа патанее, трэба цяпер забраць.

Бярэ за гэтую скрыню, верне на воз і крычыць на жонку:

— Памажы!

Жонка стала памагаць яму. Узлажылі скрыню, і Рыгор павёз сажу і папа ў скрыні. Вязе дак вязе, едзе пан чацвярыком, а хурман гукае на Рыгора:

— На бок, мужык!

А Рыгор не думае з'язджаць на бок. Так пан зірнуў на яго ды кажа:

— Ты што, мужык, не з'язджаеш убок?

А Рыгор кажа:

— Няма як з'язджаць убок.

— Чаму няма як? — пан гаворыць яму.

— Патаму што я вязу д'ябла ў скрыні.

Пан кажа:

— Якога д'ябла?

А Рыгор гаворыць:

— Чорта, калі пан не ведае, якога д'ябла, то чорта вязу.

А з панам ехала панская жонка і дзеці. Сталі прасіць пана:

— Папанька, няхай чалавек пакажа нам чорта.

Тады пан кажа гэтаму чалавеку:

— То пакажы мне чорта.

А чалавек кажа пану:

— Дай, пан, сто рублёў, то пакажу.

А пан кажа:

— Дам пяцьдзесят.

— Не, кажа,— не пакажу за пяцьдзесят. А як я яго пакажу, да ён уцячэ, а ці пан мне яго зловіць? Калі пан мне яго зловіць, то я пакажу за пяцьдзесят.

Пан кажа на фурмана:

— Едзь, от яшчэ буду глядзець чорта.

Сталі дзеці панскія і жонка прасіць:

— Што нам, папенька, сто рублёў значыць, даймо чалавеку, хай чалавек пакажа.

Пан даў чалавеку сто рублёў. Чалавек адчыняе скрыню, ляжыць у скрыні поп усей у сажы ўкачаны. Гэты Рыгор як урэжа папа пугаю, гэты поп як схваціцца, калі пайшоў па полі, а дзеці панскія крычаць:

— А вэнь чорт, а вэнь чорт.

А мужыкі, каторыя аралі, каторыя баранавалі, той ухапіў пугу, бяжыць, а той карэмуслік ухапіў ды ўсё бягуць ды крычаць:

— А вэнь чорт, лавеце яго.

А той поп бяжыць да бяжыць, усей укачаны ў сажу. Людзі думаюць, і пан думае, што і праўду чорт, а гэта не чорт, а поп, каторы хадзіў да Рыгоравай жонкі.

## 139. САЖА

Прыехаў я з бацькам пасля першай сусветнай вайны ў родную вёску і стаў служыць, таму што ў хаце нічога не было есці. Падаўся да аднаго гаспадара і кажу:

— Наймайце мяне да працы.

Ён быў заможны: меў тры пары коней. А парабкі ў яго былі. Так што не захацеў ён браць мяне за грошы.

Я яму кажу:

— Не трэба мне вашых грошай. Я буду ў вас камін чысціць і збіраць сажу сабе. Зрабіце толькі мне добрую скрыню на гэту сажу.

Мужык гэты палічыў мяне дурнем.

— Ну,— гаворыць,— пажыві ў мяне, папрацуй, а мне няцяжка будзе зрабіць скрыню.

Нягледзячы на тое што мне было чатырнаццаць год, я хлопец быў рослы і працавіты. І спадабаўся я гэтаму гаспадару лепей, як тыя яго дарослыя парабкі. Зрабіў ён скрыню і пачаў я коміны вымятаць і ссыпаць сажу. Кажу яму:

— Ну, дзядзька, праз чатыры месяцы, калі я сабяру гэту сажу, каб вы далі мне коней завезці яе на рынак.

Гаспадар толькі ўхмыляецца. А дарослыя парабкі кажуць мне ў вочы:

— Нашто ты збіраеш гэту сажу! Яе ж ніхто не купіць. Дурань ты: за нішто робіш.

— Цяпер,— кажу,— я дурань, а, можа, прыдзе час, калі вы скажаце, што я вельмі разумны.

А да гэтай маёй гаспадыні хадзіў поп у госці. Калі прайшло тры месяцы і ў мяне сажы гэтай сабралася паўскрыні, я аднойчы не замкнуў яе і паехаў з гаспадаром і парабкамі на поле араць. Заўсёды я замыкаў сваю сажу, а на гэты раз не замкнуў. Поп заўважыў, што мы паехалі на поле. Тады ён ідзе да маёй гаспадыні.

Вось гаспадыня напякла ўсяго. Яны выпілі, пад'елі. А я ў той час, едучы па полю, пачаў у гаспадара прасіцца.

— Ведаеце, дзядзька, што? Вы мяне адпусціце дамоў. Я забыў замкнуць сваю сажу.

Ён кажа:

— Ды тваю сажу ніхто не будзе чапаць. Яна нікому не патрэбна.

Ну, я ўсё-такі прашуся:

— Ведаеце, дзядзька, я за яе працую вам амаль чатыры месяцы і, ведаеце самі, як працую: лепей як іншыя старыя парабкі. А калі гэтую сажу ўкрадуць, уся мая праца згіне, што я вам рабіў чатыры месяцы.

Гаспадар кажа:

— Бяжы, замкні, калі ты так страшышся.

Я прыбег да хаты і слухаю пад вакном, што там робіцца. Бачу: гаспадыня з папом банкетуюць. Праз дванаццаць хвілін яны пaляглі спаць у голым выглядзе. Я тады падыходжу і стукаю ў дзверы. Поп схапіўся голы і пытаецца:

— Куды мне цяпер дзявацца?

Яны кінуліся ва ўсе бакі і бачаць, што мая скрыня адамкнёна. Гаспадыня гаворыць:

— Вось нашага парабка скрыня адамкнёна, лезь туды.

Потым адчыніла мне дзверы і пытаецца:

— Чаго ты, Саша, прыйшоў?

— Ведаеце, гаспадыня, я забыў зачыніць скрыню.

— Што ты, дурань! Тваю скрыню ніхто не будзе чапаць. Ідзі рабіць на поле!

Я адказваю:

— Я за гэтую сажу чатыры месяцы працаваў, а цяпер яе ў мяне хто-небудзь украдзе.

Увайшоў я ў хату і замкнуў сваю скрыню. Потым варочаюся я да гаспадара і кажу:

— Ведаеце што, дзядзька, сёння ў мяне баліць пуза. Адпусціце мяне дамоў.

Я страшыўся, каб гаспадыня тым часам не разбурыла маёй скрыні.

Гаспадар кажа:

— Раз хворы, ідзі ляжы.

Я за якіх хвілін пяць прыбег назад дахаты і бачу — скрыня цэла.

На другі дзень у нашым мястэчку Бытэнь рынак быў. Я прашу ў гаспадара, каб ён даў мне коней адвезці на рынак маю сажу.

Гаспадар згодны:

— Ну, што ж, едзь, прадавай.

— Вось дурань. Хто ў яго будзе купляць сажу?

Я запрог коней, папрасіў і гаспадара, каб дапамаглі мне вынесці на воз, і паехаў я з сажай на рынак.

Ехаў я шляхам па калдобінах вельмі хутка, так што поп з боку на бок перавальваўся ў скрыні. У яго зубы адны белыя засталіся, а ўвесь стаў чорны, як сажа.

Заехаў я на рынак. Паноў там было шмат. Я абвяшчаю ім:

— Хто хоча, можа пaглядзець чорта за пяцьсот злотых.

А ў паноў грошай шмат і зрабілася чарада, каб паглядзець чорта за пяцьсот злотых. І пачалі мне даваць не па пяцьсот, а па тысячы, каб я пахутчэй паказваў.

За якіх тры гадзіны я набраў грошай столькі, што некуды іх было дзяваць. Я ўзяў тады і адчыніў накрыўку скрыні. Поп выскачыў і пабег па рынку, а бабы ўсё скуголяць:

— Вось, вось чорт!

Варочаюся з рынка дамоў і паказваю гаспадару і парабкам грошы, што я набраў за сажу.

Яны здзівіліся:

— Хто быў такі дурны, што заплаціў грошы за сажу?

Успомнілі яны мае словы: «Прыдзе час, што вы скажаце: не дурань ён, а вельмі разумны».

Надаваў я ім па руках грошай, колькі і за год не заробяць яны ў гаспадара. А гаспадар гаворыць:

— Калі хочаш, Русак, у мяне служыць, давай дамаўляцца на грошы, альбо на хлеб, а сажу я буду сам збіраць і прадам яе.

Я кажу:

— Мне грошай хапае!

І пайшоў я ад яго да сваіх бацькоў.

А ён з велькага нецярпення праз два месяцы павёз сажу на рынак.

Заязджае ён і становіцца ў тым раду, дзе прадаюць каўбасы і булачкі. І адчыняе сваю скрыню.

— Што ў цябе?

— Прадаю сажу.

Тут падняўся віхор, схапіў сажу і панёс па ўсім народзе, па гэтых булачках і каўбасах.

Нарвалася на яго паліцыя і арыштавала яго. Пакуль яго жонка даведалася, пратрымалі яго ў каталажцы цэлы тыдзень галодным. Потым налажылі на яго штраф заплаціць за ўсю порчу, якую ён нарабіў сваёю сажаю. Але не хапіла ў яго гаспадаркі заплаціць за гэту порчу. Даведаўся тады гаспадар, як сабіраць сажу, і пайшоў ён за парабка служыць да другіх людзей.

## 140. ПОП І ЧУЖАЯ ЖОНКА

Ажаніўся мужык. Узяў ён прыгожую жонку. Стала хадзіць яна за вадой да калодзежа да паповага дома.

А поп усё чакае яе. Ржэ ён, падбіваецца ўсякім манерам.

Прыйшла жонка і кажа мужу:

— Што рабіць, поп вяжацца?

— Чакай, зробім!

Узяў мужык два мяшкі мякіны і паехаў быццам жыта малоць. А ехаць трэба было дзесяць вёрст у другую вёску.

— Я буду ехаць паўз папа, а ты ідзі да папа і скажы: «Прыйдзі да мяне дамоў і пабудзь са мною». Укаці бачонак з дзёгцем у хату і насып у яго пер'е. Як прыйдзе поп, дык ты скажы: «Давай піць, есці».

Толькі раздзеўся поп, хацеў лезці за стол, раптам стукае ў акно хазяін.

— Адкрывай! — кажа жонцы.

— А куды мне дзецца? — спалохаўся поп.

— Лезь у бачонак, а я закрыю яго!

А мужык крычыць:

— Адчыні!

Залез поп у бачонак, сядзіць. Уваходзіць хазяін, жонка і кажа:

— Што ты забыўся?
— Бачонак з дзёгцем. Там вальня, дык трэба вымыць яго.
Узяў ён укруціў яго вяроўкай і кажа жонцы:
— Памажы вынесці.
Вынеслі яны бачонак, палажылі на воз і паехаў мужык з ім у горад. Заехаў ён за горад. Там велізарнае возера. А дарога ляжыць паўз самае возера. Залез мужык на бярэзіну, наламаў ветак, звязаў мятлу. Бачыць — едзе памешчык з кучарам. Закасаў ён штаны, увайшоў у возера і б'е мятлой па вадзе:
— Гыля, куды!
Памешчык убачыў гэта, спыніў каня і пытае:
— Што ты тут робіш? Тут жа няма ніякіх гусей.
А ён кажа:
— А я чарцей заганяю ў бачонак.
— Не можа быць, каб тут чэрці былі!
— Аднаго ўжо загнаў.
— Пакажы мне яго.
— Ого-го! — кажа.— Я яго павязу ў горад, мне грошай дадуць за паказ.
— На табе сто рублёў, пакажы!
— А не,— кажа,— мала. Мне болей дадуць у горадзе.
— Ну, дык на дзвесце рублёў!
— І за дзвесце не пакажу.
— Дык на ўсе трыста рублёў з кашальком!
Ён згадзіўся. Падышоў да бачонка, развязаў яго і кажа:
— Плыві па возеры на той бок і ідзі сабе дамоў.
Поп як выскачыць, дык пан пачаў хрысціцца:
— Я думаў, што чарцей няма, а яны, аказваецца, ёсць!
Прыбег поп дамоў, вытапіў баню, абмыўся. Сядзіць ён каля акна, бачыць — жонка мужыка па ваду ідзе. Не чапае ён ужо яе, а яна сама набіваецца:
— Прыхадзі яшчэ, зноў чортам зробім!
Выругаў поп яе і з гэтай пары на чужых жонак перастаў заглядацца.

## 141. НОВЫ ЧОРТ

Быў сабе адзін поп, да вельмі хцівы да маладзіц. Ведама, з гульні толькі аб бабах і думае. Наесца, нап'ецца, выспіцца ў ахвоту, а тут ад сала шкура пукаецца. Пойдуць людзі на работу, а ён

і цікуе, ці не прыдзе якая маладзіца зачым кольвек да гасподы. Як закмеціць, дак і прыстане, бы шаўцоўская смала. Перш маладзіцы хаваліся ад паганага папа, а потым, як пачаў ён навучаць, што поп святы, бо ён пасвечаны, дык маладзіцы і думаюць: «Мо і праўда, што хто знаецца з папом, то й граху няма, бо ён святы». Ужо хацелі мужчыны абрэзаць яму кудлы да паперабіваць ногі, але поп напужаў іх, што не дасць прычасця да пажаліцца станавому, каб яны, як недаверкі, пагнілі ў астрозе. Баяцца мужыкі, маўчаць. Толькі ось вельмі часта панадзіўся поп к адной маладзіцы. Яе гаспадар маў якуюсь дохленькую кабылку... Толькі якась прыкмеціў ён, што як толькі ён з двара, дак поп у хату.

От раз запрог той гаспадар кабылку, наклаў на воз многа сена, нібыта едзе ў вялікую дарогу, і папхаўся за сяло. Гэта ўжо было перад змрокам. От як ужо добра сцямнела, гаспадар вярнуўся да гасподы да і стукае ў дзверы, каб жонка адчыніла. Тым часам у жонкі начаваў поп. Схапіўся ён з пасцелі да так без парток і бегае па хаце, не ведае, куды схавацца. А тут у сенечках стаяла кадушка з пер'ем. Поп шамелях у тую кадушку да і прыкрыўся пер'ем. Адчыніла жонка дзверы, а гаспадар чуў, што поп схаваўся ў кадушку, не ідзе ў хату да й кажа жонцы:

— Дай дзяругу, я паеду на кірмаш.

Дала жонка дзяругу, а гаспадар накінуў яе на кадушку да й абвязаў вяроўкаю.

— Павязу, прадам пер'е. Няхай дарма не валяецца.

Бачыць маладзіца, што нельга нічога парадзіць, маўчыць, бы вады ў рот набраўшы. Узваліў гаспадар кадушку з папом на воз да й папёр на кірмаш.

— Куды ты, сябра? — пытаюць суседзі.

— Паеду на кірмаш прадаваць новага чорта,— кажа той чалавек.

Дзівяцца людзі, які там такі новы чорт. Просяць, каб ён паказаў тую пачвару.

— Няможна, браткі,— уцячэ.

Назбіралася многа людзей. Хочацца ім паглядзець таго дзіва. Запраглі яны коней і паехалі разам на кірмаш. Ці доўга, ці мала яны ехалі, толькі вось прыязджаюць пад цэркаў на кірмаш. Пашла там чутка, што чалавек прывёз новага чорта, сабралося людзей, што аж кішыць. Выйшлі папы з цэрквы да й тыя тыц туды, паглядзець на такое дзіва. А поп, ведама, доўга сядзеў у кадушцы і ўсё рабіў пад сябе, дак так абмараўся, так у кудлы набілася пер'я, што саўсім стаў пахож на чорта. От папы да паны абступілі воз і просяць таго чалавека, каб ён паказаў чорта.

— Заплаціце,— кажа,— за маю турбацыю. Я думаў, што хто купіць.

От паны насыпалі таму чалавеку поўную шапку грошай. Пачалі і мужыкі развязваць свае магалейкі да даставаць адтуль медзякі. Назбіраў той чалавек столькі грошай, колькі не было яшчэ ні ў яго, ні ў яго бацька. От стаў ён на возе, паставіў там кадушку да й развязаў дзяругу.

— Ну,— кажа,— вылазь адсюль, новы чорце,— і давай штурхаць кіем.

Падняўся поп з кадушкі. Зірнуць людзі, аж гэта якоесь страшыдла: высокі, худы, з доўгімі кудламі да з вялізазнаю барадою, цыглаты, у адной сарочцы без парток да так умазаўся да ўкачаўся ў пер'е, што рыхтык чорт. Кінуліся перш людзі ад воза, але хтось і кажа:

— Гэта ж наш бацюшка.

Зірнуць усе, аж праўда — гэта поп. Сорам таму папу, саскочыў ён з воза да й сунуў, куды вочы глядзяць. З тае пары годзі ён хадзіць к маладзіцам.

## 142. ПРА ХІТРАГА ПАРАБКА, НЯВЕРНУЮ ЖОНКУ І ЯЕ КУМА

Жыў у лесе гаспадар. Меў кавалак зямлі падхадзяшчы. Адзін не мог ён управіцца. Наймаў парабка, а парабка папалася яму наняць такога спрытнага, хітрага. І вот парабак усё замячае, пойдзе коням даваць ці быдлу, ці каму, тамака абходзіцца каля дому, усё глядзіць, што гаспадыня з суседнім чалавекам (прыходзіўся ёй кум) усё там разгаварвае. Усё мае нейкі кольвек гішэфт, і вот ён гэта падмячае. Прыйшла вясна. Сабіраецца ехаць на поле гаспадар і кажа:

— Вот ты ідзі ў свіран, зачэрпай там аўса кашэль, паедзем на гэты раз мы ў поле пахаць аж за лес, там ніва ёсць.

А на гаспадыню кажа:

— А ты нам прыстрой палудзень, прынясеш, бо нам варочацца з канём не выходзіць, задалёка. А вот абойдзешся і прынясеш нам, прыстрой што-колік.

Ну, вот парабак, значыць, думае сабе: «Пачакай». Як сказаў палуднаваць прынесці, то ўзяў хамут і адкінуў троха на старану.

Сабраліся, селі, паехалі, ад'ехаліся так пачці кілометру ад вёскі, ён на гаспадара кажа:

— Ай, гаспадар, гэта ж мы забыліся хамута. Чым жа мы будзем гараць?

— Ну, то вярніся.

Парабак вярнуўся па хамут, аж глядзіць — у садку пад яблыняй стаяць кум і гаспадыня і разгаварваюць.

Кажа кум:

— Я ў тую старану пайду, але ж трэба і ў другі бок гараць за лесам таксама.

Так яна кажа:

— Добра, кумок, я ўжо як скручу карандзелку ад іх. Скажу, часу не мела. А я табе прынясу, толькі ці патраплю я.

Кум кажа:

— Я на сваю дарогу вугляў пасыплю. Кіну колькі вугельчыкаў, так ты і будзеш знаць.

Парабак гэта і чуў. Парабак за хамут, углёў у кішэню згарнуў і пайшоў.

Паехалі, прыязджаюць да гэтай дарогі, дзе будуць раз'язджацца, дзе там гэтаму куму ехаць, ён насыпаў вуголля не на тую дарогу, але на сваю. Тая хутчэй прыстроіла абед не гаспадару з парабкам, але куму. Там бутэлечку водкі, там яйка разбіла, парачку кілбас, ну і падалася. Звязала гэта ўсё ў клумачак і падалася, брат, пешшу. Прылятае, на дарозе як раз вугельчыкі бачыць і пайшла так. Яна і не ўглядаецца ўжо ўперад бардза, але каб скарэй наведацца да кума.

Прыйшла блізка, але глядзіць, што не кум, а аруць гаспадар і парабак.

Няма ёй чаго рабіць, так яна тады, што ж ужо будзе:

— Ну, дось ужо вам. Хадзіце, я ўжо вам прынесла абед, можа і спазнілася трошку, але выбачайце. Хадзіце во. Папалуднуйце, а я ўжо пайду, бо там трэба абходзіцца, няма ж часу.

Але парабак бачыць, што яна змянілася на твары, не такі выгляд мае, як трэба. Парабак з'еў там і, нібы на сваю патрэбу адыйсціся, пайшоў. Пайшоў у лес, знайшоў елку такую кудравую. Узлез на елку пад самы верх, каб не было відна яго, і слухае. А яна ідзе і ўсялякімі словамі:

— А каб вы паздыхалі, а каб вы паздыхалі, а я цяпер на цябе глядзець не магу, во куму хацела занесці, а вам прынесла, мой жа кум галодны будзе.

Так ён адзываецца на гэтай елцы:

— Каго там, гаспадынька, клянеш за што?

— А мой ты там, можа і святы, а мой ты міленькі, муж такі няўдалы, надаела мне жыць, а кум такі мне зычлівы, добры.

Так вот хацела яму занесці, а яны мяне ашукалі. Як тут выйшла, а можа кум абмыліўся, хто яго знае.

— Так вот не кляні, а ідзі дахаты і спячы харошую яечню, кварту водкі састарайся харошай і курыцу ўпячы, засякі дзе добрую. Кашы звары, яйкаў набі, каб была тугая яечня, так водкі як вып'юць, то падавяцца.

— І,— кажа,— будзе добра, яны падавяцца, а ты, як захочаш, тады будзеш у кума жыць.

Яна падзякавала гэтаму, ужо каторы там адзываўся, і палящела сама. Паляцела дахаты, сейчас курыцу сякерай па галаве, яйкаў набіла, яечню пячэ, курыцу смаліць, водкі бутэльку састаралася.

Прыязджаюць увечары з поля. Ужо ў яе ўсё гатова. Яна весела ходзіць. А там і другой яды прыстроіла і для кума.

Але парабак кажа:

— Яна нам сягодня і вячэру, я спадзяюся, тожа добрую дасць. Але глядзі толькі паўтарай мае словы. Я скажу так, а ты кажы яшчэ што горай. Я скажу: «Не чую», а ты кажы: «Зусім не чую».

Ну, вот прыехалі яны дахаты ўвечары. Яна іх садзіць за стол, падаець ім водку, выпілі па чарцы.

— Але,— кажа,— і водкі недзе знайшла такой добрай, крэпкай. У мяне ўжо так закруціла і неяк так па жываце пайшло горача.

Узялі курыцы адкусілі гэтай.

— Але,— кажа,— і курыца смачная, але неяк ці ад курыцы, ці ад водкі слёзы на павеках апаўзлі трохі, як бы не так, то і свецяцца.

Ужо баба з гэтага трохі і павесялела. То можа ёй паможа гэта. Тады ўзялі яечню есці.

— Гаспадар, гаспадар, ці чуеш ты?

Кажа:

— Троха чую.

— А я,— кажа,— тожа ўжо і слаба чую, як ты гаворыш.

— А ці відзіш ты што-колік?

Кажа:

— Ужо і не віжу, чуць як бы праз туман.

— А я і зусім не віжу.

Тады зачэрпалі кашы ў губу і зваліліся пад стол абодва і захрапелі. Аж яна павесялела, пазвала кума.

— Кумок, вось тут частуйся, а я не маю калі, трэба ісці мне па ваду.

А ў іх вада была далёка, на сухапутным месцы надта сядзелі, далёка было па ваду ісці.

— А я за вёдры, палячу вады. Толькі з гэтага стала нічога не каштуй.

Ну, пайшла яна сама. Парабак адразу ж вылазіць. Кум закусвае. Парабак яму, брат, там якім асцяпаннікам праз лоб, кашы гэтай лыжку ў горла і яго разам пад той стол, дзе сядзеў.

Прылятае яна з вёдрамі з вадой, але глядзіць, што і кум зваліўся.

— А мой ты кумочак, а мой ты,— стала галасіць,— даражэнькі, мусіць, ты папробаваў з гэтага стала кашы. Што я цяпер буду рабіць? І парабка з мужыком няма, і цябе няма. На цябе я спадзявалася, а цяпер...

А яны чуюць гэта ўсё на свеце. Парабак кажа:

— Ці чуеш ты, гаспадар?

Кажа:

— Трохі чую.

— А я і добра чую.

— А ці відзіш ты?

— Віжу.

— І я віжу. Вылязай, бяры вяроўку намачы і добра яе аддубась. Ты,— кажа,— сабе найдзеш другую, калі захочаш, а я ўжо гэтага кума на плечы і паваласку куды-колік у свет.

Узяў гэты парабак кума на плечы і панёс. А даўней па лясах жылі пчолы. Вот мужык узлез там на бярозу ці на елку такую дуплістую. Выбірае мёд. Дзежка стаіць, а ён бярэ нажом лястры мёду і кідае. Ён узяў гэтага кума і ўсадзіў з локцямі ў гэтую дзяжу ніцма. Той да яго павярнуўся кідаць пляц мёду, глядзіць — чалавек убіўся ў мёд гэты. Гаспадар крычыць з той елкі:

— Чаго ты ўжо ўбіўся, чалавеча? Вазьмі кусочак мёду. Бяры і еш, я не шкадую, ато ты ўбіўся, як свіння, увесь мне мёд запаганіў.

І калі запусціць куралём. Ён яму як даў, дык той ад дзежкі адваліўся.

Парабак выскаквае да гэтага мужыка. Ён чалавек быў глухаваты і недалужны.

— Мы згаладнелыя, а ты цяпер што зрабіў. Я не адступлю так, брат, на цябе падам у суд.

— Ой, злітуйся, не падавай. Я цябе наградзжу. Дам якіх 200 рубельчыкаў і нясіся ў божы час, каб хаця мне бяды не было.

Ну, гэты парабак згадзіўся. 200 рублёў у кішэню, гэтага ку-

ма ізноў панёс, закапаў, а сам пайшоў сабе ў другую старану. І тады за 200 рублёў купіў кусочак зямлі і стаў сам сабой гаспадарыць, і вось казка кончылася.

## 143. ЯК ГАПА З ЯЕ МУЖЫКОМ СЫМОНАМ ПРАВУЧЫЛІ ПАПА І ПАНА АКАНОМА

Жыў Сымон, а жонка яго звалася Гапа.

Жылі яны бедна, Сымон часта хадзіў на ахоту. Вось ён раз кажа жонцы:

— Ты што-небудзь зрабі, каб нам польза была. Я пайду на ахоту, а ты каго-небудзь падгавары.

Вось пайшоў ён нібы на ахоту, а сам залез на гару і сядзіць. А Гапа палажыла сырых дроў у печку і пайшла па вуліцы. Сустракае папа.

— Ты куды ідзеш?

— А вось мой пайшоў на ахоту, дома нікога няма, дак думаю, каб хто-небудзь прыйшоў.

— Ну, дак я прыду.

— Толькі захапі чаго-небудзь, ато ў мяне нічога няма.

— А калі прыйсці?

— Вечарам, гадзін у сем.

Ідзе Гапа далей, сустракае пана.

— Куды ты, Гапа, ідзеш?

— Да вот дома няма нікога, сумна адной.

— То, можа, я прыду?

— Прыходзь, толькі прынясі чаго, бо ў нас дома няма нічога.

— А калі прыйсці?

— Да так, у палавіне восьмага.

Ідзе Гапа далей, сустракае аканома.

— Ты куды ідзеш?

— Да во дома нікога няма, дак я адна вельмі баюся, дак каб хто прыйшоў да мяне.

— Ну, дак я прыду.

Во ўжо ў сем гадзін прыходзіць поп і прыносіць нешта ў чамаданчыку.

Пакуль Гапа гаварыла з ім, пакуль тыя сырыя дровы распальвала, стучыцца пан.

А поп думае, што гэта Сымон, і залемантаваў:

— Ох, божа мой, куды мне дзявацца?

— Бацюшка, раздзявайся да пад печ скарэй.

Той пад печ і сядзіць разам з курамі. Уваходзіць пан. Зноў пакуль пагаварылі, пакуль сырыя дровы распальвала, нехта стучыць.

— Ох, гэта, мусіць, мой чалавек з ахоты вярнуўся.

— А куды ж мне дзявацца?

— Распранайцеся ды хутчэй пад печку.

Уваходзіць аканом, прыносіць з сабой частаванне і гарэлку. Толькі яны селі за стол, аж Сымон стукае ў дзверы.

Гапа кажа аканому:

— Ты, паночак, раздзявайся, станавіся на покуце, будзеш Мікалаем-цудатворцам.

Толькі Сымон уваходзіць, а Гапа яму:

— А чаго ты, ліха табе, вярнуўся, я яшчэ нічога не зварыла.

— Нешта стрэльба не страляе, трэба праверыць. Во насыплю новага пораху, накладу новага шроту і стрэлю пад печ.

— Ды не страляй — усіх курэй пазабіваеш.

— А што мне куры, калі стрэльба не б'е.

Як пачуў гэта поп, выскачыў з-пад печкі ды як пабег!

— А божа ж мой, што за нячыстая сіла? А гэта што?

— А гэта бог прыслаў нам Міколу-цудатворца.

— Ох, ва імя айца і сына, каб выгнаў нячыстую сілу, дай хоць Міколе памолімся і свечку пастаўлю.

Узяў свечку, запаліў і Міколе засунуў. Ён стаіць, моліцца, а свечка пячэ.

Цярпеў, цярпеў той аканом, а потым як рване і ўцёк.

А Сымон з Гапай сядзяць, п'юць да смачна ядзяць.

І казцы канец.

## 144. ЯК МУЖЫК З БЯДЫ ВЫВЕЎСЯ

Быў сабе чалавек з жонкаю, дай раз пашла яна да папа да споведзі. Ажно поп не спавядае да ўсё пытае, ці нанач прысці.

Так яна гэта кажа:

— Добра.

Да то прышоўшы дахаты, сказала мужыку.

Так мужык кажа:

— А ідзі ж ты да другога, цікавасць, што той скажа.

Яна пашла, ажно і той таксама пытае:

— То чаму ж,— кажа,—бацюшка, прыдзі.—Дай прышоўшы, зноў сказала мужыку:

— Ну, то ідзі яшчэ да трэйцяга, пагледзімо, што той будзе казаць?

Яна пашла да трэйцяга, ажно і той не лепшы быў за тых. Так пад вечар ужо мужык кажа да жонкі:

— Чуеш, я бы то паеду ў дарогу, а ты іх тудакава прымай.

Заехаў на канец сяла, паставіў каня ў сваяка, а сам як сцямнела, падышоў пад акно дай слухае. Ажно поп пытае:

— Скажы ж, міленька, дзе ж я схаваюся, як твой мужык прыедзе?

— Там у каморцы,— кажа,— стаіць кадушка з пер'ем, то ты туды лезь.

Так гэта чалавек пашоў, сеў на брычку да па кані, да па кані, дай то пад акно пад'ехаўшы:

— Прруу! — кажа,— каб це ваўкі! Разляцелася ты!

Уваходзіць дахаты і давай бы то крычаць на жонку:

— Падло ты! Чаму ты ніколі не прыпомніш, што ўзяць з сабою, ато я стуль да стуль мусіў варочацца!

І гэта, нібы ўзяўшы тое, зараз зноў паехаў. Заехаўшы на канец сяла, паставіў зноў у таго сваяка кабылу, а сам прышоў пад акно дай слухае. Ажно прышоў і другі поп дый пытае:

— А дзе ж ты мяне, саколка, схаваеш, як мужык прыедзе?

Кажа:

— У печ улезеш.

Той кажа:

— Добра.

Ажно нібавам затарахцела каля акна, так поп барджэй у печ, а мужык у хату да давай сварыцца на жонку, што хлеба ў дарогу не дала. Нядоўга ждучы, узяў хлеб дай паехаў на тое самае месца. Потым падходзіць пад вакно, слухае, ажно і трэйці поп пытае:

— А дзе ж ты мяне, маладзіца, схаваеш, як твой мужык прыедзе?

А яна:

— Няма дзе, хіба,— кажа,— у комін.

Так мужык, гэта пачуўшы, пабег барджэй па кабылу, сеў і прыязджае. Адлажыўшы, уходзіць у хату дай кажа да жонкі:

— Давай есці.

— То што я табе,— кажа,— дам, калі нічога няма.

— То навары мне!

І сам гэта пабег на двор, увалок карча смольнага, пашчапаў і давай у печы распальваць. Пачало гарэць, ажно бабоўх! І поп з коміна зваліўся нежывы.

Так гэта ён узяў яго пад печ падкінуў да то наставіў саган вады дай, як закіпела, панёс да каморкі і люсь! у пер'е.

Тут з віскам і поп выскачыў, пакрычаў, пакруціўся і ўпаў на месцы. Ён і таго пад печ падкінуў. Потым ужо як у печы выгарала, ён і таго дастаў дай пад печ падкінуў.

Ажно ўходзіць якраз на той час маскаль і просіцца нанач. Кажа:

— Дзе тут у нас — няма дзе: ось такая бяда сталася, прышоў поп дай умёр.

А ён кажа:

— То што, я яго пахаваю.

Гэта кажучы, узяў папа на плечы і нясе на рэку тапіць. Ажно стаіць над рэкаю другі маскаль на варце дай, пачуўшы што нехтась ідзе, пытае:

— Хто ідзе?
— Чорт!
— Што нясе?
— Папа!
— Куда?
— У рэку тапіць!
— Зкудава?
— З Чудава!

Так той і пусціў, а ён у рэку папа го-оп! Аж вада забульгацела дай пашоў да таго гаспадара.

Тым часам той выцягнуў другога з-пад печы, пасадзіў на лаве дай сядзіць. Ажно і той маскаль уходзіць, так гаспадар кажа:

— А што, ён такі за вас хутчэй прышоў!

А ён кажа:

— А ліха на це! Я цябе буду па сто раз насіць?

Дай то закінуўшы на плечы, панёс у рэку. Прынёс яго, ажно вартаўнік:

— Хто ідзе?
— Чорт!
— Што нясе?
— Папа!
— Куда?
— У рэку тапіць!
— Зкудава?

— З Чудава!

Нім маскаль вярнуўся, ажно гаспадар і трэйцяга пасадзіў на лаві. Прыходзіць:

— А гэта што за чума?

— Ля, ато ж зноў прышоў!

Так маскаль ужо тым разам папрасіў мяха, усадзіў папа дай памчаў да ракі.

Прыходзіць над рэку, ажно вартаўнік:

— Хто ідзе?

— Чорт!

— Што нясе?

— Папа!

— Куда?

— У рэку тапіць!

— Зкудава?

— З Чудава!

Так гэта бухнуў яго ў воду дай ужо пашоў на начлег. Назаўтра давай у званы біць, каб папы выходзілі на мшу. Звоняць, звоняць, ужо і палудзень, а папоў як няма, так няма! Так давай шукаць іх па месце, усюдачкі — таксама няма! Пачалі людзей распытваць, так той вартаўнік кажа:

— Я бачыў, як чорт насіў усіх трох у рэку тапіць, пытаюся: «Хто ідзе?» — А ён кажа: «Чорт».— «Што нясе?» — «Папа!»— «Куда?» — «У рэку тапіць».— «Зкудава?» — «З Чудава».

Калі ні пачнуць шукаць у вадзе, ажно находзяць: двох так ляжыць, а трэйці ў мяху!

## 145. ПОП У КУБЛЕ З ПЕР'ЕМ

Сядзеў поп у саду і чытаў кнігу. Непадалёку ад яго жанчына брала ваду. Як яна нагнецца, поп рагоча: «Гі-га-га...» Прыйшла яна да свайго мужа і пытае:

— Чаго гэта поп рагоча, калі я бяру ваду?

— А ты сама засмейся, тады даведаешся.

Яна так і зрабіла. Поп ёй і кажа:

— Я да цябе нанач прыйду, як твайго чалавека не будзе дома.

Яна ж расказала ўсё мужу. Згаварыліся яны пакпіць з папа. Аднойчы гаспадар запрог каня і паехаў з двара. Як пабачыў

поп, зачасаў свае кудлы, схапіў полы рызы і прыпусціўся бежкам да маладзіцы.

Маладзіца пасадзіла папа за стол, але папу не церпіцца: устае з-за стала, скідае адзенне і ідзе да маладзіцы. А ў гэты час мужык застукаў у вакно.

— Куды мне дзецца? — пытае поп.

— У кубел у сенцах.

Поп бултых у кубел, а там было пер'е.

Гаспадар увайшоў у хату і кажа:

— Павязу прадам гэты кубел з пер'ем.

Абвязаў пасцілкаю кубел, паставіў на воз і пагнаў каня. Добра абабіў поп бакі! Абмазаўся аб бочку, якая была калісьці са смалою, пер'е папрыклейвалася.

Едзе мужык і сустракае салдат. Афіцэр паслаў салдата спытаць, чаму мужык едзе не па дарозе, а па раллі.

Мужык адказвае:

— Чорта вязу.

Захацелася афіцэру і салдатам пабачыць чорта.

— Дайце дваццаць пяць рублёў, пакажу,— кажа мужык.

Далі яму дваццаць пяць рублёў.

— Толькі вы станьце ў два рады і як чорт пабяжыць, біце яго палкамі.

Пасталі салдаты ў дзве шарэнгі, узялі ў рукі палкі. Адкрыў мужык кубел. Як выскачыць з кубла штосьці чорнае, кудлатае, ўсё ў пер'і ды як пабяжыць, ледзь успелі салдаты па разу апусціць на яго палкі. Чорта і след прастыў — так шпарка пабег. Прайшло некалькі дзён. Сядзіць поп у садзе і чытае кніжку. Ідзе жанчына і смяецца.

— Смейся, трасца тваёй мацеры, але больш не ашукаеш,— кажа поп,— хопіць брацце за мяне дваццаць пяць рублёў.

## 146. ЯК ЧОРТ ТАПІЎ ПАНОЎ

Жыў сабе адзін чалавек і была ў яго дужа гожая жонка. Дак от на яе ліха, кожная гожая жанчына заўжды круціць хвастом, заўжды кала яе труцца мужчыны, бы сабакі. Толькі чалавек з хаты, дык госці к жонцы ў хату, як піць даць, збіраюцца. Сабраўся раз той чалавек у вялікую дарогу, насыпаў у мех коням аўса, напхаў вялізазную дзяругу самага лепшага мурожнага сена, палажыў у торбу цэлы бохан хлеба да кусок сала,

насыпаў у мяшочак круп да солі, кінуў на воз чагунец, нібыта збірацца ў дарогу на цэлы тыдзень. От наказаў ён жонцы, каб яна шчыльна даглядала гаспадарку да й паехаў паціхеньку, нібыта аберагае коні, каб яны не патаміліся ў вялікай дарозе. Папхаўся ён, а жонка думае, што цяпер не хутка вернецца да господы. Сказала яна суседцы, а тая другой, другая трэцяй. Праз часіну ўся вёска даведалася, што той чалавек паехаў у вялікую дарогу. І пачалі збірацца к той гожай маладзіцы яе каханкі. Яшчэ на змроку прыбег к ёй вельмі гарачы малады панічык. Толькі ён ускочыў у хату, як хтось стукае ў дзверы. Куды тут дзявацца?.. І ўлез ён у печ. Адчыніла маладзіца дзверы, аж там другі пан. Чуць толькі яна ўпусціла яго, як зноў хтось стукае ў дзверы. Пашла яна адчыняць, а пан шамелях у печ. Чуе, што хтось е, але няма чаго рабіць: ляжыць моўчкі, бы тхор. Улез у хату малады купец і пачаў захаджацца каля маладзіцы. Толькі раптам хтось зноў стукае ў дзверы. Спужаліся яны, не ведаюць, што рабіць. Маладзіца дагадалася, што гэта, мабыць, вярнуўся гаспадар.

— Лезь хутчэй у печ,— камендуе яна купцу,— бо як цябе тут застане мой гаспадар, то паломіць табе ногі да адрэжа вушы ці яшчэ што-небудзь.

Пакуль яна адчыняла дзверы, купец і ўплішчыўся ў печ, дармо, што там ужо ляжала двое. Цісnуць яны адзін другога, да нічога не парадзіш, бо ў страха вочы вялікія. Тым часам ехаў, ехаў той чалавек да й сустрэў свайго таварыша, з катовым колісь, яшчэ хлапчуком, пасціў коні. З гэтым таварышам яны вельмі добра жылі, немаль датуль таварышавалі, пакуль ён і ажаніўся. У вадзін рок яны пабраліся, а таго таварыша забралі ў маскалі. Цяпер ён адслужыў у маскалях і вяртаўся да господы. Маскаль вельмі прыстаў у дарозе і не здолеў далей ісці. От наш чалавек пасадзіў яго на воз да й павёз да господы. Такім разам неўзначай вярнуўся да господы той гаспадар да яшчэ з маскалём. Чуць яны ўлезлі ў хату, а гаспадар і кажа жонцы, каб яна хутчэй запаліла ў печы ды гатовіла вячэраць дарагенькаму гасцю. Маладзіца тым часам усё агінаецца. От гаспадар сам схапіўся з лавы, напёр у печ сухіх дроў да й запаліў. Круціліся ў печы, круціліся тыя малайцы да й задохліся з дыму. От гаспадар пасылае жонку ў карчму купіць кварту гарэлкі на пачостку свайго таварышу. А тут маскаль кажа, што лепш ён пойдзе па гарэлку, бо поцемку жанчыну яшчэ што-небудзь спужае. Пайшоў маскаль у карчму па гарэлку да, ведама, пакуль растурхаў сярод ночы ландара да купіў гарэлкі, дык трохі й за-

марудзіў. Пакуль яго не было ў хаце, жонка кінулася ў ногі гаспадару, прызналася яму ва ўсём ды й кажа:

— Што ж ты нарабіў! Гэта ж людзі ў печы,— ты ж іх, мабыць, спаліў. Прапалі мы цяпер.

Да давай галасіць, аж рукі ломіць да валасы на сабе рве перапалоханая маладзіца.

— Ціха, дурная баба! — сыкнуў на яе гаспадар.

От узяў ён вядро вады ды набухаў у печ. Разгроб гэта ён галавешкі да давай выцягваць з печы малайцоў, выцягне аднаго, запрэ да й паставіць у сенцах. Выцяг гэта ён апошняга, запёр яго на двор да й паставіў каля каморы. Тым часам варочаецца з карчмы маскаль. Бачыць ён, што хтось стаіць каля хаджайскае каморы, і падумалася яму, што гэта, мабыць, злодзей. От ён падышоў ціхенька да як цюкне яго пляшкай па мазгаўні, дык той і ссунуўся на зямлю. Улез маскаль у хату да й расказвае таварышу, якая яму прыгода трапілася.

— Ну, няхай чэша патыліцу,— кажа гаспадар,— а ты, баба, падавай на стол.

От выпілі яны пляшку гарэлкі, закусілі, чым бог паслаў, і збіраюцца лажыцца спаць. Выйшаў гэты маскаль да ветру да зірнуў у той бок, дзе ён пачаставаў злодзея, аж бачыць, што той ляжыць і не варухнецца. Падышоў ён, памацаў, аж злодзей ужо й ахаладаў. Прыбег маскаль у хату белы як палатно да й кажа:

— Якое няшчасце зрабілася.

Пагаварылі яны паміж сабой, парадзіліся, што тут рабіць, і намеркаваліся, пакуль цёмна, зацягці мерцвяца да й кінуць у ваду. От схапіў маскаль таго мерцвяца да й папёр. Сустракаюць яго вартаўнікі.

— Ты хто? — пытаюць яны.

— Чорт,— адказвае маскаль.

— Каго нясеш?

— Пана.

— Куды?

— Тапіць.

— Нясі, нясі хутчэй,— кажуць вартаўнікі і пайшлі ў другі бок.

Укінуў маскаль мерцвяца ў ваду да й ідзе дамоў. Тым часам гаспадар выцяг з сянец другога мерцвяца да й палажыў яго на двары каля парога. Прыйшоў салдат (маскаль) да й бачыць, што мярцвец зноў вярнуўся на старое месца, от ён схапіў яго і зноў папёр тапіць. Але зноў сустракае вартаўнікоў, дык тыя бачаць, што чорт прэ пана тапіць, от яны завярнуліся і пайшлі

ў другі бок. Укінуў маскаль мерцвяца ў воду да й папхнуў яго на дно пастырчаком. Прыходзіць да гасподы, аж гаспадар прыгатовіў яму трэцяга мерцвяца да яшчэ абліў яго вадою.

— А! — кажа маскаль,— ты зноў вылез з вады, дык я ж табе прывяжу камень.

І зноў папёр ён трэцяга мерцвяца, прывязаў да яго цяжкі камень і ўкінуў у воду. Ідзе ён дадому да й сустракае вартаўнікоў.

У той час едзе сабе верхам якісь пан. От вартаўнікі і крычаць маскалю:

— Чорт, чорт, бачыш, той пан вылез з вады да на каню ўцякае.

Пусціўся гэты маскаль за тым панам, звалок яго з сядла, запёр к рацэ да й укінуў у воду.

— Ото ж, дзякуй богу,— думаюць вартаўнікі,— адным панам менш.

## 147. ЯК ЗАКАХАНЫ ПОП ТОЎК ПРОСА

У адным сяле быў поп і такі ахвочы да маладзіц, што ні адну жанчыну не прапусціць. Многа жанок і маладзіц папаліся да яго ў лапы. А ад сябе ён ужо не адпускаў...

Спадабалася папу адна маладая жанчына. Чэпіцца, вяжацца да яе, як смала, ліпне, як той банны ліст. Ідзе аднаго разу яна каля хаты папа, а той высунуўся ў вакно і міргае ёй.

Прыйшла яна дадому і расказала свайму гаспадару, што нельга адбіцца ніяк ад папа. Параіла яна мужу адлучыцца на нейкі час, у гэты час запросіць папа, а потым правучыць яго.

На другі дзень ідзе яна, а поп высунуўся і міргае ёй. Астанавілася маладзіца. А поп як прыпусціцца бегчы да яе, падабраўшы рызу. І так соладка глядзіць...

— Мой гаспадар паехаў у лес. А я адна дома аж да поўначы.

Поп аж заскакаў ад радасці і кажа:

— Ідзі хутчэй дадому і рыхтуй пачастунак, а я захвачу віна і гарэлкі і прыбягу.

Не прайшло і паўгадзіны, як поп апынуўся ў маладзіцы. Паставіла яна на стол міску, нарэзала сала, агуркоў, падала квасу. Селі, п'юць, ядуць. Папу карціць хутчэй авалодаць такой прыгожай маладзіцай, аж дрыжыць.

— Раздзявайся, бацюшка, так і быць. Зробім грэх і замоліце.

— А не саграшыўшы і не пакаешся, галубка. А адзін каянік лепей за сто праведнікаў,— казаў бог.

Толькі раздзеўся поп, а тут гаспадар стукае ў дзверы. Спалохаўся бацюшка, не ведае, што рабіць. Маладзіца ж яму раіць:

— Хватай адзенне і бяжы ў сенцы. Там стаіць ступа і каля яе проса. Бяры і таўчы. Я скажу мужу, што ты прыйшоў таўкці да нас.

Пабег поп. Аж там цэлы мяшок проса. Падышоў гаспадар, паглядзеў і нічога не сказаў. І толькі тады, як поп закончыў таўкці, падышоў, узяў таўкача і так аддубасіў ім папа, што той не ішоў, а поўз дадому.

Праз тыдзень ідзе тая маладзіца і сустракае папа.

— Заходзьце бацюшка. Мужык зноў паехаў, але ўжо на касьбу,— кажа яна.

— А што, хіба ўжо ўсё тоўчанае проса паелі?

## 148. ПАПУ НАВУКА

Жылі-былі Антон з Мар'яй, і быў у іх суседам поп. У папа пад акном быў калодзеж, дык Мар'я гэта кожную раніцу хадзіла за вадой да папа. Прыдзе за вадой, а поп адкрые фортачку і ўсё глядзіць і глядзіць на яе. Мар'я некалькі разоў гаварыла Антону аб гэтым, а той толькі ўсміхаецца. І вось аднойчы набрала Мар'я вады (поп у гэты час глядзеў у акно) і хацела толькі ісці, а поп з акна: «Гм!» Паглядзела Мар'я на яго, нічога не сказала, прыйшла дамоў і расказала ўсё Антону. А той і кажа:

— А ты другі раз яму таксама адзавіся і прыгласі яго сёння вечарам к сабе. Скажы, што мяне дома не будзе.

Прыйшла Мар'я да калодзежа, а поп зноў з акна: «Гм!»

Мар'я, доўга не думаючы, яму:

— Вечарам, бацюшка.

— Вечарам, Марушка?

— Вечарам, вечарам, бацюшка!

А сама пайшла дамоў.

Сабраўся Антон, напхаў мякінай чатыры мяшкі, наказаў Мар'і, што рабіць, а сам паўз вокнамі папа паехаў з вёскі, быццам на мельніцу, да якой было вёрст дзесяць,

Як толькі сцямнела, поп пайшоў да Мар'і. Прыходзіць ён да яе, прыносіць гарэлкі, закускі і пачынае ёй чытаць пропаведзь

аб тым, што бог прашчае тых, хто саграшыць, затым богу памоліцца. А так як памаліцца — гэта рэч няцяжкая, то можна і паграшыць. Не паспеў ён закончыць сваёй пропаведзі, як у вароты хтосьці пастукаў. Мар'я падбегла да акна і адразу пазнала гаспадара. Поп тут падабраў сваю рызу і забегаў-закруціўся па хаце.

— Куды ж я? — залемантаваў ён.

Мар'я адкрыла бакоўку і ўпусціла яго туды, а сама закрыла яе на замок.

Прыходзіць Антон і адразу накінуўся на жонку, адкуль у яе на стале гарэлка (вядома, што з перапалоху поп не ўспеў яе схаваць). А жонка яму адказала:

— А гэта быў бацюшка, пасвяціў хату дый пайшоў.

— Брэшаш, жонка! — крычыць Антон, сумысля адцягваючы час, каб поп успеў у бакоўцы як след пакалаціцца.— Давай ключы ад бакоўкі.

Жонка падала яму ключы, а ён ўсё яшчэ прадаўжаў вазіцца, стукаць, крычаць на жонку, нібы шукаючы ключы, якія яна нібыта схавала ад яго. Але вось ён, нарэшце, «знайшоў» іх, а ў папа к гэтаму часу і душа ў пяткі ўскочыла.

Адкрыў Антон бакоўку і выцягнуў на свет «святога айца». А ў тога і дух заняло. Тут поп стаў прасіцца ў Антона, каб ён нікому аб гэтым не гаварыў, пачаў, саграшыўшы, каяцца, як ён калісьці гаварыў у пропаведзі да Мар'і.

— Добра,— сказаў Антон.— Але ты мне павінен выканаць адно заданне.

Як жа тут не згадзіцца?!

Прынёс Антон мех ячменю і сказаў папу, што ён не адпусціць яго дамоў, пакуль той не патаўчэ ўвесь гэты мяшок на крупы. Вядома, гэта праца марудная і нялёгкая і не па насу папу. Але што ж зробіш?

Тоўк поп дзень, тоўк поп другі, тоўк трэці, усё без адпачынку. На чацвёрты дзень, датоўкшы ўсе крупы, поп ледзь жывы паплёўся дадому...

Прайшло некалькі часу. Мар'я, як і раней, хадзіла кожную раніцу за вадой, але поп ужо не паказваўся. І вось аднойчы, калі Мар'я набірала ваду, поп адкрыў фортачку і асцярожна стаў глядзець на яе.

Прыходзіць Мар'я дамоў і кажа Антону:

— Бацюшка зноў глядзіць у акно, але голасу не падае.

— А ты сама вазьмі ды абзавіся.

Так яна і зрабіла.

Назаўтра, як толькі поп паказаўся ў акне, яна паставіла вёдры і кашлянула: «Гм!»
Поп высунуў у акно фігу і крыкнуў ёй:
— А во табе, вазьмі выкусі. Ці вы, абжоры, ужо той мех круп пажралі? Не выйдзе!

## 149. ПРА ДВАНАЦЦАЦЬ АПОСТАЛАЎ, АБО ЯК ЖОНКА МУЖА З БЯДЫ ВЫРАТАВАЛА

У адным мястэчку згадзіўся майстар зрабіць для новага касцёла дванаццаць постацей апосталаў. Заключыў біскуп з ім умову на тэрмін і ўзяў з яго шмат грошай у залог. І вось ужо дзевяць постацей былі ў майстра гатовы, а тры асталіся няскончанымі, калі ён запіўся і так запіўся, што забыўся зрабіць у тэрмін апошнія тры постаці. А жонка яго паглядзела ў яго паперы і даведалася, што ўжо канчаецца тэрмін і шмат грошай прападзе ў яго. Тады яна пабегла ў мястэчка шукаць мужа і знайшла яго ў карчме, п'е ён сабе гарэлку, ні аб чым не тужыць. Вось жонка і кажа яму:
— Дурань ты! Заўтра раніцай камісія прыедзе прымаць дванаццаць апосталаў, а ты не зрабіў яшчэ трох постацей. Прападуць твае грошы!
Як ускочыў ён з-за стала, як схапіў сябе за чупрыну!
— Скажы-ка ты мне, што рабіць? Я ж прапаў!
— Вось ты паслухай мяне. Кідай гарэлку піць і пойдзем дахаты, будзем нешта рабіць. Калі паслухаеш мяне, я цябе з гэтай бяды выкуплю.
— Буду цябе слухаць,— кажа муж.
Прыйшлі дахаты. Жонка гаворыць:
— Ты сядзі ў хаце, пакуль я не вярнуся.
Увабралася яна ў сваю лепшую сукенку і зноў пабегла ў мястэчка. Была яна харошая, маладая, а яшчэ як адзелася хораша, дык проста не наглядзецца. Бяжыць яна па вуліцы і вітаецца са знаёмымі (як у жонкі выдатнага майстра, шмат было ў яе знаёмых у мястэчку). Падыходзіць да яе малады афіцэр і пытаецца:
— Дзень добры, мадам. Куды вы спяшаецеся?
Яна яму кажа:
— Па справах.
— Дазвольце, мадам, пагутарыць з вамі.

Яна кажа:

— Не маю часу — спяшу. Калі жадаеце са мной гутарыць, прыходзьце да мяне на кватэру ў дзевяць гадзін вечара.

І паляцела далей.

А малады афіцэр пашоў купляць віна і закускі — збіраецца ўжо на дзевяць гадзін у дом майстра.

Спатыкае на вуліцы жонку майстра стары палкоўнік і кажа:

— Дзень добры, чароўная мадам. Дазвольце праводзіць вас і пагутарыць з вамі.

Яна кажа:

— Спяшу па справах! Калі жадаеце са мной гутарыць, прыходзьце да мяне на кватэру ў дзесяць гадзін.

І далей паляцела па вуліцы.

Спатыкаецца з папом. Поп кажа:

— Красуня вы мая, што ў вас чуваць добрага? Можа, зайдзеце ў маю хату выпіць чайку?

— Я не маю часу — спяшу па справах,— кажа яна.— Калі жадаеце,— прашу на кватэру ў адзінаццаць гадзін.

І вось з'яўляецца яна дамоў з дарагімі пакупкамі (накупляла яна выпіўкі і закускі). Майстра бачыць, што жонка прынесла такое багацце і не разумее нічога. Яна гаворыць:

— Будуць справы ў нас сёння! Прыдзе да мяне малады афіцэр у дзевяць гадзін вечара, а ў дзесяць гадзін прыдзе стары палкоўнік, а ў адзінаццаць гадзін,— бацюшка. А ты выйдзі цяпер з хаты і прыходзь у палавіне дванаццаці.

Майстра забраў інструменты і сумку сваю і пайшоў.

Якраз у дзевяць гадзін вечара прыязджае малады афіцэр. Здароваецца з жонкай майстра і садзіцца з ёй за стол. Выпілі па чарцы і разгаварыліся. Ён пытаецца:

— А скажы, што б ты рабіла, калі б твой мужык дахаты вярнуўся?

— Нічога,— кажа,— я б вас схавала.

І вось ужо падыходзіць дзесятая гадзіна. Афіцэр кажа:

— Чаму ж так доўга не вядзеш у свой пакой?

Тут стала чутна, што на дзядзінцы колы грукацяць. І ў акно застукаў нехта. Афіцэр пытаецца:

— Хто такі?

Яна кажа:

— Можа, мужык мой?

— Што мне рабіць?

— Здымайце, пан афіцэр, адзенне. Хутчэй здымайце!

Калі ён распрануўся, яна кажа:

— Цяпер станавіцеся ў рад да гэтых постацей.

Зрабіўся афіцэр дзесятым апосталам, стаў і стаіць.

Адчыняе яна дзверы, уваходзіць палкоўнік. Паздароваліся і за стол селі. І таксама было з палкоўнікам, як з афіцэрам.

Падышоў час, і ў акно застукаў поп. Палкоўнік ускочыў і пытаецца:

— Што рабіць?

— Здымайце, пан палкоўнік, адзенне сваё і станавіцеся ў рад з гэтымі апосталамі. Пахутчэй толькі!

Ён і стаў у рад — зрабіўся адзінаццатым апосталам.

Тут яна ўпусціла і бацюшку. Бацюшка таксама паздароваўся. Селі за стол, выпілі, пагутарылі. Тады ён пытаецца:

— А што было б, калі б твой мужык прыйшоў дахаты?

— Нічога. Скінулі б сваё адзенне і сталі б у рад з апосталамі.

І якраз муж пастукаў тады ў акно. Яна кажа:

— Хутчэй раздзявайцеся, бацюшка. Праўда, мой мужык дахаты ідзе.

Бацюшка раздзеўся і стаў у рад з палкоўнікам — дванаццатым апосталам зрабіўся.

Прыходзіць майстра і глядзіць — стаіць дванаццаць апосталаў. Дае яму жонка есці — выпіць, закусіць і гаворыць:

— Спаць не кладзіся, пачынай рабіць, бо як развіднее, прыедзе камісія апосталаў прымаць.

Ён закусіў, выпіў. Адзеў рабочае адзенне, бярэ ў рукі фарбу і пензелі і падмацоўвае фігуры (пачаў падмалёўваць нежывыя фігуры).

Вось прыязджае камісія прымаць апосталаў. А ў камісіі быў біскуп і шмат ксяндзоў. Першай справай селі яны выпіць і закусіць. Добра выпілі і закусілі — аж у галаве зашумела ў кожнага. Адзін ксёндз устаў, бо ён гарэлкі мала піў і пашоў постацей гэтых глядзець. Усіх апосталаў паглядзеў, а на трох апошніх надта добра прыглядаўся. Прыйшоў да камісіі і кажа:

— Вось гэта дык майстра! Зрабіў дзевяць апосталаў падобных да жывых, а трох — саўсім як жывыя.

Тады біскуп і тыя ксяндзы ідуць паглядзець. Біскуп кажа:

— Надта добра зробленыя, толькі гэтых трох голаў апосталаў трэба яшчэ падчысціць.

Вось майстар бярэ разец і давай іх падчышчаць. Падыходзіць ён да трох апошніх апосталаў, а яны давай уцякаць. І як зачапіўся бацюшка за адну постаць — паваліўся і постаць пабілася. І ўцяклі тры апосталы.

Тады біскуп крычыць:

— Зачыняй хутчэй дзверы, бо ўсе апосталы паўцякаюць і паразбіваюцца. Ужо няхай мы страцілі чатыры постаці. Мы заплацім за іх удвайне. Мы адложым табе, майстар, тэрмін і ты зробі іх нанава.

Тады камісія паехала, а майстар абняў сваю жонку і сказаў:

— Дзякую, што ты мяне з бяды выратавала.

І пачаў майстар рабіць постаці чатырох апосталаў.

## 150. ПАХАВАННЕ КАЗЛА

Жылі стары са старою. Не было ў іх ніводнага дзіцяці, толькі і было, што казёл: тут усё! Стары ніякага майстэрства не ведаў, плёў адны лапці — толькі гэтым і харчаваўся.

Прывык казёл да старога: бывала, куды стары ні пойдзе з дому, казёл бяжыць за ім. Вось аднаго разу здарылася ісці старому ў лес за лыкам, а казёл за ім пабег. Прышлі ў лес, стары пачаў лыка драць, а казёл бродзіць там і сям і траўку шчыпле; шчыпаў, шчыпаў ды нечакана пярэднімі нагамі і праваліўся ў рыхлую зямлю; пачаў рыцца і выкапаў адтуль кацялок з золатам. Бачыць стары, што казёл зямлю грабе, падышоў да яго і ўбачыў золата. Надта ўжо дзед узрадаваўся, пакінуў свае лыкі, падабраў грошы — і дахаты. Расказаў аб усім сваёй жонцы.

— Ну, стары! — гаворыць бабуля,— гэта нам бог даў такі клад на старасць за тое, што столькі гадоў з табой працавалі ў беднасці, а зараз пажывём з вялікай прыемнасцю.

— Не, старая,— адказаў дзед,— гэтыя грошы знайшліся не нашым шчасцем, а казловым. Зараз жа нам — шкадаваць і берагчы казла лепш, чым сябе.

З таго часу пачалі яны шкадаваць і берагчы казла лепш, чым сябе. Пачалі яны даглядаць ды і самі папраавіліся, лепш быць не можа.

Стары нават пазабыў, як і лапці плятуць.

Жывуць сабе ды пажываюць. Ніякага гора не ведаюць. Вось праз некаторы час казёл захварэў і здох. Стаў стары раіцца са старой, што рабіць.

— Калі выкінуць казла сабакам, дык нам за гэта будзе перад богам і перад людзьмі грэх, бо ўсё шчасце ад казла атрымалі. Я лепш пайду да папа і папрашу пахаваць казла па-хрысціянску, як і іншых нябожчыкаў хаваюць.

Сабраўся стары, пашоў да папа і кланяецца.

— Добры дзень, бацюшка!

— Здароў, чалавеча! Што скажаш?

— А вось, бацюшка, прышоў да тваёй міласці з просьбай, у мяне ў хаце вялікая бяда: казёл памёр. Прышоў зваць цябе на пахаванне.

Як пачуў поп гэта, моцна ўзлаваўся, схапіў старога за бараду і давай цягаць па хаце.

— Ах ты, акаянны! Што выдумаў! Ванючага казла хаваць!

— Дык ён жа, гэты казёл, бацюшка, быў зусім праваслаўны. Ён вызначыў табе дзвесці рублёў.

— Паслухай, стары хрэн! — сказаў поп,— я цябе не за тое б'ю, што просіш мяне казла хаваць, а за тое, чаму ты да гэтага часу не паведаміў аб яго смерці: можа, ён у цябе даўно памёр.

Узяў поп з мужыка дзвесці рублёў і гаворыць:

— Ну, ідзі хутчэй да айца дзякана, скажы, каб падрыхтаваўся. Зараз пойдзем казла хаваць.

Прыходзіць стары да дзякана і просіць:

— Зрабі ласку, айцец дзякан, прыходзь да нас нябожчыка хаваць.

— А хто ў цябе памёр?

— Дык жа вы ведалі майго казла? Ён вось і памёр.

Як пачуў дзякан, стаў даваць яму аплявушыны!

— Не бі мяне, айцец дзякан! — гаворыць дзед.— Казёл жа быў зусім праваслаўны: як памёр, табе сто рублёў вызначыў за пахаванне.

— Які ж ты стары і дурны,— казаў дзякан,— што ж ты даўно не паведаміў аб яго праваслаўным скананні, ідзі хутчэй да дзячка, няхай пазвоніць па казловай душы.

Прышлі да старога поп і дзякан, пачалі пахаванне адпраўляць, плакалі, казла ў труне аднеслі на могілкі і закапалі яго.

Вось сталі пра гэту справу гаварыць паміж сабой прыхажане. Дашло да архірэя, што поп казла пахаваў па-хрысціянску. Патрабаваў архірэй да сябе на расправу старога з папом.

— Як вы маглі пахаваць казла? Ах вы, бязбожнікі!

— Ды гэты ж казёл,— гаворыць дзед,— зусім не быў такі, як іншыя казлы: ён перад смерцю вызначыў вашаму прасвяшчэнству тысячу рублёў.

— Эх, які ты дурны, дзед! Я не за тое лаю цябе, што казла пахаваў, а за тое, чаму ты яго, калі ён жывым быў, маслам не сабораваў!

Узяў тысячу і адпусціў старога і папа дахаты.

## 151. САБАКА І ГРОШЫ

Быў у ваднаго чалавека вельмі разумны сабака. Таго сабаку не кармілі, хіба калі-нікалі гаспадар кідаў яму скарынку хлеба да агрызеную косць. У таго чалавека была вельмі паганая жонка, яна заўжды выганяла сабаку з хаты мешалкаю або качаргою ці аблівала вадою. Той чалавек быў жаласлівы нават да ўсякага жыўёла. Ен часта гаварыў жонцы, што трэба сабаку карміць, бо,— кажа,— мо не праз чыю ласку жывём. Пачуўшы тое, паганая жонка толькі зневажала свайго гаспадара да яшчэ біла сабаку.

— Сабака, як кот,— крычала яна,— павінен сам сабе знайсці корм.

І праўда, бедны сабака цэлы дзень бегаў туды-сюды, шукаючы сабе корму. Больш усяго любіў ён грабціся ў зямлі, каб злавіць мыш або крата. От пайшоў раз той чалавек у поле, дзе на мяжы стаяла ігруша, каб натрасці дзікіх груш. Ідзе ён і думае сабе: «Натрасу повен кашэль ігруш, занясу ў гумно, высыплю ў мурог. Яны там сапрэюць і хутка пагніюць. Будзе добра есці дзецям, рэшту баба высушыць да наварыць узвару».

Падходзіць ён к ігрушы, аж бачыць — яго сабака грабецца тут на мяжы. Падышоў ён туды. Сабака ўбачыў хаджаіна, выскачыў з ямы, лашчыцца, кідаецца на грудзі да ўсё зноў скача ў яму. Зірнуў чалавек у яму, аж там стаіць повен гаршчок грошай. Блішчыць золата, бы сляза. Забраў чалавек грошы ў кашэль, натрос ігруш наверх і папёр да гасподы. Ужо быў падвячорак, як ён прыйшоў дамоў. Жонка падаіла карову. От той чалавек наліў у місу малака накрышыў туды хлеба ды і даў сабацы. Жонка давай лаяцца, давай зневажаць да праклінаць на чом свет стаіць. Насілу гаспадар сутрымаў трохі шалёную бабу. На другі дзень ён вялеў бабе кожны дзень варыць страву сабацы да карміць яго малаком.

«Ашалеў гаспадар,— думае баба,— дай жа я хіба атручу сабаку, ато ён скорміць яму ўсё малако».

Пабегла баба к суседкам, жалілася на сваю горкую долю, праклінала гаспадара дай выпрасіла атруты. Наварыла яна стравы, усыпала туды атруты дай атруціла таго сабаку. Вярнуўся з работы гаспадар ды як даведаўся, што сабака здох, дык чуць не заплакаў, так яму шкода было вернага слугі. Няма чаго рабіць, дастаў ён харошых дошак, збіў вельмі гожую труну, наслаў у яе пуху ды і палажыў туды сабаку. Потым выкапаў на могліцах

яму, прынёс туды труну ды і пазваў папа хаваць змарлага. Прыйшоў поп і вялеў адчыніць дамавіну. Зняў той чалавек з труны века. Убачыў тут поп, што ў дамавіне сабака, а не чалавек, закрычаў і кажа, што за гэтакі абман сашле да Сіберу ці згноіць у астрозе. Насыпаў той чалавек папу поўную шапку грошай і просіць, каб пахаваў сабаку. Паглядзеў-паглядзеў поп у сваёй ксёнжцы дай кажа:

— Усякае стварэнне да хваліць госпада,— і пахаваў сабаку.

Ідуць яны з могліц, а поп і кажа:

— Шкада, што больш не хаваюць сабак.

## 152. ПАПОЎСКАЯ ХЦІВАСЦЬ

Быў сабе ў адном сяле дурны, да багаты мужык і вельмі разумны, да бедны поп. Ось аднаго разу паспорылі яны між сабою, што на свеце мае большую сілу: розум чы грошы?

— Ты,— кажа поп,— сваім багацтвам нічога не зробіш, да толькі дурна перавядзеш усе грошы, бо ты дурны.

— Хоць вы, бацюшка, і вельмі разумны, а я такі грашыма вас так уплутаю, што вы сваім розумам нічога не зробіце, а як я грашыма ўвёў у паганае дзела, так грашыма і выведу.

— Добра, добра, але і для етага трэба розуму.

— Калісь пабачым.

Прайшло з паўгода, а мо яшчэ і больш, мужык чэраз еты час не забыў сваёй крыўды, нацца таго дурня, што тагды зарабіў ад папа, да як толькі з ім стрэнецца, дак так віляе, штоб не зайшла гаворка за розум да за грошы. Нацца хацеў, штоб поп чыста забыўся за колішнюю супярэчку. Ось раз увечары прыйшоў к папу, трэйчы перахрысціўся, сказаў вечар добры, сеў да быццам то зажурыўся. Поп перастаў чытаць, кніжку склаў, адсунуў, зірнуў на мужыка да й пытае:

— Чаго ты такі маркотны?

— Ой, маўчыце, бацюшка, маю вялікае гора!

— Ну?!

— Сучка здохла!

— Тху! Па сучцы так гаруеш? І сораму табе няма?

— Каму сучка, а каму роднае дзіця.

Ета кажучы, паклаў на стале кучку сярэбраных рублёў, мо з сотню, а паповы вочы загарэліся полымем.

— Што ж мне з табою рабіць,— кажа жаласна,— штоб твая пячаль скора прайшла?

— Есцека спосаб: мне ось знах... добры чалавек (тут мужык прыпомніў, што поп знахароў не любіць, дак пасунуў, быццам то нехаця, грошы так, што кучка разбурылася і рублі бразнулі) нараіў, штоб сучку пахаваць на могілках у труне з малітваю, з храстом да з святою вадою, дак ацета я прыйшоў прас...

Як не рассердзіцца бацюшка да як не стане крычаць:

— Што ж ты такі да сякі, падла етакая, скруціўся чы якога чорта?! Ета ж не то грэх, а яшчэ і астрогам пахне. Чы ты аб етым падумаў, а?!

— Ну,— кажа мужык, зграбаючы з стала ў кішэню свае грошы,— дак я ж сілаваць не буду, калі няможна.

Але хоць і разумны бацюшка, да ўсё ж такі, маўляў, на грошы мае паповае вока, дак крыкнуў:

— Пастой, я падумаю!

Мужык грошы паклаў назад, сеў да й жджэ, а поп бегаў па хаце, а далей стаў да й кажа:

— Добра, я ета для цябе зраблю, толькі прысягні, што людзі не будуць знаць аб сучцы, што быццам то хаваем тваё дзіця, да штоб на могілках дамавіну не адчыняць.

— Добра, бацюшка! Нашто вам што?! Будзьце спакойны, усё зробім як трэба.

Назаўтра рана пашла па сялу плётка, што Ганна-багатырчыха сяйенач скінула дзіця. Стаў сходзіцца народ, а незабавам і бацюшка надышоў. После малітвы вынеслі з хаты дамавінку, паставілі на калёсах, а багатыр сам узяў вожкі ў рукі да й павёз, быццам то мертвяца. Ось як прыехалі на могілкі і бацюшка хацеў крапіць, то каторысь з суседзяў падбег да й крышку скінуў з дамавінкі.

— Так,— кажа,— святая вада не дойдзе да мертвяца. А цяпер крапіце.

Як пабачылі людзі сучку ў труне да як наробяць крыку, той тое, а той другое: поп скруціўся, папу нешта зроблена, а мо на ўсіх чорт туман напусціў, і ўсім здаецца, што ета сучка, да шчэ знайшліся і такія, што хацелі біць абодвух — і папа і багатыра. А поп ні на етам, ні на том свеце сам не свой, ведама, з окам запарушаным, стаіць ні жывы ні мёртвы, а багатыр падашоў да й кажа:

— Цяперака адрабі сваім розумам тое, што я зрабіў грашыма.

Сеў сабе на калёса да й паехаў да гасподы падсвістваючы, а поп яшчэ доўга стаяў моўчкі, покуль народ разышоўся, а тагды і ён паваокся дадому пазагумнамі.

Мужык, добра паабедаўшы, звязаў чорнага казла, паклаў на калёса, запрог каня да й паехаў у мястэчка, бо чуў ад якогась пераежжага, што там сягоння ждуць архірэя. Прыехаў ужо змеркам, да астанавіўшыся ў заездзе, выпраг каня, закінуў травы, да аслабаніўшы казла, прывязаў яго ля каня, а сам пашоў на подслухі да на пранюхі. Прышоўшы на двор благачыннага, уваткнуў таму да сяму гасцінца, да шчэ быццам то нехаця, як паказаў, сколькі мае грошай пры сабе, дак і даведаўся, што яму трэба, што архірэй прабудзе з два дні і што да яго можна дарступіцца заўтра после службы. Прышоўшы да заезду, калі ўжо запальвалі свечкі шабас канчаць, напаіў каня, узяў чвэртку крэпкае гарэлкі і тарана, да маючы з дому сала і хлеб, павячэраў да й лёг на калёсах, напрануўшыся світаю.

Назаўтра после службы дапусцілі яго з казлом да архірэя, думаючы, што казла ён вядзе на гасцінец, калі архірэй сядзеў у пакою сам адзін. Увайшоўшы туды, нізенька пакланіўся, перахрысціўся трэйчы да й смокнуў у руку.

— А што скажаш, чалавеча добры?

— Ацета, ваша прасвяшчэнства, мне бог даў ўсяго патроху, нечага грашыць, да козы нешта не вядуцца, дак мне добры чалавек нараіў прасіць вас, штоб на маго казла руку палажылі, пастрыглі да й далі яму імя ацец Іван.

Да й ета кажучы, паклаў на стале здаровы варашок сярэбраных рублёў, мо больш трох соцень. Архірэй зразу начэ анямеў, а далей очы загарэліся агнём, да як раскрычыцца да стане лаяць, дак яшчэ горш за папа:

— Ты сякі-такі, сабака, сукін сын, пашоў вон, падлец! — Да шчэ такога нагнуў, што і пераказаць сорам.

— Калі не можна, ваша прасвяшчэнства, то я ж сілаваць не буду, маўляў: купіў не купіў, а патаргавацца можна.

Да давай зграбаць свае грошы ў кішэню, так штоб голасна звінелі. Але хоць ён і архірэй, да ўсё ж такі паповае вока: як пачуў, што рублі звоняць, хаваючыся ў кішэнях, то крыкнуў:

— Пастой, я падумаю.

І давай бегаць так, як тагды поп. Бегаў, бегаў, а далей стаў да кажа:

— Добрэ! Толькі ж, барані цябе госпадзі, не кажы нікому, бо нам абодвум будзе бяда.

— Не бойцеся, ваша прасвяшчэнства, ад мяне ніхто не даведаецца, калі вы самі да етага не даведзяце.

Зрабіўшы ўсё, як трэба, мужык з казлом, чы бок то з атцом Іванам, прыехаў дадому шчэ заране да вельмі рад.

Хтось данёс архірэю, што поп хаваў сабаку на могілках, дак архірэй не паехаў у аб'езд да завярнуў сюды, штоб етае паганае дзела разабраць. Прыехаў ён з благачынным, пазваў старасту, дзесятніка да з дзесятак хадзяінаў, склалі такі суд, што куды, а бедны папок, бачыўшы ета, думае сабе:

— Ну, ужо я цяперака суздром прапаў!

Яшчэ не начыналі дапытвацца, як і што было, калі палянь: багатыр вядзе казла проста к самым папоўскім дзвярам.

— Чы ты скруціўся,— хтось кажа,— куды ты прэшся з етым казлом?

— Эге! Каму,— кажа,— казёл, а каму ацец Іван.

Архірэй, як ета пачуў, дак вельмі спужаўся: ухапіўся за галаву да й сам да сябе кажа:

— Ох, бедная ж мая галоўка! Мне і не ўпамкі, што мужык з казлом і поп з сабакаю можа быць у адным сяле. Пускайце етага чалавека да мяне!

Мужык казла прывязаў, увайшоў у хату, дзе, акрымя архірэя, нікога больш не было, і як бы ні ў чом не бывала, трэйчы перахрысціўся, пакланіўся нізенька, цмокнуў у руку да й маўчыць.

— Ты ж кляўся, што ніхто не будзе знаць, а бач, як дадзяржаў прысягу.

— Ніхто, ваша прасвяшчэнства, не знае і ведаць не будзе, як вы самі да етага не даведзяце, я вам тагды ета казаў.

— Дак чаго ж ты ад мяне хочаш? Гавары барджэй, бо ўжо людзі вельмі цікавяцца.

— Аслабаніце і суздром абчысце нашага бацюшку, нацца, што ён ніколі, нічога, ніякага, што вока мае светлае, а я вам аддам пашпарт да скажу людзям, што казла прыводзіў вам на гасцінец, бо мне знахар нараіў, а вы не прынялі.

— Бог з табою, няхай і так будзе!

Вышаў на двор, быццам то папытаў то сяго, то таго, а іх упярод багатыр падпаіў да падгаварыў, дак яны і ляпнулі ні тое ні сёе, дай агаласіў, што поп ні ў чом не вінаваты.

## 153. ПОП У ВАЛОВАЙ ШКУРЫ

Жыў стары бедачок са сваёю бабкай. На старасці нарадзіла бабка дзіця. Гэтае дзіця хутка памерла. Не меў стары ў ва што гэтае дзіця ўкруціць і не меў з чаго трунку зрабіць. Хадзіў па

суседзях, прасіў, каб што яму па беднасці далі,— хто доску, хто цвік — зрабіць маленькую трунку. І ніхто яму нічога не даў, бо ён быў зусім бядак і сароміліся людзі ўступіць у яго хату. Вось ён сваёй бабцы кажа:

— Будзем самі хаваць. Без папа і людзей!

Зрабіў дзедка нейкую скрынку і панёс дзіця хаваць на магілкі. І вось пачаў капаць яму. Стары быў слабы, а зямля была цвёрдая. Кінуў ён капаць на адным месцы і пайшоў на другое. Там выкапаў яму з поўаршына глыбіні і было ў гэтай яме каменне. Давай ён каменне выкапваць і знайшоў кацялок залатых грошай. Доўга не думаючы, дзядок узяў скрыню з памёршым дзіцем пад адну паху, а кацялок з золатам пад другую і пайшоў дахаты. Прыходзіць дахаты і кажа бабцы:

— Ціха, бабка, не бядуй, бог нам шчасце даў. Дастаў я кацялок залатых грошай у магілцы. На табе грошай, ідзі зараз у мястэчка, купі якога паркалю на адзенне памершаму дзіцяці. І купі што-колечы выпіць і закусіць — запросім людзей на пахаванне.

Баба грошы ў руку, фартух у зубы і палявела ў мястэчка. Купіла паркалю і розных рэчаў, патрэбных для пахавання, і прыйшла дахаты. І пайшла прасіць швачкі, каб пашыла капот памершаму дзіцяці. І запрашае папа і суседзяў на пахаванне. Прыйшлі людзі, як пачулі, што дзед дзіця ўвабраў і свечку купіў. І надта здзівіліся яны, убачыўшы ўсё гэта. І пайшлі пагаворкі: можа дзед дзе ўкраў? Пахавалі дзіця і зноў прыйшлі ўсе людзі да дзедавай хаты. Дзед іх пачаставаў, даў ім па чарцы выпіць і пірага з'есці. Суседзяў гэта яшчэ больш здзівіла. І гэтыя пагаворкі дайшлі да папа.

«Адкуль,— думае поп,— гэта ўзялося? Гэтакі бядак, а дзіця пахаваў багата, і мне грошай даў, а раней ніколі гэтага не бывала. Якім бы спосабам гэта даведацца?»

Надумаўся поп — прызваў дзеда да споведзі. Дзед пайшоў, спавядаўся з усіх сваіх грахоў, а пра грошы нічога не ўспамянуў. І кажа папу:

— Ужо ўсё.

А поп думае:

«Вось пра грошы нічога не кажаш».

І кажа дзеду:

— А дзе ты грошы ўзяў на пахаванне?

— Вось,— кажа дзед,— капаў я яму для свайго дзіцяці і выкапаў кацялок залатых грошай.

— А дзе гэты кацялок з грашмі?

— Пад ложкам стаіць у мяне ў хаце.

Скончылася споведзь. Поп па ўсёй сваёй малебені прыходзіць дахаты і з жонкай радзіцца:

— Што мне рабіць? Як грошы ад дзеда ўзяць?

І вось рашыў поп пайсці да дзеда ўначы і забраць грошы. Адзеў ён валовую шкуру з рагамі і пайшоў уначы па грошы. А дзед з бабай спяць і нічога не думаюць. Поп прыйшоў пад іх акно і рогам стукае ў шыбу.

— Дзед, дзед, ці ты спіш?

Дзед ускочыў з ложка, падбягае да акна.

— Хто там?

— Чорт з рагамі, прыйшоў па свой кацялок з грашыма.

Бачыць дзед за шыбай пачвару нейкую з рагамі і, доўга не думаючы, ад акна адскочыў, на каленкі ўкленчыўся і дастаў з-пад ложка кацялок, адчыніў акно і дае кацялок «чорту». Узяў поп грошы і панёс да сваёй хаты. Прыходзіць дахаты, стукае ў дзверы. Жонка адчыніла папу дзверы, запаліла свечку і бярэ ад яго кацялок з грашыма. Але рукі папа да кацялка прыліплі і не можа ён іх адарваць. Тады поп кажа папісе:

— Здымі шкуру з плячэй.

Папіха ўчапілася за рогі — хацела шкуру валовую сарваць, але шкура гэта прырасла да цела. І кажа поп папісе:

— Гэта няшчасце і гора. Трэба нясці грошы назад дзеду, можа, тады што паможа.

І панёс поп да дзеда грошы зноў. І зноў стукае ў акно.

— Дзед, уставай, ідзі пад акно, бяры кацялок з грашымі, бо яны твае.

А дзед, доўга не думаючы, з ложка ўскочыў і акно адчыніў. Поп паставіў кацялок на акно і паўтарае:

— Бяры, дзед, грошы, бо яны твае.

І адразу рукі папа ад кацялка адсталі. І пайшоў поп дахаты. Тады папіха лёгка шкуру валовую з яго зняла.

Быў поп ужо валом і зноў стаў такім, як быў, чалавекам.

## 154. ЗАВІДНЫ ПОП

У аднаго вельмі беднага чалавека памерла дзіця. Просіць бедны чалавек суседзей зрабіць дамавіну і выкапаць магілу для дзіцяці. Але, ведама, калі чалавек багаты, то ўсе яму памагаюць, а беднаму — ніхто. Прасіў, прасіў бедны чалавек, але ніхто

не пайшоў капаць яму. Горна яму, слёзы так і цякуць, бы з бярэзіны сок. Няма чаго рабіць, трэ ісці самому капаць яму для свайго дзіцяці. Кажуць, гэта вельмі вялікі грэх, але што зробіш, калі ад беднага і людзі адступіліся. Узяў бедны чалавек заступ і пайшоў, але перш зайшоў к папу, і просіць, каб пахаваў дзіця.

— Добра,— кажа поп,— толькі ты мне перш прынясі дзесяць злотых і паўасьмінку аўса.

— Няма,— кажа,— бацюшка, у мяне ні аўса, ні грошай.

І давай прасіць, каб поп пахаваў дзіця так, а што ён ужо потым адробіць. Куды там! Поп не хоча і слухаць. Як ні прасіў бедны, поп стаіць на сваём да й толькі. Заплакаў бедны з жалю і пайшоў капаць магілу. Вось капае ён да капае і выкапаў гаршчок з грашыма: чырвонцы аж ззяюць... Панёс гэты бедны чалавек гаршчок з грашыма да гасподы і схаваў яго пад печ, а адзін чырвонец прыносіць папу. Здзівіўся поп, адкуль гэта ў беднага золата, і давай выпытваць. Бедны ўсё і расказаў, як было. От пахавалі ў беднага чалавека дзіця. Сама пападдзя з папом потым зайшлі ў хату к беднаму на памінкі. Толькі позна разышліся ўсе. Астаўся бедны чалавек адзін з жонкаю. Прыйшоў гэта поп дамоў і хочацца яму адабраць ад беднага грошы. Зарэзаў гэта ён казла, абвярнуўся ў казліную шкуру, прыладзіў рогі да й пайшоў у самую глупасць к беднаму пад вакно. Прыйшоў, высунуў у вакно галавішчу з рагамі і кажа немым голасам:

— Аддай мае грошы.

Спалохаўся бедны чалавек і аддаў гаршчок з грашыма. Ухапіў поп аберучкі гаршчок і пабег дамоў. Прыбег, хоча паставіць гаршчок на стол, да нельга — рукі прыраслі. Папрабавала пападдзя садраць з папа казліную шкуру. Куды там! І шкура, і рогі прыраслі. Што ні рабіў завідны поп, нічога не ўрадзіць. Прышлося прасіць беднага чалавека, каб ён забраў свае грошы. Сабраліся людзі, дзівяцца на папа, а ён толькі казлінаю барадою трасе. Вось прыйшоў бедны чалавек і як узяў свае грошы, дак і шкура з папа звалілася, да не толькі казліная, але і свая. От які быў завідны поп.

## 155. ЗАВІДЛІВЫ

Як жыў сабе адзін дзед, да быў ён дужа бедны. І быў у таго дзеда адзін сын. Вот тэй сын прастудзіўся ўзімку, захварэў і памёр. Пайшоў дзед прасіць, каб памаглі яму выкапаць ямку

і здзелаць труну. Ну, ніхто к яму не йдзецъ, бо ён быў дужа бедны. Тады ён кажэць сам сабе: «Ёсць у мяне карыта, укладу я яго ў карыта, дошкай накрыю і пахаваю!» І пайшоў сам капаць яму. Капаў ён, капаў, зямля мёрзлая, аж тапаром сячэць... Ідзець нейкі чалавек, старэнечкі:

— Памагай бог!

— Дзякуй, дзядулька!

— А ці мерзла зямелька?

— А няго не, дзядулька!

— Капай-тку ты вунь там пад елкай: там будзець мякчэй. Сказаў гэтак і пайшоў.

Стаў ён капаць пад елкай, аж там зямля мяккая. Капаў, капаў ён і выкапаў гарлач золата. Абрадываўся дзед, пайшоў дамоў, наняў дзелаць харошую труну і наняў папа хаваць. Вот, як пахавалі, дзед і заплаціў ім чырвонцамі. Тады жонка таго папа стала завідываць дзеду і кажыць на папа, каб ён пайшоў украў у таго мужыка золата. Поп кажыць:

— Як жа я пайду: ён мяне спазнаецъ!

А яна кажыць:

— Зарэж вала, аблупі яго з галавой, надзень на сябе шкуру з рагамі, а я зашыю. Ідзі гэтык к яму, ён спужаецца і пабяжыць, а ты вазьмі золата.

Поп абшыўся ў валіную шкуру і пашоў к мужыку. Той як увідзеў, перапужаўся і пабег уцякаць. Узяў поп сабе золата і панёс дамоў. Аддаў там жонцы золата і стаў знімаць з сябе шкуру. Ды не! Шкура не знімаецца, бы зжылась. Так ён і не зняў яе і памёр. Завезлі яго ўлес, укінулі ў роў і закідалі калодкамі...

## 156. НЕБЯСПЕЧНЫЯ СКАРБЫ

Чалавек на навіне выараў казан грошай да, як саўсім сцямнела, прынёс дадому дай закапаў пад печчу. Было б усё добра, калі б не жончын язык; не выцерпела дай расказала куме пад прысягаю, што тая нікому не скажа, а кума шапнула сваёй куме, аж ось даведалася дзячыха, расходавая баба, дай кажа да сваго чалавека:

— Дурны мужык, грошы перавядзе, а толькі карчмары нажывуцца, дак няхай жа лучшай мы, хрышчоныя, скарыстаем.

Вісела ў іх на гары шкура з рагамі з чорнага вала, каторы, не даждаўшыся юр'евае расы, узяў ды здох. Трохі яе размачылі,

штоб была вахкаватая, дзяк надзеў шэрсцю наверх, падперазаўся да ў самую поўнач падышоўшы к мужыку пад акно, рагамі бразнуў у абалонку так, што аж шкло пасыпалася, дай загудзеў грубым голасам:

— Аддай мае грошы, што выараў!

Месяц ужо быў высока, ноч відная, дак мужык, добра разгледзеўшы, што за акном стаіць чорт з рагамі, без ніякай гутаркі аддаў яму грошы да, падзякаваўшы богу, што спас яго ад чартоўшчыны, заснуў сном праведнага.

Дзячыха ждала сваго чалавека, паадчыняўшы дзверы, а ён, прышоўшы, кажа:

— Барджэй бяры грошы, бо мне рукі так памлелі, што і расчапіць нельга да шкура вельмі пячэ.

Яна хацела ўзяць, але куды там: казан прырос да абедзвюх рук, папробувала шкуру сцягці, аж палянь! і шкура прырасла да ўсяго цела, і рогі на галаве тырчаць — не хістаюцца. З гарачкі ўхапіла нож дай цялях па шкуры: з прарэху брызнула кроў, а дзячок крыкнуў ад болі.

Ён такім і астаўся да канца сваго веку.

## 157. ПАПОВА ЗАВІСЦЬ НЕ ПАШЛА Ў КАРЫСЦЬ

У вадной вёсцы была цэрква і поп, і быў там мужык багаты і меў пару валоў добрых. Папу хацелася, як бы гэтыя валы дастаць сабе. Так давай хадзіць да мужыка і прасіць, каб і ён да яго прыходзіў, кажа:

— То ж мы на цэлую вёску найбагатшы: у цябе пара валоў добрых і ў мяне пара валоў добрых, то мы адзін другому роўня.

Мужыку гэта спадабалася, дак кажа:

— Праўда, ойча духоўны, што праўда, то праўда, з намі ніхто не паправіцца, колькі тут ест.

Ну, і давай хадзіць то мужык да папа, то поп да мужыка, і жывуць сабе ў прыязні. Поп добра лгаць умеў, а мужык яшчэ лепей, так раз кажа поп да мужыка:

— Я добра лгу і ты добра лжэш, залажэмся на пару валоў, каторы каторага паралжэ, то той таго валы забярэ.

— Добра,— кажа,— няхай ойцец упярод лжэ, а я потым буду.

Так поп лжэ, а мужык усё кажа:

— Праўда, ойчэ, праўда,— так што поп і не прыдумае, што больш лгаць, дай кажа:

— То ты ўжо лжы.

Так мужык кажа:

— Вы, мусіць, аб том і не ведалі, што як меў мой бацька нарадзіцца, то я піва рабіў, адно замнога даў хмелю, і піва было замаладое. Як зачало ж яно хадзіць, пашло па агародах, па балоце, усюды парасхадзілася. «Што тут рабіць? Бяда! — думаю я сабе,— прапала піва». Так я гэта на жонку да на дзеці:

— Бярэце,— кажу,— граблі да рэзгіні да то хутчэй пазграбайце піва!

Ледва не ледва мы яго пазбіралі да панасілі. Анно ж як гэта піва асела, зрабілася зусім мала, а тут і ячменю няма, няма з чаго рабіць. Так давай я суседа прасіць, каб пазычыў мерку ячменю. Ледва я выпрасіў дай думаю сабе: «Што я з гэтага ячменю зраблю, зусім мала даў, лепш я гэты ячмень пасею ў вагародзе і пажду, як нарасце, то дараблю піва».

Анно ж як на бяду, парос гэты ячмень пад самае неба. Ну, што тут рабіць? Нават не ведаю, ці пара ячмень жаць, ці не? Палез я гэтага ячменю глядзець, анно яшчэ зялёны, думаю я сабе: «От так блізенька, зайду ж я да неба, пагляджу, што там робіцца, пакуль ячмень паспее».

Ажно я ўвайшоў да неба, аж як сходзіцца бура — чыста ўсей ячмень палажыла на землю. Думаю ж я сабе: «От цяпер то я ўжо навекі прапаў! Іду я далей, аж усе святыя гарох малоцяць, а святы Пётр з бізуном стаіць над імі. Давай я яму кланяцца і прасіць, каб мне што парадзіў. Аж кажа:

— Ідзі да пана Езуса: вун ячмень вее, папрасі.

Я гэта да пана Езуса, да ног, да ну ж прасіць, да ногі цалаваць, каб быў ласкаў, даў мне хоць мерачку ячнае мякіны.

Аж пан Езус кажа:

— Вазьмі ж сабе, я табе не шкадую.

Я гэта пакланіўшыся, давай вяроўку круціць, скруціў дай палез. Злез я да палавіны толькі, бо вяроўкі не стала,— бяда! што тут рабіць? Так от што я рабіў: угарэ ўрэжу, а ўнізу ўтачу і зноў лезу. Злез чуць-чуць ужо не да зямлі і зноў не стала сажняў зо тры — вішу я. Анно ж едзе пан чацвёркаю, а хфурман з такім доўгім батам, як ні дзёрне мяне па шыі, так я ўрваўся і заляцеў аж да пекла. Пагляднуў, анно ж там, няхай бог бароніць, як людзей мэнчаць, але каму, каму, а вашаму бацьку то найгорай: запраглі ў драбясты воз і смалу возіць.

— Лжэш,— кажа,— дурню!

— Аддай, ойча, мае валы!

# 158. ПРА РАЗУМНАГА ПАПА

Недалёка ад мястэчка Берастэчка жыў поп, талаканны лоб, а ў папа быў вельмі добры, верны слуга. Поп вельмі любіў хадзіць на рэчку, дзе акунаўся некалькі разоў не гледзячы, якая была пара года.

Але аднойчы перад ноччу сустрэчы зімы з вясной ён пайшоў на рэчку і акунаўся доўгі час, чым хацеў прыскорыць прыход вясны і замаліць вадзяных. Пасядзеў час, другі, а на трэці чуць вылез, заняло яму дыханне і рэч, ледзь дацягнуўся дадому.

Верны работнік яго кінуўся да яго, але бачыць, што не той поп, якім быў перад купаннем. Бачыць, што поп і слова не можыць сказаць, работнік верны хацеў бегчы за доктарам, але поп гавора яму:

— У мяне, мусіць, мачавога пузыра схваткі,— і дае свайму вернаму работніку шклянку з мачой і гавора:

— Глядзі, спяшайся, каб як хутчэй занёс да доктара, каб узнаў, што за хвароба ў мяне.

Работнік верны пусціўся, сколькі мага, сколькі ў яго было толькі сіл, але перабегшы некаторы час, ён спатыкнуўся і разліў... Засумаваў верны работнік, але не расцяраўся, бачыць стада кароў, падышоў да адной з іх, набраў у шклянку каровяй мачы і апяць бягом да доктара. Але гэта карова была цельная.

І калі бедны мужык прыбег да доктара і аддаў яму, то доктар даў бумажку, праверыўшы аналіз мачы, што поп цельны. Мужык засумаваў, што папу так не павязло, і, падзякаваўшы доктара, пусціўся дамоў. Прыбегшы дамоў, ён расказаў папу, што чэсна выканаў службу. Поп здаволіўся, але калі прачытаў, што цельны, дык ён з ума чуць не зышоў. Прайшоў некаторы час. Поп бачыць, што скора радзіць трэба, і вось ён гавора свайму вернаму работніку, каб ехаць з дзярэўні ў глухі край, дзе ніхто б не ведаў аб тым, што з ім здарылася. Верны работнік сагласіўся, і яны паехалі, але пасярод дарогі іх застала ноч, і яны вымушаны былі прасіцца на ноч у першы папаўшы будынак.

Поп не знаў, што рабіць ад гора, яму вельмі не хацелася начаваць у людзей, але вымушаны быў. Калі засталіся на ноч, то поп, як парадзіха, палез на печ, а верны работнік лёг на падлозе. У гэту ноч у хазяіна цялілася карова. Хазяін усю ноч не спаў ходзячы то ўзад, то ўперад, а поп, спадарожыўшыся і перапалохаўшыся ад прыбылі, якая павінна быць, спаў, як Іван пянь-

ку прадаўшы. Вось у хазяіна цялілася карова, маленькаму цялёначку было вельмі холадна, і хазяін унёс яго ў хату і палажыў на печку каля папа. Усюды стала ціха. Усе спалі. Поп, які выспаўся, прабудзіўся і бачыць каля сябе цялка. Поп расцяраўся, хацеў крычаць, але абдумаўся, што гэта ён цяліўся, і трэба якнебудзь ціха разбудзіць вернага работніка, забраць парадзіўшага папоўскага наследніка і ехаць. Поп так і зрабіў. Калі пачынала святаць, устаў хазяін і заўважыў, што няма цялка. Ён зразу ўпомніў пра начлежнікаў, за якімі паехаў хутчэй у дагоню. Нагнаў ужо каля самага дому. Хазяін кінуўся і адабраў у папа сваё цяля, а поп не ведаў, што рабіць, куды дзецца ад стыда, але ім не надта стыдна, бо яны прывучаны ка ўсякаму абнагленню.

Пасля гэтага поп стаў больш любіць і карміць свайго работніка, штоб ён нікому толькі не гаварыў аб тым, што яго так бог папутаў.

## 159. РАБІН І ЦЯЛЁ

У адным мястэчку захварэў рабін, яго прыслужнік пабег да доктара. Доктар паехаць да рабіна не меў часу і сказаў прынесці мачы для аналіза. Прыслужнік узяў тую мачу, але была восень, па дарозе ён зачапіўся, упаў і разліў мачу. Каб не турбаваць другі раз хворага рабіна, ён набраў шклянку кароўяй. Занёс доктару. Той зрабіў аналіз і кажа:

— Ваш рабін цельны і павінен праз два месяцы ацяліцца.

Прыслужнік прыйшоў да рабіна і расказаў яму гэта на вуха, што ён цельны і павінен праз два месяцы ацяліцца. Ён сабраў усіх прыслужнікаў і паехалі ўсе ў вёску да аднаго яўрэя, бо гэта пазор, каб людзі даведаліся, што рабін цельны. Яўрэй паслаў ім спаць на падлозе. Дарэчы, у таго яўрэя была карова, якая ацялілася якраз той ноччу, і ён унёс у хату цяля. Цялё, шукаючы сабе зручнае месца, падсунулася якраз да рабіна. Намацаў ноччу рабін гэтага цялёнка, разбудзіў усіх сваіх прыслужнікаў і сказаў:

— Я уж гатоў.

Яны схвацілі цялёнка, палажылі ў павозку і ўцяклі, каб не бачыў гэтага пазору яўрэй-гаспадар, у каго начавалі. Гаспадар прачнуўся раніцой, бачыць — няма ні гасцей, ні цялёнка і пагнаўся наўздагон за рабінам. Дагнаўшы, стаў ён крычаць:

— Аддайце майго цялёнка!

А рабін кажа, што гэта не цялёнак, а яго сынок, і што доктар ёсць, які можа пацвердзіць, што ён быў цельны. Пачалася ў іх спрэчка, вырашылі звярнуцца да другога рабіна, каб ён учыніў суд. Рабін загадаў прывесці тую карову і тады будзе вядома, чый гэта цялёнак. Прывялі карову да рабіна і пусцілі цялёнка, куды ён пойдзе, то й будзе відна, чый ён. Але цялёнку было затрудніцельна іскаць карову, ён падышоў да рабіна і стаў яго ссаць. Тады рабін крыкнуў:

— Я быў праў! — і забраў цялёнка.

## 160. ЛЫСЫ І РЫЖЫ

Адзін заможны хазяін перад смерцю казаў сыну, каб той заўсёды засцерагаўся лысых і рыжых людзей, бо, кажа, лысы дужа разумны, а рыжы надта хітры, яны могуць падвесці так, што і не вырабіцца.

Цераз год сын і забыўся, што бацька казаў, узяў усе грошы, што засталіся пасля бацькі рублёў дзвесце, і паехаў у горад купляць, што было трэба. Захацеў ён есці, заехаў па дарозе ў карчму і кажа рыжаму рандару падаць што з'есці. Той наліў яму міску шчаўя. Чалавек пакаштаваў і кажа:

— Вот шчаўя атлічнае, кажная лыжка варта рубель.

Пакуль ён еў, рандар сядзеў каля стала і ціханька, як той з'есць лыжку, ён крэйдай пад сталом і запіша.

Пад'еўшы, чалавек пытае:

— Сколькі табе, рандар, за шчаўе заплаціць?

— А сколькі? — кажа. — Па рублю за лыжку, як ты і сам казаў.

— А ты пачом знаеш, сколькі я лыжак з'еў?

Ён перавярнуў стол, стаў лічыць і налічыў 200 лыжак.

— Давай,— кажа,— 200 рублёў!

«Авось табе ліха,— думае чалавек, — папаўся к рыжаму рандару. Праўду бацька казаў, але што тут рабіць?»

Ніяк не адпрасіўся. Рандар забраў усе грошы. Паехаў гэты чалавек з карчмы, чуць ні плачучы. Аж едзе нейкі пан на брычцы, дрэмле, шапка з'ехала, а галава лысая ды проці сонца блішчыць, як патэльня.

Убачыў гэта чалавек. «Ну,— думае,— цяпер саўсім, муся, прапаў: рыжы грошы адбіраў, а лысы, пэўна, каламашку і каня адбярэ»,— ды скарэй у лес стаў уцякаць.

Угледзеў гэта пан, кажа хурману:

— Паганяй за ім коні. Чаго ён уцякае з дарогі ў лес? Гэта не іначай, як, пэўна, злодзей.

У мінуту дагналі чалавека, пан зразу і кажа:

— Прызнавайся, што ты ўкраў, чаго ўцякаў з дарогі.

Той, нечага рабіць, расказаў прычыну. Тагды пан гавора:

— Ну, паязджай за мной у тую карчму, я табе вярну грошы назад.

Прыехалі, рандар пераняў пана. На стале ляжала цялячая лапатка, пан — хлоп, хлоп па плячы рандара і пытае:

— Сколькі стоіць твая лапатка?

Той думаў, што пан пытае аб цялячай, кажа:

— А рублі тры.

— Добра!

Пан выняў тры рублі, заплаціў, узяў нож і гавора:

— Ну, нашто порціць твой лапсардак, дай я так голую лапатку ў цябе выражу.

Ну, як не круціўся рандар, мусіў аддаць чалавеку яго дзвесце рублёў і яшчэ сваіх прылажыў з палавіну.

Рад чалавек, дзякуе пану і кажа:

— Дай бог, каб усіх галавы пабла... і былі, як калені, голыя.

І паехаў.

## 161. МУЖЫК І ПАНІЧ

Ехаў мужык, спатыкае ён некаега паніча, ідзець дарогай і просіцца:

— Падвязця.

— Добра,— кажа мужык.— Садзіся!

Ён сеў, і яны паехалі. Дарогай мужык пытае:

— Хто ты і куды ідзеш?

— Я,— кажа,— скубэнт, учуся ў гімназіі, а цяпер нас пусцілі на вакацыю, дык іду дамоў.

— А чаго вас там вучаць?

— Ды ўсякіх навук, во, напрыклад: гром і бліскавіца — гэта знача,— лякрычаство такое яно...

— Не, брат, відаць, што вучан, да не давучан. Гэта божа ж моц называецца, а не лякрычыство тваё нейкае. Во што!

І так яны споручыся, той сваё, а той сваё, ехалі ўброд, дык чалавек спіхае скубэнта з возу і кажа:

— Калі ж ты такі мудры, дык перайдзі ж цяпер цераз брод, не намачыўшыся ў гразь.

А той кажа:

— Пастой, перайду, пазволь мне толькі падлезці па каню к дузе, а там і перайду суха.

Узяў дый узлез на каня, выняў ціханька з кішэні сцізорык і чырах па гужам — каламашка з аглоблямі і асталася ў бродзе, а ён вярхом на кані і праехаў на сухое, кінуў каня і пайшоў сабе. І пакуль чалавек, па бруха ў гразі, прыладзіў ізноў каня, скубэнт ужо дайшоў да якога-та засценка, зайшоў у адну хату. Там маладзіца бліны пякла. Ён просіць:

— Пусці начаваць.

— Добра! — кажа.

Ну, ён січас і лёг на тапчане. Можа, цераз гадзіну ці болей прыязджаець гаспадар. Маладзіца яму:

— Чаго ты марудзіў доўга? Суседзі пэўня ўжо вячэраюць, а я цябе ўсё чакаю.

— Я б даўно быў бы, але прычапіўся ка мне нейкі скубэнт і падстроіў мне штуку, каб яго паветрые!.. А хто гэта ў цябе на тапчане ляжыць?

— А нейкі паніч папрасіўся начаваць.

Чалавек падыйшоў к яму:

— А ты тут? Найшоўся ж брат... Ну, але пакуль што якое, хадзі павячэраем перш: сягоння ў нас дзяды.

Пасадзіў яго за стол, сталі вячэраць. Чалавек з жонкай выпілі кварту гарэлкі — ён па яе гэта і ездзіў у карчму.

Павячэралі, гаспадыня паслала скубэнту пасцель на тапчане, пад палацямі. Той было ўжо хацеў укласціся, але гаспадар узяў бізун у рукі ды кажа:

— Пастой-ка, паўчу цябе троха, калі ўсё ў тахту скажаш, то будзеш цэл, а калі не — пападзеш бізуна.

І паказвае на цяпло, што гарэла на комінку, кажа:

— Што гэта?

Скубэнт атвячае:

— Звесна — агонь.

Той яго сцёб бізуном.

— Не, брат, прашыбся! Гэта называецца не агонь, а красата.

Паказвае на ката, што сядзеў на прыпечку і мыў сабе лапкай мордачку:

— А гэта што?

Скубэнт кажа:

— Кот.

Ён ізноў яго сцёб бізуном.

— Не,— кажа,— гэта чыстата.

А дылі паказаў на палаці:

— А гэта што?

Той кажа:

— Палаці.

— Не, брат, гэта высата, помні! — ды бізуном.

— Ну, а цяпер,— паказвае на ваду,— у паследні раз угадай, што гэта?

Скубэнт кажа:

— Звесна — вада!

Мужык яму зноў бізуном.

— Не, брат, прашыбся, гэта называецца благадаць!

После гэтых навук мужык палажыў бізун, палез на палаці спаць, гаспадыня лягла на печы, а скубэнт на тапчане і заснулі.

Пад дзень мужык з жонкай усталі і пайшлі ў ёўню малаціць. Прачнуўся скубэнт, агледзеўся, нікога няма ў хаце.

«Ну,— думае,— зраблю штуку!»

Узяў, злавіў ката, прычапіў к хвасту галавешку з агнём і ўскінуў на палаці, а там лён сушыўся.

Тады скубэнт пайшоў у ёўню к гаспадару і кажа:

— Дзякуй табе за хлеб, соль, начлег і навуку, але вот: чыстата ўхапіла красату і панесла на высату, а калі не ўжывеш благадаці, то не будзеш сядзець у хаце! — і пайшоў сабе.

Мужык гэта адумаўся, што скубэнт пэўне штуку зрабіў, пабег ў хату. Бача — лён гарыць на палацях, давай заліваць і скубэнта памінаць.

## 162. СУДДЗЯ ПРАВЕДНАЯ

Было сабе ў атца два сыны. От ацец памёр, яны яго пахавалі, а тагды ўзялі і падзяліліся. Меншы жа быў разумнейшы, а большы дурнейшы. І ў меншага разумнейшага быў адзін сын, а ў большага ў дурнейшага было тры сыны. Які там дзел (дзялёж) быў — даў большаму еты меншы аднаго воліка, ато ўсё сабе забраў. І паставіў яго, меншага етага, пан дзесятнікам. Нядзелю пражылі, прыехаў еты пан з свайго двара ў тую ў дзярэўню. Яму людзі і гавораць:

— Не стое етаму чалавеку быць дзесятнікам, здзелай яго войтам!

Чэраз нядзелю пан ізноў прыехаў. Людзі яму адказваюць:

— Не стое яму быць войтам, здзелай яго старастам!

Так здзелаў яго старастам, а сам паехаў дамоў. Прыязжае гэты пан у трэцюю нядзелю, етыя людзі кажуць яму:

— Не, пан, не стое яму быць старастаю, здзелай яго над часцю ляндвойтам!

Пан здзелаў яго ляндвойтам і паехаў дамоў. Быў у етага пана хвальверык, і памёр у яго там прыкайшчык. Ён яго схаваў і паехаў сабе другога прыкайшчыка шукаць. Заязджае ў тое сяло, дзе гэты ляндвойт быў, людзі і гаворуць:

— Не, пан, не стое яму ляндвойтам быць, здзелай яго прыкайшчыкам!

Еты пан і кажа:

— Да, мне прыкайшчык і трэба!

— Ну, вот жа, пан, і ў свеце такога чалавека няма разумнага!

Ну, пан і ўзяў яго к сабе ў хвальверык за прыкайшчыка. Жыве гэты чалавек там за прыкайшчыка, правіць дзялы харашо. Прайшла зіма, даў бог вясну, і сталі людзі пахаць палоскі на яр. Тады большага брата сыны сталі гаварыць бацьку свайму:

— Вот, таць, усе людзі папахалі палоскі свае, а нам не на ком: адзін бык да й той не здолее. Схадзі ты, таць, к нашаму дзядзьку, а к свайму брату, у хвальверык, і папрасі ў яго хоць аднаго воліка, а калі ласка, дак і пару. Ці не папахалі б і мы свае палосачкі!

Еты бацька гавора:

— Ах, мае сыны! Вы не знаеце, які ваш дзядзька, а мой брат, які ён хвабры і сярдзіты. Ён нам і валоў етых не дасць, а толькі мяне зняважа!

Етыя сыны і кажуць:

— Да што бог дасць, то і будзе! Можа, ён нас і пажалее, і пару валоў, можа, ён нам дасць! Вот, татка-саколак, вазьмі ты кашолак і ідзі прасі яго на прамілуй бог!

Ён узяў кашолак і пайшоў ік брату ў хвальверык. Прыходзя к яму ў хату.

Брат убачыў:

— Што ты, брат, прыйшоў?

— А што ж, брат, я прыйшоў? К табе! Прасілі твае пляменнікі, а мае сыны, і я прашу: дай ты нам пару валоў із сохамі.

Брат еты і гавора:

— Нашто яны вам?

— Эх, брат мой родны, да людзі палосачкі папахалі, а нашы нс, няпаханыя; дак здзелай міласць, братка наш родны, пажалей ты нас: дай ты нам пару валоў із сохамі!

Еты брат ускрычаў:

— Нашто я вам буду пару етых валоў даваць, вы іх паністожыце!

— Не, братка, будам глядзець так тваіх валоў, як сваё вока ў лысіне!

Ен, еты брат, пакрычаў, пакрычаў і даў яму пару валоў із сохамі, із калёсамі. Гэты чалавек запрог валоў у калёсы, паклаў сохі на калёсы і паехаў дамоў. Прыязджае дамоў, яго сыны і рады ета, што дзядзька даў пару валоў.

Тады яны етых быкоў у сохі, і запраглі і свайго ў саху і паехалі палоску пахаць. Ета недалёка ад дзярэўні. Прыехалі ік палосцы і пагналі адзін за адным гуськом. І сталі яны рады, што із роду ў тры сахі не пахалі, ато прышлось пахаці. Абагналіся яны тры разы кругом палоскі етыя, так прыходзя чалавек ік ім:

— Божа памажы вам, людзі добрыя!

— Здароў, старышок паштэнны!

Ну, етый чалавек і кажа:

— Ну, кажыце, людзі добрыя, каго вам жальчэй: ці дзядзькавых валоў, алі дзядзькавага сына?

Етыя сыны сталі, валоў унялі і заплакалі:

— Госпадзі божа, што ета такое за бясчасце: каму-небудзь да нада ўміраць? Валоў пажалей, дык дзядзькаў сын умрэ ў хвальверку, а пажалей сына, дык валы падохнуць. Плачуць яны да думаюць, а ён гавора:

— Доўга не думайце: гаварыце скарэй!

Яны абдумаліcь, што ў дзядзькі адзін сын, а валоў цэлы хвальверык.

— Дак няхай,— кажа,— валы дохнуць, як дзядзькаваму сыну аднаму паміраць!

Ну, етыя валы тут жа сейчас у сохах і падохлі. Сыны гэтыя кінулі валоў, пайшлі к атцу зноў у двор у свой:

— Вот, таць, ідзі зноў к дзядзьку, скажы, што валы падохлі!

— Як жа яны падохлі?

— А так і так: ці дзядзькаваму сыну ўміраць, ці валам падыхаць. Мы сказалі — валам!

— Ну,— кажа,— мае сыны, цяпер мая смерць, ён мяне заб'е там, хоць павесся.

— Ну, татка, хоць бі, хоць павесь, а ўжо трэба сказаць, што валоў няма, што падохлі валы!

Ён узяў за кашэль і пайшоў к брату ў хвальверык. Прыходзіць к брату ў хату.

— Што ты, брат, ізноў прышоў?

— Эх, брат, тваіх валоў ужо няма, падохлі!

Етый брат ускрычаў:

— Эх, брат! Як я не хацеў табе даць, што ты бяздзельнік, што ты маіх валоў пані́стожыш, а яно так і ёсць. Ну, брат, пойдам с табой к пану на жалабу, ета валы не мае, а панскія!

Узялі і пайшлі. Ішлі, ішлі, прыходзяць у сяло — і царква ё і поп. Увайшлі ў сяло, етый прыкайшчык і гавора:

— Ноч насцігае, ну, куды, брат, пойдам на ноч?

— Брат, куды ты пойдзеш, туды і я,— патаму — я вінаваец.

— Ну, пойдам к папу!

— А ўжо ж, брат, пойдам: куды ты пойдзеш, туды й я!..

Прыйшлі к папу. Толькі ўвайшлі ў хату — у етага папа радзіны. Еты поп за прыкайшчыка за етага, пасадзіў яго за стол і давай гарэлку піць:

— Слава богу,— кажа, што вас бог прынёс! Мне бог даў радзіны!

П'юць яны гарэлку, а етый вінаваец стаіць. Стаяў, стаяў, тады ўзяў — вісіць полаг — ён падышоў і сеў на палу ля полагу. І на палу няма нікога: ні парадзіхі, ні бабкі — яны хадзілі ў лазню, парыліся. Прыходзя пападдзя ўперад за бабкі, а етый чалавек сядзіць каля полага. Пападдзя і гавора:

— Вот, тыя сядзяць за сталом і закусуюць, а табе і чаркі гарэлкі не дадуць,— кажа.

Яна ўзяла адвярнулася ад яго, як яна спіць, у галавы, і ўзяла пляшку гарэлкі і налівае яму чарку гарэлкі.

— Будзь,— кажа,— здароў, чалавек добры!

— Піце, матушка, на здароўе!

Яна ўзяла, прыкушала і дала яму. Ён сядзіць і думае. «А ці дасць другую, ці не, а ету вып'ю!» Налівае яму і другую, ён сам сабе думае; «Ці дасць другую, ці не, а ету вып'ю!» Налівае яму і трэцяю. Ён і тую выпіў. Тады ету пляшку паставіла ў галавы, а сама пайшла із хаты вон. Прыходзя бабка к полагу і кажа яму:

— Вот, чалавек добры, тыя п'юць і закусуюць, а табе і чарачкі не дадуць!

Адвярнулася ад яго, узяла тую пляшку зноў і налівае чарку гарэлкі і кажа яму:

— Чалавек добры, будзь здароў!

— Пі на здароўе, бабка!

Яна ўзяла, трошкі прыкушала, даліла яму і падноСя.

— На, чалавек добры, выпі!

Ён чарку ету ў рукі ўзяў і сам сабе сядзіць і думае: «Ці дадуць другую, ці не, а ету вып'ю!» Налівае яму і другую, і трэцюю — зноў тры выпіў! Узяла яна пляшку ету, паставіла ў галавы, і сама кудысь адвярнулася. Еты чалавек выпіў ладна гарэлкі, а закусіць — можа, дні тры не еўшы быў, нашча — і не далі яны яму закусіць нічога. Еты чалавек стаў п'ян крэпка і сядзеў ён ля запечку. І на ўзапечку ў пялёначках ляжыць рабёначак етый, папялёначак у начоўках. Тады еты чалавек ап'яніўся і пасунуўся паўз сценку да локцем у ночвы на папялёнка етага, і задавіў етага младзенца!.. Сабраліс пападдзя, бабка, палядзяць, аж ён ужо задавіў папялёнка! Яны закрычалі і ў ладоні запляскалі і кажуць на етага прыкайшчыка:

— Што ты ета к нам такога чалавека прывёў, іздзелаў ён нам бясчасце — папялёнка задавіў!

Етый поп выскачыў із стала і гавора на прыкайшчыка:

— Куды ты з естым чалавекам ідзеш?

Ён сказуе:

— Вот, бацюшка, ета вінаваец мой — вяду к пану на жалабу!

— Пайду ж, брат, і я з табой на жалабу к пану!

Даў бог рання і пайшлі. Ішлі дарогай па лесу. Тут кала дарогі высечана ляда і на том лядзі пасеяна рэпа. У етага чалавека, апроч той гарэлкі, не было ў роце нічога хлебнага ўжо сутак трое. Ён ідзе і думае: вырву я хоць адну рэпку і з'ем, хоць смагу праганю! Узяў ён нагою ўступіў на ляда, вырваў рэпіну сабе адну да ў руку сабе. Тут сычас — старажы тут былі — за яго цап!

— Стой, рабяты, куды вы ідзеце?

— А ідом — ета наш вінаваец: вядом мы яго на жалабу!

— Ну, і мы з вамі павядом яго!

І пайшлі яны ета ўжо ўтраіх, а вінаваец чацвёрты. Пайшлі дарогай. Ішлі, ішлі яны дарогай, прыходзяць к лугу. На етам на лугу, кала дарогі, пасе ганчар кабылу. Ганчара етага кабыла ўтапілася ў гразь. Еты ганчар адзін мучыцца — етыя кабылы не выцягне з гразі. Людзі етыя ідуць міма яго. Ганчар і просіць:

— Эх, людзі добрыя, пасабіце мне кабылу цягаць з гразі!

Поп, прыкайшчык і сторож:

— Мы табе кабылы цягаць не будам!

А етый вінаваец ідзе ззаду і кажа:

— Дай мне, брат ганчар, кусочак хлебца, я табе памагу: я ўжо няеўшы паміраю!

— Хадзі, брат, пасабі, я табе цэлы бохан дам хлеба!

Прыйшоў ён. Ганчар узяў кабылу за грыву, а вінаваец увяз па калена ў гразь і ўзяў за хвост. Пацягнулі яны на бераг кабылу. Толькі пацягнулі — і хвост вырваў еты вінаваец у кабылы. Ганчар і крычыць:

— Эй, людзі добрыя, куды вы ідзеце?

Людзі етыя яму і сказуюць:

— Вядом етага чалавека к пану на жалабу!

— Ну, і я з вамі пайду!

Кінуў усё і пайшоў з імі. Ідуць яны дарогаю ўжо ўпяцярых. Ідуць яны блізка кала пана кала етага — кала двара цячэ рака бальшая, ладная. Цераз тую рэчку мост. Ідуць яны па том масту і вінаваец етый надумаў што: «Верна, мне,— кажа,— прапасць: вазьму я ўтаплюся!» Узяў узлез на пярэндзіну да й скакануў у ваду. Скакануў у ваду, а там пад мастом пад тым купаліся чанцы (чарняцы). Ён скакануў — так прама на чанца! І чанца забіў! Етыя астальныя там чанцы за яго, вывалаклі зноў на бераг. І крычаць:

— Людзі добрыя, куды вы ідзеце?

Ім сказалі етыя людзі:

— Вядом етага чалавека к пану на жалабу!

Тады еты чалавек бачыць, што гора, недзе дзецца ўжо! І чанцы ідуць к пану! От ён ідзе блізка кала самага панскага двара ззаду і ляжыць камень хунтаў пяць, круглы. Ён узяў за той камень да сам сабе і думае: «Вазьму етый камень: што бог дасць, то й будзе!»

Увайшлі яны ў хату. Прыкайшчык сказаў сваю абіду пану, поп — сваю, рэпнік — сваю, ганчар — сваю, чанцы сваю абіду тож сказалі пану. Тады еты пан гукае вінавайца:

— Што ж ты,— кажа,— чалавек добрый, багата так шкоды надзелаў?

Тады гэты вінаваец стаў на парозе і ўсё чыста расказаў, як яно было. І лэпае па камні — за пазухай аддулася:

— Судзі,— кажа,— пане, па праўдзе: будзе і табе, будзе і мне!

Тады гэты пан прызывае прыкайшчыка сваго:

— У цябе,— кажа,— сын адзін, а валоў у кашары многа. Аддай яму етага сына, а я табе пару валоў, памяж тышчы якіх ты хочаш вазьмі, і з сохамі, з баронамі!

Прыкайшчык стаў і думае:

— Хай прападаюць валы, а мой сын пры мне!
— Ну,— кажа,— на бок! Падхадзі ты, бацюшка! Раскажы ты сваю прычыну, аб чом?
— Так і так, суддзя праведная: задавіў майго рабёначка!
— Ну, добра! Слухай жа сюды, бацюшка: ты цяпер аддаліся ад пападдзі, аддай яму, няхай ён з ёй жыве, пакуль рабёначка прыжывуць. Тады ён табе аддасць яе з рабёнкам!
Етый поп абдумаўся:
— Не,— кажа,— хай мой суд на бок, буду я сам з пападдзёй жыць!
Тады пан крычыць:
— Ну, рэпнік, падхадзі!
Ён падышоў.
— Аб чом, якая твая прычына?
— Так і так: вырваў рэпіну!
— Ну, вот што, рэпнік: аддай ету сяголетнюю рэпу мне, а на лета я выдзяру ляду і пасею рэпу і аддам вам усю рэпу!
Рэпнік абдумаўся і кажа:
— Пакуль уродзя, а гатовую аддай! Не, і наш суд так.
— Ну, на бок! Ну, падхадзі ты, ганчар!
Ганчар падышоў.
— Вот што, ганчар, аддай сваю кабылу, што без хваста, етаму чалавеку і са ўсім возам, хай етый чалавек бедны на ёй патуль ездзя, пакуль у кабылы адрасце хвост. Тады ён табе аддасць кабылу і гаршкі!
Ганчар абдумаўся.
— Не,— кажа,— панок! Хай і маё,— кажа,— панок так!
— Ну, ты, ганчар, на бок! Чанцы, падходзьце вы! Аб чом, якая прычына?
Еты чанцы падышлі.
— Так і так: забіў нашага чанца!
— Ну, вот што, чанцы, вазьміце вы яго за ету прахтыку, за ету прычыну, пасадзіце яго пад мост. І патуль скачыце, пакуль яго заб'еце!
— Не, панок, ці уб'ём мы яго ці не, а свой корань звядом! Хай і наша так!
— Ну, і на бок!..
Так ён рассудзіў ета харашо! Тады і гавора:
— Ну, людзі, пашліце дамоў, а ты, чалавек добры, астанься!
Тыя пашлі, а яго за рукаў прыдзяржаў і кажа:
— Ну, што ж ты,— кажа,— чалавек добры, казаў: судзі нас па праўдзе — будзе табе, будзе і мне!

Тады гэты чалавек кажа:

— Спасіба вам, што вы судзілі харашо! Калі б вы не судзілі харашо мне, тады б я стаў на парог вышэй людзей і выняў ба етый камень із-за пазухі, і прама б вам, пан, і пекануў у чэрап ба, штоб і вам тут смерць была! Мне ўжо адзін атвет!

Пан тады кажа сам сабе: «Хваліць жа бога, што я па праўдзе судзіў!»

Да ўзяў таго мужыка, завярнуў да за дзверы:

— Ідзі ж,— кажа,— дамоў, да не будзь такі разбойнік!..

Вот мая і казка ўся.

## 163. БЕДНЫ І БАГАТЫ БРАТЫ НА СУДЗЕ

Былі два браты. У беднага было многа дзяцей, а ў багатага не было. Багаты спраўляў часта балі і беднага брата не зваў ніколі. Бедны думаў, што ён на яго злуе, што ў яго няма дзяцей, а ў мяне ёсць. Бедны стаў бога прасіць, каб у яго было дзіця. Калі паявілася ў багатага дзіця, дык ён беднага брата не папрасіў на хрэсьбіны.

Бедны брат думаў, што ён, мусіць, зазлаваўся і пайшоў прасіць каня завезці ў млын. Але ў яго не было чаго везці. Ён завёз каня за гару і зарэзаў, прадаў шкуру і купіў дзецям хлеба. Дазнаўся аб гэтым брат і падаў на беднага ў суд.

Ехаў анучнік, па дарозе было балота і конь яго заграз. Сталі ўсе ратаваць. Хто за што, а бедны за хвост і адарваў хвост. На суд едуць ўжо ўтраіх. Заехалі па дарозе да пана. Нянька папрасіла беднага пакалыхаць дзіця. Ён увідзеў хлеб, стаў даставаць і перакуліў калыску і забіў дзіця. На суд едуць ужо ўчатырох. Едуць, а тут каля дарогі будуюць царкву. Папы сталі прасіць, каб хто-небудзь паставіў крыжы. Бедны сагласіўся і палез. Усе, паразіваўшыся, глядзелі ўгору. Бедны зваліўся і забіў архірэя. Тады за архірэя падалі на суд.

Прыехалі на суд. Першы суд за каня. Бедны апраўдваецца, што мы бога прасілі, каб у яго было дзіця, а ён на хрэсьбіны не пазваў,дык я за гэта зарэзаў яго каня. Суд прысудзіў аддаць беднаму дзіця. Багаты брат не сагласіўся і даў брату 100 рублёў. Другі ставіцца на суд анучнік. Суд прысудзіў аддаць каня беднаму, пакуль адрасце хвост. Анучнік не сагласіўся і даў яму 100 рублёў. Цяпер суд за дзіця. Бедны апраўдваўся, што ён увідзеў хлеб, стаў даставаць і калыска перакулілася і дзіця забілася.

Суд прысудзіў аддаць дзіця. Але поп не разабраўся і даў яму 100 рублёў. Пачаўся суд за архірэя. Суд прысудзіў, хай бедны стаіць доля, а поп хай лезе ставіць крыжы. Хай зваліцца і заб'е беднага брата. Поп не сагласіўся і даў 100 рублёў.

## 164. ДУРАНЬ НА СУДЗЕ

Ішоў сабе адзін дураваты чалавек з лістамі, уходзіць ў адну хату, ажно там жонка мелася мець дзіця, так просіць, каб ён збегаў да тае і тае хаты па бабу, дый кажа:

— Анно тамака ест сабака вельмі патайны, што лепш вазьмеце якога кала.

Ён то ўзяўшы таўкача, пайшоў. Ажно прэд таею хатаю ляжыць цяля, так ён падышэчы, трах! па галаве — цяля брык! дай перакінулася. Тут нарабілі крыку:

— Цяля забіў! Цяля забіў!

Але ён неяксьці выгаварыўся.

Зайшоў да хаты і ідуць з таею бабаю, а яна так акуталася хустамі дый кажа:

— Ідзем праз гароды, бліжа будзе,— і пашла напярод. Ідзе, ідзе, а стаяў калодзезь без зрубаў. Да й то ж трэба бабе якурат там усунуцца. Тут выбег сын яе:

— Разбойнік! Мацеру ўтапіў, на суд!

Павёў ужо яго на суд, ідуць кала ракі, ажно едзе жыд дай усунуўся з таварам у воду. Так просіць у іх:

— А мае такія, гэтакія, не тавар, то хоць кабылку мне выцягнеце!

А той дурань быў надта ўжо сільны, так кажа:

— Я вазьму за хвост, а ты за голаў, то выцягнемо.

Тут той дурны як пацягнуў, так і хваста адарваў! От табе і помач! Жыд у крык:

— Мая кабылка няма! Павяду на суд!

Ну, павялі ўдвох. Зайшлі да карчмы, яны ўдвох банкетуюць, а той дурань стаіць сабе, ажно падыходзіць шынкар дай кажа:

— Ну, чалавецьку, сядзь на гэтум ложка.

Ён сеў. Ажно нештось калякнуло: калі гляне, ажно там дзіця ляжыць ужо нежывое! Шынкар у крык:

— Сёрку задушыў — ай-вай!

Павялі ж ужо яго на суд утрох. Завялі, суддзя ў першага пытае:

— Ты чаго?

— Так і так, так і так.

— Заплаці,— кажа,— яму пяць рублёў за тое, што калодзезь твая без зруба.

— А ты чаго?

— Так і так.

— Ну, то заплаці яму дзесяць рублёў, што ён табе добра рабіў, а ты яго на суд цягнеш.

— А ты чаго?

— Так і так.

— Ну, то заплаці яму пятнаццаць рублёў за тое, што дзіця кладзеш на ложку, дзе людзей таўпа таўпою абверчана, дай яшчэ кажаш, каб хто садавіўся.

Так дурань гэта, згарнуўшы грошы ў кішэню, пайшоў падсвістваючы з лістамі.

## 165. АШУКАНЫ ПІСАР-АДВАКАТ

Жыў некалі ў нашым сяле мужык з жонкаю, былі яны бедныя. Адзін раз сабраўся ён на кірмаш.

— Пайду прадам цяля, ато вывеліся з грошай, а трэба сёе-тое купіць.

Зваліў на воз цяля і павёз. Прыязджае на кірмаш, стаў і чакае, хто падыдзе купіць яго тавар. Тут і падыходзіць да яго панскі лакей.

— Што, Міхась, прадаеш цяля? Колькі яно каштуе?

— Сорак злотых.

— Ну, добра, я бяру.

Заплаціў лакей грошы Міхасю, не таргуючыся. Потым кажа:

— Хай яно ў цябе пака пабудзе, а я пайду пашукаю яшчэ адно, трэба купіць.

— Добра,— кажа Міхась,— хай пабудзе.

Не паспеў адысціся лакей, як да Міхася падыходзіць яўрэй і тожа пытае, ці прадае Міхась цяля.

— Прадаю,— доўга не думаючы, адказаў Міхась. І за такую ж саму цану прадаў і яўрэю цяля. Яўрэй забраў цяля і паехаў. Тут падыходзіць лакей, каб забраць сваю пакупку, але яе ўжо няма. Раззлаваўся лакей, расказаў свайму пану, і падаў пан Міхася на суд. Прыходзіць Міхась на суд. Тут яго і падзывае пісар і дае Міхасю такую параду:

— Як суддзя ў цябе будзе пытаць што, то ты нічога не гавары, а толькі пальцам паказвай на яго.

Міхась так і рабіў на судзе, як яму гаварыў пісар. Выходзіць Міхась, пісар яго ізноў падзывае.

— Ну, як, усё добра? Бачыш, казаў я табе. Давай цяпер мне палавіну грошай.

А Міхась нічога не гаворыць, а толькі паказвае на пісара пальцам. Пісар аж вочы вылупіў:

— От, гад, ён і мяне правёў.

А Міхась, смеючыся, пайшоў дахаты.

## 166. ДВА БРАТЫ

Гэта было даўней, яшчэ як не было грошай, а тавар на тавар мянялі, гэдак было нявыгадна. Свой тавар, на які табе трэба, не паменяеш.

І вось жылі ў адной вёсцы два браты. Яны былі пажаніўшыся, мелі свае жонкі, свае дзеці. Дачуліся яны, што ёсць ужо такія капеечкі, што за іх можна купіць, што захочаш.

Запраглі свае коні, адзін брат палажыў на свой воз каменняў, а другі палажыў дроў і павезлі ў горад прадаваць.

Брат, каторы дровы прадаваў, скора прадаў і палучыў за іх дзве манеты. А брат, каторы прадаваў каменні, не прадаў. Бо нашто каму каменні?

Вывярнуў іх і паехалі да сваёй хаты.

Падлятае брат, каторы каменні прадаваў, да свайго брата і гаворыць яму:

— Знаеш, пазыч мне адну манету, а я табе аддам. Бо як прыеду дахаты, надта будзе смутная жонка.

Прайшоў тыдзень, спаганяе брат:

— Аддай мне маю капейку.

Гэты просіцца:

— Не, браток, хай яшчэ тыдзень у мяне пабудзе.

А жонка замеціла, што нечага брат вяжыцца да ейнага мужа. І прычапілася, каб сказаў ёй муж, чаго ён вяжацца. Мужык усё не казаў, але прызнаўся, што не ягоная капейка, а ён пазычыў.

Жонка яму і кажа:

— Нічога, не бядуй. Я прыдумаю, што будзе наша капеечка.

Думала, думала, але прыдумала.

Прыходзіць к мужу і кажа:

— Ты знаеш што, зрабі труну. Занясём у часоўню, паставім, ты ў труну ўлезеш і як быццам памрэш. А як прыдзе брат, я скажу, што памёр.

Зрабіў мужык труну, але брат замеціў і здагадаўся, што яны хочуць зрабіць.

Набраў брат яды, заляцеў у часоўню, а ў часоўні ў куце стаяў вялікі абраз на таўстых прантах. Улез туды брат і думае:

«Паглядзім, хто каго. Ці я прастаю на прантах, ці ты ў труне».

Прынёс мужык труну, жонка забіла нямоцна цвікамі і ляжыць, а гэты брат усё відзе. Надышла ноч. Уваходзяць у часоўню многа жулікаў. Прыносяць золата, запалілі агонь і дзеляць кучамі. Дзялілі, дзялілі і адна куча лішняя.

Старшы і кажа:

— Хто гэту новую труну перасячэ, той палуча гэту кучу.

Як пачуў брат, каторы ляжаў у труне, што яго будуць секчы. Як даў у труну рукамі і нагамі, калі крыкне:

— Жывыя, мёртвыя, падымайцеся!

А другі брат як скоча з абразом на зямлю, спужаліся жулікі і паўцякалі. Забралі браты ўсё золата і сталі багата жыць.

## 167. АБ ХІТРЫМ ДЗЯКУ

Украў поп з дзякам карову, падзяліліся яны ўсім, анно скураю не маглі падзяліцца, так пабралі ў зубы дай цягнуць: поп не вытрываў, пусціў, а дзяк бэнц! аб сцену галавою і забраў скуру.

Тут зара пагаласка пашла, што нехтась карову ўкраў, так дзяк прыходзіць да папа дай кажа:

— Я хіба не вытрываю, мушу сказаць!

— Што ты, здурэў, ці што?

— Калі ж мяне надта сумленне грызе!

— На табе грошай, колькі хочаш, анно не выказвай нікому.

Назаўтры зноў ён прыходзіць дай кажа:

— А-ей, не вытрываю!

Так поп яму яшчэ больш грошай даў, каб анно не казаў.

Вечарам назбіралася да папа ўсялякіх гасцей і згаварыліся аб карове, так дзяк кажа:

— А, гэта я з папом украў гэту карову!

Так поп зачырванеўся, усунуў яму няўзначне ўсе свае грошы, а дзяк кажа:

. . І ўсім, здаецца, падзяліліся, анно скураю не далі рады, так я ўзяў адзін канец у зубы, а яны другі і цягнулі, яны пусцілі, а я бох! аб сцену галавою, так і прачнуўся.

Такім спосабам дзяк ні граху не меў, бо прызнаўся, і ўсе грошы ад папа забраў.

Ох, хітры, ліха яму!

## 168. ПОП-ЗЛОДЗЕЙ НА СУДЗЕ

Поп украў у Кірыла вала. Зарэзаў яго і толькі хацеў завезці дадому, як наскочыў парабак.

— А што ж ты, бацюшка, робіш?

— Не гавары, дзеткі. Дам і табе палавіну.

Падзялілі. Толькі галаву ніяк не маглі раздзяліць. Пасекчы не хацелі. Дамовіліся: хто каго перацягне, таго і галава. Пабраліся за вушы. Цягнулі, цягнулі. Аж у папа вуха ў руках засталося, а галава ў парабка, а самі яны пападалі.

Назаўтра сустракае парабак папа і кажа, што не можа выцерпець — скажа. Поп дае яму яшчэ палавіну свайго мяса, каб не гаварыў. Прайшоў яшчэ дзень. Зноў парабак гаворыць тое ж самае папу. Поп аддаў астатняе мяса.

Праз тры дні парабак прыйшоў да папа.

— Баюся,— кажа,— гэта ж грэх, пападу ў пекла, а мне ж не хочацца вечна кіпець у смале.

— Ну і дурны ж ты. Ніякага ж раю і пекла няма.

— Ёсць, вы самі казалі.

— Ды я ж казаў, каб людзі грошы неслі. На вось і табе 50 рублёў. Толькі не гавары.

Але парабак пайшоў у суд і сказаў, а поп аж дрыжыць ад страху. Жартачкі сказаць.

Сказалі парабку расказваць:

— Іду я лесам, граждане суддзі, аж бачу: бацюшка і сячэ вала! Я пытаюся, што ён робіць. А ён спалохаўся і дае мне палавіну. Дзялілі мы, дзялілі, а галаву не змаглі. Узялі за вушы, цяглі, цяглі... Я як пацягнуў, вуха, што было ў руках у бацюшкі, і адарвалася. Я ўпаў і прачнуўся...

— Дык гэта сон? Чаму ж ты адразу не сказаў! Ідзіце, бацюшка, прабачце.

## 169. ІНШЫ СОН ЯК У РУКУ ДАСЦЬ

Быў сабе адзін поп да вельмі бедны. Прыход маленькі, людзі бедныя — нямашака з іх ніякага прыходу. Хундушовая зямля — адзін пясок жоўценькі, бы золата. Трымаў ён сабе парабка, горкага п'яніцу Сцяпана Штукара. Яго дражнілі Штукаром затым, што гэсты дохлы п'яніца часамі такія вычвараў штукі, што й не прыдумаць. Жыве сабе Штукар у папа да голадам падыхае, бо поп хоць бедны, але дзяцей мае, як бобу. Яны хоць дробныя, але ядзяць, бы саранча. Што поп ні заробіць, як хавае каго або хрысціць, дзеці адразу з'ядзяць і не абліжуцца. А тут непадалечку паабапал папа жывуць сабе да таўсцеюць вельмі багатыя пан і карчмар. Ведама, калі людзі бяднеюць, та пан і карчмар заўжды багацеюць. Чаго толькі ў пана няма, хіба мо птушачага малака. Да што і казаць! Ведама, як у пана ў багатым двары. Аднаго сала мо дзесяць кублоў. І еж, хоць падавіся. У ландара сала саўсім нямашака, хіба гусіны шмалац, дак затое ў яго абаранкаў цэлае вясло, а сяленцаў поўныя бочкі да гарэлкі хоць захлябніся. Падойдзе Сцяпан Штукар у двор паглядзець на панскае дабро да толькі сліну каўтае. І так у яго кала сэрца заўе, так яму зробіцца моташна, што ён проста з двара і пабяжыць у карчму. Толькі як глытне кручок ці два, дык трохі палягчэе. Ужо не раз Штукар зарыўся ўкрасці ў двары што-небудзь, ды ўсё баяўся, бо куды ты дзенеш, калі нямашака ніякага прытулку. От раз вельмі яму захацелася есці, от ён прыйшоў да папа ды і кажа:

— Бацюшка, ці ведаеш, што я прыдумаў. Пан багаты, усялякага ў яго дабра многа, аж з горла прэ, а нам няма чаго, каб душу падперці. Дзе ж праўда?

Раскірэчыў Штукар ногі, растапырыў пальцы да так пазірае, што поп аж зарагатаў.

— Не смейся, бацюшка! Няма праўды на свеце.

— Праўда ёсць, ды мы яе не бачым, бо свет грэшны, дак бог нас карае.

— Не, бацюшка! Няма праўды, калі ў аднаго з горла лезе, а другі дохне з голаду. Чаму пан багаты, а мы бедныя?

— Бо так бог даў. Ён ведае, што робіць. Яго пуці ніхто не знае.

І пайшоў поп вучыць штукара, пайшоў яму гаварыць цэлае казанне да й кончыў на том, што багатыя на том свеце будуць у пекле смажыцца ў смале, а бедныя пойдуць у рай. Слухаў, слухаў Штукар, нарэшце, і кажа:

— Сам бог казаў выцягці з калодзежа казла, а мы, бацюшка, выцягнем у пана вала.

— Што ты кажаш? Якога вала?

— Гладкага, бацюшка, вала.

— Не разумею твае гаворкі.

— Украдзема ў пана вала, то і будзе што есці.

— Гэта ж грэх.

— Які грэх? У пана красці не грэх, бо пан багаты. Ён у нас накраў, а мы сваё дабро возьмем назад. Дык гэта ж не грэх.

Доўга адгаворваў поп Штукара, каб ён нічога не краў у пана, нарэшце махнуў рукой да й кажа:

— Рабі, як знаеш.

Пачасаў Штукар патыліцу да й выйшаў. Толькі ось уходзіць да папа матулька да ўжо з самага парога пачынае крычаць да лаяцца, што поп сядзіць дома, нічога не робіць, а тут дзеці галодныя, у хаце ні крошкі хлеба й няма чаго ў гаршчок палажыць. Заткнуў поп вушы да бягом з хаты, аж тут якраз сустракае Штукара. Хацеў ён пасланць яго на ўёску, каб пазычыць хлеба да закрасы, але той не даў і вымавіць да й пытае:

— Дак што ж, бацюшка, возьмем вала?

— Возьмем, возьмем,— адмаўляе поп бы шалёны.

От Штукар завёў папа ў адрыну, падвязаў яму доўгія кудлы, падабраў раску, а зверху надзеў сваё лапікла, да й пайшлі яны ў хмызняк, дзе паслося скарбовае гаўяда, занялі там самага гладкага вала, загналі ў лес да й зарэзалі. Няма чаго рабіць, завіхаецца поп каля вала, а Штукар толькі камендуе. От злупілі яны з вала шкуру, павесілі яе на галіну сушыццэ, а мяса пачвертавалі, закапалі ў зямлю да й засыпалі трухою з сухога балота. Зверху завалілі каладзьём, а самыя лепшыя кускі прынеслі дамоў да й давай спажываць. Агледзіліся ў двары, што няма самага лепшага вала, от яны туды-сюды бегалі, бегалі — от бы скрозь зямлю праваліўся. Ну, думаюць, мабыць, дзе адбіўся ад гаўяда, дак ваўкі зарэзалі. Але пану шкода добрага вала, от ён вялеў пазваць знахароў, каб яны паваражылі да сказалі яму, дзе той вол. Прыходзяць знахары, варожаць, але кожны гаворыць інакш. Адзін кажа, што вол заплутаўся ў лесе і не можа выбрацца з балота, другі гаворыць, што ваўкі зарэзалі, трэці пляце, што цыгане ўкралі, але ніхто дасканала не скажа, дзе яго найсці.

Тым часам Штукар сядзіць сабе ў карчме п'яненькі да пахваляецца, што ён ведае, куды дзеўся панскі вол. Пачуў тое ландар да й пабег казаць аб том пану. Пакуль ландар збегаў к пану, Штукар дастаў з кішэні дзве палачкі, выняў з вярэнькі збанок,

прылажыў тыя палачкі к дну купы з гарэлкаю да як упёрся каленам пасярэдзіне ў тыя палачкі, яны выправіліся да так расперлі клепчыны, што цераз уторы й забурчэла гарэлка. Нацадзіў ён сабе повен збан да й пацёгся дамоў.

— Дзе ты быў? — пытае поп, катораму яшчэ вол вельмі карціць.

— У карчме, бацюшка,— адказвае п'яны Штукар,— ось прынёс гарэлку на магарыч бацюшку за тое, што вельмі смачнае мяса.

Поп скрывіўся, аж яму вочы пад лоб завярнула, але ўсё-такі пераліў гарэлку ў пляшкі да й схаваў.

— Няма калі мне з табою дурыцца,— кажа поп.

От ён адзеў лепшую раску, прычасаў з большага кудлы да й пайшоў к пану, каб і яму сказаць таму прыемнае слаўцо ў няшчасці. Прыходзіць поп, аж там ужо многа сабралося ў пана гасцей. Сядзяць яны, п'юць, ядзяць да размаўляюць аб том, як цяпер кепска жыць на свеце, як многа ўсялякіх прыпадкаў, як напрыклад прыпадак пану з валом, гаворыць і поп да яшчэ складней ад усіх.Ківае яму пан галавою, сам налівае яму віна да гарэлкі, частуе добрага гаваруна да падкладвае яму лепшыя кускі. Жумрыць поп, толькі барада трасецца, бы ў казла. Тым часам паслаў пан па таго Штукара, каб ён сказаў, што ён знае пра вала. Прыйшоў Штукар, раскірэчыў ногі, растапырыў пальцы да й стаіць сабе ў парозе.

— А што скажаш, каханы? — пытае пан.

— Усё добрае, паночку.

— А па добрым што?

— Дачуўся я, што ў пана прапаў вол.

— Прапаў.

— А добры вол?

— Добры.

— І з рагамі?

— З рагамі.

— І з хвастом?

— Ну, ведама, з хвастом,— кажа з нецярпеннем пан, катораму ўжо надаела слухаць п'янага мужыка.

— Дак пэўне ж гэта той самы вол,— крыкнуў на ўсе пакоі Штукар і пляснуў рукамі.

— Які той самы? — пытае пан, каторага ўжо ўзяла цікавасць.

— Да той, што я бачыў.

— Да дзе ж ты бачыў?

— На поплаве каля хмызняку.

— Калі ж ты бачыў?

— От гэта добра не ведаю, паночку, ці ўчора, ці заўчора, а мо і пазаўчора, толькі добра памятаю, што тое было ў досвіткі.

— Дак што ж было з тым валом?

— Нічога, паночку. От стаіць сабе вол да такі рагаты, што хоць ты вілы з рог рабі, стаіць сабе да траву языком косіць, от бацца касою. Але ж у пана і трава на поплаве. Далібо што можна касіць.

— Дак куды ж пайшоў вол? — з нецярпеннем пытае пан.

— Нікуды не пайшоў, паночку. Гэта я сам ад яго пайшоў, паночку.

— Куды ж ты пайшоў?

— Ой, ведама ж, паночку, хто мае дамоўку, той ідзе да гасподы, а ў мяне яе нямаш, дык я пацёгся к папу. Думаю, ось матулька дасць якое-небудзь бульбы лантух налядаваць.

— Цо ты, дурань, пляцеш,— закрычаў пан да ўжо і прагнаць хацеў п'яніцу.

— Пан крычыць на мяне, а я думаў, што пан хоча ведаць, дзе прапаў вол.

— Дык кажы, што знаеш.

— Толькі няхай пан не перабівае да не крычыць, бо я й забудуся.

— Ну, кажы.

— Дык от паглядзеў я на панскага вала, які ён гладкі да гожы да й думаю: от каб мне такім быць. Што валам, мабыць, панскім сабакам лепшая жытка, як наша. Дзе ж тая праўда на свеце? Што ж гэта бог робіць? І прыпамянуў я, што наш бацюшка ўсё кажа: бог ведае, што робіць. От я ўзяў бацюшку, да й пайшлі мы аглядаць таго вала. Вельмі спадабаўся ён нам. От мы яго загналі ў хмызняк да там і зарэзалі. Бацюшка злупіў шкуру.

Тут усе азірнуліся на папа, а ён сядзіць да ўсё круціцца, бы на калу, да та пачырванее, та пабялее, круціцца, аж пот з яго валіць, бацца толькі што выйшаў з лазні.

— Эге ж, дай бог памяць. От і забыўся, што далей. Ага! От бацюшка і пытае, куды дзяваць шкуру. А я кажу: павесім на галіну, няхай сушыцца. От павесілі мы шкуру, пачвертавалі мяса, падзялілі, потым пачалі кішкі дзяліць. Ухапіліся мы за кішку разам. Я цягну к сабе, а бацюшка к сабе, я к сабе, бацюшка к сабе, кішка і парвалася, а гной з яе як свісне нам у вочы, дак я і прахапіўся.— Дак гэта ты сніў?

— Але ж, сніў, паночку. Але хоць сон гразь, толькі іншы як у руку дасць.

## 170. ЯК СТАРУХА З СЫНАМ ДЗЕНЬГІ ЗАРАБЛЯЛА: СЫН ЧУЖЫЯ ВЕШЧЫ ХАВАІЦЬ, А СТАРУХА СХОВУ АДГАДАІЦЬ

У адной дзярэўні жыла з сынам бедная старушка. Яна ўздумала сабе чудно зарабляць хлеб. Сын яе варуіць, як няможна далей хаваіць дзеньгі, а старушка схову сыннію людзём паказыіць і за то дзенюжкі сабіраіць з добрых людзей.

— Вялікая знахарка наша старуха!..— кажуць на дзярэўні.

І прападзі на ту пору кальцо ў пана (гэта злучылась яшчэ ва ўрэмя крапаснога права). І не так пану кальца таго жаль, як дужа абідна, што прыбліжэнныя слугі кальцо скралі. Пасылаіць пан карэту за старухай-знахаркай. Кучар і лакей, украўшы кальцо, захацелі спытаць, ці лоўка адгадываець знахарка. Вот яны падлажылі ў яшчык карэты пад сядзення нескалькі яіц: ці пазнаіць старуха, што на яйцах сядзіць. Страшна старухі к пану ехаць, ну і не паслухаць нянльзя: тады віць не шуцілі. Старуха і гаворыць, усеўшысь з непрывычкі ў карэці і са страху:

— Мяхка мне, а сяжу я, слоўна курачка на яечках!..

— Віць как у сук уляпіла, старуха ты праклятая! — падумаў кучар.

Па прыездзе старухі ў панскі дом дзелаюць ёй новыя спытанія. Велена была ля яе згатовіць суп з курыцы. Повар (а ён рамясло сваё знаў дужа харашо — хаз быў) так варону зварыў, што суп вышаў, слова тэй курыны, яшчэ пачышчы.

— Укусна, дужа ўкусна! — гаворыць старуха, сама суп пахлебываіць.— Да што послі будзіць? Ах, папалась я, слоўна тая варона ў суп.

«Тут і самліваццa нечага: ета шэльма — знахарка!»— падумаў лакей.

Сазналісь старухе, што кальцо ўкралі.

— Ну ладна, укралі сабе, так і ўкралі, а прынясіце-ка мне сюды лебедзя да падайце кальцо.

Прынялслі.

— Дайце ж яму на маіх глазах праглаціць кальцо ў хлебе, да глядзіце не бманіце.

Лебедзь праглаціў кальцо з хлебам. Потым старуха і гаворыць барыну:

— Барын, не ізвольце панапрасну гневацца, сябе раздражаць, а прашу вас выслушаць, што я вам скажу: лебедзь праглаціў ваша кальцо.

Вспаролі зоб лебедзю, глянуць: кальцо! Барын прыказаў наградзіць старуху. А сын і гаворыць атцу (панічы еці заўжды ахотнікі спорыць):

— Папенька, пазвольце-ка я загадаю старухе, старуха вас абманіла.

— Старух,— гаворыць барын,— ну сматры! Еслі ты тгадаіш, што загадаіць табе паніч, награжу цябе як надабі быць, а не тгадаіш, столькі-та табе лозаныў у спіну.

Паніч павёў старуху ў сад:

— Угадай, што спрачу ў руке.

З етымі славамі адайшоў ад яе. А пагода стаяла вясенняя: дзярэўя распусціліс і ўжо твітамі пакрылісь, пелі пцічкі, лятали жучкі і мятлушкі, усякая дыханія хваліла госпада бога, а на душы ў старухі яшчэ болі скрабло.

— Што-та скажу я панічу? А чуць была я не вырвалась на волюшку, а тут...

Паніч ходзіць па саду і сам сябе думаіць, што бы такое старухі паднясці лі адгадкі. Сарвёт лісток і сійчас жа бросіць:

— Ета абнакнавенна. Цвяток з ябланкі — тожа вочынь абнакнавенна.

Ляцеў жук, буц панічу у лоб. Паніч падняў жука:

— Няхай старуха жука адгадаіць — паглядзім!

— Ну, баб, што ў мяне ў руке?

— А панічок ты мой! — гаворыць старуха. — А папалася жучка на мучку ў барынавы ручкі!..

Ета яна жучку пра сябе сказала — яе на дзярэўні ўсе мальчышкі так клікалі: Жучка, Жучка — і пайшла яна Жучкаю звацца і сама сябе звала так.

А паніч што падумаў: ета старуха пра жучка, што ён у руке дзяржыць. Як махнець тога жука пад ногі.

— Ах, угадала-такі, ведзьма! Пашлі к папеньке.

Наградзіў барын старуху як няможна луччы, у карэце адвезь прыказаў... Зажыла старуха са сваім сынам на славу, а варавець перастала.

## 171. ЗНАХАР

Быў на свеце чалавек просты. Ён украў у бабы на лужку палатно і занёс яго да тае бабы ў салому, у клуню. Тая баба пашла на лужок, аж палатна няма. Яна стала шукаць і пытаць, а палатна не нашла.

А жонка таго чалавека, што ўкраў палатно, кажа:

— Спытайся майго мужыка, то ён табе скажа.

Баба тая пашла да яго пытацца. А ён кажа:

— Шукайце па харомах, то яно найдзецца.

Сталі шукаць і нашлі палатно ў саломе. Тая баба дала яму за тое пуд мукі і фунт масла.

Той жа чалавек пабачыў, што гэтак добра заробіць, украў у пана харошага каня і завёў яго ў лес і прывязаў яго да дуба.

Пан пашоў да таго чалавека, а чалавек кажа:

— Шукайце па лесе, то знойдзеце.—Сталі шукаць і нашлі ў лесе каня. Пан той даў яму за тое сто рублёў. І сталі зваць яго знахаром.

А трэці раз укралі ў цара тры слугі прыстэня — повар і шчэ два слугі. Прывезлі туды таго знахара. А той знахар не знае, чаго яго туда павезлі. Цар кажа:

— Як ты знахар, то ўзнай, хто ўкраў майго прыстэня!

Даў ён яму сроку цераз ноч, засадзіў у каморку адгадываць. Той думаў, думаў, што ён ніц не знае, як тут яму адгадаць. І выдумаў ён:

— Як заспявае трэці певень, я ўцяку.

А тыя слугі, што ўкралі прыстэня, злякаліся яго лёкацілы. Заспяваў адзін певень, а ён кажа проста сабе:

— Ужо, слава богу, адзін заспяваў!

А яны паслалі аднаго слугу слухаць той парою, як ён адгадае. Як ён сказаў, што ўжо адзін, той слуга злякаўся, пашоў да тых слуг і кажа:

— Мяне ўжо ўзнаў.

Другі раз пашлі другія два слугі. Заспяваў другі певень, а ён і кажа:

— Слава богу, ужо два.

Тыя злякаліся, пашлі і кажуць да таго:

— І нас узнаў.

Трэці раз пашлі ўсе трое.

Як раз заспяваў певень, а ён кажа:

— Слава табе, госпадзі, ужо тры.

І ўжо кінуўся бегчы. А яму ў ногі падаюць тыя слугі, ажно што б не казаў, у каго прыстэнь. Як ён узнаў, што прыстэнь у іх, то зрадніў. Прышоў ранак. І прышоў цар да таго знахара да і кажа:

— Чы адгадаў?

А ён кажа:

— Адгадаў.

Кажа:
— Вы як прагульваліся, то прыстэнь упаў з рукі і скаціўся пад падлогу.
Сталі шукаць і знайшлі прыстэня пад падлогаю. А тыя слугі ноччу ўзялі да і пад падлогу падкінулі.
Адзін раз пашоў цар у садок прагуляцца і знайшоў чорнага жучка, узяў яго ў руку, прышоў да знахара і кажа:
— Узнай, што ў мяне ў руцэ?
А ён ніц не знаў, што там, да і кажа проста сабе:
— От, папаўся жучок у рукі цару — цяпер не выскачыш!
Той цар:
— Маладзец! — сказаў,— адгадаў, што ў руцэ.
І за гэта яго багата наградзіў.

## 172. ДЗЕД-ЗЛОДЗЕЙ, БАБА-ВАРАЖБІТКА

Жылі дзед і баба, абое яны былі старыя і рабіць не хацелі. «Дзе чорт не зможа, туды бабу пашле»,— гаворыць пагаворка.
І ўздумала баба жыць багачэй. А як жыць багачэй, калі ленішся рабіць. Думала баба, думала дай прыдумала:
«Няхай мой дзядуня зробіцца злодзеем, а я буду варажбіткаю, і што мой дзед украдзе, то павінен сказаць мне, а як будуць людзі пытацца, ці не ведае хто, дзе ўкраў маё добрае, я буду варажыць і буду даставаць ад крадзенага палавіну. А, можа, хто падумае, што лепей украсці ды не аддаць».
Но і гэтыя старыя людзі зналі адзінаццатую запаведзь: што калі ўкрадзеш, альбо знойдзеш — трэба аддаць.
Імя бабы гэтай было Хаўроння. Першая ноч. Пайшоў дзед красці і ўкраў у суседа нарогі да падаткнуў у яго ж пад страхою. Устаў назаўтра сусед, пайшоў глядзець сахі — аж на сасе і нарогаў няма. Прыходзіць сусед к бабе і гаворыць, што так і так.
Наша варажбітка ўзялася адгадаць, дзе суседа нарогі, ваду ліла ў дванаццаць місак, вузлы на вяроўцы вязала, нацанец сказала суседу, што яго нарогі ў яго ж хляве пад страхою.
Так і ў другі раз наш дзед украў вала, і зноў баба адгадала і палавіну платы ўзяла сабе. Но адна дагадка нашае Хаўронні вельмі смешная.
Уаднаго пана лёкай з фурманам укралі грошы. Прысылае той пан гэтых самых жулікаў за бабай Хаўронняю. Лёкай уздумаў у брычку у тым месцы, дзе сядзе баба, палажыць паўдзесят-

ка яец. Гэтым хацеў ён дазнаць: ці ўмее баба варажыць? Прыехалі за бабаю.

Адказацца ёй было няможна, яна і сагласілася. Кожнаму вядома, што гэтая баба ніколі не садзілася ў панскую брычку. Як села на мягкіх падушках, то і сказала:

— Але ж як мягка, усё роўна, як курыцы на яйках.

Гэтыя словы кінулі ў дрож лёкая: ён думаў, што баба адгадала.

Але баба нічога аб гэтым не ведала. Прыехала Хаўроння к пану, пан сам зняў яе з возу і занёс у адну каморку, дзе нікога не было, і аставіў яе там адну, каб не мяшаць ёй варажыць.

Лёкай наш уздумаў пайсці забіць варону і ўгасціць бабу, гэтым ён хацеў узнаць у варажбіткі праўду. Як забіў варону, вялеў ён яе спякці, а потым панёс к бабе.

Падышоў пад дзверы яе комнаты і слухае. Аж баба сама сябе кляне:

— Ах я, Хаўроння, Хаўроння, папалась сюды, як варона ў панскія пакоі.

А лёкай пад дзвярмі падумаў, што баба адгадала, што ён нясе варону, і вярнуўся назад.

У той каморы быў певень пад печкаю. Цэлы дзень маўчаў, а як настала ноч, пачаў спяваць. Гэтае ўсё рабілася ноччу.

Фурман, выпрагшы коні, стаў пад вакном паслухаць, што баба робіць і гаворыць. У гэты самы час як раз певень заспяваў. Баба стала весялей, яна і кажа:

— Вот хоць адзін тут ёсць!

Баба сказала так на пеўня, а фурман падумаў, што яна гэта на яго казала, а што вось адзін злодзей знайшоўся! Пайшоў фурман к лёкаю на раду. Думалі яны, думалі, на астатку сказалі адзін другому:

— Лепей трэба бабы перапрасіць, каб не казала пану, што мы ўкралі грошы, ато прыйдзецца нам кепска ды яшчэ ў Сібіры будзем.

Пайшлі, перапрасілі бабу і сказалі, дзе яны палажылі грошы. Назаўтра рана прыйшоў пан к бабе пытаць, хто ўкраў грошы.

Баба яму расказала, што дамавы занёс яго грошы на гумно, на самы верх, а парабак сягоння лазіў правіць страху ды знайшоў і палажыў пад шуло, яны там і цяпер ляжаць.

Пайшоў пан туды, найшоў грошы, даў трацяк бабе Хаўронні і вялеў фурману і лёкаю завезці бабу дадому.

Яны ж не павезлі яе дадому, а завезлі ў густы бор і там пакінулі, забраўшы ўсе грошы тыя, што даў пан.

А дома дзед тожа папаўся ў бяду: яго злавілі і пасадзілі ў куніцу (турму), дзе і памёр. А баба з лесу не выйшла, немаведама дзе прапала. З тых пор ніхто пад старасць не бярэцца варажыць, а лепей пойдзе па божай міласці.

## 173. КАЗКА ПРА ПАПА І ДЗЯКА

Быў сабе ў адном сяле поп да дзяк, абодва п'яніцы. А па даўнейшаму абнакнавенію папы да дзякі мала жалавання бралі. Хочацца ім піць, да няма за што. От дзяк і кажа папу:

— Ёсць у цябе, бацюшка, кніга тоўстая, ты будзеш на гэтай кнізе гадаць, а я пайду красць, то нам і будзе з чаго выпіваць.

— А куды ж ты, дзячэ,— гаворыць поп,— пойдзеш красці?

— А ў нашага Апанаса ў сяле валы добрыя, то я пайду вала ўкраду, у лес павяду да к бярэзіне і прывяжу, дак ён к табе і прыбяжыць зараз, бацька, пытацца, а я прыстаўлю хлопца пільнаваць, каб і ад нас хто не ўкраў.

Як сказаў дзяк, так і зрабіў.

Вось прыходзіць Апанас да плюсь бацьку ў руку.

— А чаго ты, свет, прыйшоў ка мне?

— Гэта я, бацюшка, сказаць вам пра сваё няшчасце. Вала ў мяне ўкралі.

— А што ты, свет, дасі? Я вываражу твайго вала, у мяне кніга такая ёсць, то я як прачытаю, то і ўзгадаю.

— Каб то да была праўда, бацюшка, то я, што захацелі бы, то даў.

— Я ж табе сказаў, што вычытаю. Дасі пяць рублёў да гарнец гарэлкі, то і вол будзе табе.

— Да я, бацюшка, не буду і спорыць за гэтым, зараз пайду да і прынясу.

— Прынясі ж перш гарнец гарэлкі, а пяць рублёў после, як вала вычытаю.

От мужык і паплёўся па гарэлку. Прынёс гарнец. Поп із дзякам селі да і п'юць. П'юць да і ў кнігу поп глядзіць да і кажа мужыку:

— От ведаеш, Апанас, я ўжо выгадаў, дзе вол. От ідзі ты ў лес, кала нашае палянкі там і вол твой прывязан к бярэзіне; ужо яго хочуць весці, да баяцца, што дзень.

А дзяк хлопцу сказаў яшчэ ўперад: калі, нябож, хто будзе ісці па вала, то ты і ўцякай.

Мужык пайшоў, куды бацька казаў, і найшоў свайго вала. Найшоўшы, прыйшоў к папу, падзякаваў яму і пяць рублёў аддаў.

Поп з дзякам, узяўшы грошы, давай папіваць. Як грошай няма, а выпіць трэба, то дзяк і пойдзе на промысел: у аднаго авечку ўкрадзе, у другога свінню альбо паражане ў другое сяло, дак і ідуць к папу да грошы і нясуць, а поп усё вычытывае. Так доўгі час і пражывалі да гарэлку папівалі.

Ось раз фурман, лёкай да кухар укралі шкатулку з грашамі ў свайго пана. Пан, пачуўшы, што поп усім вычытывае, вялеў запрэгчы трое коней у буду да і пасляць па папа. Прыяжджаюць. А поп п'яны, аж очы пачырванелі ад гарэлкі, як буракі.

— Прасіў пан, каб бацюшка прыехалі к нам у двор,— гаворыць фурман.

Поп зараз кудры свае прычасаў, раску надзеў святочную, сеў у буду да і паехаў. Прыяжджае. Пан стаў яго частаваць да і кажа:

— Я чуў, бацюшка, што вы памагаеце людзям у няшчасцях. Памажыце і мне. У мяне грошай многа ўкралі. Калі толькі вы мне іх, бацюшка, выявіце, то я вам за гэта дам пшаніцы вазоў два і тысячу рублёў грошай.

— Цяпер, пане, я не магу, дома ксёнжка ў мяне, прыдзецца, можа, і цэлую ноч сядзець.

А сам сабе і думае, як бы скарэй з двара ўдраць (бо дзяк не ўкраў, то ўгадаць няможна).

Пан сказаў:

— Добра! Заўтра я прышлю за вамі.

І вялеў адвязці папа дадому.

Прыехаў поп дадому, пазваў к сабе дзяка, расказаў яму ўсё да і кажа:

— Прапалі мы цяпер з сваею штукаю. Мы ж не можам адгадаць, хто ў пана грошы ўкраў. Трэба ўцякаць нам, дзячэ, з гэтага сяла.

Дзяк і пытае:

— А калі ж мы будзем уцякаць?

— От да вечара пасядзім,— гаворыць поп,— да дапівацьмем гарэлку, а як заспявае певень раз да другі раз, да трэці, дак мы і дадзім цягу з сяла, бо пан як данясе архірэю, што мы людзей абманываем, то будзе нам абодвым.

— Добра! — кажа дзяк.— Ты ізноў там будзеш папом, а я дзякам.

Прыйшла і ноч. А поп з дзякам сядзяць, за гарэлкаю балакаюць.

Фурман, лёкай да кухар бачылі, што поп быў у двары, дагадаліся, што поп будзе варажыць, да і зачалі змаўляцца пайсці к папу, як паны ўлягуцца, да і папрасіць яго, каб нічога не гаварыў пра тое, што яны ўкралі грошы ў пана.

Як толькі паны заснулі, дак яны ў двор к папу і вайшлі. А поп з дзякам папіваюць сабе гарэлку. Фурман і падыйшоў к акну, а певень «куку-рэку!». От поп і кажа:

— Дзячэ, дзячэ, ужо ёсць адзін!

А фурман, пачуўшы гэта, падумаў, што поп пазнаў. Прыбег к таварышам да і гаворыць:

— Поп,— кажа,— пазнаў да й сказаў, што ўжо ёсць адзін.

— Пайду і я паслухаю,— гаворыць лёкай.

От яны і ўдвух пайшлі пад акно. Падходзяць, а певень «куку-рэку!» другі раз. Поп і кажа:

— Дзячэ, дзячэ, ужо два!

Фурман і лёкай са страху к трэйцяму да і кажуць, што пазнаў, што і абодва прыйшлі.

— Хадзем,— кажа,— утрох,— гаворыць кухар,— паслухаем.

Падыйшлі яны ўсе тры, а певень «куку-рэку!» у трэці раз. А поп і кажа:

— Дзячэ, дзячэ, ужо ўсе тры.

От яны, цоп! да ў хату. Поп іспужаўся, думаў, што гэта па яго прыслалі з двара. А яны яму бух у ногі.

— Бацюшка, не выказывайце пану, што грошы ўкралі. Мы вам дадзім за гэта па трыццаць рублёў усе ўтрох, толькі не выказывайце нас.

Поп вазрадаваўся да і пытаецца:

— А дзе ж вы дзелі грошы?

— Мы іх закапалі ў стайні, у другом стаяне ад дзвярэй.

— А вы ж грошай нічога не ўзялі, цэлы яны ўсе? — пытае поп.

— Нічога, бацюшка, усе цэлы, як мы іх укралі, так і закапалі.

— Ідзіце ж вы дадому, я вас не выкажу.

Пацалавалі яны ўсе ўтрох у руку папа і выйшлі з хаты.

Поп сабе і думае: «Папаў жа я шчасце».

Да і будзіць дзяка, каторы і заснуў пад сталом:

— Уставай, дзячэ, будзем піць гарэлку да самага дня. Наша ўзяло!

Назаўтра поп яшчэ спіць, а ўжо пан прыслаў чацвёрку коней з будаю. Прачнуўся поп, умыўся, узяў кнігу тоўстую да і паехаў у двор. Прыходзіць поп у пакоі да і кажа:

— Вычытаў, пане! Знайшліся грошы панскія!

Пан ад радасці давай папа частаваць, а поп не стаў гарэлкі піць да кажа пану:

— Дайце мне двух работнікаў.

Далі. От ён і пайшоў з імі ў стайню. Разлажыў сваю кнігу тоўстую. Паглядзеў, пабарматаў да і кажа:

— Ну, капайце тут, у другом стоенку.

Пракапалі. От і грошы знайшліся. Пану ўжо трэба даваць папу два вазы пшаніцы і тысячу рублёў грошай. Пшаніцы то нішто, а тысячы рублёў шкода зрабілася пану. «Як бы тут зрабіць,— думае пан,— каб тысячы не даць». Ляціць жук, пан і ўхваціў жука ў руку. Вярнуўся ў пакоі і гаворыць папу:

— Бацюшка, згадайце, што ў мяне ў руцэ? Як узгадаеце, то я тагды ўжо аддам усё, што дакляраваў, да яшчэ і гарэлкі прыбаўлю.

Поп пачасаў сабе галоў да гаворыць:

— От то ж папаўся жучку ў панскую ручку!

А пан і не знаў, што поп Жукоўскі завецца да і кажа:

— Справядлівы вы, бацька-угадзька.

Паказаў яму жука да і кінуў на зямлю.

Нечага рабіць пану. Трэба аддаваць тое, што дакляраваў папу.

Насыпаў пшаніцы два вазы, даў тысячу рублёў грошай і нескалька вёдзер гарэлкі, падзякаваў яму да і адправіў папа дадому. Поп, прыехаўшы дадому, пазваў дзяка да і гаворыць:

— Удалася і гэта нам штука, будзем цяпер піць да гуляць да панскую шкатулку памінаць.

## 174. ЯШЧЭ ПРА ПАПА І ДЗЯКА

Як былі ў адной цэркві поп ды дзяк, такія бедныя, што ім і есці нечага было. Вот раз дзяк і кажыць папу:

— Будзем мы з вамі, бацюшка, коней красць: я ўкраду, а вы выскажыцеся, што ўмееце адгадаць, дзе яны, толькі барыш папалам.

Вот і сталі яны так дзелаць: дзяк украдзець, а поп адгадаець, дзяк украдзець, а поп адгадаець. На тую бяду прапаў у царэўны персцень дарагі. Іскалі яго ўсюды, ды нійдзе не маглі найці. І пачуў гэта цар, што ёсць поп такі ўгаднік. Вот ён і патрэбаваў, каб яму папа таго даставілі. Ну, даставілі, а цар яму і кажыць:

— Ну, адгадывай, а не адгадаеш, смерць табе, значыцца.

Поп тый сабе тады і думаець:

«Во калі бяда мая! Усё роўна паміраць прыходзіцца!»

Папрасіўся ён, каб яго на тры дні ў асобным пакоі заставілі. Запёр ён дзверы дый стаў маліцца. Моліцца ды прыгаварываець:

— Было ж табе худа, Трабло, будзець табе хужы, Храбло.

А ў цара былі слугі Храбло і Трабло. Яны стаялі пад дзвярмі дый слухалі, як гэта поп адгадываць будзець, адтаго што гэта яны персцень укралі. Вот як пачулі яны, што поп кажыць: «Было табе худа, Трабло, будзець табе хужы, Храбло»,— кінуліся ў ногі папу:

— Бацюшка! Не кажы ж ты нікому, што мы ўкралі.

А ён ім:

— А што, дзеткі, я ж дык і згадаў, што вы. Ну, упіхніце ж вы той пярсцёнак у рыбіну, што к царскаму сталу гатовіць будуць.

Так яны і зрабілі. А поп тады і кажыць цару:

— Персцень знайдзецца ў кішках у рыбіны, як будуць к царскаму сталу падаваць, каб беспраменна паглядзець, ці мая праўда.

Як толькі села за стол царская хвамілія, сеў з імі і поп. І сталі падаваць разныя патравы, а на паследак падалі рыбу. Цар і сваёй рукой разрэзаў, глядзь, аж там пярсцёнак; здзіву даўся ён, а поп і кажыць:

— А што, дзетка, відзіш, я ж дык згадаў.

Але цар усё гэта сам сабе не верыць: няго ж гэта можыць быць, што б ён згадаў?

Вялеў ён, каб на другі дзень прыгатавалі папу варону заместа пячыстага. Вот як толькі селі за стол, поп гэта і кажыць сам на сябе:

— Во, ці думалася то вароне за царскім сталом быць?

А цар і закрычаў:

— Вой, ці ты ж згадаў!

— А як жа, дзетка, во, я ж дык і згадаў.

Ну, як толькі ад'язджаць ужо папу таму, цар абдарыў яго золатам і серабром, запрог яму карэту, а пад сядзенне падсыпаў яец — усё сам сабе думаець: ці згадаець то ён, што на яйцах сядзіць?

Поп сеў дый кажыць сам на сябе:

— Во, цяпер сяду, як курыца на яйцах.

А цар тады:

— Вой, ці ты ж узноў згадаў!

— А як жа, дзетка, дык і казаў, што згадаю.

## 175. ЯК ШАВЕЦ ГАЛОЎНЫМ КСЯНДЗОМ СТАЎ

Быў адзін шавец. Кожны дзень ён гарэлку піў. Жонка просіць яго:

— Кідай гарэлку піць. Схадзі да ксяндза спавядацца.

Ён падумаў: «Хоць раз трэба да касцёла схадзіць».

І пайшоў шавец да касцёла, паспавядаўся і ідзе зноў дахаты. Ідзе ён каля карчмы і захацелася яму гарэлачкі выпіць. Стаў па кішэнях шукаць.

— Ёсць саракоўка! Трэба выпіць.

Ён заходзіць у карчму. Выпіў і зноў пайшоў —ківаецца, бо п'яны. Хутка зваліўся ў канаву і заснуў там.

А ў гэты час укралі ў круля дарагі пярсцёнак, і круль аб'явіў, каб усе ксяндзы з'еханіся да яго і дапамаглі яму сваімі малітвамі і радамі знайсці зладзеяў.

Вось ідзе да круля той ксёндз, што спавядаў шаўца. Глядзіць — ляжыць гэты шавец у канаве.

«Ну,— думае ксёндз,— зраблю я з гэтым шаўцом жарт».

Зняў ксёндз вопратку сваю і адзеў шаўца, а ў шаўцову вопратку сам адзеўся.

Шавец прачнуўся і сябе не пазнае, пытаецца:

— Ксёндз я ці не ксёндз?

І думае: «Прыйду дамоў і паздароўкаюся з жонкай. Калі яна мяне не пазнае, значыць, я ксёндз».

Прыходзіць дахаты. Жонка, як убачыла «ксяндза», прывітала яго і стала пытацца, ці не бачыў «ойцец духоўны» яе мужа ў касцёле.

Шавец сказаў, што не бачыў, і падумаў: «Не пазнала мяне жонка. Ну, вядома, я не шавец, а ксёндз».

Пайшоў ён на дарогу і хутка зноў зваліўся ў канаву — крыху выспаўся там. А гэтай дарогай ехалі ксяндзы з другога раёна. Бачаць — ляжыць ксёндз у канаве. Спыніліся ксяндзы, падышлі да яго і пытаюцца:

— Што з табой, калега, здарылася?

Шавец кажа:

— Вось галава закруцілася і ўпаў.

— А ты не чуў,— гавораць яму ксяндзы,— што круль аб'явіў, каб мы ўсе з'ехаліся да яго.

— Не, ксяндзы, не чуў — праспаў.

— Ну, паедзем з намі да круля. А маеш ты кніжку?

— Не, ксяндзы, не маю.

Далі яму ксяндзы кніжку, пасадзілі ў брычку і паехалі з ім разам да круля.

Прыехалі да круля. Круль завёў усіх ксяндзоў у залю і тады яны сталі маліцца, каб дазнацца, куды пярсцёнак дзеўся.

Круль падыходзіць да кожнага ксяндза, глядзіць, як ён моліцца. Падыходзіць круль да шаўца, аж ён дагары нагамі кніжку трымае.

Круль пытае «ксяндза», чаму ён так моліцца? А той гаворыць:

— Другія ксяндзы нічога не будуць ведаць, а я ўсё буду ведаць, бо я на ўсе чатыры бакі малюся богу, а яны моляцца ў адзін бок.

І стаў шавец вярцець кніжку на ўсе чатыры бакі і «маліцца».

Прыходзіць круль да міністраў і кажа:

— Усе разумныя ксяндзы ў маім крулеўстве, а адзін найразумнейшы: на ўсе чатыры бакі па кніжцы моліцца.

Скончылі ксяндзы маліцца, пайшлі на абед. Шавец кажа да круля:

— Мне дайце асобную каморку, каб я адзін абедаў.

Круль згадзіўся. Тады ён зайшоў у каморку і сядзіць. Прыносяць яму есці. Тады ён палец адхіліў і кажа:

— Ужо адзін ёсць.

Гэты лакей паставіў яду на стол, а сам ходу. Прыходзіць на кухню і кажа:

— Так яго халера вазьмі — пазнаў мяне.

Тады другі лакей кажа:

— А, можа, мяне ён і не пазнае?

І пайшоў да «ксяндза».

Прыходзіць да яго. Шавец гэты і кажа:

— Вось другі ёсць!

Лакей паставіў на стол яду і ходу. Прыбягае на кухню і кажа:

— Вось ведае, на мяне сказаў: «Другі ёсць».

І гавораць першы і другі да трэцяга лакея:

— Цяпер ты ідзі. Калі скажа на цябе,— пойдзем прасіцца.

Прыходзіць да «ксяндза» трэці лакей, і «ксёндз» кажа:

— Трэці ўжо ёсць.

Кінуў лакей тарэлку на стол і пабег.

Прыходзяць усе трох да яго і просяцца:

— Мы ўкралі! Не губіце нас, не кажыце крулю.

І паказваюць «ксяндзу» крулеўскі пярсцёнак.

Ён пытае:

— Індык у вас ёсць?

— Ёсць чорны індык.

— Завярціце гэты пярсцёнак у хлеб і дайце праглынуць індыку. Тады круль нічога не будзе ведаць аб вас.

Падзякавалі лакеі ксяндзу і пабеглі задаволеныя. А «ксёндз» ідзе да круля і кажа:

— Я дазнаўся, дзе пярсцёнак!

— Дзе?

— У чорным індыку.

Зарэзалі індыка і знайшлі пярсцёнак.

Тады круль дараваў яму вельмі вялікія грошы і зрабіў яго галоўным каралеўскім ксяндзом.

Прыходзіцца шаўцу адпраўляць імшу, а ён нічога не ведае. Дык ён давай прасіцца ў круля, каб той дазволіў яму жыць у кляштары. Круль пусціў «ксяндза» ў кляштар.

Вярнуўся шавец да жонкі ўжо без ксяндзоўскага адзення і стаў жыць багата.

## 176. ШАПТУХА

У якомсь сяльцы жыла старэнькая баба. Была яна адна, бы тая былінка ў полі. Усе яе крэўныя да сваякі даўно паўміралі, а яна як асталася, дак і ліпіць, як тое гнілое да старое дзерава. Сяльцо было маленькае, мо якіх дымоў дзесяць. На самым канцы стаяла бабіная хатка. Яна была такая старэнькая, як і сама баба. Скрывілася да зморшчылася баба, пакрывілася і яе хатка. Нашоўся якісь добры чалавек, што нарабіў у бабінай хатцы падпорак да аблажыў яе загатаю; от і стаіць старэнькая, абросшая мохам, бы яе хаджайка, хатка, стаіць і не варухнецца, бо не ведае, ў які бок паваліцца. Назбірае баба шчэпачак да цурбалкаў, падтопіць у печцы да й апекаецца перад полымем. Ведама, на старасці дак і ўлетку холадна. От так і жыве сабе старэнькая баба: калі е што, то з'есць, а калі няма, дак і так абойдзецца. Да й колькі ёй трэба? Дасць хто-кольвек асушкаў хлеба або бульбы, от баба размочыць скарынку да й пасмокча яе трохі бяззубым ротам, а бульбу спячэ ў прыску да й есць. От гэстым і жывілася тая баба ўжо пэўне гадоў з сарачню. Бачыце, ёй ужо было можа больш, як гадоў сто.

Мо яшчэ доўга б пражыла так тая баба, але от раз ехаў праз тое сяльцо тамашны пан, убачыў ён старэнькую бабу да й здзівіўся, што яна так доўга жыве.

— Хіба ж ты, бабка, яшчэ жыва? — пытае пан.
— Жыва, паночку, мой саколіку... От не дае бог смерці...
— Як жа ты жывеш?
— Якое маё жыцце, паночак мой дарагенькі! Як так жыць, то лепей гніць: зарабіць — няўздолею, а дзеткі і ўнукі ўсе даўно паўміралі. Некаму і вады падаць.
— Чаму ж ты, баба, не шэпчэш або не варожыш?
— Не ўмею, мой лябедзіку.
— Слухай, баба, я цябе навучу.
— Навучы, мой саколе ясны, навучы, каб і я не дарам свет займала.
Пан прыхіліўся к вуху да й кажа бабе:
— От як пазавуць цябе к хвораму, то ты пахукай трэйка на яго да й шапчы: «Сіголаў жыў, сіголаў не». Пашапчы о гэ трохі, дай яму выпіць вады, то ён і паправіцца. А калі памрэ, то сіголаў яго бяры. От за тое цябе будуць карміць і паважаць.
Падзякавала баба пану да й пачала шаптаць, пачала людзей ратаваць. Але каму ні пашэпча, кожын ачуняе.
Пайшла прачутка мо па ўсяму свету, што аб'явілася такая баба, такая шаптуха, што яна вельмі добра лечыць людзей і гаўяда. Да й не толькі лечыць, але і ўсё ўгадвае. Паваліліі к той бабе людзі адусюль, нясуць і вязуць той бабе ўсялякага дабра. Жыве сабе баба анігадкі. Тым часам той пан, што навучыў бабу шаптаць, чуе аб тым да толькі смяецца сабе ціхенька з дурных людзей. Але ось пайшоў якась той пан на паляванне, многа ахвоціўся, спацеў да пакрычаў праці ветру, от і зрабілася ў яго ў горле скула. Пан к дахтуром — куды там — от, от скула задавіць і толькі. Жонка кажа, каб пазвалі тую слаўную бабу, а пан і слухаць не хоча, але, нарэшце, як прыперла ліха, дак згадзіўся, каб пазвалі і тую бабу. Прыйшла баба, а пан ужо чуць дыхае. От давай баба хукаць да шаптаць.
— Сіголаў жыў, сіголаў не.
Прыслухаўся пан да як учуў, што баба шэпча тое, што ён яе навучыў, дак яго апанаваў такі смех, што не можа аж вытрымаць. А баба шэпча да шэпча. Слухаў, слухаў пан да як зарагоча — дак скула ў горле і трэснула. От і выздаравеў пан і давай дзякаваць той бабе, што адратавала яго ад смерці.
— Ці ж ты, бабка, усё так лечыш? — пытае пан.
— Эге ж, мой саколіку, усё так.
— Ну, а як жа ты, бабка, угадваеш?
— Угадваю, бо так бог дае.
— Адгадай жа, баба, што ў мяне ў руцэ.

— Папаўся, жучку, у панскую ручку,— шчыра прамовіла баба.

Яна, бачыце, спужалася, што не ведае, як адмовіць пану на яго пытанне. Тым часам пан раптоўна да й кажа:

— А няхай цябе, баба, багі кахаюць, як жа ты добра адгадваеш.

Пры гэтых словах пан расшчапіў руку да й паказаў, што ў яго ў жмені жук.

Дак от як шаптала да варажыла тая баба. Яна рабіла і людзям пажытэчне і сабе ўжытэчне.

## 177. ПАН І МУЖЫК

Быў адзін вельмі добры маёнтак. Зямлі — як вока схваціць, а зямля добрая, зраджайная, от, здаецца, пасадзі дзіця, дык і тое вырасце. А сенажаці мурожныя да берагі — сена некуды дзяваць. Двор каля самае ракі. Будынак — палацы. Дабра аж будоўля ломіцца. Кругом сад, быццам у раю. Такая пану жытка, што і паміраць не трэба. Але што паны, яны заўжды ад дабра круцяцца. Так і той пан. Прыедзе, бала, ў двор, бегае, бы шалёны, да крычыць на камісара, лае дворню, а тыя жаляцца на нашага брата-мужыка. А, ведама, так заўжды, што калі што не так, дык вінават мужык.

— А даць яму сто гарачых,— крычыць пан.

От табе і ўся справа. Толькі тагды трохі супакоіцца пан, як прыдуць к яму ў двор тыя дзеўкі, каторых хочуць людзі браць. Там была, бачыце, такая павядэнца, што пакуль дзеўка не сходзіць к пану, датуль няможна рабіць вяселля. От, бала, нагоняць к пану дзявок цэлую чэраду, бы авец, а ён бярэ ці к сабе, ці гасцям. От пакруціцца пан з тыдзень ці больш да й зноў паедзе чорт ведае куды. Кажуць, ён усё ездзіў у Аршаву ці за граніцу. Яго лёкай раз падвыпіў, дак казаў, што ў пана быў такі другі маёнтак, але ён прайграў яго ў карты. Мо хлусіў, а мо і праўда. Толькі ось раз вельмі доўга не было пана. Розна гадалі людзі. Другія пайшлі гаманіць, што ўжо саўсім не будзе пана, што нас возьмуць у казну ці саўсім пусцяць на волю. Толькі быў у нас адзін п'янчужка, дак той праўду казаў, што балота без чорта не будзе, адзін загіне, дзесяць будзе. Дак тое на праўду і выйшла.

От якась перад Сёмухаю сагналі людзей у двор. Сышліся яны на дзядзінец, сядзяць, пакурваюць сабе люлькі да гамоняць

аб том, аб сём. Ужо сонейка паднялося да й пачало каціцца долу, а яны ўсё сядзяць да чакаюць ведамосці, нашто іх сагналі. Усхапіўся той п'янчужка да й кажа:

— Хоць бы далі па чарцы гарэлкі чарвяка замарыць, ато штось каля сэрца от так і завіло.

Пачалі людзі шуткаваць да смяяцца, от дзень і хутчэй прайшоў. Зірнулі яны, аж ужо й сонейка нізка, вечар блізка. Выйшаў камысар да й вялеў прыходзіць назаўтра раненька.

— От жа дарам прапаў дзень, бацца свінні з'елі,— кажуць людзі да й цягнуцца хто ў карчму, а хто да гаспады, бо ўжо духі падвяло.

Хадзілі так людзі без дайрацы мо колькі дзён, нарэшце вось і прыехаў асэсар і з ім якісь незнаёмы пан. Пайшлі яны ў пакоі да й пачалі сабе сілкавацца. Ведама, панам часу многа, а што людзі дарам пятрэюць, дак ім клопату мала. Але ось ужо перад самым вечарам выйшаў к людзям асэсар з камысарам і новым панам, перачытаў якісь паперак да й кажа:

— От вам новы пан. Слухайце яго да шануйце, то і ён не пакіне вас, а будзе вам як бацька.

Тут падалі коней. Асэсар сеў да й паехаў, а новы пан забраў камысара да й пайшоў з намі на поле. Толькі выйшлі мы з варот, от і пачаў пан аглядаць поле да рахаваць, які гатунак грунту. А поле было ўзорана там яшчэ аб восень на зяб да так і засталося не засеяна. Ведама, за зіму ралля зраўнялася, баццэм і не ворана. Ускочыў пан у сваіх ляксаваных ботах на кратавенне да й праваліўся па самыя костачкі.

— От добрая зямля,— кажа ён камысару.

— Але,— добрая,— адказвае той.

Пачаў пан пытаць старых людзей, якое тут лепш сеяць збожжа, а тыя кажуць, што як бог дасць, дак усялякае зародзіць. Схіліўся тут пан, узяў у жменю зямлі да й палажыў яе ў губу, нібыта смакуе, на якое збожжа лепш абярнуць. Пазіраюць людзі, што пан языком выбірае зямлю да па смаку пробуе, што на ёй добра зародзіць, да толькі смяюцца з дурнога пана. Яны думаюць, што пан толькі чмуціць, нібыта па смаку мажэ пазнаць добрую зямлю. От пакаштаваў пан зямлі да й зноў пытае людзей, якое збожжа тут лепш зародзіць. Маўчаць людзі да толькі пазіраюць адзін на другога. Але ось выскачыў той п'янчужка да й кажа:

— Не, паночку, дарэмная хватыга! Толькі тагды ад зямлі пазнаць смак можаш, як на яе гною паложыш.

## 178. ЯК СТАРЫ, ХОДЗЯЧЫ Ў ШКОЛУ, ГРОШЫ НАЖЫЎ

У даўнія часы адзін селянін працаваў у пана. Звалі яго Апанас. Знаў ён толькі сваю працу, а пан, нічога не робячы, камандаваў ім. Аднаго разу Апанас араў у полі. Прыходзіць пан да яго. Ён пытае ў пана:

— Чаму гэта я вось працую, ару, а вы, паночку, ходзіце без ніякай працы?

Пан адказвае:

— Я хадзіў у школу, вучыўся на гэта.

Апанас думае сабе:

— Дык і я пайду ў школу.

А гадоў яму было пад пяцьдзесят.

Прыйшоў ён у школу. Настаўнік паглядзеў на яго і пытае:

— Што скажаш, дзядзька?

— Я прыйшоў вучыцца.

Настаўнік кажа:

— Позна!

Апанас думае:

«Ну, калі я запазніўся сёння, дык назаўтра раней прыду».

Прыйшоў Апанас у школу на другі дзень. Другі ўжо настаўнік паглядзеў на яго і кажа:

— Позна ўжо, стары, табе вучыцца.

І яшчэ тры разы прыходзіў Апанас у школу, і кожны раз настаўнікі яму казалі:

— Позна!

А працу ў пана ён ужо кінуў. Пайшоў ён у лес і гаруе.

— Што рабіць?

Бачыць — ляціць пустая карэта панская. Коні заўважылі нешта, спалохаліся, разнеслі карэту, а пан з фурманам і чамаданамі павыляталі.

Ідзе Апанас дарогаю, аж бачыць — саквояж ляжыць. Узяў ён саквояж і пайшоў далей. Прыносіць у гварак, здзірае з саквояжа вярхі і ў адным яго рагу робіць дзірачку. Павярушыў — выпала адтуль залатая манетка. Ён у жыцці сваім не бачыў такіх грошай. Ён ужо некалькі дзён не працаваў у пана і выгаладаўся. Ён схапіў саквояж з гэтай манеткай і пабег у краму, каб купіць паесці.

Набраў ён на пятнаццаць капеек. Дае гандлярцы манетку і думае: «Манетка малая, колькі за яе дадуць?»

Гандлярка паглядзела і кажа:

— Пачакай, у мяне здачы няма.

Але пашукала ў сябе ў скрынцы і дала яму чатыры рублі восемдзесят пяць капеек.

І думае Апанас:

— «Што гэта за грошы такія? Цяпер я пажыву».

Пабег ён ізноў ў гварак, адчыніў сакваяж, убачыў там столькі залатых манетак, што аж закрычаў:

— Божа мой! Колькі грошай!

Тысяч сорак там было. Але ён не мог пералічыць гэтыя грошы.

Пайшоў ён у мястэчка і бачыць аб'яву на слупе — ён трохі быў граматны:

«Прадаецца ў нядзелю з публічных таргоў маёнтак».

І думае: «У мяне ж грошы ёсць. Пайду, можа, зніму з таргоў маёнтак».

Вярнуўся дадому і пачуў сумную вестку: той пан, які згубіў грошы, запрасіў ксяндзоў, каб яны прызвалі ўсіх людзей да споведзі.

Бядуе Апанас:

«Вядома, ксёндз будзе пытацца, ці не знайшоў грошы. Прыдзецца аддаць — не куплю маёнтка».

Ну, і пайшоў ён да ксяндза.

Ксёндз пачаў яго спавядаць і пытае:

— Які ж ты грэх маеш, пожжэ цо скралд, можа цо знялязл?

Ён задумаўся і кажа:

— Знялязл пянёндзе.

Апанас яму расказаў, што знайшоў грошы, калі хадзіў у школу.

Ксёндз падумаў:

«У школу, вядома, ён хлопцам хадзіў, а пан грошы згубіў учора. Дык гэта не тыя грошы».

Ну, і адправіў яго ксёндз.

Апанас з радасці пабег на таргі і за трыццаць тысяч рублёў купіў маёнтак цэлы з усім інвентаром і жывёлай.

Праз некалькі дзён пан, у якога Апанас служыў раней, задумаў зрабіць баль і разаслаў другім панам запросіны. Апанас таксама атрымаў запросіны на баль (той пан не думаў, што маёнтак купіў селянін).

Апанас прыехаў, зайшоў у панскі палац і ўсеўся ў зале, як усе паны. Уваходзіць пан і бачыць, што Апанас там у панскім адзенні сядзіць, і пытае яго:

— А якой жа рацыі ты тут апынуўся ў нашай кампаніі?

Апанас паказвае пану дакументы.

Той пытае:
— Дзе ж ты ўзяў пянёндзе?
— А помніш, як ты мне, пан, на полі казаў, што трэба хадзіць у школу? Вось я хадзіў у школу і нажыў грошы. Добра было б, каб усе парабкі пакінулі ў пана працаваць і пайшлі ў школу. Так параўняліся б усе з панамі, і ніхто не здзекваўся б з людзей.

## 179. СТАРОЕ СЯДЛО

Адзін мужык Іван адслужыў цару салдатам пяць лет. Служыў верна цару-бацюшку, а самога цара і не відзеў.
Як прыйшоў дамоў са службы, суседзі ў яго пытаюць:
— Дзе ж ты быў і каму служыў?
Ён атвячаець:
— Цару бацюшку служыў.
Суседзі спрашываюць:
— А ці відзеў ты цара, калі ты яму служыў?
— Не, не відзеў.
— Ну, дык які з цябе служака? Цару служыў і цара не відзеў!
Када суседзі сталі замячаць, што ён абіжаецца, што з яго пасмейваюцца, то сталі яшчэ больш падсміхвацца з яго.
Надаела эта, наканец, беднаму Івану, рашыў павідаць цара. Насушыў сабе сухарэй на дарогу, злажыў у торбу і пайшоў у Пецярбург. Дапытаўся ён да царскага дварца і прэць проста ў дварэц.
А цара там ахранялі тожа салдаты, гвардзейцы. Крычаць на яго:
— Эй, куды ты прэш? Сюды хадзіць не паложана.
Ну, Іван, канечне, абідзеўся, доўга стаяў, прасіўся, штоб яго пусцілі к цару. Но яго ўсё не пускалі.
У гэта ўрэмя якраз прыязджае цар з прагулкі. Увідзеў мужыка з торбай возле варот. Відзіма, быў у харошым распалажэнні духа пасля прагулкі. Астанавіўся і спрашваець:
— Што табе, мужычок, нужна?
Іван яму атвячаець:
— Цар-бацюшка, змілуйся, я атслужыў вам службу верна пяць лет. Служыў у таком-та палку і не прышлось мне ва ўрэмя службы вас відзець. Цяпер мае суседзі не даюць праходу. На-

зываюць мяне дурачком: «Эх, ты, Іван, цару служыў, а цара не відзеў». Вот я і прышоў сюды, каб паглядзець на цара, а мяне не пушчаюць.

Ну, цар пахваліў яго за гэта.

— Маладзец! Вот я і ёсць цар. Можаш глядзець на мяне.

Іван спужаўся, аж збялеў.

— Нічаво, нічаво, салдацік, служыў харашо, за гэта спасіба. Чэм цябе за гэта наградзіць?

— Ну, чэм? Нічэм ні нада наградзіць. Спасіба і за тое, што я на вас паглядзеў.

— Ну, как жэ так не наградзіць? Када прыдзёш дамоў, окала цябе зноў будуць суседзі смяяцца, што к цару схадзіў і цар цябе нічэм не наградзіў.

— Ну, што ж, раз так, дайце мне, цар-бацюшка, старое сядло.

— Эй! — крыкнуў ён на сваіх грэнадзёраў.— Прынясіце яму харошае, новае сядло.

Іван цару гаворыць:

— Не, цар-бацюшка, не нада мне новае сядло, вы мне дайце старое сядло.

Цар яму атвячаець:

— Да ў мяне старога сядла і няма.

— Ну, калі ў вас, цар-бацюшка, старога сядла нет, так у нашага пана Азанчэўскага ёсць старое сядло, я яго дужа люблю. Вы мне напішыце запісачку, каб ён мне аддаў.

Цар жа не знаў, што гэта значыць старое сядло, ўзяў напісаў запісачку, што па волі яго вялічаства пан Азанчэўскі должан аддаць Пятрову Івану Старое Сядло са ўсімі прынадлежнасцямі.

І на гэтым разгавор з царом кончыўся. Іван палучыў запіску і адправіўся дамой. Цару было смешна: мужык дурны дурное любіць. Ён жа не знаў, што ў пана Азанчэўскага ёсць іменне, каторае называецца «Старое Сядло». Мужык прыходзіць дамой і прама к пану, прад'яўляець гэту запіску, дзе было напісана, што па волі яго вялічаства вы далжны аддаць Івану Старое Сядло.

У пана было іменнё не адно, былі іменні і другія. Ён выехаў з гэтага і перадаў яго мужыку Пятрову Івану.

Када ж вярнуўся мужычок дамоў у сваю дзярэўню і ўзналі аб усім яго суседзі і што Іван схадзіў к цару і палучыў за ета іменне, яны Пятрову пазавідавалі.

Патом другі мужык з етай дзярэўні, больш баявы, назавём яго Сямёнам, кажа:

— Я тожа служыў цару не хужы за Івана. Пайду і я к цару, ён мне тожа дасць іменне.

Прыйшоў к цару, цар яго спрасіў:

— Чаго табе ўгодна?

Сямён яму і гаворыць:

— Вот мой сусед, Пятроў Іван, служыў у пяхотным палку і вы яму далі за гэта іменне Старое Сядло ад пана Азанчэўскага, а я служыў у вашым гвардзейскім яго вялічаства кавалерчацкам палку, мне тожа нада даць іменне.

Кагда цар узнаў, што первы мужык яго абмануў, і ўтарой хоча абмануць, крыкнуў:

— Расстраляць яго за гэта, Сямёна!

Прыказаў салдатам атвясці за гару і расстраляць, штоб большы не хадзілі сюды за іменьямі. А старшаму ціханька сказаў:

— Здзелайце так, каб ён збег к чортавай мацеры дамой.

Ну, так і случылася.

Када прыйшоў Сямён дамой, к яму сабраліся суседзі:

— Ну, што, Сямён, у Пецярбургу быў?

— Быў.

— Цара відзеў?

— Відзець відзеў, чорт яго пабяры, ну, штоб яго век не відзець!

## 180. КАЗКА ПРА РАМАНА І ІГНАТА

Было гэта ў час прыгону. На Пятроў дзень двое старых, Раман і Ігнат, пасвілі на лузе панскіх коней. Успамінаючы сваё дзяцінства, яны рашылі пагуляць у дзеці. Раман быў апранут у новы кажушок, а Ігнат у армячок. Яны ўзялі з сабой паўкварты гарэлкі, хлеба, сала. Коней адганялі пачаргова, то Раман, то Ігнат. Калі падышоў абед, яны пачалі печ яечню. Ігнат пайшоў адганяць коней, а Раман за гэты час выпіў усю гарэлку і з'еў усю яечню. Калі прыйшоў Ігнат, ён спытаў, дзе яечня.

Раман паказаў на свой жывот, сказаўшы:

— Тут, тут!

На другі раз чарга адганяць коней была Раманава, і той, скінуўшы кажушок, пабег, як малое дзіця. У гэты час Ігнат папravіў агонь і ўскінуў на яго кажушок.

Раман, вярнуўшыся, заўважыў адсутнасць кажушка, запытаў у Ігната дзіцячым голасам, дзе кажушок.

Ігнат адказаў:

— Жыжа гам!

Тут Раман у вуха Ігнату, а Ігнат Раману. Моцна збіўшы адзін другога, яны прыйшлі да пана на скаргу. Раман пачаў расказваць пану сваю абіду, пан запытаў у яго, калі гэта было.

Ігнат адказаў:

— Гэта было тады, калі мы пасвілі коней і гулялі ў дзеці.

Пан раззлаваўся, сказаў:

— Ах вы, дурні, гэта было тады, калі вы былі дзеці, а цяпер прыйшлі скардзіцца ка мне за тое. Гэта ж было даўно.

І пан даў загад войту даць па дваццаць пяць розак кожнаму.

## 181. СПРАВЯДЛІВЫ АЎЧАР

Служыў у аднаго пана аўчар, ён такі быў справядлівы, што нігды не ўкраў, не ашукаў, а верна пану служыў.

Адзін раз з'ехаліся паны ў госці, гавораць то аб том, то аб сём, а потым той да таго кажа:

— Ест у мяне такі верны аўчар, што нігды не салжэ, а цобы кепско зробіл, то зараз пшызнасе.

А другі кажа:

— А я так зробе, жэ он баран одда і не пшызнасе.

— Ого, недачакане! Датыхчас был справедлівы і далей бэндзе!

— Ото ж зробе!

— Не, не зробіш! — і пайшлі яны ў заклад.

Так што ён робіць. Пасылае дзеўку на поле, каб яго падманула і за тое каб даў ёй барана. Ён спярша не хацеў, а потым такі здаўся на падмову. Так, пасля ўсяго прыносіць барана тая дзеўка да свайго пана. Но, так той пан прыязджае з бараном і мувіць:

— Твой баран?

— Мой, як ты яго дастаў?

— Так і так, давай, дабрадзеньку, прызнайся.

— Не, не дам, почэкай, тшэба пжэконацьсе, ці он пшызнасе.

— Добжэ.

А той аўчар, як тая адышла з бараном, так падумаў: «Бяда будзе!»

І што ён робіць: убіў кія ў зямлю, павесіў шапку і сам адышоў, а потым, падышоўшы нізка, як перад панам, пакланіўся і кажа:

— Дзень добры, вяльможны пане!
— Дзень добры, Яне. А цо повеш?
— Кепско пане, украдлі ў мяне барана.
— А зле, Яне, не пільнавалэсь!
Потым адышоў ад кія і падумаў:
«Э, так будзе нядобра салгаць, трэба іначай».
І гэта, падышоўшы да кія, кажа:
— Дзень добры, вяльможны пане.
— Дзень добры, а цо повеш, Яне?
— Зарзнолэм барана, проша пана.
— Э, то нядобжэ, Яне, заплаціш карэ!
І зноў адышоўся, але падумаў, што кепска, трэба такі пайсці і сказаць шчыру праўду. Так зноў падышоў і кажа:
— Дзень добры, вяльможны пане.
— Дзень добры, Яне, а цо повеш?
— Прыйшла на поле к...шча... забрала баранішча!
— Ано цо ж робіць, Яне, жэч то людзка, а жэ правдэ поведзял, маш другего барана.
І падумаў сабе:
«Но так то добра будзе».
Так увечары, прыгнаўшы з поля авечкі, ідзе проста да пана і кажа там, як наастатку да кія. Так пан за тое даў яму другога барана і пахваліў, а той пан праіграў, каторы дзеўку высылаў.

## 182. СОЛЬ

Жыў-быў багаты чалавек і было ў яго трое сыноў. Старэйшы сын зваўся Прэктар, сярэдні — Кірыл і меншы — Давід.
Адзін раз захацеў меншы сын пакатацца па моры. Ён узяў у карабль насыпаў солі, каб цячэннем не занесла куды, і паплыў.
Калі ён адплыў ад берага, узнялася страшэнная бура. Ён не спраўляўся кіраваць караблём, і гнала яго ветрам па цячэнню. Як толькі сціхла бура, ён ужо быў каля берага. Ён спыніў карабль і пайшоў на бераг. Мясцовасць была незнакомая.
Раптам ён убачыў дом і пайшоў да яго.
Тут жылі невядомыя людзі, але яго прынялі добра, як сваяка.
Устроілі яны баль, але на сталах была несалёная ежа. Давід пакаштаваў і кажа:

— Прынясіце з майго карабля белага пяску і пасыпце ўсю ежу гэтым пяском.

Яны так і зрабілі.

Калі ўсё было зроблена, гаспадар пакаштаваў ежы, і яму вельмі спадабалася.

Ён папрасіў Давіда, каб той аддаў яму соль, а за гэта ён насыпле столькі ж золата. Давід сагласіўся. Гаспадар выгрузіў тоны дзве солі, а яму насыпаў у карабль столькі ж золата. Давід быў вельмі рад. Праз некалькі дзён ён адправіўся дадому. Едучы назад пагода была добрая, і ён спакойна дабраўся дамоў. Дома думалі, што яго ўжо і на свеце няма, але калі ён прыехаў, усе былі рады.

Давід расказаў дома, якое з ім адбылося здарэнне. З таго часу ўся сям'я пачала добра і разам жыць. Яны і цяпер недзе жывуць.

## 183. АБ КУПЕЧАСКАЙ ДАЧКЕ, ЯК ЯНА АТМСЦІЛА ПРЫКАЗЧЫКУ

Была на роўным месце, как на баране, жыў купец багаты з жаною. Доўгае ўрэмя не было ў іх дзяцей, яны сем лет маліліся богу. Радзіліся ў іх сын і доч, яны пабешчалісь на сем лет ехаць у манастыр богу маліцца. Дочке ўжо было 16 лет, а сыну было 14. Купец з жаною відзелі сон:

— Ісполніце сваё абрыканіе: с'ездзіце ў манастыр маліцца богу.

Яны ўсталі, памаліліась богу і сабраліась ехаць у манастыр на сем лет на богамаленне. Сына яны ўзялі з сабою, а дочку аставілі. Нанялі прыказчыка сматрэць за домам. У дочкі іх былі нянюшкі і мамушкі, штобы ёй волі не даваць. Прыказчык гэты не відаў яе ліца нікагда. Аднажды вытапілі баню, яна і ідзе са сваімі нянюшкамі і мамушкамі. Увайшла яна ў баню, а прыказчык за ёю ўслед. Прыказчык, увідаўшы яе красату, улюбіўся ў яе. Увайшоў за ёю ў баню і гаворыць на нянюшак і на мамушак:

— Вы, дзевушкі, ступайце дамой, а з гэтаю дамаю памыюся я.

— Ах, какая ў вас совесць, штобы мыцца са мною?

— А, нічога. Памыемся.

У гэтай бані стаяў у печкі на загнеткі кацёл з вадою, вада кіпела белым ключом. Развяла яна ў таз вады, прыказчык гаворыць:

— Дайце я вас памыю!

— А нет, упярэд я вас памыю.

І ён сеў.

— Ну, мыйце, а тада і я вас!

Яна яму намыліла мылам голаву густа. (А яна яму намыліла галаву, штобы ён нічога не відаў). Узяла кацёл з вадою — как чубурахнець на яго. Яна сама пабяжала дамой. А гэты прыказчык скакаў там тры дні і роў, як карова. Валасы з галавы зваліліся далоў, стала яго галава гола, как калена. Ён, апомніўшыся, лячыўся цэлы год, а яна яму цэлы год не паказвалася на глаза.

Ён і гаворыць:

— Ну, не выскачыш ты ад мяне! Абварыла ты мяне варам, ну, і я цябе пагублю!

Узяў і напісаў яе атцу штрахавое пісьмо:

— Ваша дочка збунтавалася: ні згароды, ні забору не глядзіць. Напішыце, што мне з вашай дочкаю дзелаць: ілі самі прыбудзьце, ілі мне прыкажыце яе ўняць!

Купец, палучомшы гэта пісьмо, сільна ўлякнуўся; доўга ён думаў, што яму дзелаць, да скора прыдумаў: паслаў свайго сына распарадзіцца ёю і ўзнаць усе дзела.

Прыехаў яе брат дамой ноччу, стукаець у калітку, а яе спальня была вакном к калітке:

— Сястра, атварай!

Выскакываець яго сястра і гаворыць:

— Што ты, мой брат, не воўрэмя бываеш?

Управіцеля ў ту пору не было дома. Запаліла яна свечку пасматрэць братава ліцо, а ў яго глаза былі, как у разбойніка — увесь ён трасецца і глядзіць сярдзіта:

— А што, сястра, ты пазабыла атцоўскія прыказанні, цябе не ўдзержуць ні па заборам, ні па згародам?

Сястра, как услыхала гэта, то яна самянілася са ліца, а ён падумаў, што яна вочынь вінавата. Узяў ён шаблю і гаворыць:

— Сястра, адзявай смяротную адзежу!

Ён прывёў яе ў глыбокі роў і гаворыць на яе:

— Сястра, кайся: я табе сыму голаву далоў!

— Ну, брат, воля твая: дзелай што хочаш!

Ён выхваціў шаблю, што ўдарыць яе па галаве, а яго как ударыць ад яе святым духам, дык ён без памяці праляжаў цэлы час. Устамшы, гаворыць:

— Сястра, скажы: бог лі не дапускаець, ілі ты знаеш нячыстага духа?

— Брат, воля твая: я не знаю нічога, дзелай, што хочаш.

Ён толькі апяць захацеў ударыць яе шабляю, как ударыла яго святым духам ад яе,— цэлых два часа ён праляжаў без памяці. Ён ледва ўстаў ад гэтага пабою, замахнуўся ён у трэці раз, штоб ударыць яе,— яго как ударыла святым духам, цэлых тры часа праляжаў без памяці. Устаў і гаворыць:

— Ну, сястра, прызнайся: бога лі ты знаеш, ілі нячыстага духа?

— Брат, воля твая: я нічога не знаю!

— Ну, сястра, када так, то ідзі куда відзіш, а я скажу атцу, што адрубіў галаву табе.

І пайшла яна па шчырых барах, па цёмных лясах і зайшла ў чужое царства. Зайшла яна ў такую пушчу, а там ўсё шчыпчыннік, усё арэшнік, падрала яна ўсю адзежу, стала зусім нагая. Была для мора глубокая яма, а кругом той ямы дванаццаць дубоў. На ту пору чужаземны каралевіч ганяў з сабакамі зайцаў. Сабакі как увідзелі яе, так і бросіліся к ей, а яна бросілася ў яму і лягла ніц. Сабакі ў яму не лезуць, а кругом ямы ходзяць і брэшуць. Наязджае туды каралевіч, ён думаў, што там ёсць люты звер. Відзіць ён, што ў яме ляжыць чалавек голы, ён спрашыіць:

— Хто ты ёсць за чалавек: мужчына ілі жэншчына?

— Жэншчына.

— Ну, вылязай ка мне.

— Ах, каралевіч! Я нага, а дайце мне свой сюртук, то вылезу.

Ён збросіў сюртук і кінуў ёй у яму. Яна адзелась і выходзіць вонкі. Ана на ліцо была прыгожа. Каралевіч у яе і спрашыіць:

— Какога ты ёсць роду?

— Я дзеўка расейская, а роду купецкага.

— Ну, а чаго ж ты сюда зашла?

— А нас было многа, да папугаў дзікі звер.

Ён і гаворыць:

— Ну, пасядзі ты ў етай яме, пакуль я прыеду.

Каралевіч паехаў на рынак і купіў ёй усю жэнскую адзежу.

— Ну, дзеўка, адзявайся палучша!

Вот яна сабралася, сурадзілася, нарумянілася, і яму ана панравілася. Стала ана такая красавіца, што ў царстве нету такіх. Пасадзіў ён яе ў карэту і прывёз дамой. Зняў з яе партрэт і павесіў у сваёй спальні, глядзеў ён на партрэт і не мог насматрэцца. Ходзіць ён па дому, весяліцца, што яму пара жаніцца. Стаў прасіць атца з мацер'ю:

— Папінька і мамінька! Пазвольце мне жаніцца.

Яны і гаворацъ:

— Пазваляем, наша чада, пазваляем: паязджай па ўсяму царству і найдзі па свайму нраву.

— Папінька і мамінька, пажалуйце ў маю спальню!

Паказвае ім партрэт і гаворыць:

— Вот, папінька і мамінька, када яна вам панаравіцца, то і мне!

Яны і гаворацъ:

— Наравіцца, ідзе ты ета такую захваціў, у каторым царстве?

— А ідзе ні нашоў, а яна ў мяне ў доме.

Благаславілі яны яго і перавянчалі на ёй. Пражылі яны, ана ўжо здзелалась бярэменна. У гэту пору здзелалась сражэння ад цара Юрыка ў горадзе Ірыславе. Ваявалі малаткамі і бердушамі. Цар Юрык і напісаў гэтаму каралю, штобы ён быў на савеце ўсіх каралей.

Каралевіч аставіў жану дома, а для распараджэння аставіў маладога сіната. Сінат, астаўшысь адзін, увідаў яе красату. Узяў і пайшоў к ёй на ночку пагуляць. Ідзе ён у палаты, а яму нянька і гаворыць:

— Ваша сіяцельства, не хадзіце: у нас даў бог роды!

— Ну, ета не ваша дзела, пускайце!

Яго пусцілі, а пры ём была палушабля.

Прыходзіць ана ў спальню і гаворыць:

— Ваша сіяцельства, вы відзіце, у каком я палажэнні; зачэм вы прыйшлі ў маю спальню?

Сінат, как услыхаў ета, то ад ярасці выхваціў палушаблю, уторнуў яе ў рабёнка, бросіў на пол.

Яна і гаворыць:

— Ну, малады сінат, ты аставайся тут, а я пайду на кухню абмыюсь — тады і я прыду суда.

Схваціла яна сваё царскае плацце і бросілась у поле. Яна са страху бегла ўсю ноч. Ні многа ні мала яна ўбегла — на 100 вёрст. Стала ўжо світаць, яна напала на полі гарэлы дуплісты дуб і ўлезла туды, патаму што баялась пагоні.

Малады сінат здзелаў пагоню: распусціў сем палкоў салдат яе іскаць і сам іскаў, но не нашоў. Ана сядзела ў етым вязу трое сутак, пакудава пагоня абайшлася.

На чацвёртыя суткі, вочынь рана па вутру, іграў пастух у трубу і выганяў скот у поле. Ана паблагадарыла бога, што дзярэўня недалёка. Падходзіць яна па вутру к пастуху, пастух

быў у жупане, у лапцях і пляцёнаю цясёмкаю падпаясан, а на галаве быў валены калпак.

— Пастух, давай мы з табою барышы дзелаць!

— А якія?

— А памяняемся мы з табою на адзежу!

— Што ты ета выдумала? Мяне ў вастрог за ету адзежу засодзюць — прыстануць: адкуль еткая ў мяне адзежа?

— Не бойсь: я табе яшчэ дзенег дам.

Пастух сагласіўся. Перадзелась яна ў пастухову адзежу, падабрала валасы, намазала вугалем вусы: настаяшчы мужык! Дала ана пастуху дзенег, патом пашла ў горад Ірыслаў.

А ў горадзе Ірыславе ўжо вайна ўціхла. Прышла ана ў горад і давай хадзіць кала атцоўскага дому. А ў яе атца сабраліся ўсе каралі, пілі-елі, гулялі.

Выходзіць яе ацец і гаворыць:

— Эй, мальчык, наймісь ка мне ў работнікі!

— Харашо, наймусь! Толька я буду нанімацца з условіем.

— З какім?

— А нікагда не скідываць шапкі, ні за абедам — нідзе і нікагда.

— Ну, харашо!

Прыходзіць ён у дом, госці і гавораць:

— Гаспадзін хазяін, ці няможна вам найдзіць такога чалавека, штобы ён нам расказваў сказкі?

— А, гаспада каралі, у мяне ёсць работнік, ён умее харашо сказкі гаварыць, но толькі ён у мяне наняты з условіем: нікагда і нідзе не скідываць шапкі.

— Ну дык што? Нічога, мы будзем яго слухаць і ў шапкі!

Купец паслаў етага сына, а яе брата, за батраком.

Ён вышаў і крычыць:

— Эй, батрак!

— Чаво ізволіце?

— Гаспада просюць цябе ў дом казкі гаварыць!

— Ну, эта можна!

Уваходзіць батрак у дом, пакланіўся ўсім каралям і гаворыць:

— Здрастуйця!

— А, батрак, здрастуй!

— Ну, гаспада каралі! Буду я гаварыць казку, но хто яе пераб'ець, то з тога тысячу рублей!

— Ну, мы сагласны!

— Ну, харашо: станоўця стулля кругом мяне і слухайця!

(А тут былі ацец яе, брат, лысы прыказчык, катораму яна абварыла галаву, муж яе, кароль і другія каралі).

Вот батрак начаў:

— На роўным месцы, слоўна на баране, у горадзе Ірыславе жыў купец, быў ён вочынь багат і не меў дзяцей. Вот у іх радзіўся сын і доч. Вот яны адзін раз ляглі спаць і відзяць сон:

— Вы абяшчалі, када родзюцца ў вас дзеці, ехаць маліцца богу ў манастыр на сем лет! Яны прачнулісь, нанялі прыказчыка распарaджацца домам, узялі з сабою сына, а дочку аставілі дома і паехалі ў манастыр богу маліцца. Прыказчык увідаў красату яе, сільна ў яе ўлюбіўся.

Аднажды купецкая дочка ішла ў баню са сваімі нянюшкамі і мамушкамі, прыказчык пашоў услед за ёю і гаворыць на яе:

— Ну, я з вамі памыюсь!

Ана гаворыць:

— Ах, какая у вас совесць мыцца з дамамі!

— Ну, нічога, я памыюся!

Вот яна намыліла етаму прыказчыку галаву, кацёл у печкі кіпеў белым ключом, яна яму намыліла глаза, штобы ён нічога не відаў, схваціла кацёл і выліла яму на голаву — сама пабегла дамой.

— Врэш, дурак, няпраўда! — гаворыць лысы прыказчык.

— Ну, гаспада, тысячу рублёў: казка перабіта!

Вот прыказчык і ўплаціў тысячу рублёў, а батрак стаў расказваць:

— Вот прыказчык еты лячыўся цэльны год, а яна яму цэльны год на глаза не паказвалася. Патом ён, кагда вылечыўся, сказаў:

— Ну, ты мне галаву абварыла, ну, я цябе пагублю!

Напісаў ён пісьмо к яе атцу і напісаў ён у ім:

— Ваша дочка балуецца: ні згароды, ні забору не глядзіць.

Ацец яе падумаў, што ета праўда, прыслаў свайго сына, а яе брата, штоб распарадзіцца ёю. Прыехаў яе брат у ноч, сястра спугалася, а брат падумаў, што яна вінавата, узяў шаблю і павёў яе ў роў. Там ён яе хацеў шабляю ўбіць і гаворыць:

— Сястра, прызнайся ва ўсём!

Ана гаворыць:

— Воля твая, брат, я нічога не знаю!

Ён замахнуўся, хацеў ёй адрубіць голаву, а яго как ударыла святым духам, ён праляжаў час. Другі раз хацеў ударыць — праляжаў два часа, трэці раз хацеў ударыць,— яго как ударыла, то ён праляжаў тры часы. Устаў і гаворыць:

— Ну, сястра, прызнайся: нячыстага духа ты знаеш ілі бог не дапускаець?

Яна яму атвячала:

— Брат, воля твая: я нічога не знаю!

А купечаскі сын (яе брат) гаворыць:

— Урэш! Няпраўда, мужык.

— Ну, гаспада каралі, тысяча рублей — патаму казка перабіта!

Брат яе ўплаціў тысячу рублей.

Батрак гаворыць:

— Тада яе брат гаворыць: «Ну, сястра, ідзі куды відзіш, а я атцу скажу, што атрубіў табе галаву». Пайшла яна, куды глаза глядзяць, і зайшла ў чужое каралеўства. Прыйшла к мору. Кала мора была глыбокая яма, а кругом ямы расло дванаццаць дубоў. На ту пару чужаземны каралевіч ганяў зайцаў. Сабакі ўвідалі ету нагую жэншчыну, бросілісь на яе. Ана спужалася і бросілася ў яму і лягла ніц. Сабакі ў яму не лезуць, а кала ямы ходзяць і брэшуць. Каралевіч наязджаець на ету яму і відзіць, што там ляжыць нагі чалавек. Ён гаворыць:

— Какой ты чалавек: мужчына ілі жэншчына? Какога ты роду ёсць?

— Я жэншчына, а роду купецкага.

Ён і гаворыць на яе:

— Вылязай!

— Ах, ваша вялічаства, я нага! Бросьце мне свой сюртук, то я выду.

Бросіў ён ёй свой сюртук. Ана адзелася і вышла. На ліцо ана каралевічу панаравілась. Ён ёй вялеў падаждаць, а сам паехаў і купіў ёй усю адзежу. Ана адзелася, сурадзілася, нарумянілася, і яму ана панаравілася. Прывёз ён яе дамой і спісаў з яе партрэт. Улюбіўся ў яе ён сільна, глядзеў на партрэт і не наглядзеўся.

Папрасіў у сваіх радзіцеляў багаславення і на ёй жаніўся. Скора пасля таго каралеўская жана забярэменела.

Ат цара Юрыка ў горадзе Ірыславе праізашла вайна, мужу яе нужна было туда ехаць на савет усіх каралёў. Ён паехаў, а распараджацца аставіў маладога сіната. Малады сінат увідзеў яе красату, улюбіўся ў яе. Адзін раз, када ана ўжо радзіла, ён пашоў к ёй. А ў яго для боку вісела палушабля. Ён прышоў к ёй у спальню, а ана гаворыць:

— Ваша сіяцельства, зачым вы ка мне прышлі,— вы відзіце, у каком я палажэніі?

Ён рассердзіўся, выхваціў палушаблю, уторнуў у етага рабёнка і бросіў яго аб пол. Тада яна гаворыць:

— Ну, малады сінат, падажджы ты тут, а я пайду на кухню абмыюсь, тада і прыду.

Ана схваціла сваю адзежу і пабегла ў поле. Ад страху ана бегла ўсю ноч і забегла за 100 вёрст. Утрам ана ўвідала гарэлы вяз дуплісты. Ана ў яго ўлезла, патаму што баялася сінатара, штобы ён не здзелаў за ёю пагоні. Ён здзелаў пагоню, распусціў усю вармію, і сам сінат іскаў яе, но не нашлі яе нідзе. Рана павутру іграў пастух у трубу і выганяў скот у поле. Ана вылезла з дупла і адправілась к пастуху. Падашла і гаворыць:

— Пастух, давай з табою барышы дзелаць!

— Какія?

— Давай памяняемся адзежаю!

Пастух не саглашаўся, но яна яму прыплаціла дзенег і ён ёй аддаў сваю адзежу: жупан, лапці, цясемку, каўпак валены — яна яму аддала сваё плацце. Прышла к старому свайму двару атцоўскаму і нанялася ў свайго атца ў батракі.

— Здрастуйця, гаспада!— Яна збросіла каўпак, каралевіч стаў сваю жану цалаваць, а лысага прыказчыка і яе неміласерднага брата расцярзалі. Уехала ана са сваім мужам у сваё каралеўства і цяпер там жывець.

## 184. ВЕРНАЯ КАРАЛЕВА

Было два каралі, і паднялі яны між сабой вайну. А трэці кароль пайшоў у дапамогу аднаму з іх і заваявалі абодва другое каралеўства. І вось кароль-пераможац кажа да свайго дапаможніка:

— Чым табе адплаціць за тое, што дапамог мне заваяваць каралеўства?

А ў гэтага караля была дачка харошая, а ў яго дапаможніка быў сын Пётр, прыгожы хлопец. Бацькі парашылі ажаніць іх і зрабіць Пятра каралём у заваяваным каралеўстве. І справілі вяселле.

Гэтаму новаму каралю Пятру хутка абвясцілі вайну. Паехаў ён на фронт, і жонка засталася адна. Тады ўлюбіўся ў яе галоўны міністр, а яна яму адмовіла. За тое, што паслала яго к чарцям, ён напісаў Пятру, што каралева стала гуляць. Пётр адпісаў:

— За гэтыя справы пасадзіць яе ў астрог.

Міністр падышоў да каралевы другі раз. Яна зноў не захацела яму ўступіць, і ён пасадзіў яе ў турму. А яна была ад мужа ў цяжары і ў астрозе нарадзіла хлопчыка. Міністр напісаў Пятру, што яна радзіла ад кавалера, і Пётр загадаў:

— Расстраляць яе.

Міністр зноў падышоў да каралевы і стаў пагражаць ёй. Яна і на гэты раз паслала яго к чарцям. Тады ён сказаў катам, каб завялі яе ў лес і забілі. Калі прывялі яе з дзіцём у лес, яна ўмаліла пакінуць іх там. І каты замест іх забілі сабаку і шчаня і прынеслі ў палац сабачыя языкі на блюдзе. Міністр зараз паведаміў караля (паслаў веставога).

— Ваша жонка забіта. Каты прынеслі яе язык на блюдзе.

Тым часам каралева знайшла ў лесе пячору і паклала там дзіця, а сама пайшла збіраць ягады. Калі вярнулася, трэба было карміць малаком, але каралева згаладала, і малака ў яе не было. І вось раптам прыбег да пячоры алень з велькім вымем. Каралева ўзяла камень накшталт чэрапа, падаіла аленя і пакарміла дзіця.

Восенню ў лесе стала холадна. Тады каралева знайшла здохлую казу (ваўкі разарвалі) і апранула дзіця ў шкуру. Але сама яна захварэла ад холаду. Хлопчык тады ўжо гаварыў. Яна дала яму пярсцёнак і браслет, каб гэта яму за дакумент было, а сама памірала. Калі яна захрапла, хлопчык плакаў. Але ў яе дыханне нейк сарвала, і яна стала вылечвацца.

А Пётр перамог на вайне і прыехаў дамоў. Зараз ён зайшоў у пакой, дзе засталося паўшклянкі чаю, што жонка піла. Бачыць ён, што астаўся ад жонкі адзін толькі гэты ўспамінак і засумаваў. Узяло яго за душу, як багатага. Стаў ён з тых пор думаць аб забойстве жонкі, і ніколі яму на душы не разыграецца. А людзі любілі яго: добры ён быў кароль для людзей. І вось яго пачалі развясельваць палкоўнік і генералы, а ён сумаваў.

Аднойчы прыйшоў палкоўнік яго любы і запрапанаваў яму паехаць на паляванне. Палкоўнік кажа:

— Там развесялішся.

На паляванні каралю папаўся на вочы алень. Ён прыціснуў шпорамі каня і пагнаўся за аленем і некалькі стрэлаў даў. І скакаў ён па пушчы з сабакамі па слядах удагон. Гэты алень проста ў пячору ўскочыў і схаваўся з вачэй. Сабакі дабеглі да пячоры і брэшуць — баяцца лезці туды. І Пётр прыскакаў і стаў крычаць. Яго самога страх браў лезці ў пячору (хоць з стрэльбай — усё роўна).

Тады каралева, якая вылечылася ўжо, вылезла з пячоры, а ён падумаў, што паказалася здань і перакрыжаваўся.

— Госпадзі, пусці мяне жывога. Я табе не вінаваты — гэта мой міністр забіў.

Тады яна кажа:

— Пётр, я твая жонка. Я не забіта. Мяне пусцілі жывую, і табе каты аддалі ў знак маёй смерці сабачы язык.

Яна знімае пярсцёнак і дае яму. У караля дух адыйшоў і абняў ён яе, пацалаваліся. Яна запрасіла яго ў пячору і паказала хлопчыка. Ён агледзеў сына, выняў з торбачкі пячэнне, цукеркі, пачаставаў яго. Потым вышаў і затрубіў у трубу, каб з'язджаліся паляўнічыя ў адну кучу. І ўсе з'ехаліся ля гэтай пячоры. Пётр паслаў тады ў горад веставых, каб прырыхтавалі для каралевы і хлопчыка адзенне.

Пакуль веставыя ездзілі па адзенне, яны селі есці і коням авёс засыпалі. Алень разам з хлопычкам вышаў з пячоры і нікуды ад яго не адыходзіў. Каралева казала, каб аленя не чапалі: гэты алень іх кармілец быў.

Хлопчык ніколі не бачыў коней і паляўнічых і пытаецца:

— Мама, чаму ў гэтых людзей і жывёл усё блішчыць? (А гэта золата і срэбра на адзежы і збруі блішчала).

Калі сталі варочацца ў горад, алень з імі пайшоў. І вось прыехалі яны ў палац, і аленя змясцілі ў асобным пакойчыку, але ён доўга не жыў: быў ён сцерзан і памёр. А міністра (аб здрадзе яго Пётр усё ўведаў) расстралялі. І стаў кароль Пётр жыць з каханай жонкай і сынам. Я чуў аб іх, але сам не бачыў.

## 185. КУПЕЦ УВОЗІЦЬ ПРАЧКУ НА КАРАБЛІ (ЯЕ МУЖ І СЫНЫ ШУКАЛІ ЯЕ ДА РАЗБЛУДЗІЛІСЯ ПА РАЗНЫМ ВАСТРАВАМ)

### По случаю прачка з купцом і радня яе сходзяцца ўмесце, купца к расстрэлу прысудзілі

З заграніцы купец прыязджаець к партоваму гораду, пасылаець прыказчыка свайго атыскаць харошую прачку бяллё перамыць.

Прыказчык пайшоў у горад, паказалі яму харошую прачку. Он спугаўся той прачкі: думаў, што ета барыня какая ілі асоба: красавіца із сябе. Прыходзіць апяць назад к купцу і гаворыць:

— Кала мяне пасмяялісь верна: паказалі мне прачку — як прыйшоў пасматрэць на яе, ета не прачка — ета какая ні на есць асоба разадзетая.

І гаворыць хазяін прыказчыку:

— Ты дурак, адчаго ты ёй не сказаў ета? Харошая прачка!

Пайшоў втарой раз за ней і гаворыць, прышомшы, ёй:

— Просіць купец прыціць у карабль, забраць гразнае бяллё, перамыць і павыгладзіць.

Прачка ідзець нямедленна ў карабль. Купец на яе красату і ум улюбіўся ў яе, ана забрала ўсё гразнае бяллё, панесла дамоў, перамыла, перагладзіла і пасылаець свайго мужа:

— Пайдзі ў карабль, скажы купцу, што бяллё гатова! Вот сколька дзенег заработала — прышліце прыказчыкам, бяллё палучыце!

От і гаворыць мужу яе купец:

— Штоба прынесла ў карабль сама прачка!

А када прынесла ў карабль, так начаў перасматрываць бяллё, а рабочым прыказаў, штоба адправіць карабль у пуць.

Рассчыталась прачка за бяллё і гаворыць:

— Благадару, прашчай!

Он ёй атвячаець, купец:

— Куда ж таперыча, што мы ўж далеко очэнь у пуці.

— А што ж мне тапер дзелаць?

— А таперыча будзеш мая, а я буду твой!

Яна атвячаець:

— Как жа мне быць: у мяне астаўся муж і пара сынавей.

— А таперыча не бросісся ў мора — будзеш жыць са мною!

Прыходзіць муж прачкін спрасіць у сваіх мальчышак:

— А гдзе ж маць?

— Панесла ў карабль бяллё.

Он пайшоў на прыстань пасматрэць: уж карабля нету, уж там і след прастыў, і жану ўвёз купец. Тагда он абраціўся апяць у горад, наняў лёгкую шлюпку, забраў сваіх сынавей і адправіўся ўслед за караблём, штоба нагнаць сваю жану.

Аткуда ўзялася свірэпая бура, волны і разбілі шлюпку і разблудзіліся на тры астрава: аћец на адзін остраў і еты па разным астравам.

У скорым урэмені іх нашлі на астравах.

Прачкін муж думаў, што сынаўя яго пазалілісь, а сынаўя думаюць, што ён заліўся, і знайдзены яны па розных местах.

Аћец жа прэдзелілся ў царскім дварцы ў малую должнасць; сынавей знашомшы, аддалі іх у салдаты, і ане друг друга не

знаюць; усё адчаіваюць, думаюць адзін пра другога, што той заліўся, і той заліўся — і ане ўсе жывы.

Чэраз нескалька ўрэмя прыязджаець етыт жа купец к етыму гораду і з жаною, і з прачкаю. Жана ж яго пашла па гораду і адчаіла: думала, што нет ні сыноў, нет ні мужа.

Сайшліся два салдаты і началі между сабой разгаварываць, а прачка ўблізі стаяла і паслышала. Салдаты гаварацъ:

— Здрастуй, зямляк! Какова, зямляк, горада?

— Я такова-та горада.

— Атца ж твайго чым звалі?

— Вот цем-та.

— А мацъ?

— А мацъ вот цем звалі.

— Ах, брацец, і майго атца тым звалі і мацъ — мы з табою брацья!

— А ідзе ж наш аццец?

— А, верна, заліўся!

А мацъ ета паслыша разгавор, ублізі стаямшы, і прышла к ім, начала іх цалуваць:

— Ах вы, мае сыночкі, а гдзе ж вашы аццец, а мой муж?

— Мы тада паехалі ў лёгкай шлюпке вдагонь за вамі.

Купцу далі знаць у карабль, што твая купчыха цалуецца, з салдатамі абнімаецца.

Купец как прыбяжаў, так яе ў вуха ўдарыў:

— Непатрэбная ты жэншчына, смела ты з салдатамі цалувацца і абнімацца?

Сейчас яе прыказаў пасадзіць і прысудзіл яе к расстрэлу. Толькі і гаварыць начальства:

— Прыказана цябе расстраляць.

Ана і гаворыць:

— Дапусціце мяне да цара!— не то, што расстраляць,— тагда хоць па кавалку маё цела парубіць!

Дайшло ета дзела да самаго цара, патрэбаваў на ліцо. Ана расказала, што я нявінна етаму, штоб я чужых салдат цалувала, а ета мае сынаўя, а етат купец не мой муж, он мяне ўвёз нечаянна — абманам — мой муж вот такой-та.

Патрэбаваў купца і атыскаў яе мужа (ён быў пры дварцы) і начаў спрашываць у купца:

— Ета твая жана?

— Мая.

— Ана ж атыскала яе сынавей, каторыя ў салдаты аддадзены.

— Ета ці твае сынаўя?
— Нет.
— Дак как жа ета яе сынаўя, а твае не сынаўя?
Значыць, па ўрэмені, патрабаваў прачкінава мужа і спрашываецъ:
— Твае ета сынаўя?
— Мае, такога-та горада. Как увёз купец жану, мы паплылі ўслед за нею, і свірэпая бура разбрасала нас; мы не верылі адзін аднаму, атчаівалі, што мы пазаліўшы.
Патрэбаваў он ету прачку, спрасіў:
— Твой лі ета муж?
— Мой, сынаўя мае.
Тады на етага купца гаворыць:
— Што ж ты ета здзелаў, што ты разбіў сямейства беззаконна?
Как ты судзіў к расстрэлу называюшчую сваею жаною, но ана не нашлась твая жана, дак вот к етаму прысутствію сам должан палучыць еты суд.

## 186. ЖОНКА І РАЗБОЙНІК

Як было ў ваднаго бацькі тры сыны. Бацька й матка ўмерлі, асталіся дзеці адны. Жылі яны дужа багата. Тады два браты ажаніліся, а трэці, меншы, быў халасты. Большы брат узяў дужа прыгожую жонку. Раз большы брат кажэць:
— Пойдзем мы, братцы, у лыкі ноччы, бо як днём, дык абдзіраюць, а нам гэта будзець дужа стыдна, дык мы луччы пойдзем ночы.
Даў бог смяркание, і пашлі яны. Прышлі к лесу — яшчо віднавата. Дык яны селі ў сасоннічку, каля лесу недалёка. Сядзяць яны, сядзяць, аж ідуць ля іх тры разбойнікі і пытаюцца адзін у ваднаго:
— Куды, братцы, пойдзем?
— А пойдзем мы к таму, у каго дужа жонка прыгожая!
Гэты большы брат, што сядзеў у сасоннічку, як пачуў і кажэць братам:
— Пойдзем мы, братцы, у двор!
А тыя браты кажуць:
— Няўжо ў цябе прыгажэй усіх жонка?
— Не, братцы, пойдзем, прападзі яны і лыкі тыя! Шчэ абкрадуць!

І пашлі ўсе ў двор. Прыходзяць ік двору, аж у іх відна. Палядзяць у вакно, аж два разбойнікі сядзяць з сярэдняга брата з жонкай і піруюць, а старшага разбойніка са старшага брата жонкай няма. Тыя разбойнікі пачулі, што нехта пад вакном ёсць, ды наўцёкі, а большы брат стаў спрашуваць у сярэдняга брата жонкі:

— Дзе мая жонка?

А яна кажэць:

— Пашла ў клець з разбойнікам!

Ён тады пабег у клець, прыходзіць,— аж дзверы запёрты. Стаў ён крычаць, каб яму адпёрлі,— яны не тпіраюць. Ён тады ўзяў тапор і стаў тапаром дзверы ламаць. Разламаў дзверы, улез у клець, і пачалі яны з разбойнікамі біцца. Біліся, біліся, мужык кажа жонцы:

— Памажы мне.

А яна кажэць:

— Што мне табе памагаць? Калі ён цябе здолеець, я яго жонка буду, а калі ты яго — твая буду!

Біліся яны, біліся,— паваліў разбойнік мужыка і стаў ціснуць каленкамі. Мужык кажэць на жонку:

— Дай мне касу, я яго калану.

Жонка зняла касу ды й падаець разбойніку. Тады мужык бачыць, што канец яму будзець, стаў зваць свайго злога сабаку. Сабака той сарваўся з цэпу, прыбег у клець і перакусіў горла разбойніку. Устаў той мужык, увалок разбойніка ў хату, палажыў пад пол. Тады пазваў усіх луччых мужыкоў, пазваў і бацьку й матку жонкіну, пасадзіў усіх за стол, паставіў мёду-віна, разных наедкаў і кажэць:

— Госцейкі вы мае дарагія! Буду я вам гаварыць казку, а хто мне перамяшаець, таму галаву з плеч.

Ну, усе на гэта сагласіліся. От ён тады пачаў расказуваць:

— Як жыў я халастым. І захацелася мне жаніцца. Узяў я дужа прыгожую жонку. Раз я кажу братам: «Браты мае родныя, пойдзем мы ў лес у лыкі!» Прышлі мы к лесу яшчо завідна і селі ў сасоннічку. Чуем — ідуць тры разбойнікі і кажуць: «Пойдзем к тому, у каго жонка прыгожая!» Мне не сядзіцца, павёў я братоў у двор. Прыходзім, аж два разбойнікі сядзяць з сярэдняга брата жонкаю і піруюць, а мае няма. Тыя мае браты пагналі гэтых разбойнікаў, а я ўходжу ў хату і пытаюся, дзе мая жонка. Сярэдняга брата жонка кажэць: «У клеці са старшым разбойнікам». Пашоў я ў клець, а яны запёрліся. Я кажу: «Адчыніце!» Яны не адчыняюць. Я тады ўзяў тапор і стаў сеч дзве-

ры. Разбіў дзверы, улез і стаў з разбойнікам біцца і кажу: «Жонка, памажы мне». А яна кажэць: «А што мне табе памагаць прышлось, калі ён цябе ўб'ець, я яго буду, а калі ты яго, я твая буду!» Біліся мы, біліся, паваліў мяне разбойнік і стаў мяне ціскаць каленкамі. Я кажу: «Жонка, дай мне касу!» А яна ўзяла касу ды і даець разбойніку. Я тады пазваў свайго сабаку. Прыбег сабака і перагрыз горла разбойніку!

Жонка слухала, слухала ды кажэць:

— Няпраўда гэта ўсё!

Ён тады ўзяў ды выцягнуў разбойніка з-пад пала. Ну, прысудзілі мужы зняць ёй галаву. На тым і казцы канец.

## 187. ШАВЕЦ І РЫБАК

Жыў-быў вельмі бедны шавец. Было ў яго пяцера дзяцей і жонка. Адзін раз пайшоў шавец у дарогу, сустрэў ён двух купцоў. Купцы зналі яго беднасць і далі яму сто рублёў. Прышоўшы дадому, шавец купіў хлеба, а другія грошы схаваў у мякіне.

Раз маляр вазіў па сяле гаршкі. Жонка шаўца ўзяла мякіну і аддала маляру за гаршок. Узнаў аб гэтым шавец і доўга плакаў да і пайшоў у дарогу. Сустрэлі шаўца тыя купцы і далі яму сто рублёў. Шавец купіў у горадзе хлеба, мяса, а другія грошы зашыў у шапку, надзеў на галаву да і пайшоў дадому.

Як ішоў шавец дарогаю, воран пачуў мяса і хацеў вырваць із рук шаўца, да замест мяса сарваў шапку і панёс у гняздо. Пагараваў шавец да й пайшоў у дарогу. Сустрэлі яго купцы і далі шаўцу кусок волава. Прынёс шавец волава дадому і кінуў пад лаву, а сам шыў бот. Раз прышоў к шаўцу рыбак і ўгледзеў волава, сказаў:

— Нашто яно табе, аддай яго мне, першую рыбу, што злаўлю, аддам табе.

Шавец сказаў:

— Бяры сабе.

Рыбак узяў. Вот рыбак злавіў рыбу і прынёс шаўцу. У гэтай рыбе шавец нашоў вельмі дарагі каменчык дыямант, за каторы купіў хвальварак і сад. Тады толькі забагацеў шавец.

## 188. ШЧАСЦЕ І БАГАЦЦЕ

Жыў адзін бедны мужычок. Займаўся ён кручаннем вяровак і з гэтага пражыўляў сваю сям'ю. Жыў ён зусім бедна.

Аднойчы ідуць дарогай два паны з горада і гавораць з сабой. Адзін кажа:

— З чаго чалавек жыве — з багацця альбо з шчасця? Вядома, з багацця,— дай грошы бедаку, дык ён разжывецца і будзе ў яго добрае жыццё.

А другі кажа:

— Калі не паслужыць яму шчасце, ніколі не разжывецца.

Першы кажа:

— Давай знойдзем добрага чалавека і дамо яму грошы. Тады пабачым.

Ну, вось яны пайшлі дарогай далей. Па дарозе заходзяць яны ў краму і пытаюць, дзе знайсці беднага і сумленнага чалавека. Крамніца ім кажа:

— Вось у гэтай майстэрні, на дарозе, чалавек уе вяроўкі. Ён бедны і надта сумленны, добры.

Паны зайшлі да гэтага бедака і пытаюць:

— Як ты жывеш?

— Ды вось раблю і не магу зарабіць на пражыванне сваёй сям'і.

Адзін пан кажа:

— Ці хацеў бы ты забагацець?

Бядак кажа:

— Чаму не, але не маю сродкаў да гэтага.

Пан кажа:

— Добра, я табе пазычу дзве тысячы рублёў. Глядзі, каб з гэтых грошай ты забагацеў і хутка аддаў мне доўг.

Ну, і даў яму грошы.

Бядак, узяўшы грошы, падзякаваў і развітаўся з панамі.

Хутка ён сам пайшоў дахаты. З гэтых грошай ён адняў сто рублёў (апошнія схаваў у шапку) і пайшоў праз базар. На базары купіў мяса і купіў канапель на вяроўкі. Вось ідзе ён з базару і трымае кавалак мяса ў руцэ. Раптам на яго наляцела вялікая пташка і кінулася на мяса. Ён, баронячы мяса, ударыў гэтую пташку. Пташка са злосці хваціла шапку з галавы і панерла ўгору. А ў шапцы знаходзілася тысяча дзевяцьсот рублёў.

Прыйшоў бядак дахаты і расказаў жонцы, які быў добры выпадак забагацець і як усё блага выйшла. Паплакаў ён з жонкай разам і зноў пайшоў у майстэрню рабіць вяроўкі.

Праз некалькі дзён гэтыя паны зноў праходзілі каля майстэрні і задумалі адведаць бедака. Прыходзяць да яго і пытаюць:

— Ну, ці ты пабагацеў трохі?

Ён ім і расказаў пра здарэнне, якое зрабілася з ім. Гэты пан, які даваў грошы, не верыць, думае: «Жулік, узяў грошы і ашукаў мяне». Ну, дык што ж, трэба даць яму яшчэ дзве тысячы рублёў, каб пераканацца, што ў грошах шчасце. І пан дае яму яшчэ дзве тысячы і кажа:

— Болей не кладзі ў шапку!

Бядак, узяўшы грошы, пайшоў дахаты і ўжо не ішоў цераз базар. Адняў ён сто рублёў, а апошнія схаваў у гарнушак на гары, а там быў у яго цукар, якім коней кормяць. Грошы ён схаваў пад сноп, а сам, не дачакаўшыся жонкі, якой не было ў хаце, адправіўся на базар купіць канапель.

Варочаецца ён дахаты, а жонка ўжо прыйшла і кажа:

— Я мыла дастала.

— А за што ты яго купляла?

— Гэты гарнушак з цукрам, што стаяў на гары, аддала гандляру, а ён даў мне мыла.

Ён кажа:

— Божа мілы, там жа было тысяча дзевяцьсот рублёў!

І зноў ён астаўся бедаком. І зноў пайшоў працаваць у чужую майстэрню задарма.

Праз месяц гэтыя паны зноў прыходзяць, як жыве былы бядак. А ён зноў у майстэрні вяроўкі круціць.

— Ну, і што,— пытаюць яны,— ты з гэтымі грашмі зрабіў?

— Жонка аддала за кавалак мыла цаган з цукрам, а ў ім было тысяча дзевяцьсот рублёў.

Той першы пан не верыць і кажа да другога пана:

— Жулік, ашукаў, хоча, каб я даў яму яшчэ дзве тысячы. Але я болей не дам.

А другі пан кажа:

— Я табе казаў, што калі шчасця няма — грошы не памогуць.

Гэты другі пан капануў наском бота і знайшоў у пяску кавалак волава. Дае ён волава гэтаму бедаку і кажа:

— Бяры гэтае волава, можа, ты з яго збагацееш, калі табе шчасце паслужыць.

Бядак прыняў кавалак волава і занёс яго дахаты.

Вось за некалькі часу прыйшлі рыбакі лавіць рыбу, а ў іх сеці забракавала цяжаркаў. Рыбак кажа да другога:

— Ідзі ў мястэчка, можа, хто волава мае.

Ён пайшоў, пытаўся ў мястэчку, хто мае волава, але вярнуўся без волава і кажа:

— Няма ні ў каго.

Тады першы рыбак пытаецца:

— Ці быў ты ў вяровачніка?

— Не быў, ён бедны, скуль ён можа мець волава?

Першы рыбак кажа:

— А, можа, у яго ёсць? Ён сумленны чалавек, і калі ў яго ёсць, то дасць.

Ён пайшоў да гэтага бедака-вяровачніка і прынёс волава. Першы рыбак сказаў:

— Цяпер закінем сець і што зловім — гэта аддаю вяровачніку за волава. Клянуся ў гэтым на бога.

Прысягнуў. Вось закінулі рыбакі сець і злавілі ўсяго аднаго шчупака. І аднеслі гэтага шчупака бедаку за волава.

Жонка бедака, разбіраючы шчупака, знайшла ў шчупаку каменьчык-бліскунчык. Яна абцерла яго і паклала на ваконца. Як дзеці ўбачылі гэты каменьчык, узялі яго і сталі адбіраць яго адзін ад другога. Завялі спрэчку. Матка адабрала каменьчык ад дзяцей і паклала яго ў цёмны куток. Каменьчык стаў свяціць. Прыйшоў муж, і яна кажа яму:

— Глядзі, як свеціць каменьчык, які я знайшла ў шчупаку.

Ён кажа:

— Добра, хай ляжыць.

А праз адну хату жыў купец. Жонка купца прыходзіць і пытаецца:

— За што, пані, вашы дзеці спрачаліся ўчора?

— За нейкі каменьчык, які я знайшла ў шчупаку.

— А ну, пані, пакажы каменьчык.

Яна прынесла і паказала. Жонка купца кажа:

— Прадай мне яго. Я дам сто рублёў.

Яна гаворыць:

— Не, без мужа не прадам.

— Дам дзвесце.

— Не прадам.

— Дам трыста.

— Не.

Жонка купца дайшла ўжо да тысячы, а бядачка не аддала каменьчыка. Муж вярнуўся з работы, і яна кажа:

— Слухай, купчыха мне дае за гэты каменьчык тысячу рублёў.

Ён кажа:

— Чакай, не прадавай,— дасць болей.

Нарэшце прыйшоў сам купец. Дае дзве тысячы. Бядак не аддае каменьчыка. З двух тысяч дайшоў купец да дзвесце тысяч. Тады бядак згадзіўся прадаць і кажа:

— Але гэты каменьчык не мой, ён належыць да рыбака.

І панёс бядак каменьчык рыбаку. Рыбак сказаў:

— Не. Я закляўся да бога, што аддам табе цэлага шчупака.

— Але дзвесце тысяч дае купец за каменьчык.

— Добра мне чуць гэта. Дзякуй богу — тваё шчасце.

І вярнуўся бядак дахаты з каменьчыкам. Купец заплаціў яму дзвесце тысяч.

Вось тады, маючы грошы, паставіў ён добрую хату, залажыў сваю фабрыку, засеяў вялікае поле і купіў сад харошы.

Праз год часу гэтыя два паны прыйшлі яго адведаць і ўбачылі, што бядак зрабіўся ўжо вялікім багачом. Паны завялі размову. Першы пан кажа:

— Ён збагацеў за мае грошы.

А другі кажа:

— Ён збагацеў за мой кавалак волава.

Тады пайшлі яны на спацыр у сад былога вяровачніка і ўбачылі на дрэве хлопца гаспадара. Гэты хлопец крычаў:

— Татка, твая шапка ў гняздзе.

Гаспадар кажа:

— Скідай на зямлю!

І ён гаворыць да гэтых паноў.

— Глядзіце, павінны быць у шапцы тысяча дзевяцьсот рублёў.

Паглядзелі і знайшлі.

Потым паехалі яны з гаспадаром у калясцы аглядаць яго фабрыку. А лета было гарачае. Па дарозе яны спыніліся ў карчме і кажуць:

— Мы заплацілі б грошы, каб дастаць цукру для коней.

Карчмарка дастала з гары цаган з цукрам і падала. Новы багач як глянуў, так сказаў:

— Глядзіце, тут павінны быць тысяча дзевяцьсот рублёў.

Паглядзелі і знайшлі гэтыя грошы. Тады другі пан кажа:

— Толькі са шчасця чалавек збагацець можа.

А першы пан ужо не стаў спрачацца — маўчаў.

Гэты вяровачнік да таго збагацеў, што аддаў першаму пану чатыры тысячы рублёў і ў хуткім часе адкупіў за трыста тысяч той каменьчык, што прадаў купцу за дзвесце тысяч рублёў.

# 189. КАРАЛЕЎНА І РАЗБОЙНІКІ

Быў сабе круль з крулёвай, і мелі адну дачку вельмі харошую, і да яе сваталіся дванаццаць кавалераў, а тыя кавалеры былі ўсе разбойнікі. Тыя разбойнікі прасілі, каб калі-небудзь яна да іх прыйшла багата ўбраная. Аднаго разу, без ведама айца, яна сабралася дый пашла па той дарозе, па якой яны ёй наказалі. Ідзе яна дак ідзе лесам, аж у лесе стаіць палац. Вайшла ў той палац, аж у першай хаце стаяць бочкі з кравёй чалавечай, у другой хаце ўсё чалавечыя галавы, ногі, рукі, у трэцяй усё тулубы чалавечыя, у чацвёртай самыя боты і чаравікі, у пятай адзенне суконнае і матэрыі, у шостай і ў сёмай срэбро і брыльянты, а восьмая — тая хата, дзе жылі разбойнікі.

Хадзіла яна, хадзіла па ўсіх пакоях, і як пачула стук — схавалася пад ложко. Сядзіць яна там, аж уходзяць тыя дванаццаць разбойнікаў і прыводзяць з сабою неякую вельмі харошую і багатую панну; узялі яну разабралі дагала, палажылі на калодку і зарэзалі, а после зачалі знімаць пярсцёнкі з рук, і з аднаго пальца ніяк не маглі зняць. Адзін кажа, што аддайце мне гэты пярсцёнак.

— Добра! — казалі ўсе.

Ён узяў сякеру і як рубнуў, дак палец з пярсцёнкам паляцеў пад тое ложко, дзе сядзела кралеўна. Разбойнік палез пад ложко шукаць пярсцёнка, але як было цёмна, то не знайшоў пярсцёнка і адлажыў да заўтра.

Кралеўне аж млосна зрабілася са страху, бо яна чула ўсю іх гутарку. Яны гаварылі, каб як-небудзь звясці кралеўну да сябе ўбраную і после забіць. Доўга гулялі, пілі, елі разбойнікі, а як падышла поўнач, дак усе парасходзіліся: адзін пашоў у лес, другі пашоў на гасцінец, трэці на другі гасцінец, а рэшта парасходзіліська у ўсе стораны. Кралеўна, як яны павыходзілі, вылезла з-пад ложко дый пайшла проста дадому. Прыйшоўшы дадому, яна нічога нікому не казала, што бачыла, і лягла спакойна спаць.

На другі дзень рана расказала кралеўна аб усём свайму бацьку, і ён, канечна, захацеў іх палавіць. Аж таго самага дня прыязджаюць усе тыя разбойнікі на абед да караля. Доўга сядзелі тыя разбойнікі, а после сталі абедаць. Як толькі зачалі есці, кралеўна зачала так расказваць:

— Мне снілася сягодня, што пашла да вас у госці. Ішла я дак ішла той дарогай, якой вы мне наказалі, аж стаіць палац; ухаджу я ў той палац, аж у першай хаце стаяць бочкі з кравёй

чалавечай, у другой хаце галавы, ногі, рукі, у трэцім пакоі тулубы чалавечыя, у чацвёртым пакоі самыя боты і чаравікі, у пятым пакоі адзенне суконнае і матэрыі, у шостым пакоі самае срэбро і брыльянты. А после пачула стук і схавалася пад ложка. Сядзела я там, сядзела, аж уваходзяць дванаццаць мужчын і прывялі з сабою адну вельмі харошую і багатую панну, палажылі яну на калодку і зарэзалі. После пазнімалі пярсцёнкі з рук, але аднаго пярсцёнка ніяк не маглі зняць. Дак адзін разбойнік кажа: «Аддайце мне гэты пярсцёнак, я яго зніму». Яны аддалі той пярсцёнак, і ён адрубаў яго з пальцам, але той палец паляцеў пад тое ложко, дзе я сядзела.

Калі гэта расказвала кралеўна, разбойнікі ўсе пачырванелі і дагадаліся, што кралеўна была ў іх і ўсё бачыла. После кралеўна выняла пярсцёнак з пальцам з кішэні і сказала:

— Гэта, што я гаварыла, мне не снілася, але было праўда!

Тыя разбойнікі, бачучы, што будзе кепска, з-за стала дый у ногі праз окна, але там сядзелі прыгатаваныя людзі, каторыя іх усіх палавілі, павязалі і прывялі да караля. Кароль зараз казаў прыгатаваць жалезныя бораны, усіх дванаццаць разбойнікаў парасцягаць, а кралеўну аддаў замуж за аднаго вялікага кралевіча. Вяселле было гучнае, а па вяселлі паехалі да таго палацу, дзе жылі разбойнікі, і пазабіралі ўсё багацтва і, прыехаўшы назад, далі бал, на каторым і я быў, мёд-піва піў, па барадзе цякло, у роце не было.

## 190. НЕ СІЛА, А СМЕЛАСЦЬ

Была ў адной вёсцы маленькая ростам дзеўка. Мо ў яе й сіла была, як у камара. Смяяліся з яе дзяўчаты. Кажуць, што хлопец дзьмухне, дак яна й паляціць, бы пух. Але яна была вельмі смелая, што нічога і нікога не баялася.

— Чаго я буду баяцца,— часам шуткуе яна,— богу не трэба, а ліхі не возьме, бо і ён на мяне не пазарыцца: ведама, тая, што ад ветру хістае.

Толькі ось кажуць дзеўкі, што яна не такая смелая, як гаворыць, бо поўначы пабаіцца адна схадзіць на могліцы. Спрачаецца яна, што сходзіць, але тыя кажуць, што не даюць веры. Злосць узяла тую дзеўку, а яна хоць была маленькая, да злосці поўныя косці.

— Ото ж пайду,— кажа яна.

— Гэта ты пойдзеш, бо вельмі ўпартая, а ў самой душа ў пяткі схаваецца, як убачыш пень,— смяюцца дзеўкі.

— Ото ж пайду,— піснула яна, тупнула, бы каза нагою, да й пабегла на могліцы, бяжыць і не азіраецца. Падбегла к могліцам, супынілася да й пашла ціха, а каб не было страшна, запела песню, ідзе да пае. Тым часам зладзеі абакралі пана да й носяць тое дабро каля каплічкі на воз. Пачулі яны песню, спужаліся людзей да й пабеглі ў лес. Падходзіць яна к каплічцы да й бачыць, што там стаяць запрэжаныя коні. Запытала яна, хто гэта, але ніхто не абзываецца. Памацала яна на возе, аж там многа ўсялякага дабра. От яна адвязала коней, села на воз да й паехала да гасподы. Пагналіся зладзеі за тою дзеўкаю, але не маглі дагнаць, толькі пацікавалі, куды яна паехала. Вярнула яна пану коней і ўсё дабро, дак той даў ёй гасцінца — многа грошай.

Жыве тая дзеўка да спажывае панскія грошы, а дзеўкі толькі аблізваюцца да завідуюць ёй. Шкода зладзеям таго дабра, але яшчэ гарэй сорам ім, што такая невялічкая дзеўка не пабаялася, а яны разбегліся ад яе, бы зайцы. От і надумалі яны замсціцца. Па немалым часе прыходзіць адзін злодзей к ёй у сваты. Яна не згаджаецца, пакуль не пабачыць, як ён жыве. А таму тое толькі і трэ. От і сказаў злодзей ёй, як яго знайсці. От і збіраецца яна ехаць к таму злодзею. Матка давай адгаворваць да не пушчаць. Куды там, дзеўка стаіць на сваём. Няма чаго рабіць з упартаю дачкою — прэцца, бы свіння ў вагарод. От запрагла яна сваю паршывую кабылку, села да й паехала цераз поле. От пад'язджае яна к лету, бачыць збоку — паваратка, а каля яе на кусце закручана кукла. Думае яна, што гэта зладзеі зрабілі прыкмету, каб не заблудзіць. Звярнула яна на паваротку да й паехала лесам. Праехала мо вярстоў пяць з хвастом да ўсё варочае на павараткі, дзе е прыкметы. Пад'ехала к балотцу, аж і кончылася дарожка да пайшоў такі густы лес, што й носа не ўбіць. Прывязала яна к бярэзіне сваю кабылку да й палезла ў той лес у самую гушчэчу. Разгортвае яна аберучкі калючыя веткі да ціхенька лезе праз гушчарню. Пралезла яна мо з гоны, аж там прасвечваецца якаясь хатка. Падкралася яна к той хатцы, аж бачыць, што там зладзеяў цэлая шайка. Яны дзеляць паміж сабою накрадзенае, а мо й награбленае дабро. Дзеляць да лаюцца, крычаць, б'юцца, чуць не нажамі пыраюць адзін другога. Зірнула яна, аж тут і яе жаніх.

— Мабыць, ён большы,— думае яна,— бо стаіць, размахвае вялізазным нажом да разнімае другіх.

Выглядзела яна, што там робіцца, прытаілася ў кусце да й чакае, пакуль яны супакояцца. Але ось старшы і кажа:

— Сонца нізка, вечар блізка. Хлопцы, за дзела, пакуль не сцямнела. Час да касцёла нам памаліцца. Заўтра дзяліцца з ранку мы будзем, як грошай дабудзем.

Толькі ён гэта прамовіў, як усе зладзеі хуценька забралі свае рэчы, нажэндзе да й пайшлі ў гушчэчу. Дагадалася яна, што зладзеі пашлі, каб ноччу абакрасці касцёл. Пачакала яна трохі, вылезла з куста, зайшла ў тую хатку, аж там поўна крадзенага дабра. Кінула яна тую хатку, выскачыла на двор да й хацела хутчэй бегці да свае кабылкі, каб не спазніцца перасцерагці ксяндза, што зладзеі хочуць абакрасці касцёл. Кінулася яна ў кусты да й не зацяміла, што паляначка заценена веткамі да імхом. Толькі яна ступіла на мох, як і шабоўсь у яму да такую глыбокую, што ў ёй саўсім цёмна. Папробавала вылезці, дак няможна, бо сцены гладкія. Пачала яна мацаць, што там на дне, аж гэта ляжаць забітыя людзі. Схапіла яна аднаго да другога, адкуль і сіла ўзялася, да давай іх складваць у кучу каля сцяны, наверх яшчэ пасадзіла аднаго, а сама стала яму на плечы да й схапілася рукамі за веткі. Але ветка абламалася, і тая дзяўчына грыманулася на мерцвякоў. Але як яна зачапіла веткі, дак зверху ўпаў у яму моцны сук. Схапіла яна той сук, стала на мерцвяца да давай карпаць зямлю да забіваць у пясок той сук, забіла яго ў сцену, памацавала. «Вытрымае»,— думае сабе, стала на сук нагою да й схапілася аберучкі за край. От вылезла яна з тае ямы, азірнулася да й пашла аберучкі расхіляць густыя веткі да лезці праз тую нетру. Плішчылася яна, плішчылася да й заблудзілася ў гушчэчы. Яна туды, яна сюды, няма кабылкі да й шабаш. Бегае, рукі ломіць, чуць не плача, што не можа перасцерагці, каб зладзеі не абакралі касцёл. От выбегла яна на паляначку, а тут тыц ёй насустрак два ваўкі да такія здаравенныя, от бы падцёлкі. Сталі яны да толькі зубамі ляскаюць.

«Ну,— думае яна,— з'елі яны маю кабылку».

Узяла гэта яе злосць, кінулася яна з голымі рукамі на тых ваўкоў, от тыя й спалохаліся смеласці да й сунулі ў лес. Ідзе яна далей; а тут ужо й сонейка зайшло, стала цямнець; птушкі заціхлі, толькі пугач крычыць сваё пу-гу! да сава падлятае к ёй на сваіх мягкіх крылах, чуць не садзіцца на галаву, а як адляціць да пачне выгукоўваць, да пачне плакаць, бы малое дзіця, дак аж пошчак ідзе па лесу. Толькі ось зірнула яна ўбок, аж на яе кабылцы едзе якісь чалавек. Прыглядаецца яна, аж гэта сусед маскаль. Хадзіў ён у лесе з сякераю, ці не трапіцца знадоб-

ная дзераўляка, натрапіў на кабылку да давай гукаць, зваць гаспадара, але не дагукаўся, бо, ведама, у лесе ад ветру шуміць і нічога не чуваць. «Мабыць, зладзеі,— думае маскаль,— укралі кабылку суседа з драбінкамі да й схавалі яе ў лесе».

От ён адвязаў кабылку, сеў на драбінкі да й папхаўся да гасподы. Зірнуў ён, што з лесу акурат ідзе яму наперарэз якаясь пачвера, і прышло яму ў галаву, што гэта, мабыць, русалка ці якая мара. Ён па кабылцы, а дзеўка бяжыць наперарэз да крычыць:

— Дзядзька маскаль, дзядзька маскаль, пастой! Гэта ж мая кабылка!

Бачыць маскаль, што яму на кабылцы нельга ўцячы ад гэстае мары, саскочыў ён з воза, схапіў сваю сякеру да давай бог ногі, так сунуў, што толькі пяты замітусіліся. Села дзяўчына на воз да й заве суседа к сабе.

— Дзядзька маскаль, гэта ж я, хіба ж ты мяне не пазнаў.

Азірнуўся ён, перахрысціўся да й пытае:

— Калі гэта ты, дак чаму ў цябе косы распушчаны, бы ў русалкі.

Тут толькі дзяўчына агледзелася, што ў яе ў гушчэчы звярнула хустку, да й распусціла косы.

— Не лякайся,— кажа яна,— бачыш, я перахрысцілася.

Тады толькі ён паверыў да й падышоў к ёй. Сеў ён на воз да й паехалі яны хутчэй к таму касцёлу. Пакуль яны даехалі, дак ужо пэўна была самая глупасць. Падышла дзеўка к касцёлу, аж зладзеі адчынілі дзверы да й шастаюць там. Зачыніла гэта яна дзверы да й калом падперла, а зладзеі там засталіся да й вылезці не могуць. Збегліся людзі, палавілі іх да й забілі ў калодкі. На другі дзень павяла дзяўчына людзей у лес да й паказала, што там навычваралі гэтыя зладзеі.

Дак праўду кажуць, што бярэ не сіла, а смеласць.

## 191. ХАРАСТВО — СІЛА

У неякум царстве, у неякум гасударстве колісь жыў адзін цар і задумаў ён жаніцца. От сабралі к яму самых гожых дзевак са ўсяго царства на пагляд. Аглядаў, аглядаў цар тых дзевак, але ніякая яму не спадабалася. Князі да міністры не ведалі, што рабіць, і давай яны шукаць гожых дзевак у чужых краёх. Назбіралася к цару самых гожых дзевак са ўсяго свету цьмацьмушчая, але ніякая яму не спадабалася.

— Няма,— кажа ён,— такое гожае дзеўкі, каб яна была мне па сэрцу, дак я сам пашукаю.

От пераадзеўся ён папросту да й пайшоў у свет паглядаць сабе дзеўку. Хадзіў, хадзіў, але ўсюды так многа гожых дзевак, што ніяк ён не можа выбраць, якая ад іх харашэйшая. Нарэшце, плюнуў ён на хараство да давай выбіраць сабе такую жонку, каб яна лепш ўсіх умела рабіць дзела.

«От,— думае сабе,— каб мне знайсці такую, каб яна з саломы да з сена прала залатыя да едвабныя ніткі».

Давай ён распытоўваць у баб, але тыя кажуць, што дзеўкі вельмі гожа прадуць лён, гожа ткуць палотна да рушнікі, гожа нашываюць сабе ўсялякія цацкі на сарочках да хвартухох, толькі такіх, каб яны пралі салому да сена, тутачкі не чуваць. Дачулася аб тым адна бедная ўдава да й запрасіла цара к сабе. А ў яе была вельмі гожая дзеўка, ды такая гультайка, што нічога не хацела рабіць, затым яе ніхто не хацеў браць замуж. Ведама, у хаджайстве няма чаго пазіраць на хараство, а трэ дзела рабіць. От улез цар у хату, а дзеўка агінаецца, бы сабака, да толькі папраўляе сабе косы. От матка і крычыць на яе:

— Чаму ты не прадзеш?

— Няма кудзелі,— адказвае яна да й пабегла з хаты гуляць з дзеўкамі на загумеччы.

— Ото ж бяда,— жаліцца тая ўдава цару,— дзеўка папрала ўсе кудзелі, папрала ўсю салому да сена, цяпер хіба трэ зрываць апошнюю салому з хаты.

Пачуў тое цар да й узяў тую дзеўку к сабе ў палацы. Тут ён прыставіў к ёй тры старыя бабы, каб яны даглядалі, як тая дзеўка прадзе салому да сена. Бачаць бабы, што простая мужычка будзе царыцаю да давай ёй памагаць. От дасталі яны самага лепшага кужалю да й напралі шмат такіх нітак, што мо танеи воласу. Пагдядзеў цар на тую работу да й ўзяў тую дзеўку. Жыве сабе яна царыцаю, нічога не робіць да толькі камендуе, камендуе князямі ды міністрамі, а больш усяго царом. А тым старым, зморшчаным бабам у царыцы такая жытка, што і паміраць не трэ. От раз цар і пытае царыцу, чаму яна не прадзе. А царыца адказвае:

— А хіба ж ты хочаш, каб твая жонка, твая царыца да была такая зморшчаная, як ось гэстыя бабы, што пралі ўсю жытку.

Зірнуў цар да й кажа:

— Няхай будзе па-твойму, бо, мабыць, на свеце хараство — сіла.

# 192. ДЗЯЎЧЫНА

Гэта толькі цяпер так народу намножылася, што як толькі іх зямля паднімае. А даўней людзей было мала, а зямлі колькі хочаш. Зямлю мала абраблялі, а больш жывіліся людзі каля лесу. Лясы былі такія, што й канца ім не было. Людзі сяліліся дзе-нідзе каля рэк да на ўзгорачках, расчышчалі кала хатак трохі зямельку да карпалі яе як-небудзь. А кругом шумеў божы гай да стаяў з веку такі густы да цёмны, што й носа не ваб'еш. Людзі хадзілі ў лес шукаць слепата да забіраць салодзенькі мядок. Ідзе чалавек у лес да ўсё залысвае дзераўлякі ці заўязвае куклы, каб зрабіць прыкмету, кудою вярнуцца назад, бо без прыкметы ў такой нетры адразу заблудзіш і прападзеш у лесе не за панюх табакі. Адны толькі разбойнікі не баяліся цёмнага леса, але й тыя больш рабілі сабе курані ці буданы дзе-небудзь недалёка ад вёскі.

Яшчэ я быў падшпаркам гэтак гадоў можа дзесяці. От раз мы пасцілі гаўяда. Грыбоў было вельмі шмат, дак гаўяда й разбеглася па лесе. Бегалі мы, бегалі да й загубілі цяліцу. Пабеглі гэта мы, шукаючы цяліцу, цераз балотца на астравок да як пралезлі праз густы ельнік, дак і бачым, аж там стаіць маленькая хатка, а больш нічога. Улезлі мы ў хатку, аж там нікога няма, толькі бачна, што там хтось жыў. Спалохаліся мы да наўцекача. Расказалі мы большым, от тыя агледзелі да й кажуць, што там жылі разбойнікі, але мабыць іх палавілі ці дзе загіблі ўжо даўно, бо страва ў гаршках зацвіла, а каля парога зарасло зеллем. Тагды яшчэ быў у жыццю мой дзед. От і прычапіліся мы к яму, каб ён расказаў нам пра разбойнікаў. Мой дзед вельмі добра расказваў казкі, толькі не любіў, калі яго не слухаюць. Бало пачне ён расказваць, а як толькі хто загаворыць або ўстане закурыць люльку, дак і кіне расказваць. Дак от які быў мой дзед. Эге ж. Дак от прычапіліся мы к дзеду, каб ён расказаў нам пра разбойнікаў. Перш не хацеў дзед расказваць нам — падшпаркам, думаў, што мы, ведамо, дзеці, не будам слухаць, але як мы забажылсія да закляліся, што будам слухаць, дак ён згадзіўся, закурыў люльку, да й пачаў расказваць. Гаварыў ён павольна, скажа два — тры словы, сплюне да й зноў скажа колькі слоў, пакуль закашляе. Дзед кашляе, а мы сядзімо і не варухнёмся, а ўсё слухаем — так ён цікава расказваў. Я так не ўмею да й забыўся, бо тое было вельмі даўно. Бачыце, я ўжо зрабіўся сівы, а тагды от гэ бы й вы лазіў на дзераўлякі да спорваў кубельца. Птушачкі

пішчаць, б'юцца пад ногі, а мы, паганыя хлопцы, ловім да мучым бедных птушанятак. Дак от слухайце да не мяшайце, то я мо й успамяну да й раскажу вам адно здарэнне, якое было тут недалёка. Дзед нават казаў, дзе тое было, але я забыўся. От з галавы выскачыла да й толькі. Але ўсё раўно.

Тут недалёка пасярод пушчы была маленькая ўёска, гэтак мо дамоў пяць ці шэсць. Жылі сабе там людзі, на лес гледзячы, ніхто іх не чапаў, ніхто ім ніякае бяды не рабіў, бо мо кругом на сарачню або копу вярстоў не было ні ўёскі, ні жоднае сялібы. Жылі там людзі вольна, як птушкі. Толькі ось раз пабеглі хлапчукі ў гушчэчу да й падгледзелі, што там хаваюцца разбойнікі. Сказалі яны аб том бацьком. Тыя давай сачыць і дазналіся, што гэта там жывуць ліхія людзі. Падгледзелі яны, што тыя ліхія людзі нічога не робяць, не гадуюць і гаўяда, а ўсё маюць, бо ці крадуць у людзей, ці грабяць у дварох да на дарогах. От і думаюць сабе тыя людзі: «Трэ даць гасла панам да начаству». Тым часам разбойнікі закмецілі, што людзі з вёскі высачылі іх, але смела жывуць там на месцы, бо думаюць, што людзі не зробяць ім шкоды, бо няма за што рабіць ліха, калі яны ніколі ў вёсцы не рабілі нічога кепскага. Але зрабілі памылку, бо людзі заўжды робяць ліха другому ні за што, а так сабе. Жывуць разбойнікі ціха і не чакаюць ліха. А тут паны да начаства сагналі людзей са ўсяе акругі, прыгналі маскалёў да казакоў. Акружылі тыя ўвесь оступ да давай калаціць. Бачаць разбойнікі, што хочуць іх палавіць, от яны й схаваліся ў зямлянку да там і сядзяць ціхенька, бацца іх і няма. Бегаюць маскалі да казакі па ўсяму лесу, поруцца ў кустох, а ў лом да каладзь, дзе была зямлянка, і не паглядзелі. Перапаролі яны немаль увесь лес — няма разбойнікаў, бацца яны ў зямлю праваліліся ці схаваліся ў ваду. А яны вылезлі сабе з зямлянкі да пазіраюць праз лом, пазіраюць да матаюць на вус, што маскалёў да казакоў водзяць па лесу тыя людзі, што жывуць у маленькай вёсцы.

«Пагадзіце ж , хварэць вашай матары,— думаюць разбойнікі,— мы ж вам адрыгнёмся, няхай толькі пойдуць адсюль маскалі да казакі».

Так і было. Пахадзілі, пахадзілі маскалі да казакі дармо па лесе, палазілі па гушчэчы да й пашлі сабе далей, куды ім трэ. Абслухаліся разбойнікі, вылезлі з зямлянкі да й кінуліся на ўёску. Яшчэ мо маскалі да казакі адышліся вярстоў пяць або шэсць, як разбойнікі спалілі тую ўёску, а людзей усіх перабілі, апрыч малое дзевачкі, што тады ў лесе пасціла гаўяда. Варочаюцца разбойнікі к сабе ў лес да й сустракаюць тую дзевачку.

А яна была хоць і малая, але такая гожая, што от глядзеў бы заўжды да й не нагледзішся. Ідуць разбойнікі к ёй, а яна сядзіць сабе на пяньку, пляце вянок з кветак да пае песні. Яна пае, а гаўяда вушы развесіла, слухае, стаіць бы ўкопанае. Нават птушкі пазляталіся, сядзяць кругом на дзераве да слухаюць, як пае дзяўчына. Паслухалі разбойнікі да й не магуць варухнуцца, бацццэ яна закалдавала іх сваёю песняю. Замоўкла дзяўчына да й пачала гнаць гаўяда дамоў. Пагнала яна гаўяда, а разбойнікі ідуць за ёю, бо не магуць ад яе атарваць ачоў. Прыгнала яна гаўяда на тое месца, дзе была ўёска, да толькі спляснула рукамі. Няма ўёскі, толькі яшчэ дагараюць галавешкі. Падышла яна туды, дзе была хатка, аж там валяюцца забітыя бацька з маткаю. Пачала яна плакаць да ўбівацца. Плача яна да прычытае:

— Ой, матачка ж мая зязюлечка, на каго ж ты мяне пакінула? Ці ж цябе звер задраў, ці цябе ліхі чалавек забіў? Ой, бацюхнародненькі, саколе мой ясны, чаму ж ты маўчыш, нічога не адмаўляеш, мяне, сірату, не прыгалубіш? На каго ж ты мяне пакінуў без ладу, без спосабу? Ой, матачка родненькая, хто ж мне галоўку памые, хто ж мне кудзеркі расчэша, хто ж мне коску запляце?..

Так плакала да прычытала тая дзевачка, а разбойнікі стаялі да слухалі. І мо першы раз закалола ім у сэрца, мо першы раз пакаяліся яны, што пабілі тых людзей. Выплакалася дзяўчына да бацццэ акамянела, сядзіць кала халоднае маткі да пазірае, бы непрытомная.

От разбойнікі пахавалі тых людзей, забралі дзяўчыну, занялі гаўяда да й пагналі ў лес. Доўга прадзіраліся яны праз гушчэчу, нарэшце атаўбаваліся на прагаліне, дзе ў іх была другая хатка. Тут яны паслалі пасцель да й палажылі тую дзевачку спаць, а самі селі ціхенька кала хаткі да так моўчкі і прасядзелі цалюсенькую ноч. Прахапілася дзевачка, азірнулася да як успамянула пра матку да бацьку, так і зноў давай плакаць да прычытаць. Але як яна ні плакала, як ні ўбівалася, мусіла прывыкаць к жыцці ў разбойнікаў. А разбойнікі з тых часоў саўсім перамяніліся. Годзі яны красці да разбіваць. Давай яны лавіць звярыну да рыбу, давай пасці да даглядаць тое гаўяда. Нарэшце, пачалі яны рабіць будоўлю да, як умелі, карпаць зямлю, каб зарабіць сабе хлеб. Расце тая дзяўчына да ўсё харашэе і стала яна такая гожая, што мо такое няма на ўсім свеце. Слухаюць яе ўсе разбойнікі, робяць усё, што яна скажа, робяць затым, што не могуць не рабіць, не могуць не слухаць яе. От здаецца, каб яна сказала лезці ў агонь, то б і ў агні было ім не горача, а так добра,

як у раю. Толькі не доўга мелі разбойнікі такое шчасце, каб пазіраць на тую дзяўчыну.

Раз пайшла яна ў лес да й не вярнулася. Як ні шукалі разбойнікі, не маглі яе знайсці. Бацэ зайшло ім сонейка і сталі яны хадзіць не ўдзень, а ўночы, так ім маркотна было без дзяўчыны. А яна тым часам выйшла к рацэ. Там людзі лавілі рыбу да як убачылі такую гожую дзяўчыну, дак забылі ўсё на свеце, толькі пазіраюць на яе. І здаецца ім, што варта мучыцца ўвесь век, каб толькі хоць раз зірнуць у тыя вочкі, што бы сонейка паляць сэрца, паляць, шчыпаюць, але такі даюць слодыч, якога больш няма на свеце. Пазірае дзяўчына, а людзям здаецца, што на свеце ўсё так гожа, так радасна свеціць сонейка, так добра жыць, што лепшага нічога і не трэ. От пакінулі рыбакі сваё нажэндзе, пасадзілі дзяўчыну ў човен да й павезлі яе ў вёску. Зірнулі людзі на дзяўчыну да й дзякуюць богу, што прывёў іх хоць раз ў жыццю пазнаць слодыч шчасця, пазнаць, што на свеце ўсяго мілей нябескі погляд гожае дзяўчыны. Дачуўся царэвіч, што такая гожая дзяўчына, прыехаў туды, узяў яе к бацьку да матцы, каб там зрабіць лад. Але дзяўчына дарогаю заняпала да й памерла. Налажылі тады жалобу на ўсё царства. Прайшло многа часу, а такой дзяўчыны больш няма, бо, мабыць, нябескі погляд дзяўчыны бог судзіў бачыць толькі адзін раз у жыццю.

## 193. ВОЎЧАЕ КОТЛА

Лес — божы гай. Бог даў яго людзям на патрэбу. Даўней ніхто табе не бараніў, хадзі па ўсёй пушчы да й карыстай усім, што табе люба. І людзі карысталі: лавілі ўсялякага звера, бралі ў дупленатых дзераўляках ад слепата мёд і воск, наглядалі да seклі сабе здатнае дзерава, пасцілі гаўяда да выраблялі сенажаці ці выпальвалі да расчышчалі лес на поле. Кожын абрабляў зямлю, дзе хацеў. Бо людзі божыя і зямля божыя. Зямлю бог аддаў людзям, каб яны працавалі да зараблялі сабе жыўнасць. А, ведама, дзе больш жыўнасці, як не ў лесе. Тут табе грыбы й ягады, вясною птушкі нанясуць яец, хоць ты ў кош грабі, а ўсялякае жыўёлы так багацька, што хоць у хлеў заганяй, не трэ ні пасці, ні карміць, а толькі лаві ці страляй. Добра тагды жылося людзям, покі не прыйшлі варагі да не забралі землю сабе. Яны не то што зямлю да лес, але й балота да ўсялякую нетру захапілі, памералі да панасыпалі капцы. Куды ні сунься, то мяжа, усё,

кажуць, чужое. А дзе ж наша? Хіба ж мы не божыя людзі, што нам бог не даў зямелькі? Прашкі, бог даў зямлю і лес на ўсіх долю. Але што ты зробіш. Усюды пастаўлялі стражнікаў, яны табе й дыхаць не даюць.

Ось быў адзін стражнік. Дасць бог свята. Ведама, у свята святое і дзела. Пойдуць нашы бабы ў лес па грыбы ці рваць ягады дак ось адкуль ні возьмецца той стражнік да не то што адбярэ грыбы ці ягады, але і хусткі паздзірае, яшчэ наздзекуецца. Ужо не раз збіраліся нашы дзецюкі адсадзіць яму печанцы, да ніякім правам не могуць яго злавіць, бо ён, злодзей, вельмі хітры. Перш ён жыў адзін. Людзі думалі, што затым ён такі паганы, што адзін, але ашукаліся, бо ён як ажаніўся, дак стаў яшчэ гарэй. Але то кажы, і жонку сабе падабраў такую ж ліхую, як і сам. Напладзілі яны дзяцей. Усе хлопцы бы разбойнікі, толькі адна дзяўчына, да й тая самая меншая. Хутка яны выраслі, на лес гледзячы, да так пайшлі вычвараць, што няможна й людзям сказаць, проста воўчае котла да й годзі. А грэх казаць, здатныя былі хлопцы, але здатныя на ўсё ліхое. Яшчэ бацька здароў, як дуб, адзін мажэ ўправіцца, а чаго ім усім стражнікаваць?

І пайшоў адзін сын стражніка ў свет шукаць сабе шчасця, зайшоў ён дзесь у вялікае месца да й наняўся служыць у багатага купца. Паслужыў ён там мо колька гадоў і нажыў грошай мо больш, як у купца, да й пачаў сам таргаваць. Натаргаваў ён многа грошай да й пачаў скупаць у паноў лес. Купіць пушчу, спляжыць дзерава, загоніць яго да Кралеўца, прадасць там, заробіць многа грошай да й зноў купуе другую пушчу. От купіў ён і тую пушчу, дзе бацька стражнікаваў. Прыехаў ён туды да й атубаваўся ў бацькоў, нібы то купец, але не сказаў ім, хто ён такі. Яму хацелася пабачыць, як жывуць бацькі да браты да як памінаюць аб ём. От жыве ён у бацькоў, баццэ чужаніца да прыглядаецца і прыслухоўваецца. Пражыў ён так мо нядзелю або дзве. Не пазналі яны, што гэта сын, бо думалі што той ужо даўно загіб ці згніў у астрозе; яны добра ведалі, які ён быў раскол да злодзей. Толькі пазнала яго адна вясковая дзеўка. Ён калісь вельмі каля яе ўвіваўся. Мабыць, моцна яе кахаў і нават хацеў ажаніцца, але бацькі не пазволілі браццa з мужычкаю. Яна потым служыла ў двары пакаёўкаю да там і бачыла ў пана таго купца. Ці пазнаў ён яе, ці не, а мо й пазнаў, да не хацеў прызнавацца, бо, ведама, разбагацеў, дак куды там яму мужычка, хоць яна й пакаёўка. Ён ужо на паненак пазірае. Там жа ў двары служыла і дачка стражніка. От тая дзеўка і шапнула ёй, што ў яе бацька жыве не хто другі, а яе большы брат.

Тым часам стражнік намовіўся з жонкаю да з сынамі забіць багатага купца да забраць яго грошы. От выдаўся такі ліхі дзень, што, як кажуць людзі, нават сабаку не выганеш з хаты, такая там кудаса. Цалюсенькі дзень круціць да мяце кудаса, што й свету божага не відаць, а к ночы захадзілася яшчэ гарэй, бацца вялікі грэшнік засіліўся. От яшчэ змрокам у стражніка павячэралі да й палеглі спаць. Раве бура ў коміне да свішча за вугламі. Штось не спіць малады купец да ўсё варочаецца на лаве. Потым ён задрамаў. Толькі стражнік закмеў, што купец спіць, узяў сякеру да й секануў яго аберучкі, але ў поцемку не папаў, а толькі ўдарыў тапарышчам. Прахапіўся купец, забыў спрасоння, дзе ён, да думаў, што на яго напалі разбойнікі, выхапіў ён з-пад галавы нямецкі пісталет да давай паліць. Тым часам матка кінулася на яго з нажом да й усадзіла ў горла. Страляе ён куды папала, а тут на яго накінуліся бацькі і браты да й рэжуць у пацёмках адзін другога. Тым часам як пачула ад пакаёўкі стражніка дачка, што дома яе брат, а не чужы купец, дак насілу дачакалася вечара, не паглядзела і на ліхое надвор'е да хутчэй пабегла к бацькам, бацца прачувала тое ліха. Прыбягае яна пад хату, зірне ў акно, аж цёмна. Пачала яна стукаць у дзверы — ніхто не адчыняе. Абмацала гэта яна ў страсе ключ да й адсунула засаўку. Убегла ў хату да й спаткнулася ў пацёмках на матку, бо тая ляжала кала самага парога. Звала, звала дзяўчына, але ніхто не абзываецца. Спалохалася яна да давай дзьмухаць агонь. Уздула яна лучыну да як зірне, аж уся хата й плавае ў крыві. Памацала яна, аж бацька, матка і ўсе браты яшчэ цёплыя, але ляжаць покатам доле, толькі купец не зваліўся з лавы да так і ляжыць, адкінуўшы голаў, а ў горле тырчыць канчаты нож, каторым матка крышыла буракі. Кінулася яна з хаты на ўёску зваць людзей. Сышліся людзі, паглядзелі да й кажуць:

— Ото ж воўчае котла, такая яму й смерць.

## 194. ЯК РОДНЫ СЫН БАЦЬКУ ЗАГУБІЎ

Ішоў адзін хлопец з маскалёў дай зайшоў да карчмы нанач. Ну, добра, лёг ён спаць, анно ж апоўначы чуе нештась гракацець пачало, так узяўшы шаблю і стаў пры дзвярах.

Анно ж, ай ліха! Ідзе дванаццаць разбойнікаў. Падышлі, а той, што наперадзе ішоў, узяўшы руку, высадзіў праз дзверы, так ён, не доўга ждучы, шах! — і адцяў. Той як закрычаў, як ні панясуцца ўсе дай паўцякалі.

Анно ж уходзіць шынкар дай пытае:

— Што гэта?

— Ля, абач! — і падае яму тую руку. Калі пагдядзяць, анно ж на адным пальцы пярсцёнак і на ём яго бацька імянныя літары! Так шынкар кажа:

— Пажджы ж! — і, узяўшы людзей, пайшоў да яго хаты. Прыходзяць, анно ж ён сядзіць за печчу і стогне, а сястра таго хлопца, згарнуўшыся, плача. Так шынкар пытае:

— Чаго ваш бацько гэтак енчыць?

— А, — кажа, — хадзіў на паляванне і звер руку адкусіў.

— Звер, — кажаш, — а гэта чый пярсцёнак?

Так яна і струпянела.

Тады шынкар з людзьмі вывалаклі старога з-за печы, звязалі, завезлі да места, ён перад судом выказаў усіх, так то іх на жалезныя бораны расцягнулі, а таго хлопца наградзілі.

## 195. КУЗЬМА САРАЧЫНСКІ

Быў моцны багатыр Кузьма. Аднаго разу села яму на калені семдзесят камароў і тры авадні. Ён забіў іх адным махам і палічыў.

— Адным махам семдзесят салдат і трох багатыроў забівахам, — сказаў ён і напісаў гэта на табліцы на скрыжаванні дарог. І лёг ён спаць.

Ехаў у гэты час сапраўдны волат. Спыніўся волат на скрыжаванні дарог, глядзіць на табліцу і думае: «Я моцны, а гэта мацнейшы за мяне, — за адзін мах столькі забіў!»

І стаў волат чакаць, пакуль Кузьма прачнецца. І прачакаў да раніцы. Калі раніцай Кузьма прачнуўся, глянулі яны адзін на другога і сталі заводзіць сяброўства. Волат палічыў Кузьму мацнейшым за сябе і кажа:

— Едзьма да мяне.

— Добра! — адказвае Кузьма.

Паехалі.

Прыязджаюць яны туды, дзе пасвіўся статак гэтага волата. Захацелі яны есці і расклалі агонь. Пасылае волат Кузьму па дровы:

— Пайдзі вырві дуб і прысунь на агонь.

А Кузьма пайшоў у лес, надраў лыка і звязвае ўсе дубы. Волат чакае, а Кузьмы няма. Пайшоў волат у лес. Глядзіць — яго сябра звязвае ўсе дубы.

— Што ты робіш, Кузьма Сарачынскі? — пытае волат.

Кузьма кажа:

— А што я буду кожны раз за дровамі хадзіць? Я ўсе дубы зараз прынясу.

Волат гаворыць:

— Ды нашто нам? Хопіць аднаго.

І вырваў волат дуб і панёс на агонь. Кузьма Сарачынскі ідзе ззаду і пасвіствае.

Калі прыйшлі яны да агню, паслаў волат Кузьму ў свой статак:

— Пайдзі, Кузьма Сарачынскі, вазьмі быка і страхні яго так, каб вылыгнуў ён са шкуры і прынясі мяса.

Ён пайшоў у статак і давай лавіць быкоў за хвасты і звязваць хвост з хвастом. Волат вельмі прагаладаўся, а Кузьмы няма. Пайшоў тады волат у свой статак і бачыць — звязвае яго сябра хвасты быкоў. І гаворыць:

— Што ты, Кузьма Сарачынскі, робіш?

— А я хачу ўсіх быкоў разам са шкур вытрасці. Не буду я хадзіць дзесяць разоў.

А волат адказвае:

— Нам аднаго быка хопіць. І страсянуў быка — бык са шкуры вылыгнуў.

Пайшлі да агню. Волат нясе тушу, а Кузьма адну шкуру, ідзе і ледва цягне шкуру гэту.

Калі прыйшлі да агню, волат пасылае Кузьму па ваду:

— Пайдзі зачарпні вады ў шкуру.

Пайшоў Кузьма да студні і ўзяў з сабой рыдлёўку. І стаў абкапваць навокал студні.

Гэты волат доўга чакаў Кузьму і, не дачакаўшыся, пайшоў да яго. Бачыць — ён капае навокал студні. Волат закрычаў:

— Што ты, Кузьма Сарачынскі, робіш?

— А я, — кажа Кузьма, — па адной шкуры вады насіць не буду. Я ўсю студню прынясу зараз.

Волат зачарпнуў ў шкуру вады і панёс. А Кузьма Сарачынскі ідзе сабе і пасвіствае.

Залілі мяса вадою і вараць. Зварылі і селі есці. Волат памнога есць, а Кузьма патрошкі і хавае вялікія кавалкі мяса за сябе. Як пад'елі — палеглі спаць. Волат быў такі моцны, што трое сутак спаў. А Кузьма Сарачынскі тым часам мяса еў, што схаваў. Калі ён убачыў, што волат хутка будзе ўставаць, ён сам лёг спаць. Гэты волат устаў і дзівіцца:

— Я многа спаў, а Кузьма Сарачынскі яшчэ больш.

І доўга чакаў волат, пакуль Кузьма Сарачынскі прачнецца — гадзін восем. Потым стаў будзіць яго:

— Пара ўжо ўстаць!

А Кузьма адказвае:

— Гэй, баценька, яшчэ хочацца спаць.

Вось яны прыйшлі ўжо да хаты гэтага волата. У волата была сястра яшчэ мацнейшая за яго. Брат сястры гаворыць:

— Гэты Кузьма Сарачынскі — мацнейшы за ўсіх волатаў. Як бы яго забіць?

Сястра кажа:

— Ноччу, як будзе ён спаць, я яго задушу.

А Кузьма чуў гэту размову. І ноччу ён паклаў вялікую ступу замест сябе на ложак, а сам залез пад ложак і спіць. Волатка стала ноччу ціснуць ступу і гаворыць брату:

— Ды цвёрды ён!

Раніцой сталі яны пытаць у Кузьмы.

— Што табе ноччу здавалася?

Ён кажа:

— Штосьці поўзала па мне, уродзе муха.

Тут яны ўжо і думаюць: «Цяжка раду даць!».

На другую ноч здумалі яны абліць яго кіпятком.

А Кузьма чуў, як яны радзіліся, і ноччу паклаў замест сябе на ложак мех нацюкаваны, а сам убок лёг.

Яны аблілі мех кіпятком і палічылі ўжо Кузьму Сарачынскага нежывым, а ён раніцою ўстае з ложка і кажа ім:

— Добрая раніца!

Яны пытаюць:

— Што табе здавалася ў гэту ноч?

— Здавалася, што дробны вясенні дожджык на мяне падаў і зноў поўзала па лобе муха.

Тут яны змовіліся адправіць Кузьму Сарачынскага да яго хаты. Брат завёў яго ў сваю камору, даў грошай і кажа:

— Кузьма Сарачынскі, бяры падарунак ад мяне — грошы.

Кузьма ў адну кішэню трохі кінуў чырвонцаў, а другую кішэню ды за пазуху — і ўжо яму і цяжка, ледва стаіць. А волат кажа:

— Кузьма Сарачынскі, што ты набраў так мала, бяры больш.

А Кузьма гаворыць:

— Як ласка твая, то ўсып золата ў мех ды занясі мне.

Гэты волат усыпаў у мех золата, закінуў за плечы і панёс.

Кузьма Сарачынскі ідзе ўперад, паказвае дарогу. Волат

нясе яго грошы і моцна дыша. Як волат дыхне ад сябе, то Кузьма Сарачынскі бяжыць задам,— яго дух цягне, сіла волатаўская.

Волат пытае:

— Кузьма Сарачынскі, што ты бегаеш то ўзад, то ўперад?

А Кузьма кажа:

— Эх, баценька, даўно ўжо з дому я і як падумаю аб дзецях, што ўжо іх даўно не бачыў, то бягу з радасці дадому, а як падумаю, што ззаду мой сябра волат ідзе, то бягу зноў назад.

Цяпер падыходзяць яны ўжо недалёка да хаты Кузьмы Сарачынскага. Выбеглі яго дзеці абарваныя, голыя. Гэты велікан не бачыў ніколі такой саранчы і пытае:

— Што гэта бяжыць на мяне?

А Кузьма Сарачынскі кажа:

— Гэта чэрці па тваю душу бягуць.

Дык волат думае: «Бяда!» І кінуў гэтыя грошы, а сам назад дадому пабег.

Кузьма Сарачынскі гаворыць:

— Ужо тут не бяда. Я з дзеткамі дадому панясу гэтыя грошы.

І тут разышлося сяброўства моцнага волата з Кузьмой Сарачынскім.

## 196. ЯК ЦЫГАН РЫЦАРА ПЕРАМОГ

Быў сабе адзін рыцар адважны і ніхто з ім не адважыўся біцца. Так ён напісаў на расстайных дарогах: «Нікому не адмоўлю, хто са мною біцца захоча!»

Ну, трапілася як раз тады праязджаў цыган і, прачытаўшы, на стоўпе напісаў: «За едным махам дзвесце забіяхам!» А ён ніц не салгаў, бо ў яго была кабыла абабітая, то як сядзе на рану шмат мухаў, то ён як возьме дашчолку, ударыць па мухах, то адразу з дзвесце заб'е. А той рыцар як прачытаў, так зараз паслаў па яго, каб прыехаў з ім біцца. Так няма рады, трэба ехаць цыгану!

Сеў на сваю здохлу кабылку і едзе на тое месца. Як угледзеў рыцара збройнага, так са страху палажыў голаў на кабылу і падумаў: «От няхай ужо мне адатне голаў, бо цо я з ім зраблю!»

А рыцар думаў, што і яму так сама трэба зрабіць, так і ён голаў палажыў на кабылу, а цыган, гэта абачыўшы, прыскочыў і шах!— рыцару голаў адсёк.

І так то аддаў сваю рыцарскую голаў простаму цыгану!

## 197. ТРЫ БРАТЫ І ПУСТЭЛЬНІК

Былі ў бацькі тры сыны: два разумныя, а трэці дурань. Паслаў ён усіх трох на ўсю зіму ў лес дрова рубаць. Збудавалі яны сабе ў лесе хатку: дзень на рабоце, а вечарам прыходзілі туды вячэраць і спаць. Прыходзяць раз з работы, трэба вячэру варыць, а тут у пячурцы ні іскаркі жару няма. Няма іншай рады — трэба ісці да пустэльніка агню папрасіць. А ў том лесе жыў пустэльнік стары-стары і вельмі сярдзіты: усе яго баяліся. Ось малодшыя браты і кажуць старшаму:

— Ты ад нас дужэйшы і разумнейшы, ідзі да пустэльніка.

Паслухаў братоў, прыходзіць да пустэльніка і кажа:

— Здароў, дзеду!

— Здароў, сынку! Чаго табе трэба?

— Дай, дзедку, агню.

— Добра, сынку, дам, толькі ты перш збай мне басеньку, скажы сказачку, тагды дам.

А старшы брат быў вельмі ганорны, то й адказаў пустэльніку:

— Хіба я здурэў, каб якомусь паршываму дзеду байкі баяў!

Тагды дзед ухапіў яго за чупрыну, набіў у патыліцу, зыдраў палосу ад пяты на носа, нацёр ячнаю мякінаю і выпхаў за дзверы.

Вярнуўся небарак да братоў і кажа:

— Схадзеце, браткі, каторы па агонь! На паўдарогі ў мяне жывот разбалеўся, ледво дахаты далез.

Пашоў селядоршы. Ідзе і думае: чаго мне баяцца, усё-такі я дужэйшы, нічога ён мне не зробіць. Толькі трэба так да яго гаварыць, каб ён мяне баяўся.

Прышоў да пустэльніка, папрасіў агню, а як той сказаў збай басеньку, сказачку, то назваў яго паршывым дзедам, а той так сама і яму зрабіў, ухапіў за чупрыну, набіў у патыліцу, зыдраў палосу ад пяты да носа, нацёр ячнаю мякінаю і выпхаў за дзверы. Вярнуўся небарак дахаты і кажа:

— Ідзі ты, дурань, па агонь! Я, ідучы, зачапіўся за пень, абора парвалася і лапаць разуўся.

— Добра,— кажа.

І пашоў. Прыходзіць, даў пахвалёнага:

— На векі,— адказаў пустэльнік і пытаецца:

— Чаго табе трэба?

— Дай мне, дзедку, агню!

— Дам агню, толькі перш збай мне басеньку, скажы сказачку.

— Добра, дзедку. Але ты, як я буду баяць, не кажы: «Лжэш!», бо як скажаш, то я табе, што захачу, то і зраблю.

— Ну, няхай будзе і так, як ты кажаш.

Дурань падумаў, падумаў і стаў казаць:

— Быў я ў бацькі адзін сын. Мае браты ўвесь дзень на рабоце, а я ўсё альбо за печкаю сяджу і попелам яйца перасыпаю, альбо на чаўнішчы ежджу. Ось раз паехаў я ў чаўнішчы па ржышчы. Еду, еду, аж бачу: дуб стаіць. А ў дубе дзюпло, а ў дзюпле печаныя дзятлы так пішчаць! Захацеў я набраць гэтых дзятлаў: пасунуў руку — не лезе, пасунуў нагу — не лезе, пасунуў галаву — не лезе, так я скруціўся-звярнуўся і ўлез. Набраў печаных дзятлаў за пазуху і хачу вылазіць: пасунуў руку — не лезе, пасунуў нагу — не лезе, пасунуў галаву — не лезе, так я скруціўся-звярцеўся і вылез. Еду я сабе зноў у чаўнішчы па ржышчы і бачу на паповай сенажаці пад дубам кабыла ходзіць. З дуба на кабылу ўпаў жолудзь, а з жолудзя стаў дубок расці. Як расце, так расце, вырас пад самае неба. Мяне ўзяла ахвота па гэтаму дубу на неба ўлезці. Лезу, лезу, далез да самага верху, ухапіўся рукамі і ўлез на неба. Хаджу я па небе і аглядаюся, нікога не відаць, толькі стаіць хата з комінам. З коміна дым ідзе. Я ўвайшоў у хату, а там святая Магдалена ў печы аладкі смажыць, а за сталом на покуце сам бог. На галаве ў яго калпак дыямантовы, сядзіць і з святым Пятром у мар'яша граюць. Бог усё праграе, а святы Пётр выграе, бо ён граў ашукуючы. Бог як гэта ўгледзеў — разгневаўся, зняў з галавы калпак дыямантовы, па лаўцы пры сабе паставіў і давай святога Пятра лаяць. Святая Магдалена аладкі смажыць, бог на святога Пятра гневаецца, мяне ніхто не бачыць. Так я гэта барджэй за той калпак дыямантовы да да дзвярэй, адчыніў паціху і — дай бог ногі. Толькі дабег да таго месца, кудою на неба ўзлез, аж адкуль ўзяўся воўк,— пагнаўся за кабылаю, кабыла пабегла, а дуб зваліўся на зямлю. «Кепска,— думаю сабе,— як зловяць, буду дразда скакаць.

Трэба шукаць рады, чы не знайду гдзе вяроўкі». Хадзіў-хадзіў, шукаў-шукаў, нігдзе нічога не найшоў, толькі дзве асміне ячнай мякіны да тры шаснасткі пшанічных атрубей. Звіў я з ячнай мякіны адну вяроўку, з пшанічных атрубей другую, звязаў, зачапіў за неба адзін канец, другі спусціў на зямлю і давай па гэтай вяроўцы спушчацца. Спушчаюся, спушчаюся, аж бачу — ужо за самы канец вяроўкі дзяржуся, а да зямлі страх як далёка. Дастаў я з кішэні нож складаны: надрэжу канец вяроўкі да надтачу, адрэжу да надтачу. І быў бы я да самай зямлі спусціўся, але вяроўка парвалася, бо адзін вузел быў нямоцна завязаны, і паляцеў я ўніз. Лячу, лячу, і бухнуў у балота ды схаваўся з ушамі і з галавою, толькі чупрынка наверху засталася.

А той дзед слухае, злуе, носам круціць, але ні разу не кажа: «Лжэш!»

— Доўга-доўга сядзеў я ў гэтым балоце. Чайка на маёй чупрыне гняздо звіла, дзетак вывела. Мінула лета, настала восень, а я ўсё сяджу ў балоце. Аж ось раз вечарам выскачыў з лесу воўк, за чайкаю пагнаўся. Я як ўхаплю яго за хвост — так ён мяне з балота і выцягнуў. Я глянуў на свет божы і мне так весела зрабілася, як бы другі раз на свет нарадзіўся, толькі вельмі мне да людзей захацелася. Іду і ўсё думаю, як бы мне бог якога чалавека паслаў. Аж тут раптам як схапілася шурабура страшэнная, і бачу я, як твой, дзеду, бацька без пояса, без пужкі, без шапкі свінней з пашы дадому гоніць. Я над ім злітаваўся і даў яму пужку і той калпак дыямантовы, што ў бога ўкраў на небе.

Дурань яшчэ не дакончыў, а той дзед не выцярпеў і кажа:

— Лжэш! Як сабака брэшаш! Мой дзед ніколі свінней не пасвіў!

Так дурань:

— А то ж ты, дзедку, сказаў: «Лжэш!»

Ды ўхапіў яго за чупрыну, здзёр палосу ад пяты да носа, нацёр соллю, узяў агню і вярнуўся да братоў.

## 198. ЯК БРАТЫ СПЯКЛІ ЗАЙЦА

Быў сабе дзед і баба і мелі яны сабе тры сыны: старшы сляпы, сярэдні крывы і наймейшы голы. Пайшлі яны сабе на паляванне: старшы ўгледзеў зайца, сярэдні злавіў, а наймен-

шаму далі за пазуху схаваць. Ішлі яны, ішлі, ажно вайшлі ос-тупу — такую вялікую пушчу, што толькі неба і зямлю відна... Захацелася ім есці... Думаюць сабе: «Каб дзе дастаць агню — спяклі б зайца і з'елі».

Сталі шукаць агню, не забачылі; палез сярэдні — нічога не забачыў, як палез найстарэйшы, бачыць: вунь пад ёлкай сядзіць дзед і між нагамі агонь кладзе. Пайшоў старэйшы да дзеда:

— Памагай бог, дзедку!

— Бывай здароў, сынку!

— Дай, дзедку, агню!

— А скажы, сынку, казку і прыказку — то дам агню.

— Не ўмею.

— Як вунь тое сказаў, што не ўмею.

Тагды дзед узяў яго, адраў яму шкуру ад пят да галавы, насыпаў ячменю паловаю, зноў насунуў шкуру і пусціў.

Пайшоў сярэдні.

— Памагай бог, дзедку!

— Бывай здароў, сынку!

— Дай, дзедку, агню!

— Кажы, сынку, казку і прыказку, то дам агню!

— Не ўмею!

— Не ўмееш?

Тады ён і яму злупіў шкуру з пят да галавы, насыпаў ячменнаю паловаю, завярнуў шкуру назад і пусціў... Пайшоў найменшы...

— Памагай бог, дзедку!

— Бывай здароў, сынку!

— Дай дзедку, агню!

— Скажы, сынку, казку і прыказку, то дам агню!

— Добра, дзедку, я табе скажу і казку і прыказку, але як ты, дзедку, скажаш, што я брашу, то я табе, дзедку, зраблю тое, што ты зрабіў маім братам!

— Добра, сынку, кажы!..

— Ото ж я іду да цябе, дзедку! Праўда, дзедку?

— Праўда, сынку!

— Іду, іду і чую, што штось бяжыць і гудзе... Праўда, дзедку?

— Праўда, сынку!

— Калі я агляну́ўся,— бачу, што чмель з мядзвядзём вайну вядзе... Праўда, дзедку?

— Праўда, сынку!

— Думаю сабе, што чмель заб'е мядзведзя — будзе шуба, мядзведзь чмяля — будзе мёд... Праўда, дзедку?

— Праўда, сынку!

— Калі я тое думаў, гляджу — рака мёду стала... Праўда, дзедку?

— Праўда, сынку!

— Ем я той мёд, ем, а ён усё мне па пальцах цячэ, усё мне па пальцах цячэ. Тагды я згадаў, што ў хаце на вакне ножычак ляжыць, ось такі кулайчык. Пабег я дахаты, узяў той кулайчык, зрэзаў сабе чэрап з галавы і стаў ім мёд чэрпаць і есці.

Ем я яго, ем, а над галавою ў мяне штось шуміць... дзіўлюся, а на маім мазгу хмара мух насела... Ударыў я іх кулаком, аж яны разляцеліся... Пакуль адмываў я сваю руку, дзіўлюся, ажно мой чэрап пасяруд ракі плыве. Кінуў я на яго лутком — не дакінуў. Як жа кінуў потым, чым лыка дзяруць,— дакінуў. Узяў я свой чэрап, прымацаваў яго, глядзь, дзедку, як моцна сядзіць.

Еў я мёд, еў, а восачак усё сабіраю, усё сабіраю... Думаю сабе, штоб з таго восачку зрабіць? Выляпіў я з таго восачку кабылчыну, сеў і еду. Еду сабе, еду і чую, што ў дупле печаныя дзятлы пішчаць... Думаю сабе, каб улезці ў дупло і з'есці тыя дзятлы. Лезу я ў тое дупло галавою — не ўлез... Лезу рукою — не ўлез, нагою — не ўлез, як кінуўся ўсім целам — улез.

Паеў я тыя дзятлы. Лезу назад галавою — не вылез, рукою — не вылез, нагою — не вылез, кінуўся ўсім целам — не вылез. Тагды я згануў, што ў хаце за лаваю сякерчына стрычыць. Пабег я дахаты, узяў тую сякерчынку, вырубаў у дубе дзірку і вылез.

Сеў я на кабылчынку, еду я сабе, а сякерчынку за пояс заткнуў. Еду я сабе, еду, а сякерчынка як цюк, так цюк, як цюк, так цюк... Кабылчанка мая прыастанаўляецца. Калі я агляну́ўся, бачу, што я напераду еду, а зад пасёкся... Тады я пабег за задам, прыставіў да пераду, збіў вярбовым калком і еду. Еду я, еду, а кабылчынка мая і стала... Калі я агляну́ўся — бачу, што з таго калка вырасла вярба аж да самага неба... Стаў я лезці па той вярбе і далез аж да самага неба...

— Што ж ты там, сынку, бачыў?

— А ўсё, дзедку, бачыў. Матка Боска панчошку робіць. Пан Езус спіць... і ўсіх, каго на сім свеце знаў,— усіх бачыў.

— А маёга ж, сынку, бацьку бачыў?

— Бачыў. Твой, дзедку, бацька на маём ездзіць.

— А што, сынку, бач, мой на тваім, сынку!

— Так, дзедку, але як мой спаткнецца, то твой, дзедку, ...носам ваткнецца... Праўда, дзедка?

— Брэшаш, сынку!

Калі ён сказаў: «Брэшаш, сынку»,— тагды голы злупіў з дзеда шкуру з пят да галавы, як ён зрабіў з яго братам, пасыпаў ячменнаю мякінаю узяў агню, прыйшоў да братоў, спяклі зайца і з'елі.

І я там быў, мёд, віно піў, па барадзе і ў вусах цякло, нічога ў рот не папала.

## 199. БРАХНЯ

Быў адзін такі пан, што штоб яму ніхто ні казаў, та ён усё кажа, што праўда, так. Хто яму ні хлусіў, ніхто не можа так схлусіць, каб ён не сказаў, што гэта няпраўда. Вельмі любіў той пан слухаць казкі. Хлусіць яму хто якую байку, а ён усё за кожным словам кажа: «Праўда, так». От захацелася таму пану пачуць такую казку, каб сказаць, што гэта няпраўда, але ніхто не можа прыдумаць такое казкі. Абяцаў той пан даць жменю золата таму, хто скажа такую казку, каб пан не паверыў. Нашоўся адзін п'янчужка. Звалі яго Ахрэмам. Ён свайго хаджайства не меў, бо быў вельмі вялікі гультай і п'яніца. Пайшоў Ахрэм к пану казаць казкі. Доўга казаў Ахрэм пану ўсялякія байкі, а пан усё кажа: «Праўда, так». Кажа Ахрэм:

— От іду я да іду па вадзе, а рака шырокая, што і берагоў не бачно, але ось выскачыў з вады мядзведзь, задраў кверху хвост да ка мне. Што тут рабіць! Перш я схаваўся ў бабравіну, але не мог там усядзець, бо хтось наклаў на дне ракі агню і нарабіў такога куродыму, што дым вочы выядае, нават рыба пачала пырхаць да чмыхаць носам. Вылез гэта я з бабравіны, а мядзведзь ка мне... От я сунуў яму руку ў горла. Ён туды-сюды — толькі хвастом круціць. Засунуў гэта я руку далей і ўхапіўся за хвост. От як убраў я за хвост, закруціў яго на руку да як упёрся, дык і вывернуў мядзведзя трыбухамі наверх. Толькі раве мядзведзь, а кусацца не можа, бо зубы тарчаць ва ўсе стораны.

— Праўда, так,— кажа пан.

— Пайшоў я далей, аж бачу: уссела на пчалу дванаццаць мядзведзей. Я бегці ды бегці, ратаваць пчалу. Бег ад ранку

да самага змроку. Тым часам мядзведзі з'елі пчалу, толькі костачкі засталіся. Прыставіў гэта я пчаліныя косці к хмарцэ да й палез на неба. Узлез на неба, пабачыўся з бацькам сваім да з дзедам. Падпаілі яны мяне трохі і не магу я найці астрогі, каб злесці з неба. От убачыў я кучу мякіны. Давай гэта я з мякіны віць вяроўку. Звіў вяроўку, прывязаў яе за неба і спускаюся ўніз. От ляціць матыль. Як махне ён крылом, вяроўка і парвалася, а я паляцеў уніз да й упаў у пекла.

— Праўда, так,— кажа пан.

— Зірнуў я ў пекла, аж чэрці на панскім бацьку смалу возяць да гадамі падганяюць.

— Хлусіш, галган! — крыкнуў пан.— Не можа таго быць.

— А калі, пан, не верыш, дык паглядзі сам,— кажа Ахрэм.

Заплаціў гэта пан Ахрэму жменю золата да й годзе казкі слухаць.

## 200. НЕ ЛЮБА — НЕ СЛУХАЙ

Адзін пан дужа любіў слухаць казкі. Раз і прызваў ён мужыка гаварыць казкі. І кажа яму пан:

— Вот талерка золата; калі скажаш ты мне такую казку, каб не было ў ёй ні слова праўды, каб я сказаў на цябе: лжэш, дык тагды аддам табе гэту талерку з золатам.

І пачаў мужык:

— Чаго, паночак, на свеце не бывае. Вось са мной раз такая прыгода злучылася. Было гэта, як я яшчэ не радзіўся. Наняўся я ўаднаго гаспадара пчол пасціць — пяцьдзесят роеў пчол. Кажны раз трэба было іх абсчытаць і выпусціць за пажыўнасцю; вернуцца — трэба зноў пералічыць іх, выдаіць і ў вулля пазаганяць.

— Свет вялік, можа быць, праўда,— кажа пан.

Глянуў мужык на золата і гаворыць далей:

— Раз ранкам выпусціў я пчол на пасту. Вярнуліся яны дамоў — дванаццаці пчол няма. Што тут рабіць? Можа, дзе ў балоце завязлі... Кінуўся я іх шукаць.

Як ісці — дак ісці... аж бачу — адзінаццаць пчол ляцяць — акрываўленыя, параненыя, а дванаццатай і няма. Будзе бяда!.. Я ісці далей. Бачу — за ракой стада ваўкоў апанавалі маю пчалу і душаць; яна адбіваецца, не паддаецца ім. Я ну бегчы шпарчэй на помач.

Прыбег к рацэ — перавозу няма. А бачу, што яшчэ часінку і ваўкі яе разарвуць. Я гэта схваціў сам сябе за чупрыну, размахаў, размахаў,— як штурхнуў, так і перакінуўся на той бок ракі.

— Можа быць,— кажа пан.

— Але з разгону як гопнуў я аб зямлю, дык па пояс і ўвяз. Я і туды, я і сюды — не вылезці. Без рыдля нічога не зробіш, думаю сабе. Я гэта кінуўся, як мага дадому, схапіў рыдзель ды і назад, адкапаў сябе, тагды кінуўся к пчале на помач.

— Свет вялік, можа быць, і праўда,— кажа пан.

— Прыбег гэта я к пчале, адагнаў ваўкоў, бачу што ёй ужо не жыць: па баках баўтаецца мяса як шматця, а крыві, крыві!.. Я гэта, не доўга думаючы, шась яе нажом па горлу і прырэзаў, потым абяліў яе і прывёз мяса дадому: дванаццаць кадзей мяса наклаў.

— Свет вялік, можа быць, і праўда!

— Тут я ўспомніў, што косці асталіся на пожні. Думаю сабе — лаяць будуць людзі, што заграмадзіў больш дзесяціны сенажаці. Пабягу ды і скіну іх у раку. Прыбег, стаў паднімаць храбет з рабрамі, падняў яго, потым як штурхну ад сябе!.. Я думаў, што ён упадзе ў раку, а ён адным канцом стаіць на зямлі, а другім у неба ўпёрся.

— Свет вялік, можа быць, і праўда!

— Палез я па гэтым храбце на неба. Як лезці, дык лезці і ўлез.

Бачу — у адной хаце пірушка, святыя гуляюць: п'юць гарэлку і віно, закусваюць, песні такія прэпадобныя пяюць...

Ну, думаю сабе, з п'янымі, чалавеча, не займайся, ато яшчэ ненарокам бакі намнуць. Іду далей. У другой хаце святы Мікола набраўся гарэлкі, як пучок ляжыць пад лавай і храпець, як пшаніцу прадаўшы.

— Можа і праўда.

— Каля яго ляжыць шапачка, сама залатая з дарагімі каменнямі. Я гэтую шапачку за пазуху ды й назад, аж тут святы Мікола прачхнуўся, стаў іскаць сваёй шапкі. Падняўся вархал, крык... Ну, думаю, калі зловяць, будзе кепска. А тут аніяк не найду таго месца, дзе стаяў храбет. Бачу — ляжыць пілавіння. Я давай з іх вяроўку віць. Звіў доўгую вяроўку, прывязаў адзін канец яе і стаў спушчацца з неба па вяроўцы. Спусціўся да самага канца вяроўкі, а яшчэ зямлі няма. Што тут рабіць? Я гэта вазьму ды адрэжу зверху кусок вяроўкі, а знізу надтачу і спускаюся далей.

— Свет вялік, можа быць, і праўда!

— Стаў гэта я на зямлі. Бачу — не наша зямля. Ну, думаю сабе, гэта пэўна пекла. Іду далей. Аж бачу — панскі бацька-пакойнік абарваны, абшарпаны, босы пасціць свінней.

— Лжэш, хаме!

Мужык цап за талерку з золатам — ды і за дзверы.

## 201. ЯК МУЖЫК У ПАНА ТАЛЕРКУ ЧЫРВОНЦАЎ ВЫЙГРАЎ

Адзін пан вельмі любіў слухаць казкі: от ён пазваў да сябе чалавека, каторы ўмеў добрыя казкі расказваць і просіць яго казаць казку. Мужык жа не хоча, кажа, што ўсё роўна пан не паверыць і скажа, што я мучу.

Пан жа што робіць? Насыпае цэлы палумісак чырвонцаў, стаўляе на стале і кажа да мужыка:

— От, як я скажу, што ты муціш, то будуць твае чырвонцы.

«Эге,— думае сабе мужык,— от калі я кала пана пажыўлюся! Я так яго абдуру, такі пан мусіць сказаць, што я мучу».

От ён і пачынае казаць, муціць, але пан, штоб не праіграць чырвонцы, усё яму верыў, усё казаў, што праўда.

Наканец мужык от што кажа:

— Служыў я ў аднаго пана, пасвіў у яго пчолы. І збегла адна ў мяне пчала, пасылае мяне пан яе шукаць.

Сажуся я верхам на каня і еду яе шукаць.

Ат дзіўлюся — ляціць грамада ячменнай мякіны. «Дай,— думаю,— саўю з яе вяроўку да й спушчуся на зямлю». Звіў я вяроўку з тае мякіны да дзіўлюся — каратка будзе.

Тут пан не выцерпеў і пытае:

— Ну, і што ты рабіў?

— А што рабіў? Усё-такі спусціўся так: як ужо бачу, што каратка, так я ўсё ўрэжу да і прытачу, урэжу да і прытачу.

Еду да еду, заехаў у лес і дзіўлюся — дванаццаць ваўкоў ядзяць маю пчалу.

Што я раблю? Злажу з каня, прывязваю да хваіны і збіраю з пчалы костачкі ў торбу, пану на паказ. Іду да каня, дзіўлюся, а з каня ажно перадок стаіць, а зада няма. Але што рабіць — сажуся і еду. Еду да еду, дзіўлюся — ат я заехаў на неба. Што мне цяпер, думаю, беднаму рабіць, як тут мне спусціцца на зямлю?

Бачу ўжо сваё сяло.

— «Ну,— думаю,— не заб'юся, хоць ужо і ўпаду». Як шлёпнуў я, так у зямлю ўбіўся па самыя рукі.

— Ну, і што тагды было? — пытаецца пан.

— А што было? Пайшоў да сяла, узяў жалязняка да і адкапаўся.

Пан зноў не выцерпеў і пытаецца:

— Што ты там бачыў на небе? Не бачыў лі майго татка?

— Бачыў, пане, бачыў, але татка ваш там вельмі бядуе. Жыды вашым таткам там да пекла смалу возяць да так смалянымі бічамі б'юць, што няхай пан бог крые!

Тут пан такі не сцярпеў, забыў і пра ўсловіе і кажа:

— Лжэш, галгане, таму ёсць няпраўда!

А мужык цап за талерку з чырвонцамі і дай бог ногі.

## 202. ЧАГО НА СВЕЦЕ НЕ БЫВАЕ

Багаты пан справіў пір. Склікаў гасцей з усіх воласцяў. П'юць, ядуць госці, гаспадара хваляць. А пан падпіў і гаворыць:

— Многія часта кажуць, што мужык і пан — усё адно. Як можна горкага мужыка з нашым братам параўнаць?

Госці згаджаюцца, а гаспадар кажа:

— Не на словах, а на справе пакажу, што варт мужык.

Прыказаў пан слугам паклікаць мужыка Івана, які быў самым бедным ва ўсёй вёсцы. Прывялі слугі мужыка, убачыў пан і кажа:

— Скажы, мужык, чаго на свеце не бывае? Цяпер людзі да ўсяго дайшлі, што могуць лятаць у паветры, гаварыць па дроце. Калі скажаш, чаго на свеце не бывае, дык тады атрымаеш воз мукі і грошай.

Падумаў Іван і згадзіўся.

Ён кажа, што шмат бывае цяпер на свеце, а толькі сякераю ніхто не падпяразваецца — гэтага не бывае. Госці смяюцца, а пан нахмурыўся і думае, што розум у гэтага мужыка воўк не з'еў, можа даць адказ.

Сорамна і стыдна стала пану перад гасцямі, стараецца ён заблытаць мужыка і кажа, што гэтым яго не здзівіш. У нас ніхто сякерай не падпяразваецца, а ў другіх краінах бывае і гэта. Мужык адказвае, што ў чужых краінах ён не быў і гэтага не бачыў. Пан узрадаваўся і гаворыць:

— Ты не быў, дык я быў, больш цябе бачыў, а ты скажы, чаго на самой справе на свеце не бывае. Калі яшчэ будзеш лгаць, дык будзеш паўгода ў мяне працаваць.

Думаў, думаў мужык і гаворыць:

— Баба папом не бывае, дзяўчына абедні не служыць — вось гэтага на свеце не бывае.

Ізноў засмяяліся госці, бачаць, што мужык дагадлівы, а пан адказвае:

— Не, брат, і гэта бывае на нямеччыне.

— Ідзі на двор, думай у апошні раз. Скажаш — атрымаеш воз мукі і грошы, а не — паўгода папрацуеш.

Вышаў мужык на двор, думаў, думаў і рашыў:

— Скажу, няхай слухаюць.

Прыйшоў да пана і гаворыць:

— Твая праўда, пане, усё на свеце бывае. Вот яшчэ нядаўна думаў я, што людзі на неба не пападаюць, а як сам пабыў, дык цяпер бачу, што і гэта бывае.

Пан, здзіўлены, пытае, як туды папаў мужык. Ён адказвае, што пакойніца жонка прыказала быць і двух жураўлёў за ім прыслала. Хутка жураўлі прывязлі туды. Бачыў жонку з пакойнымі дзецьмі і вярнуўся дадому.

— Ці не бачыў ты на тым свеце пакойнага пана, бацьку майго? — спытаў пан.

Мужык сказаў, што бачыў, што ён там заняты цяжкаю працаю — глядзіць за яго дзецьмі. Раззлаваўся пан, сорамна стала, што на гасцей глядзець не можа.

Аддаў мужыку збожжа, грошы і вышаў вон.

## 203. ЯК СТРАЛЕЦ У НЕБЕ БЫЎ

Быў сабе адзін стралец, да такі лгун, махляр, што ні жарты! Казаў ён, што вышаў аднаго разу голы, як маці радзіла, анно з стрэльбаю ў руках, калі ён гляне на озера, ажно такая моц дзікіх качак плавае, што і не злічыць; як выстраліў ён, так і зараз усё чыста пабіў.

Паплыў ён, пабраў тыя качкі і за пояс пазатыкаў. Ажно тыя качкі аджылі, зняліся ўгору, яго паднялі і аж да неба занеслі.

Ну, што яму рабіць у небе?

І бог на яго сварыцца:

— Чаго ты,— кажа,— прышоў няпрошаны, нідзенкаваны, без пары да неба,— і змарлыя душы з яго, як з сабакі, збыткуюцца, яму і самому не на руку было, бо там страляць нечага,— бяда!

Ажно аднаго разу прыгледзеў ён у бога ў сенях кадушку льнянога насення, давай ён вяроўку круціць. Скруціў ён вяроўку, так то нуж спускацца на гэты свет да нас. Спусціўся на сам канец, ажно яшчэ шмат-шмат бракуе вяроўкі! Што тут рабіць? Што чыніць? Давай ён угарэ адрываць, а ўнізу ўточываць.

Уточываў, уточываў і якcьці крыху спусціўся да то яшчэ кусок да зямлі вялікі. Ну, так ён узяўшы на рызыку, так ужо зджыгнуў дый па калені ногі ў землю яму ўбіліся. Прабаваў і так і сяк — ані спосабу ног дастаць!

Ажно на шчасце не вельмі далёка вёска была. Пашоў гэта ён да вёскі, пазычыў рыдля і ногі адкапаў. Прышоў ён на тое месца, дзе стаяла хата, ажно ўжо нідзе нічога няма: усё перамянілася за той час, пукіль яго не было. Хадзіў, блукаўся і з вялікага жалю не ведаў, што рабіць. Так пашоў і ўтапіўся ў тое озера, скуль яго качкі да неба панеслі. Як відно, то й у небе не мёд!

## 204. ЯК Я ЖЫЎ З ДЗЕДАМ, КАЛІ БАЦЬКІ ЯШЧЭ НЕ БЫЛО

Я жыў з дзедам, а бацькі яшчэ не было. Былі ў нас з дзедам пчолы па сабаку, насілі мёд рэзгінямі. Адна пчаліна нясла мёд цераз возера і ўпусціла рэзгінь мёду ў возера — гэта возера стала салодкае. Хадзіла там мая кабылка і выпіла гэту воду так, што аж упілася і ляжала без вума, п'яная. Толку не маглі мы даць з дзедам (а бацькі яшчэ не было). Узяў мой дзед да шкуру здзёр з яе. Праспалася гэта кабылка і ўстала пасля, як напалі на яе авадні з мухамі, а яна ж і без шкуры. Я ж узяў з дзедам (а бацькі яшчэ не было) абсыпаў яе грэчкай дзеля таго, штобы была гнедая. Як парасла грэчка на кабыле да як унадзіліся ў тую грэчку цецярукі, то і тут мала з яе толку. Дзед мой кажэць (як бацькі яшчэ не было):

— Надобе звязаць дзве вяровачкі і перакінуць цераз кабылу, прывязаўшы каробачку, а к хвасту прывязаць даўбешачку; цецярукоў як наляціць, яна хвастом як махнець, то цецярука і заб'ець.

Зрабілі мы так з дзедам (як бацькі яшчэ не было). Стала гэтая кабыла біць цецярукоў і набіла поўну каробачку, так што стала цяжка і перарэзала павадком кабылку. Трэба ж тут даць ратунак: як жа жыць без кабылкі?

Мой дзед кажэць (як бацькі яшчэ не было):

— Нада адсеч дзве дубінкі і сшыць кабылку.

Мы так і зрабілі. Як параслі дубы на кабыле з гэтых галіц дубовых, так што не магла яна хадзіць: возьмуць і абернуць яе набок. Што нам тут рабіць з дзедам? (А бацькі ўсё яшчэ не было). Давай мы ўжо бычкамі пасеку араць. Пааралі, пасеялі мы з дзедам (як бацькі яшчэ не было) пшаніцы, ячменю. Як парос ячмень — старому вераб'ю па калена, а маладому па бруху, колас ад коласа — не чуе голаса.

Зжалі мы з дзедам (як бацькі яшчэ не было) ячмень гэты, а як ужо зложылі, дак капа ад капы — на дзень язда. Перавязлі мы яго з дзедам дамоў і зложылі старану, у хаце на стоўпе, што кала печы стаіць, і сталі мы ўжо з дзедам малаціць (а бацькі ўсё яшчэ не было), так што страту не было; ложкамі мерылі, а коўшыкамі зносілі, з току гэта ўжо збіралі.

Цяпер сталі мы з дзедам (а бацькі ўсё яшчэ не было) гэтым ячмянём кабана карміць і выкармілі вочынь бальшога, што як раз падлезець пад чыгун і схаваецца. Выгналі мы яго з дзедам вон ужо на двор. Ухваціла яго варона, можа, яшчэ маладая, узяла ў дзюбу і раздзяўбла, на коле седзячы.

Нет у нас з дзедам (а бацькі яшчэ не было) гавядзіны, дак мы кол гэты рубім і ў гаршчок брасаем, кабан наш вочынь жырны быў, так што і кол жыру набраўся і ад яго ў гаршчочку накіпаець. А цяпер, слава богу, мы і лучшэй жывём, бо радзіўся мой бацька. Мы з дзедам пастарэлі і пасівелі, да і бацька ўжо цібук парадачны вырас.

Я там быў, мёд, віно піў, па барадзе цякло, а ў рот не папала. Далі мне барану — я адтуль смаргануў, далі мне смаляную кабылу; ехаў я, ехаў на ёй — стала мне холадна. Разлажыў я агонь, пачаў грэцца, а кабыла мая і растаяла, ізвесна дзела: смаляная.

## 205. ЯК Я ПАСВІЎ ПЧОЛЫ

Раскажу я вам пра сваю малалетнюю жызнь. Калі мне было яшчэ дванаццаць лет, то я застаўся служыць ў хазяіна. Хазяін даў мне пасвіць пчолы і прыказаў:

— Глядзі! Калі ты мне хоць адну пчалу загубіш, то твая служба прападзе, не заплачу табе за цэлы год.

— Добра.

Як выганю пчолы, то іх пералічу і дадому прыганю, зноў пералічу.

Аднаго разу прыгнаў я іх дамоў, пералічыў: няма адной пчалы. Я бягом яе шукаць, а ўжо змрок на двары. Чую я: за лесам пчала равець. Я бягом туды, гляджу: аж за ракой сем ваўкоў душаць маю пчалу. Я пусціўся адганяць тых ваўкоў ды цераз раку няможна было перайсці — рака дужа глыбокая.

Узяў я сябе за валасы, каб перакінуць чэраз раку, а папаў у самую раку. Выбраўся я кое-как із ракі, узяў другі раз сябе за валасы і як махнуў і перабросіў сябе чэраз раку. Ваўкоў і адагнаў, а пчалу яны ўжо задушылі.

Узяў я два паленца, накрыў пчалу, штоб ваўкі яе не з'елі, а сам пайшоў дамоў і кажу хазяіну:

— Бяда мне здарылася.

— Што такое? — спрашывае хазяін.

— Да ваўкі пчалу задушылі.

— А яшчэ не з'елі?

— Не, яшчэ цэла.

— Ну, харашо, калі цэла. Пойдзем забяром.

Запраглі мы дзве пары валоў, паехалі. Там парубілі гэту пчалу на кускі, узлажылі на вазы, прывязлі дадому, пасалілі тры кадзі мяса і цэлы год мы елі гэту пчалу. Зато хазяін аддаў мне ўсе грошы за год. З гэтымі грашмі я і адышоў ад хазяіна.

«Ну,— падумаў я цяпер,— трэба мне ўжо жаніцца, аднаму жыць скушна».

Высватаў я сабе дзеўку, патом папрасіў гасцей на вяселле к сабе, напёк пірагоў, дастаў гарэлку, зарэзаў барана, сабраўся зусім і здзелаў вяселле, як трэба быць. Гасцей сабралася баяр і прошаных і няпрошаных: усяго барана з'елі, застаўся толькі адзін задок. Жана мне і кажа:

— Купі ты карову, будзем даіць да хоць гаршок забелім, а то заўсёды нішчымны крупнік мы ядзім.

Паслухаў я жаны, купіў карову. А жана таму і рада: я не дужа люблю малако і мяса, а мяса даўно ўжо ў нас не было. Узяў я зарэзаў гэту карову: пярэднюю палавіну парубіў на кускі, а заднюю павесіў у хляве. І даіў я гэты задок яшчэ тры гады. А жана як начнець печку тапіць, так з ёй січас і пачынаем сварыцца: яна хоча з мясам, а я з малаком, дак мы і сварымся, сварымся і нічога не зварым і застанемся цэлы дзень не еўшы.

## 206. ЛЯТУЧЫ ПОП

Пасеяў поп пшаніцу. Унадзіліся ў яе журавы. Поп узяў ды наліў гарэлкі ў карытцы. Жураўлі прыляцелі, напіліся гарэлкі і не маглі паляцець. Поп навязаў жураўлёў і начапіў на вяроўку. Не данёсшы дадому, жураўлі працвяразіліся, паляцелі і панеслі папа. Тады поп уздумаў, што ў кішэні ляжыць нож. Поп адрэзаў пару жураўлёў і стаў спускацца, адрэзаў паследнюю пару, а затым скінуўся ў балота. Паўз балота ехаў чалавек. Поп і давай крычаць, каб гэты чалавек выратаваў. Чалавек падаў вяроўку і выцяг з балота папа.

Поп давай пытацца ў чалавека, якая гэта вобласць, каб чалавек завёз яго дадому. Чалавек згадзіўся і павёз папа дадому. Ехалі яны, а затым замарыліся без сну і заснулі па дарозе. Коні былі галодныя, то яны пачалі есці траву. Калі коні пасагіналіся есці траву, а перасядзельніка не было, то скінуўся хамут. На хамуце была кроў. Мядзведзь прышоў і стаў лізаць гэту кроў, а ў гэты момант прачхаліся жураўлі і пачалі біць мядзведзя. Мядзведзь схапіў хамут і пашоў у лес. Ён узяў гэты хамут, занёс на дуб, дзе стаялі вуллі з пчоламі. Потым мядзведзь наеўся мёду, зачапіў хамут за сук, а сам спусціўся і пашоў у лес.

## 207. НІ Ў ВОДНЫМ СЛОВЕ ПРАЎДЫ НЯМА

Ішоў дзядзька адзін на Пятра. Захацеў вады напіцца. Узяў сякеру, пайшоў на рэчку, прарубіў палонку да й апусціў сякеру ў палонку. Сякерка ўтапілася. А дзядзька пачаў ваду вешаць на лозы. Тая сякерка ў вадзе наплодніла сем воз сякерак. Пайшоў дзядзька па сваю кабылку і бачыць: каза бяжыць. Узяў ён пусціў сякерай і забіў сем воз коз.

Пайшоў ён, узяў сваю кабылку і нагрузіў на яе сем воз сякерак і сем воз коз. Едзе ён, едзе і паламалася спіна ў кабылкі.

Пайшоў дзядзька, высек ён з таполя парастак, збіў ёй спіну і дальш едзе. Парастак пусціў карэнне і галлё і быстра так расце. Глянуў дзядзька ўверх і не відна канца парастка. Захацелася яму на небе пабуваць. Ён палез па парастку. Лез, лез, залез на неба, ходзіць там, абы што разглядае. Потым прыйшоў туды, дзе парастак тарчаў раней. Глядзь — няма парастка. Шукаў, шукаў, бачыць: грэчнева мякіна ляжыць.

Узяў пачаў плесці вяроўку.

Выплеў яе, прывязаў за неба і пачаў злазіць.

Злазіў-злазіў, злазіў-злазіў, канца не бачыць, далёка ад зямлі. Як спусціцца, то па вушы ўлезе ў зямлю. Потым чуе — нешта за шываратам шавеліцца. Бачыць — вош. Яшчэ прытачыў сем метраў вяроўкі. Калі нядобра прывязаў вяроўку, яна адвязалася, паляцеў ён на зямлю, аж па вушы ўлез.

А потым чмялі пачалі ў яго галаве мёд рабіць. Унадзіўся мядзведзь у мёд, пачаў драць мёд сабе. А потым таму дзядзьку пачала балець у галаве, ён і пачаў крычаць. А мядзведзь уцякаць ад яго. А дзядзька за хваста яго схапіў да і выцягнуўся. Пайшоў найшоў тую кабылу да і казцы канец.

## 208. ЛЕНІНСКАЯ ПРАЎДА

Жылі на вёсцы два браты. Поле яны аралі, зямлю слязьмі палівалі, гарбы сабе нажывалі. Хлябок і скаціну ў іх паны забіралі, а плацілі за гэта кулакамі ў спіну.

Жылі браты не год і не два, а невядома колькі. Навокал і другія мужыкі таксама жылі.

Абрыдла братам рабіць на чужое здароўе. Рашылі яны адправіцца па Расіі-матушцы праўды шукаць.

Ідуць яны месяц, ідуць год. Бачаць — стаіць вялікае сяло. Пасярэдзіне — панскі дом і царква каменная.

— Дай,— думаюць браты,— зойдзем сюды і папытаем праўды.

Ідуць яны па вёсцы, а насустрач ім пан у калясцы едзе.

— Чые вы, мужычкі, адкуль ідзеце і чаго шукаеце? — запытаў іх пан.

Браты адказваюць яму:

— Жылі мы, жылі ў жабрацтве, у горы, больш сілы не хапіла так жыць. Ідзем праўды шукаць. Навучы нас, пане, дзе яе знайсці.

— Добра,— кажа пан,— пакажу я вам праўду, калі пажадаеце, толькі вы мне папрацуйце за гэта.

Згадзіліся браты.

Працавалі яны, працавалі: поле аралі, зямлю слязьмі палівалі. Прайшоў год. Прыходзяць яны да пана і гавораць:

— Навучы цяпер, пане, як нам праўду знайсці.

— Ну, вось вам і праўда,— адказвае ім пан,— голь нямытая, працаваць вам заўсёды на нас, паноў.

Плюнулі браты і пайшлі далей. Ідуць яны месяц, ідуць год. Бачаць — стаіць поп.

— Навучы, айцец, дзе праўду знайсці? — пытаюць яны.

— Добра,— кажа ён,— я вам праўду ў цара нябеснага вымалю, а вы ў мяне папрацуйце за гэта.

Згадзіліся браты. Працавалі яны, працавалі, зямлю слязьмі палівалі. Прайшоў год. Прыйшлі браты да папа, а ён ім кажа:

— Працуйце вы добра і не гнявіце бога — вось і ваша праўда.

Плюнулі браты і пайшлі далей. Прыходзяць яны да купца. Выйшаў ён — тоўсты і багацей за пана і папа.

— Добра,— кажа купец,— навучу я вас праўдзе, толькі папрацуйце на мяне.

Згадзіліся браты. Пачалі браты працаваць і гарбы нажываць. Вучыў іх купец, як чэсны народ ашукваць і беднату абмерваць. Не дачакаліся і году, як малодшы брат і кажа:

— Не пайду я больш праўды шукаць, няма яе на свеце, праўды мужыцкай.

І вярнуўся ён у сваю вёску. А старшы брат настойлівы — не хацеў ён без праўды дамоў варочацца. Пайшоў ён адзін да фабрыканта. Фабрыкант і за пана, і за папа, і за купца багацей. Пачаў старшы брат працаваць у яго. А на фабрыцы многа людзей працуе.

Працавалі яны многа год. Гарбы нажывалі, а праўды не бачылі. Толькі раз пачуў брат на змене ціхую гутарку:

— Ёсць чалавек адзін — ён і праўду ведае. Завуць гэтага чалавека Леніным, а жыве ён на поўначы, у Піцеры.

Запомніў брат імя гэта і пайшоў шукаць гэтага чалавека. Ішоў многа дзён, а можа быць і месяцаў. Прыйшоў у Піцер. Бачыць — ідзе рабочы. Ён яго запытаў ціханька:

— Дзе тут Леніна знайсці?

А той яму яшчэ цішэй: — Пойдзем са мной, я цябе давяду.

Вось і прыйшлі яны ў звычайны пакой. Кругом розных кніг многа. Выйшаў да іх чалавек, апрануты небагата, але чыста. Ён і кажа:

— Добры дзень, таварышы, што скажаце добрага?

Расказаў яму брат, як ён праўду шукаў. Доўга з ім гаварыў Ленін, аб парадках на фабрыцы распытваў, аб вясковай беднаце, а потым сказаў:

— Правільна ты зрабіў: на фабрыцы праўду ты лепш пазнаеш. Вы яе там у руках трымаеце.

І расказаў Ленін брату, як трэба за рабочую праўду змагацца, каб не служыць ні панам, ні купцам, ні фабрыкантам, і як выгнаць іх разам з царом.

Вярнуўся брат зноў на фабрыку і пачаў другім ленінскую праўду тайнымі словамі расказваць. Адзін расказвае, а дзесяць слухаюць, дзесяць расказваюць, сто слухаюць. І пайшла ленінская праўда па ўсяму свету. Многа год хадзіла яна па фабрыках і вёсках. Узнімала яна рабочых і сялян на барацьбу. А ў Кастрычніку 1917 года абвясцілася гэта праўда зычным голасам, залпамі на ўвесь свет. Пайшлі рабочыя і сяляне бязлітаснай вайной на памешчыкаў і фабрыкантаў. А вёў іх тады сам Ленін... І ўзяла верх у Кастрычніку ленінская праўда.

З таго часу рабочыя і сяляне больш не працуюць на паноў і фабрыкантаў, гарбоў не нажываюць, зямлю слязьмі не паліваюць: самі гаспадары сваіх фабрык, сваёй зямлі і свайго жыцця.

## 209. ЯК МУЖЫК-БЯДНЯК ДАБІЎСЯ СВАЁЙ ПРАЎДЫ

Жыў-быў мужык-бабыль, здаровы, працавіты мужчына, здольны на ўсякую работу. Сухія і чэрствыя мазалі ніколі не сыходзілі з яго закаравелых рук. Але колькі ён не біўся, колькі ні матаўся, а з нужды-голаду выбіцца не мог. Хата-халупа развалілася, жонка б'ецца без кароўкі, дзеткі плачуць — есці хочуць, а самому хоць лезь у пятлю ці галавою ў пролубку. Няма і нявідна ніякага выхаду. Такая мужыцкая доля, каб век на другіх працаваць, мазалі наганяць і самому галадаць.

Вось мужык, падцягнуўшы свой жывот папругай, пайшоў дабівацца праўды, як жыць на свеце працоўнаму люду без нястач і голаду. Прыйшоў к цару і стаў прасіць яго навесці добры парадак і праўду сярод людзей, каб усім было добра жыць і працаваць. Цар скоса паглядзеў на мужыка і паслаў яго ў салдаты і далей на вайну. Мужык некалькі гадоў пацёрся ў салдатах, пабываў на вайне, атрымаў некалькі ран і вярнуўся дамоў, дзе знайшоў сваю сям'ю ў горшай бядзе і голадзе. Пачухаў сваю патыліцу мужык і падумаў: «Дык вось якая царская праўда, якія царскія парадкі». Пайшоў мужык шукаць праўду ў пана. Зняў шапку і стаў прасіць прыняць яго на работу, каб пракарміць сябе і падгадаваць сваю сям'ю. Паглядзеў пан з насмешкай на мужыка і паслаў яго батраком на свой фальварак. Праслужыў мужык год батраком на панскім фальварку і патрабаваў плату за сваю работу. Пан паслаў мужыка на канюшню і загадаў сваім слугам даць яму сто лоз гарачых за гадавую работу, а затым прагнаў яго са двара. Прыйшоў мужык дамоў і знайшоў там яшчэ большыя нястачы і гора. Пачухаў мужык патыліцу і падумаў: «Дык вось яна, панская праўда, панская ласка».

Пайшоў мужык шукаць праўду ў заможніка-кулака і стаў прасіць яго прыняць к сабе на падзённую работу, каб пракарміць сябе і падгадаваць сваю сям'ю. Кулак паглядзеў на бедняка і паставіў яго к сабе на работу з умовай — плаціць за кожныя тры месяцы акуратна. Бядняк праслужыў падзённікам тры месяцы з гакам і патрабаваў плату за сваю работу, а кулак замест платы паказаў яму дулю і прагнаў яго са двара. Прыйшоў бядняк-мужык дамоў, паглядзеў на сваіх дзяцей і падумаў: «Дык вось якая праўда ў кулакоў-жывадзёраў».

Пайшоў мужык шукаць праўду ў папа і стаў прасіць яго параіць, як бедняку выбіцца з нястачы і голаду. Поп ласкава паглядзеў на беднага мужыка і параіў яму заказаць малебен за палепшанне мужыцкага жыцця з умовай, што мужык за параду і малебен адпрацуе шэсць дзён на папоўскай гаспадарцы. Мужык хаця-нехаця згадзіўся на заказ малебна і адпрацаваў у гаспадарцы папа шэсць дзён. Але жыццё мужыка-бедняка ні капелькі не палепшала, наадварот — яшчэ пагоршала. Пачухаў мужык патыліцу і падумаў: «Дык вось яна, папоўская праўда, папоўская малітва».

Пайшоў мужык шукаць праўду па розных шляхах і напрамках. Хадзіў доўга па свету, сустракаўся з рознымі людзьмі, а праўды нідзе не знайшоў. Нарэшце, сустрэў на сваім шляху чалавека праўдзівага, каторы распытаў мужыка-бедняка, дзе ён быў, куды хадзіў і чаго шукаў. Мужык праўдзіва расказаў, што хадзіў шукаць праўду і ў цара, і пана, і заможніка-кулака, і папа, але, акрамя здзекаў з мужыка, нічога там не знайшоў. Падарожны выслухаў і сказаў яму:

— Ты крэпкі, працавіты мужык, але шукаеш праўду там, дзе яе ніколі не было і не можа быць. Калі хочаш дабіцца праўды і лепшага жыцця, ідзі за рабочым і сумесна з ім праламайце рэбры вашым царам і панам, заможнікам-кулакам і папам. Толькі такім шляхам вы сумесна з рабочым даб'ецеся сваёй праўды і лепшага жыцця для ўсіх працоўных.

Субяседнік развітаўся з мужыком, назваўся Леніным і пайшоў сваёй дарогай. Мужык падбадзёрыўся і падумаў: «Дык вось дзе сапраўдная наша праўда, дык вось якім шляхам трэба дабівацца праўды і лепшага жыцця для ўсіх працоўных».

Пайшоў мужык-бядняк за рабочым, і сумесна яны скінулі цара і прагналі паноў, кулакоў-міраедаў, капіталістаў, чыноўнікаў і папоў, устанавілі сваю, Савецкую ўладу, а зараз пад кіраўніцтвам партыі Леніна будуюць сацыялізм у сваёй краіне, дзе жыць стала лепш, жыць стала весялей для ўсіх працоўных.

## 210. ПРОСЬКА-ЗМАГАРКА

Даўным-даўно гэта было. Вельмі цяжка тады жылося на нашай вялікай зямлі. Паны ў сялян кроў смакталі, жыць добра не давалі. Вось жыла-была ў аднаго пана прыгожая сялянка Агапа. Мела яна двух сыноў-кавалёў і дачку Проську. Прыгожыя былі браты-кавалі, на ўвесь свет сваёй працай славіліся.

А такой красуні, такой прыгажуні, якой была Проська, увесь свет абыдзі — нідзе не знойдзеш. Вочы яе былі, што сінь палёў, што зоркі ясныя, што сонца залатое, рукі, што тысячы рук. Імі яна магла карміць і адзяваць увесь свет.

А запяе Проська — бег рэк становіцца, пушчы не гамоняць, птушкі не пяюць, ветры не шумяць — усе слухаюць ды слухаюць Проську-прыгажуню. Хоць і была на ўвесь свет белы найздальнейшая і прыгажэйшая, аднак кепска ёй жылося. Слязьмі горкімі яна лугі паіла, горам цяжкім лясы сушыла.

Ноч і дзень Проська з маткай і братамі на пана працавала, славу багатыра яму здабывала.

Так з году ў год гаравалі яны. Але скора мамка родная Проські не вытрымала цяжкай працы, дрэннага жыцця. Памёрла, бедная... Яшчэ горш стала жыць Проська. Угледзеў яе аднойчы пан і галава яму аж ускружылася. Надта яму падабалася Проська-прыгажуня. Загадаў ён слугам сваім у палац яе прывесці, каб сваёй палюбоўніцай зрабіць.

Паляцелі слугі панскія на конях быстрых. Сілай у братоўкавалёў сястру адабралі. Завезлі яны к пану злому, за вялікія дзверы пасадзілі. Сядзіць Проська, сумуе. Не хоча яна славы панскай, шкада ёй братоў-кавалёў, усіх бедных людзей.

Надышла цёмная-цёмная ночка. Заснулі слугі панскія. Адамкнула дзверы вялікія Проська, як сінічка, выпархнула з палаца пана-зладзея, пана-разбойніка, галубкай беленькай над хатай сваіх братоў апусцілася. Рана-ранюсенька пан аб прыгажуні сваёй успомніў. Устаў ён, адамкнуў вялікія дзверы, а там нікога няма.

Узлаваўся ён. Загадаў слугам сваім і войску Проську-прыгажуню ў палац, што б там ні стала, вярнуць. Кінуліся дзікай чарадой падлізы панскія на хату братоў-кавалёў. Але не так лёгка прышлося ўзяць. За Проську браты-кавалі заступіліся, усе сяляне, як адзін чалавек, гарой за яе сталі. Завязалася барацьба са слугамі панскімі. Біліся, біліся браты-кавалі за сястру родную, адважна змагаліся ўсе сяляне, але ж усё-такі сіла большая ака-

залася на баку паноў. Пачалі вязаць Проську, а яна, адважная, непакорная такая, смелую да людзей прамову гаворыць, навучае іх:

— Людзі добрыя, залаценькія, падыміцеся, даражэнькія, ды вазьміце вы зброю вострую, ды паўстаньце сілай грозною. А вы, браткі мае родныя, сваёй сястрыцы паслухайце, зброяй смяротэльнай к пану ў дзверы пастукайце. Куйце, братцы, мячы вострыя, узбройвайце масы бедныя, усіх паноў знішчайце, беднаму люду дарогу дайце!

Вязалі Проську, у ланцугі закоўвалі, а яна людзям праўду казала, свет ім адкрывала. І ўсе слухалі, варухнуцца ніхто не мог — так смела і праўдзіва гаварыла Проська-змагарка. Завезлі Проську-змагарку, у цямніцу яе за непакорнасць укінулі. Пан ад радасці аж заскакаў, што перамогу такую атрымаў. Назначыў ён з вялікай радасці баль.

Заззялі палацы панскія агнём яркім, вясёлай музыкай заліліся. Сабралася к яму бачана-нябачана гасцей. Усіх ён смачнай ежай частаваў, заморскім вінам паіў, лоўкімі штукарамі весяліў, прыгожымі песнямі і музыкай радаваў.

Позна весяліліся. Усім-усякім забаўляў багаты пан сваіх гасцей. Пад канец балю гасцям надакучылі забавы. Пачалі сумаваць госці. І тут успомніў пан пра Проську-прыгажуню, Проську-весялуню. Дарагіх гасцей парадаваць захацеў, сваім слугам сказаў, каб весялуню на баль ураз з цямніцы прывялі. Пабеглі слугі ў цямніцу і дзіву даліся. Жалезныя краты разломлены, а Проські і след прастыў.

Выратавалі яе браты-кавалі. Выкавалі яны сабе мячы-самасекі, надзелі шапкі-невідзімкі і прабраліся ў палацы панскія.

Паслаў быў пан пагоню вяліку, але нідзе не знайшлі Проські-змагаркі. Уцякла яна ў лес. А там многа народу сабралася. Ад паноў, вядома, усе хаваліся, каб адпомсціць паганцам за цяжкае, за беднае жыццё сялянскае.

Выбралі сяляне Проську-змагарку сваім атаманам. З таго часу сталі палаць кругом панскія палацы. Помстай гарэлі сэрцы сялян да паноў. Усё больш і больш барацьбітоў збіралася. Для ўсіх іх браты-кавалі зброю кавалі, чым маглі ўзбройвалі. Ніхто не мог перамагчы Проські-змагаркі.

Дзе яна з баявой дружынай праходзіла, там паны прападалі, людзі бедныя шчаслівымі станавіліся — не ліліся слёзы горкія, а несліся песні звонкія; дзе балоты, пустыні былі, там сады зацвілі, радасць на тым месцы хадзіла.

Вось якою заступніцай была Проська-змагарка.

Як і ў папярэдніх тамах «Казкі пра жывёл і чарадзейныя казкі» (1971) і «Чарадзейныя казкі» (1973), каментарыі складзены па наступнай схеме: даецца парадкавы нумар, назва казкі, вызначаецца яе сюжэтны тып паводле паказальнікаў казачных сюжэтаў Аарнэ — Андрэева[1] і Аарнэ — Томпсана[2], указваецца крыніца, з якой узята казка, і адзначаецца, хто запісаў твор, дзе і ад каго. Паведамляюцца таксама варыянты казкі, у тым ліку перш за ўсё беларускія, рускія, украінскія. Варыянты польскіх казак даюцца па паказальніку Ю. Кржыжаноўскага[3].

У многіх казках вызначаюцца важнейшыя ідэйна-мастацкія асаблівасці. Беларускія казкі параўноўваюцца з казкамі іншых народаў. Замежныя і дыялектныя словы тлумачацца ў канцы каментарыяў[4].

У каментарыях прыняты наступныя скарачэнні:

Андреев — Н. П. Андреев. К характеристике украинского сказочного материала. С. Ф. Ольденбургу. М.—Л., 1934, стар. 60—72.

Афанасьев — Народные русские сказки А. Н. Афанасьева. Подготовка текста и примечания В. Я. Проппа, т. I—III. М., 1957.

Бараг — Л. Бараг. Народные сказки, легенды, предания и были Башкирии. Уфа, 1969.

Балашов — Д. Балашов. Сказки Терского берега Белого моря. Л., 1970.

Бел. фальклор у суч. зап. — Беларускі фальклор у сучасных запісах. Брэсцкая вобласць. Традыцыйныя жанры. Складальнік В. А. Захарава. Мінск, 1973.

Бессараба — И. В. Бессараба. Материалы для этнографии Херсонской губернии. Сборник ОРЯС АН, т. 94, № 4. Пг., 1916.

Гиряк, II, 1966 — Українські народні казки Східної Словаччини. Упорядкування, післямова та коментарі М. Гиряка, т. 2. Пряшів, 1966.

Гиряк, III, 1969 — Українські народні казки Східної Словаччини. Упорядкування, післямова та коментарі М. Гиряка, т. 3. Пряшів, 1969.

---

[1] Н. П. Андреев. Указатель сказочных сюжетов по системе А. Аарне. Л., 1929. Агульнапрынятае абазначэнне паказальніка — АА.

[2] The Types of the Folktale. A Classifikation and Bibliography Antti Aarne's Verzeichnis der Marchnentypen (FFC N3). Translated and enlarged by Stith Thompson. Second Revision. Helsinki, 1961. Агульнапрынятае абазначэнне паказальніка — AT.

[3]. J. Krzyżanowski. Polska bajka ludowa w układzie systematycznym, t. I—II. Wrocław—Warszawa—Krakow, 1962—1963.

[4] Тлумачэнні слоў і каментарыі да казак савецкага часу дае А. С. Фядосік, ім жа складзены паказальнікі.

Гиряк, IV, 1972 — Українські народні казки Східної Словаччини. Упорядкування, післямова та коментарі М. Гиряка, т. 4. Пряшів, 1972.

Гнедич, IV — П. Гнедич. Материалы по народной словесности Полтавской губ., вып. IV. Полтава, 1916.

Господарев — Сказки Филиппа Павловича Господарева. Запись текста, вступительная статья и примечания Н. В. Новикова. Петрозаводск, 1941.

Гринченко — Б. Гринченко. Этнографические материалы, собранные в Черниговской и соседних с нею губерниях, вып. I—II. Чернигов, 1895, 1897.

Гринченко, Вес. Оповідач — Б. Грінченко. Веселий Оповідач. Чернігов, 1913.

Гринченко, Казки — Б. Гринченко. Українські народні казки, вибрані для дітей, 3-е вид. Київ, 1917.

Гулевіч — Беларускія казкі, запісаныя ад Пятра Гулевіча. Зборнік склаў П. Ахрыменка. Мінск, 1963.

Дідо-всевідо — Дідо-всевідо. Закарпатські народні казки. Запіс текстів та упорядкування П. В. Лінтура. Ужгород, 1969.

Дмитриев — М. А. Дмитриев. Собрание песен, сказок, обрядов и обычаев крестьян Северо-Западного края. Вильно, 1869.

Добровольский — В. Н. Добровольский. Смоленский этнографический сборник, ч. I. СПб, 1891.

Драгоманов — Малорусские народные предания и рассказы. Свод М. Драгоманова. Киев, 1876.

Етногр. зб. — Етнографічний збірник. Видае Етнографічна комісія наукового товариства імені Т. Шевченка у Львові. За редакцією В. Гнатюка, т. I—XXXVIII. Львів, 1896—1916.

Казки Буковини — Казки Буковини. Записав та впорядкував М. Івасюк. Ужгород, 1968.

Казкі пра жывёл — Казкі пра жывёл і чарадзейныя казкі. Складальнік К. П. Кабашнікаў. Мінск, 1971.

Калін — Закарпатські казки Андрія Каліна. Запіс текстів та вступна стаття П. В. Лінтура. Ужгород, 1959.

Карский — Е. Ф. Карский. Материалы для изучения белорусских говоров, т. I—V. СПб, 1898—1903.

Королькова — Русские народные сказки, рассказанные А. Н. Корольковой. Составитель и ответственный редактор Э. В. Померанцева. М., 1969.

Кравченко — Этнографические материалы, собранные В. Г. Кравченко в Волынской и соседних с ней губ. «Труды общества исследователей Волыни», т. V. Житомир, 1911; т. XII. Житомир, 1914.

Кругляшова — В. П. Кругляшова. Фольклор на родине Д. Н. Мамина-Сибиряка. Свердловск, 1967.

Кулиш, Записки — Записки о Южной Руси. Издал П. Кулиш, т. I. СПб, 1856; т. II. СПб, 1857.

Кулиш, Предания — Украинские народные предания. Собрал П. Кулиш, кн. I. М., 1847.

Левченко — Казки та оповідання з Поділля. Упорядкував М. Левченко, вип. I—II. Київ, 1928.

Лінтур, Сатира — Як чоловік відьму підкував, а кішку вчив працювати. Закарпатські народні казки. Гумор та сатира. Запис, впорядкування П. В. Лінтура. Ужгород, 1966.

Малинка — А. Н. Малинка. Сборник материалов по малорусскому фольклору. Чернигов, 1902.

Манжура — Сказки, пословицы и т. д., записанные в Екатеринославской и Харьковской губерниях И. И. Манжурой. Харьков, 1890.

Милорадович — В. Милорадович. Казки та оповідання, записанные на Лубенщине. Полтава, 1913.

Молдавский, Бахтин — Господин леший, господин барин и мы с мужиком. Записки о сказочниках Д. Молдавского и сказки, собранные В. Бахтиным и Д. Молдавским. М.—Л., 1965.

Нар. сказки — Народные сказки о боге, святых и попах. Русские, белорусские и украинские. Составитель М. К. Азадовский. М.—Л., 1963.

Никифоров — Севернорусские сказки в записях А. И. Никифорова. Издание подготовил В. Я. Пропп. М.—Л., 1961.

Никифоров, Опись — Опись сказочного собрания А. И. Никифорова. Севернорусские сказки в записях А. И. Никифорова. Подготовил В. Я. Пропп. М.—Л., 1961, стар. 343—380.

Померанцева, Башк.— Русское народное творчество в Башкирии. Под общей ред. Э. В. Померанцевой. Уфа, 1957.

Померанцева, Яросл.— Песни и сказки Ярославской области. Под общей ред. Э. В. Померанцевой. Ярославль, 1958.

Потявин — Народная поэзия Горьковской области. Составитель и ред. В. Потявин, вып. I. Горький, 1960.

Пропп — В. Я. Пропп. Указатель сюжетов. У кн.: Народные русские сказки А. Н. Афанасьева в трех томах, т. 3. М., 1957, стар. 454—502.

Романов — Е. Р. Романов. Белорусский сборник, вып. III. Витебск, 1887; вып. IV. Витебск, 1891; вып. VI. Могилев, 1901.

Романов. Материалы — Е. Р. Романов. Материалы по этнографии Гродненской губернии, вып. I—II. Вильно, 1911, 1912.

Рудченко — Народные южнорусские сказки. Издал И. Я. Рудченко, вып. I—II. Киев, 1869, 1870.

Сержпутовский — А. К. Сержпутовский. Сказки и рассказы белорусов-полешуков. СПб, 1911.

Сержпутоўскі, Казкі — А. К. Сержпутоўскі. Казкі і апавяданні беларусаў з Слуцкага павета. Л., 1926.

Ск. Верховины — Сказки Верховины. Закарпатские украинские народные сказки, изд. 2-е. Составитель И. М. Чендей. Ужгород, 1970.

Трад. фольклор дер.— Традиционный фольклор Владимирской деревни (в записях 1963—1969 гг.). Отв. ред. Э. В. Померанцева. М., 1972.

Укр. казки — Українські народні казки, легенди, анекдоти. Упорядкували Г. Сухобрус, В. Юзвенко. За редакцією П. Попова. Київ, 1957.

Чубинский — Труды этнографическо-статистической экспедиции в Западно-русский край. Материалы и исследования, собранные П. П. Чубинским, т. II. СПб, 1878.

Шастина — Елена Шастина. Сказки Ленских берегов. Восточно-Сибирское издательство, 1971.

Шейн — П. В. Шейн. Материалы для изучения быта и языка русского населения Северо-Западного края, т. II. СПб, 1893.

Яворский — Ю. Я. Яворский. Памятники Галицко-русской народной словесности, вып. I. Легенды, сказки, рассказы и анекдоты. Киев, 1915.

Ястребов — Материалы по этнографии Новороссийского края, собранные в Елизаветградском и Александрийском уездах Херсонской губ.

В. Н. Ястребовым. Летопись историко-филологического общества при Новороссийском университете, III. Одесса, 1894, стар. 59—260.
Barag — Belorussische Volksmärchen. Herausgegeben von L. G. Barag. Berlin, 1973, (7-е выд.).
Bar ą cz — Ks. Sadok Barącz. Bajki, freszki, podania, przysłowia i pieśni na Rusi. Lwów, 1886.
Federowski — M. Federowski. Lud białoruski na Rusi Litewskiej, t. I—III. Kraków, 1897—1903.
Gliński — A. Gliński. Bajarz polski. Zbiór pieśni, powieści i gawęd ludowych, t. I—IV. Wilno, 1853.
Karłowicz — J. Karłowicz. Podania i bajki, zebrane na Litwie. Zbiór wiadomości do antropologii krajowej, t. XI. Kraków, 1887; t. XII, 1888.
Klich — Edward Klich. Teksty białoruskie z powiatu Nowogródzkiego. Materyały i prace Komissji językowej, t. II. Kraków, 1903.
Kolberg — O. Kolberg. Chelmskie. Kraków, 1891.
Kolberg, 1888 — O. Kolberg. Lud. t. IV. Pokucie. Kraków, 1888.
Kolberg, 1889 — O. Kolberg. Basnie z Polesia. Zbiór wiadomości do antropologii krajowej, t. XIII. Kraków, 1889.
Kolberg, 1891 — O. Kolberg. Przemyskie. Kraków, 1891.
Kolberg, 1907 — O. Kolberg. Wolyń. Kraków, 1907.
Krzyż. — Julian Krzyżanowski. Polska bajka ludowa w ukladzie systematycznym, t. I—II. Wrocław—Warszawa—Kraków, 1962—1963.
Mozsyńska — Bajki i zagadki ludu ukraińskiego. Zbiór wiadomości do antropologii krajowej. IX, 1895.
Nowosielski — A. Nowosielski. Lud ukraiński, jego pieśni, bajki, podania, klechdy, zababony, obrzędy, zwyczaję, przysłowia, zagadki i t. d., t. I—II. Wilno, 1875.
Rokossowska — Z. Rokossowska. Bajki (skazki) ze wsi Jurkowszczyzny. Materyaly antropologiczno-archeologiczne i etnograficzne, t. II. Kraków, 1897.
Weryha — Podania białoruskie, zebrane przez Władysława Weryhe. Lwów, 1889.
ZWAK — Zbiór wiadomości do antropologii krajowej.

### 1. Самы вумны

АА *921 I А=АТ 921 (Куды траціцца грошы). Эпізоды сустрэчы цара з «самым вумным» і знеслаўленне вумніка простым аўчыннікам нагадваюць сюжэтны тып 922 (Бесклапотны манастыр — гл. тэкст 4). АІМЭФ, ф. 8, воп. 1, спр. 84, сш. 2. Зап. К. Кабашнікаў у г. Тураве ад Івана Якаўлевіча Земляніка, 67 гадоў, які скончыў 3 класы народнай школы. Ад яго ж запісаны тэксты 19, 33.

Гісторыя такіх казак аб разумных адказах звязана з сярэдневяковымі лацінскімі і грэчаскімі дыялогамі паміж Саламонам Мудрым і Марольфам. Гл.: Jan de Vries. Die Märchen von Klüge Ratsllosern (FFC N73). Helsinki, 1926; О. Амбойнис. Сказки об умных ответах в латышском и литовском фольклоре. Фольклор балтских народов. Рига, 1969, стар. 187—218. Змешчаны тэкст блізкіх варыянтаў у апублікаваным матэрыяле не мае.

### 2. Як селянін зрабіўся памочнікам цара

АА *921 I A=AT 921 A. АІМЭФ, ф. 9, воп. 3, спр. 13, ч. IV, л. 640. Зап. Мікола Панькоў у 1940 г. у м. Дзвінску (Латвія) ад Хрысціны Паньковай.

Часткова падобны фальклорны матэрыял прыводзіцца ў названым вышэй артыкуле О. Амбойніса.

### 3. Князь і палясоўшчык

АА *921 I A=AT 921 A. АІМЭФ, ф. 9, воп. 3, спр. 13, ч. IV, л. 620. Зап. С. Сахараў у 1940 г. у в. Стырблі Каплаўскай вол. (Латвія) ад Пятра Касінскага, 44 г. Ад яго ж запісаны тэксты 14, 15.

Казкі пра тое, як селянін загадкава адказаў на пытанне цара (Пятра Першага), куды трацяцца грошы, абавязаўся нікому не паведамляць разгадку ў адсутнасці цара, але прадаў яе за грошы, на якіх адбіты цар, баярам, даволі часта сустракаюцца ў рускіх і радзей у іншых славянскіх фальклорных зборніках.

Бел. вар.: Federowski, III, стар. 60, № 118. Рус. вар.— 13 (Пропп, стар. 484; дадаткова — Никифоров, № 7). Укр. вар.; Кулиш, Предания, I, стар. 88—89; Kolberg, 1888, IV, № 76. Польскіх — 7 (Krzyż., I, стар. 280).

### 4. Аб кролю рускім дай млынару

АА 922 (Бесклапотны манастыр). Federowski, III, стар. 13, № 28. Зап. М. Федароўскі ў канцы XIX ст. у м. Лыскава Ваўкавыскага п. Гродзенскай губ. ад Францішка Кулешы.

Даследчыкі гэтага сусветна вядомага сюжэта мяркуюць, што ён склаўся ў VII ст. на Блізкім Усходзе. Старажытныя літаратурныя версіі арабскага аўтара IX ст. Ібн-Абдзілхакама (Кароль і ганчар, які адказвае на яго пытанні, хто ёсць бог, колькі зорак, дзе цэнтр зямлі) і ў вавілонскай рэдакцыі Талмуда (Спаборніцтва загадкамі паміж Рабі Іошуа Бен-Хананья і мудрацом з Афін). У Еўропе сюжэт пачаў бытаваць не раней IX ст., а шырокае вуснае распаўсюджанне і літаратурную папулярнасць у форме фабліё, шванкаў, фацэцый набыў на Захадзе ў XIII—XVI стст. Змест дыялогаў, напрыклад, пра цану зямнога цара і бога, зведаў уплыў хрысціянскіх уяўленняў. Найбольш вядомай паэтычнай апрацоўкай падобнай казкі з'яўляецца балада нямецкага паэта Г. А. Бюргера «Der Kaiser und der Abt» (1784). У XVIII ст. казкі пра бесклапотны манастыр сталі друкавацца ў рускіх апавядальных зборніках («Забавный рассказчик», «Спутник веселых людей»). Калі ва ўсходнеславянскіх казках тыпу 922, якія адрозніваюцца сатырычнай антыклерыкальнай завостранасцю, дзеянне адбываецца ў «бесклапотным манастыры», то ў заходнееўрапейскіх, заходнеславянскіх казках, а таксама ў большасці латышскіх і літоўскіх казках імператар (кароль) і абат (ксёндз) сустракаюцца ў іншым месцы. Ва ўсходнеславянскіх казках пытанні ігумену часцей за ўсё задае цар Пётр Першы, а адказвае замест манаха-ігумена млынар (як у беларускім тэксце, які намі публікуецца) або мужык, салдат, вадавоз, пастух, якога цар ставіць начальнікам над манахамі замест ранейшага ігумена. Пытанні, якія

задае «кароль рускі» бернардыну-ксяндзу, з'яўляюцца характэрнымі ўсходнеславянскім казкам пра бесклапотны манастыр. Гл.: W. Andersen. Kaiser und Abt (FFC, N 42). Helsinki, 1923. Першая частка гэтай манаграфіі выдадзена на рускай мове: В. Андерсен. Император и аббат, т. I. Казань, 1916.

Бел. вар.: Добровольский, I, стар. 380—381, № 28; Господарев, стар. 501—502, № 54; Рус. вар.— 26 (Пропп, стар. 484; Никифоров, № 15; Молдавский, Бахтин, стар. 35—37). Укр. вар.: Чубинский, II, № 98; Етногр. зб., VI, № 287—289; VIII, № 98; Гиряк, II, 1966, № 68. Польск.— 11 (Krzyż., I, стар. 278—279).

### 5. Пётр загадыiць сваім сенаторам, як неба высока і як зямля глыбока. Мужык Пятру расказваець, куда ён зарабатак дзяваець: якія дзеньгі за доўг плаціць, якія ў доўг аддаець, якія на вецер пушчаець

АА 922 (Бесклапотны манастыр) + *921 I (АТ 921 А. Куды траццца грошы). Добровольский, I, стар. 380—381, № 23. Зап. У. М. Дабравольскі ў 1870—1880-х гадах у заходняй частцы Смаленскай губ.

Пра сюжэт тыпу 922 гл. у каментарыі да папярэдняга тэксту. Гісторыя казак тыпу АТ 921 А пачынаецца з сярэдневяковых лацінскіх дыялогаў паміж Саламонам Мудрым і Марольфам, звязана з лубачнымі кнігамі. Першая ўсходнеславянская публікацыя у «Письмовнике» М. Курганава (1769). Бел. вар.: Federowski, III, стар. 60, № 118. Рус. вар.— 13. (Пропп, стар. 484; Никифоров, № 7). Укр. вар.: Кулиш, Предания, стар. 88—89; Kolberg, 1888, IV, № 76. Польск.— 7 (Krzyż., I, стар. 280).

### 6. Два браты

АА 875 (Мудрая дзяўчына). Романов, III, стар. 390—399, № 12. Зап. Е. Раманаў у 1870—1880-х гадах у с. Нісімкавічы Рагачоўскага п. Магілёўскай губ.

Сюжэт вельмі папулярны. Яго літаратурная гісторыя і гісторыя вуснага распаўсюджання асветлены ў манаграфіях: Jean de Vries. Die Märchen von klugen Ratseloserung (FFC, N 73). Helsinki, 1928; A. Wesselski. Die Knabenkönig und das kluge Mädchen. Prag, 1929.

Бел. вар.: Добровольский, I, стар. 245—257, № 31; Шейн, II, стар. 197—199, № 92; Federowski, III, стар. 59—60, № 117; стар. 152, № 270; Klich, стар. 21—22, № 14; стар. 111—114, № 2; Weryha, стар. 66—71, № 20; Господарев, стар. 396—400, № 30; стар. 426—427, № 37; параўн. Добровольский, I, стар. 572, № 14 (Пётр і Фяўронія — фрагмент). Рус. вар.— 26 (Пропп, стар. 482; Королькова, 1969, стар. 285—287). Укр. вар.— да 15 (гл. бібліяграфічныя ўказанні да III тома казак Афанасьева (1940), стар. 242; дадаткова: Лінтур, Сатира, стар. 237—241; «Дідо-всевідо», стар. 208—212). Польск.— 23 (Krzyż., I, стар. 267—268). Гэты варыянт сюжэта і варыянт са зборніка Шэйна вылучаюцца вострай сацыяльнай накіраванасцю — антыкулацкай і антыпамешчыцкай (мудрая дзяўчына процістаіць пану-самадуру).

### 7. Пра дзярэўню і крэсцьян

АА 875. АІМЭФ, ф. 8, воп. 1, спр. 8, л. 1. Зап. М. Грынблат у 1946 г. у в. Доўгае Старобінскага р-на Бабруйскай (цяпер Мінскай) вобл. ад Яўхіма Дзям'янавіча Жыліча, 73 г.

Пра казкі гэтага тыпу гл. у каментарыі да папярэдняга тэксту, там жа адзначаны варыянты. Казка Жыліча адрозніваецца ад казкі «Два браты» радам эпізодаў. Эпізоды «Хто ажарабіўся — кол ці кабыла» і «Вазьмі, што табе люба і міла» з'яўляюцца традыцыйнымі для ўсходнеславянскіх казак тыпу 875. Апошні эпізод вядомы па старажытнарускай «Повести о Петре и Февронии» (XV—XVI стст.), якая мае фальклорную аснову.

### 8. Мужык і кроль

АА —. АТ—. Паводле Паказальніка Кржыжаноўскага № 1660. Federowski, III, стар. 59, № 116. Зап. М. Федароўскі ў канцы XIX ст. у в. Кавалёўцы Ваўкавыскага п. Гродзенскай губ. ад Льяша Шавеля.

Гэты казачны сюжэт знайшоў адлюстраванне ў гістарычнай аповесці польскага пісьменніка К. Глінскага «Mąż krwawy» (Warszawa, 1914). Бел. вар. не адзначаны. Польск.— 6 (Krzyż., II, стар. 120).

### 9. Янка-войт

АА—. АТ 911* («Пану верна не служы...»). Романов, III, стар. 388—389, № 11. Зап. Дземяшкевіч у 1870—1880-х гадах у в. Барок Сенненскага п. Магілёўскай губ.

Казкі гэтага тыпу адзначаны толькі ў беларускім, украінскім і польскім фальклорным матэрыяле. Бел. вар.: Шейн, II, стар. 241—242, № 113. Укр. вар.: Чубинский, II, стар. 530—537, № 25—28; Драгоманов, стар. 125; Гринченко. Из уст народа, стар. 215—217; Левченко, стар. 174—178, № 242—243. Польск.— 3 (Krzyż., I, стар. 275).

### 10. Дурань, дурань, а разумным стаў

АА 851 (Неразгаданыя загадкі). Federowski, III, стар. 106—107, № 194. Зап. М. Федароўскі ў канцы XIX ст. у в. Дрыга Сакольскага п. Гродзенскай губ. ад Яна Дзежкі.

Гісторыя сюжэта пра царэўну, якая хацела выйсці замуж толькі за таго, хто загадае загадку, якую яна не здолее адгадаць, звязана з радам выдатных твораў сусветнай літаратуры: паэмай Нізамі «Сем прыгажунь», п'есай К. Гоцці «Прынцэса Турандот» і яе перапрацоўкай Ф. Шылера. Ва ўсіх усходнеславянскіх казках гэтага тыпу, як і ў казцы Я. Дзежкі, герой (дурань або царэвіч, пастух) намякае загадкамі, што па дарозе загінуў яго конь, з'еўшы атручаны хлеб, затым атруціліся гэтым жа хлебам крумкачы, а іх мясам атруціліся разбойнікі. Бел. вар. не адзначаны. Рус. вар.— 14 (Пропп, стар. 489). Укр. вар.— 6 (пяць указаны ў каментарыях да III тома казак Афанасьева (1940), стар. 421); дадаткова: Ск. Верховины, стар. 108—110. Польск.— 12 (Krzyż., I, стар. 264—265).

*Дашчкі* — дошкі.
*Затруты* — атручаны.

### 11. Цана лусты хлеба

АА—. АТ—. Друк. з газеты «Шлях Ільіча» (Слуцк, 7 снежня 1969 г.). Зап. вучань 9 класа Слуцкай завочнай СШ С. Бухалаў у 1969 г. у в. Арыжня Слуцкага р-на Мінскай вобл. ад Зінаіды Бухалавай.

### 12. Стары бацька

АА 981* = АТ 981 (Чаму перасталі забіваць старых). Сержпутовский, стар. 18—19, № 8. Зап. А. Сержпутоўскі ў 1890—1900-х гадах у с. Вялікі Рожын Слуцкага п. Мінскай губ. (цяпер Салігорскі р-н Мінскай вобл.) ад стогадовага дзеда Рэдкага. Пра гэтага казачніка гл. у прадмове да зборніка А. Сержпутоўскага «Сказки и рассказы белорусов-полешуков» (1911) і ў манаграфіі Л. Барага «Беларуская казка». Мінск, 1969, стар. 51—55 і інш. Гл. таксама тэксты 80, 146, 190, 191, 193, запісаныя ад Рэдкага.

Як мяркуе Ф. Паўдлер, аўтар манаграфіі «Die Volkserzählung von der Abschaffung der Altentottung» (FFC, N 21. Helsinki, 1937), казкі гэтага тыпу маюць старажытнагрэчаскае паходжанне. Фрагмент гэтага сюжэта вядомы з егіпецкага папіруса, які датуецца 420 г. да н. э. Літаратурная гісторыя такіх казак звязана з радам папулярных твораў са сярэдневяковых зборнікаў: «Dolopotos», «Schimph und Ernst», «Gesta Romanorum» і інш. У Паказальніку АТ ёсць спасылкі на рускі, сербахарвацкі, літоўскі, шведскі, італьянскі, турэцкі і кітайскі фальклорны матэрыял. Бел. вар.: Романов, IV, стар. 180—183, № 30—33; Добровольский, I, стар. 236; Federowski, II, стар. 126—127, № 86; стар. 211—212, № 196, 197. Рус. вар.: Ончуков, № 186; Королькова, 1969, стар. 288—289. Укр. вар.: Гринченко, II, № 115; Манжура, стар. 143; Левченко, № 289; «Киевская старина», 1885, VI, стар. 354—356; «Живая старина», 1908, XVII, вып. 2, стар. 157; Польск.— 5 (Krzyż., I, стар. 299).

### 13. За старою галавою, як за пнём

АА—. АТ—. Далучаюцца да сюжэтнага тыпу 981. Federowski, III, стар. 28—29, № 68а. Зап. М. Федароўскі ў канцы XIX ст. у в. Крэслы Слонімскага п. Гродзенскай губ. ад селяніна Аляксандра Лашкевіча. Ад яго ж запісан тэкст 157.

Вар. не адзначаны.

### 14. Скамарох і пан

АА—.АТ—.Гэты тэкст у жанравых адносінах займае прамежкавае становішча паміж вусным расказам-быллю і казкай. АІМЭФ, ф. 9, воп. 3, спр. 13, ч. IV, л. 628. Зап. С. Сахараў у 1940 г. у в. Стырблі Каплаўскай вол. (Латвіі) ад селяніна Пятра Касінскага. Ад яго ж запісаны тэксты 3, 15.

### 15. Сцямлівы селянін і цар

АА 1610 (Дзяльба падарункаў і пабоеў) + *1637 (=АТ 1557. «Перадай далей!»). Канец «Селянін адказвае на пытанне, колькі цар каштуе» нагадвае казкі тыпу 922 (Бесклапотны манастыр). АІМЭФ, ф. 9, воп. 3,

спр. 13, ч. IV, л. 632. Зап. С. Сахараў у 1940 г. у в. Стырблі Каплаўскай вол. (Латвія) ад Пятра Касінскага, 44 г. Ад яго ж запісаны тэксты 3, 14.

Гісторыя сюжэта аб дзяльбе ўзнагароды звязана з літаратурнымі помнікамі старажытнага ўсходу і еўрапейскімі апавядальнымі зборнікамі XIV—XVII стст. (Масуди «Тысяча и одна ночь», «Триста новелл Ф. Сакетти», № 195, Г. Бебеля «Фацеции», № 56, И. Паули «Schimph und Ernst», № 613, польскія фацэцыі, адзначаныя ў Паказальніку Кржыжаноўскага). У казцы П. Касінскага селянін, які атрымаў ад цара за свой падарунак тры аплявухі, дае адну аплявуху камердынеру, другую прыдзверніку і трэцюю вартаўніку, якім раней паабяцаў палавіну царскай узнагароды. Нярэдка ж у казках тыпу 1610 мужык, які абяцаў палавіну ўзнагароды генералу, дзеліць з ім палавіну розгаў ці аддае генералу і сваю палавіну, калі той атрымаў першую палавіну (гл. тэксты 16, 17). Бел. вар.: Шейн, II, стар. 200—203, № 93, 94; Federowski, III, стар. 231, № 461; Gliński, IV, № 11; Сержпутовский, стар. 71—72, № 38. Рус. вар.— 3 (Пропп, стар. 395). Укр. вар.— 12 (тэксты дадаткова да ўказанняў Больтэ-Поліўкі ўлічаны ў каментарыях да III тома казак Афанасьева (1940, стар. 471); гл. таксама: Лінтур, Сатира, стар. 27—29). Польск.— 10 (Krzyż., II, стар. 101—102).

Арэал распаўсюджання сюжэта «Перадай далей» абмежаваны еўрапейскімі краінамі. У апублікаваным усходнеславянскім фальклорным матэрыяле адзначаны толькі два тэксты: Господарев, стар. 376—395, № 29; Смирнов, № 199. У казцы Касінскага селянін перад тым, як вярнуць аплявуху генералу, расказвае прытчу. У іншых варыянтах знаходлівы герой абыходзіцца без прытчы: прыдворныя, каб падвесці яго пад пакаранне, садзяць селяніна за абедам побач з царом і пачынаюць даваць аплявухі адзін аднаму са словамі: «перадай далей!»; чарга даходзіць да мужыка (салдата або блазна), які павінен ударыць цара, але ён адразу вяртае аплявуху суседу — генералу са словамі: «атрымлівай назад!».

Пытанне «колькі я каштую» цар задае ў абсалютнай большасці апублікаваных казак тыпу 922 і атрымлівае адказ — «дваццаць дзевяць рублёў» (таму што Хрыстос быў прададзены Іудам за трыццаць срэбранікаў, а цар зямны каштуе танней за цара нябеснага) — параўн. тэкст 4.

### 16. Мужык і цар

АА 1610. Шейн, II, стар. 200—203, № 94. Зап. настаўнікам народнага вучылішча Н. Нікалаевічам у XIX ст. у в. Святошыцы Горацкага п. Магілёўскай губ.

Гл. каментарый да тэксту 15.

*До* — досыць, хопіць.

*Пашэндзеў* — паглядзеў.

### 17. Пра царскага генерала і мужыка

АА 1610. АІМЭФ, ф. 13, воп. 3, спр. 19, сш. 18, л. 1. Зап. С. Эрліх у 1946 г., ад каго і дзе запісана не адзначана.

Гл. каментарый да тэксту 15.

### 18. Якую кум у кума гасціну меў

АА—.АТ—. Далучаецца ў асноўным да сюжэтнага тыпу 1572. Federowski, III, стар. 155—156, № 278. Зап. М. Федароўскі ў канцы XIX ст. у в. Куклічы Ваўкавыскага п. Гродзенскай губ. ад сялянкі Агаты Праснячыхі.

Бел. вар.: Дабравольскі, I, стар. 709, № 20 (гаспадар палохае вельмі доўга гасцяваўшага ў яго кума войтам і вязе дадому ў мяшку быццам для таго, каб не бачыў войт; крычыць, пераймаючы голас войта, і б'е па мяшку). Нагадвае польскія казкі-анекдоты аб хітрыках войта: паводле Паказальніка Кржыжаноўскага — № 1336 d, e.

### 19. Карчмар і мужык

АА—.АТ—.Далучаецца да сюжэтнага тыпу АТ 1336. АІМЭФ, ф. 8, воп. 1, спр. 84, сш. 2, л. 37. Зап. К. Кабашнікаў у 1963 г. у г. Тураве ад Івана Якаўлевіча Земляніка, 67 г. Ад яго ж запісаны тэксты 1, 33.

Сюжэт пра дурня, які схаваўся ў мяшок ад уяўных лясных разбойнікаў і быў абрабаваны і збіты сваім фурманам, мае сярэдневяковае паходжанне. Ён вядомы, напрыклад, па польскіх фацэцыях (гл. спасылкі ў Паказальніку Кржыжаноўскага). Бел. вар.: Романов, III, стар. 430—431, № 10; Сержпутовский, стар. 60, № 32; Federowski, III, стар. 226, № 451—452; Gliński, IV, № 10. Укр. вар.: Гринченко, II, стар. 228—229, № 169; Nowosielski, II, стар. 221—225; ZWAK, VIII, 1883, стар. 238; Левченко, стар. 258—259, № 400; Казки Буковини, стар. 16—18. Польск.— 4 (Krzyż., II, стар. 42—43).

### 20. Як стражнік хітра сала адабраў

АА—.АТ—.Federowski, III, стар. 160, № 282. Зап. М. Федароўскі ў канцы XIX ст. у в. Дварчаны Ваўкавыскага п. Гродзенскай губ. ад Марысі Гарбачыхі.

Традыцыйным для ўсходнеславянскага рэпертуара з'яўляецца другі анекдатычны сюжэт пра крадзеж сала — АА 1525*J=АТ 1525 M*=1624 B*: злодзей прапануе гаспадару ўкрадзенае ў яго ж сала, якое быццам даў чорт, або пытаецца, «ці не патрэбна сала?», «ці не былі тут нашы?». Параўн.: Federowski, III, стар. 135, № 242; Шейн, II, стар. 196—197, № 91; стар. 327, № 165; стар. 332, № 175; рус. вар.— Афанасьев, III, № 487; укр. вар.— Афанасьев, III, № 473 (у каментарыях да III тома казак Афанасьева (1940) адзначана 7 украінскіх казак-анекдотаў такога тыпу; гл. таксама: Левченко, № 598). Падобны польскі анекдот улічаны ў Паказальніку Кржыжаноўскага (II, стар. 76).

*Ганавіцы* — нагавіцы.

### 21. Аб Сахарку-злодзею

АА 1525 А (Крадзеж каня, папа і інш.). Federowski, III, стар. 145—147, № 259. Зап. М. Федароўскі ў канцы XIX ст. у в. Рудаўка Ваўкавыскага п. Гродзенскай губ. ад Антона Жукоўскага.

Гісторыя гэтага сусветна-папулярнага сюжэта звязана з арабскімі і еўрапейскімі літаратурнымі помнікамі (апавядальнымі зборнікамі) эпохі сярэднявечча — Масудзі, Манеці, Страпаролы, Паулі і інш. Першыя ўсходнеславянскія літаратурныя апрацоўкі казак пра спрытнага злодзея адносяцца да XVIII ст. (у зб. «Старая погудка», «Русские сказки» В. Лёўшына). Бел. вар.: Federowski, II, стар. 255—256, № 274; III, стар. 237, № 249; стар. 140—142, № 255; стар. 147—148, № 260; Klich, стар. 85—87, № 1; Господарев, стар. 505—510, № 56. Рус. вар. — 42 (Пропп, стар. 491; Никифоров, № 57; Молдавский, Бахтин, стар. 166—171; Бараг, № 11). Укр. вар.— 28 (Андр., Укр.). Польск.— 45, Krzyż., II, стар. 71—73; дадаткова: «Literatura ludowa. Ziemia Lomżyňska i Wiska». Warszawa, 1962, стар. 73—74; A. Lozowoj. Opowieści ludu spiskiego. Warszawa, 1967, стар. 267). Эпізод выкрадання папа (Сахарка выдае сябе за анёла і абяцае падняць папа ў мяшку на неба) з'яўляецца традыцыйным для казак тыпу 1525 А, але сустракаецца даволі рэдка і нагадвае казкі тыпу 1737 — «Поп у мяшку»: параўн. Federowski III, стар. 136, № 245; Романов, III, стар. 410—413, № 19; Сержпутовский, стар. 52—53, № 27. Казка «Аб Сахарку-злодзею», якая мае характэрную ўсходнеславянскім варыянтам гэтага сюжэта сатырычную антыпамешчыцкую і антыпапоўскую завостранасць, адрозніваецца самабытнай трактоўкай галоўнага героя — дурня, які робіць усё быццам неўпапад і разам з тым спрытна.

### 22. Як Іванушка навучыўся красці і ажаніўся на дачцы пана

АА 1525 А (Крадзеж каня і шкатулкі). Романов. Материалы, II, стар. 377—378, № 20.

Пра сюжэтны тып 1525 А гл. у каментарыі да тэксту 21. Уступны эпізод «Дурань і яго разумныя браты дзеляць бацькоўскую спадчыну» з'яўляецца традыцыйным для ўсходнеславянскіх казак не толькі дадзенага тыпу, але і тыпу 1535 (Дарагая шкура) — параўн., напрыклад, тэкст 44.

*Бардзо гожа* — вельмі прыгожая.

### 23. Пра злодзея

АА 1525 А+1525*=1525* (Крадзеж быка: хвост аднаго быка ў руцэ другога, быццам другі з'еў першага). АІМЭФ, ф. 8, воп. 2, спр. 15, сш. 2, л. 37. Зап. К Кабашнікаў у 1969 г. у в. Сінкевічы Лунінецкага р-на Брэсцкай вобл. ад А. Р. Федаровіча, 66 г. Ад яго ж запісан тэкст 143.

Пра казкі тыпу 1525 А гл. у каментарыі да тэксту 21. Сюжэт-матыў 1525 Р* (нярэдка кантамінуецца з тыпам 1525 А) адзначаны ў Паказальніку АТ толькі ў літоўскім, эстонскім і рускім фалькпорным матэрыяле, але сустракаецца і ў беларускіх зборніках: Federowski, III, стар. 139—140, № 254; Карский, IV, стар. 195—197 (параўн. рус. вар.: Афанасьев, III, стар. 383). У казцы «Пра злодзея» сюжэт атрымлівае больш традыцыйнае развіццё, чым у казцы «Аб Сахарку-злодзею»: бацька выпрабоўвае здольнасці сваіх сыноў і пераконваецца ў прызванні малодшага да крадзяжу; той спрытна крадзе з панскага статку быка, спойвае вартаўнікоў і крадзе ўначы з канюшні каня, выкрадае сарочку жонкі пана (гэтых эпізодаў няма ў казцы аб Сахарку). Своеасаблівая тут іранічная канцоўка: злодзею прысуджаюць дыплом.

### 24. Аб злодзею Кліну

АА 1525 Д (Герой падманвае зладзеяў: кідае на дарозе адзін бот, затым другі)+1525 А. Federowski, III, стар. 140—141, № 255. Зап. М. Федароўскі ў канцы XIX ст. у в. Красна Ваўкавыскага п. Гродзенскай губ. ад селяніна Чырвоніка.

У Паказальніку АТ, акрамя еўрапейскіх, улічаны варыянты сюжэтнага тыпу 1525 Д, запісаныя ў Індыі і Лацінскай Амерыцы. Пра тып 1525 А гл. каментарыі да тэкстаў 15, 16, 17. Эпізод крадзяжу жонкі пана, які адсутнічае ў казках «Аб Сахарку-злодзею» і «Пра злодзея», нярэдка сустракаецца ў казках гэтага тыпу ў многіх народаў. Імя Клін — скажонае «Клім». Клімам (Клімко) называецца герой у радзе апублікаваных рускіх, беларускіх і ўкраінскіх казках пра спрытнага злодзея.

*Украд козэ* — украў казу.
*Украднеш кровэ* — украдзеш карову.
*Украднэ* — украў.
*Кеды* — калі.
*Дзісяй уноцы* — сёння ўначы.
*Се* — сябе.
*Жжэбца* — жарабца.
*Добжэ — добра.*

### 25. Майстар-злодзей

АА 1525* С I (Злодзей некалькі разоў прыкідваецца, што павесіўся на дрэве ля дарогі; людзі, што праязджаюць, вяртаюцца і пакідаюць коней, якіх крадзе злодзей) + 1525 Д + 1525 А (часткова: эпізоды крадзяжу сарочкі каралевы і крадзяжу печані з каралеўскага стала). Federowski, III, стар. 143—145, № 258. Зап. М. Федароўскі ў канцы XIX ст., у в. Кузінцы Ваўкавыскага п. Гродзенскай губ. ад Юлека Баярчука. Ад яго ж запісан тэст 164.

Гл. каментарыі да тэкстаў 21, 22, 23, 24. Варыянты сюжэтнага тыпу АА 1525* С I адзначаны толькі ў рускім фальклорным матэрыяле: 4 вар. (Пропп, стар. 491). У казцы «Майстар-злодзей» своеасабліва распрацаваны эпізод выкрадання печані з каралеўскага стала (злодзей па чарзе выпускае з мяшка на дзядзінец трох зайцоў). Арыгінальная развязка: злодзей узнагароджваецца за сваю спрытнасць тым, што бярэ шлюб з каралеўнай.

*А цо ж ты повеш?* — А што ж ты скажаш?
*Прышэчы* — прыйшоўшы.
*Утэды* — тады.
*Вясціме* — будзе весці.
*З'очыў* — убачыў.

### 26. Поп і хітры мужык-злодзей

АА 1525 А (Крадзеж коней і сарочкі пападдзі) + 1740 (свечкі на спінах у ракаў). АІМЭФ, ф. 8, воп. 1, спр. 54, сш. 1, л. 35. Зап. А. Фядосік у 1960 г.у в. Лешня Капыльскага р-на Мінскай вобл. ад В. С. Гаршчэні.

Гэта кантамінацыя сюжэта з'яўляецца традыцыйнай, але сустракаецца рэдка. Пра тып 1525 А гл. у каментарыі да тэксту 21.

Да тыпу 1740. Шведскі фалькларыст В. Люнгман звязвае паходжанне гэтага сюжэта з тым, што ў XVI ст. пратэстанцкія свяшчэннікі абвінавачвалі каталіцкіх у афёры: тыя быццам бы ставілі запаленыя свечкі на спіны ракаў і пускалі ракаў уначы па могільніку, выдаючы агеньчыкі за блукаючыя душы. Сюжэт распаўсюджаны пераважна ў краінах Усходняй Еўропы, часта кантамінуецца з сюжэтам тыпу 1737. Бел. вар.: Шейн, II, стар. 11—15, № 8; Federowski, III, стар. 136, № 245; стар. 137—138, № 249; Сержпутовский, стар. 27; стар. 52—53; стар. 63—64, № 34. Рус. вар.: Никифоров, № 57; Бараг, № 12. Укр. вар.: Чубинский, II, стар. 620, № 89; Етногр. зб., IX, стар. 14, № 8; Казки Буковини, стар. 33—35. Польск. — няма.

## 27. Міхей-кравец і Марцін-шавец

АА 1525 E (Зладзеі і іх вучань) + *1525 I (=AT 1525 K. Каму павінна дастацца футра?) + 950 (Дзядзька і пляменнік) + 1740 (Свечкі на спінах у ракаў) + 1737 (Поп у мяшку падымаецца на неба). Романов, III, стар. 410—413, № 19. Зап. Е. Раманаў у другой палавіне XIX ст. у в. Шарахоўскія Буды Рагачоўскага п. Магілёўскай губ. ад Максіма Пятрова, 50 г., непісьменнага.

Да тыпу 1525 E. У Паказальніку AT улічаны нешматлікія фальклорныя тэксты, запісаныя ў еўрапейскіх краінах і Турцыі. Першая ўсходнеславянская літаратурная апрацоўка: В. Левшин. Русские сказки. М., 1780, «Пра злодзея Цімона». Параўн. Господарев, стар. 536—538, № 58. Рус. вар. — 4 (АА, стар. 89; дадаткова: А. Новикова, А. Осовецкий. Сказки Куприянихи. Воронеж, 1937, № 49). Польск.— 6 (Krzyż., II, стар. 75).

Да тыпу AT 1525 K. У Паказальніку AT улічаны толькі рускія і літоўскія тэксты. Першая ўсходнеславянская апрацоўка: казка «Пра злодзея Цімона», гл. В. Левшин. Русские сказки. Бел. вар.: Federowski, III, стар. 98—100, № 189 (крадзеж залатога кубка); Klich, стар. 82—83, № 1 (крадзеж царскай кароны). Рус. вар. — 12 (Пропп, стар. 491—492). Укр. вар. — 8 (тэксты пералічаны ў каментарыях да III тома казак Афанасьева (1940), стар. 144).

Да тыпу 950. Старажытная егіпецкая версія пераказана на аснове тэкста грэчаскага аўтара Еўгемона з Цырэны (Лівія) — гл. Геродот. История в девяти книгах. Л., 1972, стар. 116—117. Літаратурны лёс казак тыпу 950 звязаны з індыйскімі (санскрыцкімі) зборнікамі «Панчатантра» і «Катхасарытсагара» (разнавіднасць «Самадэвы»), кітайскім зборнікам «Трыпітака» (пераклад з санскрыту), лацінскім зборнікам XIII ст. «Dolopotos» і сярэдневяковымі фабліё: гл. J. Bedie. Les Fabliaux. Paris, 1925, стар. 107, 448. Старадаўні ўсходнеславянскі тэкст: руская казка пра злодзея Шыбарша, яго дзядзьку Барма і цара Івана Васільевіча, запісаная ў сярэдзіне XVII ст. англічанінам С. Колінзам. Даследаванне: А. Н. Веселовский. Сказки об Иване Грозном. Собр. соч., т. 16. Л., 1938, стар. 149—166. Кантамінацыя сюжэтных тыпаў 950 і 1525 з'яўляецца традыцыйнай для ўсходнеславянскіх казак і казак іншых краін Еўропы.

Сюжэтныя тыпы 1740 і 1737 часцей за ўсё сустракаюцца ў спалучэнні адзін з другім. Пра тып 1740 гл. у каментарыі да тэксту 27.

Да тыпу 1737. Старадаўні літаратурны тэкст у зборніку Страпаролы «Прыемныя ночы» (пач. XVI ст.). У Паказальніку AT улічаны казкі, за-

пісаныя ў розных геаграфічных раёнах Еўропы, Азіі і Амерыкі. Бел. вар. адзначаны ў каментарыі да тэксту 15. Рус. вар.— 6 (Пропп, стар. 493; Бараг, № 12). Укр. вар. дадаткова да Паказальніка Больтэ-Полiўкі ўлічаны ў каментарыях да III тома казак Афанасьева (1940, стар. 443); гл. таксама Казки Буковини, 1969, стар. 33—35. Польск.— няма.

Казка «Міхей-кравец і Марцін-шавец» мае цэльную, хоць і складаную кампазіцыю і адрозніваецца дынамічнасцю сюжэта.

### 28. Як і з дурня часам разумны

АА *1525 I (=АТ 1525 К*. Каму павінен дастацца залаты кубак). Federowski, III, стар. 98—100, № 189. Зап. М. Федароўскі ў канцы XIX ст. у в. Вішневічы Ваўкавыскага п. Гродзенскай губ. ад Ёзуба Смаляра.

Вар. гэтага сюжэтнага тыпу названы ў каментарыі да тэксту 26. У большасці ўсходнеславянскіх варыянтаў двое крадуць у пана футра, а не кубак.

*Псы шчэкаё* — сабакі брэшуць.

*Маказын* — склад.

*Баяжу, а поведз мі байкэ, бо цось спаць не могэ* — Казачнік, раскажы мне казку, бо штосьці спаць не хочацца.

*Яко я юж пану оповем байкэ?* — Якую ж я пану раскажу казку?

### 29. У якім небе пан быў

АА *1525 II (=АТ 1525* = 1525. Двое крадуць, а іх таварыш у гэты час гаворыць з тым, каго абкрадаюць) + 1740 (Свечкі на спінах у ракаў)+1737 (Пан у мяшку паднімаецца на неба). Federowski, III, стар. 137—138, № 249. Зап. М. Федароўскі ў канцы XIX ст. у в. Дрыга Сакольскага п. Гродзенскай губ. ад Паўла Дзежкі.

Да тыпу АТ 1525*. У Паказальніку АТ улічаны толькі рускія, літоўскія, эстонскія, сербскахарвацкія і індыйскія фальклорныя тэксты. Бел. вар.: Романов, III, стар. 427, № 23; Federowski, стар. 133—135, № 239—241; Господарев, стар. 539—540, № 69. Рус. вар.— 7 (Пропп, стар. 492). Укр. вар. — 12 (дадаткова да 11 тэкстаў, указаных у каментарыях да III тома казак Афанасьева (1940), трэба ўлічыць украінскі тэкст, апублікаваны ў кнізе: В. Шимановский. Звуковые и формальные особенности говоров Холмской Руси. Варшава, 1897).

Аб сюжэтных тыпах 1740 і 1737 гл. у каментарыях да тэкстаў 26, 27. Там жа адзначаны варыянты. Часцей за ўсё ў казках гэтага тыпу высмейваецца поп.

*Баяжу, а обач, цо так псы шчэкаё* — Баяру, паглядзі, што гэта так сабакі скуголяць.

*Распэндза* — раскідвае.

*Цо* — што.

*Но, веш цо, даруе тобе, тылё жэбы ты тамтэму пану зробіл фігля* — Але, ведаеш што, дарую табе, толькі каб ты накпіў з таго пана.

*Хцэ* — хоча.

*Нех* — няхай.

## 30. Крадзеным, як той кажа, не пасыцееш

АА—.АТ—. Federowski, III, стар. 33—34, № 77. Зап. М. Федароўскі ў канцы XIX ст. у в. Кукелкі Ваўкавыскага п. Гродзенскай губ. ад Пранціся Сідаркевіча.

Уступны эпізод (Бацька выпрабоўвае здольнасці сваіх сыноў) нагадвае казкі тыпу 1525, але гэта па сутнасці не казка, а прытча. Варыянты не адзначаны.

*Што-коляк* — што-небудзь.

*Бало* — бывала.

## 31. Як разумны мужык гусь дзяліў

АА *1580 = АТ 1533. АІМЭФ, ф. 13, воп. 10, спр. 40, сш. 35. Зап. О. Трафімчык у 1953 г. у в. Шчорсы Любчанскага (цяпер Навагрудскага) р-на Гродзенскай вобл.

Гісторыя сюжэта пра тое, як бедны мужык прынёс пану ў падарунак гусь і спрытна раздзяліў яе, пакінуўшы большую частку сабе, вядома з помнікаў старажытнаяўрэйскай пісьменнасці VII ст. «Мідраш Эха Рабаты» і больш позніх еўрапейскіх літаратурных помнікаў — нарвежскай «Магус-сагі» (канец XII — пачатак XIV ст.), нямецкіх шванкаў І. Паулі і Г. Сакса (XV—XVI стст.), польскіх фацэцый (XVI—XVII стст.) і рускага рукапіснага зборніка «смяхотных аповесцей», перакладзенага з польскай мовы ў XVII ст. (гл. «Памятники древней письменности», 1878—1879, стар. 108). Першая ўсходнеславянская публікацыя — у лубачнай кніжцы «Разные похождения и сказки, принадлежащие к похождениям Ивана Гостиного сына». СПб, 1778. Казка гэтага тыпу ўвайшла ў пераказе Л. М. Талстога ў яго «Третью рускую книгу для чтения». У Паказальніку АТ, акрамя еўрапейскіх, улічаны фальклорныя тэксты, запісаныя ў Індыі. У фальклоры некаторых цюркскаязычных і іранаязычных народаў анекдот пра дзяльбу гусі адносіцца да паходжанняў Насрэддзіна. Бел. вар.: Federowski, III, стар. 149—150, № 261: Гулевіч, стар. 51—55; Gliński, IV, № 11; Господарев, стар. 431—432, № 39. Рус. вар. — 14 (Пропп, стар. 494; Молдавский, Бахтин, стар. 65—66; Королькова, 1969, стар. 326—334). Укр. вар.: Малинка, стар. 356—357, № 72; Левченко, № 309; Лінтур. Сатира. стар. 68—69 (=Ск. Верховины, стар. 80—82). Польск. — 3 (гл. Krzyż., II, № 1533).

## 32. Як мужык хітра гусь падзяліў

АА *1580 = АТ 1533. Federowski. III, стар. 149—150, № 261. Зап. М. Федароўскі ў канцы XIX ст. у в. Жухава Сакольскага п. Гродзенскай губ. ад Паўла Дзежкі.

Гл. каментарый да тэксту 31. Варыянты, у якіх багаты брат спрабуе раздзяліць гусь, але церпіць няўдачу, сустракаюцца ва ўсходнеславянскім матэрыяле даволі часта.

## 33. Дагадаўся

АА—. АТ—. Нагадвае казкі пра тое, як багаты брат няўдала пераймаў беднага брата, які падзяліў хітра гусь і быў узнагароджаны панам — тып АА *1580 = 1533 (гл. ніжэй). АІМЭФ, ф. 8, воп. I, спр. 84, сш. 2. л. 33. Зап. К. Кабашнікаў у 1963 г. у Тураве (Гомельская вобл.) ад І. Я. Земляніка. Гл. тэксты 1, 19, запісаныя ад яго ж. Вар. няма.

## 34. Мужык і пан

АА *1580 (=АТ 1533. Дзяльба гусі)+1539 (Блазен). Г у л е в і ч, стар. 51—55. Зап. П. Ахрыменка ў 1957 г. у пасёлку Гацкае Нісімкавіцкага с/с Чачэрскага р-на Гомельскай вобл. ад Пятра Восіпавіча Гулевіча (1870—1957). Біяграфічныя звесткі пра гэтага народнага казачніка і агульную характарыстыку яго творчага стылю гл. у прадмове П. Ахрыменкі да зборніка «Беларускія казкі, запісаныя ад Пятра Гулевіча». Мінск, 1963. У зборніку змешчана 8 чарадзейных і бытавых казак. Ад яго ж запісаны тэксты 35, 140.

Пра сюжэт «Дзяльба гусі» гл. у каментарыях да тэкстаў 31, 32. Як і ў тэксце 32, гэты сюжэт ускладняецца тут традыцыйным для ўсходнеславянскіх казак тыпу АТ 1533 матывам «Багаты брат спрабуе пераймаць спрытнага бедняка».

Гісторыя казак тыпу «Блазен» (Блазен прадае дурням шапку, якая быццам плаціць па рахунках у карчме, кіёк або бізун, які быццам ажыўляе мёртвых, але яго выкрываюць, хочуць утапіць, але ён выратоўваецца) звязана са старажытнымі ўсходнімі і сярэдневяковымі заходнееўрапейскімі апавядальнымі зборнікамі — «Панчатантра», «La piacevoli notti» Страпаролы і інш. Сюжэт вядомы ў фальклоры розных народаў. Гл. J. M ü l l e r. Das Märchen von Unibos. Jena, 1934.

Бел. вар.: Р о м а н о в, III, стар. 403—409, № 17 а, б; стар. 425—426, № 26; Д о б р о в о л ь с к и й, I, стар. 693—696, № 11; Ш е й н, стар. 120—127, № 57; стар. 299—304, № 139, 140; F e d e r o w s k i, III, стар. 232—234, № 463, 464 (часткова); G l i ń s k i, IV, № 11; К а р с к и й, IV, стар. 224; Р о м а н о в. Материалы, II, стар. 373—374, № 17; С е р ж п у т о в с к и й, стар. 7—9, № 4 (эпізод «Шапка плаціць у карчме»); С е р ж п у т о ў с к і, Казкі, стар. 81—83, № 35 (эпізоды «Конь апаражняецца залатымі манетамі», «Гаршчок сам варыць ежу»); Г о с п о д а р е в, стар. 376—395, № 29. Рус. вар.— 44 (П р о п п, стар. 493; дадаткова: К. Ч и с т о в. Перстенёк — двенадцать ставешков. Петрозаводск, 1958, стар. 96—100; В. П о т я в и н, стар. 184—187, № 39; К о р о л ь к о в а, стар. 365—370). Укр. вар.— 26 (дадаткова да 24 тэкстаў, улічаных у Паказальніку Больтэ-Полiўкі і ў каментарыях да III тома казак Афанасьева (1940) гл.: Ск. Верховины, стар. 138—139; (Г и р я к, II, 1966, стар. 86—89, № 13). Польск.— 22 (K r z y ż., II, стар. 84—85). Для ўсходнеславянскіх казак тыпу 1539 характэрна сатырычная антыпамешчыцкая і антыпапоўская сацыяльная накіраванасць. Казка П. В. Гулевіча мае своеасаблівую канцоўку: спрытны бядняк становіцца багачом і жэніцца на жонцы пана, які скончыў жыццё самагубствам.

## 35. Казка пра Пятра Вялікага і салдата

АА 952 (Цар і салдат). Уступны эпізод «Спрэчка двух гаспадароў пра храбрасць іх салдат» — гэта па сутнасці асобны сюжэт, які не мае варыянтаў у апублікаваным фальклорным матэрыяле. Г у л е в і ч, стар. 65—66. Зап. П. Ахрыменка ў 1957 г. у п. Гацкае Нісімкавіцкага с/с Чачэрскага р-на Гомельскай вобл. ад Пятра Восіпавіча Гулевіча (1870—1957). Ад яго ж запісаны тэксты 34, 140.

Старэйшая літаратурная версія сюжэта тыпу 952 — нямецкая — адносіцца да XVI—XVII стст.— казка пра мясніка, які выратаваў ад разбойнікаў знатнага двараніна. У XVII ст. яна трансфармавалася ў казку пра салдата і караля. У Расіі такія казкі прыстасавалі да пятроўскага часу і іх героем стаў Пётр Першы: яны яскрава адлюстравалі думку народную пра асобу Пятра, яго дэмакратычныя схільнасці. Бел. вар.: Добровольский, I, стар. 381—383, № 24; Господарев, стар. 495—501, № 53. Рус. вар.— 11 (Пропп, стар. 485; Королькова, стар. 269—272). Укр. вар.: Чубинский, II, № 77—79; «Lud». Lwów, 1912, стар. 155, № 1; Гнедич, IV, № 1; Левченко, № 571; Лінтур. Сатира, стар. 30—33; часткова — Етногр. зб., VII, № 74, 77. Польск. — 6 (Krzyż., II, стар. 294).

### 36. Як салдат з арміі ішоў

АА 952 (Цар і салдат). АІМЭФ, ф. 13, воп. 4, спр. 7, л. 58. Зап. Г. Ахрэмчык у 1958 г. у в. Вострава Мастоўскага р-на Гродзенскай вобл. ад Міхася Іванавіча Клімуця.

Гл. каментарый да тэксту 35.

### 37. Як Іван напалохаў разбойнікаў і збавіўся ад папа і дзяка

Уступны эпізод «Мужык палохае разбойнікаў і забірае іх грошы» нагадвае казкі тыпу 1875 і 1653. Далей ідуць сюжэты пра блазна — АА 1539 і аб пахаваных мужыком трох папах — АА *1730 I=AT 1536 B. АІМЭФ, ф. 13, воп. 2, спр. 2, сш. 1, лл. 1—8. Зап. У. М. Панушкін у 1949 г. у в. Клімавічы Раснянскага с/с Сенненскага р-на Віцебскай вобл. ад Пятра Жыдкова.

Аб сюжэце «Блазен» гл. у каментарыі да тэксту 34.

Казкі тыпу 1536 В сталі распаўсюджвацца ў Заходняй Еўропе ў вусным бытаванні ў XIII ст. Гл.: Pellet. Das Fabliau von den trois bosus menestrels. 1901; J. Bedie. Les Fabliaux. Paris, 1924, стар. 236.

Бел. вар.: Добровольский, I, стар. 690—692, № 9; Шейн, II, стар. 210—215, № 99; Federowski, III, стар. 179—181, № 340; Klich, стар. 22—24, № 15; Сержпутоўскі, Казкі, стар. 197—200, № 78; Господарев, стар. 376—395, № 29. Рус. вар.— 12 (Пропп, стар. 102; дадаткова: Афанасьев, III, 1940, стар. 404—406, № 33— з «Русских заветных сказок»; Господарев, № 29; Померанцева, Башк., № 37; Молдавский, Бахтин, стар. 124—125; Королькова, 1969, стар. 365—371). Укр. вар.: Чубинский, II, стар. 669—670, № 133; Kolberg, 1888, IV, № 65; Левченко, № 207; Казки Буковини, стар. 62—63; Ск. Верховины, стар. 35—37. Польск.—2 (Krzyż., II, стар. 83—84). Усходнеславянскія казкі пра тое, як мужык хаваў трох папоў, вылучаюцца ў сусветным фальклорным матэрыяле вельмі яскравай сацыяльнай сатырычнай завостранасцю. У казцы У. Панушкіна ёсць своеасаблівыя падрабязнасці: за салдатам бяжыць у ніжнім адзенні архімандрыт і крычыць яму ўслед, потым салдат гоніцца за архімандрытам і топіць яго.

### 38. Як мужык папоў ашукаў

АА 1539 (Блазен) + *1730 І=АТ 1536 В (Мужык хавае трох папоў). АІМЭФ, ф. 8, воп. 1, спр. 54, сш. 1, л. 22. Зап. А. Фядосік у 1960 г. у в. Лешня Капыльскага р-на Мінскай вобл. ад А. М. Лапоткі, 65 г. Ад яго ж запісан тэкст 50.

Тая ж (традыцыйная для беларускага фальклору) кантамінацыя сюжэтаў, што і ў папярэдняй казцы — «Мужык і поп» (тэкст 37) — гл. каментарый да яе, у якім адзначаны варыянты. Уступны эпізод «Карова прададзена замест казы» з'яўляецца традыцыйным для казак тыпу Блазен: параўн. тэксты 34, 37.

Іншыя варыянты сюжэта «Мужык (салдат) хавае трох любоўнікаў» тлумачацца ніжэй: 144, 146.

### 39. Цягаў воўк авечкі, пацягнулі і воўка

АА 1539. Federowski, III, стар. 156—158, № 279. Зап. М. Федароўскі ў канцы XIX ст. у м. Зэльва Ваўкавыскага п. Гродзенскай губ. ад Францішка Верстака.

Гл. каментарыі да тэксту 34.

*Ушыстко заплацоно* — усё заплачана.

### 40. Як мудрагель п'яніцаў ашукаў

АА 1539. Federowski, III, стар. 158—159, № 278. Зап. М. Федароўскі ў канцы XIX ст. у в. Мялоўцы Ваўкавыскага п. Гродзенскай губ. ад Яські Шымчука. Ад яго ж запісан тэкст 136.

Гл. каментарыі да тэксту 34.

*Перабраўшыся* — перапрануўшыся.

### 41. Як поп абманіў Тараса аднажды, а Тарас яго дважды

АА 1539. Добровольский, I, стар. 693—696, № 11. Зап. У. Дабравольскі ў канцы XIX ст. у в. Правяржэнка Ельнінскага п. Смаленскай губ. ад старога Еўдакіма Хатулі. Ад яго ж запісан тэкст 42.

Гл. каментарыі да тэксту 34.

*Замісць* — замест.

*Да звіданія* — да пабачэння.

*Злучай* — выпадак.

### 42. Аб чудаке Мікуле: як ён праўчыў любоўніка купчыхі, патапіў глупых мужыкоў, папу шутку сшуціў і ў батрачкі, замест бабы, у папа наймаўся

АА 1535 (Дарагая шкура)+*1538 I (=АТ 1538*. Блазен-нявеста). Добровольский, I, стар. 681—686, № 7. Зап. У. Дабравольскі ў другой палавіне XIX ст. у в. Правяржэнка Ельнінскага п. Смаленскай губ. ад Еўдакіма Хатулі. Ад яго ж запісаны тэксты 41, 43—46, 129.

Старажытная казка пра тое, як чалавек, якога хацелі кінуць у мяшку ў ваду, заманіў на сваё месца другога, знаходзіцца ў кітайскім зборніку V ст. «Трыпітака» (пераклад з санскрыту). Даволі блізка адпавядае сучасным народным казкам пра «дарагую шкуру» лацінскі верш X або XI ст. «Unibos» і асабліва казка «Дарагая шкура» з італьянскага зборніка Серкамбі (канец XIV — пач. XV ст.). Гл.: J. Müller. Märchen von Unibos. Jena, 1934. Варыянт Еўдакіма Хатулі з'яўляецца адным з самых поўных і яскравых ва ўсходнеславянскім казачным матэрыяле і вельмі характэрны яму: бядняк ідзе ў горад прадаваць шкуру каня; заўважае, што ў гаспадыні-купчыхі схаваны палюбоўнік, пагражае яго выдаць і атрымлівае выкуп: грошы, боты, адзенне, каня з калёсамі; дома гаворыць дурным мужыкам, што атрымаў вялікія грошы за «дарагую шкуру», тыя рэжуць сваіх коней і даходзяць да галечы, хочуць за гэта ўтапіць яго, але бядняк замест сябе садзіць ў мяшок праезжага пана, а сам прыязджае на конях таго і пераконвае, што здабыў іх пад вадой; мужыкі топяцца. Іншыя тэксты: Добровольский, I, стар. 686—690, № 8 (расказаў Е. Хатуля — няпоўны вар.); Шейн, II, стар. 229—232, № 106 (эпізод «Чалавека хочуць кінуць у ваду»); там жа, стар. 232—235, № 107; Weryha, стар. 52—56, № 13; Federowski, III, стар. 291—293; № 561; Klich, стар. 142—145, № 1; стар. 24, № 16; стар. 42, № 30 (фрагменты); Карский, I, стар. 224—225 (эпізод «Чалавека хочуць кінуць у мяшку ў ваду»); Господарев, стар. 376—395, № 29. Рус. вар.—45 (АП, стар. 492; Молдавский, Бахтин, стар. 225—257). Укр. вар.— да 20 (гл. каментарыі да III тома казак Афанасьева выд. 1940 г., стар. 463; дадаткова: Ск. Верховины, стар. 64—65; М. Гиряк, IV, стар. 199, № 36). Польск.— 36 (Krzyż., II, стар. 81—82).

Кантамінацыя сюжэтаў пра «дарагую шкуру» і блазна з сюжэтам пра блазна-нявесту традыцыйная для ўсходнеславянскага фальклору. У Паказальніку АТ улічаны толькі рускія казкі тыпу 1538*. Бел. вар.: Klich, стар. 42—46, № 30; Господарев, стар. 376—395, № 29. Рус. вар.— 12 (Пропп, стар. 493). Укр. вар.: Етногр. зб., III, № 1, XXX, № 126; часткова Краўчанка, 1914, № 157. Польскіх апублікаваных тэкстаў няма, але адзначаны чэшскія варыянты. Гл.: V. Tille. Soupis českich pohádek, dilu II, sv. 2, Praha, 1937, стар. 141—143.

*Жодная* — кожная.

*Ішчо* — яшчэ.

*Прыстол* — свята.

### 43. Шут Шуткін, як ён папа, мужыкоў і пана правёў

АА 1535, часткова нагадвае тып 1539. Добровольский, I, стар. 686—690, № 8. Зап. У. Дабравольскі ў канцы XIX ст. у в. Праваржэнка Ельнінскага п. Смаленскай губ. ад Еўдакіма Хатулі. Ад яго ж запісаны тэксты 41, 42, 44—46, 129.

Аб сюжэтных тыпах «Дарагая шкура» і «Блазен» гл. у каментарыях да тэкстаў 42, 34. У гэтым варыянце сюжэтнага тыпу 1535 няма эпізода «Бядняк-блазен атрымлівае выкуп ад палюбоўніка гаспадыні дома», але падрабязна распрацаваны такія традыцыйныя матывы сюжэтаў пра «дарагую шкуру» і блазна, якія адсутнічаюць у папярэдніх казках Еўдакіма Хатулі («Як поп абманіў Тараса аднажды, а Тарас яго дважды» і «Аб чудаке Мікуле...»), што адносяцца да тыпаў 1539 і 1535; конь быццам апа-

ражняецца залатымі манетамі, блазен быццам «ажыўляе» забітую ім жонку; блазен хаваецца ў магіле і коле шылам. Не мае блізкіх паралеляў у апублікаваных казках эпізод «На пчальніку (пасецы)». Аднолькава характэрны для сюжэтнага тыпу 1535 і 1539 заключны эпізод: «Бядняк павінен быць утоплены ў мяшку, але заманьвае на сваё месца другога».

## 44. Як мужык свайго бацюшку паднадуў

АА—. АТ 1807 (Поп адпускае грахі злодзею). Добровольский, I, стар. 700—701, № 13. Зап. У. Дабравольскі ў канцы XIX ст. у в. Праўяржэнка Ельнінскага п. Смаленскай губ. ад Еўдакіма Хатулі. Ад яго ж запісаны тэксты 41—43, 45, 46, 129.

Арэал распаўсюджання гэтага анекдатычнага сюжэта абмежаваны ў асноўным краінамі Усходняй Еўропы. Казка Е. Хатулі ўяўляе адзін з найбольш поўных яго варыянтаў. У другой беларускай казцы гэтага тыпу, апублікаванай у зборніку Федароўскага (III, стар. 139, № 252), развіваецца толькі матыў «Выгнаў свінню з ксяндзоўскага гароху», але адсутнічаюць матывы «Выгнаў нячыстую сілу» (украў з кішэні гадзіннік) і «Выгнаў з папоўскага карыдора воўка» (украў воўчае футра). Укр. вар.: Kolberg, 1888, IV, стар. 246, № 62; Barącz, стар. 33; Лінтур, Сатира, стар. 188—189. Польск.— 3 (Krzyż., II, стар. 143). У апублікаваным рускім матэрыяле такія казкі не адзначаны.

## 45. Аб убогіх старцах, як іх мазурык надуў

АА—. АТ—. Далучаецца да сюжэтнага тыпу 1577. Добровольский, I, стар. 676—677, № 4. Зап. У. Дабравольскі ў канцы XIX ст. у в. Праўяржэнка Ельніцкага п. Смаленскай губ. ад Еўдакіма Хатулі. Ад яго ж запісаны тэксты 41—44, 46, 129.

Варыянты не адзначаны.

*Вірадуіт* — уладае.

*Пендзіі* — пенсіі.

## 46. Як храмы, сляпы і глухі цару служылі

АА—. АТ—. Далучаецца да сюжэтнага тыпу АТ 1577. Добровольский, I, стар. 679—681, № 6. Зап. У. Дабравольскі ў канцы XIX ст. у в. Праўяржэнка Ельніцкага п. Смаленскай губ. ад Еўдакіма Хатулі. Ад яго ж запісаны тэксты 41—45, 129.

Варыянты не адзначаны.

## 47. Сляпы, глухі й бязногі

АА—. АТ—. Далучаецца да сюжэтнага тыпу АТ 1577. Сержпутоўскі, Казкі, стар. 128—130, № 54. Зап. А. Сержпутоўскі ў 1910—1920 гадах у в. Чудзін Слуцкага п. Мінскай губ. (цяпер Салігорскі р-н Мінскай вобл.) ад селяніна Болбата.

Падобная прытча «Пра кульгавага і сляпога» вядома ў пераказе Кірылы Тураўскага (XII ст.) і ў сярэдневяковым зборніку «Gesta Romanorum», перакладзеным у XVI—XVII стст. на польскую, беларускую і рускую мовы. Параўн. эпізод «Сляпы і бязногі» ва ўсходнеславянскіх чарадзейных казках тыпу 519 («Брунхільда»).

Варыянты не адзначаны.

### 48. Поп і шыдар

АА 1525 (Спрытны жартаўнік выманьвае ў папа коней, а ў пападдзі — грошы) + *1538 І (=АТ 1538* Блазен-нявеста) + 1311 (Воўка прымаюць за аўчарку: пускаюць да авечак), стар. 42—46, № 30. Зап. Эдвард Кліх у 1901 г. у в. Крылоўшчына Навагрудскага п. Мінскай губ. ад Алеся Ваўчка. Ад гэтага народнага казачніка было запісана 18 казак і апавяданняў, у якіх яскрава адлюстроўваюцца сацыяльныя адносіны. Казкі таго ж казачніка гл. ніжэй — тэксты 49, 138.

Да тыпу 1525 F. Старэйшы літаратурны тэкст, нямецкі,— XV ст.: J. P a u l i. Schimpf und Ernst (па берлінскаму акадэмічнаму выданню Больтэ 1925 г., № 82). У Паказальніку АТ улічаны французскія, фінскія і запісаныя ў Фінляндыі шведскія фальклорныя тэксты. Параўн. украінскую казку: Р у д ч е н к о, І, стар. 196—198, № 75.

Да тыпу 1311. Сюжэт-матыў распаўсюджаны пераважна ва Усходняй і Цэнтральнай Еўропе. Польск.— 3 (K r z y ż., II, стар. 39).

Варыянты сюжэта пра блазена-нявесту адзначаны ў каментарыі да тэксту 34.

*Веле* — многа.

### 49. Хмара булкавая і аладкавая

АА 1381. K l i c h., стар. 14—15, № 8. Зап. Э. Кліх у 1901 г. у в. Крылоўшчына Навагрудскага п. Мінскай губ. ад Алеся Ваўчка. Пра гэтага казачніка гл. у папярэднім каментарыі. Ад яго ж запісан тэкст 138.

У Паказальніку АТ улічаны, акрамя еўрапейскіх, фальклорныя тэксты, запісаныя ў іншых частках свету. Гл. даследаванне: J. B e d i e. Les Fabliaux. Paris, 1924, стар. 196, 466. Першая ўсходнеславянская публікацыя — у зб. «Старая погудка». М., 1795. Бел. вар.: Р о м а н о в, III, стар. 383, № 6; Д о б р о в о л ь с к и й, І, стар. 355—357, № 9; Ш е й н, II, стар. 184—190, № 87—89; F e d e r o w s k i, III, стар. 110—111, № 200. Рус. вар.— 18 (П р о п п, стар. 490; К о р о л ь к о в а, стар. 295—298). Укр. вар.— 16 (А н д р е е в; гл. каментарыі да III тома казак Афанасьева (1940, стар. 461) — бібліяграфічныя ўказанні). Польск.— 15 (K r z y ż., II, стар. 56).

### 50. Дарагая шкура

АА 1535. АІМЭФ, ф. 8, воп. І, спр. 52, сш. 2, л. 37. Зап. І. Лушчыцкая ў 1960 г. у в. Лешня Капыльскага р-на Мінскай вобл. ад А. М. Лапоткі, 65 г. Ад яго ж запісан тэкст 38.

Гл. каментарый да тэксту 42. У гэтым варыянце сюжэт пра дарагую шкуру ўскладняецца канфліктам беднага і багатага братоў (багач забівае каня бедняка), што характэрна ўсходнеславянскім казкам гэтага тыпу.

Разам з тым казка А. М. Лапоткі адрозніваецца некаторымі своеасаблівымі падрабязнасцямі: па просьбе пана бядняк выганяе «чорта» і атрымлівае ад яго (а не ад палюбоўніка) воз збожжа і пару коней; бядняк заманьвае на сваё месца, у мяшок, пана, а панскі статак жывёлы дастаецца бедняку. Казкі тыпу 1535 наогул маюць пэўнае падабенства да казак тыпу «Палюбоўнік у выглядзе чорта» (АА *1360=АТ 1538 А). Казка «Дарагая шкура» вельмі блізкая да іх і сваім зместам, і формай.

### 51. Як дурань шкуру біў

АА 1535 (Дарагая шкура) + 1537 (Мёртвае цела). Шейн, II, стар. 232—235, № 107. Зап. А. Лісоўская ў канцы XIX ст. у Каралеўскай вол. Віцебскага павета і губ.

Аб сюжэтным тыпе 1535 гл. у каментарыі да тэксту 42. Ва ўсходнеславянскім фальклорным матэрыяле нярэдка сустракаюцца казкі, у якіх матыў пра дарагую шкуру зліваецца з сюжэтам пра мёртвае цела. Далей расказваецца аб прыгодах дурня, як ён ашукаў сваіх разумных братоў.

Сюжэт тыпу 1537 тут не набывае поўнага развіцця. Звычайна герой атрымлівае адступное шмат разоў: труп прыстаўлены да чужога вакна або вулля, пасаджаны ў чужы склеп, у лодку і інш.; людзі прымаюць кожны раз труп за злодзея. Старажытныя літаратурныя версіі сюжэта — усходнія: пярсідскі зборнік VIII—IX стст. «Царь Афсханеб»; арабскі зборнік «Тысяча і адна ноч»,— ноч дваццаць пятая — «Казка пра гарбуна». Паводле меркавання В. Шовеня, казкі пра мёртвае цела першапачаткова сфарміраваліся на старажытнававілонскай культурнай глебе. Вядомы сярэдневяковыя заходнееўрапейскія шванкі, фабліё, фацэцыі пра мёртвае цела, а таксама падобныя ўсходнія анекдоты, героем якіх выступае Насрэддзін. Самая ранняя ўсходняя публікацыя — руская: «Сказка о Дурине...» М., 1794. У Паказальніку АТ побач з еўрапейскімі адзначаны фальклорныя тэксты, запісаныя ў Паўднёва-Заходняй Азіі і Лацінскай Амерыцы. Бел. вар.: Шейн, II, стар. 219—221, № 102; стар. 235—236, № 108; Романов, III, стар. 422—424, № 24; Чубинский, II, стар. 495—496, № 4 (Кобрынскі п.); Kolberg, 1889, (ZWAK, XIII, 1889), стар. 200—201, № 1; стар. 205—206, № 5; Weryha, стар. 52—55, № 13; Federowski, III, стар. 291—293, № 561; Klich, стар. 103, № 1; Карский, IV, 1903, стар. 195—196; Господарев, стар. 376—396, № 29; параўн. таксама тэксты казак тыпу 1536 А («Нябожчыца-зладзейка»), у якія ўваходзіць эпізод «Мёртвае цела». Рус. вар.— 24 (Пропп, стар. 492—493; Бараг, № 11; Никифоров, № 8, 105). Укр. вар. указаны ў каментарыях да III тома казак Афанасьева (1940); дадаткова: Ск. Верховины, стар. 48—50. Польскіх, акрамя адзначаных у Паказальніку Кржыжаноўскага пад нумарам 1536 А (эпізод «Мёртвае цела»), няма. Казкам тыпу 1537 прысвечана спецыяльная манаграфія: H. Suchier. Der Schwank von der viermal getoteten Leiche.
Halle, 1922. Параўн. тэксты 56, 144.

*Ізабыль* — на самай справе, у сапраўднасці.

### 52. Як Ванька братоў падмануў

АА 1535 + 1537. АІМЭФ, ф. 13, воп. 5, спр. 4, л. 11. Зап. Д. Малашэўскі ў 1947 г. у в. Паныш Лагойскага р-на Мінскай вобл. ад П. Г. Паныша, 71 г. Ад яго ж запісаны тэксты 53, 133.

Аб сюжэтным тыпе 1535 гл. у каментарыях да тэкстаў 42, 43, 50, 51. Замест шкуры ў казцы П. Г. Паныша дурань быццам бы прадае бабу. Матыў «Палюбоўнік выгнаны ў выглядзе чорта» адсутнічае.

Аб сюжэтным тыпе 1537 гл. у каментарыі да тэксту 51. Як і ў папярэднім варыянце сюжэт разгорнуты няпоўнасцю.

### 53. Як Ванька падмануў жаніха

У першай частцы развіваецца сюжэт тыпу АА 1525 G (=АТ 1525 P*. Крадзеж быка), а ў другой частцы — сюжэт пра дурня, які выдаваў сябе за нявесту і выпытваў у жаніха, дзе закапаны грошы,— часткова нагадвае тып АА *1538 I (=АТ 1538*. Блазен-нявеста). АІМЭФ, ф. 13, воп. 5, спр. 4, л. 1. Зап. Д. Малашэўскі ў 1947 г. у в. Паныш Лагойскага р-на Мінскай вобл. ад П. Г. Паныша, 71 г. Ад яго ж запісаны тэксты 52, 133.

Пра сюжэт «Крадзеж быка» гл. у каментарыі да тэксту 23.

Параўн. вышэй названыя варыянты сюжэта «Блазен-нявеста» — тэксты 42, 40. Эпізод «Падманшчык (прытворная нявеста) уцякае з шлюбнага ложка, прывязаўшы замест сябе казу» нярэдка сустракаецца ў казках гэтага тыпу.

### 54. Пан і парабак

АА 1535* (Чалавека хочуць кінуць у мяшку ў ваду: ён заманьвае на сваё месца другога) = АТ 1535 (канец). АІМЭФ, ф. 8, воп. 1, спр. 6, сш. 1, л. 54. Зап. М. Меяровіч у 1945 г. у в. Акулава Плешчаніцкага р-на Мінскай вобл. ад Веры Пятроўны Філіповіч, 30 г.

Гл. каментарый да тэксту 35. У казцы В. П. Філіповіч вельмі своеасабліва распрацаваны ўступны эпізод (жорсткі пан збівае свайго работніка, садзіць у мяшок і вязе тапіць у рэчку).

### 55. Прыгоды салдата

АА 1680 (Пошукі павітухі: герой памылкова топіць павітуху, забівае дзіця) + 1875 (На хвасце ў ваўка: герой пасаджаны ў бочку, праз дзірку трымаецца за хвост ваўка) + 1311 (Ваўка прымаюць за барана). АІМЭФ, ф. 13, воп. 10, спр. 40, сш. 5, л. 3. Зап. Г. Гушко ў 1953 г. у г. Маладзечна Мінскай вобл. ад Міхася Кішкурко.

Незвычайная і цэльная кантамінацыя вельмі розных сюжэтаў.

Да сюжэтнага тыпу 1680. У Паказальніку АТ улічаны толькі фінскія, эстонскія, літоўскія, нямецкі, грэчаскі фальклорныя тэксты. Бел. вар.: Federowski, III, стар. 91—92, № 181. Рус. вар.: М. Смирнов, Сборник великорусских сказок Архива РГО. Пг., 1917, № 187. Укр. вар.: Гринченко, I, стар. 223; II, стар. 235; Гнедич, IV, стар. 68—69, № 1538.

Да тыпу 1875. Літаратурная гісторыя сюжэта прасочваецца з XIV ст.— «Навелы» Сакецці (№ 17). У XVI ст. сюжэт быў апрацаваны Гансам Саксам. Польскія апрацоўкі небыліцы «На хвасце ў ваўка» даследаваны Ю. Кржыжаноўскім, гл. Paralele. Warszawa, 1961, стар. 149 і наст. У Паказальніку АТ, акрамя еўрапейскіх, улічаны фальклорныя тэксты, запісаныя ў Амерыцы.

Аб сюжэтным тыпе 1311 гл. у каментарыі да тэксту 48.

### 56. Мудры дурань

АА 1537 (Мёртвае цела) + 1653 В (Браты на дрэве). O. Kolberg. Dziela wszystkie, t. 52. Białoruś — Polesie. Wrocław—Poznań, 1968, стар. 457—459, № 8. Зап. у XIX ст. у Пінскім п. Мінскай губ. (цяпер — Брэсцкая вобл.).

Аб сюжэтным тыпе 1537 гл. у каментарыі да тэксту 51. У гэтай казцы сюжэт набывае развіццё, традыцыйнае для ўсходнеславянскіх казак пра дурня: дурань забівае маці, прывозіць яе да папа на споведзь, абвінавачвае папа ў забойстве і г. д. Эпізод «Дурань кідае на галовы людзей, што размясціліся пад дрэвам, мёртвае цела» сустракаецца і ў іншых беларускіх і рускіх казках — кантамінацыях тыпаў 1537 і 1653. Параўн. напрыклад: Шейн, II, стар. 235—236, № 108.

Гісторыя сюжэта «Браты на дрэве» звязана са старажытнымі кітайскімі і індыйскімі зборнікамі «Трыпітака» (V ст.) і «Катхасарытсагара» (XI ст.). У Паказальніку АТ улічаны фальклорныя тэксты, запісаныя ў многіх краінах Еўропы і іншых краінах свету. Бел. вар. (акрамя адзначанага вышэй зборніка Шэйна): Federowski, III, стар. 97—98, № 187; Karłowicz, 1887, стар. 258, № 220; Barag, стар. 335—338, № 42. Рус. вар.— 5 (АА, стар. 99; Никифоров, № 5, 8). Укр. вар.— 12 (Андреев; Гиряк, II, 1966, стар. 131—135, № 24). Польск.— 34 (Krzyż., II, стар. 116—118). Казка «Мудры дурань» адрозніваецца радам своеасабліва распрацаваных эпізодаў: мёртвая маці дурня ў царкве; «шышкі» падаюць з сасны на пана; дурань авалодвае багаццем пана, панскімі коньмі.

*Злякался* — спалохаўся,
*коч* — карэта з адкідным верхам.

### 57. Аб набітым дурню

АА 1696 А=АТ 1696. Шейн, II, стар. 236—238, № 109. Зап. у канцы XIX ст. у Барысаўскім п. Мінскай губ.

Літаратурная гісторыя гэтага сюжэта, папулярнага ва ўсіх частках свету, звязана са старажытнымі ўсходнімі зборнікамі (кітайскі зборнік «Трыпітака», V ст., пераклад з санскрыту), «Кніга тысячы і адной ночы» і інш.). На заходнееўрапейскай культурнай глебе гісторыя казак тыпу 1696 прасочваецца з XVII ст. Старэйшы ўсходнеславянскі тэкст — жартоўная песня «Про дурня» зборніка Кіршы Данілава «Древние российские стихотворения». Літаратурнай апрацоўкай народнай казкі-песні з'яўляецца казка «Дурань» Л. М. Талстога. Бел. вар.: Дмитриев, стар. 143—149; Шейн. Белорусские народные песни. СПб, 1874, стар. 420—423, № 755 (казка-песня); Шейн, II, стар. 238—239, № 110; Романов, III,

стар. 424, № 25; Federowski, III, стар. 95, № 185; параўн. стар. 88, № 177, 178 (дурань ідзе жаніцца і гаворыць усё неўпапад). Рус. вар.— 17 (Пропп, стар. 497). Укр. вар. дадаткова да ўказанняў Больтэ—Полiўкі ўлічаны ў каментарыях да III тома казак Афанасьева (1940), дадаткова гл.: Гиряк, II, 1966, стар. 136—138, № 25; IV, 1972, стар. 154—158, № 24). Польск.— 7 (Krzyż., II, стар. 128). Гэта беларуская казка мае характэрную кампазіцыю. Гл.: M. Havio. Kettenmarchen (FFC, № 88). Helsinki, 1929, стар. 94—224.

### 58. Набіты дурань

АА 1696 А (=АТ 1696. Дурань гаворыць усё неўпапад)+1685 В (=АТ 1685. Дурань-жаніх з'ядае кацянят). АІМЭФ, ф. 13, воп. 10, спр. 21, сш. 1, л. 37. Зап. Е. Кардаш у 1965 г. у в. В. Малешава Столінскага р-на Брэсцкай вобл. ад А. І. Краўцовай.

Аб сюжэтным тыпе 1696 гл. у папярэднім каментарыі. Даная разнавіднасць гэтага сюжэтнага тыпу («Маці пасылае дурня да людзей і вучыць, як з імі гаварыць») асабліва характэрная для ўсходнеславянскіх казак пра дурня, які гаварыў усё неўпапад. Сюжэт пра дурня-жаніха, які ўсё рабіў неўпапад і з'еў уначы кацянят, таксама мае шырокае міжнароднае распаўсюджанне. Параўн. казку пра жаніха, які з'еў кацянят, у зборніку Федароўскага, III, стар. 108, № 197. У іншых апублікаваных усходнеславянскіх казках пра вяселле дурня эпізод з кацянятамі адсутнічае. Назавем беларускія тэксты тыпу 1685: Добровольский, I, стар. 140, № 73; Романов, III, стар. 422—424, № 24; Federowski, III, стар. 92—93, № 183, 184; часткова стар. 86—88, № 176. Рус. вар.— 7 (Пропп, 496; Померанцева, Башк., стар. 126—127, № 31). Укр. вар.— каля 10 (дадаткова да ўказанняў Больтэ — Полiўкі гл.: Гиряк, II, 1966, стар. 131—135, № 24; IV, 1972, стар. 154—158, № 24). У Паказальніку Кржыжаноўскага польскія казкі тыпаў 1685 і 1691 не размежаваны і абазначаны нумарам 1685 — 15 тэкстаў (II, стар. 125).

### 59. Смерць

АА 1354 А*. Сержпутовский, стар. 96—97, № 51. Зап. А. Сержпутоўскі ў 1890—1900-х гадах у в. Лучыцы Мазырскага п. Мінскай губ. ад Івана Паўлавіча Азёмшы. Аб гэтым казачніку гл. у прадмове да зборніка А. Сержпутоўскага «Сказки и рассказы белорусов-полешуков». Гл. таксама тэксты 88, 109, 112, 141, 154, запісаныя ад І. П. Азёмшы.

Бел. вар.: Federowski, III, стар. 82, № 162. Укр. вар.: Гринченко. Из уст народа. Чернигов, 1901, стр. 349—350, № 327. Польск.— 2 (Krzyż., II, стар. 51).

### 60. Як дзед бабу гладзенька ашукаў

АА—. АТ—. Ср. АА 901*В=АТ 901 В*. (Жонка правучана мужам за глупства). Эпізод продажу быццам цудоўнай лыжкі часткова нагадвае казкі тыпу 1539 — пра блазна. Federowski, III, стар. 131, № 236. Зап. М. Федароўскі ў канцы XIX ст. у с. Куклічы Ваўкавыскага п. Гродзенскай губ. ад Льяша Кярдоля.

## 61. Мена

АА 1415 (Муж мяняе залатую цяцерку на каня, каня на вала, вала на барана і г. д., амаль да качаргі або іголкі; пры сустрэчы з ім жонка паказвае свой злы або добры нораў). Романов, III, стар. 379—380, № 1. Зап. Д. Казлоўская ў другой палавіне XIX ст. у с. Пустынкі Сенненскага п. Віцебскай губ. (цяпер Віцебская вобл.).

Гісторыя гэтага сюжэта звязана з літаратурнымі помнікамі Старажытнага Усходу, напрыклад, з кітайскім зборнікам (V ст.) «Трыпітака» (пераклад з санскрыту). Старажытная еўрапейская літаратурная версія — ісландская («Gautrekssaga») адносіцца да XIII ст. У Паказальніку АТ, акрамя шматлікіх еўрапейскіх, улічаны варыянты, запісаныя ў Індыі, Інданезіі і Лацінскай Амерыцы. Бел. вар. не адзначаны. Рус. вар.— 9 (Пропп, стар. 490); Никифоров, № 32, 122; Балашов, № 137). Укр. вар.: Афанасьев, III, № 409; Рудченко, I, стар. 176, № 65; Драгоманов, стар. 30; Moszyńska (ZWAK, IX, 1885); Манжура, стар. 87—88 (=Грінченко, Казки, стар. 126—127=Укр. казки, стар. 407—409); «Живая старина», 1912, II—IV, стар. 315—317; Гнедич, IV, № 1499; Етногр. зб., № 203; XXX, № 153, 154; Бессараба, стар. 73—74; Кравченко, № 171, 179; Левченко, № 625. Польск.— 7 (Krzyż., II, стар. 59—60). Гэты казачны тэкст адрозніваецца асаблівасцямі, якія характэрны ланцужковым (кумулятыўным) казкам. Падобныя формы казкі пра мену сустракаюцца ва ўкраінскім матэрыяле.

## 62. Урода ў Мозыры

АА 1960 Д (Вялікая гародніна) + 1528* (=АТ 1527 А.«Брахунцы» — жарты дома пакінуў»). Эпізод «Ілгун прыкідваецца мёртвым, над ім сядзіць і плача сын, збіраючы грошы» блізкіх адпаведнасцей у апублікаваным казачным матэрыяле не мае. Шейн, II, стар. 252—254, № 118. Зап. П. Ламака, вучань Нясвіжскай настаўніцкай семінарыі, у другой палавіне XIX ст. у Дубіцкай слабадзе Самахвалавіцкай вол. Слуцкага п. Мінскай губ.

Да тыпу 1960 Д. Старажытны еўрапейскі літаратурны тэкст сходнай небыліцы адносіцца да VI ст.— лацінскі верш С. Галена пра вельмі вялікага казла. Небыліцы аб велізарных жывёлах і гародніне вядомы і ў больш позняй літаратурнай апрацоўцы (Г. Сакс — XVI ст.). У Паказальніку АТ, акрамя еўрапейскіх, улічаны фальклорныя тэксты, запісаныя ў Лацінскай Амерыцы. Бел. вар.: Добровольский, I, стар. 665—669, № 12. Укр. вар.: Манжура, стар. 81—82; Kolberg, 1888, IV, № 52.

Да тыпу АТ 1527. У Паказальніку АТ улічаны толькі рускія, літоўскія, нямецкія, фламандскія, карэйскія і лаціна-амерыканскія варыянты. Параўн. Господарев, стар. 376—395, № 29. Рус. вар.— 8 (Пропп, стар. 492). Укр. вар.— каля 10 (гл. бібліяграфічныя ўказанні ў каментарыях да III тома казак Афанасьева (1940), стар. 446).

## 63. Мужык і пан

АА *1541 I (=АТ 1540 А*. Мужык выпрошвае ў пані свінню ў госці) + 1528 (Птушка пад капелюшом). Шейн, II, стар. 180—182,

№ 85. Зап. настаўнік народнага вучылішча М. Нікалаевіч у 1880—1890-х гадах у с. Святошыцы Горацкага п. Магілёўскай губ.

Кантамінацыя ўказаных сюжэтаў з'яўляецца традыцыйнай. У Паказальніку АТ улічаны толькі рускія і літоўскія варыянты тыпу АТ 1540 А*. Старажытныя ўсходнеславянскія літаратурныя тэксты казак пра свінню, запрошаную на вяселле: С. Друковцев. Сова, ночная птица. М., 1779; Е. Хомяков. Забавный рассказчик. М., 1791.

Бел. вар.: Шейн, II, стар. 183—184, № 86; Романов, III, стар. 420—422, № 22б; Klich, стар. 89—91, № 4; Сержпутоўскі, Казкі, стар. 228—230, № 89; Господарев, стар. 413—418, № 33. Рус. вар.— 18 (Пропп, стар. 493—494; Молдавский, Бахтин, стар. 180—185; Королькова, 1969, стар. 334—343). Укр. вар.— 9 (тэксты ўказаны ў каментарыях да III тома казак Афанасьева (1940, стар. 445). Польск.— няма.

Казкі тыпу 1528 бытуюць не толькі ў Еўропе, але і ў Інданезіі, Лацінскай Амерыцы. Адной са старэйшых літаратурных версій гэтага сюжэта з'яўляецца фацэцыя польскага зборніка 1650 г. Ва ўказаных вышэй беларускіх казках зборнікаў Шэйна, Раманава, Кліха і Гаспадарова сюжэт аб тым, як мужык выпрасіў у барыні свінню ў госці, кантамінуецца з сюжэтам тыпу 1528. Іншых варыянтаў сюжэта «Птушка пад капелюшом» у апублікаваным беларускім матэрыяле няма. Рус. вар.— 17 (Пропп, стар. 492; Королькова, стар. 334—343; Никифоров, № 133). Укр. вар.— 3 (тэксты ўказаны ў каментарыях да III тома казак Афанасьева (1940), стар. 445). У польскім фальклорным матэрыяле варыянты не адзначаны.

*Цо ты мувіш?* — Што ты гаворыш?
*Рэнкі* — рукі.

## 64. Вясна-красна

АА 1541 (Жанчына аддае ўсе запасы чалавеку, які назваўся Вясной-красной) + 1384 (Муж шукае людзей дурней за сваю жонку) + *1541 I (=АТ 1540 А*. Мужык выпрошвае ў пані свінню ў госці). АІМЭФ, ф. 8, воп. 2, спр. 2, сш. 3. Зап. А. Фядосік у 1968 г. у в. Трасціно Хоцімскага р-на Магілёўскай вобл. ад М. Б. Новікавай, 75 г. Ад яе ж запісан тэкст 71.

Гэта кантамінацыя сюжэтаў з'яўляецца традыцыйнай для ўсходнеславянскага фальклору.

Да тыпу 1541. Даўнейшая літаратурная версія — італьянская навела зборніка Серкамбі (каля 1400 г.) — № 63 па выд. Раньe 1889 г. Сюжэт распаўсюджаны па ўсёй Еўропе. У Паказальніку АТ улічаны таксама фальклорныя тэксты, запісаныя ў іншых частках свету. Параўн. Господарев, стар. 413—418, № 33. Рус. вар.— 8 (Пропп, стар. 493). Укр. вар.— 6 (гл. каментарыі да III тома казак Афанасьева (1940), стар. 450). Польск.— 3 (Krzyż., II, стар. 86).

Да тыпу 1384. У Паказальніку АТ, акрамя еўрапейскіх, улічаны фальклорныя тэксты, запісаныя ў Афрыцы і Паўночнай Амерыцы. Самая ранняя ўсходнеславянская публікацыя (літаратурная апрацоўка) — казка «Пра хітрага хлопца», гл. С. Друковцев, «Сова, ночная птица». М., 1779. Бел. вар.: Романов, III, стар. 418—422, № 22 а, б; Шейн, II, стар. 183—184, № 86; Klich, стар. 89—91, № 4. Рус. вар.— 13 (Пропп, стар. 490; Молдавский, Бахтин, стар. 180—184; Балашов, № 148). Укр. вар.— каля 20 (гл. каментарыі да III тома казак Афанасьева (1940), стар. 450; дадаткова: Лінтур, Сатира, стар.

110—115; Гиряк, II, 1966, стар. 153—157, № 35). Польск.— 12 (Krzyż., II, стар. 57; дадаткова: A. Lozowoj. Opowieści ludu spiskiego. Warszawa, 1967, стар. 244).

Аб сюжэтным тыпе АТ 1540 A* гл. у каментарыі да тэксту 63.

### 65. Чалавек з таго свету

АА 1384 (Муж шукае людзей дурней за сваю жонку) + 1245 (Носяць рэшатам сонечны свет)+*1204 (=АТ 1204*. Хочуць даіць курыцу)+1210 (Карову цягнуць на дах пасвіцца)+*1541 I (=АТ 1540 A*. Мужык выпрошвае ў пані свінню ў госці) + 1540 (З таго свету выхадзец). Klich, стар. 89—91, № 4. Зап. Э. Кліх у 1901 г. у в. Крылоўшчына Навагрудскага п. Мінскай губ. (цяпер Гродзенская вобл.).

Традыцыйная для ўсходнеславянскіх казак кантамінацыя сюжэтаў пра хітрых людзей і дурняў.

Аб сюжэтным тыпе 1384 гл. у каментарыі да тэксту 64.

Да сюжэта-матыва тыпу 1245. Першая еўрапейская публікацыя анекдота пра людзей, якія насілі ў дом сонечны свет, адносіцца да 1540 г.— нямецкі зборнік шванкаў пра шыльдбюргераў. Вядомы гэты сюжэт і ў старажытных польскіх фацэцыях (XVI—XVII стст.). Ён атрымаў адлюстраванне ў «Księgach narodu i pielgrymstwa polskiego» А. Міцкевіча. Старэйшая ўсходнеславянская публікацыя ў кн.: Анекдоты или веселые похождения старинных пошехонцев. СПб, 1821. У Паказальніку АТ, акрамя еўрапейскіх, улічаны фальклорныя тэксты, запісаныя ў Турцыі і ў Амерыцы. Бел. вар.: Романов, III, стар. 418, № 22 а, б; Federowski, I, стар. 11, № 23; Pietkiewicz, стар. 134—135; Господарев, стар. 413—418, № 33. Рус. вар.— 5 (АА, стар. 80; Господарев, № 33). Укр. вар.— 7 (гл. бібліяграфічныя ўказанні ў кн.: Н. Ф. Сумцов. Разыскания в области анекдотической литературы. Харьков, 1898, стар. 33—34; дадаткова: Яворский, стар. 290—291, № 87; Левченко, стар. 567—568, № 621). Польск.— 7 (Krzyż., II, стар. 33).

Да сюжэта-матыву 1210. Старэйшая ўсходнеславянская публікацыя ў кн.: Анекдоты или веселые похождения старинных пошехонцев. Часцей за ўсё кантамінуецца з тыпам 1245. Такія кантамінацыі адзначаны ў фальклоры многіх еўрапейскіх народаў, а таксама ў турэцкім і лаціна-амерыканскім фальклорным матэрыяле. Бел. вар.: Романов, III, стар. 418—422, № 22 а, б; Господарев, стар. 413—418, № 33. Рус. вар.— 10 (Пропп, стар. 488). Укр. вар.— 12 (Андреев). Польск.— 9 (Krzyż., стар. 28).

Аб сюжэце «Мужык выпрошвае ў пані свінню ў госці» гл. у каментарыі да тэксту 63. У гэтым варыянце сюжэт мае своеасаблівае завяршэнне: пані памылкова прымае пана за мужыка і загадвае яго збіць.

Да сюжэтнага тыпу 1540. Даўнейшая лацінская вершаваная версія адносіцца да XV ст. Апрацоўкі такіх казак ёсць у радзе нямецкіх зборнікаў XVI ст. («Facetie» Г. Бебеля, «Fabulen und Schwanken» Г. Сакса і інш.). Фацэцыі пра выхадца з таго свету паслужылі асновай польскай інтэрмедыі XVII ст. У Паказальніку АТ, акрамя еўрапейскіх, улічаны фальклорныя тэксты, запісаныя ў Палесціне, Індыі, Інданезіі і Лацінскай Амерыцы. Бел. вар.: Романов, III, стар. 418—422, № 22 а, б; Шейн, II, стар. 11, № 86; Federowski, III, стар. 131—132, № 237; стар. 243, № 483; Сержпутовский, стар. 55—56, № 30. Рус. вар.— 19

(Пропп, стар. 493; Молдавский, Бахтин, стар. 334—343; Балашов, № 148). Укр. вар.: Чубинский, II, № 61; Гринченко, II, № 190; Яворский, № 88 а, б; Гнедич, IV, № 1500; Левченко, № 393, 403, 621, 622; Калін, стар. 204—207; Гиряк, II, 1966, № 34; гл. таксама адзначаны А. М. Афанасьевым у заўвагах да рускай казкі «Вороватый мужик» украінскі тэкст (III, № 391). Польск.— 6 (Krzyż., II, стар. 86). У гэтай казцы зборніка Кліха сюжэт ускладнены своеасаблівым матывам самагубства мужа абманутай жанчыны.

### 66. Дурныя людзі

АА 1384 (Муж шукае людзей дурней за сваю жонку) + 1450 (Дурная маладзіца плача аб лёсе ненароджанага дзіцяці) + 1263 (Ядуць кісель з сытой: ідуць у клець макаць у сыту кожную лыжку кісялю) + 1210 (Цягнуць карову на дах) + 1244 (Носяць свет у хату) + *1013 I (АТ—. «Абсмалі галаву») + сюжэт-матыў, не ўлічаны ў Паказальніках АА і АТ— Кісель у кашалі. Романов, III, стар. 418—419, № 22 а. Зап. Д. Казлоўская ў канцы XIX ст. у с. Пустынкі Сенненскага п. Віцебскай губ.

Аб сюжэце тыпу 1384 гл. у каментарыі да тэксту 64. У гэтым тэксце сюжэтныя тыпы 1384 і 1450 зліты непадзельна, як і ў радзе іншых апублікаваных казак: Романов, III, стар. 420—422, № 22 б; Шейн, II, стар. 183—184, № 86.

Сюжэт тыпу 1263 адзначаны ў Паказальніку АТ у наступных нацыянальных варыянтах: рускіх, літоўскіх, фінскіх, эстонскіх, італьянскіх. Адзначаны таксама тэкст, запісаны ў Афрыцы. Бел. вар.: Романов, III, стар. 420—422, 22 б; Рус. вар.: Афанасьев, III, № 405; Королькова, 1963, стар. 279—285.

Аб сюжэтах тыпу 1210 і 1245 гл. у каментарыі да тэксту 65.

Сюжэт тыпу 1244 адзначаны ў Паказальніку АТ у рускім, фінскім, эстонскім, саамскім, вянгерскім, сербскім, нямецкім, французскім і іспанскім фалькорным матэрыяле. Бел. вар.: Романов, III, стар. 420—422, № 22 б. Рус. вар. — 4 (Пропп, стар. 488). Укр. вар.: Етногр. зб., VI, № 96.

### 67. Дурны пан

АА 1384 (Муж шукае людзей дурней за сваю жонку) + 1450 (Дурная нявеста аплаквае лёс яшчэ ненароджанага дзіцяці)+*1541 I (=АТ 1540 А*. Мужык выпрошвае ў пані свінню ў госці) + 1528 (Птушка пад капелюшом). Шейн, II, стар. 183—184, № 86. Зап. вучань Свіслацкай настаўніцкай семінарыі Саланевіч у 1880—1890-х гадах у в. Навасёлкі Масляна-Багародзіцкай вол. Гродзенскага павета і губ.

Традыцыйная кантамінацыя сюжэтаў.

Аб сюжэтных тыпах 1384 і 1450 гл. у каментарыях да тэкстаў 65, 66, а сюжэтных тыпах АТ 1540 А* і 1528 — у каментарыі да тэксту 63.

### 68. Сеўчык

АА—. АТ—. Нагадвае часткова тыпы *1528 I (=АТ 1528) і *1731 (=АТ 1745*) — гл. ніжэй. Друкуецца ўпершыню з архіва Л. Барага. Зап. Л. Барагам у 1945 г. у в. Дзярэчын Зэльвенскага р-на Гродзенскай вобл.

ад Юльяна Васільевіча Іодзіка, 67 г. Ён валодаў шырокім рэпертуарам бытавых і легендарных казак, з якога былі запісаны толькі гэта анекдатычная казка і некалькі легенд з яскравай сацыяльнай завостранасцю.

Варыянты не адзначаны.

## 69. Бяда

АА *1528 I (=AT 1528. Пан шукае бяду). Друкуецца ўпершыню з архіва Л. Барага. Зап. Л. Бараг у 1945 г. у с. Вялікі Рожын Ганцавіцкага р-на Пінскай вобл. (цяпер Салігорскі р-н Мінскай вобл.) ад Тараса Іванавіча Сечкі, 82 г. Ад яго было запісана дванаццаць маленькіх казак. Расказваў ён у сувязі з той або іншай заўвагай субяседніка, або, «напрыклад», «на выпадак». Увесь свой рэпертуар Т. І. Сечка засвоіў ад рожанскіх дзядоў «на бяседах» (у тым ліку ад казачнікаў, ад якіх запісваў яшчэ ў дарэвалюцыйныя гады А. К. Сержпутоўскі). Ад яго ж запісан тэкст 70.

Гэты сюжэт адзначаны толькі ва ўсходнеславянскім фальклорным матэрыяле. Часцей за ўсё сустракаецца ў спалучэнні з іншымі сюжэтамі. У Паказальніку AT ён не адмежаваны ад сюжэтнага тыпу «Сокал пад капелюшом». Бел. вар.: Federowski, III, стар. 175—176, № 329 — кант. з AT 1358 А. Рус. вар.: Д. Садовников. Сказки и предания Самарского края. СПб, 1884, № 67. Укр. вар.: Чубинский, II, стар. 510—514, № 11; стар. 626—632, № 92—94; стар. 636, № 97; Етногр. зб., IX, стар. 13—16, № 8; Левченко, стар. 461—471, № 548—552.

## 70. Голы суддзя

АА 757 (Горды цар). Друкуецца з архіва Л. Барага. Апубл. на нямецкай мове: Barag, стар. 375, № 55. Зап. Л. Бараг у 1945 г. у с. Вялікі Рожын Ганцавіцкага р-на Пінскай вобл. (цяпер Салігорскі р-н Мінскай вобл.) ад Тараса Іванавіча Сечкі, 82 г. Гл. каментарый да папярэдняга тэксту.

У фальклорных зборніках казкі тыпу 757 сустракаюцца рэдка. У Паказальніку AT улічаны тры індыйскія казкі і адзінкавыя фальклорныя тэксты, запісаныя ў Кітаі, Ісландыі, Венгрыі, Чэхіі і Расіі. Сюжэт мае вялікую літаратурную гісторыю. Са старажытных літаратурных апрацовак гэтага сюжэта самыя блізкія адносіны да ўсходнеславянскіх казак і духоўных вершаў мае «Приклад о гордом цесаре Евиняне» ў рускім перакладным зборніку «Римские деяния» і яе варыянт «Повесть о царе Аггее» ў рукапісных зборніках XVII—XVIII стст. Першы ўсходнеславянскі літаратурны пераказ — у творы ўкраінскага пісьменніка XVII ст. Іанікія Галятоўскага «Высокое небо». «Сказание о гордом Аггее» (1886), створанае на казачнай фальклорнай аснове,— адзін з лепшых твораў У. Гаршына. У 1886 г. гэты сюжэт апрацоўваў Л. М. Талстой. Чарнавы накід талстоўскай п'есы пра гордага цара быў апублікаваны ўпершыню ў 1926 г. («Неизданные рассказы і пьесы»). У канцы XIX ст. на ўкраінскай мове з'явіліся «Повість про царя Аггея» В. Шурата і «Оповідання про царя Аггея» І. Франко. У 1902 г. у Лондане была выдадзена на рускай мове кніга Ф. Валхоўскага «Сказания о царе Симеоне» — літаратурная апрацоўка фальклорнага сюжэта ў сатырычным плане. Апошняй вядомай рускай літаратурнай апрацоўкай сюжэта пра гордага цара з'яўляецца аповесць А. Рэ-

мізава «Царь Аггей», напісаная незадоўга да Кастрычніка. Сюжэт апрацоўваўся таксама амерыканскім паэтам Г. Лангфела і польскім пісьменнікам Л. Сяменьскім. Даследаванні: А. Н. Веселовский. Разыскания в области русского духовного стиха, т. 40. СПб, 1881; M. Dahlke. Das Sujet vom stolzen Kaiser i den slavischen volkskunde und Kunstliteratur. Amsterdam, 1973. Бел. вар. няма. Рус. вар.: А. Н. Афанасьев. Народные русские легенды. Казань. 1914, № 24 (АА, стар. 53). Укр. вар.: Рудченко, I, стар. 159—164, № 36; Гринченко. Из уст народа, стар. 410—412; Moszyńska, стар. 117, № 14; А. Каліна. Дванадцять братів. Ужгород, 1972, стар. 135—138. Польск. — 5 (Krzyż., I, стар. 239). Арыгінальным варыянтам сюжэтнага тыпу 757 з'яўляецца беларуская казка Т. Сечкі. Яна зусім пазбаўлена фантастычнага элементу, характэрнага для іншых казак пра гордага цара. Эпізод «Голы суддзя становіцца павадыром сляпых жабракоў» нагадвае «Сказание о гордом Аггее» У. Гаршына.

### 71. Як паніч зпавіў гора

АА *1528 I (=АТ 1528) + *1360 I (=АТ 1358 А. Каханак у выглядзе чорта — параўн. 1535, 1725). АІМЭФ, ф. 8, воп. 2, спр. 2, сш. 3. Зап. А. Фядосік у 1968 г. у в. Трасціно Хоцімскага р-на Магілёўскай вобл. ад М. Б. Новікавай, 75 г. Ад яе ж запісан тэкст 64.

Кантамінацыя сюжэтаў, традыцыйная для ўсходнеславянскіх казак, часта сустракаецца ва ўкраінскім фальклорным матэрыяле.

Аб першым сюжэце гл. у каментарыі да тэксту 51.

Сюжэтны тып АТ 1358 А не заўсёды паддаецца дакладнаму адмежаванню ад тыпаў «Дарагая шкура» і «Закаханы поп». У Паказальніку АТ улічаны рускія, літоўскія, англійскія і японскія фальклорныя тэксты. Бел. вар.: Шейн, II, стар. 222—223, № 103; Federowski, III, стар. 175—176, № 329; стар. 182—183, № 342 аб'яднаны з АТ 1725. Рус. вар. — 14 (Пропп, стар. 489). Укр. вар.: Рудченко, I, стар. 170—171, № 61; Гринченко, I, стар. 271—273, № 188; Чубинский, II, стар. 623—632, № 92, 94; стар. 636—639, № 97; Етногр. зб., VII, стар. 22—25, № 7; Ск. Верховины, стар. 38—41. Польск. — 4 (Krzyż., II, стар. 52). Звычайна ва ўсходнеславянскіх казках палюбоўнікам, які нагадвае чорта, з'яўляецца поп (напрыклад, у казцы М. Б. Новікавай) або ксёндз (гл. наступны тэкст — 72), часам памешчык.

### 72. Ксёндз заміж д'ябла

АА *1528 I (=АТ 1528. Пан шукае бяду) + *1360 I (=АТ 1358 А. Каханак у выглядзе чорта). Federowski, III, стар. 175—176, № 329. Зап. М. Федароўскі ў канцы XIX ст. у м. Мсцібава Ваўкавыскага п. Гродзенскай губ. ад сялянкі Юзэфы Аслаўскай.

Аб гэтай традыцыйнай для ўсходнеславянскіх казак кантамінацыі сюжэтаў гл. у каментарыі да тэксту 71. У казцы Ю. Аслаўскай ёсць характэрныя для сюжэтаў АТ 1528 і 1358 А эпізоды, якія адсутнічаюць у папярэдніх варыянтах (тэкст 71): голы пан прымае вавёрку за бяду; голы пан, вымагаючы ў ксяндза-палюбоўніка адзенне і маёмасць, пагражае запець і такім чынам выдаць яго.

*Мові* — кажа.

*Естэм* — ёсць.
*Не вытшымам, заспевам!* — Не вытрымаю, засписваю!
*Муй* — мой.
...*Конь увёнзаны стоі за дворэм, вэзь собі і едзь* — ...Конь прывязаны стаіць за дваром, вазьмі сабе і едзь.
*Тэн* — той.
*Пшыймуе* — прымае.
*Цось* — штосьці.
*Нігды* — ніколі.
— *Ве пан цо? Пан ма д'ябла за пецэм; допукі он там, то пану нігды ўдаваццa не бэндзе.* — Ведае пан што? У пана д'ябал за печчу; дак пакуль ён там, то пану ніколі ўдаваццa не будзе.
*Выпэндзіць* — выгнаць.
*Горонцэй* — гарачай.
*Жэ* — што.

### 73. Залатыя птушкі пад шапкай

Эпізоды «Работнік вымагае ў пана залатыя боты», «Лысы пан, паводле парады работніка, спрабуе адпусціць валасы» не маюць адпаведнасцей у апублікаваным казачным матэрыяле. За імі ідзе сюжэт тыпу 1528 — «Птушка (птушкі) пад капелюшом». Сюжэт гэты набывае своеасаблівае развіццё ў эпізодзе «Пан затыкае пальцам дзірку ў бочцы і вартуе «заморскае віно». АІМЭФ, ф. 13, воп. 7, спр. 5, сш. 1, л. 1. Зап. В. Завацкі ў 1954 г. у в. Чарняты Смаргонскага р-на Гродзенскай вобл. ад свайго дзеда. Ад яго ж запісаны тэксты 74—77, 166.
Вар. тыпу 1528 адзначаны ў каментарыі да тэксту 63.
*Добжэ* — добра.
*Цо ты веш?* — Што ты ведаеш?

### 74. Як мужык ашукаў папа і дзяка і заставіў рукі збрудзіць

Сюжэтная аснова гэтай казкі пра кабылу, якая быццам апаражняеццa залатымі манетамі, знаходзіць адпаведнасць у казках тыпу 1539 (Блазен). АІМЭФ, ф. 13, воп. 7, спр. 5, сш. 1. Зап. В. Завацкі ў 1954 г. у в. Чарняты Смаргонскага р-на Гродзенскай вобл. ад свайго дзеда. Ад яго ж запісаны таксама тэксты 73, 75—77, 166.
Гл. каментарый да тэксту 42.

### 75. Хлопец-нянька

Уступны эпізод (ліса ўсунула галаву ў збан, а выцягнуць не можа, за ёй бягуць людзі; хлопец пераконвае пана, што людзі гоняцца за залатой птушкай, і пан таксама пускаеццa ў пагоню) нагадвае казкі тыпу АА *64 (=АТ 68 В. Ліса топіць збан) і тыпу 1539 (Блазен). Наступны эпізод службы хлопца, які абмяняўся з дзяўчынай адзеннем, нянькай нагадвае казкі тыпу АТ 1538* (Блазен-нявеста). Далей развіваеццa сюжэт тыпу 1525 А аб спрытным крадзяжы панскага каня і панскіх грошай. АІМЭФ, ф. 13, воп. 7, спр. 5, сш. 1, л. 4. Зап. В. Завацкі ў 1954 г. у в. Чарняты Смаргонскага р-на Гродзенскай вобл. ад свайго дзеда. Ад яго ж запісаны тэксты 73, 74, 76, 77, 166.
Гл. каментарыі да тэкстаў 34, 41, 21.

### 76. Як мужык асмеліўся проці пана сказаць

АА—. АТ—. Часткова нагадвае такія казкі-анекдоты аб дасціпных, спрытных і камічных адказах, як «Бесклапотны манастыр» (тып 922) і «Усё добра» (АА *2014 = АТ 2040). АІМЭФ, ф. 13, воп. 7, спр. 5, сш. 1, л. 5. Зап. В. Завацкі ў 1954 г. у в. Чарняты Смаргонскага р-на Гродзенскай вобл. ад свайго дзеда. Ад яго ж запісаны тэксты 73—75, 77, 166.

Варыянты не адзначаны. Вобраз мужыка, які асмеліўся проці пана сказаць, мае падабенства з вобразам Стопка, «які ўмеў з панам гаварыць»,— героя казкі «Мужык і пан» (тэкст 80).

### 77. Поп, сыны і пападдзя

АА 1831 (Зладзейская абедня) + 1536 (=АТ 1536 А. Нябожчыца-зладзейка). АІМЭФ, ф. 13, воп. 7, спр. 5, сш. 1, л. 8. Зап. В. Завацкі ў 1954 г. у в. Чарняты Смаргонскага р-на Гродзенскай вобл. ад свайго дзеда. Ад яго ж запісаны тэксты 73—76, 166.

Да тыпу 1831. Казкі-анекдоты пра тое, як поп і яго хаўруснікі-зладзеі перагаварваліся (пра няўдалы крадзеж жывёлы) за абедняй, адзначаны ў Паказальніку АТ у рускім, фінскім, эстонскім, літоўскім, ірландскім, французскім, іспанскім і лаціна-амерыканскім фальклорным матэрыяле. Бел. вар.: Federowski, III, стар. 178, № 336; стар. 294, № 565. Рус. вар. — 4 (АА, стар. 105; Никифоров, № 67; М. Азадовский. Народные сказки о боге, святых и попах. М., 1963, № 30 — тэкст з архіва РГО). Укр. вар.: ZWAK, VIII, 1884, стар. 234; зб. «Народ про релігію», упорядкували М. Родіна, Ф. Ткаченко. Київ, 1958, стар. 92. Польск.— 4 (Krzyż., II, стар. 147—148).

Казкі пра нябожчыцу-зладзейку тыпу 1536 распаўсюджаны ў многіх краінах Еўропы. У Паказальніку АТ улічаны таксама фальклорныя тэксты, запісаныя ў Індыі, Карэі і Амерыцы. Найбольшая колькасць тэкстаў ёсць у фінскім матэрыяле (130). Бел. вар.: Шейн, II, стар. 232—235; Federowski, III, стар. 83—85, № 72; Klich, стар. 22—24, № 15. Рус. вар. — 3 (АА, стар. 91). Укр. вар. — 5: Kolberg, 1888, IV, № 67, 69; Етногр. зб., VII, № 21; Гиряк, II, 1969, № 53; IV, 1972, № 37. Польск. — 16 (Krzyż., II, стар. 83—84). Заключны эпізод гэтай беларускай казкі, а таксама іншых казак пра нябожчыцу-зладзейку нагадвае казкі тыпу 1537 (Мёртвае цела).

### 78. Аб ксяндзу і арганістаму

АА 1831 (Зладзейская абедня). АІМЭФ, ф. 8, воп. 1, спр. 53, сш. 2, л. 31. Зап. І. Чыгрын у 1960 г. у в. Мікалаеўшчына Стаўбцоўскага р-на Мінскай вобл. ад М. М. Белага.

Аб сюжэтным тыпе 1831 гл. у каментарыі да тэксту 77. У казцы М. М. Белага распрацаваны больш падрабязна, чым у казцы «Поп, сыны і пападдзя», заключны эпізод.

## 79. Ксёндз і арганіст

АА 1536 (=АТ 1536 А. Нябожчыца-зладзейка). Друкуецца з архіва Л. Барага. Апубл. на нямецкай мове: Barag, стар. 433—535, № 76. Зап. Л. Бараг у 1945 г. у в. Барукі Астраўскога с/с Зэльвенскага р-на Гродзенскай вобл. ад Міхася Паўлавіча Рыбака, 74 г. У яго рэпертуары было каля 20 сацыяльна-бытавых казак.

Аб сюжэце «Нябожчыца-зладзейка» гл. у каментарыі да тэксту 77. У казцы М. П. Рыбака заключныя эпізоды распрацаваны больш падрабязна, чым у казцы «Поп, сыны і пападдзя».

## 80. Мужык і пан

АА *2014=АТ 2040. Гл. таксама S. Thompson. Motif-index (FFC, № 116), стар. 427, № 41, 10. Сержпутовский, стар. 83—86, № 47. Зап. А. Сержпутоўскі ў 1890—1900-х гадах у с. Вялікі Рожын Слуцкага п. Мінскай губ. (цяпер Салігорскі р-н Мінскай вобласці) ад стогадовага дзеда Рэдкага. Ад яго ж запісаны тэксты 12, 146, 190, 191, 193.

У Паказальніку АТ, акрамя еўрапейскіх, улічаны варыянты анекдатычнага сюжэта «Усё добра» («Сцізорык зламаўся»), запісаныя ў Амерыцы. Літаратурная гісторыя анекдота адносіцца да XIII ст. («Exempla of Jacque de Vitry», № 205). Бел. вар.: E. Tyszkiewicz. Opisanie powiatu Borysowskiego. Wilno, 1847, стар. 428; Federowski, III, стар. 150, № 262; Шейн, стар. 321, № 158. Рус. вар. — 5 (Пропп, стар. 500; Никифоров, № 30). Укр. вар.: Гринченко, Вес. оповідач, стар. 14, № 41. Казка Рэдкага вылучаецца сярод іншых апублікаваных фальклорных тэкстаў гэтага сюжэтнага тыпу сатырычнай глыбінёй і яскравасцю адлюстравання класавай нянавісці да прыгнятальнікаў.

*Чаго-кольвек* — чаго-небудзь.
*Крадэнс* — гасціная.
*Прэндзэй* — хутчэй.
*Жжэбец* — жарабец.
*Выжэл* — сабака.
*Прэнтко* — хутка.
*Спалілысен* — спаліліся.
*Змарл* — памёр.
*Гадай* — гавары.

## 81. Мужык з рапортам

АА *2014 = АТ 2014. Federowski, III, стар. 150, № 262. Зап. М. Федароўскі ў канцы XIX ст. у в. Хадароўка Сакольскага п. Гродзенскай губ. ад Яна Дзежкі. Ад яго ж запісаны тэксты 82, 91.

Гл. каментарыі да тэксту 80.

Двухмоўны дыялог (пан пытаецца па-польску, а мужык адказвае пабеларуску) часта сустракаецца ў казках заходніх абласцей Беларусі і надае народнай сатыры асаблівую мастацкую выразнасць.

*Едэн* — адзін.
*Огер* — жарабец.

## 82. Якую святы Марцін даў немцу навуку

АА—. АТ—. Далучаецца да анекдотаў пра дурняў тыпу 1312. Federowski, III, стар. 205—206, № 400. Зап. М. Федароўскі ў канцы XIX ст. у в. Хадароўка Сакольскага п. Гродзенскай губ. ад Яна Дзежкі. Ад яго ж запісаны тэксты 81, 91.

Бел. вар.: Federowski, III, стар. 210, № 413. Аддалена нагадвае рускую казку-анекдот пра немца-кіраўніка, які не дазволіў рабочым адпачываць у свята святога Міколы, але, спалохаўшыся сарака мучанікаў, згадзіўся даць ім адпачынак у іншае свята (Материалы и исследования по фольклору Башкирии и Урала, вып. I. Уфа, 1974, стар. 87, № 45).

*Кілька* — некалькі.

*Ніц* — нічога.

*Но, паночку, буду святкаваць, бо дзісь ушысткіх святых* — Ну, паночку, буду светкаваць, бо сёння свята ўсіх святых.

*То як он зостал една, кеды юж была ушыстке свентэ* — Дык як жа ён застаўся адзін, калі ўжо было свята ўсіх святых.

*Ніц не бэндзе* — нічога не будзе.

*Ну, ты фозіц мне до его, я з нім розправіц се!* — Ну, ты вязі мяне да яго, я з ім распраўлюся.

*Цо* — што.

## 83. Прысяга жаноцка

АА 1352* (=АТ 1510 Несуцешная ўдава). Federowski, III, стар. 25—26, № 63. Зап. М. Федароўскі ў канцы XIX ст. у в. Дрыга Сакольскага п. Гродзенскай губ. ад Яна Дзежкі. Ад яго ж запісаны тэкст 10.

Вытокі гэтага сюжэта ў старажытнейшых помніках індыйскай і кітайскай пісьменнасці IV ст. да н. э. вядомы па навеле Пятронія «Матрона з Эфесу» з «Сатырыкона» (I ст. н. э.) і неаднаразова літаратурна апрацоўваўся ў сярэднія вякі (зборнікі Жака дэ Вітры, Іагана Паулі і інш.). Вядомы таксама польскія вершаваныя пералажэнні і інсцэніроўкі сюжэта «Несуцешная ўдава» XVII—XVIII стст. Даследаванне: Griesbach. Die Wanderung der Nowelle von treulosen witwe dürch Weltliteratur. Lpz., 1886. У Паказальніку АТ улічаны фальклорныя тэксты, запісаныя ў еўрапейскіх краінах, на Бліжнім Усходзе, у Афрыцы. Польская казка гэтага тыпу (са збору Нітша) адзначана у Паказальніку Кржыжаноўскага, II, стар. 69. Ва ўсходнеславянскіх зборніках варыянтаў няма. Казка Я. Дзежкі мае своеасаблівы фінал: жаніх забівае ўдаву (у іншых падобных казках жаніх кідае яе).

*Жэб* — каб.

*Тылё* — столькі.

## 84. Як сабе мужык парадзіў з ліхою жонкаю

АА 901 А (=АТ 901. Утаймаванне свавольніцы). Federowski, III, стар. 78—79, № 160. Зап. М. Федароўскі ў канцы XIX ст. у в. Новікі Ваўкавыскага п. Гродзенскай губ. ад сялянкі Седлярышкі.

Казкі гэтага тыпу вусна бытуюць ва ўсіх частках свету. Параўн. камедыю Шэкспіра «Утаймаванне свавольніцы». Ёй папярэднічалі іншыя літаратурныя апрацоўкі гэтага фальклорнага сюжэта — Жуана Мануэля (зб.

«Прынц Луканор», каля 1300 г.) і Страпаролы (зб. «Прыемныя ночы», XVI ст.). Параўн. варыянты беларускага казачніка: Господарев, стар. 419—422, № 34, Рус. вар.— 10 (Пропп, стар. 483; Бараг, стар. 87, № 15). Укр. вар.: Рудченко, I, № 68; Етногр. зб., XXX, № 97. Фінал казкі своеасаблівы: жонка забівае мужа.

### 85. Як хлопец дзеўку к рабоце прыламіў

АА 901 А = АТ 901. АІМЭФ, ф. 8, воп. 1, спр. 43, сш. 2, л. 5. Зап. К. Ідэльсон у 1959 г. у в. Масленка Крупскага р-на Мінскай вобл. ад Цімафея Камарова, 50 г.

Аб казках гэтага тыпу гл. у папярэднім каментарыі. У гэтым варыянце сюжэт ускладняецца эпізодам перавыхавання лянівай цешчы. У адрозненне ад «Утаймавання свавольніцы» В. Шэкспіра і казкі «Як сабе мужык парадзіў з ліхою жонкаю» ў гэтай казцы муж перавыхоўвае лянівую, а не сваволную жонку.

### 86. Хомкава жонка

АА 1383 (Жонка не пазнае сябе). Романов, III, стар. 382—383, № 5. Зап. Е. Раманаў у 1870—1880-х гадах у Рагачоўскім п. Магілёўскай губ.

У Паказальніку АТ, акрамя еўрапейскіх, улічаны фальклорныя тэксты, запісаныя ў Паўночнай Амерыцы. Гісторыя гэтага сюжэта прасочваецца на Захадзе з XVI ст.: нідэрландская школьная камедыя на лацінскай мове: «Aluta» (1535), шатландская балада, нямецкія шванкі. Параўн. камедыю Ж. Мальера «Жорж Дандэн» (Муж не пазнае сябе). Бел. вар.: Шейн, II, стар. 187—190, № 89; Сержпутоўскі, Казкі, стар. 64—66, № 28. Рус. вар. — 14 (Пропп, стар. 490). Укр. вар. — 12 (Андреев; Лінтур, Сатира, стар. 93—97).

### 87. Вада памагла

АА *1429 = АТ 1429*. Сержпутовский, стар. 44—45, № 21. Зап. А. Сержпутоўскі ў 1890—1900-х гадах у в. Лучыцы Мазырскага п. Мінскай губ. ад І. П. Азёмшы. Ад яго ж запісаны тэксты 59, 88, 109—112, 141, 154.

У Паказальніку АТ улічаны толькі адзін фальклорны тэкст — рускі: М. Серова. Новгородские сказки, изд. 2-е. Л., 1925 (АА, стар. 86). Другі рускі варыянт: Материалы и исследования по фольклору Башкирии и Урала, т. I. Уфа, 1974, стар. 211—212.

### 88. Чорт і баба

АА 1165* (=АТ 1353. «Баба горш за чорта») + 1130 (Капялюш грошай) + 1083 (Бойка віламі). Сержпутовский, стар. 67—71, № 37. Зап. А. Сержпутоўскі ў 1890—1900-х гадах у в. Лучыцы Мазырскага п. Мінскай губ. ад І. П. Азёмшы. Гл. таксама казкі І. П. Азёмшы: 59, 87, 109—112, 141, 154.

Гісторыя сюжэта «Баба горш за чорта», які бытуе ў многіх краінах Еўропы і Азіі, звязана са старажытнымі ўсходнімі зборнікамі «Панчатантра», «Трыпітака» і «Ятака». Даўнейшая еўрапейская версія Іозефа бен Сабары з Барселоны датуецца XII ст., была апрацавана ў XIII ст. Адольфусам у творы пра жаночае каварства («De astucio majerum»). Казка гэтага тыпу ўвайшла затым у зб. Жуана Мануэля «Прынц Луканор». У XVI ст. сюжэт літаратурна апрацоўваўся Марцінам Лютэрам («Застольныя прамовы») і Гансам Саксам («Fastnachsspiele»), ён вядомы таксама па зборніках павучальных прыкладаў для каталіцкіх прапаведнікаў. Гл.: Ю. Поліўка. «Баба хуже черта». «Русский филологический вестник», 1910, № 1, стар. 342—366. Бел. вар.: Добровольский, I, стар. 346—348, № 5; Шейн, II, стар. 135—140, № 61—62; Этнографическое обозрение, 1895, № 1, стар. 117—118; Сержпутовский, стар. 67—71, № 37; Glinski, III, № 13; Господарев, стар. 515—517, № 59. Рус. вар.: Худяков (1964), № 57; Королькова, стар. 343—346; Никифоров, № 16. Укр. вар.: Рудченко, I, стар. 72—74, № 40; Гринченко, II, стар. 62—63, № 65; Гринченко. Из уст народа, стар. 393—395, № 364. Польск.— 12 (Krzyż., II, стар. 50). Эпізод «Чорт павінен насыпаць поўны капялюш грошай» адпавядае сюжэтнаму тыпу 1130. Гісторыя гэтага сюжэта (матыва) звязана з сярэдневяковай легендай пра каталіцкага святога Бенедзікта. Даўнейшая літаратурная апрацоўка адносіцца да XVI ст. — шванк Ганса Сакса. У Паказальніку АТ, акрамя еўрапейскіх, улічаны фальклорныя тэксты, запісаныя ў Вест-Індыі. Бел. вар.: Шейн, II, стар. 412—414, № 57; Federowski, I, стар. 31—32, № 100; Klich, стар. 85—87, № 1; Сержпутовский, стар. 109—112, № 57. Рус. вар. — 14 (Пропп, стар. 487). Укр. вар. — 18 (Андреев; Ск. Верховины, стар. 147—149). Эпізод «Баба і чорт б'юцца віламі» адпавядае сюжэтнаму тыпу 1083. Бел. вар.: Federowski, I, стар. 33—34, № 102; Klich, стар. 85—87, № 1. Рус. вар. — 2 (АА, стар. 74). Казка Азёмшы вылучаецца цудоўнай драматычнай выразнасцю, жывасцю дыялога і з'яўляецца адной з лепшых усходнеславянскіх казак пра бабу, якая абхітрыла і чорта.

## 89. Жонка стражніка і чорт

АА 1164 (Злая жонка ў яме). Шейн, II, стар. 140—143, № 63. Зап. М. Навіцкая ў другой палавіне XIX ст. у Навагрудскім п. Мінскай губ.

Гісторыя сусветна вядомых казак гэтага тыпу звязана з «Тысячай і адной ноччу», зборнікам Страпаролы «Прыемныя ночы» (сярэдзіна XIV ст.) і навелай «Бельфагор» Макіявелі (1469—1527). Сюжэт «Бельфагор» апрацоўваўся пісьменнікам Казімірам Тэтмайерам (апавяданне «Як баба чорта выгнала»). Даследаванні: Axon. The story of Belfagor in Folklore and Literature. London, 1902; J. Krzyżanowski. Paralele. Warszawa, 1961, стар. 430 і наст. Бел. вар.: Романов, III, стар. 384—385, № 7; IV, стар. 119—121, № 62, 63; Добровольский, 1, стар. 357—358, № 10; Federowski, II, стар. 256—258, № 275—276; Klich, стар. 13—14, № 7; Сержпутоўскі, Казкі, стар. 52—53, № 24. Рус. вар.— 21 (Пропп, стар. 488; Никифоров, № 32; Королькова, стар. 232—236; Балашов, стар. 113, № 84). Укр. вар. — 9 (пералік тэкстаў гл. у каментарыях да III тома казак Афанасьева (1940, стар. 459). Польск.— 22 (Krzyż., II, стар. 22—23).

*Прэндзей* — хутчэй.

### 90. Баба і чорт

Параўн. АА 1164. Шейн, II, стар. 143—144, № 64. Зап. А. Ф. Лісоўскі ў Каралеўскай вол. Віцебскага п. і губ.

Аб казках тыпу 1164 гл. у папярэднім каментарыі. Гэты тэкст уяўляе сабой вельмі своеасаблівую разнавіднасць сюжэта «Бельфагор» (Злая жонка ў яме).

### 91. Якую ксёндз даў раду старому ойцу

АА—. АТ 982 = 946* (Камяні ў куфры або шкатулцы, збане). Federowski, III, стар. 29—30, № 69. Зап. М. Федароўскі ў канцы XIX ст. у в. Хадароўка Сакольскага п. Гродзенскай губ. ад Яна Дзежкі. Ад яго ж запісаны тэксты 81, 82.

*Рэшнія* — апошнія.

У Паказальніку АТ, акрамя еўрапейскіх, улічаны індыйскія і інданезійскія фальклорныя тэксты. Для польскіх і іншых заходніх варыянтаў характэрны ўступ: стары дзеліць маёмасць паміж дочкамі. Бел. вар.: Карский, II, стар. 63—67 (Мазырскі п.). Укр. вар.: Драгоманов, стар. 177—178. Польск.— гл. Krzyż., I, стар. 288.

### 92. Салдацкі «отчэ наш»

АА—. АТ—. Адносіцца да казак пра разумныя і камічныя адказы. АІМЭФ, ф. 8, воп. 1, спр. 1, л. 36. Зап. М. Грынблат у 1946 г. у в. Чыжэвічы Старобінскага р-на Бабруйскай (цяпер Мінскай) вобл. ад Я. А. Альховіча, 61 г. Ад яго ж запісаны тэксты 93, 94.

### 93. Салдат у касцёле

АА—. АТ—. Адносіцца да казак пра разумныя, камічныя адказы. АІМЭФ, ф. 8, воп. 1, спр. 1, л. 1. Зап. М. Грынблат у 1946 г. у в. Чыжэвічы Старобінскага р-на Бабруйскай (цяпер Мінскай) вобл. ад Я. А. Альховіча, 61 г. Ад яго ж запісаны тэксты 92, 94.

### 94. Як кучар вучыў пана птушачаму языку і зрабіў такое, каб было з чаго пасмяяцца

АА—. АТ—. Першая частка (Кучар вучыць птушачай мове) адносіцца да анекдатычных сюжэтаў пра дурняў. Сюжэт другой часткі (Пан знаходзіць у пані палюбоўніка) часткова нагадвае казкі пра бабіны хітрыкі (тып 1406) і пра мужа, які вартаваў сваю жонку і трапіў у непрыемнае становішча (тып 1407). АІМЭФ, ф. 8, воп. 1, спр. 8, сш. 2, л. 18. Зап. М. Грынблат у 1946 г. у в. Чыжэвічы Старобінскага р-на Бабруйскай (цяпер Мінскай) вобл. ад Я. А. Альховіча, 61 г. Ад яго ж запісаны тэксты 92, 93.

Вар.: Сержпутовский, стар. 49—50, № 25 (Пан знаходзіць для пані «майстра», дае яму ўсялякага матэрыялу, адводзіць яму ў пакоях месца, а той становіцца палюбоўнікам).

*Жэб* — каб.

### 95. Як Данілка прадаваў зайцаў і вучыў гаварыць пеўняў

АА*1731 (=AT 1745*. Мужык прадае зайцаў дочкам папа і пападдзі: яны згаджаюцца на яго прапанову) + 1750 (Палюбоўнік папоўны і пападдзі бярэцца выседжваць яйкі і навучыць размаўляць пеўняў). АІМЭФ, ф. 8, воп. 1, спр. 44, сш. 3, л. 15. Зап. А. Фядосік у 1959 г., у г. п. Мікашэвічы Ленінскага р-на Брэсцкай вобл. ад Віктара Сяргеевіча Данілава, 31 г.

У Паказальніку АТ улічаны толькі рускія і літоўскія казкі тыпу 1745*. Бел. вар. у апублікаваным матэрыяле няма. Рус. вар. — 3 (АА, стар. 102). Матыў «Герой пасвіць зайцаў, збірае іх з дапамогай дудкі» мае адпаведнасць у чарадзейных казках тыпу 570 («Заечы пастух»): Сержпутоўскі, Казкі, стар. 103, № 45; Kolberg, 1889, стар. 201—202, № 2; дзве польскія казкі пра заечага пастуха адзначаны ў Паказальніку Кржыжаноўскага, I, стар. 167.

Да тыпу 1750 часткова адносіцца апублікаваная раней на нямецкай мове казка «Трахім пана ашукаў» (Barag, стар. 463, № 86).

### 96. Поп

АА 1726**=AT 1726 A* (Мужык помсціць папу, які падмануў яго жонку: дастае ў пападдзі і папоўны барану). Параўн. таксама тып 1563 («Абедзвюх?»). Сержпутовский, стар. 76—77, № 42. Зап. А. Сержпутоўскі ў 1890—1900-х гадах у в. Белае Балота Слуцкага п. Мінскай губ. ад селяніна Якава Кернажыцкага.

Адзіны адзначаны ў апублікаваным фальклорным матэрыяле варыянт — рускі: Б. і Ю. Сакаловы. Сказки и песни Белозерского края. М., 1915, № 25. Казка Я. Кернажыцкага вылучаецца публіцыстычнай завостранасцю і падрабязнай перадачай бытавых дэталей.

Казка друкуецца ў скарачэнні.

### 97. Трапіла каса на камень

АА 1735 («Хто аддасць апошняе, атрымае ад бога дубальтам»). Federowski, III, стар. 153, № 271. Зап. М. Федароўскі ў канцы XIX ст. у в. Дварчаны Ваўкавыскага п. Гродзенскай губ. ад Магдусі Крэўчыкавай.

Даўнейшыя літаратурныя тэксты — нямецкія шванкі — адносяцца да XVI ст. Сюжэт бытуе пераважна ў паўночнай і ўсходняй частках Еўропы. У апублікаваным усходнеславянскім матэрыяле варыянты не адзначаны.

### 98. Вялікае яйцо

АА 1676 = AT 1319 (Дурань прымае гарбуз за кабыліна яйцо). Weryha, стар. 16—17. Зап. В. Верыга ў другой палавіне XIX ст. у Лідскім п. Віленскай губ.

Літаратурная гісторыя гэтага сюжэта на Захадзе ўзыходзіць да XVI ст.— шванк Ганса Сакса. У Паказальніку АТ улічаны фальклорныя тэксты, запісаныя не толькі ў Еўропе, але і ў Азіі, Амерыцы. Бел. вар.: Добровольский, I, стар. 708—709, № 19; Federowski, III, стар. 202, № 390; стар. 207, № 405; часткова Klich, стар. 23—24, № 15;

С е р ж п у т о в с к и й, стар. 85—87, № 36. Рус. вар. — 3 (АА, стар. 99; М о л д а в с к и й, Б а х т и н, стар. 141). Укр. вар.: Ч у б и н с к и й, II, стар. 571—573; М а н ж у р а, стар. 116; «Життэ і слово», IV, 1895, стар. 193; Я в о р с к и й, стар. 203, № 79; Л е в ч е н к о, стар. 580—581, № 637. Польск. — 11 (K r z y ż., II, стар. 40). У большасці ўсходнеславянскіх казак пра кабылінае яйцо высмейваецца дурны поп або пан.

### 99. Як кравец шыў пану фрак без абрэзкаў

АА—. АТ—. АІМЭФ, ф. 8, воп. 1, спр. 47, сш. 2, л. 22. Зап. М. Грынблат у 1960 г. у в. Мішневічы Сіроцінскага р-на Віцебскай вобл. ад Е. Т. Зуева. Ад яго ж запісан тэкст 179.

Варыянты не адзначаны.

### 100. Адукованы бычок

АА 1675. С е р ж п у т о в с к и й, стар. 133—136, № 66. Зап. А. С е р ж п у т о ў с к і ў 1890—1900-х гадах у в. Чудзін Слуцкага п. Мінскай губ. (цяпер Салігорскі р-н Мінскай вобл.) ад селяніна Каваля.

Гісторыя сюжэта пра бычка, якога аддалі ў горад вучыцца, звязана з «Тысячай і адной ноччу». Даўнейшы еўрапейскі літаратурны тэкст (лацінскі) адносіцца да XIII ст.— у кнізе Штрыкера «Поп Аміс» (надрукавана ў 1482) пра папа, які аддаў асла ў навуку. Сюжэт літаратурна апрацоўваўся і ў наш час. Так, на аснове народнай казкі было напісана папулярнае апавяданне Ядвігіна Ш.. «Вучоны бык». У Паказальніку АТ улічаны фальклорныя тэксты, запісаныя ў Еўропе, Азіі і Амерыцы. Бел. вар.: F e d e r o w s k i, III, стар. 218—219, № 436—437.; Я. С а л а м е в і ч. Міхал Федароўскі. Мінск, 1972, стар. 131—132 (упершыню апублікаваны тэкст з архіва Федароўскага); K l i c h, стар. 11, № 4. Рус. вар. — 2 (АА, стар. 99). Укр. вар.: Я с т р е б о в, стар. 166; Г н е д и ч, IV, стар. 15—16, № 1484; Етногр. зб., VI, № 31—32) = Укр. народні анекдоти, жарти, дотепи. Київ, 1967, стар. 27). Польскі варыянт улічаны ў Паказальніку Кржыжаноўскага (II, стар. 123). Казка Каваля адрозніваецца арыгінальным творчым развіццём матываў традыцыйнага сюжэта.

### 101. Як бычок начальнікам быў

АА 1675. АІМЭФ, ф. 8, воп. 1, спр. 21, сш. 2, л. 2. Зап. В. Цыбікава ў 1948 г. у в. Засімы Кобрынскага р-на Брэсцкай вобл. ад Мікалая Алейнікава.

Гл. каментарый да тэксту 10. Заключныя эпізоды казак Алейнікава і Каваля (тэкст 100) блізка супадаюць і, відавочна, характэрныя для палескіх казак тыпу 1675.

### 102. Пра бычка-трацячка

АА 1675. АІМЭФ, ф. 8, воп. 1, спр. 8, сш. I, л. 26. Зап. М. Грынблат у 1946 г. у в. Мяцявічы Старобінскага р-на Бабруйскай (цяпер Мінскай) вобл. ад Цярэшкі Лявонавіча Дубоўскага, 48 г.

Гл. каментарый да тэксту 100. Гэты варыянт сюжэта пра адукаванага бычка адрозніваецца своеасаблівай антыпамешчыцкай сатырычнай завостранасцю.

### 103. Недапад

АА—. АТ—. Далучаецца да казак пра дурняў (параўн. тып 1590). Сержпутоўскі, Казкі, стар. 137—140, № 59. Зап. А. Сержпутоўскі ў 1900—1910-х гадах у в. Бохава Слуцкага п. Мінскай губ. (цяпер Салігорскі р-н Мінскай вобл.) ад старога дзеда Савіцкага. Ад яго ж запісан тэкст 192.

Варыянты не адзначаны.

*Ку* — кажу.

### 104. Аўсяная дворня

АА—. АТ—. Часткова далучаецца да казак тыпу АТ 1575. Сержпутоўскі, Казкі, стар. 107—109, № 47.

Зап. А. Сержпутоўскі ў 1910—1920-х гадах у в. Чудзін Слуцкага п. Мінскай губ. (цяпер Салігорскі р-н Мінскай вобл.) ад селяніна Сямёна Корчыка.

Варыянты не адзначаны.

### 105. Дваранін

АА—. АТ—. Толькі часткова нагадвае АТ 1543. Сержпутовский, стар. 138—139, № 68. Зап. А. Сержпутоўскі ў 1890—1900-х гадах у в. Камаровічы Мазырскага п. Мінскай губ. ад селяніна Рамана Стайкова.

Падобныя казкі-анекдоты пра шляхціца, які атрымаў быццам бы ад бога ў касцёле 300 рублёў, прыняў голас ксяндза за голас бога і загневаўся на Хрыста, сустракаюцца ва ўкраінскім фальклорным матэрыяле: Левченко, стар. 161, № 232; Лінтур, Сатира, стар. 169—170. Параўн. адзначаныя ў Паказальніку Кржыжаноўскага пад нумарам 1802 казкі-анекдоты такога тыпу: шляхціц у касцёле шэпча богу («Якего мне створылэсь, такего мне маш»); нехта за алтаром называе шляхціца дурнем; шляхціц злуецца на бога («Пане, якего мне створылэсь, такего мне маш!»). Federowski, III, стар. 170, № 314.

*Без еднэго не вэзма* — Без аднаго не вазьму.

### 106. Пану навука

АА 1538 (Мужык помсціць памешчыку). Сержпутовский, стар. 103—107, № 55. Зап. А. Сержпутоўскі ў 1890—1900-х гадах у в. Чудзін Слуцкага п. Мінскай губ. (цяпер Салігорскі р-н Мінскай вобл.) ад селяніна Алеся Дудара.

Казкі пра тое, як пакрыўджаны памешчыкам мужык, пераапрануўшыся (урачом, вянгерцам, купцом і г. д.), тройчы знайшоў выпадак збіць пана, а затым сустрэў яго ў лесе і зноў збіў, вусна бытуюць у многіх краінах Еўропы, запісваліся і ў Амерыцы. Найбольшая колькасць тэкстаў адзначана Томпсанам (Паказальнік АТ) у фінскім (19), літоўскім (15) і французскім (14) фальклорным матэрыяле. Казка «Пану навука» набыла своеасаблівае

творчае адлюстраванне ў аповесці Змітрака Бядулі «Салавей». Бел. вар.: Добровольский, І, стар. 704—707, № 17; Gliński, IV, № 11. Рус. вар.— 5 (Пропп, стар. 493). Укр. вар.: Чубинский, II, стар. 643—644, № 103; Ястребов, стар. 167—168; Barącz, стар. 82; Малинка № 86; Етногр. зб., VI, стар. 167—168, № 328; Левченко, стар. 229—230, № 343; Гиряк, III, 1969, стар. 159—163, № 25. Польск. — 4 (Krzyż., II, стар. 287 — да № 942). Тэкст А. Дудара з'яўляецца самым яркім антыпамешчыцкім сатырычным усходнеславянскім варыянтам гэтага сюжэта. Герой тут выступае мсціўцам за ўсіх абяздоленых, прыгнечаных і пакрыўджаных панам. На трактоўку казачнікам традыцыйных матываў маглі ўплываць шматлікія выпадкі забойства беларускімі сялянамі памешчыкаў і апавяданні пра высакародных разбойнікаў-паўстанцаў, вобразы якіх нагадваюць Рымшу. Па сваёй жанравай форме казка А. Дудара зблізкаецца з гістарычнымі народнымі паданнямі: «Яшчэ да гэтага часу ў цёмным лесе сярод балота стаіць гара. Яе называюць Рымшавай гарою. Гэта паміж Заполлем і Навасёлкамі (Мазырскага п.). Мо ведаеце. Дык, кажуць, там жыў той Рымша...»

### 107. Казка пра Барылу

АА—. АТ—. Расправа Барылы Мазалевіча, пераапранутага дзякам, з панам Хлысцецкім, нагадвае казкі тыпу 1538, асабліва казку пра Рымшу («Пану навука»). Зап. К. Кабашнікаў у 1963 г. у в. Камянцы Навагрудскага р-на Гродзенскай вобл. ад Міхася Батуры.

Гл. каментарый да тэксту 106.

### 108. Як сяляне ад пана пазбавіліся

АА—. АТ—. Расправа Андрэя Моцнага з панам Таўсцяком нагадвае «Казку пра Барылу», казку «Пану навука» і іншыя казкі тыпу 1538. АІМЭФ, ф. 13, воп. 3, спр. 9, л. 4. Зап. С. Прач у 1959 г. у п. Парычы Гомельскай вобл.

Гл. каментарый да тэксту 106.

### 109. Пісар

АА—. АТ—. Далучаецца часткова да тыпу 1698. Сержпутовский, стар. 80—82, № 45. Зап. А. Сержпутоўскі ў 1890—1900-х гадах у в. Лучыцы Мазырскага п. Мінскай губ. ад І. П. Азёмшы. Ад яго ж запісаны тэксты 59, 87, 88, 110—112, 141, 154.

Вар.: Weryha, стар. 62—63, № 16. У іншых фальклорных зборніках анекдоты пра тое, як пісар ашукаў непісьменных мужыкоў, якія прасілі напісаць скаргу, не адзначаны.

### 110. Аб тым, як ксяндзы вылечыліся

АА—. АТ—. Далучаецца часткова да сюжэтнага тыпу 1775. Сержпутовский, стар. 64—65, № 35. Зап. А. Сержпутоўскі ў 1890—1900-х гадах у в. Лучыцы Мазырскага п. Мінскай губ. ад І. П. Азёмшы. Ад яго ж запісаны тэксты 59, 87, 88, 109, 111, 112, 141, 154.

Вытокі гэтага сюжэта, не ўлічанага ў міжнародным Паказальніку, прасочваюцца ў заходнееўрапейскім літаратурным матэрыяле XV—XVI стст., які мае фальклорную аснову: навела 2-я дзесятага дня «Дэкамерона» Д. Бакачыо — як разбойнік марыў голадам тоўстага абата і гэтым яго вылечыў ад хваробы; мейстэрзінгерская песня Г. Сакса «Аббат на водах», фацэцыя зборніка «Facecje Polskie» (1624) — пра тоўстага ксяндза, якога вылечыў пан, трымаючы пад замком і морачы голадам. Польскую фацэцыю вельмі нагадвае ўкраінская казка пра самадура пана Канеўскага-Патоцкага, які вылечыў вельмі тоўстага ксяндза («Ксёндз на курации» — Етногр. зб., VI, стар. 313—314, № 639). Гэта ўкраінская казка нагадвае ў сваю чаргу іншыя ўсходнеславянскія казкі, у якіх вылечванне ксяндзоў, папоў звязана з тэмай перавыхавання працай, напрыклад беларуская казка «Як ксяндзы вылечыліся» і руская казка са зборніка Дабравольскага — «Об «излечении» толстого монаха» (I, стар. 386—387, № 28; у асноўным адносіцца да тыпу 922). Самай яскравай з казак аб сацыяльным перавыхаванні дармаедаў з'яўляецца казка І. П. Азёмшы. Вострая антыпапоўская сатыра характарызуецца таксама антыпрыгонніцкай, антыпамешчыцкай ідэйнай накіраванасцю.

### 111. Мужык, пан і ксёндз

АА 1740 (Свечкі на спінах у ракаў) + 1737 (Поп у мяшку). Сержпутовский, стар. 52—53, № 27. Зап. А. Сержпутоўскі ў 1890—1900-х гадах у в. Лучыцы Мазырскага п. Мінскай губ. ад І. П. Азёмшы. Ад яго ж запісаны тэксты 59, 87, 88, 109, 112, 141, 154.

Аб сюжэтных тыпах 1740 і 1737, якія часта кантамінуюцца ў казках розных народаў, гл. у каментарыях да тэкстаў 21, 22. У казцы І. П. Азёмшы пра тое, як кемлівы, спрытны мужык дапамог пану пасмяяцца з ксяндза, традыцыйныя сюжэты-матывы набываюць своеасаблівую сатырычную распрацоўку. Вобразы і сатырычны стыль гэтай казкі маюць нямала агульнага з казкай Азёмшы «Аб тым, як ксяндзы вылечыліся», хоць адносіцца яна да іншага сюжэтнага тыпу.

### 112. Жаласлівая пані

АА—. АТ—. Адрозніваючыся ад казак у жанравых адносінах, гэта вуснае апавяданне аб часе прыгоннага права мае нямала агульнага з антыпрыгонніцкімі сацыяльна-бытавымі казкамі па сваім жыццёвым змесце і ідэйнай накіраванасці. Сержпутовский, стар. 143—148, № 70. Зап. А. Сержпутоўскі ў 1890—1900-х гадах у в. Лучыцы Мазырскага п. Мінскай губ. ад І. П. Азёмшы. Ад яго ж запісаны тэксты 59, 87, 88, 109—111, 141, 154.

### 113. Радзінкі й памінкі

АА—. АТ—. Параўн. тыпы 1384 (Жонка плача пра лёс яшчэ ненароджанага дзіцяці), 1450 (Нявеста плача аб няшчасці, якое магло б здарыцца з сынам, калі б ён нарадзіўся). Сержпутовский, стар. 53, № 28. Зап. А. Сержпутоўскі ў 1890—1900-х гадах у в. Чудзін Слуцкага п. Мінскай губ. (цяпер Салігорскага р-на Мінскай вобл.) ад селяніна Грышка Бондара.

Гэтая казка — арыгінальнае філасофскае пераасэнсаванне традыцыйных казачных матываў.

## 114. Злодзей, пан і чорт

АА—. АТ—. Часткова нагадвае сюжэты пра тое, як парабак расправіўся з гаспадаром, часткова — сюжэты аб продажы душы дурному чорту. Шейн, II, стар. 146—148, № 67. Зап. Т. Штыхой у в. Цытва Ігуменскага п. Мінскай губ.

Вар. не адзначаны. Гэта арыгінальная казка аб пераўвасабленні багатага пана ў прыгоннага раба (кучара) адлюстравала бунтарскія настроі беларускіх сялян эпохі прыгоннага права і пасляраформеннага перыяду.

## 115. Хітры дзед і пан

АА 1072 (Спаборніцтва з чортам у бегу: чалавек замест сябе запускае «ўнука», «малодшага брата» — зайца) + 1080=АТ 1080* (Спаборніцтва ў смеху: замест чалавека мёртвы конь з выскаленай мордай). АІМЭФ, ф. 13, воп. 10, спр. 31, сш. 20, л. 11. Зап. М. Волах у 1952 г. у в. Гулі Мядзельскага р-на Мінскай вобл. ад Е. П. Лук'янец, 86 г.

Тып 1072. У Паказальніку АТ улічаны толькі тэксты, запісаныя ў краінах Еўропы і Турцыі. Бел. вар.: Шейн, II, стар. 120—127, № 57; Klich, стар. 85—87, № 1; Чубинский, II, стар. 362—364, № 98 (Кобрынскі п.); Federowski, I, стар. 29—30, № 97; Pietkiewicz, стар. 189—190; Господарев, стар. 505—510, № 56. Рус. вар.— 23 (Пропп, стар. 486; Никифоров, № 116). Укр. вар.— 4 (Андреев).

Тып 1080*. У Паказальніку АТ улічаны толькі дадзеныя румынскага і рускага Паказальнікаў. У апошнім ёсць спасылка на адзін украінскі тэкст. Бел. вар.: Federowski, I, стар. 29—30, № 97; Чубинский, II, стар. 362—364, № 98 (Кобрынскі п.). Укр. вар.: Гринченко, II, № 72; Рудченко, I, № 36.

У гэтай казцы традыцыйныя сюжэты аб спаборніцтвах чалавека з чортам набываюць антыпамешчыцкую сатырычную накіраванасць. Мастацкай выразнасцю вылучаецца тут абмалёўка вобразаў фанабэрлівага бесчалавечнага пана і адважнага хітраватага дзеда.

## 116. Паляшук і чорт

АА 1133 (Як стаць моцным) у спалучэнні з сюжэтамі-матывамі этыялагічных легенд аб паходжанні мяцеліц, непраезджых дарог, а таксама з эпізодамі, заснаванымі на творчым домысле расказчыка. Сержпутовский, стар. 173—176, № 76. Зап. А. Сержпутоўскі ў 1880—1890-х гадах у в. Чучавічы Слуцкага п. Мінскай губ. ад селяніна Пятра Грыцкевіча.

Да сюжэтнага тыпу 1133. У Паказальніку АТ улічаны толькі еўрапейскія варыянты, пераважна запісаныя ў Паўночнай Еўропе. Бел. вар.: Pietkiewicz, стар. 190—191. Рус. вар.— 2 (АА, стар. 76). Польск.— 2 (Krzyż., II, стар. 18).

Спалучэнне традыцыйных сюжэтаў-матываў казак пра дурнога чорта з сюжэтамі-матывамі легенд пра паходжанне д'ябла характэрна для фальклорнай традыцыі беларускага Палесся. Казка П. Грыцкевіча прыкметна вызначаецца натхнёным адлюстраваннем перамогі дабра над злом, стваральнай земляробчай працы над «нечысцю». Разам з тым у ёй добра перададзена велічная суровасць краю балот і лясоў. Яскравы бытавы каларыт гэтай казкі збліжае яе з казкамі на сацыяльна-бытавыя тэмы.

### 117. Расчыні хлеб, зарэж авечку

АА 1260 (Варaць кашу ў проламцы)+*1006 I (=АТ 1006*. «Зарэж авечку, якая на цябе паглядзіць»: паглядзелі ўсе). АІМЭФ, ф. 13, воп. 10, спр. 29, сш. 10, л. 9. Зап. Я. Бурак у 1965 г. у в. Навасёлкі Лідскага п. Гродзенскай вобл. ад Мікалая Іванавіча Пуцкі.

Бел. вар. сюжэтнага тыпу 1260 не адзначаны. Рус. вар.: Материалы и исследования по фольклору Башкирии и Урала, вып. I. Уфа, 1974, стар. 86—87, № 44.

Бел. вар. тыпу 1006*: Federowski, III, стар. 89—91, № 180; стар. 109—110, № 198. Рус. вар.— 10 (Пропп, стар. 486; Королькова, стар. 359—364; Балашов, № 34). Параўн. польскі тэкст: S. Ciszewski. Krakowiacy. Kr., 1894, стар. 199—202.

### 118. Парабак

АА 1000 (Угавор не злавацца) + 1003 (Парабак арэ, ідучы за сабакам) + 1007 (Псаванне жывёлы) + *1006 I (=АТ 1006*. Зарэж авечку) + 1009 (Пільнуй добра дзверы) + 1132 (Уцёкі ад работніка) + 1120 (Жонка кінута ў ваду замест парабка). Друк. з архіва Л. Барага. Апубл. на нямецкай мове: Barag, стар. 429—432, № 73. Зап. Л. Бараг у 1945 г. у в. Вялікі Рожын Ганцавіцкага р-на Пінскай вобл. (цяпер Салігорскі р-н Мінскай вобл.) ад Тацяны Саені, 92 г.

Да тыпу 1000. Параўн. Господарев, стар. 429—433, № 43. Рус. вар.— 8 (АА, стар. 72). Укр. вар.— 15 (Андреев; дадаткова: Лінтур, Сатира, стар. 191—195). Польск.— 6 (Krzyż., II, стар. 10).

Да тыпу 1003. Параўн. Господарев, № 43. Укр. вар.: Гиряк, II, 1966, № 8. Польскі вар. улічаны ў Паказальніку Кржыжаноўскага (II, стар. 10).

Да тыпу 1007. Бел. вар.: Kolberg, 1889 (ZWAK, XIII, 1889), стар. 200—201, № 1; Господарев, № 43. Рус. вар.— 3 (АА, стар. 71). Укр. вар.: Moszyńska (ZWAK, IX, 1885), № 33; Казки Буковини, стар. 68—69; Гиряк, II, 1966, № 34.

Варыянты тыпу АТ 1006* адзначаны ў каментарыі да тэксту 117.

Да тыпу 1009. Рус. вар.— 7 (Пропп, стар. 489). Старажытны тэкст у індыйскай «Самадэве» (XI ст.).

Да тыпаў 1132 і 1120 (звычайна яны кантамінуюцца). Бел. вар.: Federowski, III, стар. 89—91, № 180; Шейн, II, стар. 36—42, № 19; стар. 229—232, № 106; Беларускі фальклор у суч. зап., стар. 268—269. Рус. вар. тыпу 1132 — 26 (Пропп, стар. 487—488; Королькова, стар. 359—364; Никифоров, № 5, 8). Рус. вар. тыпу 1120 — 15 (Пропп, стар. 487; Королькова, стар. 359—364). Укр. вар. тыпу 1132 — 13 (Андреев); тыпу 1120 — 15 (Андреев; дадаткова: Kolberg. Tretjak. Wołyń, стар. 427—429; Калін, стар. 195—201).

### 119. Як Янка збавіў мужыкоў ад лютага пана

АА 1000 (Угавор не злавацца) + 1003 (Парабак арэ, ідучы за сабакам) + 1004 («Свінні ў балоце ўтапіліся»: парабак, адрэзаўшы ў свіней хвасты і ўткнуўшы іх у балота, прадае свіней купцам) + 1132 (Уцёкі ад

работніка) + 1120 (Жонка кінута ў ваду замест парабка). АІМЭФ, ф. 8, воп. 1, спр. 74, сш. 5, л. 21. Зап. В. Іваноўская ў 1962 г. у в. Прасвет Светлагорскага р-на Гомельскай вобл. ад Івана Іванавіча Дайнекі.

Варыянты сюжэтных тыпаў 1000, 1003, 1132, 1120 указаны ў каментарыі да тэксту 118. Тып 1004 у апублікаваным усходнеславянскім фальклорным матэрыяле не сустракаецца. У казцы І. І. Дайнекі на аснове вострай сатырычнай трактоўкі розных традыцыйных анекдотаў пра парабка і гаспадара (чалавека і чорта) тэма сацыяльнай адплаты набывае даволі цэласнае і яскравае раскрыццё.

### 120. Памешчык і сірата

АА—. АТ—. Далучаецца да казак на тэму «Дагавор аб службе» (1000—1029). Эпізоды «Замаж брычку», «Зарэж цяля, курыцу, зайца», «Абрэзаныя калёсы» ў апублікаваным матэрыяле не адзначаны. АІМЭФ, ф. 9, воп. 3, спр. І, сш. І, л. 41. Зап. Е. Васілеўская ў 1949 г. у г. Нова-Барысаве Мінскай вобл. ад В. А. Садлуцкага.

### 121. Пан і парабак

Першы эпізод «Парабак прыязджае з поля на ваўках і вымушае пана карміць іх» нагадвае казкі тыпу 650 А (Юны асілак). Далей ідуць сюжэты-матывы «Угавор не злавацца» (тып 1000), «Рабі, што людзі робяць» (АА—. АТ—.), «Уцёкі ад работніка» (тып 1132), «Жонка кінута ў ваду замест парабка» (тып 1120), «Пан засоўвае рукі ў гаршчок і вязне ў смале» (параўн. тып 775 — «Галодны пан на начлезе»). АІМЭФ, ф. 8, воп. І, спр. 17, л. 34. Зап. В. Коўчар у 1946 г. у в. Пуравічы Ляхавіцкага с/с Жыткавіцкага р-на Палескай (цяпер Гомельскай) вобл. ад Кастуся Агісовіча, 12 г.

Гл. каментарый да тэксту 118.

### 122. Папоўскі парабак

Часткова АА 1029 (Маці гаспадара выдае сябе за зязюлю)+часткова *1012 І (=АТ 1012 А. Работнік садзіць дзіця на кол) + *1006 І (АТ 1006* «Зарэж барана») + *1012 ІІ (АТ 1685. «Укінь у гаршчок пятрушку») + 1009 («Пільнуй дзверы») + 1132 (Уцёкі з мяшком ад работніка) + 1120 (Жонка кінута ў ваду замест парабка). Federowski, ІІІ, стар. 89—91, № 180. Зап. М. Федароўскі ў канцы XIX ст. у в. Студзяраўшчына Слонімскага п. Гродзенскай губ. ад Таццяны Пытлікавай.

Сюжэт пра тое, як парабак забіў маці або жонку гаспадара, якая выдавала сябе за зязюлю, падобны да аднаго з апавяданняў старажытнага індыйскага зборніка «Сукасапаты» (№ 45) і, відавочна, пранік у Еўропу з Усходу вусным шляхам. Бел. вар.: Шейн, ІІ, стар. 230, № 10; стар. 296, № 137; Сержпутоўскі, 1926, стар. 77—79, № 33. Рус. вар.: Е. А. Чудинский. Русские народные сказки, прибаутки, побасенки. М., 1864, № 22. Укр. вар.: Гиряк, ІІ, стар. 76—82, № 8. Параўн. беларускую казку-паданне пра кн. Радзівіла-Каханку і ўкраінскую казку-паданне аб графе Патоцкім-Канёўскім: Бессараба, 63—64, № 15; Гринченко,

II, стар. 230—231, № 130. Ва ўсіх указаных намі варыянтах жанчына кукуе на дрэве, а не за печчу, як у казцы Т. Пытлікавай.

Сюжэтны тып «Пасадзі дзіця» (саджае на кол) мае поўныя варыянты толькі ў рускім фальклорным матэрыяле: 5 (АА, стар. 73). У Паказальніку АТ казкі, у якіх развіваецца гэты сюжэт-матыў, не адмежаваны ад казак пра набітага дурня тыпу 1685.

Аб сюжэтных тыпах АТ 1006*, 1009, 1132, 1120 гл. у каментарыі да тэкстаў 117, 118.

### 123. Аб ксяндзу, што есці слугам не даваў

АА—. АТ—. Сюжэт пра галоднага парабка, які наеўся ўдосталь, не парушаючы дамоўленасці са сваім гаспадаром — «то, што будзеш рабіць, то будзеш і есці», далучаецца да тыпу 1575. Заключны эпізод часткова адносіцца да тыпу 1007 (Псаванне жывёлы), часткова ж нагадвае казкі тыпу 1536 (Нябожчыца-зладзейка) і 1537 (Мёртвае цела). O. Kolberg, 1889 — ZWAK, XIII, 1889, стар. 200—201, № 1. Зап. О. Кольберг у другой палавіне XIX ст. у Пінскім п. Мінскай губ. (цяпер Брэсцкая вобл.).

Гэта казка, характэрная вострай сатырычнай антыпапоўскай накіраванасцю, мае даволі блізкія сюжэтныя паралелі ў неапублікаваным беларускім (палескім) фальклорным матэрыяле. Параўн. тэкст 124.

### 124. Парабак Сцяпан

АА 1000 (Угавор не злавацца) + не ўлічаны ў Паказальніку АА і АТ сюжэт «То, шчо будзеш робыты, то будзеш і їсты» (гл. папярэдні тэкст) + часткова 650 А (Юны асілак на млыне ў чарцей) + 1013 («Выкупай дзетак»: садзіць у кіпяток) + 1132 (Уцёкі ад работніка) + 1120 (Жонка кінута ў ваду замест парабка). Друкуецца з фальклорных матэрыялаў рукапіснага аддзела Інстытута рускай літаратуры АН СССР (Пушкінскі дом) — калекцыя XXX, папка 4, сш. 5. Зап. Ф. Маркевіч у 1932 г. у в. Заполле Петрыкаўскага р-на Гомельскай вобл. ад Ігната Іванавіча Бокуча, 56 г.

Пра сюжэт-матыў тыпу 1000 гл. у каментарыі да тэксту 117.

Аб другім сюжэце (Галодны парабак адносіць намалочанае зерне ў карчму) гл. у каментарыі да тэксту 123.

Сюжэт тыпу 1013 у беларускім і ўкраінскім апублікаваных матэрыялах не адзначаны. Параўн. И. Худяков. Великорусские сказки. М.—Л., 1964, № 27.

Аб тыпах 1132 і 1120 гл. у каментарыі да тэксту 118.

### 125. Як поп вучыў мужыкоў грамаце

Параўн. тып 1697 («Мы ўтраіх», «з-за грошай», «так і трэба»). АІМЭФ, ф. 13, воп. 9, спр. 19, сш. 1, л. 46. Зап. І. Тулупаў у 1960 г. у в. Капань Рэчыцкага р-на Гомельскай вобл. ад Пятра Ігнатавіча Філончыка.

Гэта своеасаблівая разнавіднасць тыпу 1698, якая не мае блізкіх паралеляў у апублікаваным фальклорным матэрыяле: тры падарожнікі ў чужой краіне ведаюць толькі тры выразы,— іх абвінавачваюць у забойстве. У Па-

казальніку АТ улічаны такія казкі, запісаныя ў еўрапейскіх краінах, Індыі і Амерыцы. Бел. вар.: Federowski, III, стар. 187, № 350; Романов. Материалы, II, стар. 382. Укр. вар.: Манжура, стар. 118; Гринченко, II, стар. 97, № 121 (=Гринченко, Вес. оповідач, стар. 43, № 120); Гнедич, IV, стар. 20—21, № 1423; «Жіттэ и слово», 1895, IV, стар. 355. Польск.— 3 (Krzyż., II, стар. 128). Ад усіх адзначаных тэкстаў казка П. І. Філончыка адрозніваецца тым, што апавядае пра цяжкую долю парабка і мае вострую сацыяльную накіраванасць.

### 126. Багатыр

АА 754* (Грошы не даюць шчасця). Сержпутовский, стар. 180—183, № 79. Зап. А. Сержпутоўскі ў 1890—1900-х гадах у в. Чудзін Слуцкага п. Мінскай губ. (цяпер Салігорскі р-н Мінскай вобл.) ад селяніна Кругліка.

У Паказальніку АТ, акрамя нешматлікіх еўрапейскіх фальклорных тэкстаў, улічана кітайская казка гэтага тыпу. Літаратурная гісторыя сюжэта звязана са зборнікам Жака дэ Вітры «Exempla» (XIII ст.) і байкай Лафантэна «Шавец і банкір». Вядома таксама фацэцыя польскага пісьменніка XVI ст. Мікалая Рэя пра каваля і купца, якая адносіцца да гэтага сюжэтнага тыпу (зб. «Figliki», 1574). Усходнеславянскіх варыянтаў няма. Польскі варыянт (кашубскага зборніка Лоранца) улічаны ў Паказальніку Кржыжаноўскага, I, стар. 234. Казка Кругліка мае выразны філасофскі сэнс і з'яўляецца своеасаблівым варыянтам сюжэтнага тыпу 754. Эпізоды «Грошы ператвараюцца ў кроў і пот», «Бядняк ратуе багача са склепу, затопленага крывёю і потам» не адзначаны ў іншых казках гэтага тыпу.

### 127. Як кулак зрабіў дзень доўгім

АА—. АТ—. Вельмі аддалена нагадвае традыцыйныя казкі аб тым, як рабочы дзень стаў доўгім: АА *1566 I=АТ 1566 А*. Зб. «Дарэвалюцыйная і Савецкая Беларусь у народнай творчасці». Мінск, 1940, стар. 64. Запісана ў 1937 г. у Гомельскім р-не.

Варыянты не адзначаны. Ёсць падставы аднесці гэту казку да народнай творчасці савецкага часу.

### 128. Галодны пан

АА 1775. АІМЭФ, ф. 13, воп. 10, спр. 40, сш. 26. Зап. З. Сурма ў 1958 г. у в. Цімкі Барысаўскага р-на Мінскай вобл. ад Ф. А. Пятрышча.

Сюжэт пра галоднага пана або папа, якога за скупасць правучыў на начлезе работнік, мае ў Еўропе шырокае распаўсюджанне. У Паказальніку АТ улічаны таксама фальклорныя тэксты, запісаныя ў Амерыцы на англійскай і іспанскай мовах. Даўнейшыя літаратурныя тэксты (шванкі на германскіх мовах) адносяцца да першай палавіны XVII ст. Бел. вар.: Добровольский, I, стар. 701—703, № 14; Barag, стар. 432, № 74. Рус. вар.— 11 (АА, стар. 103). Укр. вар.: Гринченко, II, № 134; Baracz, стар. 40; Kolberg, 1888, IV, № 33; Етногр. зб., IV, стар. 349 (асобныя матывы); Гнедич, IV, стар. 57—59, № 1525; Лінтур, Сатира, стар. 162—163. Польск.— 2 (Krzyż., II, стар. 141).

## 129. Аб паповым батраку

АА 1775. Добровольский, I, стар. 701—703, № 14. Зап. У. Дабравольскі ў 2-й палавіне XIX ст. у в. Правяржанка Ельнінскага п. Смаленскай губ. ад старога Еўдакіма Хатулі (ад яго ж запісаны тэксты 41—46).

Гл. каментарый 128. У гэтым своеасаблівым варыянце сюжэта «Поп і парабак на начлезе» галодным начуе не поп, а парабак, і ён шукае ўначы вячэры, засоўвае рукі ў аббіцік (вузкі гаршчок) з дзёгцем, які не можа зняць, і спрабуе разбіць яго аб камень, але знянацку ўдарае па лысіне папу. Незвычайная для казак тыпу 1775 развязка: поп дзякуе напалохаўшаму яго ілжывай весткай работніку за тое, што дапамог яму спешна пакінуць начлег і пазбегнуць непрыемнасцей: «ато бы там нас задзяржалі і лашадзей бы нашых адпраглі, а цяпер, слава богу, мы дома».

## 130. Як бацюшка сена еў

АА 1775. Друк. з архіва Л. Барага. Апубл. на нямецкай мове: Barag, стар. 432, № 74. Зап. Л. Бараг у 1945 г. у с. Аброва Целяханскага р-на Пінскай (цяпер Брэсцкай) вобл. ад Кацярыны Лучыц, 45 г.

Гл. каментарыі да тэкстаў 128, 129.

## 131. Падарожны

АА—. АТ—. Часткова далучаецца да сюжэтных тыпаў АТ 1572 (Пакваталіся) і 1577* (Жабрак выманьвае грошы). Сержпутовский, стар. 128—129, № 63. Зап. А. Сержпутоўскі ў 1890—1900-х гадах на хут. Млынок каля в. Вялікі Рожын Слуцкага п. Мінскай губ. (цяпер Салігорскі р-н Мінскай вобл.) ад селяніна Крука.

Варыянты не адзначаны. Назавем рускую і ўкраінскую казкі тыпу 1577* пра жабрака-вымагальніка: Афанасьев, III, № 382; Kolberg, 1907, стар. 432—434.

## 132. Разумная галава

Ср. АА *2120 (Пан з работнікам у дарозе), *2101 (Начное дзяжурства). АІМЭФ, ф. 13, воп. 10, спр. 34, сш. 12, л. 1. Зап. Н. Равінчык у 1951 г. у в. Кулікі Рудзенскага р-на Мінскай вобл. ад В. К. Чарвяк, 65 г.

У поўных варыянтах першага сюжэта ваўкі з'ядаюць каня, гаспадар вязе на сабе воз, а затым і работніка, які забраў яго грошы. Бел. вар. не адзначаны. У рускім Паказальніку АА ёсць спасылка на заўвагу Афанасьева да тэксту 248 (2-е выд.), якая адносіцца да тыпу *2120.

У казках пра начное дзяжурства начуюць у полі з коньмі звычайна мужык і цыган; цыган прымушае мужыка вартаваць коней: Карский, Матер. белор., II, стар. 53—54.

### 133. Як Ванька парабкам служыў

АА 1725 (Закаханы поп). Канцоўка нагадвае казкі пра няверную жонку тыпу 1380 (жонка дае мужу булку, яечню, малако, каб ён аслеп, аглух і памёр). АІМЭФ, ф. 13, воп. 5, спр. 4, л. 5. Зап. Д. Малашэўскі ў 1947 г. у в. Паныш Лагойскага р-на Мінскай вобл. ад П. Г. Паныша, 71 г. Ад яго ж запісаны тэксты 52, 53.

Казкі тыпу 1725 бытуюць па ўсёй Еўропе, іх літаратурная гісторыя звязана са шванкам Г. Сакса (першая палавіна XVI ст., гл.: «Fabeln», V, № 717. Бел. вар.: Добровольский, I, стар. 696—700, № 12; Federowski, III, стар. 183—184, № 344; стар. 179—181, № 340; Klich, стар. 24—25, № 16; стар. 71—72, № 1; Гулевіч, стар. 62—64; Сержпутовский, стар. 121—122, № 60; Barag, стар. 446—449, № 82. Рус. вар.— 8 (АА, стар. 101; дадаткова: Потявин, № 36; Никифоров, № 19; Королькова, стар. 371—372; Д. Молдавский. Сатирическая сказка. М., 1958, перадрукавана, гл.: Д. Молдавский и В. Бахтин, стар. 250—251). Укр. вар.— больш за 20: Рудченко, I, № 60, 61; II, № 37, 51; Чубинский, II, стар. 652—656, № 116, 117; стар. 510—514, № 11; стар. 636—639, № 97; Манжура, стар. 91—92; Драгоманов, стар. 162—166; Kolberg, 1888, IV, № 36; Гринченко, II, № 109; Етногр. зб., VIII, № 11, 36, 66; XIV, стар. 297—299; Кравченко, II, № 163; Левченко, стар. 193—198, № 277—278; «Україна сміеться. Народна сатира та гумор», т. I. Київ, 1960, стар. 187—188; «Дідо-всевідо», стар. 215—218; Гиряк, II, 1966, № 52. Адсутнічае матыў, які часта сустракаецца ў казках тыпу 1725: скрыню з сажай, у якой схаваны поп, работнік і гаспадар цягнуць у балота, паказваюць за грошы пану вымазанага ў сажы голага папа, выдаючы яго за чорта (гл. тэксты 139, 140).

### 134. Як папоў батрак пападдзю праўчыў і дзякана, яе спалюбоўніка, і папа нашчот пападдзі абразуміў

АА 1725 (Закаханы поп) і часткова *1361 I (=АТ 1360 С. Парабак дапамагае гаспадару расправіцца з няверная жонкай і яе палюбоўнікам), 1380 (Няверная жонка дае мужу пачастунак, каб ён аглух і аслеп). Добровольский, I, стар. 696—700, № 12. Зап. У. Дабравольскі ў канцы XIX ст. у заходняй частцы Смаленскай губ.

Пра сюжэтны тып 1725 гл. каментарый да тэксту 112.

Аб сюжэтных тыпах АТ 1360 С і 1380 гл. каментарый ніжэй — да тэкстаў 135, 136, 142.

### 135. Як чорт мужыку вочы адкрыў

АА 1725 (Закаханы поп) і часткова *1361 I (АТ 1360 С. Муж у саломе, прынесены да няверная жонкі і яе палюбоўніка — канец). Заключны эпізод нагадвае таксама казкі тыпу 824 (Чорт выкрывае мужу няверднасць жонкі і прыносіць яго пад выглядам казла дадому). Federowski, II, стар. 227—230, № 216. Зап. М. Федароўскі ў канцы XIX ст. у в. Дварчаны Ваўкавыскага п. Гродзенскай губ.

Аб сюжэтным тыпе 1725 гл. у каментарыі да тэксту 133. У гэтым варыянце сустракаюцца некаторыя з традыцыйных для ўсходнеславянскіх казак пра закаханага папа (кума) матываў, адзначаныя таксама ў тэксце 133, напрыклад: «Работнік абяцае гаспадару служыць, пакуль у яго ў хаце не завядуцца казлы» (у папярэднім варыянце — пакуль у хаце ваўкі не завыюць); «Гаспадыня хавае палюбоўніка сярод цялят» і інш. Разам з тым тут развіваюцца своеасаблівыя матывы, напрыклад, «Работнік апарвае варам схаванага ў мяшку палюбоўніка».

Аб сюжэтным тыпе АТ 1360 С гл. у каментарыі да наступнага тэксту № 136. Кантамінацыя АТ 1360 С + 1725 сустракаецца ва ўсходнеславянскім фальклорным матэрыяле часта.

*Кантэцен* — задаволены.

### 136. За што мужык папу бараду абгаліў

АА *1361 І=АТ 1360 С. Federowski, III, стар. 181—182, № 341. Зап. М. Федароўскі ў канцы XIX ст. у в. Мялоўцы Ваўкавыскага п. Гродзенскай губ. ад Яські Шымчука. Ад гэтага ж селяніна запісан тэкст 40.

Песня пра мужа, прынесенага ў мяшку да прытворна хворай жонкі, у XVI ст. у Ноўгарадзе ператварылася ў песню-скамарошыну «Гость Терентий», а пазней у адпаведныя ёй паводле зместу рускія казкі. Калі казкі тыпу 1360 С зборніка Дабравольскага і зборніка казак Гаспадарова бяруць пачатак ад рускай традыцыі «Гостя Терентия», то казкі на гэту тэму зборніка Федароўскага зблізкаюцца з польскім фальклорным матэрыялам. У Паказальніку АТ, акрамя еўрапейскіх, улічаны варыянты, запісаныя ў паўднёва-ўсходняй Азіі і Паўночнай Амерыцы. Бел. вар.: Добровольский, І, стар. 143—145, № 79; стар. 696—700, № 12; Federowski, II, стар. 71—74, № 56; III, стар. 181—182, № 341; Господарев, стар. 451—452, № 44. Рус. вар.— 17 (Пропп, стар. 489; Балашов, № 80; Бараг, № 17). Укр. вар.: Рудченко, І, № 60—61; II, 37, 51, 62; Гринченко, II, № 109; Чубинский, II, № 11, 31, 37—40, 116—117, 130; Манжура, стар. 91—96; ЭО, 1893, № 1—2, стар. 146; «Киевская старина», 1894, IV, стар. 159—165; Кравченко, 1914, стар. 232—235, № 157; Левченко, № 274; Калін (=Лінтур, Сатира, стар. 100—104); Ск. Верховины, стар. 22—23; Гиряк, II, 1966, № 28. Польск.— 2 (Krzyż., II, стар. 52). Характэрнай асаблівасцю большасці такіх усходнеславянскіх казак з'яўляецца іх антыпапоўская сатырычная завостранасць. У казцы Я. Шымчука традыцыйны сюжэт атрымаў даволі поўнае адлюстраванне. Характэрнымі для гэтага сюжэтнага тыпу з'яўляюцца эпізоды: жонка прыкідваецца хворай і пасылае мужа далёка за лякарствам; спадарожнік мужа, які вярнуўся дадому непазнаны (муж хаваўся ў саломе, мяшку або пераапрануты), спявае песеньку аб расправе над нявернай жонкай і яе палюбоўнікам. Песенныя ўстаўкі нярэдка сустракаюцца ва ўсходнеславянскіх, а таксама ў польскіх, нямецкіх і іншых казках тыпу АТ 1360 С.

*Перабраццa* — пераапрануцца.
*Це* — цябе.
*Наат* — нават.
*Крэч* — крык.
*Ганавіцы* — нагавіцы.

### 137. Пайшоў Хвёдар за Нёман па лекі

АА *1361 I=АТ 1360 С. АІМЭФ, ф. 13, воп. 10, спр. 34, сш. 5, л. 1. Зап. В. М. Заркевіч у 1951 г. у райцэнтры Бераставіца Гродзенскай вобл. ад сялянкі Яніны Лісоўскай, 85 г.

Гл. каментарый да тэксту 136.

### 138. Закаханы поп

АА 1725 (часткова). Першая частка нагадвае тып 1730 (Поп, дыякан і дзяк у прыгажуні). Klich, стар. 24—25, № 16. Зап. Э. Кліх у 1901 г. у в. Крылоўшчына Навагрудскага п. Мінскай губ. ад Алеся Ваўчка. Ад яго ж запісаны тэксты 48, 49 (гл. каментарый).

Пра сюжэтны тып 1725 гл. у каментарыях да тэкстаў 133, 135. Гэта казка Алеся Ваўчка прыкметная майстэрствам дыялагічнай формы і выразнымі бытавымі дэталямі.

### 139. Сажа

АА 1725 (часткова). Друкуецца з архіва Л. Р. Барага. Апубл. на нямецкай мове: Barag, стар. 446—449, № 82. Зап. Л. Бараг у 1947 г. у Быценскім р-не Баранавіцкай (цяпер Брэсцкай) вобл. ад Аляксандра Іванавіча Русака, 37 г.

Гл. каментарый да тэксту 134. Гэта разнавіднасць сюжэтнага тыпу «Закаханы поп» мае варыянты ў беларускім матэрыяле: Klich, стар. 24—25, № 16; Federowski, III, стар. 183—184, № 344. Матыў «Поп у сажы» сустракаецца і ў казках іншых тыпаў: напрыклад, Романов, III, стар. 410—412, № 19. А. І. Русак, ведучы апавяданне ад першай асобы, дапоўніў традыцыйны сюжэт некаторымі падрабязнасцямі. Напрыклад, яскрава распрацаваны ім эпізод: «Парабак вяртаецца ў хату, каб зачыніць скрыню». У казцы Русака ў сатырычным плане побач з папом-палюбоўнікам выступае і скупы гаспадар-кулак, які, прадаючы сажу, задумаў абагаціцца. Гэты матыў у іншых казках не адзначаны.

### 140. Поп і чужая жонка

АА 1725 (часткова). Пачатак нагадвае казкі тыпу 1730 (Поп, дыякан і дзяк у прыгажуні). Гулевіч, стар. 62—64. Зап. П. Ахрыменка ў 1957 г. у пас. Гацкае Нісімкавіцкага с/с Чачэрскага р-на Гомельскай вобл. ад Пятра Восіпавіча Гулевіча, 87 г. Ад яго ж запісаны тэксты 34, 35.

Гл. каментарыі да тэкстаў 133, 135. Як і ў папярэдняй казцы, тут цэнтральнае месца займае эпізод продажу пану «чорта» (голага папа, які вымазаўся ў сажу).

### 141. Новы чорт

АА 1725 (часткова). Сержпутовский, стар. 121—122, № 60. Зап. А. Сержпутоўскі ў в. Лучыцы Мазырскага п. Мінскай губ. ад І. П. Азёмшы. Ад яго ж запісаны тэксты 59, 87, 88, 109—112, 154.

Гл. каментарыі да тэксту 133. У гэтай казцы асабліва востра праяўляецца публіцыстычная накіраванасць. Эпізод продажу «новага чорта» на кірмашы звязаны тут з падрабязнасцямі, якіх няма ў іншых апублікаваных казках пра закаханага папа.

### 142. Пра хітрага парабка, няверную жонку і яе кума

Часткова АА 1725 (толькі эпізод: гаспадыня хоча пачаставаць кума ў полі смачнай ядою; яе атрымліваюць муж і парабак) + 1380 (Няверная жонка і муж, які прыкінуўся глухім, сляпым) + 1537 (Мёртвае цела). АІМЭФ, ф. 8, воп. 2, спр. 25. Зап. А. Гурскі і А. Фядосік у 1970 г. у в. Дубнікі Астравецкага р-на Гродзенскай вобл. ад Міхася Сільвестравіча Кармазы, 75 г.

Пра сюжэтны тып 1725 гл. у каментарыі да тэксту 133.

Гісторыя сусветнавядомых казак тыпу 1380 звязана са зборнікамі індыйскага паходжання — «Панчатантра» (каля III—IV стст.), «Сіддхапаты» (у перакладзе на пехлеві «Сіндбад-намэ», VII ст.; у перакладзе на рус. мову «История о семи мудрецах», XVII ст.). Першая вядомая еўрапейская апрацоўка гэтага анекдатычнага сюжэта — навела Сімона Прундзенцаі з Орвета (Італія) — адносіцца да IV ст. Пазней такія казкі-анекдоты апрацоўваліся Джавані Бакачыо («Дэкамерон», дзень III, навела 10), Гансам Саксам (вершаваны шванк) і іншымі пісьменнікамі. Гл.: Э. В. Памяранцава. К вопросу о национальном и интернациональном началах в народных сказках. История и фольклор славянских народов. V Международный съезд славистов. София, сентябрь 1963 г. М.—Л., 1964, стар. 386—414. Звычайна ў казках тыпу 1380 няверная жонка пытаецца ў дрэва, як пазбавіцца ад мужа, але муж з дупла адказвае ёй, выдаючы сябе за святога або бога. У казцы М. С. Кармазы парады нявернай жонцы дае парабак, што схаваўся на вершаліне елкі, голас якога яна прымае за голас святога. Бел. вар.: Шейн, II, стар. 219—220, № 102; Добровольский, I, стар. 696—700, № 12 (часткова). Рус. вар.— 21 (Пропп, стар. 490; Никифоров, № 105). Укр. вар.: Драгоманов, стар. 166; Moszyńska (ZWAK, IX, 1885), № 67; Kolberg, 1888, № 67; Яворский, № 71; Гиряк, II, 1966, № 15. Польск.— 14 (Krzyż., II, стар. 55). Традыцыйнай з'яўляецца кантамінацыя сюжэтных тыпаў 1380 і 1537.

У казцы М. С. Кармазы апошні сюжэт «Мёртвае цела» абмяжоўваецца эпізодам на пчэльніку: парабак садзіць труп забітага ў дзяжу з мёдам; бортнік абвінавачваецца ў забойстве. Аб сюжэтным тыпе 1537 гл. у каментарыі да тэксту 51.

### 143. Як Гапа з яе мужыком Сымонам правучылі папа і пана аканома

АА 1730 (Жонка па ўгавору з мужам хавае сваіх паклоннікаў), часткова далучаецца да тыпу АА *1730 I=AT 1359 C (Голы палюбоўнік у выглядзе статуі святога). АІМЭФ, ф. 8, воп. 2, спр. 15, сш. 2, л. 45. Зап. К. Кабашнікаў у 1969 г. у в. Сінкевічы Лунінецкага р-на Брэсцкай вобл. ад А. Р. Федаровіча, 56 г. Ад яго ж запісан тэкст 23.

У казцы А. Р. Федаровіча сюжэт тыпу 1730 набывае своеасаблівае развіццё. У большасці апублікаваных рускіх і ўкраінскіх казак ён разві-

ваецца так: поп, дыякан і дзяк прыходзяць да жонкі мужыка адзін за другім, яна іх хавае ў скрыню (нярэдка ў скрыню з сажай), муж вывозіць іх і прадае. Крыніцы гэтага сюжэта прасочваюцца амаль да III ст. н. э. Яго літаратурная гісторыя звязана са старажытнымі ўсходнімі зборнікамі «Ятака», «Катхасарытсагара», «Сем мудрацоў» («Сіндбад-намэ»), а таксама з сярэдневяковым французскім фабліё «Constant du Hamel», рускай аповесцю XVII ст. пра Карпа Сутулава. Вусна падобныя казкі бытуюць ва ўсіх частках свету. У апублікаваным беларускім фальклорным матэрыяле адзначаны наступныя няпоўныя варыянты: Шейн, II, стар. 210—211, № 99; Federowski, III, стар. 179—181, № 340; Klich, стар. 24—25, № 16 (толькі часткова), Гулевіч, стар. 62—64. Рус. вар.— 14 (АА, стар. 102; Никифоров, № 28; Бараг, № 9). Укр. вар.: Манжура, стар. 93—94; Гринченко, II, № 109; Левченко, № 211—213; Гиряк, II, 1966, № 37. Польскі вар.: O. Kolberg. Krakowskie, Kr., 1875, стар. 227 (Krzyż., II, стар. 135).

Аб сюжэтным тыпе АТ 1359 гл. ніжэй у каментарыі да тэксту 149.

### 144. Як мужык з бяды выбеўся

АА 1730 (Жонка па ўгавору з мужам хавае трох папоў) + *1730 I (=АТ 1536 В. Салдат хавае трох папоў), часткова нагадвае АТ 1359 (Папы-палюбоўнікі задыхаюцца ў печы). Federowski, III, стар. 179—181, № 340. Зап. М. Федароўскі ў канцы XIX ст. у в. Янышы Ваўкавыскага п. Гродзенскай губ. ад Мар'яны Піваварчыкавай.

Пра сюжэт тыпу 1730 гл. у каментарыі да тэксту 143. Як і ў папярэднім варыянце, тут гэты сюжэт набывае няпоўнае развіццё (няма эпізода продажу схаваных у скрыні палюбоўнікаў), паколькі кантамінуецца з іншым сюжэтам пра папоў.

Аб сюжэтным тыпе 1536 В гл. у каментарыях да тэкстаў 37, 38. Казка М. Піваварчыкавай уяўляе вельмі характэрны ўсходнеславянскі варыянт гэтага тыпу. Дыялог салдата-вартавога з салдатам, які нясе папа тапіць, тэкстуальна супадае з дыялогам у рускіх варыянтах сюжэта «Салдат хавае трох папоў». Параўн. дыялог салдатаў у казцы «Як чорт тапіў папоў» — тэкст 146.

*Нім* — пакуль.

### 145. Поп у кубле з пер'ем

У асноўным адносіцца да тыпу 1730, часткова ж зблізкаецца з тыпам 1725. АІМЭФ, ф. 8, воп. 1, спр. 54, сш. 1, л. 13. Зап. А. Фядосік у 1960 г. у в. Барвуха Слуцкага р-на Мінскай вобл. ад М. У. Сеўрук, 65 г.

Гл. каментарый да тэксту 143. У варыянце М. У. Сеўрук сюжэт тыпу 1730 развіваецца больш поўна, чым у папярэдніх варыянтах: муж, дзейнічаючы разам з жонкай, вывозіць з дому кубел і выстаўляе на паказ «чорта». Але калі звычайна ў казках тыпу 1730 знясдаўленымі аказваюцца некалькі каханкаў, то тут камічную ролю адыгрывае адзін поп, як у казках тыпу 1725, дзе папа знеслаўляе кемлівы, знаходлівы парабак.

### 146. Як чорт тапіў паноў

АА *1730 I (=АТ 1536 B. Салдат хавае двух паноў і купца), часткова АТ 1359 (Палюбоўнікі ў печы). Сержпутоўскі, Казкі, стар. 197—200, № 78. Зап. А. Сержпутоўскі ў пачатку XX ст. у с. Вялікі Рожын Слуцкага п. Мінскай губ. (цяпер Салігорскі р-н Мінскай вобл.) ад стогадовага дзеда Рэдкага. Гл. каментарый да тэкстаў 12, 80, 190, 191, 193.

Аб сюжэтным тыпе АТ 1536 B гл. у каментарыях да тэкстаў 37, 38. У казцы Рэдкага гэты сюжэт набыў своеасаблівую антыпамешчыцкую сатырычную накіраванасць і дэталёвую распрацоўку ў бытавым плане.

### 147. Як закаханы поп тоўк проса

АА—. АТ—. Далучаецца да тыпу 1730. Аддалена нагадвае сюжэт тыпу 882 *B=АТ 882 A* (Рыцар за прасніцай: муж ад'язджае, знаёмыя спрабуюць яе спакусіць, яна замыкае іх і прымушае працы). АІМЭФ, ф. 8, воп. 1, спр. 73, сш. 1, л. 4. Зап. А. Фядосік у 1961 г. у г. Лунінец Брэсцкай вобл. ад А. М. Чарнявокага.

Адзіны адзначаны ў апублікаваным фальклорным матэрыяле варыянт — беларускі: Federowski, III, стар. 183, № 343.

### 148. Папу навука

АА—. АТ—. Далучаецца да тыпу 1730. Параўн. папярэдні тэкст. АІМЭФ, ф. 13, воп. 10, спр. 39. Зап. В. Шынкароў у 1959 г. у г. Орша.

Аб казках падобнага тыпу гл. каментарый 147. У адрозненне ад казкі «Як закаханы поп тоўк проса» ў казцы Сямашкі папа-палюбоўніка вымушае таўчы крупы не жонка мужыка, а сам мужык: сюжэт набывае незвычайнае развіццё.

### 149. Пра дванаццаць апосталаў, або як жонка мужа з бяды выратавала

АА *1730 II=АТ 1359 C, Д (Жывыя людзі замяняюць статуі святых). Друкуецца з архіва Л. Барага. Апубл. на нямецкай мове: Barag, стар. 439—442, № 80. Зап. Л. Бараг у 1949 г. у мястэчку Солы Смаргонскага р-на Маладзечанскай (цяпер Мінскай) вобл. ад Казіміра Іванавіча Зімніцкага, малапісьменнага, 59 г. Гэты казачнік свабодна валодаў, акрамя роднай беларускай, польскай, літоўскай і рускай мовамі. Ён па-майстэрску паказваў бытавыя камічныя сцэнкі, расказваў вельмі проста, звяртаючыся то да аднаго, то да другога са сваіх слухачоў. Ад яго ж запісан тэкст 153.

У Паказальніку АТ, акрамя еўрапейскіх, улічаны фальклорныя тэксты, запісаныя ў Індыі. Параўн. Klich, стар. 19—21, № 13 (Палюбоўнік-поп замяняе статую святога Антонія). Рус. вар.— 3 (АА, стар. 102). Укр. вар.: Українська сатира і гумор. Под ред. М. Нагорнага. Київ, 1940, стар. 169—171. Калі ў казцы К. І. Зімніцкага статуі святых замяняюць голыя афіцэр, палкоўнік і поп, то ва ўказаных іншых варыянтах іх замяняюць голыя папы.

### 150. Пахаванне казла

АА—. АТ 1842. «Полымя рэвалюцыі», 1937, № 11, стар. 188—189. Запісана ў 1936 г. у Касцюковіцкім р-не Магілёўскай вобл.

Літаратурная гісторыя гэтага антыцаркоўнага сюжэта прасочваецца амаль да XIII ст. (вершаваны пераклад французскага паэта Рутбефа). Сюжэт сустракаецца ў зборніках анекдотаў-фацэцый Поджыа, Паулі, Рэя і інш. Ранейшая ўсходнеславянская публікацыя (літаратурны пераказ): Н. Курганов. Письмовник, першае выданне 1769 г. У Паказальніку АТ улічаны толькі шведскія і фінскія тэксты. Казка «Пахаванне казла» ўвайшла ў зборнік А. Н. Афанасьева «Русские заветные сказки» (№ 48), які быў выдадзены нелегальна ў Жэневе. Бел. вар.: Pietkiewicz, стар. 178—181 (Пахаванне сабакі); Сержпутоўскі, Казкі, стар. 5—6, № 3 (Пахаванне сабакі). Рус. вар.— 4; укр. вар.— 4 (гл. указанні ў каментарыях М. К. Азадоўскага да III тома казак Афанасьева (1940), стар. 474—476) і да зборніка «Народные сказки о боге, святых и попах». М., 1963 (стар. 187—188); дадаткова адзначым публікацыю: Материалы и исследования по фольклору Башкирии и Урала. Уфа, 1974, стар. 84—86, № 43 («Панихида по козлу»). Казка «Пахаванне казла» мае блізкія паралелі ў апублікаваным рускім фальклорным матэрыяле. Тыповы для ўсходнеславянскіх казак тыпу АТ 1842 такі заключны эпізод: архірэй асуджае не за тое, што пахавалі казла па хрысціянскаму абраду, а за тое, што належна не ўшанавалі яго.

### 151. Сабака і грошы

АА—. АТ 1842 (асобная разнавіднасць сюжэта — Пахаванне сабакі). Сержпутоўскі, Казкі, стар. 5—6, № 3. Зап. А. Сержпутоўскі ў 1910—1920-х гадах у в. Чудзін Слуцкага п. Мінскай губ. (цяпер Салігорскі р-н Мінскай вобл.) ад Лявона Лебедзіка.

Аб сюжэтным тыпе АТ 1842 гл. у каментарыі да тэксту 150. Гэта разнавіднасць сюжэтнага тыпу 1842 сустракаецца ва ўсходнеславянскім і заходнееўрапейскім фальклорным матэрыяле побач з казкамі пра пахаванне казла. У казцы Л. Лебедзіка ёсць своеасаблівыя бытавыя падрабязнасці (жанчына атручвае сабаку; гаспадар робіць для сабакі труну, усцілае яе пер'ем і г. д.).

### 152. Папоўская хцівасць

АА—. АТ 1842 (Пахаванне сабакі). Pietkiewicz, стар. 178—181. Зап. Чэслаў Пяткевіч у другой палавіне XIX ст. на Рэчыцкім Палессі каля Хойнікаў (цяпер Хойніцкі р-н Гомельскай вобл.).

Аб сюжэтным тыпе АТ 1842 гл. у каментарыях да тэкстаў 150, 151. У гэтай казцы сюжэт пра пахаванне сабакі своеасабліва ўскладняецца матывам пасвячэння казла ў сан святара. У адрозненне ад іншых вядомых варыянтаў тут асноўным героем выступае не бедны мужык, які знайшоў скарб, а багаты дурань — ён спрабуе даказаць уладу грошай над папом і архірэем, што яму цалкам удаецца. Яскрава і жыва распрацаваны асобныя эпізоды: на могільніку, мужык з казлом у архірэя і інш.

*Нацца* — значыць.

### 153. Поп у валовай шкуры

АА 831. Друкуецца ўпершыню з архіва Л. Барага. Зап. Л. Бараг у 1949 г. у м. Солы Смаргонскага р-на Маладзечанскай (цяпер Мінскай) вобл. ад Казіміра Іванавіча Зімніцкага, 59 г. Ад яго ж запісан тэкст 149.

Гэты легендарны ў сваёй аснове сюжэт з яскравым бытавым каларытам склаўся ў XVIII ст. на Украіне. У першай трэці XIX ст. казкі пра папа ў валовай шкуры распаўсюдзіліся шырэй. Ад усходніх славян сюжэт перайшоў да іншых народаў. У Паказальніку АТ улічаны рускія, украінскія, эстонскія, фінскія, літоўскія, нямецкія, сербахарвацкія і грэчаскія фальклорныя тэксты. Самую вострую сацыяльную сатырычную накіраванасць набылі ўсходнеславянскія казкі тыпу 831. Бел. вар.: Добровольский, I, стар. 703, № 15; Романов, III, стар. 334—335, № 78 а, б; стар. 422—424, № 24; Federowski, III, стар. 138—139, № 25 (арганіст у выглядзе рагатага чорта); Pietkiewicz, стар. 211—212; Сержпутовский, стар. 40—41, № 18. Рус. вар.— 4 (Пропп, стар. 481). Укр. вар.— 11 (10 з іх указаны ў каментарыях да III тома казак Афанасьева (1940); гл. таксама: Гиряк, III, 1969, стар. 101—103, № 16). Польск.— 6 (Krzyż., I, стар. 260). У казцы К. І. Зімніцкага легендарны элемент праяўляецца даволі слаба. Выразны ў гэтай казцы эпізод памінак. Незвычайны шчаслівы фінал: поп вяртае кацялок з золатам беднаму мужыку, і шкура вала, якую поп апранаў, каб напалохаць селяніна, знімаецца.

### 154. Завідны поп

АА 831. Сержпутовский, стар. 40—41, № 18. Зап. А. Сержпутоўскі ў 1890—1900-х гадах у в. Лучыцы Мазырскага п. Мінскай губ. ад І. П. Азёмшы. Ад яго ж запісаны тэксты 59, 87, 88, 109—112, 141.

Аб сюжэтным тыпе 831 гл. у каментарыі да тэксту 153. У казцы І. П. Азёмшы развіваецца традыцыйны для ўсходнеславянскіх казак гэтага тыпу матыў «Поп адмаўляецца хаваць дзіця бясплатна, патрабуе ад бедняка многа грошай», які адсутнічае ў папярэднім варыянце. Істотна адрозніваецца фінал казкі І. К. Зімніцкага ад драматычнага фіналу казкі І. П. Азёмшы.

### 155. Завідлівы

АА 831. Романов, III, стар. 334, № 78 а. Зап. Е. Раманаў у другой палавіне XIX ст. у в. Латыгава Сенненскага п. Магілёўскай губ. ад селяніна Міхайлы Паўлоўскага.

Гл. каментарыі да тэкстаў 153—154. Гэты варыянт сюжэтнага тыпу 831 адрозніваецца ад папярэдніх бытавымі падрабязнасцямі (поп вырашае адабраць у мужыка золата; бядняк хавае дзіця ў начоўках). Вельмі своеасаблівы ў гэтай казцы фінал, які адлюстроўвае народную пагарду і нянавісць да скупога, зайздроснага папа («завязлі яго ў лес, укінулі ў роў і закідалі калодкамі»).

### 156. Небяспечныя скарбы

АА 831. Pietkiewicz, стар. 211—212. Зап. Чэслаў Пяткевіч у другой палавіне XIX ст. на Рэчыцкім Палессі каля мястэчка Хойнікі (цяпер Хойніцкі р-н Гомельскай вобл.).

Гл. каментарыі да тэкстаў 153—155. Гэты варыянт сюжэтнага тыпу 831 адрозніваецца ад папярэдніх тым, што ў ім адсутнічае матыў пахавання дзіцяці і ўведзены новыя бытавыя падрабязнасці.

## 157. Папова завісць не пашла ў карысць

АА 1920 (сюжэтнае абрамленне — Спаборніцтва ў хлусні) + *1885 (=АТ 1889 К. Чалавек залазіць на неба па сцяблíне расліны), а таксама матывы небыліц, не ўлічаныя ў Паказальніках АА і АТ (Піва затапляе агароды і балота; Святыя на небе малоцяць гарох). Federowski, III, стар. 121—122, № 215 а. Зап. М. Федароўскі ў канцы XIX ст. у в. Крэслы Ваўкавыскага п. Гродзенскай губ. ад Аляксандра Лашкевіча. Ад яго ж запісан тэкст 13.

Старажытныя еўрапейскія казкі-небыліцы, абрамлёныя расказам аб узнагародзе за хлусню, адносяцца да XII—XIII стст. У Паказальніку АТ улічаны, акрамя еўрапейскіх, фалькторныя тэксты, запісаныя на Усходзе. Бел. вар. тыпу 1920: Шейн, II, стар. 245—246, № 114; Federowski, III, стар. 120—121, № 215; Матер. по этногр. Гродн. губ., стар. 374—375, № 18; Сержпутовский, стар. 43—44, № 20. Рус. вар.— 4 (Пропп, стар. 498). Укр. вар.— 3 (яны ўказаны ў каментарыях да III тома казак Афанасьева (1940), стар. 456). Параўн. польскую казку «O pani i słudzy» (Krzyż. II, стар. 160).

Небыліцы тыпу АТ 1889 К маюць сярэдневяковае заходнееўрапейскае паходжанне. У Паказальніку АТ улічаны толькі рускія, літоўскія і сербахарвацкія фалькторныя тэксты. Бел. вар.: Романов, III, стар. 379, № 1; стар. 413—417, № 20 а; Добровольский, I, стар. 663—665, № 11; Шейн, II, стар. 120—127, № 57; 244—248, № 114, 115; стар. 250—252, № 17; Чубинский, II, стар. 336—337, № 85; Federowski, III, стар. 119—120, № 214; стар. 122—123, № 216; Матер. по этногр. Гродн. губ., II, стар. 374—375, № 18; Сержпутовский, стар. 43—44, № 20. Рус. вар.— 22 (АП, стар. 498). Укр. вар.— каля 20 (гл. каментарыі да III тома казак Афанасьева (1940), стар. 454). Сатырычная антыпапоўская казка А. Лашкевіча пра спаборніцтва ў хлусні паміж папом і багатым мужыком блізкіх паралеляў у апублікаваным матэрыяле не мае.

*Бат* — пуга.

## 158. Пра разумнага папа

АА 1739 (Чалавек acцяліўся). АІМЭФ, ф. 13, воп. 10, спр. 40, сш. 34. Зап. Дарэўская ў 1958 г. у пас. Паставы Віцебскай вобл. ад М. П. Чагінай.

Літаратурная гісторыя сюжэта звязана з анекдотамі XVI ст.— Г. Сакса (IV, 4), Г. Бебеля (№ 76) і з фацэцыяй польскага зборніка XVII ст. «Sowizrał». У Паказальніку АТ, акрамя фалькторных тэкстаў, запісаных у Еўропе і на Блізкім Усходзе, улічаны запісы, зробленыя ў Лацінскай Амерыцы. У абсалютнай большасці ўсходнеславянскіх казак-анекдотаў тыпу 1739 галоўным сатырычным персанажам з'яўляецца духоўная асоба — поп або ксёндз, рабін. Характэрная ўсходнеславянскаму фальклору трактоўка гэтага сюжэта як сюжэта пра дурнога папа і дасціпнага, знаходлівага работніка,— як у казцы М. П. Чагінай. Бел. вар.: Добровольский, I, стар. 704, № 16; Шейн, стар. 242—244, № 113; Klich,

стар. 21—22, № 14. Рус. вар.— 7 (АА, стар. 103; Молдавский, Бахтин, стар. 277—278 — расказчык туркмен; Бараг, № 16). Укр. вар.: Чубинский, II, стар. 503, № 8; Манжура, стар. 94—96; «Жіттэ і слово», 1895, IV, стар. 359; Етногр. зб., VI, стар. 351, № 690; ZWAK, VII, 1873, стар. 30, № 90; Кравченко, стар. 281—284, № 101; S. Udziela. Ziemia lemkowska, Lwów, 1934, стар. 62. Польск.— 8 (Krzyż., II, стар. 136—137).

### 159. Рабін і цялё

АА 1739 (Чалавек ацяліўся). Пушкінскі Дом. Рукапісны аддзел. Калекцыя XXX, папка 4, сш. 1. Зап. Ф. А. Маркевіч у 1932 г. у в. Рудня Жыткавіцкага р-на Гомельскай вобл. ад Кацюбінскай Веры Альбінаўны, 45 г.

Гл. каментарый да тэксту 158. У гэтым варыянце сюжэт ускладняецца эпізодам панскага суда, які вырашае спрэчку, хто ацяліўся, на карысць рабіна. Эпізод суда нярэдка сустракаецца ў казках тыпу 1739. У казцы Ф. Наркевіча ён распрацаваны ў іранічным плане. Гэты эпізод часткова нагадвае сюжэт пра Шамякін суд — гл. ніжэй каментарыі да тэкстаў 162—164.

### 160. Лысы і рыжы

АА *1588=АТ 1588**. Шейн, II, стар. 239—241, № 111. Зап. валасны пісар А. Ганус у 1880—1890-х гадах у Мсціжскай вол. Барысаўскага п. Мінскай губ. ад Я. Бузы. Ад яго ж запісан тэкст 161.

У Паказальніку АТ улічаны толькі літоўскія і рускія фальклорныя тэксты. Казкі гэтага тыпу нагадваюць «Венецыянскага купца» В. Шэкспіра (ліхвяр Шэйлон патрабуе ад свайго даўжніка Антоніо фунт мяса). Бел. вар. не адзначаны. Рус. вар.: Афанасьев, III, № 498. Укр. вар.: Етногр. зб., VI, № 517.

### 161. Мужык і паніч

АА 1940=АТ 1562 А («Чыстата, высата, благадаць»). Шейн, II, стар. 308—310, № 143. Зап. валасным пісарам А. Ганусам у 1880—1890-х гадах у Мсціжскай вол. Барысаўскага п. Мінскай губ. ад Я. Бузы. Ад яго ж запісан тэкст 160.

Ва ўсходнеславянскіх казках на гэты сюжэт асноўнымі персанажамі найчасцей выступаюць селянін і салдат, які спыніўся на начлег. Студэнт (шкаляр) помсціць селяніну, гаспадару дома, не толькі ў казцы Я. Бузы, але і ў беларускай казцы зборніка Федароўскага і ў радзе ўкраінскіх варыянтаў (напрыклад, зборнікаў Грынчанкі і Манжуры). Бурсак помсціць гаспадару ў адным з рускіх варыянтаў зборніка Афанасьева (III, № 477). Бел. вар.: Добровольский, I, стар. 331—333, № 22; Federowski, III, стар. 215, № 427; Господарев, стар. 522—523, № 62. Рус. вар.— 12 (Пропп, стар. 499; Материалы и исследования по фольклору Башкирии и Урала. Уфа, 1974, стар. 71—72, № 32). Укр. вар.— 5 (указаны ў каментарыях да III тома казак Афанасьева (1940). Польск. вар.: «Lud». Lwów, 1896, стар. 43. У казцы Я. Бузы своеасабліва распрацаваны ўступныя эпізоды: гутарка мужыка са студэнтам пра электрычнасць; студэнт залазіць на каня, абразае гужы і конна пераязджае праз брод. Гэтыя эпізоды не маюць адпаведнікаў у апублікаваным казачным матэрыяле.

### 162. Суддзя праведная

АА 1660=AT 1534 (Шамякін суд). Романов, III, стар. 396—400, № 14. Зап. Е. Раманаў у другой палавіне XIX ст. у с. Насімковічы Рагачоўскага п. Магілёўскай губ. (цяпер Чачэрскі р-н Гомельскай вобл.) ад селяніна Дзяніса Сямёнава, непісьменнага, 43 г.

Казкі пра незвычайныя прыгаворы суддзі неаднаразова літаратурна апрацоўваліся ў еўрапейскіх краінах пачынаючы з XIV—XV ст. (нямецкі верш аб Праўдзе Карла Вялікага — XV ст., італьянскія навелы — XIV—XV стст., польскія фацэцыі — XVI—XVII стст., руская сатырычная «Повесть о Шемякином суде» — другая палавіна XVII ст., яе лубачныя перапрацоўкі). Усходнеславянскія казкі тыпу AT 1534 адрозніваюцца ад заходніх і ўсходніх казак сатырычным характарам і нацыянальным бытавым каларытам, звязаным з судзейскімі парадкамі старой Русі. «Повесть о Шемякином суде», як мяркуюць многія даследчыкі, мае сваёй крыніцай народную рускую сатырычную казку пра двух братоў (бедняка і багатага) і пра няправеднага суддзю-хабарніка. З апошніх даследаванняў адзначым: В. Н. Андрианова-Перетц. Русская демократическая сатира XVII в. М.—Л., 1954; И. П. Лапицкий. Повесть о Шемякином суде. Русская повесть XVII в. Л., 1954, стар. 441—451. Бел. вар.: Добровольский, I, стар. 376—377, № 17; Шейн, II, стар. 256—257, № 119; Federowski, II, стар. 91—92, № 181; стар. 236—238, № 471—473. Рус. вар.— 13 (Пропп, стар. 496; Померанцева, Башк., № 38; Потявин, № 27). Укр. вар.— 7 (6 тэкстаў указаны ў каментарыях да III тома казак Афанасьева (1940), стар. 420; гл. таксама: Гиряк, II, 1966, № 9). Польск.— 5 (Krzyż., II, стар. 79—80). Казка Д. Сямёнава — адзін з найбольш поўна распрацаваных усходнеславянскіх варыянтаў гэтага сюжэта. Своеасабліва ў ёй распрацаваны наступныя эпізоды, якія не сустракаюцца ў іншых варыянтах: багаты брат становіцца аканомам у маёнтку пана; валоў багатага брата губіць дзівосны старац; бядняк крадзе на агародзе рэпу. Прыкметна, што ў гэтай і некаторых іншых беларускіх казках тыпу «Шамякін суд» у ролі несправядлівага карыслівага суддзі выступае памешчык. Казка мае антыпамешчыцкую сацыяльную накіраванасць.

*Чанца* — чарняца, манаха.

### 163. Бедны і багаты браты на судзе

АА 1660=AT 1534 (Шамякін суд). АІМЭФ, ф. 13, воп. 10, спр. 10, сш. 6, л. 1. Зап. В. Смалонская ў 1953 г. у в. Валокі Радашковіцкага р-на Мінскай вобл. ад С. Рацігі.

Гл. каментарый да тэксту 162. Апавяданне ў параўнанні з папярэднім варыянтам схематычнае, але мае рад своеасаблівых падрабязнасцей: бядняк забівае каня свайго багатага брата і прадае шкуру, каб купіць дзецям хлеба; бядняк незнарок перакідвае калыску і забівае дзіця пана; бядняк бярэцца ўстанавіць на званіцы крыж, падае са званіцы на архірэя і забівае яго. Эпізод няўдалай дапамогі бедняка анучніку ў асноўным супадае з эпізодам няўдалай дапамогі бедняка ганчару ў папярэднім варыянце гэтага сюжэта. Падобныя эпізоды нярэдка сустракаюцца ў беларускіх і рускіх казках тыпу «Шамякін суд».

### 164. Дурань на судзе

АА 1660=АТ 1534 (Шамякін суд). Federowski, III, стар. 91—92, № 181. Зап. М. Федароўскі ў канцы XIX ст. у в. Кузінцы Ваўкавыскага п. Гродзенскай губ. ад селяніна Юлека Баярчука. Ад яго ж запісан тэкст 25.

Гл. каментарый да тэксту 162. Гэты варыянт сюжэта пра «Шамякін суд» не мае блізкіх паралеляў у іншых усходнеславянскіх зборніках і нагадвае некаторыя польскія казкі гэтага тыпу, у якіх героем таксама выступае дурань.

### 165. Ашуканы пісар-адвакат

АА 1585. АІМЭФ, ф. 13, воп. 10, спр. 29, сш. 1, л. 25. Зап. А. Макуць у 1965 г. у в. Біскупцы Ваўкавыскага р-на Гродзенскай вобл. ад Міколы Уладзіміравіча Маржала.

Сюжэт распаўсюджаны ў Еўропе. У радзе варыянтаў мужык, які прадаў сваю карову (цяля) некальнім пакупнікам, на судзе, паводле парады адваката, сцвярджае адно і тое ж або свішча; выкручваецца ад суда, а затым такім самым спосабам і ад адваката. У апублікаваным усходнеславянскім фальклорным матэрыяле адзначана толькі адна казка такога ж тыпу: А. М. Смирнов. Сборник великорусских сказок Архива РГО. Пг., 1917, № 164.

### 166. Два браты

АА 1654*=АТ 1654 (Разбойнікі ў капліцы). АІМЭФ, ф. 13, воп. 7, спр. 5, сш. 1, л. 4. Зап. В. Завацкі ў 1954 г. у в. Чарняты Смаргонскага р-на Гродзенскай вобл. ад свайго дзеда. Ад яго ж запісаны тэксты 73—77.

У Паказальніку АТ, акрамя еўрапейскіх, адзначаны казкі гэтага тыпу, запісаныя ў Індыі, Лацінскай Амерыцы, Афрыцы. Найстарэйшы ўсходнеславянскі тэкст у кн.: Похождение некоторого россиянина. М., 1790. Бел. вар.: Добровольский, I, стар. 677—679, № 5; Federowski, III, стар. 54—55, № 101; Сержпутоўскі, Казкі, стар. 126—128, № 53. Рус. вар.— 9 (Пропп, стар. 496), Укр. вар.: Kolberg, 1888, IV, стар. 214, № 47; Гиряк, III, стар. 218—223, № 39. Польск. 17 (Krzyż., II, стар. 118—119).

### 167. Аб хітрым дзяку

АА 1790 (Крадзеж як сон). Federowski, III, стар. 178—179, № 337. Зап. М. Федароўскі ў канцы XIX ст. у в. Кузінцы Ваўкавыскага п. Гродзенскай губ. ад Болеся Мацвейчука.

Старажытнай сюжэтнай паралеллю еўрапейскім казкам-анекдотам гэтага тыпу з'яўляецца расказ індыйскага зборніка «Сукаспаты» — № 21. У Паказальніку АТ улічаны толькі фінскія, шведскія, дацкія, эстонскія, літоўскія і сербахарвацкія фальклорныя тэксты. Бел. вар.: Сержпутоўскі, Казкі, стар. 224—228, № 88. Укр. вар.: Barącz, стар. 40; Манжура, стар. 106—107; Етногр. зб., VI, стар. 117—118, № 22; Лінтур, Сатира, стар. 182—183; Гиряк, II, 1966, стар. 88—90, № 10; параўн. эпізоды крадзяжу каровы ў радзе ўсходнеславянскіх казак тыпу 1641 (Чараўнік). Польск.— 2 (Krzyż., II, стар. 141).

## 168. Поп-злодзей на судзе

АА 1790. АІМЭФ, ф. 8, воп. 1, спр. 73, сш. 1, л. 10. Зап. А. Фядосік у 1961 г. у пас. Мікашэвічы Лунінецкага р-на Брэсцкай вобл. ад А. А. Ерафеева.

Гл. каментарый да тэксту 143. У гэтым варыянце сюжэт «Крадзеж як сон» развіваецца з некаторымі характэрнымі падрабязнасцямі, якія адсутнічаюць у папярэднім варыянце: поп і парабак цягнуць кожны да сябе адрэзаную галаву вала; у папа ў руках астаецца вуха, а ў парабка галава. Гэта было на самай справе, а расказвае пра гэта парабак на судзе як пра сон.

## 169. Іншы сон як у руку дасць

АА 1790. Часткова нагадвае тып 1641 (Чараўнік). Сержпутоўскі, Казкі, стар. 224—228, № 88. Зап. А. Сержпутоўскі ў 1910—1920-х гадах у с. Вялікі Рожын Слуцкага п. Мінскай губ. ад селяніна Сасноўскага.

Аб сюжэтным тыпе 1790 гл. у каментарыях да тэкстаў 167, 168. У казцы Сасноўскага традыцыйны анекдатычны сюжэт набывае дэталёвую распрацоўку, звязаную з яскравай сацыяльнай антыпапоўскай і антыпамешчыцкай яе накіраванасцю. У гэтай казцы непасрэдна адлюстраваліся настроі беларускіх сялян эпохі першай рускай рэвалюцыі, напрыклад, у такіх разважаннях Штукара: «...пан багаты. Ён у нас накраў, а мы сваё дабро возьмем назад»; «мабыць, панскім сабакам лепшая жытка, як наша. Дзе ж тая праўда на свеце?».

## 170. Як старуха з сынам дзеньгі зарабляла: сын чужыя вешчы хаваіць, а старуха схову адгадаіць

АА 1641 (Чараўнік). Добровольский, I, стар. 673—675, № 2. Зап. У. Дабравольскі ў 1870—1880-х гадах у в. Шонтава Бельскага п. Смаленскай губ.

Гісторыя гэтага сусветна вядомага сюжэта адносіцца да старажытных індыйскіх літаратурных помнікаў — «Гунадхыя» (I—II ст. н. э.), «Катхасарытсагара» (IX—X ст.). У індыйскай версіі, якую вельмі нагадвае гэта казка зборніка Дабравольскага, бядняк разам з жонкай хавае чужога каня, а затым «знаходзіць» і вяртае яго гаспадару; праяўляе сябе чараўнікомпрадказальнікам пры двары цара. Старажытныя еўрапейскія казкі гэтага тыпу ў зборніках Серкамбі (каля 1400 г.), Страпаролы (XV ст.), Бебеля (XV ст.). Даўнейшы ўсходнеславянскі літаратурны тэкст — у зборніку «Спутник и собеседник веселых людей». М., 1774. Бел. вар.: Добровольский, I, стар. 675—676, № 3; Шейн, II, стар. 213—219, № 100, 101; стар. 304—306, № 141; Federowski, III, стар. 52—54, № 70. Рус. вар.— 32 (Пропп, стар. 495; Балашов, № 140; Королькова, стар. 303—309; 310—311; Никифоров, № 196). Укр. вар.: Драгоманов, стар. 146, № 43; Чубинский, II, стар. 464—467, № 107; Етногр. зб., III, № 5; Гринченко, I, № 3; Манжура, № 178; Гнедич, IV, № 1498, 1507; Левченко, стар. 230—232, № 154; Казки Буковини, стар. 59—60; Ск. Верховины, стар. 31—34; Гиряк, III, 1969, стар. 210—213, № 37. Польск.— 19 (Krzyż., II, стар. 111—112). Гэты тэкст характэрны для ўсходнеславянскага фальклорнага матэрыялу тым,

што дзеянне адбываецца ў часы прыгоннага права ў маёнтку пана. Традыцыйныя для ўсходнеславянскіх казак тыпу 1641 эпізоды: чараўніца ўгадвае, што схавана ад яе («сіжу я, слоўна курачка на яечках»); чараўніца ўгадвае, што ў руцэ паніча знаходзіцца жук.

*Лозаныў* — лоз.

*Твітамі* — кветкамі.

## 171. Знахар

АА 1641. Романов. Материалы, II, стар. 376—377, № 12. Зап. М. Комек у пачатку XX ст. у Кобрынскім п. (цяпер Брэсцкая вобл.).

Гл. каментарый да тэксту 170. У гэтым варыянце сюжэтнага тыпу 1641 ёсць новыя падрабязнасці, характэрныя ўсходнеславянскім варыянтам, напрыклад: чараўнік лічыць, колькі разоў спявае певень, і такім чынам выпадкова адгадвае, колькі чалавек удзельнічала ў крадзяжы.

*Прыстэня* — персценя.

*Злякаліся* — спалохаліся.

## 172. Дзед-злодзей, баба-варажбітка

АА 1641. Шейн, II, стар. 304—306, № 141. Зап. вучань Нясвіжскай настаўніцкай семінарыі І. Сянькевіч у 1880—1890-х гадах у в. Мікалаеўшчына Стаўбцоўскай вол. Слуцкага п. Мінскай губ.

Гл. каментарый да тэкстаў 170, 171. Гэты варыянт адрозніваецца ад папярэдніх радам характэрных падрабязнасцей: баба-варажбітка крадзе нарогі; баба-варажбітка выпадкова адгадвае варону, усклікнуўшы: «Папалась, як варона ў панскія пакоі» (гэты эпізод сустракаецца ў многіх апублікаваных рускіх і ўкраінскіх казках гэтага тыпу).

## 173. Казка пра папа і дзяка

АА 1641. Шейн, II, стар. 213—217, № 100. Зап. Ф. Вяроўскі ў 1880—1890-х гадах у г. Слуцку Мінскай губ.

Гл. каментарыі да тэкстаў 170—172. Ва ўсходнеславянскіх казках гэтага тыпу нярэдка ў ролі чараўніка-адгадчыка выступае поп, яму памагае дзяк (разам крадуць карову або каня). Параўн.: Добровольский, І, стар. 675—676, № 3; Шейн, II, стар. 217—219, № 101 (гл. каментарый да тэксту 150); Federowski, III, стар. 52—54, № 98, 99. У фальклорных зборніках іншых народаў такія варыянты не адзначаны.

## 174. Яшчэ пра папа і дзяка

АА 1641. Шейн, II, стар. 217—219, № 101. Зап. А. Ф. Лісоўскі ў 1880—1890-х гадах у Каралеўскай вол. Віцебскага п. і Віцебскай губ.

Гл. каментарый да тэкстаў 170—173. У гэтым варыянце, вельмі блізкім да папярэдняга, ёсць падрабязнасці, якія збліжаюць яго і з казкай пра бабу-варажбітку (тэкст 148).

### 175. Як шавец галоўным ксяндзом стаў

АА 1641. Друкуецца з архіва Л. Барага. Апубл. на нямецкай мове: Barag, стар. 416—418, № 70. Зап. Л. Бараг у 1947 г. у мястэчку Солы Смаргонскага р-на Маладзечанскай (цяпер Мінскай) вобласці ад селяніна Сяргея Іванавіча Нікіціна, 37 г. Ён скончыў пачатковую школу. Валодае вялікім рэпертуарам бытавых казак, характэрным для заходніх раёнаў Беларусі.

Гл. каментарыі да тэкстаў 170—174. Казка С. І. Нікіціна — асобая разнавіднасць сюжэтнага тыпу «Чараўнік», якая не адзначана ў апублікаваным усходнеславянскім матэрыяле, але распаўсюджана ў некаторых заходніх раёнах Беларусі і сустракаецца ў польскіх зборніках, напрыклад: O. Kolberg. Lud, XIII, стар. 226; XIV, стар. 273. Эпізод пераапранання п'янага шаўца ў адзежу ксяндза, а ксяндза ў адзежу шаўца нагадвае часткова казкі тыпу 1531 (Калиф на час).

### 176. Шаптуха

АА—. АТ—. Далучаецца да сюжэтнага тыпу 1641. Сержпутовский, стар. 176—178, № 77. Зап. А. Сержпутоўскі ў 1890—1900-х гадах у в. Чудзін Слуцкага п. Мінскай губ. (цяпер Салігорскі р-н Мінскай вобл.) ад Данілы Куляша.

Падобная анекдатычная казка пра хворага, які смяяўся над чараўніцай-шаптухай (ад смеху лопнуў нарыў у горле, і ён вылечыўся), маецца ва ўкраінскім зборніку: Б. Гринченко. Из уст народа, стар. 348, № 324. Заключны эпізод казкі Д. Куляша (Шаптуха адгадвае, што ў пана ў руцэ) мае адпаведнасці ў шматлікіх казках тыпу 1641. Рэалістычнай выразнасцю характарызуецца ў казцы Д. Куляша адлюстраванне бядняцкай долі старой адзінокай бабкі.

### 177. Пан і мужык

АА—. АТ—. Сержпутоўскі, Казкі, стар. 45—46. Зап. А. Сержпутоўскі ў 1900—1910-х гадах у в. Чудзін Слуцкага п. Мінскай губ. ад селяніна Данілы Куляша. Ад яго ж запісан тэкст 176.

Параўн. запісаную на Беларусі казку пра тое, як пан прагнуў зямлі: Сказки Смоленского края. Составил и обработал В. С. Шурыгин. Смоленск, 1950, № 36. «Пан і мужык» Д. Куляша — вуснае апавяданне, якое толькі часткова мае адносіны да казак.

### 178. Як стары, ходзячы ў школу, грошы нажыў

АА *1665=АТ 1644=1381 (Дзед-школьнік). Друкуецца з архіва Л. Барага. Апубл.: Barag, стар. 473—475, № 89. Зап. Л. Бараг у 1948 г. у в. Нягневічы Любчанскага р-на Баранавіцкай (цяпер Гродзенскай вобл.) ад Аляксандра Акімавіча Русака, 37 г.

У Паказальніку АТ улічаны венгерскія, нямецкія, ліўскія, сербахарвацкія, славінскі і рускі фальклорныя тэксты. Бел. вар. не адзначаны. Рус. вар.: Смирнов, № 269; параўн. Бараг, стар. 89—90 «Когда из-под венца шла». Укр. вар.: Гнедич, IV, стар. 14—15, № 1485; Калін,

стар. 202—203 (=Ск. Верховины, стар. 136—137); Гiряк, IV, 1972, стар. 226—227, № 45. У казцы А. А. Русака своеасабліва адлюстроўваецца пратэст супраць ладу, заснаванага на сацыяльнай няроўнасці.

## 179. Старое сядло

АА—. Далучаецца да тыпу 1644. АІМЭФ, ф. 8, воп. I, спр. 47, бл. 2, стар. 30. Зап. М. Грынблат у 1960 г. у в. Мішневічы Сіроцінскага р-на Віцебскай вобл. ад Е. Т. Зуева. Ад яго ж запісан тэкст 99.

Казкі гэтага тыпу адзначаны ў рускім фальклорным матэрыяле. Бел. вар. няма. Казка Е. Т. Зуева мае своеасаблівы фінал: напалоханы салдат Сямён вяртаецца ні з чым дадому.

## 180. Казка пра Рамана і Ігната

АА—. АТ—. Далучаецца да казак тыпу «Дзед-школьнік» (АА *1665=АТ 1644=1381). АІМЭФ, ф. 13, воп. 10, спр. 40 а, сш. 31, л. 4—5. Зап. А. Ставер у 1953 г. у в. Маргавіца Бягомльскага р-на Віцебскай вобл. ад Паўла Ігнатавіча Герасіменкі.

Параўн. падобную казку пра старых і дзяцей са зб.: Сержпутовский. Сказки и рассказы белорусов-полешуков, стар. 82—83, № 46.

## 181. Справядлівы аўчар

АА—. АТ—. Federowski, III, стар. 118—119, № 213. Зап. М. Федароўскі ў канцы XIX ст. у в. Хадароўка Сакольскага п. Гродзенскай губ. ад Антона Дзежкі.

Вар. не адзначаны.

*Цобы кепско зробіл, то зараз прызнасен* — Калі дрэнна зробіць, то адразу ж прызнаецца.

*Одда* — аддасць.

*Нігды* — ніколі.

*Зарэнолэм* — зарэзаў.

*А цо повеш?* — А што скажаш?

— *Ано цо ж робіць, Яне, жэч то людзка, а жэ праўдэ поведзял, маш другога барана.* — Ну, што ж рабіць, Яне, гэта рэч людская, а што праўду сказаў, бяры другога барана.

## 182. Соль

АА 1651* (Купецкі сын у краіне, дзе не ведаюць пра соль). АІМЭФ, ф. 13, воп. 3, спр. 7, сш. 18, л. 1. Зап. Е. Рудкоўская ў 1950 г. у в. Каварляны Дзяржынскага р-на Мінскай вобл. ад М. П. Муроўскай, 77 г.

Бел. вар. не адзначаны, калі не лічыць тэкст са зборніка Господарева, стар. 297—312, № 15. Гэта казка часткова адносіцца да тыпу 1651*. Рус. вар.— 7 (Пропп, стар. 496). Поўным варыянтам гэтага сюжэта характэрны такі канец: зайздросныя браты хочуць утапіць малодшага брата, які разбагацеў, але ён выратоўваецца з дапамогай дзівоснай рыбы або жывёліны. У казцы М. П. Муроўскай матыў сапернічання (зайздрасці) братоў адсутнічае.

### 183. Аб купечаскай дачке, як яна атмсціла прыказчыку

АА 883=АТ 883 А (Абгавораная дзяўчына). Добровольский, I, стар. 366—372, № 13. Зап. У. М. Дабравольскі ў другой палавіне XIX ст. у в. Бердзябякі Ельнінскага п. Смаленскай губ. ад старога Васіля Міхайлава. Ад гэтага выдатнага казачніка Дабравольскі запісаў 11 казак. Яны вылучаюцца паўнатой распрацоўкі сюжэтаў, жывасцю дыялогаў, майстэрствам дэталізацыі.

У Паказальніку АТ улічаны варыянты, запісаныя ў радзе краін Еўропы, а таксама ў Паўночнай Афрыцы і ў Лацінскай Амерыцы. Літаратурная гісторыя сюжэта звязана са зборнікам італьянскага пісьменніка XVII ст. Д. Базілі «Пентамерон» (вып. III, № 4). Бел. вар. няма. Рус. вар.— 14 (Пропп, стар. 482—483; Балашов, № 66, 83).

### 184. Верная каралева

АА—. АТ—. Часткова далучаецца да тыпу 938. Друкуецца ўпершыню з архіва Л. Барага. Зап. Л. Бараг у 1945 г. у в. Угрынь Зэльвенскага р-на Гродзенскай вобл. ад Сцяпана Данілавіча Шалеснага, 55 г. У рэпертуары гэтага казачніка каля 15 казак. Адна з іх — «Жонка-чарціха» апублікавана ў перакладзе на нямецкую мову: Barag, стар. 273—278, № 28.

Казка пра верную каралеву сваім зместам адпавядае лубачнай аповесці («народнай кнізе») «Генавефа». У беларускім і рускім фальклорным матэрыяле варыянты не адзначаны, але сустракаюцца ва ўкраінскім «Етнографічном збірнику».

### 185. Купец увозіць прачку на караблі

АА *860=АТ 860 В. (Украдзеная жонка). Добровольский, I, стар. 267—269, № 33. Зап. У. М. Дабравольскі ў другой палавіне XIX ст. у заходняй частцы Смаленскай губ.

У Паказальніку АТ улічаны толькі рускія казкі гэтага тыпу. Сюжэт часткова нагадвае казачны грэчаскі раман «Гісторыя Апалонія, цара Цірскага» (I—II ст. н. э.), вядомы ў перакладзе на польскую (XVI ст.) і рускую (XVII ст.) мовы. Рус. вар.— 6 (АА, стар. 61), яны істотна адрозніваюцца ад беларускага (адзінага) тэксту зборніка Дабравольскага такімі матывамі: герой дае мужу грошы за дазвол паглядзець жонку-прыгажуню (зняць з яе партрэт); робіць падкоп у яе дом, здабывае імянны пярсцёнак, адзенне мужа; той не падазрае, што сватае яму сваю жонку.

### 186. Жонка і разбойнік

АА—. АТ—. Далучаецца да казак тыпу АТ 968. Романов, III, стар. 386—387, № 9. Запісана ў 2-й палавіне XIX ст. у Сенненскім п. Віцебскай губ.

Казачных варыянтаў няма. Гэты сюжэт шырока распаўсюджаны ў некаторых цюркскіх народаў СССР, напрыклад у башкір (мясцовыя паданні і эпічныя песні). Гл.: Бараг, стар. 112, № 56 — паданне аб батыры Янгузяі і яго нявернай жонцы і паходжанні назвы гары Янгузяй-тау.

### 187. Шавец і рыбак

АА 736 (Шчасце і багацце). Шейн, II, стар. 167—168, № 80. Зап. Віннікаў у 1880 гг. у с. Цытва Цытвянскай вол. Ігуменскага п. Мінскай губ.

У Паказальніку АТ, акрамя еўрапейскіх, улічаны казкі гэтага тыпу, запісаныя на Усходзе. Самай вядомай літаратурнай апрацоўкай гэтага сюжэта з'яўляецца казка «Тысячы і адной ночы». Бел. вар: Дмитриев, стар. 176—178 (=Афанасьев, стар. 100—101, № 346; Kolberg, 1889, стар. 206—207, № 6; Господарев, стар. 342—345, № 21). Рус. вар.: M. Azadowski. Pohadky z Hrnolenskeho kraje. «Vestnik narodopisny československy». Praha, 1928, I, № 9. Укр. вар.— 5 (яны ўказаны ў каментарыях да III тома казак Афанасьева (1940), стар. 432). Польск.— 4 (Krzyż., I, стар. 226).

### 188. Шчасце і багацце

АА 736. Друкуецца ўпершыню з архіва Л. Барага. Зап. Л. Бараг у 1947 г. у в. Доржы Лудскага сельсавета Ашмянскага р-на Гродзенскай вобл. ад Юльяна Адамавіча Шмакоўскага, 49 г. Ён знаў вельмі многа казак і расказваў іх на беларускай і польскай мовах.

Аб сюжэтным тыпе 736 гл. у каментарыі да папярэдняга тэксту. У казцы Ю. А. Шмакоўскага сюжэт аб шчасці і багацці разгорнуты вельмі поўна; яна вылучаецца жывасцю дыялогаў, якія пераважаюць над апавяданнем. Гэты твор у большай ступені, чым казка «Шавец і рыбак», нагадвае казку «Тысячы і адной ночы».

### 189. Каралеўна і разбойнікі

АА 956 В. А. М. Афанасьев. Народные русские сказки, т. 3. М., 1957, стар. 93—94, № 344. Зап. М. Дзмітрыевым у XIX ст. у Навагрудскім п. Гродзенскай губ.

Сюжэт адлюстраваны ў сярэдневяковай заходнееўрапейскай літаратуры (гл., напрыклад, H. Anderson. Nowelline, № 36, 51), вядомы па баладзе Пушкіна «Жених». У Паказальніку АТ улічаны, акрамя шматлікіх еўрапейскіх варыянтаў, фальклорныя тэксты, запісаныя ў Амерыцы. Бел. вар.; Шейн, II, стар. 226—229, № 105; Federowski, III, стар. 45—52, № 94—97; Karlowicz, 1888, стар. 33—34, № 70. Рус. вар.— 13 (Пропп, стар. 485—486; Балашов, № 68). Укр. вар.— каля 10. Польск.— 22 (Krzyż., I, стар. 293—294).

### 190. Не сіла, а смеласць

АА 956 В. (Дзяўчына і разбойнікі). Сержпутоўскі, Казкі, стар. 212—216, № 83. Зап. А. Сержпутоўскі ў 1890—1900-х гадах у в. Вялікі Рожын Слуцкага п. Мінскай губ. (цяпер Салігорскі р-н Мінскай вобл.) ад стогадовага дзеда Рэдкага. Гл. тэксты, запісаныя ад яго: 12, 80, 146, 191, 193.

Аб казках тыпу 956 В гл. у каментарыі да папярэдняга тэксту, там адзначаны і варыянты. У казцы Рэдкага сцвярджаецца, што смеласць пе-

раважае над сілай. У ёй адсутнічаюць некаторыя традыцыйныя для гэтага сюжэта эпізоды і арыгінальна распрацаваны наступныя матывы: «Дзяўчына сустракае ваўкоў», «Дзяўчына спрабуе перашкодзіць разбойнікам абкрасці царкву», «Салдат прымае дзяўчыну за лясную русалку».

### 191. Хараство — сіла

АА 501 (Тры папрадухі). Сержпутоўскі, Казкі, стар. 230—231, № 89. Зап. А. Сержпутоўскі ў 1890—1900-х гадах у с. Вялікі Рожын Слуцкага п. Мінскай губ. (цяпер Салігорскі р-н Мінскай вобл.) ад стогадовага дзеда Рэдкага. Гл. запісаныя ад яго тэксты 12, 80, 146, 190, 193.

Сюжэт пра трох папрадух першапачаткова быў распаўсюджаны ў германскіх краінах у сярэднія вякі. Даследаванне: W. Sydow. Twa spinnsagar. Lund, 1909. Звычайна ў казках гэтага сюжэтнага тыпу вобразы трох папрадух трактуюцца ў фантастычным плане. У казцы Рэдкага сюжэт набывае бытавую трактоўку. Бел. вар.: Barag, стар. 230—231, № 22. Рус. вар.: Н. Рождественская. Сказы и сказки Беломорья и Пинежья. Архангельск, 1941, стар. 128—129, № 42. Укр. вар.— 5 (Андреев; «Дідо-всевідо», стар. 52—54). Польск.— 15 (Krzyż., I, стар. 156—157).

### 192. Дзяўчына

АА—. АТ—. Далучаецца да тыпу АТ 958. Сержпутоўскі. Казкі, стар. 148—152, № 64. Зап. А. Сержпутоўскі ў 1910—1920-х гадах у в. Бохава Слуцкага п. Мінскай губ. ад дзеда Савіцкага. Ад яго ж запісан тэкст 104.

Вар. не адзначаны. У казцы выказваецца ідэя пра тое, што прыгажосць здольна ўзвысіць душы нават жорсткіх, азлобленых людзей.

### 193. Воўчае котла

АА—. АТ 939 А (Непазнаны сын). Сержпутоўскі, Казкі, стар. 176—179, № 74. Зап. А. Сержпутоўскі ў 1890—1900-х гадах у с. Вялікі Рожын Слуцкага п. Мінскай губ. ад стогадовага дзеда Рэдкага. Гл. запісаныя ад яго тэксты 12, 80, 146, 190, 191.

У Паказальніку АТ, акрамя еўрапейскіх казак пра непазнанага сына (брата), які пасля многіх гадоў салдацкай службы вярнуўся на радзіму, але на яго па-разбойніцку напалі родныя,— адзначаны фальклорныя тэксты, запісаныя ў Амерыцы. Сюжэт гэты адлюстраваны таксама ў песнях-баладах. На аснове казак тыпу 939 А польскія паэты і драматургі стварылі рад літаратурных твораў (яны ўлічаны ў Паказальніку Кржыжаноўскага). Казка пра непазнанага сына нагадвае расказ М. Чулкова «Горькая участь» са зб. «Пересмешник, или славянские сказки» (1768, вечар 98). Бел. вар.: Federowski, III, стар. 36, № 79; Навукова-літаратурны зборнік. Беларускі каляндар. Беласток, 1960, стар. 219—221; Господарев, стар. 433—438, № 40. Адзіны рускі фальклорны тэкст — казка Гаспадарова. Укр. вар.— 3 (Андреев). Польск.— 2 (Krzyż., I, стар. 286). Казка Рэдкага вызначаецца падрабязнай рэалістычнай распрацоўкай традыцыйнага драматычнага сюжэта.

### 194. Як родны сын бацьку загубіў

АТ 939 A. Federowski, III, стар. 36, № 79. Зап. М. Федароўскі ў канцы XIX ст. у в. Куклічы Ваўкавыскага пав. Гродзенскай губ. ад сялянкі Кацярыны Казадоевай.

Аб казках гэтага тыпу гл. у папярэднім каментарыі. Хоць сюжэтная схема гэтай казкі тая самая, што і ў казцы «Воўчае котла», яна значна адрозніваецца ад яе і зместам, і формай і мае іншую развязку.

### 195. Кузьма Сарачынскі

АА 1640 (Фальшывы багатыр) + 1049 *В (=АТ 1053 А. Вялікая вяроўка, каб адразу ўнесці шмат дрэў) + 1049 А (Пагроза ўнесці ўвесь калодзеж)+1115 (Няўдалая спроба забіць чалавека: чалавек кладзе на пасцель замест сябе ступу) + 1149 (Чалавек палохае дурнога велікана сваімі дзецьмі). Друкуецца ўпершыню з архіва Л. Барага. Зап. Л. Бараг у 1946 г. у в. Турная Святавольскага с/с Целяханскага р-на Пінскай (цяпер Брэсцкай) вобл. ад Фёдара Ануфрыевіча Агрэніча, 72 г. Таксама ад яго запісана шмат анекдотаў.

Першы сюжэт цалкам не разгорнуты: звычайна ў казках тыпу 1640 да фальшывага багатыра далучаюцца сапраўдныя багатыры; уяўны багатыр забівае галоўнага працаўніка і становіцца мужам царэўны. Гл. даследаванне: J. Polivka. Pohadkoslovne studie, Praha, 1904. Літаратурная гісторыя сюжэта звязана са старажытнымі індыйскімі, кітайскімі і мангольскімі зборнікамі («Ятака» (III ст.), «Трыпітака» (V ст.), «Шыды-хюр» (VII—VIII ст.). У XVI—XVIII стст. казкі пра фальшывага храбраца-шаўца атрымалі шырокае распаўсюджанне ў Еўропе. Імя героя — Кузьма Сарачынскі вядома па ўкраінскіх казках гэтага тыпу. У некаторых рускіх казках герой называецца Кузьмой Ферафонтавічам, Кузьмой Сарафанічам. Бел. вар.: Добровольский, I, стар. 622—624, № 36; Романов, VI, стар. 490—495, № 56; Federowski, III, стар. 42—43, № 90. Даўнейшы запіс беларускай казкі пра фальшывага багатыра — у Архіве РГТ (Ленінград), разрад 21, воп. I, № 4 — А. Кисловский, Некоторые сведения о Климовицком и Чериковском уездах..., 1853. Рус. вар.— 20 (Пропп, стар. 495). Укр. вар.— 15 (Андреев; Гиряк, IV, № 38). Польск.— 10 (Krzyż., II, стар. 110—111). Кантамінацыя сюжэтаў «Пагроза ўнесці калодзеж» і «Чалавек палохае велікана (чорта) сваімі дзецьмі» з'яўляецца традыцыйнай; параўн., напрыклад, Federowski, I, стар. 130—131, № 346. Рус. вар. тыпу 1149 — тры (Пропп, стар. 76).

### 196. Як цыган рыцара перамог

АА 1640. Federowski, III, стар. 191, № 360. Зап. М. Федароўскі ў канцы XIX ст. у в. Хадароўка Сакольскага пав. Гродзенскай губ. ад селяніна Фелікса Дзежкі.

Аб сюжэтным тыпе 1640 гл. у каментарыі да папярэдняга тэксту. Калі ў казцы «Кузьма Сарачынскі» сюжэт пра фальшывага багатыра трактуецца ў характэрным для ўсходнеславянскіх казак плане, то ў гэтым заходнебеларускім варыянце ён нагадвае хутчэй польскія казкі пра цыгана і рыцара, мае звычайную для польскіх казак тыпу 1640 развязку: цыган адсякае галаву адважнаму рыцару.

